

БЕЛАРУСКІ
КНІГАЗБОР

Серыя распрацавана
ў Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы
Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі

Заснавана ў 1996 годзе

*Серыя I. Мастацкая літаратура*

Аўтар праекта і галоўны рэдактар
*Кастусь Цвірка*



## ШУКАЛЬНІК ШЧАСЦЯ

Лёс наканаваў яму доўгае жыццё, поўнае небяспек, драматычных падзей і творчых узлётаў. Ён прайшоў дзве вайны — Першую сусветную і Грамадзянскую, дзве рэвалюцыі — Лютаўскую і кастрычніцкі пераварот, палітычныя рэпрэсіі 30–50-х гадоў, архіпелаг ГУЛАГ, пасля чаго — поўная рэабілітацыя ў час кароткай «адлігі», замоўчванне ў застойныя гады, у час перабудовы і ў постсавецкі перыяд.

Рыгор Кобец быў знакамітым драматургам, заслужаным дзеячам мастацтваў Беларусі. У гісторыі беларускай літаратуры ён заняў вельмі адметнае месца як аўтар першай п’есы на рабочую тэму (яна ж і першая беларуская п’еса, якая ставілася за мяжой), як першы прафесійны кінадраматург, аўтар лепшых мастацкіх фільмаў 30-х гадоў, як аўтар сцэнарыя першага гукавога і беларускамоўнага фільма на сучасную тэму, што стаў этапным у гісторыі беларускай кінематаграфіі. Творы Кобеца атрымалі міжнароднае прызнанне. Лепшыя з іх перажылі свайго аўтара.

Нарадзіўся мой бацька на Украіне, у горадзе Елісаветградзе, пераназваным пасля ў Кіраваград. Датай яго нараджэння памылкова лічылася 12 ліпеня 1898 года. Гэтая дата трапіла ў розныя даведнікі і энцыклапедыі. Толькі зусім нядаўна ў метрычных кнігах Вазнясенскай (Кушчоўскай) царквы кіраваградскімі краязнаўцамі быў знойдзены запіс, які сведчыць, што нарадзіўся пісьменнік 7 ліпеня (20 паводле новага стылю) 1900 года.

Быў ён пазашлюбным дзіцем елісаветградскай мяшчанкі Мотры Яфімаўны Драч, якая назвала яго Міхаілам і дала яму сваё прозвішча. У 1915 годзе яго запісалі на прозвішча айчыма. Як сведчыць запіс у метрычнай кнізе, «хлопчык узаконены мешчаніну Майсею Іванавічу Сандыгу». Рыгорам Кобецам ён стане пазней.

Ён нарадзіўся ў вераб’іную ноч, калі бушаваў раз’юшаны вецер, калі з трэскам ламаліся дрэвы і бліскалі маланкі ў цёмным небе, зацягнутым хмарамі сухой навальніцы. У тую ноч маладая маці, мая бабуля Мотра, прыгожая, але яшчэ дурненькая, уцякала са спавітым дзіцем на руках ад свайго раз’юшанага бацькі, майго прадзеда Яўхіма, які гразіўся забіць сваю дачку за тое, што нарадзіла байструка і тым самым зганьбіла іхні род, род казакоў Запарожскай Сечы. Такім жа бурлівым было і жыццё пазашлюбнага хлопчыка Міхайлы Драча (ён жа Міхаіл Сандыга, ён жа і Рыгор Кобец), бацька якога, па сямейных паданнях, быў дваранскага роду, бесарабскі памешчык.

З васьмігадовага ўзросту Міхайла Драч вучыўся ў царкоўнапрыходскай школе, потым у народным рамесным вучылішчы, у апошнім доўга

не затрымаўся, бо 10-гадовы здольны хлопчык паступіў у земскае рэальнае вучылішча. Дакументы ў вучылішча былі пададзены яго маці, Мотрай Яфімаўнай Драч, у 1910 годзе. Здаўшы добра ўступныя экзамены, ён быў прыняты ў падрыхтоўчы клас. Як сведчаць дакументы, Міхайла Драч вучыўся ў Елісаветградскім земскім рэальным вучылішчы (ЕЗРУ) у 1910–1917 гадах.

Іншы раз я задаю сабе пытанне: калі б не было Першай імперыялістычнай і Грамадзянскай войнаў, калі б не было 1917 года, што стала б з маім бацькам? Нядобразычліўцы пагардліва называюць яго качагарам, абвінавачваючы ў тым, што ён — адзін з тых рабочых, якіх у 20-я гады «мабілізавалі ў літаратуру», што ён не скончыў ніякіх універсітэтаў, і значыць, які ж з яго пісьменнік? Быццам не разумеюць, што лепшыя універсітэты для пісьменніка — само жыццё. Разумныя людзі называлі яго самародкам.

Мой бацька друкаваў свае вершы яшчэ ў дарэвалюцыйныя гады, калі вучыўся ў земскім рэальным вучылішчы Елісаветграда. Нягледзячы на тое, што вучылішча рыхтавала інжынераў, вялікая ўвага там удзялялася гуманітарным дысцыплінам — дырэкцыя запрашала лепшых настаўнікаў і вучоных з Расіі (І. Дзеркачова, В. Грыгаровіча), з Адэсы (В. Харціева). Асаблівая ўвага ўдзялялася славеснасці, пазакласнаму чытанню, літаратурна-мастацкім вечарам, чытацкім канферэнцыям, тэатральным прадстаўленням. Гэта тлумачыцца тым, што дырэктар «рэалкі» сам выкладаў гісторыю і славеснасць. Былы нарадаволец, ён быў вельмі паважаным чалавекам у горадзе.

Юны рэаліст Міхайла вывучаў французскую і нямецкую мовы, быў начытаны. Гэтае вучылішча скончыў грамадскі дзеяч і пісьменнік Аляксандр Таркоўскі (дзед кінарэжысёра Андрэя Таркоўскага,), музыканты Густаў Нейгаўз (бацька Генрыха Нейгаўза), які праславіўся сваёй піяністычнай школай, Кароль Шыманоўскі, Фелікс Блюменфельд і іншыя сусветна вядомыя елісаветградцы.

Ён быў здольным хлопчыкам, але вучыцца яму перашкаджалі здзекі і кпіны з яго байстрюкоўства і беднасці з боку рэалістаў, дзяцей багатых землеўласнікаў. Калі Міхайла паступіў у «рэалку», яго маці і айчым (Мусій Сандыга) былі заможнымі людзьмі, яны мелі сваю краму, пякарню, коней, наёмных работнікаў. Але сям'я разрасталася, нараджаліся дзеці, усіх трэба было пракарміць, а да іх часта прыходзілі рэкеціры (бальшавікі) і забіралі грошы — «на рэвалюцыю». Бацькі ўшчэнт разарыліся. Айчым пачаў піць. Пачаліся сямейныя сваркі. Міхайла не вытрымаў такога жыцця і, калі пачалася Першая сусветная вайна, уцёк на Аўстрыйскі фронт разам з казацкай сотняй, якая праязджала па вуліцах Елісаветграда. Удзельнічаў у баях у Галіцыі (1914–1915). 26 красавіка 1915 года ў баі пад Каламыяй яго параніла. На гэтым яго служба ў царскай арміі скончылася.

Дзякуючы знойдзеным архіўным дакументам, даследчыкам удалося ўдакладніць тэрмін знаходжання Міхайлы Драча на фронце.

З пратаколаў педсавета рэальнага вучылішча відаць, што Міхайла ў кастрычніку 1914 года яшчэ там вучыўся. Значыць, на фронт ён уцёк пасля кастрычніка. Вярнуўся пасля ранення ў Елісаветград 8 мая 1915 года. Пра тое ж сведчыць і прашэнне яго маці. Прыводжу яго поўнасцю:

«Его Высокоблагородию Господину Директору Елисаветградского Земского Реального училища
Елисаветградской мещанки
Матрены Ефимовны Драч,
проживающей на Кущевке,
6-й улице, свой дом.

Прошение

Сын мой, ученик 3-го класса Михаил Драч, 8-го мая сего года возвратился с передовых позиций театра военных действий, после чего пробыл в лазарете месяц, где лечился от полученных ран, а затем перешел для поправления здоровья в команду выздоравливающих воинов. 15-го же сего июля заболел и был на излечении в городской больнице, вследствие чего он не имел возможности подготовиться к осенним экзаменам, а потому честь имею просить Ваше Высокоблагородие отсрочить ему экзамены на некоторое время.

г. Елисаветград.
31 июля с. г.

Елисаветградская мещанка *Матрена Ефимовна Драч.*

При сем прилагаю удостоверение старшего врача Елисаветградской городской больницы за № 637». (З справаздачы «Елісаветградскі перыяд жыцця Рыгора Кобеца і яго першыя публікацыі ў прэсе» Л. М. Хасіянавай, галоўнага захавальніка фондаў кіраваградскага літаратурна-мемарыяльнага музея І. К. Карпенкі-Карага*.)

Паправіўшыся пасля ранення, мой бацька зноў вярнуўся ў ЕЗРУ. Кпіны з яго і здзекі ў вучылішчы не спыняліся і цяпер, і Міхайла быў вымушаны абараняць сваю чалавечую годнасць кулакамі. Пасыпаліся на яго скаргі, ён часта трапляў у кандуіт, хлопца саджалі ў «карцэр». За цвёрдасць характару яму даставалася ад бацькоў і дома. Вось тады і наважыў Міхайла развітацца з жыццём…

«Мама прости я больше не могу жить». Гэта развітальная запіска майго бацькі. Калі ён страляўся, яму было 16 год. Ён выжыў. Куля прайшла навылёт вышэй сэрца на адзін сантыметр.

* Карпенка-Кары Іван Карпавіч (сапр. Табілевіч; 1845–1907) — вядомы ўкраінскі драматург, тэатральны дзеяч.

Пяты клас ён не закончыў. Пайшоў «у людзі». Пачаў жыць самастойна. Пасяліўся на вуліцы Быкавай. Гэтая вуліца лічылася дэмакратычнай, хоць яе насялялі елісаветградскія чыноўнікі. Але туліліся ў прыватных кватэрах і рабочыя. Міхаіл Сандыга кватараваў у доме Клічко. Працаваў токарам на заводзе сельгасмашын братоў Эльворці (пазней завод «Красная звезда»), маркіроўшчыкам чыгуначнай станцыі Елісаветград-Таварны. Ці да вучобы было тады? За акном — Лютаўская рэвалюцыя. Усё кіпела, бурліла. «І вось у гэтым палітычным бурлівым катле мітусіцца семнаццацігадовы хлопец Міхаіл Сандыга, слухае лідэраў розных партый і ніяк не можа зразумець, хто з іх больш рэвалюцыйны. Да якой партыі прыстаць?» — прыгадваў у сваёй «Аўтабіяграфіі» Рыгор Кобец. І прымкнуў да анархістаў. Яго духоўнымі настаўнікамі сталі Максюта і Барыс Волін — лідэры федэрацыі анархістаў групы «Набат».

Анархісты заклікалі да ўсталявання народнай улады, яны любілі свабоду і змагаліся за ліквідацыю эксплуатацыі чалавека. Анархістамі былі перш за ўсё «бацька» Махно, П. Крапоткін, М. Бакунін, П. Прудон, Л. Талстой. Нават Максім Горкі, бунтар па натуры, у маладыя гады быў анархістам.

Юнаку Міхайлу Сандыгу падалося, што самая рэвалюцыйная партыя, якая па сваёй ідэалогіі адпавядае яго патрабаванням, — гэта партыя анархістаў. Таму і пайшоў да іх. А пачалося з яго вершаванага фельетона «Лавачка», надрукаванага ў газеце «Друг народа» (1918), у якім ён высмеяў гетмана Паўло Скарападскага, нямецкага стаўленіка ў час акупацыі Украіны. Міхайла быў арыштаваны гайдамакамі, але дзякуючы сябрам-анархістам яму ўдалося з турмы ўцячы.

Адкуль у юнака Міхайлы была такая цяга да анархізму? Можа, гены атрымаў у спадчыну?.. У метрычнай кнізе Вазнясенскай царквы захаваўся запіс: «16 мая 1911 г. умер елисаветградский мещанин Евфимий Ильич Драч, 85 лет, от старости». Гэта дзед майго бацькі. Мой прадзед. У нашай сям'і бытавала легенда наконт радаводу майго бацькі. Быццам нехта з прашчураў, казак Запарожскай Сечы, драў крупы, і за гэта яго празвалі Драчом. Спярша гэта была мянушка, а потым мянушка стала прозвішчам. Так ці інакш, а характар мой бацька, мусіць, пераняў ад свайго дзеда — свавольны, упарты, бунтар, які не прызнаваў над сабой ніякай улады. Якраз у Запарожскай Сечы, потым у Гуляй-Полі была рэалізавана анархічная ідэя аб шчаслівым жыцці сялян без дзяржаўнага кантролю. Казакі Запарожскай Сечы вызначаліся мужнасцю і смеласцю. Мой бацька жадаў такімі ж бачыць і сваіх нашчадкаў. (Любімаму васьмігадоваму ўнуку Дзмітрыю ён падарыў кнігу «Тарас Бульба» з такім надпісам: «Будзь смелым, як Тарас, дужым, як Астап, разумным і таленавітым, як Мікалай Васільевіч Гогаль».)

Палітычнае жыццё ў Елісаветградзе было настолькі бурлівым, так часта мянялася ўлада, што разабрацца хлопцу ва ўсім было вельмі складана. У Грамадзянскую вайну дзе толькі не давялося служыць

маладому Міхайлу! У чырвонаармейскім Брацкім палку, у радах Чырвонай гвардыі (1-шы інтэрнацыянальны батальён рэўваенсавета Паўднёвага фронту), у міліцыі, у арміі Дзянікіна. Зімой 1920 года Міхайла апынуўся ў асобным кавалерыйскім дывізіёне 1-й Коннай арміі С. М. Будзённага пад камандаваннем Мяркулава. Тут ён зноў трапіў пад уплыў анархістаў і прыняў удзел у контррэвалюцыйнай змове, мэтай якой была арганізацыя вялікага паўстання, звяржэнне савецкай улады і аддзяленне Украіны ад савецкай Расіі. Але змова была выкрыта чэкістамі. Украіна аддзялілася ад Расіі толькі праз 70 гадоў.

Калі пачаліся арышты, Міхайлу давялося хавацца. Ён пакінуў Украіну і ў 1921 годзе апынуўся ў Беларусі. Тут ён мяняе прозвішча, імя і імя па бацьку — на Кобец Рыгор Якаўлевіч. Зрабіў няўдалую спробу перайсці за кардон, але быў арыштаваны і кінуты ў падвал мінскага ДПУ (на вуліцы Савецкай). Там ён прабыў чатыры месяцы і захварэў на сыпны тыф. Яго перавялі ў вострazаразную бальніцу на вуліцы Крапоткіна, дзе ляжаў пад моцнай вартай. У студзені 1922 у час разгрузкі перапоўненых турмаў Рыгор Кобец быў вызвалены так званай «тройкай», што прыехала з Масквы — як памылкова затрыманая асоба.

Ён уладкаваўся качагарам у бальніцы, у якой лячыўся, потым працаваў на мінскім дражджавым заводзе «Пралетарый» (1922–1928), піўзаводзе «Беларусь» (1928–1929), адначасова быў рабкарам газеты «Рабочий» («Советская Белоруссия»).

Друкавацца Міхайла пачаў у 1917 годзе ў елісаветградскіх газетах «Наша жизнь», «Друг народа» пад псеўданімамі «Рабочий М. Сандыга», «Солдат Михаил Сандыга» або «Солдат М. С.» Ён пісаў байкі і вершаваныя фельетоны, у якіх адчуваецца пераймальнасць яго земляку Дзям’яну Беднаму. Толькі апошні высмейваў кулакоў і нэпманаў, а Сандыга — савецкіх чыноўнікаў, бо ад іх ілжывых абяцанняў жыццё народа не паляпшалася, а рабілася яшчэ горшым.

У Беларусі мой бацька друкаваўся пад сваім новым прозвішчам «Кобец» або пад псеўданімамі — «Грыша Лахматы», «Гришка Лохматый», «Рыгор Лахматы». Пісаў вершы, апавяданні, артыкулы, фельетоны. У 1925 годзе ўвайшоў у літаратурнае аб’яднанне «Звенья» (філіял літаб’яднання «Маладняк»). У той час ён напісаў верш «Паравоз», які стаў знакамітай песняй, яна распявалася сінеблузнікамі і іншымі маладзёжнымі калектывамі па ўсёй краіне. Калі «Звенья» распаліся (1928), Рыгор Кобец з групай звеннеўцаў ужо стварыў новае літаб’яднанне «Мінскі перавал» (1927), які праіснаваў нядоўга. У 1928 годзе Рыгор Кобец перайшоў у «Маладняк», які ў тым жа годзе таксама распаўся і ператварыўся ў БелАПП (Беларуская асацыяцыя пралетарскіх пісьменнікаў). У 1932 годзе БелАПП была ліквідавана, таму што стала «тармазіць развіццё савецкай літаратуры». Тое ж адбылося і ў РАПП (Расійскай асацыяцыі). І ўсё ж літаратурныя групоўкі выканалі сваю галоўную місію — выявілі шмат таленавітых

пісьменнікаў, у тым ліку і Кобеца. У 1934 годзе быў створаны адзіны пісьменніцкі Саюз, у які ўступіў і Рыгор Якаўлевіч Кобец (1934). Яго членскі білет за нумарам 2400 быў падпісаны старшынёй Саюза Максімам Горкім.

У 1928 годзе Рыгор Кобец разам з дэлегацыяй беларускіх пісьменнікаў сустракаў Максіма Горкага на станцыі Негарэлае, калі вялікі пралетарскі пісьменнік вяртаўся з Сарэнта на радзіму. Малады Рыгор Кобец у той час працаваў качагарам на мінскім піваварным заводзе «Беларусь». Ён вітаў Горкага сваёй прамовай ад імя рабочых Беларусі так шчыра і цёпла, што той праслязіўся. Гэтая сустрэча акрыліла маладога качагара, рабкара, паэта, журналіста. І ён адважыўся на творчы подзвіг — стварыць першую п’есу аб рабочых Беларусі. Добра ведаючы рабочае асяроддзе, бо сам быў рабочым, ён напісаў п’есу «Гута» (пра шклозавод), якая атрымала вельмі высокую ацэнку крытыкаў як беларускіх, так і іншых рэспублік, нават замежных. А на першай алімпіядзе тэатральнага мастацтва ў Маскве ў 1930 годзе п’еса «Гута» ў пастаноўцы БДТ-1 (тэатра імя Я. Купалы) заняла першае месца, падзяліўшы яго з грузінскім тэатрам імя Руставелі. Перакладзеная на мовы іншых рэспублік і замежных краін (Чэхаславакіі, Польшчы, Румыніі, Аўстрыі, Венгрыі), п’еса з поспехам ставілася за мяжой.

У 1930 годзе Р. Кобец едзе ў Ленінград на ўмацаванне беларускай кінастудыі «Савецкая Беларусь», якая знаходзілася ў Расіі па той прычыне, што ў беларусаў не было свайго памяшкання, не было кінаапаратуры і спецыялістаў. Пачаў ён з нямых дакументальных фільмаў (пісаў сцэнарыі), бо гук яшчэ толькі вынаходзіўся. У 1931-м выйшаў яго першы мастацкі фільм (хутчэй агітпрапфільм) «Ураган» (сцэнарый у сааўтарстве з Б. Брадзянскім). Фільм пра будаўніцтва аршанскага льнокамбіната атрымаўся не вельмі ўдалым, але шмат чаго ў галіне кінамайстэрства даў маладому кінадраматургу.

У 1984 годзе беларускі мастацтвазнаўца Вацлаў Смаль, даючы аналіз творчасці Рыгора Кобеца ў неапублікаванай прадмове «Ля вытокаў» да яго нявыдадзенага Збору твораў, пісаў: «У кіно Кобец прыйшоў, ужо маючы значны вопыт літаратара і драматурга: артыкулы, нарысы, фельетоны, якія ён напісаў, праца загадчыкам аддзела газеты «Рабочий» у Мінску. Газетная праца аказалася добрай школай для ўступлення на літаратурны шлях маладога Кобеца. Усё гэта дало яму шырокія магчымасці для штодзённага і непасрэднага дотыку з жыццём рэспублікі ва ўсіх яе сферах, для пашырэння палітычнага кругагляду, выпрацоўвала ў маладога журналіста назіральнасць, быстрыню рэакцыі, зоркасць да дэталі — якасці, так неабходныя кінадраматургу.

Назапашаныя ўражанні дый уласны жыццёвы вопыт паслужылі матэрыялам для стварэння на сучасную тэму п’есы «Гута», якая прынесла Кобецу славу як самабытнаму беларускаму тэатральнаму драматургу.

Тэатр, а пазней кіно сталі той сферай, дзе больш поўна праявіліся індывідуальныя якасці яго характару і даравання». (У сваёй прадмове-эсэ я даволі часта цытую беларускага мастацтвазнаўцу Вацлава Смаля, бо ён адзіны даследчык творчасці Рыгора Кобеца, які зразумеў яго як творцу і як чалавека. З яго даследаваннем нельга не пагадзіцца.)

Яшчэ ў 1930-м на адной пашыранай нарадзе, прысвечанай праблеме кадраў кінафабрыкі Белдзяржкіно, пачынаючаму кінасцэнарысту была дадзена наступная характарыстыка:

«…Кобец стаіць асабняком. Ён нядаўна і значна пазней за ўсіх іншых прыбыў да нас на вытворчасць. Гэта рабочы хлопец — рабкар. Ён мае вялікія творчыя задаткі, доказам чаго з'яўляецца пастаноўка шэрагам тэатраў многім з вас вядомай яго п'есы «Гута». Ён валодае свежасцю і арыгінальнасцю думкі, правільнай палітычнай арыентацыяй у асноўных пытаннях; у яго маюцца здольнасці калектыўна працаваць, спрацоўвацца з людзьмі. Дайце яму магчымасць атрымаць кінематаграфічную культуру — будзе вельмі каштоўны для савецкай кінематаграфіі работнік. Нам трэба вызваліць яго па магчымасці ад кансультацыйнай працы і пасадзіць на сцэнарную, стварыць найлепшыя ўмовы для яго творчай працы ў якасці сцэнарыста-кансультанта» (Нац. архіў РБ. Ф. 4п. Воп. 1. Спр. 6113. Са стэнаграмы даклада намесніка загадчыка Культпропам ЦК КП(б)Б І. А. Раманчука. 26–27 снежня 1930 г.).

Тое, што кінафабрыка «Савецкая Беларусь» знаходзілася ў Ленінградзе, не вельмі спрыяла развіццю нацыянальнага кінематографа. І калі кіраўніцтва Белдзяржкіно прапанавала Рыгору Кобецу ўзначаліць сцэнарны аддзел кінафабрыкі «Савецкая Беларусь» (1932–1937), перш за ўсё Рыгор Якаўлевіч памкнуўся зрабіць яе нацыянальнай. Той жа Вацлаў Смаль пісаў: «Накіроўваючы асноўныя намаганні на стварэнне кінатвораў на матэрыяле сучаснасці, ён залучаў да працы над сцэнарыямі беларускіх пісьменнікаў К. Чорнага, А. Александровіча, М. Лынькова, З. Бядулю, вядомых рускіх пісьменнікаў Ю. Алешу, Б. Ясінскага, Л. Нікуліна, дапамагаў маладым сцэнарыстам І. Іванаву, І. Зельцэру, Н. Таўбе ў працы над іх першымі сцэнарыямі». Запрашаць расійскіх пісьменнікаў даводзілася таму, што беларускія ішлі ў кіно неахвотна, па-першае, кінастудыя была далёка, а па-другое, яны лічылі, што праца ў кіно прыніжае пісьменніцкую годнасць.

Шмат складанасцяў было на кінастудыі «Савецкая Беларусь» з увядзеннем гукавога кіно. Найперш не хапала адпаведнай плёнкі. Саюзкіно адпускала беларускай кінафабрыцы плёнку для запісу гуку толькі на адной, рускай, мове, без дубліравання на беларускую. Да гонару кінастудыі, яна выйшла са становішча па-свойму: выпускала для Беларусі фільмы на беларускай мове, а для ўсесаюзнага кінагледача — з цітрамі на рускай.

Стварэнню беларускага кіно Рыгор Кобец аддаваў шмат сіл і энергіі. З найбольш актуальнымі праблемамі беларускага кінематографа

выступаў у друку. Па сёння не страцілі сваёй цікавасці яго артыкулы «Некалькі слоў пра кінакадры» (1932), «Як я працаваў над гукавой кінадрамай “Двойчы народжаны”» (1932). За тое, што Рыгор Кобец імкнуўся зрабіць беларускую кінематаграфію сапраўды беларускай, яго абвінавачвалі ў «нацыяналістычных настроях».

Працаваць на кінастудыі «Савецкая Беларусь» было нялёгка. Адарванасць ад Беларусі стварала вялікія цяжкасці, асабліва ў пытанні нацыянальных кадраў. У 1932 годзе з 21 рэжысёра студыі быў толькі адзін беларус. Але і гэтаму рэжысёру не далі паставіць аніводнай карціны. Са 100 работнікаў іншых катэгорый на беларускай кінафабрыцы было ўсяго чатыры беларусы. Кіраўніцтва фабрыкі стварыла такія ўмовы для беларускіх работнікаў, што яны вымушаны былі звальняцца з працы і вяртацца ў Беларусь. Давялося пакінуць кінафабрыку разам з Анатолем Вольным і такому «талантливому сценаристу, как Кобец» (И. Шаповалов. «Почему на кинофабрике нет белорусских кадров» / Рабочий, 1936, № 163). У выніку на кінастудыі «Савецкая Беларусь» не засталося нацыянальных кадраў, што адмоўна адбілася на стварэнні беларускіх фільмаў. Гаварыць аб стварэнні нацыянальных фільмаў можна толькі пры наяўнасці ў кінематографе беларускіх кадраў, іначай кінематограф нацыянальным назваць немагчыма.

Але жорсткая барацьба за беларускае кіно не засталася дарэмнай. У 1933 годзе выйшаў на экраны першы гукавы і першы на беларускай мове фільм «Двойчы народжаны» паводле сцэнарыя Рыгора Кобеца (з рускамоўнымі цітрамі для ўсесаюзнага гледача). За гэты фільм і за вялікі ўклад у станаўленне і развіццё маладога беларускага кіно Рыгор Якаўлевіч Кобец атрымаў высокае званне заслужанага дзеяча мастацтваў БССР (1935). Гэтае ж званне атрымаў тады і Анатоль Вольны. Рыгор Кобец і Анатоль Вольны былі першымі з беларускіх пісьменнікаў заслужанымі дзеячамі мастацтваў Беларусі.

Сцэнарый фільма «Двойчы народжаны» Рыгор Кобец напісаў у выніку многіх паездак па Беларусі, у тым ліку з кіраўнікамі краіны Мікалаем Галадзедам і Аляксандрам Чарвяковым у 1929 годзе на калектывізацыю. Гэта быў час, калі сялян сілком заганялі ў калгасы, а тыя супраціўляліся, пасля «перагібаў» і «памылак» партыйнай дыктатуры вярталіся на свае маленькія ўрэзаныя надзелы. Рыгор Якаўлевіч прыгадвае ў сваіх успамінах «На ўмацаванне…»: «Час быў трывожны. Ломка была, ломка ўсяго. Цяжкія, напружаныя сходы… і бандытызм. Вось так і ездзілі, рабілі калектывізацыю. Ідзе сход усю ноч, а бывала — і двое сутак запар. Народ хвалюецца. Дубавіцкі (асабісты сакратар Галадзеда. — *А. К.-Ф.*) — каля акна, а я каля дзвярэй стаю. На ўсякі выпадак… А гэтыя двое бедалаг, старшыня Саўнаркама і старшыня ЦВК суткамі не спяць, размаўляюць з народам, праяўляюць максімум цярпення. Я б такога не вытрымаў. А яны ўсё пераконваюць, растлумачваюць. А ў людзей тысячы скаргаў: там перагнулі, там бядняк не

пайшоў у калгас, а яго дзяцей за гэта са школы выгналі… У асноўным народ ішоў у калгасы, але было і шмат такіх, хто… супраціўляўся…

А я езджу з членамі ўрада, фіксую ўсё, што адбываецца. Штосьці ў памяці пакідаю, штосьці на заметку ў блакнот бяру. Працую, адным словам. Праўда, былі і якія-ніякія непрыемнасці, стычкі былі. Час жа трывожны. Але ніколі ні Аляксандр Рыгоравіч, ні Мікалай Мацвеевіч аніякай аховы не прызнавалі. Ну, уявім, бандыты нападуць. Дык нас жа чацвёра, чатыры мужыкі! Хто нас возьме? Вось так і ездзілі, праводзілі калектывізацыю. Трэба сказаць, што народ іх вельмі любіў — Галадзеда і Чарвякова. І гэта, між іншым, была вялікая, добрая гарантыя. І аховы не трэба было. Я ж усё запісваў, пасылаў карэспандэнцыі ў газету».

Амаль тры тыдні ўзімку ездзілі яны па Талачынскім, Горацкім і Аршанскім раёнах. Рыгор Якаўлевіч вывучаў працэс калектывізацыі і на свае вочы бачыў, як ламалі селяніна, гаспадара зямлі, як крыўдзілі непасільнымі падаткамі і паборамі.

За аснову сцэнарыя ён узяў сапраўдныя факты, з якімі пазнаёміўся ў калгасе пад Барысавам. У фільме адлюстравана так званая «класавая барацьба» і тыповая сітуацыя карэнных перамен у беларускай вёсцы, калі перад селянінам паўстала пытанне: ісці ў калгас ці не ісці? Ён паказаў, што не ўсе давяралі калгасу. Галоўны герой фільма гаворыць: «Не, у калгас я не хадок. Воляй дыхнуць хочацца!» Для яго калгас — як турма. Ствараючы сцэнарый да фільма, бацька імкнуўся паказаць праўду, што ў калгасе «мёду» не было, што напачатку і людзі галадалі, і коні дохлі. Але каму была патрэбна гэтая праўда? Яе баяліся! Бацька прыгадваў: «Галадзед чытаў і зацвярджаў мае справаздачы, якія перыядычна з’яўляліся пасля яго праверкі на старонках газеты «Рабочий». Таму не ўсе друкаваліся камандзіровачныя справаздачы Кобеца пра «класавую барацьбу», «бандытызм», хоць ніякай класавай барацьбы не было, а звычайная грамадзянская вайна, калі сын на бацьку, бацька на сына, калі пладзілі «паўлікаў марозавых».

Па той жа прычыне ў 1933 годзе паліткантроль ЦК КП(б)Б забараніў друкаваць сцэнарый фільма «Двойчы народжаны»: «С политической точки зрения эту вещь печатать нельзя». Сцэнарый друкаваць забаранілі, а кінафільм пасля дапрацоўкі ўсё ж быў зняты і з вялікім поспехам дэманстраваўся па ўсёй шматнацыянальнай краіне і за яе межамі. «Сцэнарый, а затым і фільм, пастаўлены на яго аснове, сталі не толькі прыкметнай з’явай, але і этапнымі як для драматурга, так і для ўсяго нацыянальнага беларускага кінамастацтва» (В. Смаль). Цэнтральная прэса ацаніла фільм як значнае дасягненне не толькі беларускай кінематаграфіі: «…следует отдать должное Белгоскино: оно дало фильм, появление которого на экранах Москвы надо приветствовать. Сценарий к этому фильму написан талантливым белорусским драматургом Гр. Кобецом. Это один из немногих у нас сценариев, в котором чувствуется мастерская рука драматурга. Действие развертывается,

нарастая, и многие моменты захватывают зрителя. Типы, выведенные в фильме, — живые, сегодняшние люди. Образ самого Лопуха написан яркими штрихами…» (А. Вырвич. «Дважды рожденный» // Известия. 1934. 21 мая).

Вядомы крытык С. Дынамаў пісаў: «В картине есть что-то необычайно привлекательное и красивое. Эта привлекательность напоминает мягкую улыбку, освещающую лицо хорошего человека… Задушевность, необыкновенная теплота пронизывает весь сценарий, и эту авторскую интонацию сохранили режиссер, оператор и актеры в своей работе, что дало блестящий результат: фильм получился впечатляющий, волнующий» (Кино. 1935. 16 сак.).

З «Истории белорусского кино» (1969): «Дважды рожденный» положил начало целому ряду произведений белорусского кино, посвященных современности… Это первый фильм, в котором ярко выявились черты белорусского национального характера. Образ крестьянина Григория Лопуха… — самый большой успех кинематографа республики в создании национального характера».

Калі прыгадаць яшчэ, што музыку да фільма напісаў кампазітар І. Дунаеўскі, а галоўную ролю Рыгора Лопуха сыграў выдатны беларускі артыст У. Крыловіч, і тое, што ў фільме здымаліся таленавітыя акцёры М. Цароў, П. Малчанаў, Т. Гурэцкая, Б. Бабачкін і Д. Кміт (апошнія праславіліся крыху пазней у фільме «Чапаеў») і што кінафільм здымаў кінарэжысёр Э. Аршанскі разам з аператарам Б. Рабавым, будзе зразумелым, чаму «Двойчы народжаны» стаў этапным і ўвайшоў у гісторыю нашага кінамастацтва.

Гэта быў першы гукавы фільм у Савецкім Саюзе на тэму калектывізацыі (да яго на гэтую тэму ставіліся толькі нямыя фільмы). Нягледзячы на высокую вартасць кінафільма, у другой палове 1930-х гадоў ён быў зняты з кінапракату пасля таго, як знікла цэлая частка кінастужкі, былі павыразаны асобныя кінакадры. Праз 70 з гакам гадоў, у нашы дні, не стала і знявечанага фільма, быццам хтосьці выкраў яго разам з копіямі. Я ўпэўнена, што настане час, калі кінастужка, знішчаная ў Беларусі, адновіцца. Такога быць не можа, каб яна не захавалася ў цэнтральным кінаархіве, што ў Белых Сталбах пад Масквой, ці ў архівах замежжа.

У 1936 годзе на экранах з’яўляецца сатырычная камедыя «Шукальнікі шчасця», знятая паводле сцэнарыя Рыгора Кобеца (у час кіназдымак да яго далучыўся І. Зельцэр). Гэты фільм — шэдэўр савецкай кінематаграфіі, ён атрымаў сусветную вядомасць. В. Смаль пісаў у 1984 годзе: «Двойчы народжаны» з’явіўся пераканаўчым доказам, што ў асобе Р. Кобеца кінастудыя «Савецкая Беларусь» прыдбала таленавітага драматурга. Няма сумнення, што дасягненні «Двойчы народжанага» адыгралі вялікую ролю ў далейшым развіцці беларускага кінамастацтва ў цэлым і ў распрацоўцы сучаснай тэматыкі ў

прыватнасці. У далейшым Кобец дабіваецца яшчэ большых поспехаў, стварыўшы фільм на сучасную тэму «Шукальнікі шчасця». Знамянальна тое, што роўным яму не было і няма па сённяшні дзень». Абодва фільмы ўвайшлі ў залаты фонд савецкай кінематаграфіі.

Фільм «Шукальнікі шчасця» — пра будаўніцтва Бірабіджана. Першы варыянт сцэнарыя Р. Кобец напісаў яшчэ ў 1934 годзе (пра геолагаў, якія шукалі золата, а знайшлі нафту). Сцэнарый быў пад той жа назвай. Але Кобец адмовіўся ад яго і напісаў новы варыянт, па якім здымаўся знакаміты фільм, а першы варыянт ён скарыстаў для музкамедыі «Шчаслівы бераг» («Шчаслівы рэйс»). У 1940 годзе аперэта ставілася ў тэатрах музкамедыі Хабараўска і Масквы (кампазітар І. Ільін).

Фільм пра бедную яўрэйскую сям'ю, якая пакінула Літву і пасля доўгіх блуканняў па свеце ў пошуках шчасця едзе ў савецкі Бірабіджан, дзе разам з усімі працуе ў калгасе. Працуе ўся сям'я старой Двойры, акрамя Піні, які не хоча працаваць і выглядае жаласным, смешным у сваіх дарэмных намаганнях знайсці золата, якое так і не знайшоў (замест золата намыў метал). Піня — гэта абагульняючы вобраз нікчэмных людзей, у якіх адна мэта: разбагацець любымі сродкамі. Так трактавалі вобраз Піні савецкія крытыкі. Але сёння Піня Копман, «кароль падцяжак», са сваёй марай стаць камерсантам можа ацэньвацца інакш.

Фільм меў вельмі вялікі поспех. Ён дэманстраваўся не толькі на экранах нашай краіны, але і за мяжой: у ЗША, Францыі, Чэхаславакіі, Аўстрыі, Бельгіі і іншых краінах. Калі фільму споўнілася паўстагоддзя, яго юбілей адзначалі не толькі ў Беларусі, але і за мяжой. Варшаўская газета «Фолькс-Штыме» («Голас народа») пісала: «Фільм «Шукальнікі шчасця» з яго мінорнымі, іранічнымі і дасціпнымі сцэнкамі належыць да тых класічных кінастужак, якія ніколі не перастануць захапляць гледачоў…» А маскоўскі часопіс «Советиш Геймланд» («Советская Родина») на сваіх старонках надрукаваў кінасцэнарый на мове ідыш. Крыху пазней сцэнарый змясціў і літаратурны штогоднік «Год за годом» на трох мовах: рускай, французскай, англійскай (Масква, «Советский писатель». 1988. Вып. 4). У гэтай кнізе «Шукальнікі шчасця» друкуюцца на беларускай мове. Гэта першая публікацыя сцэнарыя ў Беларусі.

У чым сакрэт папулярнасці фільма? Перш за ўсё ў таленавітым сцэнарыі, у яго яркай вобразнасці. Фільм пачынаецца са сцэнарыя. Няма сцэнарыя — няма і фільма. Рэплікі герояў сталі своеасаблівым фальклорам, яны пайшлі ў народ, іх можна было пачуць на вуліцах, яны дажылі і да нашых дзён. Папулярнасць фільма тлумачыцца і музычным афармленнем кампазітара Дунаеўскага. Песні з кінафільма спявала не адно пакаленне гледачоў, спяваюць іх і сёння. Але ж без артыстаў не можа адбыцца кіно, якімі б не былі сцэнарый і музыка. Хто яны, выканаўцы, што сваёй таленавітай ігрой увекавечылі і фільм, і сябе?

М. Блюменталь-Тамарына (цётка Двойра), В. Зускін (Піня), І. Бій-Бродскі (Шлёма), Л. Шмідт (Роза), Н. Вальяно (Лёва), Л. Тайц (Бася), С. Яраў (Карней), Б. Жукоўскі (стары рыбак)… І яшчэ С. Міхоэлс — знакаміты артыст і рэжысёр, ён быў кансультантам фільма.

Трагічны лёс напаткаў асноўных аўтараў фільма. У 1938-м, у час «вялікага тэрору», быў арыштаваны Р. Кобец «за шпіянаж на карысць Японіі, Англіі і Польшчы», пасля другога арышту (1941) сасланы ў сталінскі лагер на 10 год «за антысавецкую агітацыю», а затым у пажыццёвую ссылку. У 1948 годзе ў Мінску быў забіты Міхоэлс, у 1952 — расстраляны В. Зускін. Трагічным аказаўся лёс і самой кінакарціны. Яна тройчы забаранялася. У 1938 (пасля першага арышту Кобеца), у пасляваенныя гады (пасля забойства Міхоэлса і Зускіна), у 1969 (у застойныя гады пасля кароткай «адлігі»).

Пасля рэабілітацыі так званых «ворагаў народа» фільм таксама быў рэабілітаваны і зноў дэманстраваўся на экранах, і зноў меў вялікі поспех. У 1987-м кінакарціна была адноўлена на кінастудыі імя М. Горкага і запісана на відэафільм. У 2007 годзе фільм запісалі на дыск (Масква) і запусцілі ў продаж.

У другой палове 30-х гадоў у кіно, як і ў літаратуры, значнае месца займае гісторыка-рэвалюцыйная тэматыка. Кінастудыя «Савецкая Беларусь» не засталася ад яе ў баку. У 1936 годзе Кобеца запрасілі ў сааўтары запланаванага фільма «Дняпро ў агні», у якім апавядалася пра рэальныя падзеі на беларускім Палессі напярэдадні рэвалюцыі 1905 года, пра тое, як у мястэчку Лоева, што на Дняпры, баставалі беларускія і яўрэйскія сплаўшчыкі лесу супраць лесапрамыслоўца Когана, іхняга прыгнятальніка. Галоўны герой сцэнарыя — атаман плытагонаў Нічыпар Чэх, які яшчэ не разумее, што такое рэвалюцыя, але па характару бунтар і супраціўляецца, калі замахваюцца на яго ўнутраную незалежнасць. Бясстрашныя магутныя самародкі цікавілі Рыгора Кобеца як у жыцці, так і ў літаратуры, бо сам быў з такіх. Ён з цікавасцю працаваў над сцэнарыем з яго асноўным аўтарам І. Барашкам, якому належала ідэя фільма, але якому не ўдаваліся дыялогі і які не мог ствараць яркіх характараў. У яго не ладзілася і з драматургіяй. Таму на дапамогу і быў запрошаны Рыгор Кобец, які стварыў запамінальныя вобразы рабочага Мароза, былога канакрада Рыгора Лопуха, няўдачніка Піні і інш. Сам І. Барашка пісаў: «Паставіўшы перад сабою яшчэ ў 1933 годзе задачу напісаць твор пра пралетарскі інтэрнацыяналізм на матэрыяле гісторыі класавай барацьбы ў Беларусі, мне толькі цяпер удалося гэтую задачу вырашыць пры дапамозе засл. дзеяча мастацтваў т. Р. Кобеца і кінастудыі «Савецкая Беларусь». Напісаны па маім лібрэта мной і т. Р. Кобецам сцэнарый «Днепр у агні» зацверджаны да пастаноўкі ўсімі інстанцыямі, і здымачная брыгада на чале з рэжысёрам-пастаноўшчыкам Ч. Сабінскім… пачала здымаць» («Дняпро ў агні» // ЛіМ. 1936. № 30).

Лёс фільма «Дняпро ў агні» таксама аказаўся трагічным. Быў 1937 год, самы разгар крывавых рэпрэсій. Пасля выхаду фільма на экран газета «Рабочий» 26 чэрвеня надрукавала знішчальную рэцэнзію М. Александровіч пад назвай «Снять с экрана политически вредный фильм»: «Фильм «Днепр в огне» — это наглый поклеп на большевиков и идеализация контрреволюционного Бунда, который, как известно, всегда отравлял сознание рабочих ядом национализма, разбивал международную солидарность рабочих, всегда ожесточенно боролся против большевиков, против Ленина и Сталина. В фильме отсутствует организация большевиков. Зритель видит только одного Ковалева. А этот Ковалев — просто издевка над образом большевика…» (Дарэчы, у каталогу-даведніку «Все белорусские фильмы» (т. I, 1996) укладальнікі памылкова спасламіся на газету «Рабочий» за 21 ліпеня).

Аўтараў сцэнарыя і фільма абвінавацілі ў тым, што яны амаль не паказалі ўплыў бальшавікоў на свядомасць забастоўшчыкаў, што сярод бастуючых плытагонаў аказаўся толькі адзін прышлы бальшавік. Але і ён не здолеў як мае быць з'яднаць рабочых. Фільм назвалі апалітычным і антымастацкім. Больш за ўсіх дасталося артысту У. Крыловічу, які іграў галоўную ролю Нічыпара Чэха.

Злосныя нападкі пачаліся да выхаду фільма на экран, калі крытыкаваўся сцэнарый. Старшыня Саюза пісьменнікаў М. Клімковіч у адказ на жорсткую крытыку сцэнарыя напісаў на яго водгук: «…Чэх расце правільна. Ён не вырас у свядомага камуніста, ён у значнай ступені «на хвалі» масавай незадаволенасці… Толькі любіцелі голай схемы патрабуюць «адшліфоўкі» Чэха. Прачытаўшы сцэнарый раз, яго не забудзеш, не забудзеш вобразы, выведзеныя ў ім: яны жывыя».

Гэта быў не толькі водгук, але і заключэнне, якое заканчвалася словамі: «Сцэнарый можа быць зацверджаны». Пасля такога заключэння сцэнарый быў запушчаны ў вытворчасць.

Нагадаю, валтузня вакол фільма «Дняпро ў агні» пачалася напярэдадні 1937 года, які ўвайшоў у гісторыю як год «вялікага тэрору». Праводзячы чыстку партыі, тады вылоўлівалі «ворагаў народа» там, дзе іх не было. Ні ў чым не вінаватым людзям прышывалі шпіянаж, антысаветызм, трацкізм і іншыя «ізмы». Пачаліся непрыемнасці і ў Клімковіча. Яго абвінавацілі ў нацыяналізме і трацкізме за тое, што хаваў быццам бы антысавецкую літаратуру, якая належала арыштаванаму «трацкісту» Гаю Гай (герою Грамадзянскай вайны). У жніўні 1936-га партарганізацыя Саюза пісьменнікаў абвінаваціла Клімковіча ў антыпартыйных учынках і пастанавіла выключыць яго з партыі. У той жа дзень пасля партыйнага сходу Клімковіч зрабіў спробу самагубства, але выжыў. З партыі яго не выключылі, але з пасады старшыні СПБ знялі і вывелі са складу кандыдатаў у ЦК КП(б)Б.

У такіх умовах ствараўся фільм «Дняпро ў агні». І нічога дзіўнага няма ў тым, што яго знялі з экрана, аб'явіўшы «палітычна шкодным».

А шкада. У фільме здымаліся таленавітыя артысты: У. Крыловіч (Нічыпар Чэх), А. Барысаў (бальшавік Бялоў, ён жа Кавалёў, першая роля артыста ў кіно), Г. Грыгоніс (плытагон), Р. Рубанава (Эстэр) і інш.

Фільм не захаваўся, ён згарэў у Другую сусветную вайну пад бамбёжкай. Але фотаздымкі кінакадраў захаваліся ў БДАМЛіМ і ў сямейным архіве Р. Кобеца. Дарэчы, фотаздымкі, што друкуюцца ў гэтай кнізе, таксама з сямейнага архіва драматурга.

«Вялікае дараванне Кобеца не засталося не заўважаным, — пісаў В. Смаль. — У 1936 яму было даручана напісаць кінасцэнарый пра беларускага «Чапаева» ў творчай садружнасці з А. Талстым, М. Лыньковым і іншымі. І гэты давер пацвердзіўся ў прамове старшыні Саўнаркама БССР тав. М. М. Галадзеда на ўрачыстым пасяджэнні, прысвечаным 10-гадоваму юбілею Белдзяржкіно: «Тав. Кобец у сваім выступленні казаў, што Чапаева можна знайсці ў сацыялістычным будаўніцтве бягучага часу… І гэта вельмі правільна…»

Уменне Кобеца ствараць характары глыбока народныя і з’явілася прычынай таго, што менавіта яму ў садружнасці з лепшымі пісьменнікамі (А. Талстым, М. Лыньковым) і сцэнарыстамі (У. Недаброва, ужо вядомым па фільму «Златыя горы», і інш.) было даручана стварыць фільм пра беларускага «Чапаева». У выніку быў напісаны Р. Кобецам і А. Вольным сцэнарый на гістарычную тэму «Паўстанне гневу». Сцэнарый прысвячаўся памяці нацыянальнага героя Грамадзянскай вайны, легендарнага беларускага партызана Алеся Салаўя, які змагаўся за савецкую ўладу на Палессі.

Меркавалася выпусціць «манументальны фільм эпохі Грамадзянскай вайны» ў 2-х серыях на беларускай мове. У кастрычніку 1936 года сцэнарый быў прыняты кінафабрыкай і здадзены ў вытворчасць. Але зняць фільм не паспелі: у лістападзе быў арыштаваны Анатоль Вольны. (Той жа лёс у 1935 годзе напаткаў і Гая Гай, былога камандзіра Чырвонай Арміі, які абараняў Беларусь ад акупантаў, героя кінасцэнарыя. Абодва будуць расстраляны ў 1937 як «ворагі народа».)

Пасля арышту А. Вольнага Рыгор Якаўлевіч разумеў, што хутка дабяруцца і да яго, былога анархіста, і ён з’ехаў у Бірабіджан у творчую камандзіроўку ад Саюза пісьменнікаў пісаць другую серыю «Шукальнікаў шчасця». Ён спадзяваўся на тое, што «эпідэмія» (так ён называў арышты) хутка скончыцца і тады ён вернецца ў Беларусь. Але 15 ліпеня 1938 года ён быў арыштаваны ў Бірабіджане пасля газетнай публікацыі «Политическое лицо писателя Кобеца», у якой пісалася пра тое, як ён, ідучы па вуліцы, павітаўся з ворагам народа за руку і нават гутарыў з ім. Гэтага было дастаткова для арышту. Яго абвінавацілі ў шпіянажы. Арыштавалі Рыгора Кобеца вечарам, калі ён вяртаўся дамоў. Ля дзвярэй пад’езда яго чакалі двое ў цывільным, гэта былі чэкісты. Зайшлі ў кватэру. Пакуль рабіліператрус, бацька паспеў напісаць развітальную запіску на адваротным баку свайго

фотаздымка: «Дети мои! Внуки мои! Не осуждайте! Не проклинайте! Дед Ваш и прадед провел бурную и очень опасную жизнь. Часто был под расстрелом, но никогда не изменил рабочему классу. Никогда не струсил в борьбе за рабочий класс! Вы будете большими людьми, это закон генетики. Вы должны быть умнее нас, талантливее нас, смелее нас. Иначе нам грош цена. Желаю и Вам, потомки, всего наилучшего. Желаю Вам ЛЕНИНСКОГО СЧАСТЬЯ. Прощайте! Будьте достойны Ленина. Г. Кобец».

Бацька думаў, што яго расстраляюць. Ён пісаў дрыготкай рукой, літары былі няроўныя, распаўзаліся. Калі яго вялі пад канвоем, мой брат Мікалай (у той час ён жыў разам з бацькам) бег за ім следам з клуначкам, каб ведаць, у якую турму яго вядуць, бо трэба ж насіць яму перадачы. Канваіры адганялі хлопчыка, але Міколка ад іх не адставаў. Бацьку вялі па бруку, а ён бег па тратуары. Пасадзілі Рыгора Якаўлевіча ў тую самую турму, якую ён прыгадваў у кінасцэнарыі «Шукальнікі шчасця». 9 месяцаў вялося следства з допытамі і пострахам.

У час следства перацерабілі ўсю яго біяграфію. За сувязь з анархістамі не судзілі, таму што ў 1922 годзе на Украіне была аб’яўлена амністыя ўсім, хто ваяваў супраць савецкай улады, акрамя Махно, Дзянікіна, Урангеля і іншых лідэраў контррэвалюцыі. Крыху пазней, у 1927, Прэзідыум ЦВК СССР таксама аб’явіў амністыю белагвардзейцам, махноўцам і іншым, хто не прызнаваў Саветаў. У 1939 годзе Р. Кобец быў апраўданы і вызвалены на судзе з-пад варты з-за недаказанасці віны.

Пасля вызвалення ён пераехаў у Хабараўск, працаваў загадчыкам кінастудыі дакументальных фільмаў, друкаваўся ў газетах, выдаваў кнігі ў выдавецтве «Дальгиз»: «Мигрень» (аднаактовая камедыя), «Героі Балтыкі» (кінааповесць), «Трофим Бутан»* (кінааповесць). У 1940 напісаў лібрэта музкамедыі «Шчаслівы бераг».

З пералічаных твораў самы значны — «Героі Балтыкі» (другая назва «Лядовы паход»). Кінатвор пра мужнасць балтыйскіх маракоў, якія вывелі ваенныя караблі з Фінляндыі ў Кранштат, не паддаўшыся на правакацыю тых, што намагаліся сарваць Брэсцкае пагадненне, каб уцягнуць у вайну савецкую Расію. Гэта гістарычная падзея вядома як знакаміты Лядовы паход.

Фільм па гэтым сцэнарыі не ставіўся.

Кінатвор «Героі Балтыкі» быў першым творам пра той подзвіг балтыйскіх маракоў. Кніга выйшла ў 1939 годзе невялікім тыражом. Пасля другога арышту Р. Кобеца (1941) яна была канфіскавана, як і ўсё, што напісаў Рыгор Якаўлевіч. Праз шмат гадоў, пасля рэабілітацыі пісьменніка, кнігу знайшоў яго старэйшы сын Мікалай у «спецхране» бібліятэкі імя Леніна ў Маскве.

---

* Пра разгром атамана Усурыйскага казацтва Калмыкова рабочымі і сялянамі ў барацьбе за савецкую ўладу на Далёкім Усходзе.

У час свайго пражывання ў Хабараўску да другога арышту мой бацька друкаваў у перыёдыцы фрагменты сцэнарыя да другой серыі «Шукальнікаў шчасця» (на жаль, гэтыя публікацыі пакуль што не выяўлены) і пісаў антываенныя плакатныя тэксты для «Окон РОСТА» разам з пісьменнікам Дзмітрыем Нагішкіным. У 1941, калі пачалася вайна, у час застолля, на якое быў запрошаны Рыгор Кобец, яго справакавалі на шчырыя размовы, і ён сёе-тое выдаў у адрас вусатага правадыра. Нагішкін са сваімі калегамі напісалі на Кобеца калектыўны данос у адпаведныя органы ўлады. 5 снежня 1941 года Кобец быў арыштаваны другі раз.

З абвінаваўчага заключэння УНКВД Хабараўскага краю: «В 1941 г. после начала войны, Кобец стал резко высказываться против мероприятий коммунистической партии и правительства СССР, проводимых в области внешней политики советского государства, при этом выражал пораженческие настроения и клеветал на вождя коммунистический партии… называл его изменником родины… при этом предсказывал неминуемую смену правительства СССР и приход к власти советского Де Голля».

З пратакола Асобай Нарады ад 4 лістапада 1942 года: «Постановили Кобеца Григория Яковлевича за антисоветскую агитацию заключить в исправительный трудовой лагерь сроком на десять лет, считая срок с 5-го декабря 1941 года».

Асобай Нарадай НКУС СССР без суда і следства саслалі яго ў Тайшэтлаг (адзін з самых страшных лагераў, дзе палітзэкаў трымалі разам з рэцыдывістамі).

З ліста Рыгора Якаўлевіча: «Будаваў чыгунку на Тайшэце, потым мяне перавялі ў Манголію (і там будаваў чыгунку), зноў у Сібір на раку Лену, затым этапавалі на бераг Ангары (у Забайкаллі), і тут я адбыў свой тэрмін. Ад званка да званка. Вызвалілі мяне ў г. Заярску і «прапанавалі» пажыццёвую ссылку ў кіргізскія стэпы без права пражывання ў сталіцах і абласных гарадах».

Пасляваенныя 40-я гады былі трывожныя, пачалася новая хваля рэпрэсій. Я вучылася ў школе і была ўпэўнена, што мой бацька загінуў на фронце (так казала маці). Аднойчы, нешта шукаючы ў пісьмовым стале, я напаролася на пачак лістоў без канвертаў, без адраса, з адарванымі куточкамі, дзе, пэўна, стаялі подпіс і дата. Але па зместу я здагадалася, што гэтыя лісты ад бацькі, іх прывозіў маёй маці старэйшы брат Мікалай, які пасля фронту вучыўся ў Маскве на юрыста.

Бацька ў асноўным працаваў на лесапавале. У снежні 1943 года, будучы ў Тайшэтлагу, ён напісаў вершаваны ліст Мікалаю і паслаў яго ў Хабараўск па месцы жыхарства. Ён не ведаў, што ў час бітвы на Курскай дузе мой брат быў цяжка паранены і знаходзіўся ў шпіталі. Ліст усё ж знайшоў свайго адрасата. У далейшым верш пад назвай «Сыну» даволі часта друкаваўся. Кобец скарыстаў яго ў аповесці «Ноеў каўчэг».

Верш заканчваўся такімі радкамі:

Синь в предутреннем воздухе,
ясном и чистом,
На далёкой заимке
поют петухи.
По тайге прохожу я
тропой декабристов,
Искупая вину
за чужие грехи.

Пасля адбыцця 10-гадовага тэрміну ў лагерах Р. Кобец 9 год жыў у Кіргізіі, куды яго саслалі пажыццёва. Дзякуючы Хрушчову Рыгор Якаўлевіч 19 лістапада 1960 года быў поўнасцю рэабілітаваны. Але толькі пасля трэцяга звароту ў адпаведныя органы. У рэабілітацыі яму адмаўлялі двойчы (нехта шкодзіў з Беларусі).

Перапісвацца з бацькам я пачала ў 1958 годзе, калі ён быў у ссылцы. («Письма из ссылки» ўпершыню надрукаваны ў часопісе «Нёман» у 1998 г. № 9.) Па сутнасці, наша перапіска была змаганнем за рэабілітацыю, якое доўжылася больш за два гады. Актыўны ўдзел у гэтым змаганні прымаў старшыня праўлення СПБ Пятрусь Броўка і ўвесь Саюз пісьменнікаў. Усяк было. Але рэабілітацыя Р. Кобеца адбылася.

У ссылцы кім толькі не працаваў мой бацька: грузчыкам, вартавым, памочнікам пчаляра, загадчыкам хаты-чытальні і інш. У саўгасе «Чалдавар» ён арганізаваў гурток мастацкай самадзейнасці, быў мастацкім кіраўніком на грамадскіх пачатках. Драматургія вабіла яго па-ранейшаму. Ён пісаў скетчы, вершы, п’есы, ставіў іх і сам выконваў ролі. Там жа паставіў сваю аднаактовую п’есу «Цяжкі выпадак» (перапрацаваная камедыя «Мігрэнь», напісаная яшчэ ў Хабараўску).

У маі 1960 года Рыгор Якаўлевіч вярнуўся ў Беларусь. У лістападзе таго ж года прыйшла доўгачаканая рэабілітацыя. З вялікімі цяжкасцямі прывыкаў ён да новага жыцця. У 1964 годзе Р. Кобец піша аповесць «Ноеў каўчэг» пра лагерныя пакуты. Смеласці яму надала аповесць Салжаніцына «Адзін дзень Івана Дзянісавіча». Але канчалася «хрушчоўская адліга», і ўспаміны былога палітзэка Рыгора Кобеца часопіс «Нёман», куды ён аднёс рукапіс, друкаваць пабаяўся. Толькі праз 25 гадоў, у 1989-м, аповесць «Ноеў каўчэг» пабачыла свет у тым жа часопісе. Гэта быў першы празаічны твор у Беларусі на тэму ГУЛАГа пасля кнігі «У кіпцюрох ГПУ» Ф. Аляхновіча, выдадзенай у 1937 годзе ў Вільні. «Ноеў каўчэг» — аўтабіяграфічны твор (хоць Кобец вядзе аповед не ад першай, а ад трэцяй асобы). У ім — роздум аўтара над пакутамі бязвінных людзей і ўласныя перажыванні.

У 1973 годзе ён апублікаваў сваю «Аўтабіяграфію». Яна чытаецца, як мастацкі твор, як шчырая споведзь чалавека, які спазнаў столькі ліха за ўсё сваё жыццё, што яго хапіла б на дзесяцярых. Барыс Бур’ян

пісаў: «…такая біяграфія магла б, як кажуць, скласці драматычны раман аб тым, як рэвалюцыя захапляла ў свой вір маладыя душы, якія не адразу выбіралі правільныя пазіцыі для ажыццяўлення сваіх ідэалаў, як праўда жыцця выводзіла чалавека з нізоў на светлую дарогу творчасці дзеля народа і для народа» («Полымя». 1983. № 7). Не ўсе зразумелі Кобеца. Шчырасць яму пашкодзіла: яе скарысталі нядобразычліўцы. У 1964-м яго пазбавілі персанальнай пенсіі рэспубліканскага значэння — за сувязь з украінскімі анархістамі. Беларускі ўрад яму гэтага не дараваў нягледзячы на поўную рэабілітацыю. Бацьку перасталі друкаваць, скасавалі ўмову на выданне Збору твораў. Даведзены да адчаю, Рыгор Якаўлевіч два разы рабіў спробу самагубства. Скончыліся яго пакуты інсультам, які зваліў яго з ног на 12 год. Так закончылася для яго «хрушчоўская адліга». З так званай «перабудовай» лепш не стала, замоўчванне ўзмацнілася, яго заслугі ў галіне тэатра і кіно прыпісаны іншым. Адным словам, выкраслілі з гісторыі беларускай культуры.

Зноў вернемся да В. Смаля. Даючы ацэнку кінасцэнарыям Кобеца, якія не выйшлі на экран, ён пісаў: «Гэта далёка не ўсё, што напісаў Р. Кобец… Хочацца спадзявацца, што кінематограф яшчэ звернецца да гэтых сцэнарыяў, якія маглі б стаць асновай для стварэння яркіх, своеасаблівых твораў…

Калі параўнаць тое, што напісана Кобецам у другі перыяд яго творчасці (кінасцэнарыі, п'есы малой формы, артыкулы і нарысы), то можна смела сказаць, што гэтыя творы ні ў якае параўнанне не ідуць з першым перыядам яго творчасці (маюцца на ўвазе 30-я гады). Апошнім яго творам не хапае таго размаху, энергіі, той нястрыманай творчай сілы, якія дапамагалі ствараць яркія творы. Даліся ў знакі цяжкі лёс, гады стомленасці…

І ўсё ж застаецца дзівіцца таму, што ў пажылым узросце Р. Кобец напісаў аповесць-эсэ «Ноеў каўчэг», у якім яго роздум аб жыцці, аб людзях, іх лёсе. Гэты твор можна аднесці да сапраўднай класічнай прозы, у ёй Р. Кобец выводзіць такія ж каларытныя характары, як і ў творах 1930-х гадоў. І гэта тлумачыцца тым, што яны не прыдуманыя, а выхаплены з жыцця — гэта вынік яго назіранняў, перажыванняў, майстэрства…

Творчасць віднейшага беларускага драматурга па-сапраўднаму яшчэ не даследавана. Асобныя раздзелы, у якіх разглядаюцца фільмы, створаныя па яго сцэнарыях, і п'еса «Гута», маюцца пакуль што толькі ў кнігах пра другіх дзеячаў літаратуры і мастацтва (хоць і зрабілі менш за яго). Гэты прабел неабходна запоўніць, сур'ёзна і глыбока заняцца даследаваннем творчасці Р. Кобеца, таму што заслугі яго вялікія. Фільмы «Двойчы народжаны» і «Шукальнікі шчасця», пастаўленыя па сцэнарыях Р. Кобеца, з'яўляюцца буйнейшымі творамі беларускай кінематаграфіі. Гэтыя работы высунулі Р. Кобеца ў лік вядучых кінадраматургаў рэспублікі, яны назаўсёды ўвайшлі ў гісторыю савец-

кай кінематаграфіі, таму што з’яўляюцца вялікім укладам у развіццё і росквіт нацыянальнай культуры.

«Двойчы народжаны» і «Шукальнікі шчасця», як і іншыя лепшыя фільмы беларускага кінематографа 1930-х гадоў, у значнай ступені вызначылі далейшы шлях развіцця беларускага кінамастацтва.

Героі і персанажы лепшых сцэнарыяў Рыгора Кобеца ўжо знайшлі ў 1930-я гады шмат мільёнаў сяброў сярод кінагледачоў краіны. Няма сумнення ў тым, што сустрэча з імі ў гэтым зборніку будзе радасцю для людзей старэйшага пакалення, якія бачылі пастаўленыя па ім фільмы, і прыемным сюрпрызам для сучаснага пакалення чытачоў, якія азнаёмяцца з імі ўпершыню.

Заўсёды, прыгадваючы час станаўлення нашага нацыянальнага кінамастацтва, мы з павагай і ўдзячнасцю будзем прыгадваць людзей, якія стаялі ля вытокаў беларускага кіно і тэатра. І сярод іх — Рыгора Якаўлевіча Кобеца».

Нагадаю, што артыкул В. Смаля «Ля вытокаў» да кнігі твораў Рыгора Кобеца, што планавалася ў выдавецтве «Мастацкая літаратура», быў напісаны ў 1984 годзе. Але мой бацька не дачакаўся выхаду сваёй выніковай кнігі, у якой былі сабраны яго п’есы, сцэнарыі славутых кінафільмаў і іншыя творы. Кніга не ўбачыла свет.

Чалавек пражыў жыццё, доўгае жыццё. Цяжкае маленства. Трывожнае юнацтва. Першая сусветная вайна, Грамадзянская вайна, дзве рэвалюцыі, удзел у контррэвалюцыйнай змове, уцёкі ад чэкістаў, якія арыштавалі змоўшчыкаў, каб падавіць мяцеж, няўдалая спроба перайсці за кардон. Застаўся ён у Беларусі, якая стала яго другой радзімай. Такіх, як ён, была процьма ў Грамадзянскую. З 1929 па 1936 — восем гадоў яркай творчасці. З 1938 — турмы (Бірабіджан, Хабараўск), затым 10 год лагераў, 9 год ссылкі. Паўтара года спакойнага жыцця пасля рэабілітацыі. А потым… 30 год траўлі (22 з іх з незаконным пазбаўленнем персанальнай пенсіі рэспубліканскага значэння, якую ён атрымаў як заслужаны дзеяч мастацтваў з 1935 года, з двума спробамі самагубства, з інсультам у «матрацнай магіле», з 10 гадамі дарэмнай барацьбы за выданне Збору твораў, за чалавечую годнасць).

Аглядваючы ў думках усю жыццёвую дарогу Рыгора Кобеца, я задаю сабе пытанне: ці знайшоў мой бацька шчасце? На гэтае пытанне адказаў ён сам у ненадрукаванай паэме:

Без оглядки в бурю и ненастье
Шёл по жизни, не жалея сил,
Людям отдал всё искатель счастья,
Лишь себя он счастьем обделил.

Ён называў сябе Аваднём. Яго называлі беларускім Мартынам Ідэнам. Ён нарадзіўся ў 1900-м, памёр у 1990-м, 9-га дня, 9-га месяца ў 90-гадовым узросце. Калі верыць філосафам, такія лічбы

(дзявяткі) — прыкмета незвычайнай сілы і мужнасці. Сапраўды трэба быць атлантам, каб такое вытрымаць. Усё яго жыццё, ад нараджэння да апошняга дня — гэта «блуканне па пакутах». Памёр мой бацька ад паўторнага інсульту.

25 ліпеня 1998 года споўнілася 100 год з дня яго нараджэння (па пашпарту). Да гэтай даты не выдадзена аніводнай кнігі, не апублікаваны ні адзін сцэнарый, не напісана ні аднаго сур'ёзнага артыкула пра яго творчасць, не дэманструюцца фільмы, знятыя па яго сцэнарыях, не ставяцца яго п'есы, не адкрыты ні адзін фонд ні ў адным музеі, ні ў адным архіве. Чалавек, які стаяў ля вытокаў беларускай культуры і так многа зрабіў для Беларусі, усімі забыты і нікому не патрэбны. Яго не расстралялі, але пакаралі забыццём.

У 2006 годзе ўбачыла свет мая кніга «Калі ўцякала сонца», прысвечаная памяці майго бацькі, беларускага Мартына Ідэна. Гэта кніга пра яго лёс і творчасць, выдадзеная за грошы Дзмітрыя Філімонава, унука Рыгора Кобеца. Кнігу я закончыла малітвай, складзенай мной у 1970 годзе, да якой прывёў мяне цярністы шлях:

Госпадзі! Дай мне Душэўны Спакой,
Каб прыняць тое, што я не магу змяніць,
Мужнасць — змяніць тое, што магу,
І Мудрасць — заўсёды адрозніваць адно ад другога.

У заключэнне прыгадаю закон фальсіфікацыі з грэцкай міфалогіі. Кронас, сын Бога Урана (Неба), скінуў і скалечыў свайго бацьку, каб самому сесці на яго трон. Затым і Кронас таксама быў скінуты ўласным сынам Зеўсам. Рускі філосаф У. Салаўёў назваў падобнае злачынства бацьказабойствам. Ён піша: «…новое поколение достигает пользования действительностью, лишь неблагородно вытесняя своих предков, но потому-то это преступное существование и длится одно мгновенье; и если Кронас, искалечив и вытеснив старого Ураноса, сам был в свою очередь устранен Зевсом… то и этот новый Бог вступил на оскверненный престол лишь для того, чтобы со временем потерпеть подобную же участь. Таков закон фальсифицированной и извращенной жизни, которой не надлежало бы быть, ибо она скорее смерть, чем жизнь…».

Тое ж самае адбылося і ў беларускім нацыянальным кінематографе, патрыярхам якога быў Рыгор Кобец.

…А можа, маю малітву пачуюць грэшнікі і вернуць заслугі майго бацькі, каб пазбегнуць кары Гасподняй?..

*Алена Кобец-Філімонава*



# ГУТА

*П’еса ў трох дзеях*

ДЗЕЙНЫЯ АСОБЫ:

А н д р э е ў — дырэктар завода.
К у р л е н я — старшыня заўкама.
Ш а т а л а ў — сакратар партыйнай ячэйкі.
Г в а з д з ё ў, Ш у н е й к а — фарсуншчыкі.
Г а й д у к е в і ч — тэхнік.
М а р о з — каваль.
Я г о р а ў н а — жонка Мароза.
Ц ы г а н о к — слесар, камсамолец.
С у с е д к а  М а р о з а.
В а р а к с а — дзесятнік на заводзе.
П а р а с к а — адбівальшчыца.
Ш а б у н я — мукаўшчыца.
П я ц ю н ь к а — мукаўшчык.
Д з я д з ю л я — вартаўнік.
Н а д з я, М а р ы с ь к а — адбівальшчыцы.
С к р ы л ё ў — майстар.
С ц е п а н і д а — жонка Скрылёва.
Я з э п — брат Скрылёва.
Л ю б а — дачка Скрылёва.
Л і з а — яе сяброўка.
З о с ь к а — дамашняя работніца Скрылёва.
Х а д ы к а — майстар.
С т а н і с л а в а — жонка Хадыкі.
К р у г л я ш — майстар.
Д ы м а ў — прадстаўнік завода «Чырвоны металіст».
К р э й ц б е р г — інжынер завода «Чырвоны металіст».
П е р ш ы  б р а к о ў ш ч ы к.
Д р у г і  б р а к о ў ш ч ы к.
К а с і р  з а в о д а.
П е р ш ы  б а н а ч н і к.

Другі баначнік.
Першы катальшчык.
Другі катальшчык.
Матэр'яльшчык.
Першая дзяўчына.
Другая дзяўчына.

## ДЗЕЯ ПЕРШАЯ

### КАРЦІНА ПЕРШАЯ

Падзеі, якія адлюстраваны ў п'есе, разгортваюцца ў 1928 годзе. У гэты час наша краіна перажывае эканамічныя цяжкасці. Індустрыялізацыя робіць першыя крокі і яшчэ не даходзіць да правінцыяльнай гуты, дзе ўся праца вядзецца саматужным спосабам.

Хмурны летні дзень. Куток двара гуты. Стаіць адзінокае, з сухой вяршалінай дрэва. Побач раскіданы пустыя скрынкі. Крыху далей ад дрэва відзён вугал будынка. Уздоўж сцяны стаяць скрынкі з бутэлькамі. Ля іх — майстры Кругляш і Скрылёў. З-за вугла будынка выходзіць касір завода і шпарка крочыць да ўвахода ў гуту. Скрылёў па-змоўніцку падміргвае Кругляшу. Той становіцца касіру на дарозе.

Кругляш. Куды ўцякаеш? Ты што ж гэта зноў мне недалічыў?

Скрылёў. Хіба толькі табе аднаму? Ён і мяне не забыў. (*Да касіра.*) Ты стаў як той сабака: на сваім ляжыш, а хвост на чужое перакінуў.

Касір. Дзіўныя вы людзі. Нібы гэта ад мяне залежыць. Мне даюць дзесятнікі вашу вырабатку, я і стаўлю ў ведамасць.

Скрылёў. У мяне вунь выраблена на шэсцьдзесят цалковых, а атрымаў толькі сорак. Вось табе і вырабатка!

Касір. Ну, ведаеце, калі брак залічваць, дык і кругленькая сотня ў палучку выйдзе.

Кругляш. А табе шкада? Са сваёй кішэні даеш?

Скрылёў. Брак… А хто вінен у браку тваім?

Касір. Вядома хто. (*Імкнецца ісці.*)

Кругляш. Не, ты скажы хто?

Скрылёў. Хто, мы цябе пытаем?

Кругляш. Мы?

К а с і р. Цішэй, цішэй. А то ўсхадзіліся, як жарабцы на аркане. Каму-каму, а вам, майстрам, грэх крыўдаваць. Добра-дрэнна, а рублікаў на сто трыццаць, калі не больш, набягае.

С к р ы л ё ў. Каб табе так век набягала! Хай бы ты сам паспытаў, душа твая капеечная, нашай работы! (*Бярэ бутэльку са скрынкі.*) Вось яна, пляшачка… Глупства… Цацачка… А спрабуй выдуй яе!.. Каб цябе ўсё жыццё дула! (*Перадражнівае.*) Сто трыццаць набягае… Набягайла знайшоўся. Ты ў чужой кішэні не лічы.

К а с і р. Не вам гаварыць. Падсобнікам куды болей дастаецца, а атрымліваюць яны ў тры разы менш і не дзяруць горла, як вы.

К р у г л я ш. Вось дык сказануў!

С к р ы л ёў. Зірніце на яго!

К р у г л я ш (*зняважліва глядзіць на касіра*). Падсобнікі! Чым чорт не жартуе, калі Бог спіць!

С к р ы л ё ў. Хі-га… работнічкаў знайшоў! Ды калі падсобнік твой патрубіць, як я…

К а с і р. Ну дык і што?

С к р ы л ё ў. Душа з яго выскачыць, от што!

К р у г л я ш (*іранічна ўсміхаючыся, ківае галавой*). Ён табе напрацуе…

С к р ы л ё ў. Ты дуеш, а падсобнік услед псуе. Спрабуй яму па мордзе за гэта бэцнуць, як нам калісь, — у заўкам пацягнуць… «Не смей личность» чапаць. (*Касір наважваецца ісці. Скрылёў хапае яго за рукаў.*) Куды ты? Пастой.

К а с і р (*вырывае руку*). Лягчэй, лягчэй, таварыш Скрылёў!

С к р ы л ё ў. А ты не капыль губы, а адкажы!

К а с і р (*ідзе прэч, сярдзіта папраўляе на хаду гальштук*). Звярніцеся са сваімі патрабаваннямі да дырэктара.

С к р ы л ё ў. Ідзі пад маць малако баўтаць! (*Хоча кінуць касіру ўслед бутэльку, Кругляш яго супыняе.*) Ах ты, клоп канторскі!

К р у г л я ш. Кінь! Пайшлі на працу.

С к р ы л ё ў. Не пайду! Я, Кругляш, з іх душу выцягну! (*Садзіцца на скрыню.*) Сядай, браток. І памятай: хто стане авечкай, таго воўк з’есць.

К р у г л я ш. А што выседзіш? Разлік за прагул?..

С к р ы л ё ў. Баюся я іх, як заяц кабылы! Пляваць на іх хачу! Не мы імі жывём, а яны намі. Бач, на бесперапынку хочуць перайсці. Спрабуй перайдзі без нас, спатыкнешся.

Хапатліва азіраючыся па баках, уваходзіць дзесятнік В а р а к с а. Убачыўшы Скрылёва і Кругляша, ён здзіўлена спыняецца.

В а р а к с а (*дакорліва*). Ай-я-яй! Ай-я-яй! Таварышы, змена ж заступіла! Падсобнікам рабіць няма чаго, дый баначнікі без работы стаяць.

С к р ы л ёў. Няхай адпачнуць. Ха-ха-ха!

В а р а к с а. Ай-я-яй! Ай-я-яй! Ізноў? Я, ведаеце…

С к р ы л ё ў. Ды што ты ведаеш, ноччу нарадзіўшыся?

В а р а к с а. Ай-я-яй! Ай-я-яй!

З-за скрынак з бутэелькамі з заклапочаным выглядам выходзяць А н д р э е ў і Ш а т а л а ў. Услед за імі цяжка тупае каваль М а р о з. Каля яго мітусіцца Ц ы г а н о к. Андрэеў і Шаталаў спыняюцца побач з Кругляшом і Скрылёвым.

К р у г л я ш (*заўважае начальства і спалохана падхопліваецца*). Цс-с! Дырэктар! Пойдзем, братка, адсюль.

С к р ы л ё ў. Сядзі. (*Закладвае нагу за нагу.*) Чаго нам баяцца?

А н д р э е ў (*працягваючы размову*). Таварыш Шаталаў, мы ўжо не раз засядалі, гаварылі. Гута павінна працаваць кругласутачна. Наша шкло вельмі патрэбна краіне. Ты гэта можаш зразумець?

Ш а т а л а ў (*паціскае плячамі*). Глядзі, правалімся. Не падрыхтаваныя мы да такога.

А н д р э е ў. Падрыхтуемся, падмацуемся…

Ш а т а л а ў (*красамоўна разводзіць рукамі*). І лопнем!

М а р о з (*неадабральна глядзіць на Шаталава*). Калі з галавой ды з толкам — не лопнем. Галоўнае — захацець трэба, а пасля яшчэ… механіка. Яна — першая справа… Я ж кажу, калі з галавой, дык і не горш як у іншых будзе…

Ц ы г а н о к. Во!

М а р о з. Калі чалавек сваімі лёгкімі ўвесь час будзе дзьмуць, сапраўды можа лопнуць… А калі, гэта самае…

Ш а т а л а ў. Што?

Ц ы г а н о к. Хай механіка дзьме…

М а р о з (*махае рукой*). Хадзем, Сцёпа.

Ш а т а л а ў. Індустрыялізацыя?

Ц ы г а н о к. Іменна!..

М а р о з (*сярдзіта*). Хадзем, кажу!

М а р о з цягне за сабой Ц ы г а н к а. Абодва знікаюць. Амаль подбегам з'яўляецца Г а й д у к е в і ч.

Г а й д у к е в іч (*таропка, з трывогаю*). Таварыш Андрэеў, паташу ў нас недахватка… Маса не тая атрымліваецца. Празрыстасці ў шкла няма.

А н д р э е ў (*уздыхае*). Ведаю.

Г а й д у к е в і ч разгублена глядзіць на яго. Потым таропка выходзіць.

Ш а т а л а ў (*насмешліва пазірае на Андрэева*). Ха!.. А ты на кругласутачную хочаш. Дзе нам, беднякам, думаць аб сваце.

А н д р э е ў. Нішто. І свята дачакаемся. А вохкаць ды нічога не рабіць — таксама не падыходзіць.

Уваходзяць п е р ш ы і д р у г і б а н а ч н і к і.
Абодва вельмі раззлаваныя.

П е р ш ы б а н а ч н і к. Скрылёў, ліха тваёй матары, работа стаіць!

С к р ы л ё ў (*абыякава*). Стаіць? Тады адпачывай.

Д р у г і б а н а ч н і к. Сам набіў сабе машну, а мы? (*Падыходзіць да Скрылёва ўшчыльную*.) Тарбахват! Ды я ж тваю душу распетушу!

П е р ш ы б а н а ч н і к (*адцягвае сябра*). Не чапайся ты з гэтым гандляром. Ён жа малачком гандлюе. Хадзем.

Б а н а ч н і к і выходзяць.

А н д р э е ў. Скрылёў, Кругляш, — чаму не ў гуце?

С к р ы л ё ў. Нагуціліся! Што задарма працаваць? Няма дурных!

А н д р э е ў. Што значыць — задарма?

С к р ы л ё ў. А тое!

А н д р э е ў. Значыць, ізноў брак?

К р у г л я ш. Зразумела. Толькі мы тут пры чым?

А н д р э е ў. Старая песня.

С к р ы л ё ў. Вядома, старая. У той раз не дадалі і ў гэты сорак цалковых запісана. На каго працавалі?

А н д р э е ў. На сябе. Як працуецца, так і плаціцца. За брак плаціць не будзем. І не думайце.

К р у г л я ш. Во! Поп людзей карае, а сам ліха робіць. У вас формы ні к чорту, а мы адказвай.

А н д р э е ў. У каго гэта «ў вас»? Хто гэта «вы» і «мы»? Чаму ў другіх няма браку?

С к р ы л ё ў. Што нам да другіх. Мы ў чужыя справы не ўмешваемся. Працавалі — гані грошы!

А н д р э е ў. І не падумаю! Па такой працы — нядоўга ўвесь завод у трубу пусціць…

К р у г л я ш. У трубу?..

А н д р э е ў. Так, у трубу. Калі мы не зменшым брак, дык хутка без штаноў застанёмся.

С к р ы л ё ў. Бач ты, як за штаны спалохаўся!.. У трубу пусцім… Мудра нешта. Аднаму не дадасі, другому не даплаціш, глядзіш, і барыш у кішэні…

А н д р э е ў. Ну, ну, далей.

С к р ы л ё ў. Ды што далей!.. Астатнія — не выплаціш? Не?

А н д р э е ў. Не! (*Ідзе. Скрылёў і Кругляш — за ім.*)

С к р ы л ё ў. Не? Ладна! Будзем ведаць!.. Прыпомнім!

К р у г л я ш (*цягне за рукаў Скрылёва*). Пойдзем, што з ім слівядзіць.

С к р ы л ё ў. Цяпер мы будзем ведаць, дырэктар! Якая плата, такая і праца.

А н д р э е ў. Правільна! Якая праца, такая і плата.

Выходзіць. Скрылёў дэманстратыўна садзіцца на скрынку.
Ля яго топчацца Кругляш.

Шклацэх. Амаль увесь займае круглая печ. Рознакаляровыя агні мігцяць з дзірак — у печы шкламаса. Яна разаграваецца фарсункамі, якія стаяць на правым баку печы. Ля іх горбяцца фарсуншчыкі. Ля дзірак у печы стаяць шкловыдзімальшчыкі. У руках кожнага — трубкі, на канцах якіх вісяць шары шкла. Правей ад печы завіхаюцца ля станкоў адбівальшчыцы, мукаўшчыцы і баначнікі.

С к р ы л ё ў (*крычыць*). Газу мала!

К р у г л я ш. Гэй! Наддай газу!

П е р ш ы   б а н а ч н і к. Чаго зяпу раскрыў? Хочаш, каб ашпарыла?

С к р ы л ё ў. Хай шпарыць.

Ш а б у н я. Ты, Скрылёў, не выхваляйся!

П я ц ю н ь к а. Што, ужо заліў вочы гарэліцай?

К р у г л я ш. Ты яго паіў, га?

С к р ы л ё ў. Ах ты, галайстра ты падсобная!.. Мукаліст ты няшчасны!.. (*Кідаецца да яго.*) Я табе зараз памукую форму.

Г в а з д з ё ў. Цішэй, цішэй, Скрыль! (*Адштурхоўвае яго.*) Ану, ідзі працуй!

С к р ы л ё ў (*махае кулаком, але ўжо значна ціішэй*). Мы — здзельшчына. Што выпрацуем — нікому справы няма.

П е р ш ы   б а н а ч н і к. Выходзіць, мы жыць павінны з твайго рубля?..

С к р ы л ё ў. А як сабе хочаце! (*Садзіцца на станок, выцягвае пачак папярос.*) Закурвай, майстры!..

Шкловыдзімальшчыкі падыходзяць да яго, садзяцца. Скрылёў частуе іх папяросамі.

М а р ы с ь к а (*пляскае ў далоні*). Або! Зноў селі?

С к р ы л ё ў (*суне ёй пад нос сваю трубку*). А ты што хацела? На, дзьмі, дзьмі за мяне!.. Можа, што і выдзьмеш… Ха-ха-ха!..

Г в а з д з ё ў. Гэй, майстры, не дурэйце!

П е р ш ы б а н а ч н і к. Калі хочаце працаваць — працуйце, а не, дык вымятайцеся!

П а р а с к а. Як міленькія вылеціце. Вароты ў нас шырокія — не ўшчэміцеся!

Ш у н е й к а (*дагодліва*). Глядзі, не надта вымятай. Майстар не грыб — у лесе не знойдзеш.

С к р ы л ё ў (*ляпае фарсуншчыка па плячы*). Гэта ты, Вася, як у сук уляпіў!

П е р ш ы б а н а ч н і к (*з усмешкаю*). А ты, Шунейка, не падлізвайся. Усё роўна ён дачку сваю з табой у лазню не пусціць.

Г в а з д з ё ў. Гей, хеўра! Вы будзеце сёння працаваць? Не? Дык каціцеся адсюль кілбасой!

С к р ы л ё ў (*задзірліва*). А ты што — гаспадар?

Г в а з д з ё ў. Так, гаспадар!

С к р ы л ё ў (*пагрозліва падымаецца*). А калі я гэтаму гаспадару ды ў хліпаўку рэзну?!

Імкліва ўваходзіць д ы р э к т а р завода. За ім — д з е с я т н і к.

А н д р э е ў. Скрылёў, зноў ты бушуеш? Давай бярыся за работу! Дзесятнік дзе?

П я ц ю н ь к а. Збег.

В а р а к с а. І нічога не збег! (*Пачынае мітусліва махаць рукамі.*) Таварышы, таварышы! Ціха! Працуйце, працуйце! Ай-я-яй! Ай-я-яй!

А н д р э е ў. Таварыш Варакса, як у вас сёння з выпрацоўкай?

В а р а к с а. Яно таго… Наогул, значыцца, не зусім…

Чуецца пранізлівы крык адбівальшчыцы Парaскі.

А н д р э е ў (*устрывожана*). Што такое?

Г а л а с ы. Вады! Вады!

П а р а с к а. Вой, родненькія! Вой, міленькія! Вой-я-ёй!

М а р ы с ь к а. Параску апалілі!

П я ц ю н ь к а. Гэта яе Кругляш апёк шклом. Наўмысна апёк, гад!

Ш а б у н я. Перавязку! Хутчэй перавязку!

Г в а з д з ё ў. Аптэчку сюды!

П я ц ю н ь к а кідаецца па аптэчку. За ім — Н а д з я.

А н д р э е ў. Цішэй, таварышы, без панікі!

П а р а с к а. Вой-я-ёй!

А н д р э е ў. Дзе Кругляш?

П е р ш ы б а н а ч н і к. Уцёк, сабака! Апаліў і даў драла!

Цяжка дыхаючы, убягае Н а д з я. У руках яе сумка з аптэчкай. Яна рассоўвае рукамі прысутных, схіляецца над Параскай.

Н а д з я. Каб яму так нутро апаліла!

Г в а з д з ё ў. Надзя, перавязку. Хутчэй. Бінт разматвай.

Н а д з я (*дрыготкім голасам*). Самлела, бедная…

А н д р э е ў. Нясіце яе на двор.

Г в а з д з ё ў і п е р ш ы б а н а ч н і к выносяць П а р а с к у. Паварот. Куток двара. Скрыні з бутэлькамі. Вугал будыніны. За Гваздзёвым і першым баначнікам выходзяць рабочыя. Параску кладуць на парожнія скрыні. Гоман. Некаторыя ўзбуджана махаюць рукамі. Андрэеў спрабуе супакоіць рабочых. Гоман паступова слабее. Надзя спрытна забінтоўвае Парасцы нагу.

П а р а с к а. Вой, вой, родненькія! Як агнём паліць! Вой-я-ёй!

Ш а б у н я. Ты, Парасачка, зубы сцісні, тады не так баліць…

Параска стогне.

А н д р э е ў. Як гэта здарылася?

Г в а з д з ё ў. Не ведаеш? Першы раз, ці што, у нас гэтыя тарбахваты такое вырабляюць. А Кругляш даўно на Параску ўз'еўся. Вылучыў момант і адпомсціў.

Н а д з я. Каб яго зямля не насіла! (*Да дырэктара.*) Яны, таварыш Андрэеў, што хочуць, тое і вырабляюць у гуце.

М а р ы с ь к а. І калі гэта на іх управа знойдзецца?!

С к р ы л ё ў. Чаго ты раскаркалася, варона? Што ён, сумысле, ці што?

Н а д з я. А то, скажаш, не?! (*Да Андрэева.*) Бач ты, матары яго чорт! Майстар за майстра цягне!

Ш у н е й к а. Чаго ты ўсхадзілася, дурніца? Ніхто ні за каго не цягне. А калі ў гэтай цеснаце працаваць — з кожным можа здарыцца.

З'яўляецца д з е с я т н і к. Бездапаможна азіраецца па баках, кідаецца да дырэктара.

В а р а к с а. Таварыш Андрэеў, непарадак! Ай-я-яй! У гуце нікога няма… работа стаіць… Ай-я-яй! Ай-я-яй!

А н д р э е ў. Таварышы, ідзіце на работу.

В а р а к с а. Таварышы, таварышы! Ай-я-яй!..

Н а д з я (*перадражнівае*). Ай-я-яй.

Р а б о ч ы я неахвотна ідуць у гуту. Іх ззаду падштурхоўвае В а р а к с а.

М а р ы с ь к а. Няўжо Кругляшу з рук такое сыдзе?

Н а д з я (*падкуслівa*). Яму што, як з гуся вада… Ён жа — высокакваліфікаваны спецыяліст. Нераўня нам.

А н д р э е ў. Мы гэта так не пакінем. Разбярэмся.

М а р ы с ь к а. Пабачым, як вы разберацеся. (*Выходзіць.*)

Ш а б у н я (*схіляецца над Параскай, хустачкай выцірае ёй лоб*). Ты, Парасачка, не апушчай нагу. Кроў не натужвай. Ну, мацуйся! Пабягу я. (*Выходзіць.*)

Ц ы г а н о к. Во што значыць без механікі! Загібелька без яе — і ўсё тут!

Ц ы г а н о к выходзіць. Уваходзіць К у р л е н я. Здзіўлена глядзіць на Параску.

К у р л е н я. Што здарылася?

А н д р э е ў. Кругляш апаліў Параску.

К у р л е н я. Наўмысна?

А н д р э е ў. Не думаю. Хутчэй за ўсё выпадкова. (*Паварочвае галаву на стогн Параскі.*) Трэба яе хутчэй у бальніцу везці.

Г в а з д з ё ў (*з сумненнем круціць галавой*). Дваццаць вёрст да мястэчка. Пратрасе з хворай нагой. Дадому трэба.

А н д р э е ў. Няможна. Апал сур'ёзны… (*Крычыць у глыбіню двара.*) Дзядзюля, запрагай каня! Павязеш у бальніцу. (*Паварочваецца да Гваздзёва.*) Сымон, памажы ёй.

Г в а з д з ё ў. Гэта можна… (*Падыходзіць да Параскі, дапамагае ёй падняцца.*) Ну, Парасанька, трымайся за шыю. Мацней, мацней!.. Во, гэта я разумею!.. Сама б нябось і не здагадалася б. А цяпер — хочаш не хочаш — абдымай. Ну, давай пашкандыбаем паціху…

Г в а з д з ё ў  і  П а р а с к а  выходзяць. Андрэеў глядзіць ім услед.

А н д р э е ў. Ндэ-э… Слаўныя справы! Хоць куды! Што загадаеце рабіць, таварыш старшыня заўкама?

К у р л е н я. Я даўно табе гаварыў… Тут, разумееш…

Чуваць голас Вараксы: «Ай-я-яй». Ён хутка праходзіць з паперамі.

Таварыш Варакса, што ў вас такое робіцца, я не разумею. На змене п'янства, апалы.

Варакса замірае на месцы.

А н д р э е ў (*сярдзіта*). Загады чытаеце?

В а р а к с а (*дагодліва*). Як жа, як жа! Нават у кніжачку запісваем. (*Лезе ў кішэню, выцягвае запісную кніжку.*) Во, у мяне тут усё занатавана…

А н д р э е ў. Не запісваць трэба, а выконваць!.. У дадатак да ўсяго п'янства разводзіце…

В а р а к с а. Таварыш дырэктар, якое п'янства? Ніхто на змене не піў. Праўда, прыйшло некалькі чалавек пад чаркай… Злёгку так узяўшы… Але яны працаваць маглі…

А н д р э е ў. Чаму вы не знялі іх з працы?

В а р а к с а. А хто ж працаваць будзе? Куды я падсобнікаў дзену без майстроў? (*Пакрыўджана.*) А апрача таго, вы з мяне выкананне нормы патрабуеце. Воля ваша, загадаеце зняць — зніму… Толькі нормы пасля не пытайце.

А н д р э е ў. Вось што, Варакса. Прышліце ўсіх майстроў у кантору. Пагаворым. Далей так нельга. Чортведама што творыцца. Ідзіце.

Дзесятнік выйшаў.

К у р л е н я. Мне здаецца, паважаны дырэктар, што на размовах далёка не выедзеш.

А н д р э е ў. Чорту таксама здаецца, мой даражэнькі. (*Спадылба глядзіць на Курленю.*) А што ж, па-твойму, мне рабіць? Ты маеш што параіць? Не? Дык і не лезь у душу! (*Усхвалявана расшпільвае гузікі на каўняры кашулі.*) Сам ведаю, што тут трэба майстроў за каршэнь браць. А як возьмеш? Прагнаць з завода? Кім жа іх заменіш? Сам ведаеш, змена не падаспела яшчэ. Каб яшчэ наша гута не ў лесе, не ў гэткай глухамані стаяла, дык з кадрамі не было б ніякай праблемы. А так кожны майстар — на вагу золата. І яны трымаюць сябе як прывілеяваная каста. Вуньдзека Скрылёву дык з колам у горла не ўлезеш.

Уваходзіць Ц ы г а н о к. Спыняецца побач з Андрэевым і Курленем, слухае.

К у р л е н я (*у роздуме*). Значыць…

А н д р э е ў. Трэба абавязкова нешта прыдумаць. Знайсці выйсце.

К у р л е н я. А выйсця гэтага, здаецца, і няма…

Ц ы г а н о к. Ёсць, Іван Пятровіч! Далібог ёсць! І думаць няма чаго тут!..

К у р л е н я. Цікава. Ану, выкладвай, што маеш сказаць.

Ц ы г а н о к. На бесперапынку пераходзіць трэба? Трэба! А сіл чалавечых няма? Няма! А пяцігодка прыспешвае? Факт! А майстры артачацца? Яшчэ і як артачацца. Што ж рабіць?

У гэты час з-за вугла будынка выходзяць С к р ы л ё ў і Ш у н е й к а. Не заўважаныя нікім, яны з цікавасцю прыслухоўваюцца да размовы.

А н д р э е ў. Што рабіць? Вось ты, Цыганок, і скажы!

Ц ы г а н о к. Я ж вось і кажу… На бесперапынку пераходзіць трэба? Трэба!

К у р л е н я (*махае рукой, моршчыцца*). Зноў з пачатку завёў!

Ц ы г а н о к. Без пачатку канца не бывае. А што Змітрок Іванавіч «Навуку і тэхніку» выпісвае спраста? Не спраста. А што я ў тэхніка цыркуль спёр, спраста? Не спраста!

К у р л е н я. Ды ну цябе! Багата гаворыш, а няма што слухаць. Ты давай бліжэй да справы.

Ц ы г а н о к. Я ж і кажу! На бесперапынку пераходзіць трэба? Трэба!

Праходзіць М а р о з з інструментам.

М а р о з. Сцёпка! Чаго валаводы валаводзіш? Табе што, нямашака чаго рабіць! Вунь вентылі трэба ў баку паставіць. Давай каб умомант мне! (*Выходзіць*.)

Ц ы г а н о к. Зараз іду. (*Паказвае ўслед Марозу*.) Во! У ім усё выйсце! У Змітраку Іванавічу! Зразумелі?

А н д р э е ў. Нічагусенькі не зразумеў!

Ц ы г а н о к. Прыходзьце сёння а 8-й гадзіне ўвечары да яго… Туды на гару. У нашу майстэрню. От тады і зразумееце!

Г о л а с М а р о з а. Сцёпка-а!

Ц ы г а н о к. Іду!

К у р л е н я (*наўздагон Цыганку*). Стой, Сцяпан! Ты не мудрагельнічай, а ясней кажы!

Ц ы г а н о к (*спыняецца, прыкладае палец да губ*). Цс-с! Індустрыялізацыя!

Ц ы г а н о к выбягае. Услед за ім рушылі А н д р э е ў і К у р л е н я. Да скрынак з бутэлькамі падыходзяць Скрылёў і Шунейка.

С к р ы л ё ў. Чуў, Шунейка, што малоў тут Цыганок? Усё зразумеў? Дазнайся пра гэта.

## КАРЦІНА ДРУГАЯ

Кватэра Мароза. Унізе пакой. З пакоя вядзе лесвіца на гару. Люк у столі. На гары невялікае памяшканне, абсталяванае пад майстэрню. Лесвіца ўніз, у сенцы. М а р о з на гары працуе над мадэллю. Каля мадэлі стаіць адкідны столік, на ім — чарцяжы. Мароз паварочвае мадэль і ўважліва, праз акуляры, аглядае яе. Бярэ чарцяжы. Нешта правярае. Твар яго напружаны. Зноў разглядае мадэль. Твар паступова яснее, на ім квітнее ўсмешка. Стук у сцяну ніжняга пакоя. Мароз прыслухоўваецца. Стук паўтараецца. Гаспадар падыходзіць да люка.

М а р о з. Хто там? Што трэба?

Г о л а с с у с е д к і. Суседка, Ягораўна!

М а р о з (*схіліўся ў люк*). Яе няма!

С у с е д к а. Га? Што кажаце?

М а р о з. Няма яе, кажу.

С у с е д к а. Не чую!

М а р оз. Хвіліначку, я зараз! (*Лезе па лесвіцы ўніз.*) І папрацаваць спакойна не дадуць… (*Падышоў да сцяны.*) Жонкі няма дома! Што вы хацелі?

С у с е д к а. У кіпераціве павідлу выдаюць і селядцоў па кіло.

М а р о з (*незадаволена*). Дзякую!.. Як прыйдзе, скажу!.. (*Буркліва, сам сабе.*) Як яны аб жываце клапоцяцца, толькі дзіву даешся!.. Падумаеш, справа, а чалавека непакояць. (*Падыходзіць да паліцы з кнігамі. Яны не ў парадку.*) Ну вось, зноў гармідар. А было ж воку люба глянуць. Эх, старая, старая! У сябе гаршкі ў парадку трымае, а тут ніякай павагі да кніжак. (*Складае часопісы, кнігі.*) Усе нумары пераблытала.

Праз сені ўваходзіць с у с е д к а.

С у с е д к а. Не прыходзіла яшчэ ваша кабета? Ну, без яе пабягу. Спознішся, дык усё расхватаюць. А павідла, кажуць, яблычнае.

Выходзіць у сенцы, на парозе сутыкаецца з Ц ы г а н к о м.

Ц ы г а н о к (*з сур’ёзным выглядам*). А вы, цётачка, яшчэ пасудзінку захапіце. Кажуць, мазь калёсную таксама выдаюць.

С у с е д к а. Няўжо? Дзякуй табе, міленькі, што папярэдзіў. Пабягу, а то без мяне ўсё расхапаюць. (*Выходзіць*.)

Ц ы г а н о к. Вось абывацелі! Чулі? Па калёсную мазь паджгала. Абвясці, што ваду выдаваць будуць па кніжцы, звычайную ваду, — пабягуць у чаргу.

М а р о з (*махае рукой*). Хай іх!.. А ты чаму спазніўся?

Ц ы г а н о к. Камсамольскі сход быў наконт Параскі і майстроў. Казалі хлопцы, што са злосці гэта ён яе ашпарыў.

М а р о з. Ну, і на чым рашылі?

Ц ы г а н о к (*уздыхае*). Ні на чым… Даказаць такое цяжка, а нагу аж да касці прапаліла…

М а р о з. Бедная дзеўка. І трэба ж такому здарыцца! Што ні кажы, а дрэнна без механікі, Сцёпка, кепска.

Ц ы г а н о к (*бадзёра*). Наладзім! Пабачыш, наладзім! (*Лезе ў кішэню*.) Во, цыркуль я прынёс. Цяпер лягчэй чарціць будзе… Пойдзем, Змітрок Іванавіч, сёння трэба абавязкова скончыць чарцяжы. (*Урачыста*.) Хвіліна сур’ёзная надыходзіць!.. Канец! (*Лезе па лесвіцы на гару*.) Ну, цяпер трымайцеся, майстры!

М а р о з. Цяпер, Сцёпка, ты давай насос канчай… (*Прыбірае кнігі*.)

Ц ы г а н о к (*улез на гару праз люк, гладзіць рукой мадэль*). Вось яна! Сур’ёзная якая стаіць!.. Эх, Змітрок Іванавіч, з кожным днём я, нібы хлопец у дзеўку, усё больш у яе ўлюбляюся!.. Хвіліна сур’ёзная надыходзіць. (*Заспяваў «Наш паравоз». Схіліўся над столікам, пачаў чарціць*.)

Уваходзіць Я г о р а ў н а з клункамі.

Я г о р а ў н а. Фу-фу!.. Ой!.. Усе ножачкі паломіш, пакуль што ў кіператыве атрымаеш… Цэлую гадзіну страціла, каб павідлу атрымаць…

М а р о з. Раней у царкве больш часу траціла і без карысці ўсякай, а тут хоць гарбаткі з павідлай пап’ём…

Я г о р а ў н а (*са скрухай*). Непарадкаў многа людзі робяць…

М а р о з. Вось і ў мяне нехта ўсе кнігі пераблытаў…

Я г о р а ў н а (*вінавата*). А што будзеш рабіць, калі ў кіператыве паперы не даюць?.. А ўва што селядцы закруціць?..

Ну і ўзяла. (*Раскручвае селядцы. Яны загорнуты ў «Навуку і тэхніку».*)

М а р о з (*адбірае ў яе паперу*). У цябе ёсць галава на плячах ці не? Эх, старая, старая! У «Навуку і тэхніку» закруціла. Ай-ай-ай!..

Я г о р а ў н а. Не айкай. Паперу шкадуеш, а мяне не…

М а р о з. Ды не паперу, мілая, а тое, што ў ёй напісана!

Я г о р а ў н а. Ды напісанае, Змітрок, я там пакінула. А гэта толькі вокладка.

М а р о з. Дык жа, мілая, на вокладцы, во, глянь, канструкцыя электраматора надрукавана…

Я г о р а ў н а. А чаму ж яны на вокладках друкуюць? Нашто?.. Ніколі гэтага не было…

М а р о з. А таму, мілая, што паперу эканомяць. Паперы не хапае.

Я г о р а ў н а (*пляскае ў далоні*). Вось табе і «Навука з тэхнікай»! Раней і навукі той не было, а паперы ў кожнай краме колькі хочаш давалі…

М а р о з (*хавае вокладку*). Давалі таму, што іншай патрэбы ў ёй не адчувалі.

Я г о р а ў н а. А цяпер ужо надта адчуваць сталі?

М а р о з. А то не! От ты сама падумай… (*Падымае палец угору.*) Ведаеш колькі адных газет выпушчаць пачалі? Сто мільёнаў пішуць, сто мільёнаў кніжкі чытаюць, сто мільёнаў…

Я г о р а ў н а (*адмахваецца*). О, пайшоў ужо мільёны лічыць!

Ц ы г а н о к (*у люк*). Калі лічыць, Ягораўна, дык не менш як мільёны!

Я г о р а ў н а (*падымае галаву ўгору*). О, ужо ўспёрся туды! Як тая курыца на седала!

Мароз папраўляе акуляры і лезе на гару.

І ты, стары, пад страху палез? Зноў засядзеце да раніцы? І што гэта на вас ні дня, ні ночы няма? І калі ж, Змітрок, нарэшце гэта скончыцца?

М а р о з. Скора, старая, скора. Тады цэлы дзень будзем з табой гарбатку з павідлаю піць ды аб тэхніцы разважаць.

Я г о р а ў н а (*абурана*). Абое здурэлі: і старое, і малое! Як дамавікі, залезуць туды, і ніякім кіем іх адтуль не зжанеш. А розум адзін — абодва дурні…

М а р о з (*на гары*). Вось, Сцёпка, што значыць розныя інтарэсы людзі да жыцця маюць. Яны табе без усякага разважання жывуць. Жывуць, а што да чаго робіцца, і не ведаюць.

Таму і думы няправільныя ў галаве таўкуцца. А жыццё ж наша, як механіка, — дакладнасць любіць… (*Заглядае цераз плячо Цыганка.*) Ты што начарціў?

Ц ы г а н о к (*паказвае на мадэль, потым на чарцёж*). Во, гэтае калена.

М а р о з. Так, так… Галоўнае, каб у нас усё правільна было. Пакуль машыначка дзьме ды бутэлечкі робіць — абарот. А насос каб за гэты час паспеў падаць масу… Адно, значыць, каб дапамагала другому.

Ц ы г а н о к. А гэта вылічана ў цябе, Змітрок Іванавіч? Нідзе ты памылкі не ўпароў? А то ж уся работа пойдзе каню пад хвост.

М а р о з. Не турбуйся, Сцёпка, усё вылічана як след.

Ц ы г а н о к. Гэта ўсё трэба адзначыць у плане… Лічбы трэба паказаць… Каб ясней для інжынераў было…

М а р о з. Трэба, Сцёпка, трэба… Ды вось на лічбы я не магу перавесці. Вось тут, у галаве, усё адчуваю. (*Пальцам дакранаецца да лба.*) Верна ўсё! Правільна!.. А паказаць на паперы формулу, значыць па-вучонаму, і… не магу! Бяда без навукі, Сцёпка.

Ц ы г а н о к. Не бяда, Змітрок Іванавіч. Калі яны спяцы, дык і без лічбаў павінны зразумець. З лічбамі кожны дурань разбярэцца!

М а р о з. Эх, Сцёпа, каб мы з табой ды інжынерамі былі!..

Ц ы г а н о к (*свішча*). Фью!.. Свет бы перавярнулі!

М а р о з. Нашто, Сцёпка? Няхай сабе стаіць. Мы б на механіку ўсё перавялі… Таму што без механікі — які ж сацыялізм? Бяда без навукі.

Ц ы г а н о к. І тэхнікі…

М а р о з. Ого, сказаў! З тэхнікай… з тэхнікай яно зусім добра было б… Напрыклад, скажам, у нас на заводзе… Каб з ёю, дык і людзям лягчэй, і сухотам рабіць няма чаго… Таму што машынка галоўную работу выконвае…

Ц ы г а н о к. Адным словам, індустрыялізацыя, Змітрок Іванавіч!

М а р о з. Во! Яна самая. Моцнае слова. І значэнне вялікае мае… (*Схіляецца над чарцяжом.*) Ты вось гэтыя трубачкі начарці выразней.

Цыганок чэрціць. Паўза.

Ц ы г а н о к. Змітрок Іванавіч, а канец-такі набліжаецца… Ну і машына будзе, далажу я вам! Колькі ў яе розуму ўкладзена!

Вось чарчу гэтыя формы, а яны ў мяне ў галаве так і круцяцца, а бутэлечкі так і выдзімаюцца. Ажно аніякай цярплівасці не хапае! Так бы ўсім і расказаў!

М а р о з (*махае кулаком перад тварам Цыганка*). Спрабуй толькі! Я табе раскажу!..

Ц ы г а н о к. І чаго ты, Змітрок Іванавіч, з гэтага сакрэт робіш? Хоць бы дырэктару, Івану Пятровічу, расказаў бы пра машыну…

М а р о з. Я табе раскажу, парася няскобленае! А што, калі не пойдзе? Ад сораму згарым.

Ц ы г а н о к. Не згарым!.. Машына — вярняк. Пойдзе! Усіх здзівім. (*Паказвае на мадэль.*) А вось тут і дошчачка такая медная будзе: «Шкловыдзімальная бутэлечная машына канструкцыі каваля Змітрака Іванавіча Мароза. Дапамагаў яго памочнік С. Цыганок — член ЛКСМ з 1928 г.». Ух ты! Ажно галава кругам ідзе!

М а р оз (*усміхаецца*). Чарці ты, чарці, Сцёпа, спакайней… Загіб гэты во трэба, без яго чарцёж незразумелы будзе…

Працуюць.

Ц ы г а н о к. Змітрок Іванавіч, каб ты ведаў, як Іван Пятровіч пакутуе! Хоча на бесперапынку перайсці, завод наш у лік першых паставіць. Да сацыялізму чалавек імкнецца. А мы яго затрымліваем. І выходзіць, што мы з табой самыя што ні ёсць індывідуалісты.

М а р о з (*сярдзіта*). Ты будзеш чарціць ці не?! (*Перадражнівае.*) Інды-відуа-лісты… Вось бюро вынаходстваў прызнае, тады і пакажам.

Я г о р а ў н а (*гаворыць знізу ў трубку*). Змітрок! А, Змітрок?

М а р о з (*у трубку*). Што табе, старая?

Я г о р а ў н а. Доўга вы там сядзець будзеце? Самавар настаўляць?

М а р о з. Калі хочаш, настаўляй. (*Зноў працуе.*)

Я г о р а ў н а. Вось навала на маю галаву! Зноў на ўсю ноч заселі!.. Здзяцінееў на старасць.

У сенцы ўваходзяць А н д р э е ў, Ш а т а л а ў, К у р л е н я і Г а й д у к е в і ч. Андрэеў ідзе ў пакой.

А н д р э е ў (*да сваіх спадарожнікаў*). Пачакайце тут. (*Адчыняе дзверы.*) Дзень добры! Можна да вас?

Я г о р а ў н а. Можна. Чаму ж то не? Заходзьце, як маеце ласку!

А н д р э е ў. Ці дома таварыш Мароз?

Я г о р а ў н а. Дома, дома. А дзе ж яму быць! От я зараз паклічу яго… (*Крычыць у трубку.*) Змітрок! Чуеш? Прыйшлі тут да цябе!

Цыганок бяжыць па лесвіцы ў сенцы.

Ц ы г а н о к. А-а!.. Прыйшлі… Хадземце ў нашу галубятню. (*Адкрыў дзверы, убачыў Андрэева.*) Іван Пятровіч, лезьце на гару!

Я г о р а ў н а. У цябе сумленне ёсць, хлопча? Куды ты на галубятню гасцей пацягнуў?

Ц ы г а н о к. Ягораўна, не перашкаджайце… (*Урачыста.*) Хвіліна сур’ёзная надыходзіць!

Усе падымаюцца па лесвіцы, што ў сенцах, на гару. Мароз увесь час прыслухоўваецца. Раптам засланяе мадэль спінаю. Пачынае ліхаманкава накрываць яе коўдрай. У гэты момант усе ўваходзяць у пакой.

Змітрок Іванавіч, прымай гасцей!.. Уся адміністрацыя тут.

М а р о з (*разгублена*). Як жа гэта, га? Сцёпка, няўжо ты?

Ц ы г а н о к. Ты не падумай, што гэта я… Не, не… Самі прыйшлі…

А н д р э е ў (*усміхаецца, паціскае руку Марозу*). Чуткамі зямля поўніцца. Самі не завеце, дык мы прыйшлі паглядзець.

К у р л е н я (*здзіўлена*). Ого! Ды тут цэлая табе майстэрня!

А н д р э е ў (*азіраецца па баках*). Ну, Цыганок, Мароз, — адкрывайце свае сакрэты…

М а р о з (*спалохана паглядае на Андрэева і Цыганка*). Я-якія сакрэты?

Ц ы г а н о к (*рашуча*). Змітрок Іванавіч! Калі так ужо здарылася, не будзем індывідуалістамі! Пара абнародаваць. (*Адкрывае мадэль.*) Мадэль шкловыдзімальнай машыны, канструкцыі каваля Змітрака Іванавіча Мароза, чарцяжы С. Цыганка. Во, правярайце!

Паўза. Усе падышлі, аглядаюць.

К у р л е н я (*у захапленні*). Вось гэта я разумею! Здорава!

Г а й д у к е в і ч (*паварочвае мадэль*). М-да… Цікава…

А н д р э е ў (*з трывогай*). Асцярожна, не зламайце!..

Ц ы г а н о к (*весела*). Нічога! Круці як хочаш! Усё прадугледжана!

Г а й д у к е в іч (*з цікавасцю*). Гэта што па баках?

Ц ы г а н о к. Гэта во? Формы. А вось тут — трубкі.

К у р л е н я (*паказвае на мадэль*). А гэта што?

Ц ы г а н о к (*з гонарам*). Халадзільнікі!

А н д р э е ў (*заклапочана*). Дазвольце, таварышы, так няможна. (*Да Мароза*.) Таварыш Мароз, растлумачце нам як след усё ад пачатку і да канца.

Усе селі, падрыхтаваліся слухаць.

Г а й д у к е в іч. Давайце, Мароз, вам слова.

Паўза. Мароз збянтэжана маўчыць.

Ш а т а л а ў. Дык мы слухаем вас, Змітрок Іванавіч.

М а р о з. Яно… таго… калі… як яго… Эх, Сцёпа, не вытрымаў!..

Ц ы г а н о к. Ды чаго тут трымаць, і так затрымаліся! Дакладвай — і кропка!

М а р о з. Ды я не ведаю… як яго… з чаго пачаць…

Ц ы г а н о к (*смяецца*). З пачатку.

М а р о з. Кхэ… Бутэлькі, калі механікай… машына, значыцца… наогул… Ды не, вы лепш пытайцеся, што і да чаго.

А н д р э е ў. Спакайней, таварыш Мароз, не хвалюйцеся. Давайце па парадку ўсё.

Паўза.

М а р о з. Эх, Сцёпка, Сцёпка!

Ш а т а л а ў. Вось табе і на! Думалі, майстравалі, а растлумачыць не могуць!

М а р о з. Ды я ж… Мне б толькі пачаць…

Ц ы г а н о к (*пачынае злавацца*). Ну чаго ты муляешся, Змітрок Іванавіч?! Я ведаю…

М а р о з (*да Сцяпана*). Ведаеш ты курыную сісю, ды і тую не ўсю! (*Паварочваецца да Андрэева*.) Кхэ!.. Машына… прыкладам… павінна…

Ц ы г а н о к (*падказвае*). Дзьмуць. І дзьмуць, як самы добры майстар. Значыць так: тут вось пасярэдзіне — паветраны насос. Ён дзьме ў формы…

Усе глядзяць.

М а р о з. Правільна кажаш, Сцёпка.

Ц ы г а н о к (*паказвае на мадэль*). А па баках, во, формы… У іх будуць адлівацца нашы бутэлечкі…

М а р о з. Так. Восемдзесят формаў у два ярусы.

Ц ы г а н о к. Пачакай, Змітрок Іванавіч. (*Паварачвае мадэль.*) Адгэтуль вось гэтая труба пацягне масу. Шкло з ванны падаваць будзе.

М а р о з. Правільна! Да размеркавальніка…

Ц ы г а н о к. Пачакай, Змітрок Іванавіч. Калі прасілі — маўчаў, а цяпер раптам загаварыў… Размеркавальнік пасля…

М а р о з (*узрушана*). Як пасля? Размеркавальнік — першая справа! Ён, значыцца, дае масу па формах. І так, каб не больш і не менш. А як толькі размеркавальнік падасць масу ў формы…

Ц ы г а н о к (*нецярпліва*). Тады…

М а р о з. Ды не лезь ты, Сцёпка, калі старэйшыя гавораць! (*Да адміністрацыі завода.*) Як толькі размеркавальнік падасць масу ў формы…

Ц ы г а н о к. Насос пачне дзьмуць. І пакуль машына зробіць абарот — гатова, атрымайце бутэлечку!

Я г о р а ў н а (*у трубку*). Змітрок! Га, Змітрок? Дык настаўляць самавар ці не?

М а р о з (*крычыць жонцы*). Можна! Настаўляй! (*Да прысутных.*) Пасля, каб машына не награвалася, трэба…

Я г о р а ў н а. Дык як наконт самавара?

М а р о з (*раззлавана*). Настаўляй, я ж табе казаў!

Я г о р а ў н а. А госці будуць?

М а р о з. Вось, назола, прычапілася! (*Бярэ анучу і сярдзіта затыкае трубку. Да прысутных.*) Каб машына не награвалася, усярэдзіне будуць праведзены трубы, праз якія ўвесь час падаецца вада для ахаладжэння… Вось ўсё прыкладна…

Паўза. Усе ўстаюць, уважліва аглядаюць мадэль.

А н д р э е ў. Грунтоўна, глыбока бярэш, Змітрок Іванавіч. Справа гэта вельмі сур’ёзная. Калі ўдасца ўсё здзейсніць — цэлая рэвалюцыя на заводзе будзе. Як думаеце, Гайдукевіч?

Г а й д у к е в іч (*стрымана*). Цікава, цікава…

Ц ы г а н о к. Індустрыялізацыя!..

Ш а т а л а ў. Адчуваем, адчуваем, таварыш Цыганок.

А н д р э е ў. Скажыце, а чарцяжы якія-небудзь ёсць?

М а р о з. Сцяпан тут дзе што намаляваў.

Ц ы г а н о к (*пакрыўджана*). Намаляваў? Начарціў, калі хочаце ведаць! (*Паказвае чарцяжы.*) Во, глядзіце!

Г а й д у к е в іч. Бачу, бачу. Павінен сказаць, што выканана даволі прыстойна.

М а р о з. Цемнавата тут. Не надта разгледзіш што да чаго.

Ц ы г а н о к. Дык хадземце ўніз!

М а р о з. І то праўда. Ідзём. Там куды як святлей…

Ён першым накіроўваецца да люка. За ім спускаюцца Андрэеў, Шаталаў, Курленя. Цыганок спускаецца ўніз апошнім. У руках ён трымае чарцяжы.

Я г о р а ў н а. Насядзеліся? А я думала да пеўняў там будзеце. Сядайце, госцейкі, хто дзе. Зараз і самаварчык загудзе…

М а р о з (*паказвае на люк*). Гэта я зрабіў, каб не хадзіць праз сені… Зноў жа зімой цяплей…

К у р л е н я. Глядзі ты як лоўка!

М а р о з. А гэта, каб не перашкаджала яна, значыцца. (*Падымае лесвіцу ўгару*.)

Ш а т а л а ў. Механіка, адным словам!

Г а й д у к е в іч. Ндэ… цікава. (*Шукае, куды палажыць папку*.)

М а р о з. Вось, будзьце ласкавы, сюды пакладзіце. (*Адкідае ад сцяны столік*.)

Г а й д у к е в іч (*здзіўлена*). Арыгінальна!

М а р о з. Гэтак зручней, ведаеце.

А н д р э е ў. Давайце вернемся да справы, таварышы. (*Сядае*.) Скажыце, Змітрок Іванавіч, а колькі ж людзей павінны быць пры машыне?

М а р о з. Прыкладна адзін майстар і памочнік на выпадак.

А н д р э е ў (*здзіўлена*). Без падсобнікаў?

М а р о з. Падсобнікаў якраз трэба будзе больш. Бутэлек, прыкладна, скажам, куды будзе больш вырабляцца. А пасля зноў жа і матэрыялу больш пойдзе…

Г а й д у к е в іч. Так, так, надзвычайна!..

Ц ы г а н о к. Лічбаў толькі ўсіх няма ў нас. Адукацыі не хапіла. Лічбы ў галаве Змітрака Іванавіча заселі, а ў формулы розныя аніяк не хочуць ператварацца. (*Цяжка ўздыхае*.) Во, якая ў нас бяда.

Ш а т а л а ў. А колькі ж бутэлек можа выгнаць машына, калі пойдзе?

Ц ы г а н о к. Цэлую гару!.. Проста вагонамі вазі!

Ш а т а л а ў (*недаверліва*). Ды ну?!

Ц ы г а н о к. Вось вам і ну! От самі прыкіньце. Адзін абарот — у дзве хвіліны. А як абарот, дык восемдзесят бутэлек! Во і палічыце, калі вы разумны!..

Г а й д у к е в іч. У мяне пытанне па сутнасці. Чым будзе машына прыводзіцца ў рух?

У с е. Ага! Так, так!

М а р о з (*кашляе ў кулак*). Рухавічок, значыцца, трэба. Нафтовачку, прыкладна, купіць.

Ш а т а л а ў (*расчаравана*). Выходзіць, яна сама без нафтоўкі не пойдзе?

М а р о з (*здымае акуляры*). Не. Не пойдзе.

Ш а т а л а ў (*страціўшы цікаўнасць*). А-а-а…

Ц ы г а н о к. Чаго вы, Сяргей Аляксандравіч, заакалі? Вядома, не вы ж круціць машыну будзеце.

А н д р э е ў (*задумліва*). Цікава… Ёсць цяпер над чым падумаць…

Г а й д у к е в іч (*рашуча*). А што тут думаць, дазвольце спытаць? Справа ясная! Праўда, думка таварыша Мароза далёка не новая. Даводжу да вашага ведама, што ў Германіі бутэлечныя машыны ёсць ужо даўно. І даюць яны нядрэнную прадукцыю.

Ш а т а л а ў. Дык чаго ж гарод гарадзіць? Калі ў Германіі ёсць — нам і рыпацца няма чаго! Купіць, калі трэба, і баста!

А н д р э е ў. Надта хутка ты справу рашаеш! А рублікі залатыя ў цябе ёсць, валюта?

К у р л е н я (*узяўся закурваць*). Купіла не хопіць… А мы зноў саматужнікі…

А н д р э е ў. І ў лапах у майстроў!

Ц ы г а н о к (*да Шаталава*). А дагнаць і перагнаць забыліся, Сяргей Аляксандравіч! Самі ж на сходзе заклікалі.

Ш а т а л а ў. Ты мяне не ўпікай! Лепей скажы, на чым даганяць будзеце?

Ц ы г а н о к (*паказвае на чарцяжы*). А во! Машынка да паслуг! Садзіся і пераганяй!

Ш а т а л а ў. Можам перагнаць так, што галовы затрашчаць. Колькі такая перабудова будзе каштаваць, вы падумалі?

К у р л е н я. Яшчэ не, але падумаем.

Г а й д у к е в іч (*адкладае паперку, на якой нешта пісаў, падымае руку, патрабуючы ўвагі*). Таварышы! Думка Змітрака Іванавіча каштоўная тым, што, па-першае, яна вельмі рэальная, а, па-другое… (*заглядае ў паперку*) машына Мароза, па маіх падліках, можа даць куды больш прадукцыі, чым германская. А гэта многа значыць. Здзейсніцца бесперапынка вытворчасці, і нарэшце, таварышы, гэта ж сваё, наша!

А н д р э е ў (*узрадавана*). Дык, па-вашаму…

Г а й д у к е в іч. Па-мойму, за гэтую справу трэба ўзяцца сур'ёзна. Ёсць, зразумела, няяснасці, але ў цэлым, на мой погляд, усё зроблена правільна.

Ц ы г а н о к. І па-нашаму, правільна!

К у р л е н я (*да Андрэева*). Ну, што скажаш, дырэктар? Рашаючае слова за табой.

А н д р э е ў (*усхвалявана*). Ды што тут гаварыць! Завод жа ўзварухнецца! Эх, таварышы! Фу, аж у галаве закруцілася!.. Я думаю, зробім так. Праз пару дзён мне трэба будзе ехаць у Мінск, каб дагаварыцца наконт заказаў. Таварыш Гайдукевіч, вы ўсё прагледзьце як трэба. Давайце пагаворым аб машыне раней у сябе, на вытворчай нарадзе, а пасля махнём у Мінск, у трэст. У бюро вынаходстваў. Паедзем разам, таварыш Мароз. Так, значыць, і вырашаем… (*Чэша патыліцу*.) Эх, каб выгарала!

Ц ы г а н о к. На галаве хадзіць пачалі б!

К у р л е н я. На галаве хадзіць, можа, не будзем, а вось вечар задамо…

Чуваць рэзкі свісток.

Што гэта?

Я г о р а ў н а (*бяжыць*). Ой, бацюхна, самавар бяжыць! Гэта ж зусім забылася на яго!

М а р о з (*смеючыся*). Гэта Сцёпка прыдумаў! Узяў да самавара свісток прырабіў!

Ц ы г а н о к. Каб ведалі, што кіпіць.

К у р л е н я. Механік!.. Ха-ха-ха!

А н д р э е ў (*усміхаецца*). Доўга думаў?

Ц ы г а н о к. Ды не! Гэта што, а вось тут мазгі пасушылі! (*Паказвае на чарцяжы*.)

Я г о р а ў н а (*уваходзіць з падносам*). Вось і гарбатка паспела.

А н д р э е ў (*махае рукамі*). Не, не! Дзякуй! Не турбуйцеся. Пойдзем, таварышы. Збірайце чарцяжы. У канторы абмяркуем, Справа гарачая.

Ш а т а л а ў (*буркліва*). Загарэўся!

К у р л е н я. Эх і пойдзе наша пяцігодка як па маслу!

А н д р э е ў. Калі ўсё добра будзе — за тры гады выканаем.

Ш а т а л а ў. Ндэ… Не кажы гоп, пакуль не пераскочыў.

А н д р э е ў. Кінь, Шаталаў! Ты нешта апошнім часам сумнявацца часта пачаў!..

Ц ы г а н о к. Нездаровы ўхільчык, таварыш Сяргей Аляксандравіч!

К у р л е н я (*іранічна*). Бабы ўплываюць…

Ш а т а л а ў (*збянтэжана*). Ты, манах, кінь!.. Пайшлі, ці што? (*Выходзіць*).

А н д р э е ў. Ну, таварыш Мароз, пакуль што!.. (*Доўга трасе руку.*) Эх, дзякую! (*Выйшаў.*)

К у р л е н я. Малайцы! Індустрыялізацыя ўласная! (*Паціскае руку.*)

Усе выходзяць.

Ц ы г а н о к. Наперад без страху і вагання! (*Абдымае Мароза і выбягае*.)

Я г о р а ў н а (*з самаварам*). Чаму ж гэта яны ўсе збеглі?

Паўза.

М а р о з (*з роздумам*). Цяжка без навукі і тэхнікі. А ўсё ж, старая, нібыта выйшла машына…

Крадучыся па лесвіцы, якая вядзе з сенцаў на гару, падымаецца Ш у н е й к а. Уваходзіць у пакой і адразу накіроўваецца да мадэлі. Спрабуе зламаць яе. Нешта падае. Пачуўшы стук, Мароз падымае галаву.

Хто там? Хто на гары? Сцёпка, ты?

Ш у н е й к а таропка выходзіць. Мароз лезе на гару праз люк, аглядае пакой.

Дзіўна… Нікога…

## КАРЦІНА ТРЭЦЯЯ

Дзея адбываецца праз два тыдні пасля 2-й карціны. Цеснае памяшканне, у якім праходзіць агульны сход гуты. Канец перапынку. Гоман. Частка рабочых сядзіць, частка ўваходзіць і выходзіць. Майстры групуюцца асобна. Каля стала стаіць К у р л е н я і трасе над галавой медным званочкам.

Ку р л е н я. Таварышы! Сход яшчэ не скончыўся! Збірайцеся хутчэй!.. Працягваем… Таварыш Цыганок!.. Шабуня!.. Паклічце там астатніх… Скажыце, пачынаем…

Ц ы г а н о к і Ш а б у н я выбягаюць.

Х а д ы к а. Абвясцілі на перапынак…

К у р л е н я. Перапынак скончыўся, а я нешта ўсіх не бачу.

К р у г л я ш. Значыцца, нецікавая справа, выходзіць.

Х а д ы к а. Пустой гаворкай займаемся. Спрадвеку без машыны працавалі… А тут вунь што прыдумалі! Да д’ябла яе! Толькі дарэмна непакоім сябе…

С к р ы л ё ў (*штурхае яго пад бок*). Цішэй. Маўчы ты. Калі што — падкавырнём. Галоўнае, не лаві варон. Сход, яно ведаеш, збіць трэба…

К у р л е н я. Таварыш Андрэеў, трэба пачынаць.

А н д р э е ў. Хвіліначку, таварыш Курленя.

Д ы м а ў. А ўсё-ткі цяжка ў вас праходзіць індустрыялізацыя.

А н д р э е ў. Майстры ножку падстаўляюць. Да таго ж і свядомых мала…

К у р л е н я. У акружэнні жывём, таварыш Дымаў. Вам у горадзе лягчэй. А тут навокал вёскі. Пралетарыят наш гаспадаркай аброс. Зямля, каровы, свінні і завод. Цяжка…

А н д р э е ў. Курленя, працягвай сход. (*Да Дымава.*) Я зараз пастаўлю пытанне аб сродках на машыну, а там, калі ўсё добра пойдзе, вы запрапануеце ад імя металістаў вашу ўмову аб сацыялістычным спаборніцтве…

К у р л е н я. Таварышы! Працягваем сход! (*Ідзе да стала, звоніць.*) Таварышы, таварышы, цішэй!..

Уваходзяць р а б о ч ы я. За імі — Ц ы г а н о к, Ш а б у н я.

Ц ы г а н о к (*узбуджана*). Таварышы, не затрымлівайся! Хто за індустрыялізацыю, сып сюды!.. Рукі ўверх, і канец… Змітрок Іванавіч, на эстраду, каб бачылі цябе — індустрыяліста нашага!

С к р ы л ё ў (*падкуслiва*). На званіцу яго пастаў, відней будзе.

Ш а б у н я (*задзірліва*). А табе зайздросна?

С к р ы л ё ў (*з пагрозай*). Зайздросціць пасля будзем!..

К у р л е н я. Таварышы, працягваем сход! Слова таварышу Андрэеву.

К р у г л я ш. Гэты зараз нагаворыць.

А н д р э е ў. Дык вось, таварышы… Паведамляю вам, што мы былі ў трэсце і ў бюро вынаходстваў. І там, і там праект машыны ўхвалены і зацверджаны. Так нам і сказалі: заказвайце машыну, механізуйце вытворчасць. Якія вывады з гэтага — вы самі ведаеце. На нарадзе мы пра гэта гаварылі падрабязна. Вось і ўсё. Цяпер перайду да пытання аб сродках на машыну.

Х а д ы к а (*падымае руку з заціснутай у кулаку шапкай*). Пачакай пераходзіць… У мяне пытанне, звініце пажалста. Наконт таго цікаўлюся: інжынеры як? Што сказалі?

А н д р э е ў. Ухвалілі, я ўжо гаварыў…

Х а д ы к а. І ўсё, значыцца, правільна, без памылкі?

А н д р э е ў. Факт.

К р у г л я ш. Пойдзе, значыць, машына?

А н д р э е ў. А ты сумняваешся?

С к р ы л ё ў. Дзіўна! Добрая, значыць, машына? Нават лепш ад майстроў?

Ц ы г а н о к. Лепш! Не п’е і не куражыцца!

С к р ы л ё ў. А я цябе, смаркач, не пытаюся!

Ц ы г а н о к. Гэта фактычная даведачка! Што ты, Скрылёў, крывішся, як чорт на папа? Не падабаецца табе, што машына наша будзе бутэлькі, як гарох, сыпаць?

Х а д ы к а. Яна табе насыпле!.. Эй, пераборшчыкі, рыхтуйся брак лічыць!

Ц ы г а н о к. Змітрок Іванавіч, ты ж канструктар, скажы ім, каб макам селі.

К у р л е н я. Ціха-а! Не перашкаджайце, таварышы!

С к р ы л ё ў. А колькі грошай адваліць трэба на машыну?

А н д р э е ў. Вось аб гэтым і давайце пагаворым. Машына будзе каштаваць шэсцьдзесят тысяч.

С к р ы л ё ў, Х а д ы к а і К р у г л я ш. У-у-у!.. О-о-о!.. Хі-га!.. Ух ты!..

С к р ы л ё ў. Што ж гэта ты, Мароз, гэткую дарагую цацку прыдумаў? Га? Хэ-хэ!..

Х а д ы к а. Цэлы завод пабудаваць можна, звініце пажалста…

А н д р э е ў. Так, можна. Але які? Саматужны? Зноў сухоты? Зноў залежнасць ад вас, майстроў? Бесперапынку па баку? Так? Усё наперад ідзе, а мы назад пацягнем?

Д р у г і к а т а л ь ш ч ы к. Надта грошы вялікія.

А н д р э е ў. Згодзен, немалыя грошы! Машына будзе каштаваць тысяч шэсцьдзесят, а трэст дае толькі трыццаць.

Д р у г і к а т а л ь ш ч ы к. Малавата.

А н д р э е ў. Больш не можа. Цяжка цяпер са сродкамі.

Х а д ы к а. А калі не можа, дык чаго слівядзіць?.. Валі па хатах, звініце пажалста!

Г в а з д з ё ў. Ты б, Хадыка, перш падумаў, перад тым як казаць такія словы.

С к р ы л ё ў. А ты, Гваздзёў, сядзі сабе ды моўчкі ў дзве дзіркі сапі!

А н д р э е ў. Цішэй, таварышы! Трэст дае трыццаць тысяч. Значыць, мы павінны падумаць, дзе ўзяць другія трыццаць тысяч.

Х а д ы к а. Вось ты і падумай з Гваздзёвым. А мы пойдзем. Збірайся, таварышы, не перашкаджай ім думаць.

Гоман мацнее.

Ц ы г а н о к. Не зрывай сходу, занудa!

Ш а б у н я. Вон яго!

Х а д ы к а. Каго?! Мяне?!

Г в а з д з ё ў. Сып далей, таварыш Андрэеў! Не звяртай на іх увагі!

К р у г л я ш. Дай мне! Маю слова сказаць!

К у р л е н я. Сядзь, Кругляш!

Х а д ы к а (*крычыць*). Дай нам гаварыць!..

К у р л е н я. Па чарзе гаварыць будзеце! А цяпер памаўчыце, бо ўсё роўна не дам слова!

Х а д ы к а. Таварышы! Беспартыйным гаварыць не даюць, звініце пажалста!

Г в а з д з ё ў. Курленя, хай гаворыць! (*Да Хадыкі.*) Ну, гавары, аратар!

Х а д ы к а (*збянтэжана хаваецца за спіну Кругляша*). Пагаварыце вы, а мы ўжо памаўчым.

Г в а з д з ё ў. Цьфу, зараза!.. (*Да дырэктара.*) Таварыш Андрэеў, працягвайце!

А н д р э е ў. Сябры, трэст дае нам трыццаць тысяч. Значыцца, мы павінны канчаткова вырашыць тут сёння, дзе ўзяць астатнія трыццаць тысяч…

Ш а б у н я. З заводскіх грошай нельга наскробаць?

А н д р э е ў. Няможна. Іх няма.

С к р ы л ё ў. Цю, цю! Выехалі, называецца.

А н д р э е ў. У касе маем каля сарака тысяч, але гэта грошы не заводскія.

П е р ш ы   б а н а ч н і к. А чые?

А н д р э е ў. Вашы.

С к р ы л ё ў. Ух, як разбагацелі!

Х а д ы к а. А ты вазьмі іх, звініце пажалста.

А н д р э е ў. Гэта фонд на паляпшэнне быту рабочых.

Х а д ы к а. Вось і паляпшай!

Ш у н е й к а. Кінематограф будуй!

А н д р э е ў. Грошы прызначаны на пабудову рабочага пасёлка. Адміністрацыя завода на іншыя справы траціць іх не можа без вас. І вось я, як дырэктар, прашу пазычыць гэтыя грошы заводу на год.

Х а д ы к а. Уга, куды павярнуў, звініце пажалста!

С к р ы л ё ў. Лоўка вуду закінуў, пеўнеў сын!

К р у г л я ш. Гэта не пройдзе! Сляпы сляпому не павадыр!

П е р ш ы   к а т а л ь ш ч ы к. Не дадзім! Найшоў сякеру пад лавай!

Ш у н е й к а. Дажыліся: багацець няма сіл, а галець некуды!

К у р л е н я. Цішэй, таварышы.

А н д р э е ў. На адзін год толькі пазычце! Як наладзім вытворчасць, адразу…

К а с і р. Не хочам!

Д р у г і б а н а ч н і к. Таварыш Андрэеў, мы не супраць машыны. Будуй. Толькі грошай нашых не чапай. Не дамо.

М а р ы с ь к а. Зноў у катухах бедаваць?

Н а д з я. Астагідлі казармы!

Гоман.

С к р ы л ё ў. Слова дайце! Дайце слова! Старому шкляру слова!

К у р л е н я (*неахвотна*). Гавары.

С к р ы л ё ў (*падыходзіць да стала*). Сяджу гэта я, таварышы мае дарагія, і слухаю… Што ж гэта робіцца? Што толькі дзеецца?.. Самі падумайце… От нехта выдумаў машыну. Ніхто яшчэ дакладней не ведае — будзе толк ці не, а грошы ўжо выкладвай. Нябось трэст не хоча рызыкаваць, а мы — калі ласка. Ды мы дурні, ці што, свае грошыкі на вецер пускаць? А што, як няўдача? Тады задзірай галаву ўгору ды вый на месяц! Вось што будзе… Гэта, таварышы мае, тонкая палітыка…

В а р а к с а. Ай-яй-яй!

С к р ы л ё ў (*з запалам*). А пра тое не думае наш дырэктар, што рабочыя ў катухах жывуць!.. Здароўе сваё надрываюць!..

Ш а б у н я. Не табе казаць, Скрылёў! Бач, ён рабочых шкадуе! (*Са здзекам.*) Стаў такі добры, што хоць да сэрца прыкладай!

П е р ш ы б а н а ч н і к. Праўду кажаш. Майстры ў катухах не жывуць.

Д р у г і б а н а ч н і к. Яны на ўласнай гаспадарцы. Атайбаваліся, як памешчыкі.

С к р ы л ё ў. Таварышы, таварышы! Не за сябе кажу. Людзей мне шкада!.. (*Б'е сабе ў грудзі.*) Пакутуюць без кватэр, а тут — нá табе! Аддай грошы і зноў па кутках поўзай. Не з рукі нам машыну будаваць. Нам рабочы народ, каторы пот пралівае, дарагі. Таму пасёлак, значыць, узводзіць трэба. А машына гэта самая хай спрахне!

П е р ш ы к а т а л ь ш ч ы к. Правільна! Хай яна агнём гарыць!

Ш у н е й к а. Не дадзім, і ўся гаворка!

Гоман.

Г в а з д з ё ў. Курленя, дай слова! (*Паварочваецца тварам да рабочых.*) Таварышы, цішэй! Вось яны, майстры, са скуры

лезуць: «Людзей шкада...» Брэшаце! Вы за сябе спужаліся! Наўмысна паніку наводзіце! А вы і паверылі... Эх вы, шкляры! Думаеце, лёгка сацыялізм будаваць?

Г а л а с ы. Э... а... э... у... і...

Г в а з д з ё ў. Чаго заспявалі? На вараных ды па гладзенькай дарожцы думаеце да сацыялізму пад'ехаць, па мяккаму ды па роўнаму хадзіць любіце, а на купінах дык і ножкі баляць? Ды за машыну, за справу такую ў дошку разбіцца трэба, а зрабіць!

У с е. Правільна-а!

Ш у н е й к а. Вочы б мае яе не бачылі!

С к р ы л ё ў. Калі камару не бажыцца, век не разжыцца! Дурняў пашукай! Не напявай!

Х а д ы к а. Заткніся, Гваздзёў!

Ш у н е й к а. Засохні!

Гуд.

Ш а б у н я (*праштурхоўваецца да стала*). Ну, калі на тое пайшло, дык і я скажу. Дай слова! Дзеўкі, чаго маўчыцё? Марыська, ты даўно пакінула ашпаранай цягацца па бальніцах? Параска вунь і зараз там. Хопіць! Нацярпеліся. Досыць жыць як набяжыць! Машына матам крыць нас не будзе... І рукамі — куды не трэба — не палезе.

Смех.

В а р а к с а. Ай-я-яй!

Ш а б у н я. Праўду трэба казаць. Дамо грошы. Машына нам — во як патрэбна! (*Праводзіць рабром далоні па горле.*)

Сход выбухае крыкамі адабрэння і пярэчання.

П е р ш ы б а н а ч н і к. Мне слова! Дайце мне слова! Сенька, ты, таго, загнуў. Майстры не супраць машыны...

Г в а з д з ё ў. А Скрылёў, Хадыка?

П е р ш ы б а н а ч н і к. Гэта кулакі. Дамо рады і без іх. Абыдземся.

Х а д ы к а. Пабачым!

П е р ш ы б а н а ч н і к. Я вось таксама майстар.

С к р ы л ё ў (*падкусліва*). Ці даўно?

П е р ш ы б а н а ч н і к. Даўно ці не даўно, а дзьмуць магу не горш, як ты!

Х а д ы к а. А хто ж цябе вучыў?

П е р ш ы б а н а ч н і к. Рэвалюцыя!

Х а д ы к а. Добры вучыцель, звініце пажалста! Ха-ха-ха!..

П е р ш ы б а н а ч н і к. Лепшы за цябе! (*Да прысутных.*) Таварышы, мы, маладыя чырвоныя майстры…

Х а д ы к а. О, пафарбаваліся!

П е р ш ы б а н а ч н і к. Галасуем за машыну! Калі мы ў кожную бутэльку здароўе сваё выдзімаем, дык яна, машына, гэта знішчыць і вытворчасць павялічыць. Дамо, таварышы, грошы!

С к р ы л ё ў. Нізкі пералаз — усім дарога. Давай раскідвай — падбяруць твае грошыкі.

Д р у г і б а н а ч н і к. Чаго ты, Скрылёў, мудруешся, як тая сучка перад каравозам? Ведаем цябе, табе абы ў сваю гаспадарку цягнуць!

М а р ы с ь к а. Яны з Кругляшом вунь аднаго падатку пудоў па пяцьдзесят плацяць.

С к р ы л ё ў. А ты лічыла?

М а р ы с ь к а. Рык палічыў. А ты заплаціў!..

П е р ш ы б а н а ч н і к. Бегаў, хадайнічаў, каб знялі. Рабочы… Крыўдна! Ці няможна скідачку?.. Шкурнікі!

Х а д ы к а. Хто?

П е р ш ы б а н а ч н і к. І Скрылёў, і ты, і Кругляш!

Х а д ы к а. Я — шкурнік?

П е р ш ы б а н а ч н і к. А то не! Ты і ад яйка адальеш!

Д р у г і б а н а ч н і к. Ага! За капейку ў царкве паветра сапсуеш!..

Х а д ы к а. Я?! Мне капейкі шкада? А гэта што? Бачыш? Задарма плачу, звініце пажалста. (*Вымае кніжкі.*) Мопр, Савіхім, друг дзяцей, Аўтадор, Капірацыя… О! Малочная арцель — малако задарма даю, вас кармлю, звініце пажалста…

Ц ы г а н о к. А пазыка індустрыялізацыі?

Х а д ы к а. На… Во… (*Шукае па кішэнях.*) Халера, дома пакінуў!

Д р у г і б а н а ч н і к. Зусім свядомы!

Г в а з д з ё ў. Галасуй, таварыш Курленя, хто за машыну!

М а р ы с ь к а. Хопіць калатні!

Г в а з д з ё ў. Стаў на галасаванне!

К р у г л я ш. Таварышы, падумайце! Галасаваць жа будзем за зніжэнне заробку!

Ц ы г а н о к. Ілжэш!

К р у г л я ш. Далібог праўду кажу! Каму людзі патрэбны, калі машына пойдзе? Усіх на вуліцу выганяць! Таварышы, адумайцеся! Уцякаеце ад дыму, трапіце ў агонь!

Ц ы г а н о к. Шкоднік!

Д ы м а ў. Можна мне, таварышы? Я — прадстаўнік завода «Чырвоны металіст». Мы вашу машыну бярэмся будаваць. Таварышы шкляры! Хто з вас супраць таго, каб завод перайшоў на бесперапынную працу, падняў вытворчасць, знізіў сабекошт прадукцыі, павялічыў заробак рабочага? Ніхто? Хто супраць свайго брата рабочага-вынаходніка, які сваімі мазгамі дапамагае індустрыі, агульнаму будаўніцтву? Ніхто?

Шунейка падняў руку.

Ты супраць?

Ш у н е й к а. Чаму гэта супраць? Я за тое, каб усё напэўна было.

Д ы м а ў. Таварышы, справа гэта верная! Спецыялісты-інжынеры прызналі!

Ш у н е й к а. Інжынеры, добры чалавек, розныя бываюць. Шкоднікі сярод іх ёсць. Наўмысле падбухторваюць — будуй, не шкадуй, а пасля… (*Разводзіць рукамі.*) Што ты газет не чытаеш?

Д ы м а ў. А мы што — лыкам шытыя? (*Паказвае на Мароза, які сядзіць з апушчанай галавой.*) А ў яго, па-твойму, мазгі не вараць? Скажы ім, таварыш! Рэзні праўду матухну!

Ц ы г а н о к. Змітрок Іванавіч, інжынер ты наш маўклівы! Будаваў, будаваў, мазгі высушваў ды вываровчваў, а цяпер маўчыш! Устань, заткні ім горла! Растлумач гэтым няверам!

М а р о з (*падымаецца, падыходзіць да стала*). Таварышы! Цяжка чалавеку без навукі і зноў жа заводу без тэхнікі… Значыць, механіка… Механіка не вораг чалавеку… Яна на карысць… Хвалююся я… Моцна пакрыўдзілі тут…

К у р л е н я. Не хвалюйся, Змітрок Іванавіч, спакайней.

М а р о з. А машына, яна… калі… таго… Не магу! Даскажы ты, Сцёпа, ты ж ведаеш.

Ц ы г а н о к. А што тут гаварыць? Усё ясна! Галасуй, Лявон Сяргеевіч. Хто «за»?

К у р л е н я. Галасую! Таварышы, хто за тое, каб даць нашы грошы на пабудову машыны?

Падымаецца лес рук.

Ц ы г а н о к. Аднагалосна!

К у р л е н я. Хто «супраць»?

Падымаюцца рукі майстроў.

Ц ы г а н о к (*махае рукой*). Вы не ў лік.

Курленя. Цяпер, таварышы, аб умовах заказу… Слова даецца прадстаўніку ад металістаў, таварышу Дымаву.

Апладысменты.

Дымаў. Дык вось, таварышы, значыць, заказ мы ваш прымаем. Але зрабіць машыну пры нармальных умовах мы зможам толькі за год. Праца новая, цяжкая і складаная. Цэхі для такога не падрыхтаваны. Але яны паднялі гвалт… (*Ківае на Андрэева і Курленю.*) І паставілі пытанне ў нас на агульным сходзе, што машына патрэбна да зарэзу і чым хутчэй…

Галасы. Правільна-а! Чаго ж валаводы валаводзіць?!

Дымаў. Памеркавалі мы і згадзіліся кінуць на гэтую працу нашых ударнікаў. Будуць яны працаваць звышурочна. Здадзім мы вам заказ праз… шэсць месяцаў.

Апладысменты.

Але, таварышы, пры адной умове… калі вы падпішаце з намі дагавор…

Скрылёў (*насмешліва*). На сацыялістычнае спаборніцтва, так?

Дымаў. Правільна. Толькі так!

Хадыка. Па-моднаму, значыць, звініце пажалста.

Першы баначчнік. А якія мы павінны ўзяць абавязацельствы? Наконт прагулаў?

Дымаў. Не, гэта вы самі ў сябе павінны выкараніць. Мы вам ставім толькі адзін пункт. Калектывізацыя. Мы за шэсць месяцаў зробім вам машыну, а вы павінны падрыхтаваць увесь ваш раён да пераходу на земляробчыя калектывы.

Скрылёў. Вунь куды закруцілі! А гусінага піва не хочаце? У вас, гарадскі таварыш, відаць, душа мерку перабрала!

Дымаў (*не звяртаючы ўвагі на выкрык Скрылёва*). І пачаць вы павінны са сваіх. З тых, у каго ёсць гаспадарка. Вось такая наша ўмова.

Курленя (*абводзіць прысутных запытальным позіркам*). Ну? Што адкажам, таварышы?

Паўза. І раптам густа ўскінуліся рукі ўгору.

(*З радаснай усмешкай глядзіць на Дымава.*) Зразумела?

Дымаў. Яшчэ як зразумела!

Заслона.

# ДЗЕЯ ДРУГАЯ

## КАРЦІНА ПЕРШАЯ

Гута. Відаць частка фарсунак. Стаіць новая машына. М а р о з і іншыя канчаюць злучэнне машыны з ваннай, у якой знаходзіцца шкламаса. Марозу падаюць патрэбныя часткі і інструменты.

М а р о з (*заклапочана*). Раўней, раўней! Вось так. Механіка дакладнасць любіць. Калі мы ад яе работы патрабуем, дык яна ад нас акуратнасці просіць.

Г в а з д з ё ў. А ўсё-такі, што ты там ні кажы, можа, ты і сам не адчуваеш, а галава ў цябе мазгавітая. Як проста гэта ўсё прыдумана, а якая хітрая справа выходзіць! (*Паказвае на машыну*.) Гэта, значыцца, насос з паветрам?

М а р о з. Ага. Ён, гэта самае, уцягвае ў сябе масу. Яна ідзе па трубках у размеркавальнік. А там другі насос падае яе ў формы…

Ш у н е й к а (*зацікаўлена*). Дзе, дзе?

Ц ы г а н о к (*паказвае*). Во, бачыш, трубкі?

Ш у н е й к а. Ты, Цыганок, не сунься, а то наблытаеш. А потым сам чорт не разбярэ, дзе што.

М а р о з. Не наблытае. Ён усю механіку вывучыў… Тлумач, тлумач, Сцёпачка.

Ц ы г а н о к (*ад пахвалы ганарліва выпростваецца, пераможна глядзіць на Шунейку*). Во, па гэтых трубках ідзе паветра. Гэта, прыкладам, губы і лёгкія майстра. Ясна? Майстар дзьме вось так, а машына — во гэтак. Майстар дзьме ў адну форму, і ледзь пуп не трашчыць, а машына адразу ў восемдзесят.

Г в а з д з ё ў (*да Шунейкі*). Зразумеў, якая гэта светлая галава прыдумала?

Ш у н е й к а. Значыць, гэтае месца — самы найгалоўнейшы майстар?

Ц ы г а н о к. Самы найгалоўнейшы, калі табе так хочацца.

П е р ш ы б а н а ч н і к. Вось дзівосы! Гэта ж адна машына, а працуе за колькі майстроў!

М а р ы с ь к а (*смеючыся*). І яна табе не п’е, не куражыцца, як майстар…

Ц ы г а н о к (*ляпае Шунейку па плячы*). Дык ты разумееш цяпер, што такое індустрыялізацыя? Чаму пазыкі выпушчаюць? Чаму трактарбуд, Днепрабуд, а ў нас бесперапынка ўводзіцца?

Во, яна ўсё — індустрыялізацыя! Правільна я кажу, Змітрок Іванавіч?

М а р о з. Правільна, Сцяпанка, вельмі правільна! (*Да рабочых.*) Ну, хлопцы, давайце падключым машыну да ванны… А заўтра…

Ц ы г а н о к (*радасна*). А заўтра як дзьмухне ва ўсе мяхі! Паспявай толькі бутэлькі збіраць!

Уваходзіць К у р л е н я, за ім — Н а д з я. Гартаючы запісную кніжку, да рабочых падыходзіць А н д р э е ў.

Н а д з я. Таварыш Курленя, дазволь узяць партрэт Леніна з чырвонага кутка для прыкрасы, га?

К у р л е н я. Што з табой зробіш? Бяры.

Н а д з я. Марыся, прыйдзі, трохі пачакаўшы, па плакаты. (*Выбягае.*)

М а р ы с я. Добра, прыйду.

К у р л е н я. Ну як справы, арлы?

Усе разглядаюць машыну…

Ц ы г а н о к. Ды вось канчаем.

А н д р э е ў (*крычыць у глыбіню гуты*). Таварыш Шаталаў! На бюро!

Г о л а с Ш а т а л а в а. Зараз іду!

К у р л е н я. Зірні, Андрэеў, рамантыка, га?

А н д р э е ў. Рэальнасць, Курленя. (*Кладзе руку на плячо Мароза.*) Заўтра выпрабуем, Змітрок Іванавіч? Пойдзе, кажаш?

Ц ы г а н о к. Пабяжыць, даганяй толькі!

М а р о з. У час добры, таварыш Андрэеў.

А н д р э е ў (*абдымаючы Мароза адной рукой, урачыста звяртаецца да ўсіх*). Вось ён, чалавек! Лёгкія — сталлю замяніў. І моцна, і пэўна. Дык выходзіць, дзядзька Мароз, што ў пралетарыяту мазгі ёсць. А іх да Кастрычніка чамусьці ніхто і не прыкмячаў… Курленя, пайшлі. Гваздзёў, на бюро! Трэба абгаварыць што і як… Ну дык, Змітрок Іванавіч, заўтра, значыць, выпрабуем машыну, а паслязаўтра афіцыйная прыёмка, так?

М а р о з (*спалохана*). Не, не! Пасля спробы — гэтак дзён праз чатыры, пяць. Мала што можа здарыцца. Скажам… папраўка якая…

А н д р э е ў (*задумліва*). Можа, ты і маеш рацыю. Хай будзе так. (*Да Курлені.*) Трэба будзе выклікаць камісію… Трэст…

К у р л е н я. І металістаў, што машыну будавалі.

А н д р э е ў. Хадзем, усё абмяркуем. Таварыш Мароз, скончыш, дык таксама прыйдзі. (*Крычыць у глыбіню цэха*.) Таварыш Шаталаў, даганяй!

Выходзяць. Рабочыя зноў схіляюцца над машынай.

Г в а з д з ё ў. Варушыцеся, хлопцы. Давайце закончым справу.
М а р о з. Сцёпка, вы там добра насос умацавалі?
Ц ы г а н о к. На мёртвую, шва не разгледзіш.
Д р у г і б а н а ч н і к. Старанныя ўсё-ткі металісты. Падгонка што трэба!
Ш у н е й к а. Ад немцаў навучыліся. Нацыя акуратная.
М а р о з. Кожная нацыя, калі механіку паважае, будзе акуратнай. І немец тут ні да чаго. Мы не горшыя ад іх.
Ц ы г а н о к. Правільна, Змітрок Іванавіч. Мы вось не немцы, а, глядзі, што выдумалі! Металісты не германская нацыя, а, глядзі, што зрабілі! Ды яшчэ за які тэрмін!.. А Уладзімір Ільіч што казаў?
Д р у г і б а н а ч н і к. Хто, хто?
Ц ы г а н о к. Уладзімір Ільіч.
М а р ы с ь к а. А хто гэта?
Ц ы г а н о к. Ты не ведаеш Уладзіміра Ільіча?
М а р ы с ь к а. Не-а.
Ц ы г а н о к. Леніна не ведаеш?
Д р у г і б а н а ч н і к. От штукель! Ты б так і казаў!
Ц ы г а н о к. Я ж і кажу… Уладзімір Ільіч гаварыў, што прыйдзе час, і мы не толькі дагонім, але і перагонім розных немцаў…
Д р у г і б а н а ч н і к. Амерыканцаў, Сцёпа.
Ц ы г а н о к. І немцаў, і амерыканцаў — усіх буржуяў. І вось табе прыклад — наша машына. Мы яе адчыбучылі за шэсць месяцаў. А што яшчэ будзе! Пачакайце, таварышы, мы вось толькі разварочваемся, а як развернемся, дык розным капіталістам хоць сядзь ды плач, хоць стоячы крычы! Правільна кажу, Шунейка?
Ш у н е й к а. Правільна, Сцёпа.
Ц ы г а н о к. Мікіціш?
Ш у н е й к а. Мікічу! Эх, браткі, дайце што-небудзь цяжкае працаваць! Сілу адчуваю! (*Замахваецца молатам на машыну*.)
М а р о з (*перапалохана хапае яго за рукі*). Ды што ты, хлопча?! Трубкі ж мне разаб’еш…

Ш у н е й к а (*кідае молат, хапаецца за машыну*). Вось гэту збавіцельку нашу так бы адразу і падняў!..

Ц ы г а н о к. Куды? Стой! Ці ты беляной аб’еўся?

М а р о з. Механіка сілу не любіць… Яе розумам браць трэба… Ты, гэта самае, лепей трубкі падводзь пад машыну.

Ш у н е й к а. Слухаю, дзядзька Змітрок. (*Становіцца на калені, бярэцца за трубкі*.)

М а р о з. Давай, давай іх сюды! О-о-о-о, так!

Ш у н е й к а (*крэкча ад стараннасці*). Даю… даю… дзядзька Мароз…

М а р ы с ь к а. Дзіва, дый годзе! Гляньце, да работы якім ён ахвочым стаў!

П я ц ю н ь к а. Нездарма ж ён ва ўдарнікі запісаўся.

Ц ы г а н о к. І добра зрабіў. Маладзец, Шунейка!..

Ш у н е й к а (*закручвае ключом гайку*). Ды я, браткі, цяпер толькі зразумеў, што такое індустрыялізацыя. Калі раней я і быў з ухілам, дык у гэтым вінаваты Бухарын… Пераблытаў ён усё ў маёй галаве… А вось, як вокам убачыў нашу прыгажуню, рукамі як ухапіў сэрца яе металічнае, дык і сам чорт мяне са шляху не саштурхне. (*Ляпае даланёй па машыне*.) Вось яна, красуня! Так і цягне да работы!.. Эх, не магу без працы стаяць! Дайце мне што-небудзь цяжкае ў рукі!..

Д р у г і б а н а ч н і к (*з усмешкай*). Бач, як яго распаліла!

М а р ы с ь к а. Дык бяжым, Шунейка, са мной, у чырвоны куток. Там Надзя з хлопцамі плакаты малюе на заўтра. Хадзем прынясём іх.

Ш у н е й к а. А нашто плакаты?

М а р ы с ь к а. Назаўтра ж выпрабаванне машыны прызначана.

Ш у н е й к а. Ага, з лозунгамі, значыць, будзеце?

М а р ы с ь к а. Во, во!

Ш у н е й к а. З партрэтамі правадыроў?

М а р ы с ь к а. А як жа!

Ш у н е й к а. Па-святочнаму каб было?..

М а р ы с ь к а. Канечне! (*Нецярплівa*.) Дык ты пойдзеш са мной ці не?

Ш у н е й к а. Бяжы ты, Марыська, сама. А я тут як фізічная сіла застануся. Ды і фарсункі на мне…

М а р ы с ь к а. А каб на цябе! (*Пабегла*.)

М а р о з. Ну, цяпер, хлопчыкі, давайце злучым машыну з ваннай. Бярыцеся… Лёгенька, лёгенька…

Уваходзяць Ш а т а л а ў, Л ю б а і Л і з а.

Л ю б а. Не, не, Сяргей Аляксандравіч, мы вас не пусцім. Спачатку адкажыце на маё пытанне!..

Ш а т а л а ў. На ваша пытанне, Любоў Восіпаўна? Ведаеце, простым, канкрэтным адказам задаволіць вашу зацікаўленасць я не магу…

Л і з а. Вы, як сучасны мужчына, можаце нам сказаць… якія паводзіны да жанчыны павінен мець мужчына?

Ш а т а л а ў. Не ясна, па-першае…

Ш у н е й к а (*як толькі яны ўвайшлі, кінуў работу, глядзіць на іх*). Таварыш Шаталаў, а вас на бюро чакаюць!

Ш а т а л а ў (*глянуўшы на Шунейку, адказвае Любе*). Па-першае, Любоў Восіпаўна, да якой жанчыны адносяцца паводзіны мужчыны? А па-другое…

Ш у н е й к а (*падыходзіць да Шаталава*). А па-другое — які мужчына…

Ш а т а л а ў (*зірнуўшы на Шунейку*). Мы пагаворым пасля. Бывайце, Любоў Восіпаўна! (*Падае руку*.) Пытанне, уласна кажучы, не вырашанае, але цікавае… (*Хоча ісці*.)

Ш у н е й к а. А машына вас не цікавіць?

Ш а т а л а ў. Я ўжо бачыў яе. (*Пайшоў*.)

Ш у н е й к а (*да дзяўчат*). Што, даражэнькія, без кавалера засталіся?

Л і з а (*пыхліва*). Вы не заменіце…

Ш у н е й к а. Усё роўна я не абразіўся.

Л ю б а. Вы, Вася, заўсёды так…

Ш у н е й к а. На «вы» перайшлі?

Л і з а. Вы заўсёды на цікавым месцы перашкодзіце.

Ш у н е й к а. А на нецікавым і турбаваць сябе не варта…

Л і з а. Ану вас! Люба, пойдзем. (*Выходзіць*.)

Ш у н е й к а (*да Любы*). Пачакай. (*З пагрозай*.) Калі ты з ім што-небудзь накручваеш, нядобрым скончыцца!..

Л ю б а. Ты што, палохаеш мяне?

Ш у н е й к а. Не жартуй, Люба, калі кахаеш… Быў згавор у нас ці не быў?.. Бачыш, што прывезлі. (*Паказвае на машыну.*) Гэта магіла бацьку твайму. Як машына пойдзе — майстрам крышка!

Л ю б а. Нічога, мы гаспадаркай пражывём… Дзякуй богу, чатыры каровы, апрача свіней і іншай маёмасці.

Ш у н е й к а. Не паможа… Кінь, кажу, з Шаталавым круціць… Ты ж ведаеш, я дзеля цябе ўсё зраблю… Са мной ты будзеш шчаслівая…

Л ю б а. Дзіўны ты, Васютка!

Л і з а (*голас здалёк*). Люба-а!

Л ю б а. Іду! (*Хочаісці.*)

Ш у н е й к а (*спыніў яе*). Пачакай, Люба. Я вельмі прашу цябе! Чуеш?

Л ю б а. Пусці, Васька… Не сярдуй. (*Цалуе яго і выбягае.*)

Шунейка глядзіць асалавела Любе ўслед. Потым бяжыць за ёю.

П я ц ю н ь к а. Гэй, Шунейка! Ты куды! (*Да астатніх.*) Вось табе і ўдарнік!

Д р у г і  б а н а ч н і к. У яго з Любкай ударная праца! Ха-ха!..

Ц ы г а н о к. Ачмурэў хлапец… І не дзіва — сам Шаталаў на дарозе стаў…

П е р ш ы  б а н а ч н і к. Шунейка яго ўбок спіхне. Ён не ноччу нарадзіўся, а днём ды яшчэ з агнём.

Д р у г і  б а н а ч н і к (*пераканана*). Не, уступіць — начальства ўсё ж…

П я ц ю н ь к а. Ох, хлопцы! Чуе маё сэрца, што бойка будзе! Ядрыхен махен!..

Уваходзяць С к р ы л ё ў і К р у г л я ш. Спыняюцца ля машыны.

С к р ы л ё ў. Маё шанаванне, чырвоныя ўдарнічкі! (*Да Кругляша.*) Во-во, глянь, штукенцыю якую прывезлі! Ха-ха!

К р у г л я ш. Іменна, што штукенцыя. Звер не звер ды чорт ёй вер. Ану, Мароз, крутані яе! Хэ-хэ!..

Ц ы г а н о к (*спадылба глядзіць на майстроў*). Пачакай, вось заўтра як крутанём, дык ажно ў вачах у вас замільгаціць!

К р у г л я ш (*са здзекам*). Дай божа чутае бачыць!..

С к р ы л ё ў (*хаваючы зацікаўленасць, аглядае машыну*). Давай бог, давай бог… Ува ўсіх індустрыялізацыя і ў нас хай яна будзе.

К р у г л я ш. А хто ж на ёй працаваць будзе?

Ц ы г а н о к (*з выклікам*). Я ды вось Змітрок Іванавіч. А яшчэ падсобнікаў падвучым…

С к р ы л ё ў. Так… Без нас, значыць, справа абыходзіцца.

Ц ы г а н о к. Без вас. Вы ў дудкі пакуль што трубіце…

С к р ы л ё ў. Пакуль? А потым што?

П е р ш ы  б а н а ч н і к. А далей што — справа пакажа…

К р у г л я ш. Так… Пакажа…

С к р ы л ё ў. Заробіце вы на ёй вады да хлеба. Яшчэ машына ваша вам сябе пакажа.

Х а д ы к а (*уваходзіць*). Хто каму пакажа, звініце пажалста?

С к р ы л ё ў (*зняважліва торкае пальцам у бок машыны*). Глянь, Хадыка, штуку якую змудрагелілі…

Х а д ы к а. Ух ты, каб цябе індык убрыкнуў! Карусель, яйбогу карусель, звініце пажалста! Хі-хі-хі!.. Гэй, галоўны механік! Давай круці сваё стварэнне! (*Падыходзіць да машыны.*) Ха-ха! Дзе чорт не мае ўдачы, туды Мароза возьме ўпрыдачы!

М а р о з (*выпростваецца, сціскае ў руцэ гаечны ключ*). Лепей не падыходзь, таварыш!

Х а д ы к а. А можа, за рублік пракоціш на ёй? Га?

М а р о з. Не падыходзь, кажу!

Х а д ы к а (*задам адыходзіць ад машыны*). Угу… Раззлаваўся, звініце пажалста… Ха-ха ха!..

Ц ы г а н о к. Эх, ірвачы! (*Кідаецца да майстроў, але Мароз стрымлівае яго.*)

М а р о з. Ціха, ціха, Сцёпа! Астынь, нядобра так!

П е р ш ы  б а н а ч н і к. А чаго ж яны сабраліся тутака ды выскаляюцца?!

М а р о з. Столькі і бяды той. Па чым дурня пазнаеш? Па яго смеху. Няхай сабе смяюцца.

П я ц ю н ь к а. Гнаць іх адсюль, каб аж пяты затрашчалі!

М а р о з. Ціха. Не трэба, рабяткі. (*Да майстроў.*) Нядобра, таварышы майстры. Сорамна. (*Паварочваецца да рабочых.*) Ну, рабяткі, у нас гатова… Пяцюнька, клікні вартаўніка.

Пяцюнька выбягае.

Хто на фарсунках стаіць?

Ц ы г а н о к. Шунейка.

М а р о з. Паглядаць трэба, Сцёпа, каб ён не перапаліў масу.

Д з я д з ю л я (*уваходзіць*). Клікалі, ці што?

М а р о з. Мы ідзём, а тут машына застаецца… Дык паглядай, каб не вельмі цікавіліся… Правярай, значыць…

Д з я д з ю л я. А выпрабоўваць заўтра будзем?

М а р о з. Так, з раніцы…

Д з я д з ю л я. Ну то ў добры час!

М а р о з. Пайшлі, рабяткі!

М а р о з разам з рабочымі выходзяць. За імі сунецца Д з я д з ю л я. З'яўляецца Ш у н е й к а.

С к р ы л ё ў (*гледзячы ўслед рабочым*). Сволачы!

К р у г л я ш. Наконт нагляду чуў? На нас намёк быў зроблены.

С к р ы л ё ў. Дарэмна ты, Хадыка, з Марозам сварку завёў. Пад падазрэнне наводзіш…

Х а д ы к а. Ды ну яго, звініце пажалста!

С к р ы л ё ў. Ідзіце да мяне, абмеркаваць трэба, што далей рабіць. Я зараз прыйду.

Х а д ы к а (*здзіўлена*). А чаму ты ідзеш не з намі?

Скрылёў прыкладае палец да губ.

К р у г л я ш і Х а д ы к а. Што?

Скрылёў робіць рух, як бы ломячы машыну.

К р у г л я ш. Ты ж глядзі, не гарачыся! Засыплешся.

Ш у н е й к а. Не засыплецца.

С к р ы л ё ў (*махае рукой*). Ідзіце, вам кажу, я зараз!

Хадыка і Кругляш выходзяць.

Чаму цябе ў гуце не было?

Ш у н е й к а. Як то не было? Быў…

С к р ы л ё ў. Механіку вывучыў?

Ш у н е й к а. Збольшага тое-сёе ўхапіў.

С к р ы л ё ў. Ну і як?

Ш у н е й к а. Што?

С к р ы л ё ў. Я ў цябе пытаюся, ці пойдзе машына?

Ш у н е й к а. Пойдзе. Ды яшчэ як.

С к р ы л ё ў. Ды ну?

Ш у н е й к а. Вось табе і ну!

С к р ы л ё ў. А што трэба зрабіць, каб не пайшла?

Ш у н е й к а. Заклёпку ў насос — і ўся справа.

С к р ы л ё ў. І тады не пойдзе?

Ш у н е й к а. Узарвецца як міленькая!

С к р ы л ё ў (*ліслíва*). А ты закляпаў? А? Закляпаў?

Ш у н е й к а (*круціць галавой*). Не.

С к р ы л ё ў. Чаму? Чаму, пытаю? (*Падышоў да яго ўшчыльную.*)

Ш у н е й к а (*злосна ўсміхаецца, бярэ яго за гальштук*). А ты чаму дачку сваю з Шаталавым зводзіш? Дурня з мяне зрабіць хочаш?

С к р ы л ё ў (*здзіўлена*). Я? Ды ты што, даражэнькі? (*Круціць пальцам ля скроні*.) Можа, таго? З’ехаў?

Ш у н е й к а (*хапае яго загрудкі*). Ты мне гэтыя штучкі кінь! Угавор наш забыўся?!

С к р ы л ё ў (*спалохана*). Госпадзі Ісусе!.. Богам клянуся, нічога пра гэта не ведаў! Ды калі я яе з ім убачу — за касу да ложка прывяжу!.. (*Спакайней*.) Ты толькі машыну, свалату гэтую!.. А Любка твая будзе. Яна ж любіць цябе…

Ш у н е й к а. Ну, глядзі. Але калі падманіш — уходаю!

Чуваць галасы.

С к р ы л ё ў (*хрысціцца*). Вось табе святы крыж!

Ш у н е й к а (*прыслухоўваецца*). Цішэй ты!.. Давай разыходзіцца. Ідуць.

С к р ы л ё ў. Машыну заўтра раніцой выпрабоўваюць. Паспееш?

Ш у н е й к а. Я ж ноч на фарсунках стаю. Часу ў мяне хопіць. Бывай!

Абодва знікаюць. Уваходзяць Ш а т а л а ў і Л ю б а.

Л ю б а (*гулліва заглядаючы ў твар Шаталаву*). Прыходзьце да нас. Павесялімся як след…

Ш а т а л а ў. Трэба падумаць над гэтым. Ведаеце, можа, і загляну.

Л ю б а (*прыслухоўваецца*). Ціха. Здаецца, музыка недзе… Чуеце?

Ш а т а л а ў. Так, нехта іграе. І да таго ж даволі нядрэнна.

Л ю б а. Вы любіце?

Ш а т а л а ў (*глядзіць ёй у вочы*). Ка-го?

Л ю б а (*збянтэжана апускае галаву*). Музыку?..

Ш а т а л а ў (*бярэ яе за руку*). Я, Любачка, на мандаліне іграю…

Л ю б а. А ў нас гітара… Прыходзьце, я вельмі буду рада… Чакаю вас з нецярплівасцю…

Л ю б а выходзіць. Шаталаў стаіць і з замілаваннем глядзіць ёй услед. Узмахвае левай рукой і толькі цяпер заўважае, што ў яго застаўся рыдыкюль Любы.

Ш а т а л а ў (*радасна*). Забылася, альбо… Ой хітрая! (*Выходзіць, нешта напяваючы*.)

## КАРЦІНА ДРУГАЯ

Вечар. Кватэра Скрылёва. Правінцыяльны пакой. Радыёпрыёмнік. Абразы, якія пры патрэбе закрываюцца фіранкамі з вышытымі на іх партрэтамі правадыроў. Праз дзверы відаць частка другога пакоя. Электрычнае асвятленне. Чуецца званок.

С ц е п а н і д а (*ідзе адчыняць*). А што ж гэта мой не з вамі? Хіба справа якая затрымала?

Уваходзяць Х а д ы к а і К р у г л я ш.

Х а д ы к а. Справа, гаспадынька, вялікая справа.

С ц е п а н і д а. Не ведаю, госцейкі дарагія, чым і частаваць вас. Гарбаткай ці крапчэйшым чым?

К р у г л я ш. Не клапаціцеся, Сцепаніда. Не да гэтага нам.

Х а д ы к а. Тут такая справа, што нічога ў горла не лезе…

С ц е п а н і д а. І ўсё машына гэта? А каб на яе ліха! Мой таксама нервуецца. А як прывезлі яе ў гуту — усю ноч не спаў…

Х а д ы к а. І хто б гэта мог падумаць, што змайструюць яе… Сволачы, звініце пажалста!..

Хадыка і Кругляш садзяцца да стала, закурваюць.

С ц е п а н і д а. Даў жа Бог розум не таму, каму трэба!..

Х а д ы к а. Відаць, і Бог памыліўся. Не адны мы грэшныя.

К р у г л я ш. А гэта шчанё белагубае, Сцёпка… Я, кажа, на машыне за майстра буду дуць. А вы ў свае дудкі… А? Як вам гэта?

Х а д ы к а. Вырадак камсамольскі! Каб яго зямля не насіла, сволач такую!

Чуецца званок.

О, гэта Скрылёў…

С ц е п а н і д а. Зоська, ці ты тамака аглухла?.. Звоняць!

Праходзіць З о с ь к а, за ёю — С ц е п а н і д а.

К р у г л я ш. Ну, зараз Скрылёў нешта скажа.

Х а д ы к а. Баюся я вельмі, як бы крута ён не ўзяў…

Уваходзяць Я з э п і С ц е п а н і д а.

К р у г л я ш (*расчаравана*). А, вось ён хто…

Х а д ы к а. А мы думалі гаспадар, звініце пажалста.

Я з э п. Добры вечар. А брата няма?

К р у г л я ш (*аглядае яго з ног да галавы*). Здалёк, гасцейка…

С ц е п а н і д а. Што ж гэта ты, Язэп, на ноч гледзячы?

Я з э п (*цяжка ўздыхае*). Калі здарыцца што, дык і ноч не перашкода…

С ц е п а н і д а. А божухна! Што ў цябе такое там?

Я з э п (*махае рукой*). І не кажы…

С ц е п а н і д а (*спалохана*). Няўжо памёр хто?

Я з э п (*садзіцца*). Хутка ўсе памром…

С ц е п а н і д а. Ды кажы ты толкам, Язэпка!

Праходзіць З о с ь к а.

Я з э п (*ківаючы на дзяўчыну*). Хамуйла гэта хай бы па вуліцы пасовалася… Лішняе вуха.

С ц е п а н і д а (*крычыць у суседні пакой*). Зоська! Ідзі на двор!.. Папрацуй што-небудзь. Каровам от месіва прыгатуй.

Я з э п. Навошта дарэмна карміць. Усё роўна парэзаць прыйдзецца…

С ц е п а н і д а (*спалохана*). Каго рэзаць?

Я з э п (*раздражнёна*). Каго, каго… Кароў — вось каго!

У с е. Навошта? Чаму?

Я з э п. Вось табе і на! На заводзе жывуць і нічагуткі не ведаюць! Хто сялян непакоіць? Хто па вёсках ездзіць ды на калектыў падбівае? Завод ваш, хай ён гарыць!

Х а д ы к а. Ды ну?

Я з э п. Дугу гну! Нібыта вы першы раз чуеце гэта?

Званок.

Хто гэта?

С ц е п а н і д а. Во, гэта сам ідзе… (*Пабегла адчыняць.*)

Я з э п (*са здзекам*). Дык вось, таварышы пралетарыі, вялікі дзякуй вам! Прыціснулі вы нас так, што ні ў пяць, ні ў дзесяць!..

К р у г л я ш (*змрочна*). Усіх прыціснулі. Нікому цяпер не соладка.

Уваходзяць С к р ы л ё ў і С ц е п а н і д а.

С ц е п а н і д а. Брат вуньдзека прыехаў… Кароў рэзаць трэба…

С к р ы л ё ў. Якіх яшчэ кароў? Здароў, Язэп. Што цябе ноччу сюды прыгнала?

Я з э п. Парадзіцца прыехаў. Дрэнь у нас справы…

С ц е п а н і д а. Кароў, кажа, рэзаць у хуткім парадку. От што.

С к р ы л ёў. Адыдзі ты, Сцепаніда, са сваімі каровамі! (*Да брата*.) Што ты тут ёй нагарадзіў?

Я з э п. А ты хіба не чуў? З вашага завода дырэктар ды яшчэ нехта па вёсках гойсаюць. Сходы робяць, каб на калектывы пераходзілі…

С к р ы л ё ў. Ну дык і што?

Я з э п (*раззлавана*). Дык ды дык — выходзіць індык! Вось што!

С к р ы л ё ў. Няўжо моцна ўплываюць на сялян?

Я з э п. Каб ты бачыў, як заварушыліся!

Х а д ы к а. Няўжо мужыкі ў калектыў хочуць?

Я з э п. Яшчэ і як!

С к р ы л ё ў. Хто да калектыву больш хіліцца?

Я з э п. Галота! Тыя, у каго штаны адны, а сарочак яшчэ меней.

С к р ы л ё ў. Ну, гэтым трацiць няма чаго. Не ў пельку, дык у пекла.

Х а д ы к а. А серадлякі? Яны як?

Я з э п. За галотай пайшлі! Здраднікі!

С к р ы л ё ў. А вы што?

Я з э п. Хто што. Адны пастраляць хочуць вашых ездуноў, а другія Бога маліць да папоў пайшлі…

С к р ы л ё ў. А ты сам што думаеш рабіць?

Я з э п. Я? Кароў буду рэзаць.

С к р ы л ё ў. Нашто?

Я з э п. На тое! А зямлю да ядронай цёткі! На адну дзесяціну сяду, будыніну пад агонь пушчу. Вось тады на, бяры мяне ў калектыў!.. Бедака беспарточнага…

С к р ы л ё ў. А грошы куды дзенеш?

Я з э п. У лапаць…

С к р ы л ё ў (*стукае сябе кулаком па лбе*). Дурань! Табе калектыў той патрэбен, як мне сацыялізм іхні!..

Я з э п. Ды зразумей, калі ўсе ў калектыў пойдуць…

С к р ы л ё ў. Не пойдуць.

К р у г л я ш. Не пойдуць, дык зробяць так, што самі пабягуць.

Я з э п. Во! А я, як грыб паганы, сярод дарогі тырчаць буду. Разам зломяць… Ліквідуюць, і голы як бізун застануся… А так, хоць грошы зберагу.

С к р ы л ё ў. Цяжка, брат, тут што-небудзь раіць. Бадай, што ты разумную думку выказаў. Рабі так. (*Уздыхае.*) Горка рэдзька, ды ядуць, ліха замужам, ды ідуць…

Х а д ы к а. Чаго добрага і да нас дабяруцца… Не паглядзяць, звініце пажалста, што пралетарыяты заводскія.

Я з э п. А то як жа. Вельмі проста дабяруцца. Зямля ёсць, каровы ёсць, ну і заціснуць.

С к р ы л ё ў. Нішто, мы яшчэ паборaемся. І ўсё гэта з-за машыны марозаўскай, каб яе пярун ляснуў!

Я з э п. Якой машыны?

С к р ы л ёў. Машыну шкловыдзімальную тут адна сволач прыдумала.

С ц е п а н і д а. Ды ты сядзь! Дай Бог усё добра будзе.

С к р ы л ё ў. Ды адыдзі ты з Богам сваім!

С ц е п а н і д а. Ціха, ціха.

С к р ы л ё ў. Вось табе і ціха, ціха! Спіць твой Бог, ядрона вош! Яму і гора мала. А тут во адзін спраўляйся.

С ц е п а н і д а пакрыўджана падціскае губы і выходзіць у другі пакой.

Х а д ы к а. Металісты, ці бачыш, машыну змайстраваць узяліся. Ну, спаборніцтва і запрапанавалі…

К р у г л я ш. Мы, кажуць, машыну вам будуем, а вы, кажуць, на калектывізоўку вёску пераводзьце…

Я з э п. Хвароба б іх ела! Ды ім якая справа да нас?

С к р ы л ё ў. Да сацыялізму спяшаюцца… У нас, значыць, індустрыялізацыя, а ў вас калектывізацыя…

Х а д ы к а. А дырэктар наш і рад, каб у партыі сваёй выслужыцца. Сволач, звініце пажалста…

Я з э п. Дык вы от так і будзеце сядзець склаўшы рукі? Няўжо дазволіце сябе за каршэнь узяць?

С к р ы л ё ў. Хіба мы цямцюры цара нябеснага? Мы, Язэпка, яшчэ паваюем. Заўтра паглядзім, як іхняя машына пойдзе… Ха-ха-ха!..

Х а д ы к а. Дык ты што, усё наладзіў? Зрабіў так, каб камар носа не падтачыў?

К р у г л я ш. Пойдзе ці не пойдзе? Чаго маўчыш?

С к р ы л ё ў. Пойдзе, пабяжыць… Ух, на кавалачкі разнясе!

К р у г л я ш і Я з э п. Ды ну?!

Х а д ы к а. З табой размаўляць, звініце пажалста, дык лепей жалезны боб есці. Скрылёў, ды не цягні ты за душу! Кажы, што і як.

С к р ы л ё ў (*прыкладае палец да губ*). Цс-с!.. Маўчок!.. Ні слова!..

Р а д ы ё п р ы ё м н і к. Увага! Увага! Слухайце ўсе! Слухайце!..

Я з э п. Ой, што гэта?

С к р ы л ё ў (*паказвае на радыёпрыёмнік*). Радыё залапатала.

Р а д ы ё п р ы ё м н і к. Правядзенне практычных мерапрыемстваў па ліквідацыі кулацтва як класа немінуча завастрае класавую барацьбу ў краіне. Кулак высоўвае і будзе высоўваць новыя формы класавай барацьбы…

С к р ы л ё ў і К р у г л я ш. А як жа!.. Будзем, будзем!

Р а д ы ё п р ы ё м н і к. Будзе ўжываць усе намаганні, каб перацягнуць серадняка на свой бок…

Я з э п і С к р ы л ё ў. Пацягнем, мілыя, і прыцягнем!

Х а д ы к а. А што ж ты думаў, звініце пажалста?!

Р а д ы ё п р ы ё м н і к. У першую чаргу неабходна прыняць меры, каб забяспечыць чыстасортным насеннем бядняцкія гаспадаркі…

Я з э п (*паказвае радыёпрыёмніку фігу*). А гэтага ты не хочаш? Як мы не дамо, дзе возьмеш насенне? Дзе?

Х а д ы к а. Бач, насенне ім трэба. Самому жэрці няма чаго, звініце пажалста.

Р а д ы ё п р ы ё м н і к. Усё лішняе насенне, якое ёсць у кулацкіх гаспадарках, павінна быць здадзена добраахвотна. Усіх кулакоў, якія будуць супраціўляцца, неабходна арыштаваць, а маёмасць іх канфіскаваць…

Я з э п. Во, на табе, у глотку тваю! Задушыся! (*Хоча заткнуць сваёй шапкай радыёпрыёмнік.*)

С к р ы л ё ў (*адпіхае брата*). Чакай, радыё сапсуеш. (*Выключае радыёпрыёмнік.*) Во, бачыш, і замаўчала.

Я з э п (*хапаецца за галаву*). Глядзіце, што гаворыць! Ды яшчэ на ўвесь голас!

Х а д ы к а. А гэта ж усё і за граніцай людзі слухаюць…

Я з э п. Вось анціхрысты, на ўвесь свет абняслаўліваюць! Ну што тут рабіць? Што рабіць? (*Кідаецца на ложак і хавае твар у падушкі.*) Дайце рады! Дайце рады!

С к р ы л ё ў (*да брата*). Сціхні!.. Я вось што думаю. Арганізавацца трэба вам. Паціхеньку ўбіваць у галовы, што, калі ў калектыў пойдзеш, хлеб па казённай цане прадаваць прымусяць. Замест пяці-шасці рублёў — па два цалковых атрымаеш, і без усякай удзячнасці. А калі пачнуць угаворваць ісці ў калектыў, вам трэба ўсю жывёліну прадаць, да пеўня ўключна.

Грошы ў анучу і ў адных портках, у чым маці нарадзіла, шпар усім сялом у калектыў! Без кароў, без коней, без хлеба!.. Няхай будуюць сацыялізм на голым каменні! Хай спрабуюць!

К р у г л я ш (*стукае кулаком па стале*). Во, во! Лоўка пушчана!..

Х а д ы к а. Ну і галава, ну і розум! Табе б наркамземам быць, звініце пажалста! Ха-ха-ха!..

З другога пакоя выходзіць С ц е п а н і д а.

С ц е п а н і д а. Можа б, падсілкаваліся для весялосці?..

С к р ы л ё ў. Чаму ж не? Ты што ж дагэтуль маўчала?..

Званок.

Каго там нясе? (*Ідзе адчыняць дзверы*.) Хто там?

Л ю б а. Я!..

С ц е п а н і д а. Дачка прыйшла. Хадземце, даражэнькія, да стала. Я тое-сёе падрыхтавала. Ужо выбачайце, калі што не так…

Х а д ы к а, К р у г л я ш і С ц е п а н і д а выходзяць. З ложка ўстае і сунецца ў суседні пакой Я з э п. Уваходзяць Л ю б а і С к р ы л ё ў.

Л ю б а. Чаму гэта вы, татанька, самі адчыняеце?

С к р ы л ё ў (*сярдзіта*). Лёкаяў для цябе яшчэ не наняў!.. Ты што, не магла праз двор зайсці? П-паненка!

Л ю б а (*бесклапотна*). Вы нешта ў дрэнным настроі, татанька.

С к р ы л ё ў. Ты дзе тулялася, дзеўка?

Л ю б а. Гуляла. Ведаеце, на вуліцы такое дзіўнае надвор'е!

С к р ы л ё ў. З кім гуляла? Чаго язык прымарозіла?

Л ю б а (*збянтэжана*). Як з кім? З сяброўкаю.

С к р ы л ё ў. А твая сяброўка часам не ў штанах ходзіць? У яе, выпадкам, партыйны білет не ляжыць у пінжаку? Думаеш, я не ведаю, што ты з Шаталавым скруцілася?!

Л ю б а. А што, з ім хіба няможна прайсціся?.. Сакратар ячэйкі, падхадзяшча. Усе нават зайздросцяць, а вы ў прэтэнзіі нібы…

С к р ы л ё ў. Нашто да пары Ваську Шунейку труціш? Галаву хлапцу закруціла…

Л ю б а (*смяецца*). Сам закруціўся… Вельмі мне трэба…

С к р ы л ё ў. Ой, глядзі ў мяне, дзеўка!

Л ю б а. Ды што вы, татанька, мне свае пачуцці навязаць хочаце! А з маімі зусім не лічыцеся. А я ж чалавек і дзяўчына,

і таксама маю свае ўласныя жаданні. Не забывайцеся, што мне ўжо дваццаць чатыры гады і аб сваім шчасці настаў час падумаць.

С к р ы л ё ў. З Шаталавым у цябе што ж? На сур'ёз справа ідзе?

Л ю б а. Я сабою не дазваляю жартаваць. Ужо не дзяўчынка.

С к р ы л ё ў. Любіць ён цябе, значыць?

Л ю б а. Выходзіць так, татанька. (*Заспявала.*)

С к р ы л ё ў. Ну, а ты? У цябе што сэрца гаворыць?

Л ю б а. А гэта пры мне застанецца.

С к р ы л ё ў (*зацікаўлена*). А хто за кім у вас ходзіць?..

Л ю б а. Ты мяне дрэнна ведаеш, татанька. (*Ганарліва выпростваецца.*) Заўсёды за мною ходзяць.

С к р ы л ё ў (*чухае патыліцу*). Так. А з Васькам Шунейкам як быць?

Л ю б а (*раззлавана*). Ды вы што за яго непакоіцеся? Ну хто ён такі? Нейкі фарсуншчык. Нізавы пралетарыят. А Шаталаў — сакратар. Ды калі вы дзявочай душы не разумееце, дык хоць бы сваю выгаду зразумелі. Што вы скажаце, татанька, калі раптам партыйны чалавек і вашым зяцем стане?

С к р ы л ё ў. Ты думаеш, да гэтага дойдзе?

Л ю б а (*з выклікам*). А гэта ад мяне залежыць! Што захачу, тое і зраблю. Я, калі хочаце ведаць, з яго вяроўкі віць буду.

С к р ы л ё ў. Ну, рабі, як знаеш… Да пары толькі Ваську Шунейку з Шаталавым на вочы не трапляйся. Прашу таму, што гэтым ты мне пашкодзіш. Зразумела?

Л ю б а. Не вельмі, але хай будзе па-вашаму. (*Заспявала.*) «Молчи, грусть, молчи…»

С к р ы л ё ў (*улюбёна глядзіць на дачку*). О, сцерва! Уся ў мяне! (*Выходзіць.*)

Л ю б а (*адна, напявае, ідзе да радыёпрыёмніка*). Чаму радыё выключылі? (*Уключае.*) Ніхто не пяе, ніхто не іграе. Сумна…

У дзвярах паказваецца С ц е п а н і д а.

С ц е п а н і д а. Люба, ідзі, дачушка, вячэраць.

Л ю б а. Не чапіся, не хачу.

С ц е п а н і д а. Другі раз для цябе падаваць не буду. (*Выходзіць.*)

Л ю б а. І не трэба…

Паўза.

Сумна… І ў Еўропе не весела…

Чуецца стук у дзверы.

Мама, стукаюць! Адчыні!

Уваходзяць Сцепаніда і Скрылёў. У дзвярах з'яўляецца Язэп.

Сцепаніда (*ідзе да дзвярэй*). Хто б гэта мог быць? Свой пазваніў бы. (*Гучна*.) Хто там?

Шаталаў. Таварыш Скрылёў дома?

Люба (*пляскае ў далоні*). Ой, Шаталаў!

Скрылёў (*разгублена*). Цс-с! Скажы, што ключ у кухні… (*Да гасцей*.) Выходзьце туды, з двара… Ды хутчэй вы!

Хадыка (*стоячы ў дзвярах*). Шапку, звініце пажалста.

Скрылёў (*кінуў Хадыку шапку, той знікае*). Праўду ты казала, дзеўка, справа, відаць, сур'ёзная…

Люба прыхарошваецца, гледзячы ў самавар.

Ты ведала, што ён прыйдзе?

Люба захіхікала.

У, як чалавека раздражніць можна!.. «Правда», дзе «Правда»? (*Соваецца па пакоі, шукае газету*.)

Сцепаніда (*падае яму «Правду»*). Во твая «Правда»!.. Адчыняць?

Скрылёў. Адчыняй. (*Сеў, робіць выгляд, што чытае «Правду»*.)

Сцепаніда (*пайшла адчыняць*). Выбачайце, калі ласка, ключ у кухні быў!..

Уваходзіць Шаталаў, за ім — Сцепаніда.

Шаталаў. Добры вечар!

Скрылёў (*падымаецца, ідзе насустрач*). А-а-а!.. Добры вечар, таварыш Шаталаў! Калі ласка, вельмі рады!

Сцепаніда. Дазвольце, дазвольце шапачку вашу…

Шаталаў (*аддае шапку*). Я, уласна кажучы, на хвілінку… Перадаць сваю знаходку… Вось… (*Падае Любе рыдыкюль*.) Пакінулі вы. Відаць ваш… Калі ласка, атрымайце.

Люба (*апускае галаву*). Дзякую.

Скрылёў (*падсоўвае крэсла*). Сядайце, калі ласка.

Заіграў радыёпрыёмнік.

Шаталаў. Не турбуйцеся. Я, уласна кажучы, якраз назад… Справы… І, дарэчы, позна ўжо… О, радыёпрыёмнік у вас!..

С к р ы л ё ў. Трохлямпавы, заграніцу перадае…

С ц е п а н і д а. Для развесялення дачкі. Сумуе яна ў нас…

С к р ы л ё ў. І таксама для адукацыі сучаснай… Вельмі добрыя лекцыі гаворыць… Наконт сацыялізму і там калгасаў… Цяпер вось нешта іграе. Паслухайце. (*Да жонкі.*) Прынясі нам гарбаткі…

Ш а т а л а ў. Не турбуйцеся. Я, уласна кажучы, зараз і назад выходжу.

Л ю б а. Толькі прыйшлі і ўжо назад. Нядобра так. Хоць на хвілінку застаньцеся.

С к р ы л ё ў. Пасядзіце трошачкі. Мы зараз. (*Выбягае са Сцепанідаю.*)

Л ю б а (*ласкава*). Як добра, што вы зайшлі…

Ш а т а л а ў. Ведаеце, Любачка, вы пайшлі, а рыдыкюль застаўся. Вось я, уласна кажучы, і вырашыў яго занесці.

Л ю б а. Дзякую вам, вы вельмі ўважлівы… І наогул, вы… (*Ціха.*) Вы зусім непадобны на іншых мужчын. Можа, і нядобра, што я так кажу, але гэта сапраўды так…

Ш а т а л а ў. Што вы, Любачка. Я такі, як і ўсе. Кхм… Мне, уласна кажучы, вельмі прыемна, зноў вас бачыць…

Л ю б а. Чаму ж стаіце. Сядайце, калі ласка.

Ш а т а л а ў. Калі жанчына стаіць, мужчыне кепска сядзець.

Л ю б а. Дык і я сяду. (*Села.*)

Ш а т а л а ў. Уласна кажучы, я зараз выходжу назад… Каля вас дазвольце? (*Садзіцца побач з ёю на канапу.*)

Л ю б а. Калі ласка. Зручней нават так размаўляць… і…

Ш а т а л а ў (*гледзячы ёй у вочы*). І?..

Л ю б а (*ціха*). Наогул…

Ш а т а л а ў. Што?

Л ю б а (*апусціла галаву*). Самі разумееце…

Уваходзяць С к р ы л ё ў і С ц е п а н і д а з гарбатаю.

С к р ы л ё ў. Вось і гарбатка. Выбачайце, што доўга прымусілі чакаць.

С ц е п а н і д а. А да гарбаткі, як маеце ласку, пячэнне бярыце.

Падае Шаталаву вазу з пячэннем. Скрылёў падносіць шклянку гарбаты на спадачку.

Ш а т а л а ў. Не турбуйцеся… (*Бярэ пачастунак.*) Я, уласна кажучы, зараз назад…

С к р ы л ё ў. Сядзіце, таварыш Шаталаў. Мы вельмі рады гэткаму госцю… Дачцэ можаце даць палітычную адукацыю.

С ц е п а н і д а. Яна ў нас з малых гадоў вельмі цікавіцца. Яшчэ і васьмі ёй не было, а яна ўжо цікавілася — скуль бярэцца чалавек…

С к р ы л ё ў (*нядобра зірнуўшы на жонку*). Стварэннем чалавека цікавілася… Прыродай…

Л ю б а (*збянтэжана*). Ай, тата! Пакіньце гэта…

Пагасла святло.

Ах!..

С к р ы л ё ў. От, каб на яго ліха!

С ц е п а н і д а. Я зараз лямпу…

С к р ы л ё ў. Хадзем я табе дапамагу. Хутчэй. (*Выбягаюць*.)

Ш а т а л а ў. Навошта лямпа? Не турбуйцеся. Я, уласна кажучы, зараз назад іду… (*Запальвае электрычны ліхтарык, ставіць шклянку з гарбатай на тумбачку*.)

Л ю б а. Як гэта робіцца, што ён запальваецца?

Ш а т а л а ў. Звычайна. Бачыце, вось тут кнопачка. Націснулі — святла няма, націснулі — святло, націснулі — патухла…

Л ю б а. Ой, як цікава!

Ш а т а л а ў (*абдымае яе*). Ндэ… вельмі…

Л ю б а (*не надта настойліва*). Не трэба, Сяргей Аляксандравіч, не трэба… Ой! Запаліце святло. Татанька ўвойдзе з лямпаю, убачыць… Запаліце святло.

Шаталаў запальвае святло і свеціць проста ёй у вочы.

Ой, проста ў вочы! У вочы свеціце! (*Адводзіць яго руку з ліхтаром, і прамень падае на Шунейку, які ўвайшоў з двара*.) Міленькі, толькі не тушы. Вось так. (*Убачыла Шунейку, які стаіць у дзвярах.*) Ай!

З лямпай уваходзіць С к р ы л ё ў, за ім — С ц е п а н і д а.

С к р ы л ё ў (*бадзёра*). А вось і святло.

Ш а т а л а ў (*падхапіўся*). Я, уласна кажучы, на хвілінку зайшоў… Аддаць вашу рэч. Дзякуй за гарбату. (*Ідзе да выхаду*.) Бывайце. У мяне справы…

С к р ы л ё ў. Чаго ж так мала пабылі? Дазвольце тады пасвяціць вам.

Ш у н е й к а (*злосна*). У яго свой ліхтар ёсць!

С к р ы л ё ў і С ц е п а н і д а (*здзіўлена*). Шунейка, ты? Адкуль ты ўзяўся?

Ш а т а л а ў таропка выходзіць. Шунейка варожа глядзіць яму ў спіну, хоча кінуцца за ім. Скрылёў загароджвае яму дарогу.

Ш у н е й к а. Сволач! Морду скрывяню!

С к р ы л ё ў. Стой! Ці ты здурэў?

Л ю б а (*кідаецца да Шунейкі, абдымае яго*). Васечка!

Ш у н е й к а (*мякчэй*). Што, Васечка?

С к р ы л ё ў (*з таямнічым выглядам прыкладае палец да губ*). Цс-с! Пасля наб'еш… Ты ведаеш, чаго ён сюды прыпёрся?

Ш у н е й к а. Не такі я дурны, як вы думаеце. Ён за Любкай бегае. (*Злосна*.) А вы яго гарбаткай частуеце!

С к р ы л ё ў. Кінь глупства гаварыць. Ідзі сюды… (*Ціха*.) Ён правярае палітычную пільнасць.

Ш у н е й к а (*падкусліва*). Чыю, калі не сакрэт?

С к р ы л ё ў (*стукае сабе кулаком у грудзі*). Маю!

Ш у н е й к а (*з крывой усмешкай*). Глядзі, як бы з гэтай праверкі Любка не нарадзіла!

Л ю б а. Вася! Як табе не сорамна!

С ц е п а н і д а (*паказвае на Любу*). І яе пытаў.

С к р ы л ё ў. На арапа браў.

Л ю б а. Здалёк заходзіў. Ну нібы любоў да мяне адчувае…

Ш у н е й к а (*недаверліва*). А ты што?

Л ю б а. Плюю я на яго…

С к р ы л ё ў. Чуеш? Плюе!

Ш у н е й к а (*спакайней*). Не лжэш?

Л ю б а. Васечка, бачыш? (*Хрысціцца*.) А я ў Бога веру…

С к р ы л ё ў (*пераканана*). Дарэмна яна не перахрысціцца.

Шунейка аглядае ўсіх па чарзе.

С ц е п а н і д а. Не, не. Вось табе крыж. (*Хрысціцца*.) Ніхто табе не маніць. Ты ж нам, Вася, як родны.

Ш у н е й к а (*уздыхае*). Нервуюся я… Усё здаецца… Э-эх!.. (*Хоча кінуцца да дзвярэй*.)

Л ю б а (*спыняе яго*). Вася! Любы!

Ш у н е й к а. Эх, люблю цябе, сцерву!.. (*Рэзка абдымае яе*.)

С к р ы л ё ў. А як машына?

Ш у н е й к а. Маліся Богу… (*Цалуе Любу*.)

С к р ы л ё ў. Не пойдзе, значыцца?

Ш у н е й к а. На кавалкі! (*Зноў цалуе Любу.*)

С к р ы л ё ў (*хрысціцца*). Госпадзі… Ісусе…

С ц е п а н і д а. Царыца нябесная…

## КАРЦІНА ТРЭЦЯЯ

### З'ява першая

Кантора завода. Голыя пісьмовыя сталы. На іх ляжаць лічыльнікі. У памяшканні Андрэеў і Курленя.

Андрэеў (*заклапочана*). Курленя, ты адзін едзеш сёння на вёску?

Курленя. Адзін. А ў чым справа?

Андрэеў. А чаму не з Шаталавым?

Курленя (*махае рукой*). Э-э! Знайшоў на каго спадзявацца. Я і адзін спраўлюся, усё падрыхтавана. Амаль чатырыста двароў на калектыўную гаспадарку пераходзіць.

Андрэеў. А як з інвентаром?

Курленя. Хацелі было прадаваць… Ды мы на кааперацыю націснулі… каб захаваць… Пакуль на кантрактацыю возьмуць.

Андрэеў (*садзіцца на край стала*). З машынай, каб ладна было, тады дагонім і перагонім…

У кантору забягае ўсхваляваны Гайдукевіч.

Гайдукевіч. Іван Пятровіч! У гуце ўжо чакаюць! Зараз пачынаем выпрабоўваць.

Андрэеў. Цудоўна! Мы зараз ідзём. Вы, Гайдукевіч, падрыхтуйцеся там як след.

Гайдукевіч. Усё падрыхтавана ўжо, Іван Пятровіч.

Андрэеў. А Мароз там?

Гайдукевіч (*выцірае насоўкай узмакрэлы твар*). Ён з самай начы, з Цыганком там…

Курленя. Хвалюецца стары…

Гайдукевіч. За адну ноч схуднеў… Ну я пабег. А вы, калі ласка, не затрымлівайцеся.

Курленя. Ідзём, ідзём…

Гайдукевіч выбягае.

Андрэеў. Ці паверыш — вось тут у мяне неяк шчыміць. (*Паказвае на тое месца, дзе знаходзіцца сэрца.*) І веру, што ўсё добра будзе, а вось тут… Цьфу ты!.. Перакоп бралі, не так нерваваўся…

Курленя. Гэта ў цябе, браце, з радасці…

Андрэеў. Відаць, так… (*Бярэ са стала паперкі.*) Гэтыя вось запрашэнні трэба адправіць. Паведамляем трэст і металістаў аб прыёме машыны. Паслязаўтра прыедзе камісія…

К у р л е н я (*хавае паперкі ў кішэню*). Сёння ж і адпраўлю. Ведаеш, трэба падрыхтаваць кватэры для членаў камісіі.

А н д р э е ў. Так, так!.. Ой, не забыцца б!.. Наконт сталовай, каб абед… І наогул… Бруд там страшэнны! Хоць бы памылі, чэрці!..

К у р л е н я. Прыбяруць, я сам прасачу. А мне яшчэ трэба падрыхтаваць даклад аб выніках сацыялістычнага спаборніцтва. Металісты прыедуць, рапартаваць ім будзем. А пасля разам на вёску паедзем. Там ужо сельсавет адрапартуе…

Забягае Ц ы г а н о к. Твар яго замурзаны, у руках гаечны ключ.

Ц ы г а н о к. Таварышы, што ж гэта вы, га? Іван Пятровіч! Затрымліваецеe! Усе там сабраліся і хвалююцца… Машына да бою гатова, а вы… у насценную газету просіцеся? Дык я гэта магу хутка зрабіць.

К у р л е н я (*усміхаючыся*). Не сярдуй, Цыганок. (*Да Андрэева.*) Хадзем, а то ён сапраўды нас прапясочыць.

А н д р э е ў. Пайшлі. Ну як, Сцяпан, пераможам?

Ц ы г а н о к (*весела*). Ды мы перамаглі ўжо!

А н д р э е ў. Перамаглі? Нешта я цябе не разумею, Цыганок.

Ц ы г а н о к (*радасна*). А што тут разумець! Я ж кажу, што перамаглі!

К у р л е н я. Няўжо самі выпрабоўвалі?

Ц ы г а н о к. Ыгы.

А н д р э е ў. Дзьмула машына? І бутэлькі добрыя?

Ц ы г а н о к. А во яны… (*Выцягвае з кішэняў дзве бутэлькі, паказвае.*) Дзе там Скрылёву такія зрабіць!

К у р л е н я (*прагна разглядае бутэльку*). Што ж вы нас не пачакалі?

Ц ы г а н о к (*твар адразу становіцца змрочным*). Ніхто аб гэтым не ведае. Мы ноччу выпрабоўвалі. Добра, што вас не чакалі… Магіла б нашай машыне была.

К у р л е н я і А н д р э е ў (*спалохана*). Што?!

Ц ы г а н о к. Вось вам і што! (*Усхвалявана.*) Пайшлі мы ўвечары спаць, а мне не спіцца. Ніяк сон не бярэ — машына ў вачах. Устаў я і пайшоў у гуту да машыны. Хамуток зняў, а ў насосе, а там… (*Цыганок хапаецца за галаву.*) А там…

К у р л е н я і А н д р э е ў. Што?

Ц ы г а н о к (*паказвае кавалачак падпілка*). Во! Падпілак усунулі. Была б немінучая катастрофа…

А н д р э е ў (*перакананa*). Гэта — шкодніцтва.

Ц ы г а н о к. Хто яго ведае. Цяпер цяжка разабрацца. Магло і так быць, што ўдарнікі забыліся… Ведаеце, як дактары ў жываце свае інструменты пакідаюць, так і яны маглі…

К у р л е н я. Як бы там ні было, а гэта магло дрэнна скончыцца. Слухай, Сцяпан, а цяпер хоць машына дзьме?

Ц ы г а н о к. Го, цяпер яна не дзьме, а свішча!..

Здалёк даносіцца музыка.

А н д р э е ў (*прыслухоўваецца*). Што гэта?

Ц ы г а н о к (*ляпае сабе далонню па лбе*). Ой, што вы мяне затрымліваеце!.. Гэта ж прыйшлі па вас з музыкай. Хадземце хутчэй!

Усе трое шпарка выходзяць.

## З’ява другая

Двор гуты. Натоўп рабочых чакае выпрабавання машыны. Частка людзей у гуце. Размовы. Спрэчкі. Ш у н е й к а то ўвойдзе ў гуту, то выскачыць назад, у двор. Падбяжыць да С к р ы л ё в а, аб нечым пашэпчацца з ім і зноў знікае. Іграе аркестр.

П я ц ю н ь к а. О, чуеце, аркестр наш што вырабляе! З музыкай адміністрацыю вядуць.

М а р ы с ь к а. У такі дзень ды без музыкі? Хіба ж такое можна! Вось і дачакаліся мы свята!

Х а д ы к а (*штурхае пад бок Скрылёва*). Ганарлівыя нашы начальнікі. Без музыкі дык і не ішлі, звініце пажалста.

С к р ы л ё ў (*падміргвае Хадыку*). А што ты думаў, браток! Паміраць, дык з музыкай!..

К р у г л я ш (*ціха*). Памруць, кажаш?

С к р ы л ё ў. Выхваляюцца, як ільвы, а загінуць як мухі. Іх усіх машына ўходае. От убачыш.

З хусткай у руцэ да сяброўак падбягае Н а д з я.

Н а д з я. Ой, дзяўчаткі, угадайце, што скажу? Гэта ж наша Параска з бальніцы прыйшла!

Уваходзіць П а р а с к а. Яе адразу абкружаюць.

М а р ы с ь к а (*цалуе сяброўку*). Няма рады як добра, што ты вярнулася! Ды яшчэ ў такі дзень! (*Азірае Параску.*) Нешта ж ты схуднела, Парасачка. І не дзіва — столькі ў бальніцы адлежаць.

Д р у г і  б а н а ч н і к. Маё шанаванне, Параска! Паправілася? Як цяпер у цябе з нагою?

П а р а с к а (*усхвалявана*). Ой, і не кажыце!.. Хацелі, мілыя, нагу пілаваць, ды вось неяк абышлося. Залячылі… А я на машыну паглядзець так ужо спяшалася, так спяшалася! Думала, не паспею. Ой, дзяўчаткі, гэта ж цяпер не будзе каму паліць нас. Ажно не верыцца.

К р у г л я ш. Скажы ты! Інтарэс вялікі вас паліць. Надта каму вы патрэбны.

П а р а с к а (*дэманстратыўна паварочваецца да яго спінай, азіраецца*). А ў вас тут весела… Музыка грае…

К р у г л я ш. Э-эх! (*Ззаду абшчаперыў Надзю*.) Свята дачакаліся, мілыя!

Н а д з я (*адштурхнуўшы Кругляша*). Што гэта цябе забірае, старое заткала?

Х а д ы к а. А яму, Надзечка, дужа весела. З радасці, звініце пажалста…

Н а д з я. Унё! Глянь, і майстры рады…

С к р ы л ё ў. А што ж мы, па-твойму, не пралетарыяты? Хіба не разумеем, што індустрыя — гэта шлях да сацыялізму?

Г в а з д з ё ў. Як чорнаму ворану не дапаможа мыла, так табе, Скрыль, кадзіла. Так што не надта старайся.

П е р ш ы  б а н а ч н і к. Яму б коцікам быць: на печцы ляжаць ды лыжкі лізаць. Бач, як гаварыць навучыўся…

С к р ы л ё ў (*ледзь стрымліваючы сябе*). І вучыцца няма чаго… Палітыка, яна вядомая… Гэта табе не бутэлькі біць.

Ш у н е й к а (*выцягнуўшы шыю, глядзіць паверх галоў рабочых*). Ідуць! Таварышы ўдарнікі, падрыхтуйся! (*Падбягае да Скрылёва*.) Як пойдзем у гуту, адыдзі на ўсякі выпадак убок. Зразумеў?

С к р ы л ё ў (*ціха*). Добра, адыдуся. Не чакаць жа мне, як той дурны вол, абуха? Калі машыну разнясе — ого! Што будзе!

Убягае Ц ы г а н о к. Грыміць блізкая музыка.

Ц ы г а н о к. Таварышы, дайце дарогу! Адміністрацыю вяду!

Х а д ы к а (*ціха*). Каб ты сваю смерць так вёў…

Уваходзяць музыканты аркестра, за імі — А н д р э е ў і К у р л е н я. Апладысменты. Воклічы.

Х а д ы к а (*да рабочых*). Каму гэта вы пляскаеце? Не ім, а Марозу трэба.

К р у г л я ш. Галоўнаму механіку трэба.

Х а д ы к а. Вынаходцу пралетарскаму, звініце пажалста.
Г а л а с ы. Правільна-а! Дзе Мароз?.. Сюды яго!

Некалькі рабочых бягуць у гуту. Адразу ж вяртаюцца, ведучы з сабой збянтэжанага М а р о з а. Усе расступаюцца, даючы старому дарогу. Твар Мароза няголены і схуднелы. Ён анучкай выцірае брудныя рукі.

Ц ы г а н о к (*крычыць да аркестра*). Іграй сустрэчу галоўнаму канструктару — Змітраку Іванавічу!..

Адразу грымнула музыка. Рабочыя вельмі шчыра апладзіруюць старому. Мароз махае рукамі, разгублена круціць галавой.

Ціх-ха-а! Змітрок Іванавіч гаварыць хоча!..

Усё сціхла.

М а р о з. Не, не гаварыць хачу… А так… Не трэба, таварышы, для чаго ўсё гэта? Лепш… паціхеньку… без музыкі…
Ц ы г а н о к. Без музыкі, Змітрок Іванавіч, ніяк няможна… Гэта ж такое свята! Пралетарыят вунь што выробляе!.. Без ухільчыкаў розных да сацыялізму прэ! Хіба гэта жарт вам — падзея такая?!
А н д р э е ў (*усміхаючыся*). Пасля, Цыганок, выступаць будзем. А пакуль што ты не гарачыся. (*Да Мароза*.) Змітрок Іванавіч, гатова ў цябе? Мы чакаем, калі ты запросіш нас да машыны.
М а р о з. Гатова, Іван Пятровіч. (*Здымае шапку, кланяецца прысутным*.) Людзі, заходзьце, як маеце ласку, у гуту…
А н д р э е ў (*урачыста*). Таварышы! Пачнём выпрабаванне нашай новай машыны!
Ц ы г а н о к. Сып, братка, у гуту! Цікаўся!

Радасны гоман. Услед за М а р о з а м, Ц ы г а н к о м і А н д р э е в ы м усе рынуліся ў гуту.

## З’ява трэцяя

Гута. Стаіць новая машына. Усе абкружылі яе, з цікавасцю разглядаюць. М а р о з і Ц ы г а н о к рыхтуюць машыну да пуску.

Г а л а с ы. Вось яна якая!.. Не засланяй, дай зірнуць!..
Ш у н е й к а. Таварышы, не напірай!
Ц ы г а н о к. Таварышы, адсуньцеся крыху, вы перашкаджаеце нам!.. Ударнікі, наводзь парадак!

П е р ш ы   б а н а ч н і к. Таварышы, стань далей!

П я ц ю н ь к а. Адсуньцеся ад машыны! Цётка, давай далей, тут павідла не даюць!

Ш у н е й к а. На два бакі падзяліся! (*Ціха да Скрылёва.*) Глядзі, не падыходзь блізка.

П е р ш ы   к а т а л ь ш ч ы к. А мы вось куды скокнем. (*Лезе на рэйкі.*) Дзеўкі, прымашчвайся! (*Падае руку дзяўчатам.*) Хутчэй лезьце!

П я ц ю н ь к а (*таксама лезе на рэйкі*). Ух і цёпленька ж тут!

П е р ш а я   д з я ў ч ы н а (*спалохана*). Ой! Пецька, не спіхні мяне!

Д р у г а я   д з я ў ч ы н а. От, небарака, на рэйкі не ўзлезе. А яшчэ мужчына! Давай ужо руку, падмагу.

Г в а з д з ё ў (*задраў галаву, глядзіць на рэйкі*). Хэ-хэ!.. Нібы вераб'і на плоце!..

Г а й д у к е в іч (*падыходзіць да Мароза*). Ну як, Змітрок Іванавіч, пачынаем?

А н д р э е ў. А як шкламаса, Аркадзь Пятровіч?

Г а й д у к е в іч. Добрая.

А н д р э е ў. На ўсякі выпадак усё ж праверце.

Г а й д у к е в і ч. Можна… (*Да майстроў.*) Таварышы майстры, хто з вас выдзьме пробу?

С к р ы л ё ў (*чухае патыліцу*). Эх, выдзьмуць, ці што? Можа, апошні раз. Можа, новы майстар запрацуе…

Бярэ трубку, падыходзіць да печы, у якой знаходзіцца шкламаса. Суе трубку ў дзірку, выцягвае. На канцы трубкі шарык шкламасы. Скрылёў пачынае дзьмуць. Шарык паступова павялічваецца ў памерах.

К р у г л я ш (*з захапленнем*). Дзьме, што машына…

Х а д ы к а. Не раўняй. Мы яшчэ не бачылі працы машыны. Пачакай, звініце пажалста…

С к р ы л ё ў (*выдзьмуў шкляны шар, паказвае ўсім*). О, маса, лепшай і не трэба…

Гайдукевіч бярэ ў яго трубку, аглядае. Паказвае Андрэеву.

Г а й д у к е в іч. Можна пачынаць, Іван Пятровіч.

А н д р э е ў (*махае рукой*). Давайце, механікі!

М а р о з. Ну, Сцёпачка, пачнём.

Ц ы г а н о к. Падсобнікі-ўдарнікі, падрыхтуйся!

Г а й д у к е в і ч. Фарсуншчыкі, дай газу!

Гваздзёў і Шунейка амаль адначасова падскочылі да печы.

Г в а з д з ё ў (*адштурхоўвае Шунейку ад фарсунак*). Куды? Я сёння стаю.

Ш у н е й к а (*разгублена*). Таварыш Гайдукевіч, хто на фарсунках?

Г а й д у к е в і ч. Гваздзёў.

Ш у н е й к а (*чухае патыліцу*). Эх, а хацелася мне!..

М а р о з. Ну… (*Плюнуў на рукі.*) Станавіся, Сцёпачка, пушчаем…

Ш а б у н я (*спачувальна*). Нервуецца Мароз…

М а р ы с ь к а. Чаму і не… Жывы ж чалавек…

Ц ы г а н о к. Ціха! Ціха! (*Схіляецца да машыны.*) Даваць?

М а р о з (*уздыхае*). Давай, Сцёпка…

Машына павольна пайшла.

Так, мілая, весялей, родная…

К у р л е н я. Пайшла-а!

П е р ш ы  к а т а л ь ш ч ы к. Яшчэ і як пайшла!

Д р у г і  к а т а л ь ш ч ы к. Ідзе! Ура-ра-а!

Ц ы г а н о к (*да Мароза*). Масу бярэ?

М а р о з. Бярэ, Сцёпка.

Ц ы г а н о к (*заклапочана*). Зараз у форму ўцягне… Ну, ну… Што гэта? Назад пайшла? Не цягне!.. Насос працуе?

М а р о з. Працуе… Пачакай… (*Спалохана.*) Маса стаіць…

А н д р э е ў (*трывожна*). Глядзіце, вунь трубкі накальваюцца…

Ц ы г а н о к. Ваду адкрый!

М а р о з. Адкрыта…

Ц ы г а н о к (*у роспачы*). Не ідзе!.. Што магло здарыцца?

К у р л е н я. Вунь шкло назад выпірае!

А н д р э е ў. Трубкі ўсё больш накальваюцца!

Ц ы г а н о к (*прыслухоўваецца, мацае рукамі машыну*). Во, тут, тут нешта! Супыніце матор!

Моцны выбух. Крык Цыганка. Ён упаў за машынай.

Ш а б у н я (*крычыць перапалохана*). Матор спыні! Варам шпарыць! Згарым!

Андрэеў супыняе матор. Машына стала. З яе валіць пар. Жудасная цішыня. На тварах у людзей разгубленасць і страх.

А н д р э е ў (*глуха*). Ніхто не скалечаны?

К у р л е н я. Дзе Цыганок?

М а р ы с ь к а. Спаліла!

У с е. А-ах!

А н д р э е ў (*кідаецца да машыны*). Цыганок!

М а р о з (*бяжыць услед за Андрэевым*). Сцёпачка!

Ц ы г а н о к. Тут я… (*Стогне, вылазіць з-за машыны, трымаецца за вока.*) Тут…

К у р л е н я. Апаліла?

Ц ы г а н о к. Вока ашпарыла… Эх! Што вока… Машына…

М а р о з (*абдымае Цыганка за плечы*). Ціха, Сцёпачка, спакайней… Усё, гэта самае, бывае…

Ц ы г а н о к. Як жа гэта, Змітрок Іванавіч? Чаму такое?..

М а р о з (*хрыпата*). Паправім… Пойдзе… Не можа не пайсці…

Ш а б у н я (*дае насоўку*). На, завяжы вока.

Цыганок завязвае вока. Мароз яму дапамагае. Усе глядзяць на іх. Паўза.

С к р ы л ё ў (*гучна*). Прапаў пасёлачак рабочых!

В а р а к с а. Ай-я-яй!

П е р ш ы  б а н а ч н і к (*з горыччу*). Што той пасёлак? Машына…

П а р а с к а. Хацеў ты, дзядзька Мароз, парадаваць нас, ды вось не давялося.

К у р л е н я. Не пашанцавала.

Г в а з д з ё ў (*сеў, заціснуў рукамі галаву*). Эх ты!..

А н д р э е ў. Што ж гэта вы, таварышы, ад першай няўдачы галовы звесілі? А я думаў, вы мацнейшыя…

С к р ы л ё ў (*са злосцю*). Якая табе яшчэ моц трэба ад нас?! Шэсцьдзесят тысяч кату пад хвост сунулі і не плачам…

Х а д ы к а. Ндэ… Неба дымам не нагрэеш. Прыйдзецца гэтую каруселю, звініце пажалста, у хлявок паставіць.

Ш а т а л а ў. Ну што ж. Разыходзьцеся, таварышы, па хатах.

С к р ы л ё ў. З музыкай ці як?

Ш а т а л а ў. Разыходзьцеся, разыходзьцеся.

А н д р э е ў. Не загадвай, таварыш Шаталаў! Пакуль што я яшчэ дырэктар!..

Ш а т а л а ў. Так. Пакуль што ты. (*Да рабочых-ударнікаў.*) Таварышы партыйныя, усім на тэрміновае бюро. Прашу не затрымлівацца.

Шпарка выходзіць. Усе моўчкі даюць яму дарогу.

А н д р э е ў. Таварышы, заўтра выходзьце па працу як звычайна. Пазменна.

С к р ы л ё ў. Скончылася музычнае свята.

Ц ы г а н о к (*падымае руку, патрабуючы ўвагі*). Ударнікі, не разыходзьцеся! Машыну рамантаваць будзем!

С к р ы л ё ў (*занепакоіўся*). Нашто яе рамантаваць? Ты лепей сваё вока рамантуй. Чакай ад тваёй машыны карысці, як ад рабой сучкі яек! Будзем дзьмуць, як дзьмулі. Не машына твая, а я, стары шкляр, яе выдзьмуў. (*Паказвае бутэльку*.) Гэй, зірні на яе, вынаходца!

Мароз уздрыгвае, апускае галаву.

Ц ы г а н о к (*кідаецца да Скрылёва са сціснутымі кулакамі*). Сволач! Гад печаны!

Х а д ы к а (*становіцца Цыганку на дарозе*). Ты што, смаркач? У лыч захацеў?

Г в а з д з ё ў. Толькі паспрабуй дакрануцца да яго пальцам!

Х а д ы к а. А то што тады?

Г в а з д з ё ў. Зубы выб’ю і табе ў кішэню пакладу, кулацкая твая душа!

Х а д ы к а. Эх, звініце пажалста! (*Кідаецца да Гваздзёва. Той б’е яго*.) Вой, беспартыйных б’юць!

А н д р э е ў (*разнімае іх*). Гваздзёў, пасаромся! Ты ж партыец! Я пастаўлю аб табе пытанне на бюро!

Г в а з д з ё ў (*цяжка сапучы*). Стаў!

## КАРЦІНА ЧАЦВЁРТАЯ

Кантора завода. У памяшканні К у р л е н я, Ш а т а л а ў, першы баначнік і матэр’яльшчык. Усе кураць.

К у р л е н я. Што гэта Андрэеў затрымліваецца? Глянь, братка, дзе ён.

Матэр’яльшчык выйшаў.

Спазнюся на вёску… Сход там прызначылі… Эх ты!..

Ш а т а л а ў. Справы невясёлыя.

Чуваць галасы. Уваходзіць м а т э р’я л ь ш ч ы к.

М а т э р’я л ь ш ч ы к. Ідзе дырэктар. Чагосьці лаецца з Гваздзёвым.

Уваходзяць, спрачаючыся, А н д р э е ў і Г в а з д з ё ў.

А н д р э е ў. Гэта не мае значэння, хто першы пачаў, таварыш Гваздзёў!.. А біцца сорамна. Ды яшчэ члену партыі. Чулі, таварышы, што Гваздзёў умручыў?

П е р ш ы б а н а ч н і к. Чулі і бачылі.

А н д р э е ў. Я прапаную вынесці таварышу Гваздзёву суровую вымову за такія паводзіны.

Г в а з д з ё ў. За каго вымову, за кулака?

П е р ш ы б а н а ч н і к. Не за кулака, Сеня, а за бойку. Ты рукам волі не давай.

Г в а з д з ё ў (*цішэй*). Душа разгарэлася. Не стрымаўся…

К у р л е н я. Што душа разгараецца, можа, і добра, а што душа бойку падымае, зусім дрэнь. Галасую за вымову Гваздзёву…

Усе падняли рукі. Гваздзёў таксама.

А н д р э е ў (*лагодна*). І ты згодзен?

Г в а з д з ё ў (*змрочна*). Згодзен… Каб ведаў, што так скончыцца, больш бы настукаў…

Ш а т а л а ў. Пераходзім цяпер да галоўнага. Курленя, пішы пратакол… Таварышы, пачынаем па сутнасці…

К у р л е н я. А якая павестка дня?

Ш а т а л а ў. Павестка дня… Дай папяросу. (*Бярэ, прыкурвае.*) «Хто вінаваты», вось якая павестка. Так і пішы, Курленя. У павестку дня ставіцца пытанне — «Хто вінаваты». Трэба разабрацца, каго ўзгрэць за тое, што здарылася на заводзе. Хай райкам пацікавіцца і навучыць таго-сяго з нашых гаспадарнікаў працаваць.

А н д р э е ў. Не пужай, Шаталаў, не страшна…

Ш а т а л а ў. А гэта мы яшчэ паглядзім. Машына ўзарвана… Грошы прапалі… Пасёлка не будзе… Працоўнай дысцыпліны няма… П’янства… Грызня разгарэлася ваўсю… Страты… Хто вінаваты?

К у р л е н я. Ты, значыцца, менавіта цяпер вінаватых шукаеш? Не думаеш ты, Шаталаў, як справе дапамагчы, як выбрацца з такога становішча. А нам трэба раней абмеркаваць, што рабіць, якое знайсці выйсце, а пасля ўжо вінаватых шукаць.

Г в а з д з ё ў. Правільна!

П е р ш ы б а н а ч н і к. Пра тое, каб справу палепшыць, нам цяпер думаць трэба.

Ш а б у н я. Я таксама прытрымліваюся такой думкі.

Ш а т а л а ў (*паглядзеў на ўсіх*). Вось як? Ну што ж. У такім выпадку, слова таварышу Андрэеву… Зрабі нам даклад аб стане спраў на заводзе…

А н д р э е ў. Прыгожа робіш… Шэсць месяцаў я прасіў цябе як сакратара ячэйкі паставіць маю справаздачу на бюро. І ты ж сам адкладаў… А цяпер вось здарылася бяда — будзьце ласкавы адчытвацца… Вінаватых шукаеш, таварыш Шаталаў. Ніякага дакладу я табе рабіць не буду! Скажу коратка. Правал страшэнны. Скрылёў і Хадыка пасля сённяшняга здарэння задзяруць галовы яшчэ вышэй… Што ж датычыць працоўнай дысцыпліны, дык яна нікуды не варта. Група кулакоў-майстроў псуе ўвесь завод. А замяніць іх, вы самі ведаеце, няма кім. Становішча вельмі кепскае. Давайце разам думаць, што рабіць…

Ш а т а л а ў (*пыхнуўшы дымком*). Гм… Што рабіць… Гэта мы ў цябе хочам спытаць. Ты ж кіраўнік…

А н д р э е ў. Так, кіраўнік. Але ўсе мы —члены партыі… Усе нясём адказнасць за прадпрыемства.

Ш а т а л а ў. Запытанні ёсць? Няма? Каму слова?

Усе маўчаць.

Ну што ж, тады я пачну. Па-мойму, ва ўсім, таварышы, вінавата адміністрацыя… Я думаю, што гэтага ніхто з вас не будзе адмаўляць.

К у р л е н я. Бліжэй да справы. Што ты прапануеш?

Ш а т а л а ў. Я прапаную зняць з працы Андрэева, як неадпаведнага свайму прызначэнню… Гэта першае…

К у р л е н я. Так, ясна. А што ж другое?

Ш а т а л а ў. Другое — гэта наладзіць вытворчасць…

Ш а б у н я. Як наладзіць? Якім чынам, цікава ведаць?

Ш а т а л а ў (*пачынае корпацца ў паперах*). Ну, наладзіць, наогул.

М а т э р’я л ь ш ч ы к. Нешта я не разумею. Ты ясней можаш выказацца?

Ш а т а л а ў (*ніякавата кашляе ў кулак*). Скажам, паглыбіць працу…

К у р л е н я. Канкрэтней можна?

Ш а т а л а ў (*з выклікам глядзіць на Курленю*). Я думаю, што трэба пашырыць вытворчасць… І наогул ажывіць усю справу… Андрэеў, калі казаць шчыра, гэтага зрабіць не можа…

Увайшоў Ц ы г а н о к. Стаў і слухае.

Г в а з д з ё ў (*з іроніяй*). Андрэеў, значыць, не зможа. А ты, Шаталаў, зможаш?

П е р ш ы б а н а ч н і к (*кладзе руку на плячо Гваздзёву*). Пачакай, Сямён. (*Да Шаталава.*) Ну, а з машынай як?

Ш а т а л а ў. З машынай гіблая справа. Трэба скончыць гэту дзіцячую гульню. Цяпер ясна ўсім, што мы зрабілі памылку. Трэба яе прызнаць.

Ц ы г а н о к. Ілжэш, Сяргей Аляксандравіч! Няма памылкі, проста паломка нязначная. Трубкі ў размеркавальніку паправім… Запасныя часткі ёсць.

Ш а т а л а ў. Таварыш Цыганок, выйдзіце адсюль! Тут закрытае пасяджэнне бюро!

Ц ы г а н о к. Закрытае? А ты адкрый. Што ж ты без нас аб памылках гаворыш? Не глядзі, не глядзі на мяне так, не спалохаюся. Грозны рак, ды дзе ў яго вочы?.. (*Перадражнівае Шаталава.*) Зрабілі памылку… А калі памылка, дык што ж? А Эдысон не памыляўся? Памыляўся. А з яго смяяліся? Не. Яму пашану выказвалі… А тут свой брат-пралетарыят… Асмяялі і канчаткова зніштожылі… Эх, а без машыны як жа быць заводу?..

Ш а т а л а ў (*больш лагодна*). Я гаварыў, папярэджваў. З Германіі можна было б выпісаць.

Г в а з д з ё ў. Ён гаварыў… З Хадыкам ды са Скрылёвым ты гаварыў.

Ш а т а л а ў (*абурана*). Пры чым тут Скрылёў, не разумею?!

Г в а з д з ё ў. Пры тым, што ён кулак і ты чамусьці туды гнеш…

Ш а т а л а ў. Што? Што ты сказаў?

Г в а з д з ё ў. За дачкой валочышся, у адну з ім дудку іграеш…

Ш а т а л а ў. Ці ты думаеш, што гаворыш? Ты можаш такое пасведчыць?

П е р ш ы  б а н а ч н і к. Пасведчым, калі патрэбна будзе, і не тое.

Ш а т а л а ў. Ну-ну, выкладвай свае козыры. Толькі глядзі, за кожнае слова будзеш адказваць. Ну, я слухаю…

П е р ш ы  б а н а ч н і к (*загінае пальцы на руцэ*). На нарадзе не быў… За машыну выступіць не хацеў… Баяўся Скрылёва…

Ш а т а л а ў. Ілжэш. Пры старонніх такія рэчы гаварыць на партыйнага сакратара?..

Ц ы г а н о к (*з выклікам*). Я не староннi, а член ВЛКСМ з 1928 года.

Г в а з д з ё ў. Чаму ў той вёсцы, дзе Андрэеў з Курленем былі, усе згодны на калектыўную гаспадарку, а дзе ты быў — зад вернуць?.. Таму, што там брат Скрылёва варочае. Гэта ж ты яго ў кааперацыю пасадзіў…

Ш а т а л а ў. Паклёп! Пасведчы!

Г в а з д з ё ў. Добра, прыйдзе час і пасведчу. Мы цябе яшчэ да чысткі вычысцім…

Ш а т а л а ў. Вунь яно што! Дык вы ўсе згаварыліся? Ах так, добра! Пасяджэнне закрыта!

Г в а з д з ё ў. Стой, пачакай закрываць!

А н д р э е ў. Шаталаў, не рабі глупства. На якой падставе ты закрываеш пасяджэнне?

Ш а т а л а ў (*выходзячы*). Мы яшчэ пагаворым дзе след.

Г в а з д з ё ў (*услед Шаталаву*). Не пужай! Троцкага выставілі і нішто жывём…

К у р л е н я. Цішэй, Гваздзёў. Таварышы, я прапаную заўтра паставіць пытанне аб Шаталаве ў райкаме партыі.

П е р ш ы б а н а ч н і к. Правільна! Даўно трэба было!

Ш а б у н я. А зараз што рабіць будзем? Нешта ж трэба вырашаць з машынай.

Ц ы г а н о к. А што тут, Шабуня, вырашаць? (*Схамянуўся.*) Выбачайце, сход адкрыты, ці што?

П е р ш ы б а н а ч н і к. Гавары ўжо, чаго тут.

Ц ы г а н о к. Машыну трэба да толку прывесці! Папраўка — раз плюнуць! Праваліцца мне скрозь зямлю — не брашу!

А н д р э е ў. Я вось што прапаную. Дамо тэлеграму металістам, няхай прыедуць са сваім інжынерам.

Ц ы г а н о к (*радасна*). Во, во! Няхай праверацць… А мы пакуль тут з ударнікамі — здохнем, а адрамантуем…

Урываецца раскалмачаная П а р а с к а.

П а р а с к а. Таварышы, дзядзьку Мароза зараз з пятлі выцягнулі!..

У с е. Што?

П а р а с к а (*папраўляе валасы*). Стаяў ля машыны. Гляджу — нібы плача… Пасля вяроўку на рэйкі закінуў, стаў на карыта, галаву ў пятлю і павіс… Я да яго… Хлопцаў клікнула… Знялі. Баімся аднаго пакінуць, проста да вас на бюро прывялі…

Усе кідаюцца да дзвярэй. Наперадзе — Цыганок. Колькі хвілін кантора пустая. Першым, абняўшы М а р о з а за плечы, ідзе Ц ы г а н о к. За ім — астатнія.

Ц ы г а н о к (*суцяшальна*). Супакойцеся, Змітрок Іванавіч. Нішто, і горш бывае!.. Не гаруй! Мы з табой яшчэ сваю машыну рамантаваць будзем.

А н д р э е ў (*дакорліва*). Эх, Змітрок Іванавіч! Галава з такімі моцнымі мазгамі — і не вытрымаў…

М а р ы с ь к а. Паспрабуй вытрымаць тут! Вы б бачылі, як майстры здзекамі даводзілі яго!

Ц ы г а н о к. А ты наплюй, Змітрок Іванавіч… Вось з Эдысона таксама смяяліся, а ён узяў ды назло ўсім грамафон і выдумаў… Во, моцны чалавек быў. Хоць і буржуй, а ты ж пралетарый.

К у р л е н я. Трымайся, дзядзя Мароз. Давядзём справу да канца. Убачыш, пойдзе машына! Мы верым у яе, чуеш?..

А н д р э е ў. Курленя, едучы на вёску, з вакзала адбі ты тэлеграму металістам аб усім. Патрабуй прыезду інжынера неадкладна.

Ц ы г а н о к (*бадзёра*). Гваздзёў, склікай ударнікаў! Машыну правіць будзем! Змітрок Іванавіч, плюнь на ўсё, кіруй справай, пойдзе машына!

М а р о з. Пойдзе. Склікай ударнікаў. Пайшлі!

З а с л о н а.

## ДЗЕЯ ТРЭЦЯЯ

### КАРЦІНА ПЕРШАЯ

Двор гуты. Ліхтар на слупе. Ля яго стаіць Ш у н е й к а. Праз вялікае асветленае акно відаць ударнікі, якія працуюць. Шунейка асцярожна падыходзіць да акна гуты і глядзіць туды. Чуваць галасы. Шунейка прыслухоўваецца і адыходзіць убок. Уваходзіць Я г о р а ў н а са сваёй суседкай. У руках у Ягораўны вузельчык.

С у с е д к а. Чакай, Ягораўна, не хвалюйся. Нікуды твой стары не дзенецца. Мабыць, тут ён. Зараз я пагляджу…

Ідзе да акна, прыглядаецца.

Я г о р а ў н а. Ну? Нямашака?

С у с е д к а. Нешта робяць… Во, нават сам дырэктар тут…

Я г о р а ў н а. А мой стары там?

С у с е д к а (*весела*). Тут ён! Вунь каля машыны варушыцца. Хадзі сама паглядзі.

Я г о р а ў н а. Баюся… Як убачыць, сердаваць будзе…

С у с е д к а. А ты хадзі, асцярожненька зірні.

Я г о р а ў н а (*нерашуча падыходзіць і глядзіць у акно*). Працуюць… Думала, з галубятні сваёй злезе — кіне. Аж не. І што з ім зрабілася? Мінулую ноч ускочыў з ложка ды ў гуту

пабег… Я яго за кашулю схапіла, не пушчу, кажу, а ён мяне… ды ў грудзі. (Усхліпнула.) Так і пабег у споднiках. (Ціха заплакала.) На старасці мужа згубіла…

С у с е д к а. Не бядуй, рыбанька мая, вернецца ён.

Я г о р а ў н а (*з крыўдай*). Машына яму мілей ад мяне…

С у с е д к а. Стары, што малы, пагуляе і кіне.

Я г о р а ў н а. Суседачка, зайдзі ты туды… (*Дае ёй вузельчык.*) Дай яму… Няхай паесць. Можа, угаворыш, каб з’еў што. Аслабне стары.

С у с е д к а (*спалохана*). Ой, баюся, Ягораўна, я туды ісці!..

Я г о р а ў н а. Чаму, мілая?

С у с е д к а. Машына гэта праклятая, чула, што сёння раніцою нарабіла? Як трэснула, дык усе аж пападалі ад страху! А полымя ды шкло гарачае як пачало людзей шпарыць! Усе ўголас ды бегма ад яе! А яна, нібы Люцыпар, так і пыхкае, так і пыхкае…

Я г о р а ў н а. Божа мой, божа! Ды хто гэта табе казаў?

С у с е д к а. Усе казалі, Ягораўна.

Я г о р а ў н а (*пераканана*). Не, суседачка, не тое нешта ты гаворыш, мілая… Мой гэтакага не зробіць… каб людзей паліла… Не, мілая, ён усю навуку з тэхнікай вывучыў…

С у с е д к а. Вось уся бяда і ідзе з гэтай навукі! Да таго ўжо нанавучваліся, што фабрыкі нейкія парабілі для зерня. А хіба свет машынай пераробіш. Вось таму і ў кіпераціве нічога і няма. Вось і твой ад навукі з глузду з’ехаў. Гэта ж такую машыну зрабіў, каб людзей шпарыла!.. Ану як ізноў яна шусне, не пры нас кажучы? Не, Ягораўна, не пайду я туды!

Я г о р а ў н а (*усхліпвае*). О, госпадзі!.. Ратуй і памілуй!..

С у с е д к а (*нерашуча*). Ведаеш што, Ягораўна? Давай хіба я ў акно яго клікну…

Я г о р а ў н а (*спалохана*). Не, не! Убачыць, дык сердаваць будзе.

С у с е д к а. А ты адыдзіся далей… (*Прыслухоўваецца.*) Ціха, нехта ідзе.

Чуваць галасы.

Ц ы г а н о к (*голас здалёк*). Запасныя часткі ў кузні… Хадзем разам…

Уваходзяць Ц ы г а н о к і П а р а с к а.

П а р а с к а. Кудзелі трэба, каб машыну добра працерці.

Ц ы г а н о к. Там усё ёсць.

Праходзяць.

С у с е д к а. Эй, хлопча!

Ц ы г а н о к (*азіраецца*). Хто тут? А-й, гэта ты, цётачка. Што добрага скажаш?

С у с е д к а. Зрабі ласку, пакліч Мароза. Вуньдзека жонка есці яму прынесла.

Ц ы г а н о к. Дык давайце сюды. Я перадам яму.

С у с е д к а. Не, не! Сам яшчэ зжарэш…

Ц ы г а н о к (*дакорліва*). Веры не даеш?.. (*Падыходзіць да акна, стукае ў шыбу*.) Гэй! Змітрок Іванавіч, ідзі сюды! Хутчэй!.. (*Да суседкі*.) Эх, цётачка, цётачка, і неразумная ж ты! (*Таропка выходзіць*.)

С у с е д к а. Вы надта разумныя! Машыністы! Людзей шпарыць…

Уваходзіць М а р о з. Худы, брудны. Рухі стомленыя, галава нібы ў плечы ўвайшла.

М а р о з (*ціха*). Што трэба? А, суседка, чаго ты?

С у с е д к а. Жонка есці табе прыслала.

М а р о з. Есці? Ага… так… так… Дык давай, ці што… А чаму яна не сама?

С у с е д к а. Ды таго… Сумуе адна. Пакрыўдзілася. Пара ўжо і дадому. Другую ноч не прыходзіш…

М а р о з (*цяжка ўздыхае*). Другую?.. Так… сапраўды… другую…

С у с е д к а. Калі б быў ты маладзейшы — можна ўсякае што падумаць… А ёй крыўдна… Усё-ткі жонка…

М а р о з. Скажы, прыйду. Ужо канчаем. Малайцы хлопцы, добра памагаюць… Нават дзяўчаты і тыя разам машыну ладзяць. І яны тэхніку паважаюць, карысць ад яе адчуваюць… Ну, дзякую, пайду… пакармлю іх…

Я г о р а ў н а (*не вытрымала*). Сам падсілкуйся!.

Мароз уздрыгнуў, павярнуўся на голас.

М а р о з (*здзіўлена*). Ты тут?

Я г о р а ў н а (*усхліпвае*). Тут, мілы… Аладачак напякла… Ты ж любіш…

М а р о з. Вось дзякую табе. І яны гэта любяць. Змарыліся зусім. Не сумуй… Пайду, чакаюць мяне там… (*Выходзіць*.)

Я г о р а ў н а (*з горыччу*). Пайшоў. І не паесць сам… Ой, не будзе дабра!..

С у с е д к а. Я, калі бачыла, што ён кніжкі чытае, навуку гэтую самую з тэхнікай, я тады яшчэ падумала — не будзе дабра. Пойдзем, Ягораўна, пасумуем за самаварчыкам… Павідлу сёння, ужо замест яблычнага, з гнілых сліў выдалі… Вось і тэхніка іхняя ўся тут… Адным у чарзе па дзве гадзіны стаяць трэба, а дачцэ Скрылёўскай дык праз галовы адразу далі і без нормы… Што значыць з Шаталавым пад ручку для рэкамендацыі прыйшла.

Пры апошніх словах старой выходзіць з цемры Ш у н е й к а.

Ш у н е й к а. Пад ручку, кажаш? А ты не брэшаш, старая чапяла?

С у с е д к а. Або! Скуль ты ўзяўся! (*Адыходзіць бліжэй да Ягораўны.*) А брахаць, хлопча, мне няма рахунку. Сама бачыла. Яна хіхікае на ўвесь кіпераціў, а ён з яе вачэй не спушчае. А яна чапурыцца, як свіння, перад дажджом. Вечарынку, кажа, ладзім, дык цукеркі чакалядныя патрэбны нам. Нахабнікі!..

Ш у н е й к а (*змрочна*). Хто кажа пра вечарынку? Шаталаў?

С у с е д к а. Ды не, Любка Скрылёўская! Пахваляецца на людзях, халяўка!

Ш у н е й к а. А ён?

С у с е д к а. Хто?

Ш у н е й к а. Шаталаў?

С у с е д к а. І не пытайся. Як кот марцовы вакол яе. Цьфу! Агідна! (*Да Ягораўны.*) Пачакай, суседачка, я іду.

Я г о р а ў н а з с у с е д к а й выходзяць. Шунейка глядзіць ім услед, аб нечым думае. Потым хутка ідзе да акна гуты, пільна сочыць. Крута паварочваецца, наважыўшыся нешта зрабіць. Уваходзяць Ц ы г а н о к і П а р а с к а.

Ц ы г а н о к (*заклапочана*). Ты, Парасачка, увесь нагар з трубак саскрабі. З дзяўчатамі прашмаруйце як трэба…

П а р а с к а (*выходзячы*). Добра, Сцяпан. Зробім, не турбуйся.

Ц ы г а н о к (*убачыў Шунейку*). Гэй, ударнік! Што гэта ты, брат? Ці адпачываеш ва ўдарным парадку?

Шунейка апускае галаву, ідзе.

Эх, Васіль, дзе твая сіла? Запал твой брыгадзірскі? Ці ты не верыш? Адна няўдача — і скіс. А вось яны, дзяўчаты, вераць… Пойдзе машына…

Ш у н е й к а. Цяпер пойдзе…

Ц ы г а н о к. Цяпер… А раней яна не магла ісці? Не магла?

Ш у н е й к а (*змрочна*). Не магла…

Ц ы г а н о к (*здзіўлена*). Чаму? (*Глядзіць Шунейку ў вочы, той адварочваецца.*) Чаму, я ў цябе пытаюся?

Ш у н е й к а. Адыдзі ты! Чаго прычапіўся? (*Адышоў да ліхтара.*)

Ц ы г а н о к (*дакорліва ківае галавой*). Эх! Што баба з чалавекам робіць!.. Кінь, Вася, не губляй мазгі… Яна з Шаталавым любоў круціць. (*Рэзка паварочваецца і выходзіць.*)

Ш у н е й к а. Што?!

Кідаецца за Цыганком, але заўважае Ш а т а л а в а. Той весела пасвіствае. У руках у яго пакункі. Шунейка спыняецца і чакае, калі Шаталаў падыдзе.

(*Злосна.*) А-а, цябе мне і трэба! Ты куды гэта сабраўся? (*Шаталаў глянуў на фарсуншчыка і ідзе далей. Шунейка падбягае да яго, загароджвае дарогу.*) Стой! Я, здаецца, у цябе пытаюся!

Ш а т а л а ў. Табе, уласна кажучы, што трэба?

Ш у н е й к а. Цьфу, духамі як напырскаўся! Што значыць да бабы сабраўся…

Ш а т а л а ў (*з выклікам*). Цябе гэта не датычыць! (*Імкнецца ісці.*) Дазволь прайсці.

Ш у н е й к а. Куды прайсці? Стой, калі з табой гавораць!..

Ш а т а л а ў. Слухайце, Шунейка, вы што, хочаце мець непрыемнасці? Дык я іх вам абяцаю.

Ш у н е й к а (*крычыць штомоцы*). Да Скрылёва ідзеш? Да бабы? Білет свой партыйны прадаваць? Сволач!

Шунейка б’е яго. Шаталаў выхоплівае з кішэні рэвальвер. У гэты момант у акне з’яўляюцца ўдарнікі. Шаталаў замахваецца рэвальверам. А н д р э е ў адчыняе акно. Р а б о ч ы я выбягаюць з гуты. Першым выскаквае Г в а з д з ё ў.

А н д р э е ў. Шаталаў, не рабі глупства!

Г в а з д з ё ў. Схавай цацку, ваяка! А то зараз адбяру!

А н д р э е ў (*вылазіць праз акно*). Што ў вас тут такое?

Ш а т а л а ў. Напад з-за вугла. Забіць хацеў…

У с е. Што?..

Ш у н е й к а. Брэша, сабака! Па мордзе з’ездзіў і толькі. Існую праўду кажу!

А н д р э е ў (*абурана*). Што гэта робіцца на заводзе — розумам недабяру! Спачатку Гваздзёў, цяпер ты. За што ты яго ўдарыў?

Ш у н е й к а (*апускае галаву*). За сваё… каханне…

Ц ы г а н о к. Во куды сілу прыстасаваў! Ну і ўдарнік!..

Ш у н е й к а (*крычыць*). Ён, гад, да Скрылёва ідзе, да шкодніка! А той дачкой сваёй людзей купляе! Душу з чалавека вымае!..

М а р о з (*лагодна*). Ціха, Вася, супакойся.

Ц ы г а н о к. Моцную душу, Вася, не купіш. Яна не прадаецца.

Ш у н е й к а (*нерашуча*). З машынай ведаеш што было?

Ц ы г а н о к. Ведаю. Паламалася.

Ш у н е й к а (*махае рукой*). Нічога ты не ведаеш! (*Да Мароза*.) Эх, дзядзька Мароз, шкада мне тваёй механікі… Гэта ж я, сабака такі…

Г в а з д з ё ў (*не дае яму дагаварыць*). Вось таму ты і біцца палез. Ідзі астынь. Змітрок Іванавіч, бяры яго ў работу, дурата з галавы хутчэй вылезе.

Шунейка імкнецца нешта сказаць, але Мароз абдымае яго і вядзе за сабой. Шаталаў падбірае з зямлі параскіданыя пакункі.

П е р ш ы б а н а ч н і к. Шаталаў, апамятайся, пакуль не позна. Давай закасвай рукавы ды хадзем бяду нашу папраўляць.

А н д р э е ў. Падумай, што робіш. Коцішся не туды, куды след, таварыш Шаталаў.

Ш а т а л а ў. А вам, уласна кажучы, і каціцца няма куды… Дакаціліся!.. (*Шпарка выходзіць*.)

Г в а з дз ё ў (*гледзячы яму ўслед*). Гуляць пайшоў…

А н д р э е ў. Нядоўга пагуляе… Райкам ужо ведае.

Ц ы г а н о к (*да ўсіх*). Ну, таварышы, павесяліліся і хопіць. Трэба канчаць работу…

Г в а з д з ё ў. Таварыш Андрэеў, ты, братка, ідзі адпачывай. Раніцой табе на вёску ехаць… Глядзі ж, добра ўдар там па скрылёўцах.

А н д р э е ў. Удараць няма чаго… Ляжаць. Курленя выехаў падпісаць умову. (*Уздыхае*.) Вось тут толькі застопарылася…

Ц ы г а н о к. Пойдзе і тут… Машына ж дзьмула?

А н д р э е ў. Ты, Сцёпа, глядзі, зноў не пачні дзьмуць. Гваздзёў, як скончыце, не рабіце глупства, пацярпіце. Інжынер прыедзе, абгледзіць, тады і дзьмі. А без яго ні-ні! Бяды наробіце.

Ц ы г а н ок. Дык жа, Іван Пятровіч, яна ж дзьмула і без інжынера…

А н д р э е ў. Дзьмула ды… (*разводзіць рукамі*) лопнула!

Г в а з д з ё ў. Ідзі, ідзі, Андрэеў, адпачывай. Не затрымлівай яго, Цыганок.

А н д р э е ў развітваецца і выходзіць.

Скончым працу, я на вакзал паеду сустракаць металістаў. А вы не разыходзьцеся. Паглядайце за Марозам, а то ён яшчэ не надта ўпэўнены. Мала што ў галаву чалавеку набяжыць…

Р а б о ч ы я вяртаюцца ў гуту.

Ц ы г а н о к (*узбуджана*). А Шаталаў, во гад! Скажы, хіба Шунейка кепска зрабіў, што па мордзе яму з'ездзіў?

Г в а з д з ё ў. Ты мяне не пытай. За такую язду — я вымову атрымаў.

Ц ы г а н о к. А ўсё ж скажы, хіба ён не меў рацыю?

Гваздзёў нахіляецца і нешта шэпча яму на вуха.

Правільна. Ідзём канчаць.

Выходзяць.

## КАРЦІНА ДРУГАЯ

Кватэра Скрылёва. У першым пакоі іграе радыёпрыёмнік.
Л ю б а круціцца каля люстра. У другім пакоі стаіць накрыты стол.
Каля стала — К р у г л я ш, С к р ы л ё ў і Х а д ы к а.
Да іх падыходзіць З о с ь к а.

С к р ы л ё ў. Падгані там гаспадыню з закускаю.

Зоська выбягае праз першы пакой.

Х а д ы к а. Закусім, значыць?

С к р ы л ё ў. Закусім.

К р у г л я ш (*пацірае рукі*). І вып'ем.

С к р ы л ё ў. За машынку! Ха-ха-ха!..

Х а д ы к а. А здарава яна пайшла, звініце пажалста! Ха-ха!

К р у г л я ш (*выбягаючы*). Хі-хі… з трэскам… ха-ха-ха…

Л ю б а (*незадаволена*). Цішэй! Татанька, перашкаджаеце музыку слухаць…

С к р ы л ё ў. Заткні яе, сваю музыку! Яна мне абрыдла!

Л ю б а. Вам, можа, і абрыдла, а мне, наадварот, вельмі прыемна. З Канстанцінопаля граюць…

Х а д ы к а. З Турцыі, значыць? Лоўка, звініце пажалста.

Уваходзяць С ц е п а н і д а, К р у г л я ш, З о с ь к а і С т а н і с л а в а.
Усе нясуць закуску.

К р у г л я ш. Куды загадаеце, гаспадынька?

С ц е п а н і д а. Ды самі глядзіце. Дзе месца ёсць на стале, туды і стаўце. (*Да Зоські.*) Паварочвайся, дзеўка! (*Крычыць у другі пакой.*) А ты б, Люба, не стаяла! Бачыш, госці памагаюць, а ты ў люстра ўбілася…

Л ю б а. А вы хочаце, каб Шаталаў у фартуху мяне ўбачыў? Вельмі пекна з вашага боку.

С ц е п а н і д а. А чаму не? Убачыць, што ты гаспадарная дзяўчына…

Л ю б а. Ён гаспадарных не любіць… Казала вам — вучыце мяне на раялі, а ён якраз музыку любіць, на мандаліне нават іграе.

С ц е п а н і д а. Уга, мілая! І без раялі ігру сабе знойдзеце…

С т а н і с л а в а. Чым бы яшчэ дапамагчы табе, Сцепанідка?

С ц е п а н і д а. Ды годзе ўжо. Не турбуйся, мілая. Прыйшла ў госці, і на табе, мілая…

С т а н і с л а в а. Ой, Сцепанідка, не магу. І ў гасцях так не магу сядзець.

Х а д ы к а (*з гонарам*). Яна ў мяне руплівая, звініце пажалста.

С к р ы л ё ў. Ды і мая мымра без кухні жыць не можа.

Л ю б а (*са свайго пакоя*). Нецікавае такое жыццё…

С ц е п а н і д а. Вось замуж выйдзеш — знойдзеш цікавасць…

Л ю б а. Ды, відаць, ужо не знайду ніколі.

К р у г л я ш. А чым жа муж карміцца будзе?

Л ю б а. На грамадскім харчаванні.

Усе смяюцца. С ц е п а н і д а, С т а н і с л а в а і К р у г л я ш выходзяць.

Х а д ы к а. Скрылёў, а мы з табой і без грамадскага сыты будзем, звініце пажалста. Хэ-хэ!..

С к р ы л ё ў. Мы будзем. А вось паглядзім, як пралетарыі пракормяцца! Я ўжо ніводнага літра малака ў арцель не даю. Трэснула машына, трэсне і кааперацыя!

Праходзіць з талеркаю ў руках С т а н і с л а в а.

Станіслава, вы ў кааперацыю малако не здаяце?

С т а н і с л а в а (*зняважліва*). Кіпірацыя… (*Ставіць талерку на стол, дае фігі.*) Во ёй! Во, во, во!.. Свінням выллю, а ім не дам. (*Выходзіць.*)

С к р ы л ё ў. О, правільная палітыка!.. Нішто, без нас да сацыялізму свайго не дойдуць… Вось даў бы Бог Шаталава з дачкой спаяць. Ух і справы будуць!

Х а д ы к а. Ну і галава, ну і розум!.. Сталыпін, звініце пажалста.

С к р ы л ё ў. Тады адразу Андрэева з завода каленцам пад зад.

Х а д ы к а. Ты думаеш, яго выжануць?

С к р ы л ё ў (*упэўнена*). Абавязкова!

Х а д ы к а. За машыну?

С к р ы л ё ў. За яе, ненаглядную!

Х а д ы к а. Ха-ха!.. Лоўка, звініце пажалста!..

С к р ы л ё ў. Шаталаў на яго месца сядзе, і ўсім гэтым механікам — амінь.

Х а д ы к а. А як жа калектывізацыя?

С к р ы л ё ў. Плюнь ты на яе! Паздыхаюць раней… Машынкі іхняй няма?

Х а д ы к а. Няма.

С к р ы л ё ў. Ну і калектываў не будзе… Нічога. Бог усё бачыць. Ён, міласцівец, з намі… (*Спалохана*.) Ой, чорт, забыўся!.. Шаталаў не любіць… (*Закрывае фіранкаю абразы*.) Бывае, што і Бог перашкодзіць можа.

Званок.

Л ю б а (*выбягае*). Гэта Шаталаў!

С ц е п а н і д а (*бяжыць услед за ёю*). Шаталаў!

С т а н і с л а в а (*выбягае за Сцепанідай*). Ой, божа! Шаталаў!

К р у г л я ш (*тупае ўслед за жонкай*). О, сам Шаталаў!

С к р ы л ё ў. Падрыхтавацца, сябры! (*Крычыць Сцепанідзе*.) Адчыняй!

Хадыка абчышчаецца, папраўляе гальштук. Уваходзіць Я з э п і за ім з кіслымі тварамі ўсе астатнія.

Л ю ба (*убачыўшы Язэпа, расчаравана адварочваецца*). А-а!.. Вось гэта хто…

Я з э п. Здаровы былі!

С к р ы л ё ў (*незадаволена*). Калі гэта ты паспеў вярнуцца? Ці прыехаў парадавацца з намі? Чуў навіну нашу?

Х а д ы к а (*смяецца*). Машынка іхняя лопнула, звініце пажалста!..

С к р ы л ё ў. Трэснула, брат!

Я з э п (*змрочна*). І ў нас трэснула!

С к р ы л ё ў (*здзіўлена*). Што?

Х а д ы к а. Няўжо калектывы?

С к р ы л ё ў (*радасна*). Праваліліся?!

Я з э п. Праваліліся, брат. Так праваліліся, што ні ў пяць ні ў дзесяць! Мяне з зямлі выгналі, чырвоныя сволачы!

С к р ы л ё ў. Што ты вярзеш?

Я з э п. Голасу пазбавілі.

Х а д ы к а. Ды ну?

Я з э п. А галота з серадняка́мі разам падпісалася на калектыў.

С к р ы л ё ў. Ды калі ж гэта паспелі?

Я з э п. Яны, сволачы вашы заводскія, паціхеньку ездзілі ды агітавалі… А сёння ўвечары раптам сход зрабілі, раз — і рэзалюцыю зляпілі.

К р у г л я ш і Х а д ы к а. Д’ябла!.. Халера!..

С к р ы л ё ў. Бачыў, што робяць? Машынка правалілася, дык каб апраўдацца — змаху калектыў зрабілі.

Х а д ы к а. Вось шкоднікі, звініце пажалста! Не тут, дык там выкруціліся! Га?

С к р ы л ё ў. А вы што ж, ёлупы, на сходзе сядзелі ды маўчалі?

Я з э п. А нам, браце, і сядзець не далі. Усіх выгналі.

Х а д ы к а. Як выгналі, звініце пажалста?

Я з э п. А вельмі проста. Тут бедната, кажуць, а вы кулакі. І ў каршэнь усіх.

С к р ы л ё ў. Вось табе і Андрэеў. Няма ў чорта жонкі, а дзеці нараджаюцца! Цьфу!

Я з э п. Дажывемся цяпер, што сабакі не будзе чым з хаты выгнаць.

Х а д ы к а. Як пры тым, так і без таго, звініце пажалста…

Я з э п. Цяперака ўсё наша, толькі мы не свае.

С к р ы л ё ў. Глядзі, што робяць! Іхнія ж партыйцы кажуць, каб не чапалі кулака. Няхай працуе. І ён у сацыялізм урасце. (*Да Язэпа.*) Вось ты, урасцеш? Урасцеш, пытаюся?..

Я з э п. Куды?

С к р ы л ё ў. У сацыялізм.

Я з э п. Урасту… Урасту… А як падрасту, дык я ім…

Званок.

С к р ы л ё ў. Цс-с!.. (*Ідзе адчыняць дзверы.*) Маўчок!

Л ю б а (*выбягае*). Татанька, гэта Шаталаў!.. (*Падбягае да люстра.*) Хутчэй адчыняй!

С т а н і с л а в а. А божачкі, Шаталаў!

С ц е п а н і д а (*пляскае ў далоні*). Ён, далібог, ён!

К р у г л я ш. Не забудзьцеся, бабы. Яго завуць Сяргей Аляксандравіч. Глядзіце, каб па прозвішчу не называлі.

С к р ы л ё ў (*уваходзіць разам з Шаталавым*). Калі ласка, таварыш Шаталаў. Вельмі вам рады, Сяргей Аляксандравіч!

Ш а т а л а ў (*кладзе пакункі на канапу*). Я, уласна кажучы, на хвілінку.

С к р ы л ё ў. Э, не! Мы вас хутка не адпусцім, Сяргей Аляксандравіч! Нават і не думайце сабе!

Ш а т а л а ў (*вітаецца за руку*). Добры вечар, Любоў Восіпаўна! Маё вам, гаспадынька. У вас госці, здаецца?

С ц е п а н і д а. Дзень нараджэння дачкі, дык сабраліся пасядзець.

Ш а т а л а ў. О, у такім разе, з нараджэннем вас віншую, Любоў Восіпаўна!.. Атрымайце, калі ласка, мой сціплы падарунак… (*Перадае ёй пакункі.*)

С ц е п а н і д а. Ці не вып’еце гарбаткі з намі? (*Да Любы.*) Дачушка, чаго ж ты дарагога госця не запрашаеш?

С к р ы л ё ў. Калі ласка, прашу не адмовіць пасядзець з намі. Як-ніяк — дзень нараджэння дачкі.

С ц е п а н і д а. Не крыўдзіце нас, бацькоў!

Л ю б а (*прыціскае рукі да грудзей*). Будзьце ласкавы… Сяргей Аляксандравіч!..

Ш а т а л а ў. Я, уласна кажучы, на хвілінку… Але, калі ўжо так просіце, пасяджу…

С к р ы л ё ў (*паказвае рукой на дзверы суседняга пакоя*). Праходзьце, калі ласка.

Ідуць у другі пакой. Ш а т а л а ў з Л ю б а й — першымі. У дзвярах ён просіць прайсці яе першай. Люба ў сваю чаргу просіць яго. Ён бярэ Любу за руку, і яны ўваходзяць разам. Хадыка, Скрылёў і Кругляш затрымліваюцца, глядзяць адзін на аднаго.

(*Падміргвае.*) Зразумеў?

Х а д ы к а. Зразумеў, звініце пажалста.

КАРЦІНА ТРЭЦЯЯ

Гута. Каля машыны спяць М а р о з і Ц ы г а н о к. Хто дзе ляжаць ударнікі. Ля фарсунак стаіць Ш у н е й к а. Потым павольна ідзе да машыны. Моцна ўзяўся рукамі за трубкі. Цыганок прачнуўся, падняўся. Убачыў Шунейку, ціха ідзе да яго.

Ц ы г а н о к. Шунейка! Вася!

Ш у н е й к а (*спалохана*). А!

Ц ы г а н о к. Ты чаго?

Ш у н е й к а (*збянтэжана*). Я… Ведаеш, я стаміўся…

Ц ы г а н о к (*супакойвае*). А ты ляж, адпачні…

Ш у н е й к а. Ды мяне нешта сон не бярэ… Чаму гэта інжынер той не прыязджае? Хутчэй бы!..

Ц ы г а н о к (*пазяхае*). Цягнік, відаць, яшчэ не прыйшоў.

Ш у н е й к а. А прыйдзе, дык пан інжынер спаць пойдзе…

Ц ы г а н о к. Не. На вакзале Гваздзёў чакае яго. За каўнер адразу сюды прывалачэ… (*Заклапочана.*) Пробу трэба зрабіць да пачатку працы… Цяпер, відаць, гадзіны дзве будзе. Да раніцы паспеем.

Ш у н е й к а (*нерашуча*). Сцёпа…

Ц ы г а н о к. Чаго табе?

Ш у н е й к а. А што, калі…

Ц ы г а н о к. Што? Машына не пойдзе?

Ш у н е й к а. Не… Не тое… А што, калі б дзядзька Мароз павесіўся канчаткова?.. Памёр бы? Разумееш?.. А праз каго? Не ведаеш?

Ц ы г а н о к. Ш-ш! Цішэй, а то разбудзіш яго…

Ш у н е й к а (*глядзіць сабе пад ногі*). Што з чалавекам зрабіць можна… Эх, Сцёпа, моцным трэба быць!.. Мазгоў не губляць!.. Гэта правільна.

Убягае Ш а б у н я.

Ш а б у н я. Будзі ўдарнікаў… Металісты едуць!.. Ужо на ўзгорак падняліся! Ляцяць ваўсю! Падымай хлопцаў, а я па Андрэева пабягу. (*Выбягае.*)

Ц ы г а н о к (*схіляецца над Марозам, штурхае яго*). Змітрок Іванавіч, уставай! Металісты едуць… (*Да рабочых.*) Эй, брыгада! Пад'ём! Годзе бакі адлежваць!

П е р ш ы  б а н а ч н і к (*сядае*). Што трэба? Чаго галёкаеш?

П я ц ю н ь к а (*працірае вочы*). Што, ядрыхен-махен, машына пайшла?

Ц ы г а н о к. Зараз пойдзе!.. Гваздзёў інжынера вязе!

Усе ўстаюць, гамоняць, пазяхаюць. Мароз хвалюецца, абмацвае дэталі машыны. Падышоў Шунейка, стаў збоку.

Хлопцы, памятай. Інжынер іхні едзе. Немец, замежны, не наш. Мазгі яго толькі ў арэнду ўзялі… Дык памятай, слоў лішніх не балбачы. Каб ведаў ён, што брыгада шкляроў — культурная. А то там у Еўропе нагавораць чаго нядобрага. Нам жа будзе не фасон. Ты, Пяцюнька, устрымайся… моцных слоў не гавары.

У с е. Правільна, Сцёпа.

П я ц ю н ь к а (*пакрыўджана*). Ану вас! Што я сам не ведаю, дзе можна мацюгом пакрыць, а дзе ўстрымацца?..

П е р ш ы б а н а ч н і к (*ляпае па плячы*). Ну, дзядзька Мароз, цікава, што скажа гэты спец замежны!

Некаторыя рабочыя выбягаюць з гуты.

Ш у н е й к а. Дзядзька Мароз, ты толькі не нервуйся. Усё будзе добра, от пабачыш. Дай руку… (*Паўза. Глядзіць на яго, нешта хоча сказаць.*) Пойдзе машына… Не хвалюйся… Яй-богу, пойдзе! Я ж не закляпаў… Не, не закляпаў…

Мароз здзіўлена глядзіць на яго, выслабаняе яго руку і зноў схіляецца над машынай. Чутны галасы.

П я ц ю н ь к а. Ідуць!

П е р ш ы б а н а ч н і к. Прыехалі!

Д р у г і б а н а ч н і к. Нарэшце!

М а р ы с я. Дачакаліся-такі!

Ц ы г а н о к. Таварышы, падрыхтавацца! Станавіся кожны на сваё месца!..

Уваходзяць Г в а з д з ё ў, Д ы м а ў, некалькі рабочых металістаў і і н ж ы н е р.

Г в а з д з ё ў (*да сваіх спадарожнікаў*). Вось чакаюць вас. Так з раніцы і не выходзілі. Рамантавалі машыну.

Д ы м а ў. Добрага здароўя, таварышы! Нядобра ў вас з машынай выйшла. Як толькі тэлеграму вашу атрымалі — адразу ў дарогу. Нам таварыш Гваздзёў усё растлумачыў. Завод накіраваў нашага інжынера, які будаваў машыну сумесна з вашым вынаходцам Марозам.

Інжынер падымае капялюш.

Ён абгледзіць, праверыць і дакапаецца ў чым справа.

К р э й ц б е р г. О, так!.. Я буду докапалься!.. Машын, который сконструироваль ваш изобретатель и который я строиль, дольжень работайт. Машын, который не работайт, я не строиль. (*Да Мароза*.) Гер Мароз, здраствуйт! Давайт посмотрель… (*Скідае паліто, пінжак, закасвае рукавы. Падыходзіць да машыны, аглядвае*.) О, вы уже ее починиль!

М а р о з. Вось ударнікі нашы дапамаглі.

К р э й ц б е р г. Ударник?.. О, корошё, отшень корошё! Когда вы пускайт машын, воздушный насос работайль?

М а р о з. Прац… Работаў…

К р э й ц б е р г (*працягвае аглядаць машыну*). Ага… И масу браль…

М а р о з. Браў, пан Крэйцберг.

Ц ы г а н о к. А вось як маса пайшла — вось тут і затрымалася…

К р э й ц б е р г (*не разумее*). Затры…

М а р о з. Застанавілася.

К р э й ц б е р г. Остановильс…

Ц ы г а н о к (*хвалюючыся*). Ага!.. Далей не пайшла ў формы. А насос з ванны яе цягне. Ну, трубкі і не вытрымалі.

П я ц ю н ь к а. І як дзергане к ядронай баб… (*Цыганок сярдзіта цыкае на яго*.) Выбачайце, у паветра, аж і сказаць немагчыма!..

К р э й ц б е р г. Так… Отшень не корошё.

Ц ы г а н о к. Во, грамадзянін інжынер, як распёрла трубкі… (*Паказвае трубку*.) Не дазваліцельна.

К р э й ц б е р г. Отшень недозволительно… (*Аглядае трубку*.) Гер Мароз, давайт посмотрель…

Крэйцберг з Марозам схіляюцца над машынай. Астатнія моўчкі стаяць збоку.

Так, так… Машын дольжень был работайт, но кто-то не захотейль, и машын не работайль.

У с е. Што? Як так?

К р э й ц б е р г. Гер Дымаў!

Дымаў падае яму трубку.

Вось здесь клапон. Когда маса пошойль в распределитейль, клапон закрывайлься. Полючылься закупор. Насос тянуйль, а масса выходить не могло. Давлений на стенка — и полючылься… этот…

Ц ы г а н о к. Выбух.

К р э й ц б е р г. Взрыв! (*Паказвае Дымаву*). О, кусок желез кто-то совайль и закрыль клапон. Если кусок желез немножко клепать, тогда биль взрыв всей машын…

Шунейка падыходзіць бліжэй да машыны.

Кто положиль этот кусок желез? Человек, который не хотейль, чтоб машын работайт. Этот человек подлец!

Усе стаяць і здзіўлена глядзяць адзін на аднаго.

Ц ы г а н о к (*усхвалявана*). Таварышы, чулі? Змітрок Іванавіч, га? Гваздзёў, чуеш?

Г в а з д з ё ў. Чакай, Цыганок, пасля разбяромся. (*Да Крэйцберга*.) А цяпер, грамадзянін інжынер, машына пойдзе?

П е р ш ы б а н а ч н і к. Пойдзе?

Ц ы г а н о к. Будзе машына працаваць?

Усе абступілі інжынера і з трывогай глядзяць на яго.

К р э й ц б е р г (*усміхаецца, ляпае па плячы Цыганка*). Какой короший молёдож, отшен любит свой завод!.. Машын пойдет… Гер Мороз, можно начинайт.

Агульная радасць.

Ц ы г а н о к. Гваздзёў, давай гудок, склікай усю гуту. Хлопцы, станавіся на свае месцы.

К р э й ц б е р г (*апранаючыся*). Гер Мороз, начинайт…

Чуецца працяглы гудок.

М а р о з (*загадвае*). На фарсункі! Газу!

Убягаюць С к р ы л ё ў і Х а д ы к а.

С к р ы л ё ў. Што здарылася? Чаму гудок?

Х а д ы к а. Жартуеце, звініце пажалста? Ай, як нядобра!

Г в а з д з ё ў. Глядзіце, майстры, і памятайце, што праз некалькі хвілін вы будзеце нам не патрэбны. Зараз машына пойдзе на поўную!

Ш у н е й к а (*падыходзіць да Скрылёва, ціха*). Што, Скрылёў? З'еў? Думаеш, закляпаў я? (*Суе яму пад нос фігу*.) На, выкусі!

Хадыка кідаецца да ванны. Шунейка хапае яго.

К р э й ц б е р г. Гер Мароз, включайт мотор.

Мароз наважваецца ўключыць матор.

Ш у н е й к а. Стой! Хадыка медзь кінуў у ванну!

Некалькі чалавек кідаюцца на дапамогу Шунейку і хапаюць Хадыку. Хадыка хоча вырвацца.

К р э й ц б е р г (*з трывогай*). Что он сделаль?

П е р ш ы  б а н а ч н і к. Масу хацеў сапсаваць.

П я ц ю н ь к а. Ах, тваю…

Ц ы г а н о к. Пяцюнька, далей не гавары!

К р э й ц б е р г (*падыходзіць да Хадыкі*). Подлец!

Ц ы г а н о к. Вучыся, Пяцюнька, можна і адным словам забіць…

Ш у н е й к а (*выцягнуў з ванны медзь і паказвае ўсім*). Зірніце, кавалачак які падсунуў, сабака!

П е р ш ы  б а н а ч н і к. Уся ванна да чорта пайшла б.

С к р ы л ё ў  свішча і выбягае. Х а д ы к а  вырываецца і кідаецца ўслед за ім.

Ц ы г а н о к. Арыштаваць шкоднікаў!

Рабочыя бягуць за майстрамі.

Ш у н е й к а (*да Цыганка*). Сцёпа, і мяне таксама трэба…

Ц ы г а н о к. Што?

Ш у н е й к а. Арыштаваць. Гэта я… па загаду Скрылёва… той кусок жалеза…

Ц ы г а н о к (*уражаны*). Так, ясна… Ну, а чаму ж не закляпаў?

Ш у н е й к а (*апусціўшы галаву*). Не змог… супраць сваіх такое… Апамятаўся…

Ц ы г а н о к. Так… Ну што ж, Вася, пазней разбяромся. На агульным сходзе гуты ты павінен усё расказаць.

Ш у н е й к а. Добра, Сцёпа…

Убягаюць  А н д р э е ў, Ш а б у н я  і  і н ш ы я.

Ш а б у н я. Што ў вас тутака робіцца?

П е р ш ы  к а т а л ь ш ч ы к. Чаму гудок быў?

К а с і р. Пажар?

А н д р э е ў. Няўжо зноў няшчасце?

Ц ы г а н о к. Шчасце, Іван Пятровіч! Машыну пушчаем! (*Да інжынера.*) Грамадзянін інжынер, дазвольце мне пакамандаваць… Хлопцы, на свае месцы! Змітрок Іванавіч, уключай матор! Даеш бесперапынку! Пераганяй Еўропу!

Машына пайшла поўным ходам. Загулі фарсункі.

З а с л о н а.

***1929***



# ДВОЙЧЫ НАРОДЖАНЫ

Ціхая раніца. Вясновае сонца залівае малады лес. У зялёных карункавых воблачках стаяць тонкія бярозкі. А побач з гнуткімі беластвольнымі дрэўцамі, якія зусім нядаўна выкінулі лісцікі, расце хвойнік. Ад яго парасткаў з клейкімі пупышкамі, нагрэтых сонцам, ідзе прыемны смалісты пах.

Ціха ў лесе. Быццам яшчэ не прачнуўся.

Раптам недзе ў гушчары загучала песня. Вясёлая, зухаватая, з прысвістам, яна разбудзіла лес, гучным рэхам аддаючыся ў сасновым бары.

Ой ды гуляў вецер
ды у чыстым полі.
Гэй!
Гэй!
Дзе шукаў малойчык
сваёй яснай долі,
дзе шукаў малойчык
сваёй яснай долі…

З зарасніку на паляну выйшаў прыгожы зграбны хлопец. Гэта Рыгор Лопух. Датэрмінова вызвалены з Гомельскай працоўнай калоніі, ён спяшаецца ў сваю родную вёску, каб пачаць новае, сумленнае жыццё. Ён крочыць па бязлюднай, залітай сонечным святлом дарозе шырока, бадзёра, упэўнена. За спіной матляецца невялікі клунак. Гэта ўсё яго багацце. Але твар у Рыгора шчаслівы. Ён жа так даўно не бачыў роднага, мілага яго сэрцу кута! І здавалася, што ўсё наўкол — і лес, і сонца, і блакітнае неба з воблачкамі — таксама з цеплынёй сустракаюць свайго вясёлага небараку-земляка, былога канакрада. Вось і спявае Рыгор, не ведаючы, як выказаць свае пачуцці, сваю любоў да родных мясцін, якіх ён доўга не бачыў і па якіх дужа засумаваў. Далёка па лесе разносіцца яго маладзецкі голас:

А дзе ж тая долечка,
што не адшукаці?
Гэй!
Гэй!
А дзе ж тая дзяўчыначка,
што не распазнаці?
Ух! А дзе ж тая дзяўчыначка,
што не распазнаці?
Можа, тую дзяўчыначку
лепш і не шукаці!
Гэй!
Гэй!

Лёгка пераскочыўшы цераз пень, хлопец ідзе, энергічна махаючы рукой, быццам дырыжыруе самому сабе. Позірк яго ледзь насмешлівы, поўны маладога запалу. Разам з песняй на волю вырываецца шчырая душа.

Бо няма ў малойчыка
ні двара, ні хаты.
Бо няма ў малойчыка
ні двара, ні хаты.
Ой ды гуляў вецер
ды у чыстым полі.
Гэй!
Гэй!

Лясная дарога вывела Рыгора на ўзгорак. Ён спыніўся і ў захапленні глядзіць уніз. Там, у нізіне, шырока раскінулася вёска. Яна патанала ў бела-зялёнай квецені садоў. А над ёй, у ярка-блакітным небе, чародкай плылі, як гусі-лебедзі, аблокі.

— Вось яна! — з палёгкай сказаў Рыгор і скінуў на зямлю клуначак.

Дзяўчына набірае ў калодзежы ваду. Поўнае вядро боўтаецца ўнізе зруба. Марына толькі сабралася выцягнуць вядро, але тут як з-пад зямлі вынырнуў кудлаты хлопец з шапкай у зубах і сеў перад ёй на край зруба.

— Лёшка, утопішся, — гарэзліва нахмурыўшы бровы, кажа Марына.

— Не бойся, не ўтаплюся, — адгукнуўся той бестурботна.

Дзяўчына злёгку адной рукой піхнула Лёшку. Той, не ўтрымаўшыся, зваліўся на зямлю.

— Ой, Лёшачка!

Марына, спалоханая, забыўшыся на вядро, кідаецца да хлопца і дапамагае яму падняцца на ногі. Лёшка хоча абняць дзяўчыну, але тая, смеючыся, вырываецца.

— Ты што, звар'яцеў?

Яна робіць выгляд, нібы злуе на хлопца. Паправіўшы хустку, кажа сярдзіта:

— Напужаў, дурань…

Збянтэжаны Лёшка абтрасае з сябе пясок. Марына, перабіраючы рукамі пругло, выцягвае вядро, Лёшка ёй дапамагае.

Як толькі вядро паказалася над калодзежам, чыесьці рукі хапаюць яго. Гэта Рыгор. Прыпаўшы да сцюдзёнай вады, ён доўга з асалодай п'е.

— Во, напіўся, — крэкнуўшы ад задавальнення, нарэшце сказаў ён і, не выпускаючы з рук вядра, з усмешкай працягнуў яго Марыне. Дзяўчына, здзіўленая, таксама ўсміхаецца, яна бярэцца за вядро. Але Рыгор не аддае і гарэзліва напявае:

Ты пастой, пастой, дзеванька, пачакай!

Марына цягне вядро да сябе. Лёшка ёй дапамагае.

— Ого! Дык вы ўдваіх? — з прытворным здзіўленнем кажа Рыгор, падтрымліваючы гэта жартаўлівае спаборніцтва. — Ану, давай падужаемся! — звяртаецца ён да Лёшкі. А ў вачах яго так і бегаюць хітрынкі.

Той мякка адпіхнуў убок Марыну і, натужыўшыся, цягне вядро на сябе. Рыгор нечакана адпускае вядро — і Лёшка разам з ім падае ў карыта, што стаяла з вадой ля калодзежа.

Марына і Рыгор глядзяць на мокрага, няшчаснага Лёшку, які сядзіць у карыце, і ажно захліпаюцца ад смеху. Раззлаваны Лёшка вылазіць з карыта, абтрасае з сябе ваду і сярдзіта кажа дзяўчыне:

— Задаволена?

Марына і Рыгор смяюцца.

Раптам з вуліцы данесліся крыкі і конскае ржанне. Павярнуўшы галовы, усе ўбачылі прыгожага пародзістага жарабца, які то круціўся на адным месцы, то ўставаў на дыбы, каб скінуць з сябе седака. На кані быў брыгадзір Крукоўскі. Ля наравістага каня, забягаючы то з аднаго боку, то з другога, мітусіўся калгасны конюх Паўлюк.

— Крукоўскі, трымайся!.. За грыву, за грыву трымайся!

Брыгадзір робіць усе намаганні, каб не зваліцца з наравістага каня, але дарэмна: ён ледзь трымаецца.

— Ай! — спалохана ўскрыкнуў ён, бо ледзь не зваліўся.

— За грыву трымайся! — зноў крычыць яму Паўлюк.

Але Крукоўскі не можа ўчапіцца за грыву. Зразумеўшы, што яго парады не дапамогуць, Паўлюк хапаецца за вуздэчку і стрымлівае жарабца:

— Тпру!.. Стой!.. Ну хопіць! Хопіць!..

У гэты момант конь зноў стаў на дыбы — і брыгадзір зваліўся на зямлю.

Рыгор, забыўшыся на ўсё, як зачараваны, глядзіць на каня. Ён не вытрымлівае і рашуча ідзе да калгаснікаў. На хаду зняўшы з сябе пінжак, ён кідае яго на плот.

Конь вырываецца з рук брыгадзіра і конюха. Нават удвух яны не могуць яго ўціхамірыць. Падышоў Рыгор, спакойна ўзяў каня пад вуздэчку — і той, нібы адчуўшы руку свайго гаспадара, адразу сцішыўся. Рыгор пяшчотна паляпаў жарабца, затым хвацка ўскочыў на яго і галопам памчаўся па вуліцы.

Брыгадзір у захапленні глядзіць услед і кажа Паўлюку:

— Па кані сядок… Каб не канакрад, далёка пайшоў бы…

— Не ўцячэ? — заклапочана спытаў Паўлюк.

— Не, — адмоўна паківаў галавой Крукоўскі.

Марына, сама таго не заўважаючы, любуецца на Рыгора, яго прыгажосцю, удаласцю, спрытнасцю. У вачах панурага Лёшкі і захапленне, і затоеная зайздрасць — усё адразу.

Яздок Рыгор скача назад. Калгаснік і Марына адбеглі ўбок з дарогі. Яздок спыніў ля Паўлюка каня, саскочыў з яго, яшчэ раз дзелавіта паляпаў далонню і, акінуўшы яго беглым позіркам, сказаў:

— Вось гэта конік! Даўно не ездзіў на такіх.

— Заводскі жарабец, — сказаў Паўлюк.

— Тпру!.. Стой!.. На, трымай свайго заводскага, — сказаў Рыгор, з жалем аддаючы яму вуздэчку.

Да Рыгора падышоў Крукоўскі, за ім Марына і Лёшка.

— Здароў, Лапух! — прывітаўся Крукоўскі.

— Здароў!

— Выпусцілі ці сам выйшаў?

— Выпусцілі, датэрмінова, — адказаў Рыгор і, каб ні ў каго не заставалася ніякіх сумненняў, дастаў з-пад брылька сваёй шапкі дакумент і падае брыгадзіру: — На!

Той павольна па складах чытае:

— «Гомельская округа, сельскохозяйственная трудовая колония. Удостоверение. Дано гражданину Лопуху Григорию в том, что он освобожден из трудовой колонии досрочно согласно постановлению разгрузкома».

Крукоўскі вяртае Рыгору дакумент і зацікаўлена пытае:

— А куды цяпер?

— Як куды? — здзівіўся Рыгор, хаваючы ў шапку паперу. — Да сябе на вёску!

— З гэтай паперкай проста ў калгас? — з’едліва, з насмешкай, спытаў брыгадзір.

— А што?.. Хіба і там калгас? — трывожна спытаў Рыгор.

— А то як жа!

Рыгор з хвіліну памаўчаў у роздуме. Не, не хоча ён гэтых калгасаў. Былы батрак, ён марыць аб сваёй, уласнай гаспадарцы. Што ж, калі не ў сваю, дык можна і ў другую вёску…

— Не, у калгас я не хадок, — сказаў Рыгор і рашуча нацягнуў на галаву шапку. — Воляй дыхнуць хочацца!

— Бач ты! — дзівіцца Крукоўскі. — Ён паляпаў Рыгора па плячы. — Нідзе не дзенешся, усюды, брат, калгасы.

Рыгор спахмурнеў.

— Та-ак… — сказаў ён разгублена. Азірнуўся па баках, з прыкрасцю крэкнуў і звярнуўся да Марыны: — Дай яшчэ напіцца.

Рыгор і Марына падышлі да калодзежа. Рыгор бярэ ў рукі вядро і п’е.

— Дзякую, — кіўнуў ён Марыне, напіўшыся.

Падняў з зямлі клуначак, падышоў да плота, зняў пінжак і павесіў яго на руку. Потым павярнуўся да ўсіх і сказаў:

— Ну, я пайшоў да сябе на вёску. Бывайце!

Марына з сумам глядзіць яму ўслед, на яго зграбную, дужую постаць.

Праходзячы міма Лёшкі, Рыгор з жартам кідае на хаду:

— Кашуля высахла?

Лёшка моўчкі выкручвае кашулю, каб паказаць, што яна ўжо сухая. Ён, як і ўсе, глядзіць услед Рыгору.

Марына ідзе да калодзежа, акунае вядро ў ваду. Да яе падыходзіць Лёшка. Ён усміхаецца.

— Вось гэта хлопец! — раптам сказала Марына. І ў гэтых словах прагучаў папрок яе няўклюду-ўхажору Лёшку.

Усмешка знікла з Лёшкавага твару. Ён насупіўся.

— Што, спадабаўся?

— Ай, ідзі!.. — з прыкрасцю махнула рукой Марына.

У той жа дзень у калгасе быў украдзены лепшы пародзісты жарабец, на якім гарцаваў Лопух.

Маляўнічы ўзгорак. Такіх узгоркаў шмат на беларускай зямлі. Лісцвяны лес перамяшаўся з хваёвым, а ўжо кветак, кветак будзе

на палянцы летам! Стракатым дываном усцелюць яны зямлю, паветра прапахне рамонкамі, мёдам, чаборам… Над імі будуць пырхаць матылькі, стракозы, загудуць чмялі і пчолкі… Але цяпер вясна, і на палянцы ціха. Пасярод яе самотна стаіць адзінокая трапяткая бярозка. Лёгкі ветрык гарэзліва перабірае на ёй смарагдавыя лісцікі, а сонейка пяшчотна саграе сваімі промнямі, каб дрэўца не адчувала адзіноты. Убаку, за ўзгоркам — малады бярэзнік, за ім — стары хваёвы бор. А ўнізе, ля падножжа ўзгорка, бурболіць на ўсе лады звілістая рачулка, уся парослая вербалозам, толькі пасярэдзіне вады тырчыць вялізны корч.

Час быў пасля паўдня. Скрозь малады бярэзнік ціха крадзецца чалавек у звычайным сялянскім адзенні. Яшчэ не ў гадах, але і не малады. Гэта былы конюх Васька. На галаве яго не па сезоне цёплая кепка. Ён вядзе на повадзе таго самага каня, які так зачараваў Рыгора.

Васька спусціўся ў лагчыну, спыніўся і прыслухаўся. Азірнуўшыся на ўсе бакі, прывязаў каня да бярозкі. Сам сеў побач і закурыў. Васька не бачыць, што непадалёку ад яго, у цяні разгалістай бярозы, падклаўшы пад галаву клунак, спіць Рыгор Лопух.

Па лясной дарозе верхам на конях едуць старшыня калгаса Дубовік і калгаснікі. Сярод іх Крукоўскі і Паўлюк. Усе спыняюцца. Дубовік злазіць з каня і вывучае на дарозе сляды. Ён робіць некалькі крокаў наперад, потым назад.

— Пераблытаны сляды… Дзе ж яго цяпер шукаць?

— Кіруй на Прылукі, — раіць Паўлюк.

— Не знойдзем, толькі коней загонім… — з сумненнем сказаў Крукоўскі.

— Вяртацца трэба, — падтрымаў яго стары, што сядзеў з віламі на белым кані.

Дубовік думае, стоячы на дарозе. Калгаснікі чакаюць, што ён скажа.

— Нічога, знойдзем. Нідзе не дзенецца, — упэўнена кажа старшыня. І звяртаецца да Крукоўскага і Паўлюка: — Вы на Гарэлае Урочышча, а мы да Авечага Лугу… Ну, айда!

Васька пачуў, як недзе затрашчалі галінкі, да яго вушэй даляцелі ледзь чутныя далёкія галасы. Ён спалохана ўскочыў, хуценька зняў з сябе пінжак і кінуўся да каня. Пяшчотна паляпаў жарабца, каб супакоіць, і, накінуўшы яму на галаву пінжак, сціснуў галаву рукамі, каб ён не заіржаў. Па тым, як спрытна Васька ўсё гэта рабіў, было відаць, што такое яму не ўпершыню.

Дубовік садзіцца на каня і едзе наперадзе сваёй групы. Яны паглыбляюцца ў лес.

Крукоўскі, Паўлюк і астатнія збочваюць на другую дарогу.

Жарабец хоча вызваліцца ад Васькавых рук і яго пінжака, ён круціць галавой і ўстае на дыбы. Васька намагаецца стрымаць жарабца, але дарэмна: той як ашалелы. Зразумеўшы, што яму не справіцца з наравістым канём, Васька хапае свой пінжак і ўцякае.

Ён прабягае міма Рыгора. Той спіць. Убачыўшы Лопуха, Васька ад нечаканасці спыніўся. Страх адбіўся ў яго вачах, але тут жа зларадная ўсмешка скрывіла рот. Схамянуўшыся, ён шпарка пабег у хмызняк.

Жарабец, пачуўшы паблізу коней, прызыўна заіржаў.

Рыгор, разбуджаны ржаннем, садзіцца. Ён паспеў заўважыць спіну чалавека ў кепцы, які шпарка бег у хмызняк.

Брыгадзір і калгаснікі таксама пачулі ржанне жарабца. Яны павярнулі назад.

Усе бягуць да каня. Паўлюк заўважыў Рыгора, які сядзеў непадалёку пад бярозай, і закрычаў:

— Вось ён! Бярыце яго, мужыкі!

Калгаснікі кідаюцца да Рыгора. Той не разумее, што адбываецца, і здзіўлена глядзіць то на пародзістага жарабца, то на раззлаваных людзей, што стоўпіліся ля яго і ўсе разам нешта яму крычаць. І калі Рыгор пачуў, што ён злодзей, што ён украў у калгасе жарабца, абурыўся да глыбіні душы.

Рыгор падняўся і, прыціскаючы рукі да грудзей, узрушана кажа:

— Ды што вы, браткі? Тут хлапец нейкі быў… уцёк!

Калгаснікі не вераць Рыгору і акружаюць яго. Яны ўсе разам крычаць, пагрозліва махаюць рукамі. Рыгор зразумеў, якая небяспека над ім навісла.

— Ды што вы, браткі!.. — намагаецца ён пераканаць людзей. — Выпусцілі ж мяне!.. Я да сябе на вёску іду!.. Адпачыць тут вось лёг… заснуў… — Рыгор разгублена азіраецца, у вачах яго мальба. Але ўсё дарэмна. Людзі няўмольныя.

Ніхто не бачыў, як пад’ехаў Дубовік. Ён злез з каня і моўчкі назірае за ўсім.

Узбуджаныя сяляне, размахваючы рукамі, спрачаюцца паміж сабой, не ведаючы, які прысуд вынесці Рыгору Лопуху.

— Што рабіць будзем? Біць будзем, ці што? — перакрываючы галасы, спытаў адзін басавіты калгаснік.

— Ды не краў я, таварышы!.. — ледзь не плачучы, моліцца Рыгор.

Крукоўскі ціха кажа Паўлюку:

— Давай…

Паўлюк падскочыў да Рыгора і пагрозліва на яго замахнуўся. Але першы біць не адважыўся.

— Чаго глядзець! Ён нашага каня ўкраў! Біце яго! — крычыць ён калгаснікам.

Яшчэ больш падбухтораныя,сяляне цесным колам акружылі Лопуха, вось-вось гатовыя ўчыніць над ім самасуд. Зараз адбудзецца нешта страшнае і несправядлівае. Але тут падскочыў Дубовік і, разарваўшы жывы ланцуг, засланіў сабой хлопца.

— Стой! Назад! Вы што, банда ці калгаснікі? Няможна біць! — закрычаў старшыня. З перасцярогай падняўшы ўгору рукі, ён стрымаў раз'юшаны людскі натоўп.

Крукоўскі, не чакаўшы, што так усё абернецца, раптам падтрымаў Дубовіка:

— Правільна! Няможна біць. На гэта суд ёсць.

Калгаснікі паступова супакойваюцца. Але Рыгору не вераць: ён жа былы канакрад! Хто ж, як не ён, украў жарабца!

Выгляд у Рыгора няшчасны, разгублены. Ён не чакаў такой несправядлівасці, што неспадзявана абрушылася на яго. Ён жа збіраўся жыць сумленна!.. Рыгор спрабуе ўсё ж пераканаць людзей, звяртаючыся то да аднаго, то да другога:

— Не краў каня я!.. Да сябе на вёску ішоў!..

Старшыня быццам не чуе яго.

— Павядзем у сельсавет, — сказаў ён калгаснікам.

Усе пайшлі сваім ходам. Дубовік павёў за вуздэчку каня, а побач з ім пакрочыў, панурыўшы галаву, Рыгор. За імі ідуць калгаснікі. Яны вядуць сваіх коней і ўкрадзенага жарабца.

Змяркаецца. На бервяне ля хаты сядзіць дзядок-вартаўнік з такой жа старой, як ён сам, вінтоўкай. А ля яго — Рыгор у пінжаку, накінутым на плечы.

Да іх падыходзіць хлопчык, у яго руках луста хлеба.

— Табе што? — грозна пытаецца вартаўнік.

— Вось Марына прыслала, — паказвае хлопчык на хлеб.

— Давай! — здзіўлена і абрадавана кажа дзядок.

— Ды не табе… Яму казала аддаць, — паказвае ён на Рыгора.

Цяпер ужо Рыгор здзіўлена глядзіць на хлопчыка.

— Бач ты!.. — азадачана прамовіў стары.

Рыгор узяў лусту хлеба, асцярожна разламаў і палову аддаў вартаўніку. Задаволены дзядок старанна загарнуў сваю долю ў анучку і схаваў за пазуху.

Рыгор са смакам есць хлеб, падставіўшы далонь, каб не рассыпаць крошкі.

З-за вугла хаты паказаўся Лёшка з гармонікам. За ім ідуць некалькі дзяўчат, сярод іх Марына. Лёшка няўмела пілікае на гармоніку. Праходзячы міма Рыгора, ён насмешліва кінуў:

— Ну, герой! — і, азірнуўшыся на Марыну, каб яна пачула, яшчэ раз, больш упэўнена паўтарае: — Іменна герой!

Рыгор з пагардай зірнуў на хлопца.

— Ты што, даўно не біты?

— Ці не ты будзеш біць? — задзірліва агрызнуўся той.

— Ідзі, ідзі, курашчуп калгасны… — раўнадушна сказаў Рыгор.

Гэта ж так абразіць пры дзяўчатах! Пакрыўджаны да глыбіні душы Лёшка аслабаніў правую руку з-пад рамяня гармоніка, каб кінуцца ў бойку. Але Марына яго стрымала.

— Ну ты… арол! — сказала яна, спакойна паклаўшы яму на плячо руку.

Марына села побач з Рыгорам на бервяно. Ля яе паселі дзяўчаты. Лёшка жэстам рукі паказвае Марыне, каб яна пасунулася, і садзіцца паміж ёй і Рыгорам. Стараючыся захаваць пачуццё ўласнай годнасці, ён абыякава кідае Рыгору:

— Не бойся, не буду біць.

Дужы і зграбны Рыгор, адчуваючы сваю перавагу, паблажліва і міралюбіва штурхануў Лёшку локцем у бок. Лёшка прыняў гэта як крок да прымірэння і працягвае старанна пілікаць на гармоніку. Што б там ні было, а ён лічыць сваім абавязкам забаўляць прысутных нават пры такой сітуацыі.

Раптам ён абрывае сваю няўмелую ігру. Пакруціў галавой, сарамліва ўсміхаючыся, і кажа:

— Эх, каб ты згарэла!.. Бачыш? Хачу зайграць адно, а ён другое выводзіць… — Лёшка засмяяўся. — І калі ў мяне гармонік іграць навучыцца?

— Тады, калі ў цябе вусы вырастуць, — добразычліва пажартаваў Рыгор.

Лёшка зноў гатовы пакрыўдзіцца. Марына адчувае, што паміж хлопцамі зноў можа разгарэцца сварка. Каб яе не было, Марына, нібы робячы выклік Рыгору, кажа, піхаючы ў бок Лёшку:

— А ты дай яму, хай навучыць.

Рыгор з гатоўнасцю прымае выклік.

— Што ж, давай… паспрабуем.

Ён зняў пінжак, паклаў яго побач, узяў з Лёшкавых рук гармонік і прывычным жэстам ускінуў на плячо рэмень. І вось ужо Рыгоравы пальцы спрытна перабіраюць лады, нібы спрабуючы інструмент. Рука ўзляцела ўверх, уніз… І раптам гармонік заспяваў, зайграў на ўсе галасы, апынуўшыся ў руках вопытнага музыкі.

Лёшка, забыўшыся на кпіны з боку Рыгора, з захапленнем і зайздрасцю слухае, як ён іграе.

А Рыгор іграў натхнёна. Задумліва гледзячы перад сабой на далёкі лес, што цямнеў за вёскай, на белыя аблокі, што ціха плылі над полем, ён іграў. І Лёшкаў гармонік у яго руках то смяяўся, дробненька рассыпаючыся серабрыстымі пералівамі — хоць ты пускайся ў скокі, то плакаў — і тады сум сціскаў сэрца… І ўсе напевы былі знаёмыя, такія родныя!.. Усё ўвабралі яны ў сябе — і радасць, і гора людское, і любыя сэрцу краявіды, самотныя, задуменныя… Спяваў гармонік і пра адвагу маладзецкую, і пра каханне… Так спяваў, што не выказаць словам.

Паклаўшы руку на Лёшкава плячо, як зачараваная, глядзіць Марына на пальцы Рыгора, што спрытна перабіралі лады гармоніка.

Раптам да моладзі падышоў Дубовік з калгаснікамі.

— Ну, хопіць! — сказаў ён.

Рыгор перапыніў ігру, зняў з пляча рэмень і асцярожна, з жалем перадаў гармонік у Лёшкавы рукі.

— Мікола, сып дахаты, — звярнуўся старшыня да старога вартаўніка. — А ты са мной пойдзеш, — сказаў ён Рыгору.

Марына не стрымалася.

— Змітро Лявонавіч, вы куды?

— Дамоў к сабе іду.

Дубовік і Рыгор пайшлі.

Дзяўчаты і Лёшка з сумам глядзяць ім услед.

Спіць вёска. Светлы месячык павіс над зямлёй, над паснулымі хатамі… Па чорным аксаміце неба рассыпаліся пералівістыя зоркі-самацветы, ціха плывуць аблокі, у слабым блакітным ззянні іх амаль не відаць…

Спіць вёска. Спяць сады ў пышным убранні, сонна звесілі дрэвы свае галінкі, усыпаныя бела-ружовымі пялёсткамі, іх так

густа, што не разгледзіш хат, бо вецце прыгнулася над агароджай ажно да самай зямлі, — багата будзе садавіны!

Праз фіранку ў акно глядзіць месяц. Яго блакітны прамень слізгануў па падлозе, ціха крадзецца да ложка, на якім спіць Дубовік. Ля ўзгалоўя стаіць табурэтка, а на ёй газавая лямпа з прыкручаным кнотам.

Ля супрацьлеглай сцяны на лаўцы ляжыць Рыгор. Ён неспакойна круціцца з боку на бок, цяжка ўздыхае, затым падымаецца і садзіцца.

Не спалася ў тую ціхую вясновую ноч Лопуху. На душы ў яго было трывожна. Крыўда апякала сэрца. За што яго арыштавалі? Не ён жа краў каня, а нейкі дзяцюк у кепцы! Рыгор на свае вочы бачыў, як той уцякаў. І чаму ніхто яму не верыць, нават старшыня? Таму што ён быў канакрадам?.. Ну, было. Дык што, так і будуць яму ўсё жыццё веры не даваць? Нехта будзе красці — а на яго валіць? А ці варта тады жыць?.. Дадумаўшыся да такога, Рыгор адчуў, як у ім нешта абарвалася, жыццё страціла ўсякі сэнс. І ўсё ж не можа быць, каб не разабраліся. А калі і разбяруцца, дык усё роўна на душы застанецца цяжар. Цяжка, вельмі цяжка, калі табе не вераць…

Змрочныя думы адна за адной лезлі ў галаву. Не спалася Рыгору. Раптам да яго вушэй даляцела далёкая, ціхая песня. За аколіцай спявалі дзяўчаты. Рыгор падняўся з лаўкі, падышоў да акна і адчыніў яго — песня ўплыла ў хату.

А ў полі вярба,
пад вярбой вада,
там хадзіла,
там гуляла
дзеўка малада…

Рыгор сеў на лаўку ля акна, аблакаціўшыся на калені, задумліва глядзіць на пасярэбраныя месячным святлом дрэвы…

Дзеўка ад вады,
хлопец да вады.
— Пастой, пастой, дзяўчыначка,
дай каню вады!
— Рада пастаяць,
каню вады даць.
Мае босенькія ножкі,
сцюдзёна стаяць.

Рыгор з хваляваннем слухае. Чамусьці прыгадалася Марына, і цёплая хваля ахінула яго сэрца. Яму стала крыху лягчэй.

Некалькі хвілін было ціха, але раптам другая песня, вясёлая, заліхвацкая заляцела ў акно.

Дзяўчыначка мая,
а ці любіш мяне?
Выйдзі замуж, калі любіш,
выйдзі за мяне!
Выйдзі замуж, калі любіш,
выйдзі за мяне!

Гэта песня клікала яго, Рыгора! Ён не сумняваўся, што разам з дзяўчатамі яе спявае і Марына! Забыўшыся на тое, што ён арыштаваны, Рыгор нецярпліва ўскочыў і кінуўся да лаўкі, на якой спаў, схапіў свой пінжак і пачаў нацягваць на галаву кепку, але раптам, схамянуўшыся, прыгадаў, дзе ён, і ў роспачы шпурляе пінжак і кепку, вяртаецца да акна і слухае песні дзяўчат.

Дубовік не спаў. Ён чуў, як неспакойна паводзіць сябе яго арыштант. Старшыня падняўся з ложка, прыбавіў у лямпе святла, закурыў.

— Не спіцца, ці што? — спытаў у Рыгора.

— Не спіцца нешта, — адказаў той непрыязна і дадаў, нібы ў сваё апраўданне: — Дыхаць цяжка ў хаце. Паветра свежага ўпусціў.

— Я таксама люблю свежае паветра, — згодна адгукнуўся Дубовік. — Кладзіся спаць.

Рыгор вяртаецца да сваёй лаўкі, кладзецца. Пакруціўшыся з боку на бок, зноў сеў.

Старшыня, лежачы, курыць.

— І які чорт кінуў цябе зноў каня красці? — раптам спытаў ён.

Як апараны ўскочыў з лаўкі Рыгор і, прыціскаючы да грудзей рукі, узрушана загаварыў:

— Ды не краў я!.. Да сябе на вёску ішоў! У лагчыне прылёг і заснуў…

Ён яшчэ нешта хацеў сказаць, але, не знайшоўшы пераканаўчых слоў, у роспачы махнуў рукой.

Крыху памаўчалі. І зноў спытаў Дубовік:

— А раней чым займаўся?

— Спачатку батрачыў… быў рымарам[1]. Пасля кінуў, — неахвотна адказаў пакрыўджаны Рыгор.

Дубовік, нібы адказваючы на свае думкі, зацікаўлена працягнуў:

— А-а… рымарам!

Ён рашуча тушыць акурак, зноў прыкручвае кнот, бярэ са сваёй пасцелі падушку і кідае яе Рыгору. Той ловіць падушку з маўклівай удзячнасцю і кладзе яе пад галаву.

Дубовік павярнуўся тварам да сцяны.

— Ну, спі, рымар, — сказаў ён добразычліва.

Рыгор нейкі час сядзіць у радасным здзіўленні. Старшыня аддаў яму сваю падушку! Рыгор такога не чакаў, бо ён лічыў Дубовіка віноўнікам яго няшчасця, і раптам такі клопат! Дзіўна! Рыгор адчуў спакой. Але яго хапіла ненадоўга. Змрочныя думкі зноў палезлі ў галаву. Рыгор кладзецца спаць.

А дзяўчаты спявалі. Раптам загучала песня, якую спяваў Рыгор, калі вяртаўся ў родную вёску. Але цяпер яна была самотнай, такой жа, як настрой у Рыгора, як яго бязрадасныя думкі аб светлых надзеях, якім не давялося здзейсніцца. Не, не адбыліся перамены ў яго такім нязкладным, нялёгкім жыцці…

Ой ды гуляў вецер
ды у чыстым полі.
        Гэй!
        Гэй!
Дзе шукаў малойчык
сваёй яснай долі,
дзе шукаў малойчык
сваёй яснай долі…

Рыгор ляжыць на спіне з заплюшчанымі вачамі, падклаўшы рукі пад галаву.

А дзе ж тая долечка,
што не адшукаці?
        Гэй!
        Гэй!
А дзе ж тая дзяўчыначка,
што не распазнаці?
А дзе ж тая дзяўчыначка,
што не распазнаці?..

Спіць Дубовік. А Рыгору не спіцца. Ён усё слухае, слухае песню…

Можа, тую дзяўчыначку
лепш і не шукаці!
Гэй!
Гэй!
Бо няма ў малойчыка
ні двара, ні хаты,
бо няма ў малойчыка
ні двара, ні хаты…

Слухае Рыгор і думае: а ці не пра яго гэта песня?… Рыгор змахнуў рукавом набеглую слязу…

Па вясковай вуліцы крочаць Дубовік і Лопух. Міма іх праходзіць Лёшка, несучы ў руках ахапак саломы.

— Лёшка! — гукнуў яго старшыня.

Лёшка апусціў сваю ношу на зямлю, прыветна азваўся:

— Здароў, Змітро Лявонавіч!

— Вазьмі вінтоўку, пойдзеш з намі, — загадаў яму Дубовік.

— Зараз!

Зноў схапіўшы салому, ён некуды бяжыць.

Дубовік і Лопух, стоячы ля плота, чакаюць Лёшку. Той падбягае з вінтоўкай.

Утрох яны падыходзяць да стайні. Крукоўскі ля канавязі запрагае каня. Убачыўшы Дубовіка, а з ім Лёшку, які канваіруе Лопуха, Крукоўскі задаволена кажа:

— Вядуць.

Ён дзелавіта бярэ ў рукі лейцы, беглым позіркам акідвае калёсы і каня, каб паказаць старшыні, што ён гатовы везці Лопуха ў горад.

— У горад не павязём, — раптам сказаў яму Дубовік.

— Чаму? — непрыемна здзівіўся Крукоўскі.

— Не трэба, — коратка адказаў старшыня, не жадаючы тлумачыць. І звяртаецца да Лёшкі і Рыгора: — Хадзем!

Лёшка і Рыгор ідуць за Дубовікам. Крукоўскі зноў прывязвае каня да канавязі. Так нічога і не зразумеўшы, ён збянтэжана глядзіць ім услед.

Дубовік, Лёшка і Рыгор падыходзяць да вялікай пуні. Яны ўвайшлі. У пуні на сценах вісяць падраныя хамуты, паскі і іншая конская збруя, ля вушака варот на цвіку — ліхтар «кажан».

Дубовік абвёў рукой усё, што вісіць, і кажа Рыгору:

— Вось, бачыш?.. Адрамантаваць трэба.

Той разгублена азіраецца, глядзіць на конскую збрую, не разумеючы, сур’ёзна гаворыць старшыня ці ў насмешку? Ён жа арыштаваны!

Дубовік зноў звяртаецца да Лопуха, але ўжо нібыта з просьбай:

— Прывядзі ў парадак, трэба пазарэз…

Яшчэ раз зірнуўшы гаспадарлівым вокам на збрую, развешаную на сценах, старшыня выйшаў.

Рыгор збянтэжаны. Чаго ад яго хоча старшыня? То ў міліцыю ў горад збіраўся везці, то сюды рымарыць прывёў… Рыгор разгублена кідае на салому пінжак і зноў аглядаецца, але ўжо з прафесійнай цікавасцю. Ён зняў з цвіка хамут, уважліва яго разглядае, мяркуючы, колькі часу спатрэбіцца на яго рамонт. Рыгор нават забыўся на тое, што ён арыштант. Але раптам заўважае Лёшку, які стаіць ля варот з вінтоўкай, — і добрага рабочага настрою як не было. Сярдзіта сплюнуўшы ўбок, Рыгор кідае на зямлю хамут і садзіцца з ім побач.

Лёшку сумна стаяць на варце. Ён заўважае на зямлі нейкую жалязяку. Адставіўшы ўбок вінтоўку, Лёшка падымае сагнуты кавалак жалеза. Агледзеў яго і, сеўшы на парог пуні, б’е па жалязяцы каменем — ці то яшчэ больш загінае, ці то выпраміць хоча.

Рыгор сярдзіта глядзіць на Лёшку.

— Кінь ляпаць!

Той, незадаволены, што яму перашкаджаюць хоць гэтым займацца, здзіўлена пытае:

— А табе што?

Рыгор не можа стрымаць сваю злосць.

— Кінь ляпаць, кажу, пакуль па галаве не ляпнуў! — крыкнуў ён і, схапіўшы хамут, шпурнуў яго ўбок. — Ану вас усіх к чорту! Не буду працаваць! — крычыць ён ужо зусім раз’юшана.

Лёшка, не разумеючы, што адбываецца з Рыгорам, мірна кажа:

— Твая справа.

Ён падымаецца, бярэ вінтоўку і выходзіць з пуні. За перагародкай пуні — цялятнік. Там Марына корміць цялушак. Да яе падыходзіць Лёшка.

— А-а!.. Маё шанаванне! — прывітаўся ён.

— Добры дзень.

Рыгор, пачуўшы голас Марыны, падняўся і падышоў да сцяны. Зацікаўлена глядзіць у шчыліну паміж бярвеннямі. Марына, убачыўшы ў Лёшкі вінтоўку, здзіўлена пытае:

— Ты што з вінтоўкай?

Лёшка ганарліва адказвае:

— За Лопухом прыглядаю, збрую рамантаваць будзем.

— А-а-а… — працягнула Марына. — А ты за вартавога, значыцца? Так, так… работа не цяжкая.

Лёшка, адчуўшы ў голасе дзяўчыны з’едлівую іронію, разгубіўся, не ведаючы, што адказаць. Ён патаптаўся на месцы, няўцямна гледзячы на Марыну, але тая ўжо зноў занялася цялушкамі, не звяртаючы на хлопца ўвагі. Лёшка цяжка ўздыхнуў і пайшоў, цягнучы, як кій, за сабой вінтоўку.

Рыгор адышоў ад сцяны і вярнуўся на сваё месца, задумаўся.

У варотах паказаўся Лёшка. Ён прытуліў да вушака ненавісную яму вінтоўку, з-за якой наслухаўся кпінаў ад Марыны, акінуў сумным позіркам пуню, шукаючы, чым заняцца: нельга ж сядзець склаўшы рукі! Старшыня, пэўна, думае, што тут работа кіпіць, ды і Марыне хлопец сказаў, што ён разам з Лопухом збрую рамантуе…

Лёшкаў позірк спыніўся на падраным паску. Ён бярэ са скрыні шыла, шаршатку з дратвай, здымае са сцяны пасак, садзіцца побач з Рыгорам, падкурчыўшы пад сябе ногі, і пачынае рамантаваць.

Узлаваны Рыгор спачатку не звяртае ўвагі на свайго вартаўніка. Потым пачынае абыякава сачыць за тым, як ён працуе. А ў таго работа не ладзіцца, відаць, што чалавек упершыню трымае шаршатку з дратвай, што не яго гэта справа. У вачах Рыгора іранічная ўсмешка. Гледзячы на бездапаможнасць хлопца, як ён няўклюдна тыркае шаршаткай у пасак, ён раптам раззлаваўся. Не мог ён глядзець на такое няўмельства — сорам дый толькі! Не стрымаўшыся, Рыгор з абурэннем гаворыць:

— Пальцы прышыеш…

Пакрыўджаны Лёшка не звяртае ўвагі на з’едлівыя словы арыштанта і моўчкі тыркае шаршаткай у пасак да таго часу, пакуль не накалоў сабе палец. Памахаўшы ў паветры акрываўленым пальцам, Лёшка, як малое дзіця, засоўвае яго ў рот.

І зноў не стрымаўся Рыгор:

— А я што казаў? Папрышываеш пальцы!

Забыўшыся на ўсе свае крыўды, ён падсеў бліжэй да Лёшкі, выхапіў з яго рук пасак і грубавата-насмешліва кажа:

— Глядзі, як гэта робіцца.

Рыгор сеў больш зручна, сеў так, як сапраўдны рымар, і ўзяўся за шаршатку. Рукі яго даўно засумавалі па любімай

рабоце! Прывычна і неяк радасна замільгала шаршатка ў яго руках.

Лёшка ў захапленні ажно рот разявіў, як зачараваны сачыў ён за спрытнымі рукамі Рыгора, што падшывалі пасак, за іх шпаркімі, энергічнымі рухамі. Гэта была не звычайная работа, а вялікае мастацтва!

Лёшку таксама закарцела гэтак жа прыгожа працаваць. Ён не стрымаўся. Схапіў хамут, які шпурнуў Рыгор, дастаў са скрыні яшчэ адну шаршатку з дратвай і, гледзячы на рукі Рыгора, стаў пераймаць яго. Забыўшыся на ўсё, працуе. Час ад часу ён з падзякай пазіраў на свайго нечаканага настаўніка.

Перапоўнены радасцю, Лёшка ціха, сабе пад нос, запявае песню:

Ой да ты, калініца,
ой да ты, малініца…

Рыгор, весела зірнуўшы на яго, падхапіў:

ой да ты не сто-о-ой, не стой,
ой да на гары круто-о-ой!

Лёшка і Рыгор спяваюць складным дуэтам:

Ой да ты не сто-о-ой, не стой,
ой да на гары круто-о-ой!

Песня ўсё гучней, яна далёка разносіцца па вёсцы. Арыштант і канваір дружна і натхнёна працуюць.

Цяпер ужо Рыгор запявае, а Лёшка падхоплівае:

Ой да ты не спушчай галля
да сіня мора,
ой да ты не спушчай галля
да сіня мора.

Ой да ты, калініца,
ой да ты, малініца,
ой да ты не сто-о-ой, не стой…

Лёшка абрывае песню і нешта паказвае Рыгору на сваім хамуце. Той прыдзірліва правярае Лёшкаву работу, не перастаючы спяваць:

ой да на гары круто-о-ой!

Закончыўшы прыпеў, Рыгор уважліва аглядае хамут, мармычучы сам сабе.

— Так… так… Абцугі дзе? — звяртаецца ён да Лёшкі.

— Абцугі?.. Ага, павінны быць… — Лёшка борздзенька ўскочыў на ногі, дастаў са скрыні абцугі. — Вось… негадзяшчыя.

Ён прысеў ля Рыгора на кукішкі. Рыгор крытычна зірнуў на абцугі, якімі нельга было працаваць, і вяртае іх Лёшку.

— А больш няма, — сказаў той засмучана.

Рыгор зноў аглядае хамут і пытае:

— Што ж будзем рабіць?

Лёшка схапіў паламаныя абцугі і ўскочыў на ногі.

— Пачакай тут…

Ён стрымгалоў выбягае з пуні.

Праз якую хвіліну хлопец быў у кузні. Каваль сядзеў пад стрэшкам. Лёшка працягнуў яму знявечаныя абцугі.

А Рыгор тым часам выйшаў з пуні і сеў на цурбан, што стаяў ля варот. Выняў з кішэні махорку. Калі закурваў, незнарок зачапіў локцем вінтоўку — тая ўпала. Рыгор падняў вінтоўку і паставіў на ранейшае месца.

Да пуні падыходзіць Дубовік. Убачыўшы Рыгора, ён здзіўлена глядзіць на яго. Рыгор, не чакаючы пытання, лагодна ўсміхнуўшыся, тлумачыць:

— Ён у кузні абцугі правіць.

Дубовік паводзіць сябе так, быццам усё як трэба.

— Добра. А збруі шмат направіў?

— Націснем з Лёшкам — заўтра скончым! — упэўнена адказаў Рыгор.

На возе пад'язджае Крукоўскі. Яго конь ад шпаркага бегу ўвесь у пене.

— Тпрру!.. Халера цябе нясе, — стрымлівае ён каня.

Брыгадзір саскочыў на зямлю.

— Ну, як справа? — звярнуўся да яго Дубовік.

— Дрэнна. Ветэрынар у Верашоўку паехаў. Самі лячыць будзем.

Старшыня нахмурыўся.

— Самі з вусамі, — сказаў ён незадаволена.

Рыгор, ні да кога не звяртаючыся, кажа:

— Хворых лечым, а здаровых калечым… Каня вунь як загнаў… Гаспадар! — кінуў ён папрок Крукоўскаму, кіўнуўшы на каня, які цяжка дыхаў.

Прыбег Лёшка з абцугамі. Не звяртаючы ўвагі на старшыню (так захапіўся работай), ён ідзе ў пуню. За ім Рыгор.

Пакрыўджаны Крукоўскі толькі цяпер ачомаўся ад слоў Лопуха і кінуў яму ўслед:

— Загаварыў!.. — і дадаў не столькі для Рыгора, колькі для старшыні: — На твой канакрадскі век і здаровых хопіць.

— Ён праўду кажа. Пайшлі, — спакойна сказаў старшыня Крукоўскаму.

Дубовік заўважае вінтоўку, што стаіць ля вушака, і бярэ яе.

— Лёшка!.. Лёшка!.. — кліча ён. — Ідзі сюды!

Лёшка выбег з пуні.

— Гэта што? — строга пытае старшыня, паказваючы яму вінтоўку. — Так сцерагчы будзеш, увесь калгас падвядзеш, — дадаў ён, аддаючы хлопцу ружжо.

Лёшка сарамліва глядзіць на забытую ім вінтоўку. Ён нічога не можа прыдумаць у сваё апраўданне, ды і ў гэты момант яго думкі былі заняты зусім іншым: ён так увайшоў у смак, працуючы разам з Лопухам, што гэта ружжо яго зусім не цікавіла.

— Вось іменна… — адказаў ён старшыні неўпапад. І зноў бярэ зусім непатрэбную яму вінтоўку, як кій, і знікае з ёй у пуні.

Дубовік заклапочана звяртаецца да брыгадзіра:

— На лячэнне трэба націснуць. Сяўба на носе!

З сяўбой усё ж спазніліся. Старшыня райвыканкама Броўка ўзяўся дакладна вывучыць прычыны спазнення.

Канавязь ля стайні. Крукоўскі аглядае коней. Паблізу ляжыць хворы жарабец, ён б'ецца ў канвульсіях. Каля яго ўвіхаецца Паўлюк, ён хоча падняць каня на ногі.

— Ну, ну!.. Воўк цябе заеш… — злуе ён.

Паўлюк аж крэкча, але дарэмна, сілы ў яго не хапае. Падышоў Крукоўскі, але і ўдвух яны не могуць падняць жарабца на ногі.

— Лёшка!.. Хадзі сюды! Хутчэй дапамажы! — крычыць брыгадзір.

З пуні выбягае Лёшка.

— Ану разам! — камандуе Крукоўскі.

Утрох яны крыху прыпаднялі каня, але той зноў валіцца на зямлю. Ён здыхаў.

Каля здохлага жарабца стаяць брыгадзір, Паўлюк і Лёшка. Твар у Лёшкі сумны, яму шкада каня.

Падышлі Дубовік і Броўка. Паўлюк, перахапіўшы пахмурны позірк Дубовіка на палага каня, робіць засмучаны твар.

— Змітро Лявонавіч…— хоча ён нешта сказаць у сваё апраўданне, але Дубовік яго перабівае:

— Што, яшчэ адзін зваліўся? — у голасе яго трывога.

— Яшчэ адзін… Дрэнная справа, — неяк вінавата адказаў Паўлюк.

Броўка павольна абыходзіць з усіх бакоў мёртвага жарабца, спыняецца і, падумаўшы, пытаецца ў Паўлюка:

— А на што хворыя коні?

— А хто яго ведае!.. — развёў той рукамі.

Броўка, не задаволены такім адказам, дапытліва глядзіць на Паўлюка і зноў цікавіцца:

— А ты што, пры стайні працуеш?

— Ага, другі дзень як прызначаны, — кіўнуўшы галавой, адказаў Паўлюк.

— Другі дзень? — азадачана перапытаў Броўка, уважліва зірнуўшы на яго.

Паўлюку ад гэтага пытання і позірку стала неяк няўтульна, трывожна. Ён адчуў, што старшыня райвыканкама не дарэмна ім зацікавіўся. Ён зноў кіўнуў галавой і сказаў ужо не так упэўнена:

— Былога конюха нядаўна з калгаса выключылі, — тлумачыць Дубовік.

— За што?

— Кулак, — коратка адказаў Дубовік.

Цяпер ужо ўчатырох аглядаюць прывязаных да канавязі коней, выгляд у якіх хваравіты.

З пуні выходзіць Рыгор. Падышоўшы да мёртвага жарабца, апусціўся ля яго на кукішкі, уважліва аглядае труп. Потым ідзе да канавязі і з цікаўнасцю сочыць за тым, як аглядаюць бедных каняжын.

Старшыня райвыканкама, ні да кога не звяртаючыся, заклапочана кажа:

— Да-а… на такіх многа не наарэш.

Рыгор не вытрымаў і з прыкрасцю махнуў рукой.

— Эх!.. Гаспадары!

Дубовік азірнуўся на Рыгора і, нібы вывучаючы яго, зацікаўлена пытае:

— А што, сур’ёзная хвароба ў коней?

Рыгор падышоў бліжэй, уважлівым позіркам акінуў прывязаных коней.

— Хвароба невялікая, а так… запусцілі… — ён падышоў да адной каняжыны, памацаў ногі. — На сырую гліну паставіць, яно і адцягне.

Паўлюк з усмешкай ківае на Рыгора і кажа Крукоўскаму:

— Новы ветэрынар знайшоўся.

Броўка адышоўся ўбок, следам за ім Дубовік. Старшыня райвыканкама закурыў, некаторы час маўчыць, нешта абдумвае. Твар яго пахмурны. Нарэшце ён ціха кажа Дубовіку, так ціха, каб ніхто не пачуў:

— Не падабаецца мне хвароба ў тваіх коней, старшыня…

У хаце Дубовіка. Ля печкі за сталом сядзяць Дубовік і Броўка, на каленях якога маленькі сынок гаспадара хаты. На стале сіпіць самавар. Жонка Дубовіка кладзе на стол хлеб, ставіць цукарніцу, імбрычак для заваркі. Налівае з самавара ў шклянкі чай і выходзіць з пакоя.

Броўка дае хлопчыку кавалак цукру і, нешта абдумваючы, памешвае лыжачнай у сваёй шклянцы, нібыта рыхтуецца да вялікай сур’ёзнай размовы.

— Разява… разява ты, а не кіраўнік, — нарэшце загаварыў ён прыглушаным голасам, кінуўшы асцярожны позірк на дзверы, за якімі знікла гаспадыня. Ён адсунуў убок шклянку з некранутым чаем.

Збянтэжаны Дубовік сядзіць, апусціўшы галаву, і пастуквае лыжачкай па стале.

— Падумаеш!.. інвентар у парадку!.. на брыгады падзялілі!.. — з іроніяй дапякае госць. Броўка па-ранейшаму гаворыць ціха, нагнуўшыся над сталом. І раптам амаль шэптам выпаліў: — А класавы вораг? — старшыня райвыканкама дапытліва глядзіць на Дубовіка.

Той схамянуўся, пасунуўся да Броўкі і, прыжмурыўшы вочы, непрыязна, як бы з выклікам спытаў:

— Хто?.. Лопух?

— Не-е-е… З Лопухам якраз, можа, ты правільна зрабіў. Я пра іншых… Калі кіраваць так будзеш, увесь калгас умомант разваліш, — змрочна сказаў старшыня райвыканкама.

Ён пагладзіў хлопчыка па галаве, зняў з каленяў, падняўся і падышоў да акна. Абапёршыся на раму, задумліва глядзіць на вуліцу.

На двары пуні-цялятніка сярод квітнеючых яблынь працуе Марына. Яна сячэ і размешвае ў карыце траву. Да яе падышоў Лёшка.

— Ты што так позна сёння, Марына?

Ён бярэ ахапак травы і падае ёй.

— А табе што? — абрывае яна хлопца. І адразу ж пачынае яго падганяць: — Давай, давай! Некалі! На сход трэба ісці.

— Скажы, гаспадыня… — нязлосна, з жартам бурчыць Лёшка, падаючы ёй адзін за адным ахапкі травы. Лёшка помніць, дзеля чаго ён сюды прыйшоў. — Пасля сходу будуць танцы, — кажа ён, — прасілі пайграць. Мой гармонік у цябе?

Марына, не спыняючы працы, абыякава кінула:

— Ён у сенцах.

Лёшка хоча яшчэ нешта сказаць, ён неяк збянтэжана пазірае на Марыну, топчацца на месцы, але, адчуўшы, што дзяўчына не ў гуморы, перадумвае і адыходзіць.

Па вясковай вуліцы, белай ад апалых пялёсткаў з садовых дрэў, весела гамонячы, ідуць калгаснікі. Не сціхае жаночая гаворка, бубняць мужчынскія галасы. Нехта пытае:

— Усе павінны быць, ці як?

— Ты — абавязкова!

— А мы што, на бабах баранаваць будзем?

Жарты, смех напоўнілі вуліцу. Сяляне ідуць на сход.

Будынак былой царквы, нядаўна пераабсталяванай пад клуб. На сценах, размаляваных на рэлігійныя сюжэты, вісяць плакаты, якія заклікаюць да барацьбы з кулацтвам, да своечасовай падрыхтоўкі да сяўбы, да змычкі горада і вёскі. На лаўках сядзяць калгаснікі. Яны прыйшлі на сход. Каму не хапіла месца — стаяць. Зала набіта біткам, так, што яблыку няма дзе ўпасці.

Перад лаўкамі стаіць стол, за ім — прэзідыум. У ім Броўка, Дубовік і калгасніца.

У зале стаіць шум, паветра шызае ад дыму курцоў.

Дубовік падняўся — шум адразу сціх, курцы тушаць самакруткі.

— Таварышы! Агульны сход калгаснікаў лічу адкрытым! — аб’явіў старшыня калгаса.

Усе ўважліва слухаюць.

— Таварышы! — працягвае Дубовік. — Вось таварыш Броўка нам скажа аб выніках праверкі падрыхтаванасці нашага калгаса да сяўбы. Калі ласка! — звярнуўся Дубовік да старшыні райвыканкама.

Броўка падняўся, выйшаў з-за стала і наблізіўся амаль ушчыльную да калгаснікаў, якія сядзелі ў першым радзе. Нахмурыўшы бровы, ён загаварыў:

— Таварышы! Праз некалькі дзён пачынаецца сяўба ў вашым калгасе. А між іншым сённяшняя праверка выявіла, што ў калгасе не ўсё добра… Сярод вас арудуе класавы вораг.

Да пуні падышоў стары і кліча калгасніка, які сядзіць ля варот і важдаецца з вупражжу. Ён сцеражэ Лопуха замест Лёшкі.

— Мікола, табе што? — адгукнуўся вартаўнік.

— Старшыня Лопуха на сход кліча.

На сходзе сама разгарэліся спрэчкі. Узбуджаныя калгаснікі крычаць, нешта даказваюць, перабіваюць адзін аднаго.

— Таварыш старшыня! — звяртаецца адзін калгаснік да Дубовіка. Але яго голас патанае ў агульным шуме.

Да царквы падыходзяць стары і Лопух. Твар у Рыгора змрочны. Што старшыня яшчэ задумаў? Няўжо яго будуць разбіраць на агульным сходзе? Зганьбяць на ўвесь белы свет! І што за людзі? Чаго яны ад яго хочуць? Ведаў бы — не рамантаваў бы ім збрую. Ну і парадачкі! Лепей бы ў горад павезлі…

Рыгор увайшоў у залу, праціснуўся праз натоўп у праходзе і спыніўся перад сталом прэзідыума. Зняў шапку і збянтэжана кашлянуў. Ён увесь напяўся, чакаючы, што зараз яго будуць вінаваціць у крадзяжы перад усім народам.

У зале запанавала насцярожаная цішыня. Пахмурна, але і з цікавасцю глядзяць калгаснікі на Лопуха.

Дубовік падняўся з-за стала і пытае ў Рыгора:

— Як па-твойму, сур’ёзная хвароба ў коней?

Не чакаўшы такога пытання, Рыгор з палёгкай уздыхнуў, выцер спацелы лоб. Скаванасць як рукой зняло. На пытанне Дубовіка яму адказаць проста, чуў ужо ля канавязі ды і коней ведае, як свае пяць пальцаў. Ён упэўнена загаварыў:

— Калі запусціць хваробу, дык яна можа і сур’ёзна скончыцца…

— А пры добрым доглядзе колькі дзён патрэбна, каб коні паправіліся?— зноў пытае Дубовік.

Рыгор прыкінуў нешта ў галаве і адказаў:

— Так дні чатыры, пяць… не болей.

У зале зноў шум. Дубовік, не звяртаючы на гэта ўвагі, працягвае:

— Дык вось што. Праз пяць дзён коні павінны быць здаровымі. Возьмешся?

Рыгор маўчыць, не ведае, што адказаць. У зале шум нарастае. Пачуліся выкрыкі:

— Няможна яму, мужыкі, коней давяраць!
— Гэта ж проста шкодніцтва!
— Ні чорта ён не ведае!..
Крукоўскі не гучна, але, каб пачулі тыя, хто сядзіць з ім побач, з’едліва кажа:
— А можа, і ведае… Які канакрад коней не ведае!
Падбухтораны гэтымі словамі Паўлюк, які сядзеў за яго спіной, устае з месца і з ухмылкай крычыць:
— Прапалі нашы коні, мужыкі!
Пачуўшы ўсё гэта, узбураны Рыгор павярнуўся тварам да калгаснікаў, акінуў іх позіркам, у якім былі і роспач, і боль, і, ні слова не кажучы, рашуча надзеў шапку, пачаў прабірацца да выхаду.

Ветэрынар адобрыў новы метад догляду коней.Ад клопатаў Лопуха хутка аднавілася конская гаспадарка калгаса.
Стайня. Каля канавязі стаяць коні. Рыгор дае нешта аднаму з далоні, любуецца каняжынай, пяшчотна яе гладзіць.
Дубовік з ветэрынарам аглядаюць далей.
— Ну што? — пытае старшыня ў ветэрынара.
— Добра, добра… Праз пару дзянькоў і ў работу можна… Відаць, любіць коней і даглядаць умее, — кіўнуў ён у бок Рыгора.
Абодва наблізіліся да Лопуха і разам з ім працягваюць агляд.
Раптам падышоў Крукоўскі. Ён падае Дубовіку паперу.
— Змітро Лявонавіч, вось… з горада.
Дубовік бярэ паперу і чытае:
— «Повестка. Лопуху Григорию. 15 мая сего года в городском суде будет слушаться дело о краже лошади. Суд вызывает вас в качестве обвиняемого. Ваша явка обязательна».
Дачытаўшы позву, Дубовік аддае яе Рыгору.
— Прыйдзецца цябе ў горад везці. Праз два дні суд… — неахвотна сказаў ён.
Рыгор адхінае рукой позву і з абурэннем кажа:
— Суд? За што?.. Не вінаваты я, таварыш старшыня!
Крукоўскі, нібыта спачуваючы Лопуху, лісліва звяртаецца да Дубовіка:
— А ці нельга без суда, таварыш старшыня? Шкада чалавека, — і, уздыхнуўшы, упэўнена дадае: — Гадкоў дзесяць дадуць, не меней…
Дубовік з непрыхільнасцю кажа брыгадзіру:
— Валі, валі…

Рыгор у роспачы.

— Змітро Лявонавіч… — з надзеяй звяртаецца ён да старшыні.

Але той, баючыся сустрэцца з Рыгорам позіркам, адвярнуўся.

— Не маю права, — сказаў ён спакойна.

Рыгор, страціўшы самавалоданне, узрываецца і са злосцю крычыць:

— А чалавека губіць маеш права?!

Дубовік, не звяртаючы ўвагі на Лопуха, кажа брыгадзіру:

— На сёмую гадзіну раніцы запрагай.

Крукоўскі зноў лісліва, нібы апраўдваючыся перад Рыгорам, кажа напаўголаса, нахіліўшыся да яго:

— Не сярдуй, родны. Не маю права. Закон суровы, браток!..

Рыгор моцна б’е нагой па пустым вядры, што стаіць ля яго. Вядро са звонам пакацілася. Рыгор, раз’юшаны, ідзе да стайні. Пакрыўджаны да глыбіні душы, ён крычыць:

— Усё роўна не ўтрымаеце! Уцяку! — ён злосна шпурнуў убок шчотку, якую трымаў у руцэ. — Падавіцеся вы з вашай работай, жываглоты! Цьфу! — ён сярдзіта сплюнуў у бок Дубовіка, ветэрынара і Крукоўскага.

Вечар. Вясковая вуліца. У цёплым паветры, над садамі, гародамі, разлілася пяшчотная млявасць. Незвычайная цішыня пануе навокал. Такая цішыня бывае толькі вясной, калі наліліся сокам бярозы, калі квітнеюць сады, а на песціках кветак ужо набракае завязь, каб потым разрасціся ў сакавітыя плады. Цішыню парушае салаўіны хор, што далятае з зараснікаў на возеры. Салаўі будуць спяваць усю ноч аж да самага золку, гэта будзе іх ноч, салаўіная ноч кахання…

У такія вечары нудзіцца дзявочае сэрца…

Па вуліцы ўздоўж плота, якога не відаць з-за навіслых галінак, не спяшаючыся ідзе Марына. Яна адхіляе вецце, што звісае над самай сцежкай, і слухае салаўёў. На яе летуценным твары блукае ўсмешка… У сэрцы дзяўчыны квітнее май, яна чакае нечага хвалюючага, яшчэ не зведанага, незвычайнага… У квецені садоў, у млявым паветры, у прыемным паху, што ішоў ад лесу і палёў, у салаўіных спевах ёй мрояцца пяшчотныя вочы, прыгожы твар і дужая зграбная постаць абранніка яе сэрца… Рыгора.

Работнікі сельсавета разам з Дубовікам знайшлі сляды шкодніцтва ў калгасе.

Даволі прасторнае памяшканне сельсавета. Ля сцяны стаіць столік. Над ім вісяць тэлефон і некалькі плакатаў. Са столі звісае газавая лямпа.

За столікам сядзіць стары — сакратар сельсавета. Перакінуўшы на лічыльніках костачку, ён глядзіць на вынік і кажа:

— Трыста пяцьдзесят дзевяць… — запісвае ў сшытак. — А па аднаасобным сектары, — кажа ён самому сабе, — на кожны двор прыпадае…

Стары яшчэ перакінуў некалькі костачак. Ён працуе.

Насупраць сакратара за такім жа столікам, як у яго, сядзіць жанчына і нешта піша.

— А як жа зробім са «Шляхам сацыялізму»? Дамо ім плугоў ці не? — не перастаючы пісаць, пытае яна старога.

Сакратар падняў галаву.

— Безумоўна, трэба… — сказаў ён і спахапіўся: — Во ядрона корань, зноў збіўся!

У сельсавет імкліва ўваходзіць Дубовік. Ён вельмі ўсхваляваны. У руках яго папера. Нават не прывітаўшыся, ён з ходу пытае:

— Дзе старшыня?

— А-а, Дубовік! — радасна ўсклікнула жанчына. — Вось добра! Пазычыш пяток плугоў «Шляху сацыялізму»?

— Ідзі да чортавай матары з плугамі! — злосна кідае Дубовік. — Дзе старшыня?!

— Адурэў… — пакрыўджана паціснула плячамі жанчына.

Сакратар адсунуў убок лічыльнікі, зняў акуляры і пытае:

— А што здарылася?

Размахваючы ў паветры паперай, Дубовік са злосцю крычыць:

— У мяне ў калгасе шкодніцтва! Сволачы!.. Коней бітым шклом кармілі!

Сакратар зноў надзеў акуляры.

— Хто… Васька? — ці то спытаў стары, ці то сказаў пераканаўча.

— Не, Таська! — перадражніў яго Дубовік.

З суседняга пакоя выйшаў старшыня сельсавета.

— Чаго крычыш?

— А як жа не крычаць? — абураецца Дубовік. Ён працягвае старшыні паперу. — Вось, чытай! Адказ ветэрынара!

Старшыня чытае:

— «Падеж коней в колхозе «Красный лог» является следствием примешивания в корм битого стекла. Основание: анализ бактериологической лаборатории».

Старшыня вяртае Дубовіку заключэнне.

— Вось табе і на… — разгублена гаворыць ён.

— Ваську трэба арыштаваць. Зараз жа, — рашуча гаворыць Дубовік.

Старшыня кіўнуў у знак згоды і звяртаецца да сакратара:

— Ану, па міліцыянера!

Той, зняўшы акуляры, апранае пінжак і хуценька выходзіць.

Марына з кветкай у руках ідзе па вуліцы. Апынуўшыся за ваколіцай, яна ідзе паўз гароды, якія спускаліся ўніз да возера. Зарослая травой сцяжынка вывела яе да самай вады.

Ля берага стаіць на прычале лодка, яна як застылая на нерухомай вадзе ў сінім вячэрнім змроку. Марына падышла да яе і села на борт.

Тут, ля самага возера, салаўіны хор гучаў больш урачыста. Марына затаілася, каб не патрывожыць птушак у зарасніку, бо ён зусім блізка. Зачараваная, яна слухае. А наўкол такая прыгажосць!.. З вады ледзь прасвечваюцца зялёныя гарлачыкі на доўгіх сцяблінах. Угрэўшыся днём на сонейку, яны схаваліся на ноч пад вадой. Ля самага берага спачывае чарот. Заўсёды шумлівы, ён стаіць ціха, нават не зварухнецца: ветрык адгуляў сваё і недзе спіць у вербалозе. Ніцая вярба стомлена схілілася над возерам, акунуўшы ў ваду сваё вецце… А далей ад берага па нерухомай цёмнай роўнядзі нібы хтось раскідаў кучаравую воўну — гэта аблокі адлюстраваліся ў возеры. А вось і месячык ледзь абазначыўся ў небе, вузенькім серпікам ён павіс над вадой. Цішыня! Толькі заліваюцца салаўі…

Раптам Марына пачула яшчэ адну песню. Дзяўчына ўглядаецца ў водную далячынь. Там плыве лодка. Ад яе далятае песня.

То не ў рэчцы чарот нахіляецца,
гэта дзеванька жне, надрываецца…

Спявалі дзяўчаты. Лодка ўсё бліжэй, бліжэй, яна плыве ўздоўж берага.

Гэта дзеванька жне, надрываецца…

Марына ўстае і махае сяброўкам рукой.

— Дзяўчаты, вы куды?

— Катаемся!

— Вазьміце мяне!

Дзяўчаты падплылі да берага. Марына ўскочыла ў лодку і ледзь яе не перакуліла.

— Асцярожна! — смеючыся, крычаць дзяўчаты. Сяброўка падала Марыне руку, каб яна не ўпала.

Лодка адплывае ад берага.

У гэту ціхую вясновую ноч перад выхадам у поле не спалася калгаснікам. Не спалася і брыгадзіру Антону Крукоўскаму.

На вышках у пуні спіць у саломе Рыгор. Раптам пачуўся нейкі стук. Рыгор прачнуўся. Прыслухаўся — нехта паціху стукае ў заднюю сцяну пуні. Рыгор асцярожна злазіць па лесвіцы ўніз і падыходзіць да сцяны.

На дварэ ля сцяны пуні стаіць Крукоўскі. Азіраючыся па баках, ён праз шчыліну ціха кліча:

— Лапух!.. Лапух! Спіш? Не спі, браток!

— Чаго? — пытае напаўсонны Рыгор.

— Уцякаць трэба! — паўшэптам кажа Крукоўскі.

Рыгор усё яшчэ не можа адагнаць ад сябе сон.

— Хто гэта гаворыць?

Крукоўскі хапатліва зашаптаў:

— Свой… Калі хочаш жыць, бяжы!.. Суровы цяпер суд!.. Бяжы, Лапух!

Рыгор не можа зразумець, хто там за сцяной шэпча і што ад яго хочуць.

— Як жа бегчы? — спрасонку пытае ён.

— Ідзі да варот, я адчыню, — зноў пачуў ён шэпт.

Сельсавет. За столікам ля тэлефона на месцы сакратара сядзіць міліцыянер. Перад ім на краёчку табурэткі згорбіўся чалавек у кепцы. Гэта былы конюх Васька. За яго спіной стаяць Дубовік, стары-сакратар і калгаснікі. Ад Ваські хочуць прызнання: хто падмешваў бітае шкло коням у корм.

— Ну? — чуецца грозны голас.

Спалоханы Васька ледзь прыўзняў галаву і заканькаў:

— Нічога не ведаю… Далібог!.. — ён баязліва азіраецца, як зацкаваны воўк, каб знайсці якога-небудзь паратунку, але не знаходзіць яго. І тады Васька з адчаем зірнуў на Дубовіка і кажа: — Таварыш старшыня! Ды вы запытайцеся ў Антона Крукоўскага!.. Ён жа ўсё ведае… Ён можа пацвердзіць…

Ля варот пуні, абапёршыся на вінтоўку, дрэмле Лёшка. Да яго падыходзіць устрывожаны Паўлюк і тузае за плячо.

— Лёшка!.. Далібог бачыў!.. Сваімі вачамі бачыў!..

Лёшка, схамянуўшыся, ускочыў на ногі і ўскінуў напагатоў вінтоўку.

— Каго бачыў? — спалохана пытае ён.

Паўлюк паказвае кудысьці ўбок.

— Нейкі чалавек каля пуні хаваецца… — паўшэптам кажа ён.

— Чужы?

— Ага!

— Пойдзем паглядзім! — ваяўніча кажа Лёшка.

Яны пайшлі за пуню.

Да варот пуні крадком, азіраючыся па баках, падыходзіць Крукоўскі. Ён ціха адчыняе вароты. З пуні выходзіць заспаны Лопух. Крукоўскі злёгку штурхнуў яго ў спіну і шэпча:

— Бяжы хутчэй!

Рыгор павярнуўся на шэпт, каб паглядзець, хто яго вызваліцель. Ён углядаецца ў твар свайго дабрадзея і пры месячным святле пазнае яго.

— Крукоўскі! — усклікнуў здзіўлена Рыгор.

— Я, я… — незадаволена пацвердзіў той, азіраючыся. — Праз агароды да возера бяжы!..

Рыгор стаіць, яму яшчэ няўцям, што адбываецца.

І што за людзі? Ніякай рады не дасі. Старшыня конюхам робіць, а брыгадзір уцякаць падбухторвае. Ці ж гэта брыгадзір?.. Не, тут нешта не так. І навошта ўцякаць Рыгору? Суд разбярэцца, і ён вернецца ў калгас. Старшыня ж прыхільна ставіцца да яго, Рыгор гэта адчуў. А калі ён збяжыць — значыць, вінаваты!.. Не, Крукоўскі нешта благое задумаў. Ды і як жа яму без Марыны? Апошні час Рыгор толькі і трызніць дзяўчынай, нават сніць яе… Не, ён не хоча бегчы адсюль. Ды і куды? Навошта?..

— Дзіўна! — кажа Рыгор самому сабе. Крукоўскі зноў нецярпліва яго падштурхнуў.

— Думаць няма калі… Чуеш? Ідуць! Бяжы! — устрывожана зашаптаў ён.

Абодва, прыгнуўшыся, паспешна разбягаюцца ў розныя бакі.

Да варот вяртаюцца Лёшка з Паўлюком. Лёшка садзіцца на сваё ранейшае месца і ставіць паміж ног вінтоўку, абапёршыся на яе рукамі.

— Бачыў, бачыў!.. — сярдзіта прабірае ён Паўлюка. — Ні чорта ты не бачыў! Здалося табе!

Паўлюк азіраецца наўкол.

— Ды не здалося!.. Бачыў! — таўчэ ён сваё.

Лёшка пачынае злаваць:

— Ну, а дзе ж ён?!

Паўлюк, адступіўшы на некалькі крокаў, вінавата пацiснуў плячамі.

— А я ведаю?

Лёшка з’едліва дражніць Паўлюка:

— Ба-а-ачыў!..

Паўлюк, прыціснуўшы рукі да грудзей, памкнуўся яшчэ нешта сказаць, але Лёшка і слухаць яго больш не хоча.

— А ідзі ты!… — сказаў ён з прыкрасцю і адвярнуўся.

Паўлюк, яшчэ раз азірнуўшыся па баках, адыходзіць.

Васька, адчуўшы, што супраць яго няма ніякіх доказаў, асмялеў і больш упэўнена стаў націскаць на сваю невінаватасць:

— Ды няхай мяне гром заб’е, калі я што-небудзь ведаю! Ды я ж…

Васька раптам анямеў, так і застаўся сядзець з разяўленым ротам — перад ім стаяў Лопух.

Узрушаны Рыгор уляцеў у сельсавет без шапкі, раскудлачаны, у расшпіленай кашулі. Яшчэ толькі ступіўшы на парог, ён закрычаў, убачыўшы Дубовіка:

— Змітро Лявонавіч!..

__ Ты як сюды трапіў? — перабівае яго здзіўлены старшыня.

Рыгор паказвае рукой кудысьці ўбок і, не аддыхаўшыся пасля шпаркага бегу, кажа:

— Крукоўскі выпусціў… каб уцякаў…

Міліцыянер ускочыў з месца. Усе замітусіліся ў паніцы. Хмуры Дубовік падышоў да Рыгора і з недаверам пытае:

— Крукоўскі?

Рыгор хоча нешта сказаць, але раптам заўважае чалавека ў кепцы, што сядзіць на табурэце. Рыгор уважліва ўглядаецца ў яго і, здзіўлены, крычыць:

— Ды гэта ж ён!

— Хто? — спытаў старшыня, нічога не зразумеўшы.

Рыгор падыходзіць бліжэй да Ваські. Той, спалоханы, адвярнуўся, хаваючы твар.

— Гэта ён з крадзеным канём быў! — кажа Рыгор.

— А ты не блытаеш? — з сумненнем пытае Дубовік.

— Ды ён! — ужо зусім упэўнена кажа Рыгор. Ён падышоў да Ваські ўшчыльную, узяў яго за рукаў і падняў з табурэткі. — Я яго бачыў!..

Раптам трывожна забіў звон. Усе кінуліся да вокнаў. За дахамі хат чырванее зарыва. Па вуліцы бягуць людзі.

У лодцы напалоханыя дзяўчаты. Яны пачулі звон і, ускочыўшы на ногі, трывожна аглядаюцца.

— Ой, дзеванькі!.. Гарыць! — закрычала адна дзяўчына, паказаўшы рукой у бок зарыва.

— Дзе гарыць?

— Вунь, Церахоўка гарыць…

Марына глядзіць на зарыва.

— Ды не Церахоўка, а наш калгас! — раптам закрычала яна і рашуча ўзялася за вёслы. Моцна заграбаючы адным вяслом, Марына павярнула лодку да берага.

— Хутчэй грабі! — падганяюць яе дзяўчаты.

За садамі шугае агонь.

Прысеўшы ля вады на кукішкі, Крукоўскі старанна адмывае рукі ад сажы. Да яго з усіх ног бяжыць Паўлюк.

— Антось!.. Антось!.. — спалохана крычыць ён яшчэ здалёк.

Крукоўскі, спужаны яго крыкам, павярнуўся і дапытліва глядзіць на Паўлюка. Той падбягае, цяжка дыхаючы.

— Бяда, Антось…

Крукоўскі баязліва азірнуўся.

— Цішэй, дурань! — сказаў злосна.

Паўлюк, таксама баязліва азірнуўшыся па баках, выгукнуў адным дыхам:

— Лапух не ўцёк! Ён разам з імі!

Крукоўскі як апараны ўскочыў на ногі і схапіў Паўлюка за штрыфелі пінжака.

— Не ўцёк?! — злосныя вочы свідравалі хлопца.

— Не… — разгублена адказаў ён. Потым рэзка адхіліўся, каб вызваліць свой пінжак з учэпістых рук брыгадзіра.

— Эх, сволач! Загубіў усіх! — скрозь зубы цэдзіць Крукоўскі і раз’юшана трасе кулаком. — Ну, а коні, коні як?! — трывожна спытаў ён.

— Усіх вывелі… — у роспачы адказаў Паўлюк, але тут жа радасна дадаў: — А канюшня згарэла!

Крукоўскі неяк абмяк і безнадзейна махнуў рукой.

— Уцякаць, ратавацца трэба… — сказаў ён змрочна.

Ён кінуўся да лодкі, на якой зусім нядаўна сядзела Марына, ускочыў у яе і схапіў вясло, што ляжала на дне. Паўлюк нама-

гаецца адчапіць ланцуг ад кала, да якога прывязана лодка, але гэта яму не ўдаецца.

— Рві з колам!.. — злосна сіпіць брыгадзір.

Той паднатужыўся і вырваў кол разам з ланцугом, кінуў усё ў лодку. Хуценька адпіхнуў яе ад берага і ўскочыў сам.

Лодка адплывае.

Амаль у той жа час на бераг прыбеглі Рыгор Лопух, Лёшка, сакратар сельсавета і калгаснікі. Убачыўшы ўцекачоў, усе разам закрычалі:

— Глядзі, браточкі! Гэта яны!

— Уцякаюць!

Лёшка ўскінуў вінтоўку і стрэльнуў у бок уцекачоў. Стары-сакратар ухапіўся рукамі за вінтоўку і цягне яе да сябе.

— Ты што, здурэў?!

Той, не аддаючы вінтоўку, спагадліва суцяшае старога:

— Ды я ў паветра! Трымай! — ён аддае вінтоўку напалоханаму сакратару.

Крукоўскі з усяе сілы налёг на вясло. Паўлюк, седзячы на карме, перахіліўся цераз борт і сутаргава падграбае рукой замест другога вясла.

Насустрач ім плыве лодка з дзяўчатамі, але яна крыху ўбаку і яшчэ далёка.

Рыгор глядзіць на лодку з уцекачамі, якая ўсё далей і далей адплывае ад берага. Ён хвалюецца.

— Уцякаюць… Ух ты, скажы!.. Лодка дзе? — азіраецца ён па баках.

Да яго падбег узрушаны Лёшка. Ён гатовы дапамагчы Рыгору, але што тут зробіш, калі няма на чым іх дагнаць!

— Лодкі няма… няма… — у роспачы паўтарае ён.

Стары-сакратар, абапіраючыся на Лёшкаву вінтоўку, пільна ўглядаецца ў бок уцекачоў і раптам крычыць:

— Глядзіце! — ён паказаў рукой. — Вунь дзеўкі на лодцы!

Лёшка прыклаў далоні да рота і на ўсю моц крычыць:

— Дзеўкі!.. Дзеўкі!..

— Дзеўкі!.. — разам з ім крычыць і Рыгор. — Трымайце падпальшчыкаў!

Марына, пачуўшы з берага галасы, павярнулася — і ўбачыла ўцекачоў. Налёгшы на вёслы, яна скіравала сваю лодку ім напярэймы.

Лёшка не можа стрымаць свайго хвалявання.

— Уцякуць! — крычыць ён.

Рыгор, крыху супакоіўшыся, сказаў упэўнена:

— Не ўцякуць.

Абодва сочаць за тым, што адбываецца на возеры.

А лодкі тым часам хутка збліжаліся.

Крукоўскі позна заўважыў лодку дзяўчат. Ды ці далёка ўцячэш з адным вяслом! Каб не стукнуцца, ён перахіліўся цераз борт і, што ёсць сілы, шпарка грабе, намагаючыся адвярнуць убок нос сваёй лодкі. Але не разлічыў. Яго лодка лёгкая і ад крутога павароту перакульваецца. Брыгадзір і Паўлюк апынуліся ў вадзе.

Крукоўскі падплыў да лодкі дзяўчат і ўчапіўся за борт. Марына, убачыўшы гэта, кінула вёслы, схапіла яго за каўнер і акунула ў ваду. Той вырываецца. Але дзяўчаты кінуліся ёй на дапамогу. Паўлюк крыху ўбаку, ён з апошніх сіл трымаецца на вадзе. Ён і Крукоўскі, захлынаючыся, спалохана і бездапаможна б'юць рукамі па вадзе, каб не патануць.

Як па камандзе, нават не распрануўшыся, Рыгор і Лёшка кідаюцца ў ваду і плывуць да дзяўчат. За імі — калгаснікі.

Цяжка дыхаючы, Лёшка і Лопух цягнуць з вады напаўжывых брыгадзіра і Паўлюка. Дзяўчаты падганяюць іх парожнюю лодку да берага.

Узбуджаныя, але задаволеныя калгаснікі, цесным гуртам акружыўшы ўцекачоў, ідуць па дарозе ў вёску. Пад іх пільным вокам крочаць мокрыя і скалелыя Паўлюк і Крукоўскі.

Усе ідуць у сельсавет.

Сонечная раніца. На дварэ ля пуні-цялятніка Марына корміць цялушак. Тыя ўткнуліся пысамі ў кармушку. Марына пяшчотна гладзіць іх.

За плотам па дарозе едуць калёсы, на іх сядзяць пад канвоем міліцыянера Крукоўскі, Паўлюк і Васька. За гэтымі калёсамі едуць яшчэ адны, на іх, падганяючы лейцамі каня, сядзіць Дубовік, а плячамі да яго, звесіўшы ногі з калёс, сядзіць Рыгор і глядзіць назад, на дарогу, сумным позіркам праводзячы хаты, гароды, сады чужой вёскі, дзе ён так нагараваўся, але якая нечым стала яму такой блізкай і роднай!

Марына, убачыўшы гэты незвычайны абоз, падышла да плота. Калі калёсы з Лопухам параўняліся з ёю, старшыня крыху прытрымаў каня.

— Ужо едзеце? — ветліва ўсміхаючыся, спытала Марына.

Рыгор, убачыўшы дзяўчыну, не змог стрымаць шчаслівай усмешкі.

— Так трэба! — крычыць ён радасна і, кіўнуўшы на Дубовіка, растлумачыў: — Старшыня кажа — трэба!

— Трэба, трэба! — усміхаючыся, пацвердзіў Дубовік. Ён зухавата падміргнуў Марыне: — Мы хутка вернемся!.. Паехалі!

Старшыня ўзмахнуў лейцамі. Коні пабеглі шпарчэй. Калёсы весела затарахцелі па дарозе, яны ўсё далей і далей…

Марына стаіць ля плота. Рыгор, радасна ўсміхаючыся, махае дзяўчыне рукой.

— Быва-а-ай!.. — крычыць ён здалёк.

У небе свяціла ўрачыстае сонца. Яно абяцала пагодны дзень…

*1931–1933*

# ШУКАЛЬНІКІ ШЧАСЦЯ

З многіх раёнаў Савецкага Саюза, з-за рубяжа на Далёкі Усход, на шырокія прасторы багатай тайгі, на берагі Амура, у Бірабіджан пацягнуліся працоўныя яўрэі-перасяленцы.

Едзе ў савецкі Бірабіджан і сям'я старой Двойры, якая блукала па свеце, некалі пакінуўшы яўрэйскае мястэчка ў былой мяжы аселасці вялікадзяржаўнай Расіі.

Мора. Ідзе параход. Цяжкімі густымі глыбамі сцелецца над вадой цёмная заслона туману. Тужліва плача сірэна, яна то гучнее, то замірае недзе ўдалечыні… Трывожна б'е звон. Павольна паўзе параход скрозь непранікальную завесу туману.

І раптам урачыста загуў параход. Туман рассеяўся. І, нібыта радуючыся вызваленню з цемры, радасна зайграла сонца, адбіваючыся ў металічных частках парахода.

Пасажыры згрудзіліся ля борта. Малады жаночы голас спявае сумную яўрэйскую песню. На карме сярод клункаў і чамаданаў сядзяць старая Двойра і Бася. Двойра нешта вяжа. Лёва і Роза, стоячы на палубе, глядзяць у бінокль. (Бася, Лёва і Роза — дзеці Двойры.) Каля іх на трапе з сумным выглядам сядзіць маленькі, мізэрны Піня. Гэта муж Басі.

Калі песня скончылася, Піня нудным голасам зацягнуў сваю:

Куды едзем?.. Е-едзем, едзем…
Можа быць, даедзем?

Ён аглядаецца, заўважае паблізу на лаўцы пасажыра з часопісам у руках і звяртаецца да яго:

— Скажыце, калі ласка, колькі, — прыблізна, вядома, — колькі можа каштаваць такі параход?

Пасажыр здзіўлена пацісnуў плячыма, адказвае:

— Не ведаю. Вы што, хочаце купіць?

Піня робіць рукой няпэўны жэст.

— Не, так проста. Цікава, — адказаў ён і адвярнуўся.

Піня задумліва глядзіць на ваду. Ён адзін са сваімі думкамі і, падпёршы галаву рукамі, ціха напявае:

Едзем, едзем… едзем, едзем,
не даедзем, пераедзем…
е-е-едзем… е-едзем,
а куды?.. навошта?..

Тужлівая песня Піні раздражняе Лёву.

— Піня, перастаньце ныць. Вы мне перашкаджаеце думаць.

— Цікава, аб чым гэта вы можаце думаць? — пытае Піня.

— Я думаю, куды б вас прыстасаваць? Хоць да якой-небудзь працы! Га?

Піня фанабэрыста глядзіць на Лёву.

— Дарэмна. Працаваць будзеце вы. — Падумаўшы, Піня дадаў: — І Роза.

Роза, адарваўшыся ад бінокля, паварочваецца да Піні, здзіўлена глядзіць на яго.

— А вы? — пытаецца Лёва.

Піня стукае пальцам па сваёй галаве.

— У мяне галава, і аба мне не турбуйцеся, сёе-тое будзем там рабіць.

Лёва смяецца.

— Піня! На новай радзіме старымі звычкамі не пражывяце! — сярдзіта кажа Роза.

— Цікава! А калі мне па старой звычцы кожны дзень хочацца есці? — Піня незадаволена глядзіць на Розу.

Тая адвярнулася, не жадаючы працягваць размову. Зноў глядзіць у бінокль.

Бася просіць Двойру:

— Мама, скажыце Розе, каб яна не прыставала да Піні.

— Дзеці, досыць сварыцца, кіньце старыя спрэчкі. Усім будзе добра, — прымірыцельна кажа Двойра.

Задаволены Піня падсаджваецца да Басі і з удзячнасцю гладзіць яе руку.

Лёва, убачыўшы гэта, з’едліва кажа:

— Прыемна глядзець… Ціхая, дружная сям’я.

— Лёва, перастань! Ты яшчэ хлопчык, — незадаволена кажа Двойра.

Басавіта загуў гудок, абвяшчаючы аб хуткім прычале. Замітусіліся пасажыры на палубе. Замітусілася і сям’я Двойры,

збіраючы клункі і чамаданы. Зноў гудок. Густы дым ляціць з трубы парахода…

…Густы дым ляціць з трубы паравоза. Па сібірскіх прасторах імчыцца пасажырскі састаў. Мільгаюць за акном тэлеграфныя слупы, таежныя вёсачкі, грымучыя рэкі, а далей — праплываюць палі і незвычайнай прыгажосці паўночныя краявіды: на горных схілах лясныя масівы, у суровым маўчанні застылі панурыя сопкі з беласнежнымі шапкамі, цямнеюць таежныя далі на адгор'ях скалістай грады… А калі пацямнеў гарызонт і на неба выйшлі халодныя зоркі, раптам за паваротам, з-за скалы адкрылася аграмаднае возера — магутны прыгажун Байкал.

Доўга ішоў цягнік па беразе возера ўздоўж спакойнай, задумлівай вады.

У калідоры вагона, каля купэ, у якім размясцілася сям'я Двойры, стаіць сярэдніх гадоў чалавек у пенснэ і капелюшы. Ён іграе на кларнеце сумную мелодыю. Пасажыры моўчкі слухаюць.

Піня сядзіць у купэ на верхняй лаўцы, склаўшы ногі патурэцку. Глядзіцца ў люстэрка, прымярае новы капялюш. Пасажыр, які сядзіць пад ім, чытае ўголас газету:

— «У Бірабіджане на рацэ Сутары калгаснік Кац з калгаса “Дэр Штэрн”[1] знайшоў самародак золата вагой 800 грамаў».

Піня ўважліва слухае. Ён кладзе ўбок капялюш, злазіць з лаўкі і прысаджваецца побач з пасажырам.

— Я ізвіняюсь, прачытайце яшчэ раз гэта месца, — просіць Піня.

— «У Бірабіджане на рацэ Сутары калгаснік Кац з калгаса «Дэр Штэрн» знайшоў самародак золата вагой 800 грамаў», — зноў прачытаў пасажыр.

Піня ўсхваляваны. У яго заклапочаны выгляд. Ён падымаецца, потым зноў садзіцца.

— Так-такі знайшоў?

— Ну да, знайшоў…

— Знайшоў золата… Цікава!.. Дзякуй! — падзякаваў ён пасажыру.

Плача кларнет. Бася задумліва глядзіць удалечыню, слухае. Заміраюць апошнія гукі. Кларнетыст укладвае інструмент у футляр. Бася звяртаецца да яго:

— Вы добра іграеце. Вы ігралі «Плач Ізраіля»[2]?

— Так, «Плач Ізраіля»… на берагах Амура, — з сумам іранічна адказаў кларнетыст.

Піня здзіўлена глядзіць на яго.

— Вы былі ў Бірабіджане?

Кларнетыст паправіў пенснэ.

— Быў. А вы думалі, там усе толькі радуюцца? — кажа ён, павярнуўшыся да Басі. — Шчасце, што вырваўся.

— Чаму? — усё гэтак жа здзіўлена пытаецца Піня.

— Няўжо ў Бірабіджане гэтак дрэнна? — недаверліва спытаў Лёва.

На верхняй лаўцы ляжыць Натан, ён грызе яблык. Прыслухаўся да размовы.

Кларнетыст глядзіць на Піню.

— Мне падабаюцца гэтыя яўрэйскія пытанні «чаму»… Таму што я не дурань. Карчаваць тайгу, карміць сваёй крывёю машку і камароў і чакаць, пакуль цябе разарве тыгр? Не, дзякуй!

Піня, Бася і іншыя слухаюць. Лёва сядзіць засмучаны.

Піня ўзбуджаны ўскоквае з месца.

— Нішто сабе радзіма! Толькі тыграў мне не хапала!.. Роза, што ты на гэта скажаш?

— Не бойся, Піня. Горш, чым у Палесціне, нам не будзе.

Кларнетыст здзіўлена пляснуў рукамі.

— Дык вы едзеце з Палесціны?.. А чым вам там было кепска?

Піня загаварыў паспешліва, з ноткамі іроніі:

— Там? Вельмі хораша! Проста цудоўна! Паветра добрае, шмат сонца, я знаю… Можна маліцца!

— Так, але работы там няма, — сумна дадала Роза.

Натан саскочыў з лаўкі.

— Не верце яму, — ківае ён на кларнетыста. — Таварышы, што кажа наша партыя? Яна кажа: працуй — і ты будзеш шчаслівы. Хто не ведае цяжкасцяў — той не ведае радасці. Будзеце працаваць у Бірабіджане — і будзе вам добра. Вы прыязджайце ў наш калгас. Вы ўбачыце там сапраўднае працоўнае жыццё.

— У які? — пытаецца Роза.

Натан павярнуўся да яе.

— Калгас «Ройтэ Фелд»[3]! У нас большасць прыезджых з-за мяжы. Я там старшыня.

Кларнетыст зняў шляпу, з усімі раскланьваецца і з іроніяй кажа:

— Яўрэі, да пабачэння. Будзе ў Бірабіджане добра — пішыце. Я прыеду.

Лёва, зрабіўшы рукой развітальны жэст, кажа з той жа ироніяй:

— Да пабачэння! Чакайце пісьмаў. Заказныя!.. Не, тэлеграму-маланку!.. Бачылі? Прыедзе, калі будзе добра! Басяк!

Цягнік улятае ў тунель.

Перасяленчы пункт. Зала чакання. На лаўцы сядзяць Двойра, Бася, Роза і Піня. Выгляд ва ўсіх стомлены.

— Ах, дзеці, дзеці!.. — гаротна ўздыхае Двойра.

— Што з табой, мамачка? — спачувальна пытае Бася.

— Мама, не трэба сумаваць, — суцяшае Роза.

— Ці будзе нам у Бірабіджане добра?

— Будзе, мамачка, будзе, — запэўніла Бася.

Наморшчыў лоб, аб нечым засяроджана думае Піня.

— Так, куды ж мы едзем? — пытаецца ён.

— Зноў! Мы едзем у калгас «Ройтэ Фелд», — кажа Роза.

— У калгас «Ройтэ Фелд»? — зноў спытаў Піня.

— Піня, уся сям'я едзе, — умяшалася Бася.

— А дзе будзем жыць?

— Натан жа сказаў, у бараку, — ужо раздражнёна адказала Роза.

— У бараку? — незадаволена здзівіўся Піня.

— Так.

— І колькі?

— Два месяцы.

— І толькі?.. Мала… Але я яшчэ не рашыў!

Піня падымаецца і ідзе да газетнага кіёска. Бярэ газету.

— Колькі?

— Бясплатна.

— А гэта? — Піня бярэ нейкую брашуру.

— І гэта.

— Цікава!

Адышоўшы ад кіёска, Піня прысаджваецца на лаўку. Бегла прагледзеўшы газету, ён сядзіць, заклапочана азіраючыся па баках, быццам кагосьці выглядае.

З кабінета старшыні выходзіць сакратар. Гледзячы ў спіс, ён называе прозвішчы:

— Рувім Навумаў з Оршы. Абрам Вока з Гомеля!

Выкліканыя праходзяць у кабінет.

Як доўга цягнецца час! Ужо ўвайшлі да старшыні і выйшлі перасяленцы з Ленінграда, з Кіева, з Польшчы. І нарэшце:

— Мойша Сандлер з Тамашпаля, Двойра Бер з сям'ёй з Палесціны!

Двойра, Роза, Лёва і Бася ўваходзяць у кабінет. Падышоўшы да стала, за якім сядзіць шмат людзей, у тым ліку і Натан, Роза першая падае дакументы.

Піня не спяшаецца ў кабінет, ён нервова і з тым жа заклапочаным выглядам усё шукае кагосьці вачыма. Нарэшце ён заўважае чалавека з газетай, які сядзіць паблізу ад яго. Па ўсім відаць, што гэта мясцовы жыхар. Піня падыходзіць да яго.

— Я ізвіняюсь, скажыце, калі ласка, калгас «Ройтэ Фелд» не далёка ад таго месца, дзе знайшлі золата?

— Амаль побач, — адказаў той.

— Значыць, там таксама можна знайсці золата? — з надзеяй пытае Піня.

— А чаму не? Знаходзяць жа людзі… — пацiснуўшы плячыма, раўнадушна сказаў чалавек, не адрываючыся ад газеты.

— Знаходзяць!.. Правільна!.. Дзякуй! — Піня з удзячнасцю паціскае незнаёмцу руку.

Размахваючы газетай, распіхваючы ўсіх локцямі, Піня радасны бяжыць па зале да дзвярэй з шыльдай «Старшыня».

Уляцеўшы ў кабінет, ён рашуча, ні на каго не гледзячы, накіроўваецца да стала старшыні перасяленчага пункта і заяўляе:

— Мы едзем у калгас «Ройтэ Фелд», і толькі ў «Ройтэ Фелд»! Мы будзем сеяць, карчаваць, я знаю, працаваць…

— Добра. Але чаму іменна ў «Ройтэ Фелд»? — перабіў Піню старшыня.

— У нас там… старыя знаёмыя. — Піня з хітраватай усмешкай кіўнуў на Натана, які сядзеў за сталом.

Сусед Натана імкліва ўскоквае і абурана крычыць:

— Чаму ўсе хочуць толькі ў «Ройтэ Фелд»!.. Мне трэба закончыць дзве школы, швейную фабрыку!.. Я горад будую! А ён забірае ўсіх людзей…

Старшыня ўсаджвае яго на месца, па-сяброўску паклаўшы яму на плечы рукі.

— Не хвалюйся, Саламон. З Натанам мы дагаварыліся. Ён прышле табе на будоўлю калгаснікаў. Натан, ты згодзен?

— Згодзен, згодзен, — з усмешкай ківае галавой Натан.

— Колькі людзей ні прыязджае, а ўсё мала, — кажа старшыня. — Ну, едзьце ў «Ройтэ Фелд»! Шчасліва!

Двойра, Бася і Піня выходзяць з кабінета. Усе, апрача Лёвы, які спыніўся ля карты на сцяне. Да яго падыходзіць Натан. Ён абвёў на карце невялікі круг і кажа:

— Вось наш раён. Край цудоўны, а для паляўнічых — раздолле…

Твар у Лёвы свеціцца. Здаецца, яму падыходзіць гэты край.

На тысячы вёрстаў раскінулася неабсяжная тайга. Удалечыні на гарызонце курыцца, увесь у хмары, Хінганскі хрыбет. Глядзяць у вышыню калматыя сопкі, іх снежныя вяршыні асветлены сонцам. А ўнізе, у глухой, дрымучай тайзе — змрок. Цяжка прабіцца сонечным промням скрозь ліяны, што вяроўкамі-змеямі перавілі дрэвы, — японскі дуб, маньчжурскі ясень, кедры, піхты, лістоўніцы… Па такой тайзе хадзіць цяжка. Распадкі, засохлыя рэчышчы горных рэчачак, растучыя камяні, а трава — вышэй за пояс. Дый небяспечна ў лясных нетрах — зверыны многа. Затое паляўнічым здабычы навалам!

Тайгу аглушаюць гукі паляўнічага ражка. Гэта Карней прываблівае звера. Ён прымасціўся ў галінах стромкага ясеня, седзячы на яго тоўстых, моцных суках. Ясень стаіць на кручы. Зручна паляўнічаму: адтуль усё відаць, а цябе не бачыць ніхто. Час ад часу Карней перастае дудзець у ражок і прыслухоўваецца: ці не адгукнецца звер?

Раптам пачуўся лёгкі трэск. З лясных нетраў выбягае дзікая козачка, яна спыняецца ў траве і насцярожана застывае. Чуйнымі ноздрамі козачка ўцягвае паветра, стрыжэ вушамі, азіраецца па баках, паварочваючы сваю прыгожую галаву то ўправа, то ўлева: ці няма небяспекі? Ціха наўкол. Козачка скокнула з травы наперад.

Убачыўшы звера, задаволены Карней хутка ўскідвае на плячо вінтоўку, прыцэльваецца і націскае на курок — страшэнны выбух разарваў цішыню тайгі.

Успуджаная козачка робіць скачок убок і знікае. Толькі хвалі пайшлі па высокай траве ад яе імклівага бегу.

А выбухі адзін за адным калоцяць зямлю, быццам б'е цяжкая артылерыя.

Карней, незадаволены, апускае вінтоўку, глядзіць па баках, углядаецца ў нізіну (з кручы яе добра відаць), каб вызначыць, адкуль даносяцца выбухі.

Узрываюць у нізіне. Разам з зямлёй узлятаюць у неба векавыя дубы, вялізныя вываратні і з грукатам падаюць уніз.

Карней здымае ягдташ, павешаны на сук (у ім фазаны і рабчыкі), надзявае яго на плячо і спускаецца з дрэва.

Ён ідзе ў тайгу.

У нізіне ідзе раскарчоўка. Натан падпальвае запал. Людзі разбягаюцца. Выбух — слуп зямлі разам з вялізным карчом узляцеў у неба.

Заціснуўшы далонямі вушы, за кустамі сядзіць Піня. Ён уздрыгвае ад кожнага выбуху, разам з ім смешна падскоквае і яго рэдзенькая барадзёнка. Стоячы на каленях, глядзіць на Піню і ад усёй душы смяецца тоўсты Шлёма.

Адгрымелі выбухі. Цяпер можна прыступаць да справы. З кірхамі і піламі, сякерамі і лапатамі калгаснікі ідуць да карчоў. Людзі карчуюць уручную. А там, дзе не пад сілу рукам, карчуюць трактарамі. Коні цягнуць вялізныя вываратні з доўгімі, страшэннымі, вычварна сагнутымі карэннямі, падобнымі на шчупальцы спрутаў.

Да групы, у якой працуюць Натан, Бася і Шлёма, падыходзіць Роза. Яна вядзе за вуздэчку каня. Шлёма бярэцца за пастромкі і, прымацоўваючы да іх корч, улюбёнымі вачамі глядзіць на Розу.

Непадалёку ў другой брыгадзе працуюць Піня і Лёва. Піня амаль нічога не робіць: яму горача і камары дапякаюць. Роза бачыць, як скача Піня, адбіваючыся галінкай ад камароў. У яго злосны твар. Лёва таксама глядзіць, як скача Піня, і кажа з’едліва:

— Піня, вы што, балерына?

— Я не балерына, я катаржнік, — злосна адказвае Піня.

Роза смяецца. Узяўшы пад вуздэчку каня, яна вядзе яго да кустоў.

Ззаду цягнецца здаравенны корч.

Роза вядзе каня. З кустоў за ёй назірае Карней. Ён у накамарніку. Роза не бачыць Карнея, яна ідзе прама на яго. Спыніўшыся ля кустоў, адчапляе ад пастромкаў корч.

Карней расхінае кусты. Роза паварочваецца на шум — і спалохана адступае. Карней падыходзіць да Розы і здымае з сябе накамарнік — перад дзяўчынай стаіць дужы, станісты хлопец. З-пад лёгкага паляўнічага капелюша на яе глядзяць ласкава і дабрадушна вялікія шэрыя вочы.

Роза сарамліва ўсміхаецца. Карней, не спускаючы з яе зачараваных вачэй, кажа:

— Хараша дзеўка… Ух, хараша-а!

Ён падыходзіць бліжэй, аглядае яе твар, пакусаны камарамі, і сумна дадае:

— Аднак шкада мне цябе. Прападзеш.

— Чаму? — здзівілася Роза.

Карней матнуў галавой у бок тайгі.

— Не любіць тайга такіх… не прымае. Гарадская ты. Нежная дужа. А камар у нас лю-юты!

Карней дабрадушна смяецца. Ён падае Розе накамарнік.

— На, ад камароў ратавацца.

Роза прымае падарунак. Яна збянтэжана. Каб схаваць сваё хваляванне, бярэ за вуздэчку каня і вядзе яго назад. Карней пайшоў побач.

Лёва абсякае сякерай пень. Над ім са страшэнным гудзеннем хмарай носяцца камары. Ён раз-пораз хлопае сябе па лбе, шчоках, адбіваючыся ад назойлівых насякомых. Вось зноў камар сеў яму на шыю.

— Ох!.. Жяба!

Лёва хлопае сябе па шыі, знімае з яе расплюшчанага камара і акуратна кладзе на сярэдзіну пня. Прыцэліўся, узмахнуў сякерай — і ярасна яго рассякае.

На твары Лёвы зларадпасць і аблягчэнне. Ён зноў бярэцца за працу. Работа ў нізіне кіпіць. Вось і Бася ваюе з карчом, яна чапляе яго да трактара, на якім сядзіць Шлёма. Шлёма чакае. Ён глядзіць па баках — і бачыць Розу і Карнея, якія ідуць побач. Твар Шлёмы хмурнее. Ён глядзіць на іх насцярожана і засмучана.

Усе працуюць. Толькі Піня ўхіляецца ад працы. Ён нават не пераапрануўся. На ім гальштук і накрухмалены каўнерчык. Піня ходзіць па нізіне і нешта шукае. Вось ён падымае нейкі каменьчык, разглядае яго і кажа ў роздуме:

— Калгаснік Кац знайшоў золата… Дык чаму я не магу знайсці? Усё можа быць.

Піня хавае каменьчык у кішэню і ідзе далей. Заўважыў калгасніка, які сядзеў на пні і курыў (ён адпачываў ад працы), прысаджваецца з ім побач і кажа:

— Багатая краіна — Бірабіджан. Тут, кажуць, многа золата?

— Та-ак… — пацвердзіў калгаснік. — Сутарыйская капальня…

— Цікава, як гэта тут знаходзяць золата?.. Ні разу не бачыў, — перабіў яго Піня.

— Па-рознаму. З брыгадамі. У адзіночку…

— У адзіночку? — зноў перабівае калгасніка Піня. Ён адразу ажывіўся. — Але вось як гэта… у адзіночку?

— Вельмі проста. Бяруць посуд. Бяруць лапату. Ідуць на рэчку, капаюць, мыюць… — пачаў тлумачыць калгаснік, але Піня нецярпліва перабівае:

— І адразу знаходзяць?

Калгаснік усміхаецца і няпэўна разводзіць рукамі:

— Каму як пашанцуе!

— Так, канечне… — засмучана паківаў галавой Піня. — А вось Кацу яшчэ як пашанцавала… Цікава!

— У нас тут шмат цікавага.

Па прасецы ідзе Карней. Ён падыходзіць да Натана.

— Здарова!

— Здарова!

— Натан, а я да цябе па справе.

— Ну?

— Рыба пайшла… Рук не хапае. Дай людзей!

— А мы як?

— Карчоўка нікуды не дзенецца, а рыба чакаць не стане. Вось пуціну закончым і ўсім калгасам прыйдзем вам падсабляць. Хочаш — на карчоўку, хочаш — на ўборку. Га?.. Згодзен?

— Калі трэба?

— Хоць заўтра.

Натан нешта прыкінуў у галаве, згодна ківае.

— Добра, прыйдзем. Дапаможам. — Ён паглядзеў на неба. — Навальніца ідзе.

Чорныя хмары засцілаюць гарызонт, яны насоўваюцца ўсё бліжэй і бліжэй. Пацямнеў Хінганскі хрыбет: з-за хмар яго амаль не відаць. Карней і Натан глядзяць на неба. Бягуць над нізінай навальнічныя калматыя хмары. Шквал ветру са свістам абрынуўся на тайгу. Загайдаліся дрэвы, затрапятала лістота, гнуцца, ломяцца тонкія сцвалы — загула, застагнала тайга.

Натан азіраецца па баках.

— Канчай работу!— крычыць ён. — Канчай!.. Канча-а-ай!

Па ўсёй нізіне, як па ланцугу, панеслася: «Канчай!.. Канчай!..» Раптам стала цёмна, як адвячоркам. Крывая маланка перасекла неба. Са страшэнным грукатам і трэскам, быццам раскалолася неба, гром скалануў зямлю. І адразу ж моцны лівень абрынуўся на тайгу. Яшчэ больш раз’юшана вецер загайдаў дрэвы, ломіць, выкарчоўвае з зямлі, патокі ліўня прыгінаюць траву.

Людзі бягуць, абганяючы адзін аднаго. І здаецца — за імі гоніцца навальніца. Хвошча лівень, грукоча гром, бліскаюць маланкі.

Па вуліцах пасёлка бягуць Лёва, Бася, Роза, спераду ўсіх Піня. Яны ўбягаюць у трухлявы барак. Моцны ўдар грому быццам забівае за імі дзверы.

Скрозь дзіравы дах барака працякае вада. Яна залівае рэчы, цячэ на пасцель, на людзей. У бараку — патоп. Лёва і Роза пераносяць на сухія месцы няхітры хатні скарб. Двойра і Бася адсоўваюць убок ложак.

Дождж барабаніць па даху і шкле. У вокнах бліскаюць маланкі.

Піня сядзіць на цёплай пліце, скурчыўшыся ад страху і холаду. На яго галаву са столі капаюць цяжкія кроплі. Ён незадаволена бурчыць

— Цікавая радзіма!.. Упрошвалі… Прыязджайце… У Бірабіджан… Шчасце… Хараша!.. Вельмі хараша!

Лёва бярэ парасон, раскрывае яго і падае Двойры.

— Мамачка!.. Парасончык!

Лёва цалуе Двойру.

Двойра сумна сядзіць пад парасонам.

Глянуў на старую Двойру з парасонам Піня, з сарказмам вымаўляе:

— Нішто сабе кватэрка… Утульна! Дача!

Грымнуў гром. Піня спалохана ўцягнуў галаву ў плечы. Роза падыходзіць да Піні і глядзіць на яго з усмешкай: надта ж ён смешны і жаласны. Кажа з вясёлым гумарам:

— Піня, табе не холадна? Можа, падпаліць пліту?.. Ха-ха-ха-ха-ха!

— Смяецца!.. Яна яшчэ правая… Гэта ты нас сюды завяла! — раззлаваўшыся, крычыць Піня.

Маўклівая Бася не вытрымала:

— Піня, ну што ты крычыш? Табе горш за ўсіх?

Піня ўпершыню ўлавіў нейкія новыя ноткі ў голасе Басі.

— Бася?!.. — здзіўлена глядзіць ён на сваю жонку.

— Дзеці, навошта сварыцца?.. Бог ёсць і ён нам дапаможа, — прымірае іх Двойра.

Сціх вецер. Перастаў дождж. З-за хмар паказалася сонца.

Роза шырока расчыніла вокны і дзверы — сонца запоўніла барак. Роза, Бася і Двойра выносяць рэчы на двор для прасушкі.

Хмары паўзуць за Хінганскі хрыбет. На дрэвах, на траве, кустах зіхацяць на сонцы дажджавыя кроплі.

Піня выходзіць на двор. Жмурыцца ад яркага сонца і, нікога не саромеючыся, здымае з сябе вопратку. Застаўшыся ў споднім, развешвае на кустах мокрыя штаны, пінжак, каўнерчык і галь-

штук. Потым заходзіць за куст, на якім вісіць пінжак, і дастае з кішэні каменьчыкі, сабраныя ім у час карчоўкі. Разглядае іх, трэ пальцамі і, расчараваны, са злосцю шпурляе ўбок.

На двор прыходзіць Натан з групай калгаснікаў. Ва ўсіх сякеры, лапаты, пілы.

— З дожджычкам вас! — весела кажа Натан. Але адразу ж усмешка сыходзіць з яго твару. Ён глядзіць на рэчы, вынесеныя для прасушкі на сонцы.

— Ой-ёй-ёй!.. Як вы намоклі! Ай-яй-яй!.. Нічога. Хутка дабудуюць ваш дом. Пайшлі на працу! — звярнуўся старшыня да Розы. Яна вешала на вяроўку мокрую коўдру.

— Зараз пойдзем… Лёва! — кліча Роза.

Роза, Лёва і Бася бяруць лапаты. Распіхваючы калгаснікаў, да Натана падыходзіць Піня.

— Я ізвіняюсь… на карчоўку я не пайду! Дайце мне другую работу.

Натан здзіўлена глядзіць на Піню.

— Але другой работы няма. Трэба ісці карчаваць.

— Вы што, сілком хочаце прымусіць мяне працаваць?

— Ніхто вас сілком не прымушае!

Піня разбушаваўся ваўсю.

— Нішто сабе радзіма!

— А хто вас прасіў сюды ехаць? — нахмурана пытае Роза.

— Розачка!.. Здрасце!.. — Піня адварочваецца ад Розы. — Радзіма!.. Ці ж гэтыя людзі хоць кропельку падобны на яўрэяў? — крычыць ён і паказвае на Шлёму. — Паглядзіце на яго — гэта ж Кузьма Кручкоў[4]!

Флегматычны Шлёма абражаны. Яго тоўсты прастадушны твар стаў сярдзітым.

— Хто?.. Я — Кузьма Кручкоў? Ах ты, жяба!..

Ён схапіў Піню за грудзі і трасе яго.

— Ціха!.. Ціха, ціха, ціха! — Піня грозіць Шлёму пальцам. Бася адвярнулася, апусціўшы галаву: ёй сорамна за Піню. Перапалоханая Двойра спяшаецца да яго на дапамогу.

— Што вы хочаце ад Піні? Ён жа нічога не сказаў!

Натан, які спакойна назіраў усю гэту сцэну, разнімае задзір. Піня, вызваліўшыся з «абдымкаў» бамбізы-Шлёмы, кажа засмучана:

— Ці ж гэта яўрэі? Гэта ж фулюганы!

— Падумаць толькі… Які поспех! — сказаў Лёва, які стаяў ўбаку, насмешліва гледзячы на Піню.

— Хопіць! Давайце білеты! Я еду назад, дамоў! Кончана! — рашуча заяўляе Натану Піня.

Старшыня падумаў.

— Заўтра можаце ехаць. Калі ласка!

— Добра! — сярдзіта адказаў Піня.

Натан паварочваецца і ідзе. Калгаснікі ідуць следам за ім. З імі Бася.

— Бася, не хадзі!.. Не хадзі, я табе кажу! — пагрозліва кажа Піня.

Бася ідзе, не азіраючыся. Піня ідзе за ёй, але потым спыняецца.

— Бася! Ты застанешся без мужа! Бася! — крычыць ён услед.

Бася ідзе з усімі. Побач з ёй крочыць вялікі і тоўсты Шлёма. Прыжмурыўшы вочы, ён мнагазначна, з усмешкай кажа:

— Што, што, а за гэта я ручаюся.

Піня сядзіць на дварэ паніклы, няшчасны.

— Мяне тут ніхто не разумее. Нават Бася! — кажа ён сам сабе з горыччу.

Падыходзіць Лёва. Садзіцца побач, па-сяброўску абдымае Піню і кажа:

— Я вас разумею.

Піня расчулены.

— Я заўсёды казаў, што вы разумны хлопец, Лёва.

— Э-эх!.. Я вас вельмі добра разумею. Вы гультай і не хочаце працаваць, га? — У голасе Лёвы спачуванне і насмешка.

Піня сумеўся. Лёва ўскінуў на плячо лапату, ідзе да калгаснікаў. Піня, схамянуўшыся, крычыць яму ўслед:

— Лёва! Жадаю вам стаць ударнікам і атрымаць у прэмію… грыжу!.. Басяк!

Піня ўваходзіць у павець. Ён выносіць адтуль медны таз для варэння, бярэ лапату і ціха крадзецца ў бок лесу, намагаючыся быць незаўважаным. З барака выходзіць Двойра. Убачыўшы Піню з лапатай, прасвятлела тварам.

— Піня! — паклікала яна.

— Га?.. — спалохана азірнуўся Піня, хаваючы за спінай таз.

— Ты таксама на работу?

— Так!

— Ну, слава Богу, — з палёгкай уздыхае Двойра.

Піня хуценька, дробненька затупаў у тайгу.

Піня ў таежнай глушы. Седзячы на карачках ля ручая, ён бярэ жменю пяску і ўважліва яго разглядае. На твары Піні рас-

чараванне. Ён ідзе ўздоўж ручая далей. Спыніўся ля абрыву і, падумаўшы, пачынае капаць яму. Энергічна працуе Піня, зусім не так, як на раскарчоўцы. Ён не паспявае змахваць пот. Вось ён набірае ў таз вырыты пясок, ідзе да вады, прамывае яго. Вада з пясчынкамі сцякае ў зямлю.

— Няма, нічога няма… — сумна кажа Піня.

Гэта няўдача яго не спыняе. Піня ўпарты. Не тут, дык у другім месцы, але ён знойдзе золата!

Піня ўжо ля ракі. Ён зноў энергічна рые лапатай зямлю. Сапе і пыхціць старацель. Абапал ямы вырасла ўжо вялізная куча пяску. Піня адкінуў лапату, стомлена садзіцца на край ямы. Бярэ ў рукі пясок і дзелавіта яго разглядае, мурлыкаючы пад нос сумны матыў.

Пара-тара-ціра,
Ай-я-я-яй,
Пара-ціра-тара,
Ай-я-яй!

Зноў няўдача. І вось ён ужо на новым месцы ля ракі. Ад вырытай ямы Піня ідзе з тазам да вады і зноў прамывае пясок.

— Няма. Нічога няма!.. — у роспачы кажа ён.

Выгляд у Піні жаласны, няшчасны. Ён апаласквае таз, бярэ лапату і ідзе.

Па тайзе ідзе Карней. Над ім пралятаюць птушкі. Паляўнічы ўскідвае ружжо, каб стрэліць, але, аступіўшыся, падае і кулём коціцца з кручы.

Па таежнай сцежцы ідзе Лёва. Раптам ён спыняецца, прыслухаўся. Лёва чуе прыглушаны стогн. Ён кідаецца туды, адкуль даносіцца стогн, расхінае кусты і застывае ў здзіўленні — ён бачыць моцна параненага Карнея.

Карней стогне. Ён адкрыў вочы. Убачыўшы Лёву, хоча ўсміхнуцца, але замест усмешкі атрымалася балючая грымаса. Карней заплюшчыў вочы.

Лёва кінуўся бегчы. Прыбег на прасеку, дзе ідзе раскарчоўка, крычыць:

— Гэй! Там чалавек сарваўся!.. Давай сюды!

Кінуўшы работу, калгаснікі бягуць за Лёвам. Разам з усімі — Роза. Убачыўшы Карнея, яна ўскрыквае, кідаецца да яго, хусткай выцірае з твару кроў.

— Як ён жывы застаўся? — падзівіўся Натан.

Калгаснікі мітусяцца вакол ляжачага Карнея: майструюць з жэрдак насілкі, усцілаюць іх травой, сваімі пінжакамі.

Калі беспрытомнага Карнея ўклалі на насілкі, Роза сказала:

— Да нас нясіце. Мама дагледзіць.

Двойра асцярожна адыходзіць ад ложка, на якім ляжыць забінтаваны Карней. Ён спіць.

У пакой уваходзіць Шлёма.

— Дзень добры!

Ён у саламяным, добра пакамечаным, шыракаполым капелюшы, за плячамі ў яго ружжо, на поясе вісяць два фазаны. Шлёма падае Двойры забітых птушак і кажа працяжным густым басам:

— Зварыце хвораму. З іх харошы булён атрымаецца.

Двойра з удзячнасцю прымае птушку.

— Дзякуй, Шлёма. Садзіцеся, — ветліва кажа яна.

Шлёма ўсаджваецца на крэсла і шумна ўздыхае. Ён адкрыў быў рот, збіраючыся нешта сказаць, але не рашыўся. Зноў шумна ўздыхнуў. І нарэшце, пераадолеўшы сваю нясмеласць, загаварыў:

— Цёця Двойра, з той пары, як я ўбачыў вашу Розу, у мяне няма спакойнага жыцця.

Двойра ўсміхнулася.

— Навошта вы гэта мне гаворыце? Прыйдзе Роза — скажаце ёй! — адказала Двойра, абскубваючы птушку.

Шлёма зноў шумна ўздыхнуў.

— Цёця Двойра, вы хацелі б мець мяне за зяця?

— Калі Роза захоча мець вас мужам, чаму б і не?

Падбадзёраны Шлёма падымаецца і шматзначна кажа:

— У такім выпадку мы будзем мець з вамі сур’ёзную размову…

У пакой убягае Роза. Яна ўсхваляваная.

— Піня! — кліча Роза.

Убачыўшы Шлёму, кідаецца да яго.

— Дзе Піня? Вы не ведаеце? Натан абшукаў увесь калгас!

Шлёма нясмела глядзіць на Розу і недаўменна разводзіць рукамі, маўляў, хто ж яго ведае?

Махнуўшы рукой, Роза ідзе да Карнея. Садзіцца на ложак, клапатліва папраўляе коўдру, падушку, пяшчотна адхінае з ілба Карнея пасмачку валасоў. Карней расплюшчыў вочы. Ён хоча

нешта сказаць, але Роза, прыклаўшы палец да вуснаў, зрабіла наўмысна грозны твар, забараняючы яму гаварыць.

Сумна глядзіць Шлёма. Ён бачыць, як Карней, усміхаючыся, бярэ Розу за руку.

Шлёма хмурнее. Двойра ўздыхае.

Уздыхае і Шлёма. Зусім змрочны, ён надзявае свой саламяны капялюш і пакідае пакой.

Усе працуюць. Усе знайшлі свае месца ў калгасе. Усе, акрамя Піні.

Па полі едуць камбайны і жнейкі.

Піня ідзе па тайзе з лапатай і тазам.

Роза ўкладвае снапы на воз. З малатарні спускаецца Лёва.

Піня, увесь у поце, стаіць ля ямы і рые лапатай пясок.

Бася ў двары птушніка корміць курэй. Яна ловіць курыцу, ідзе з ёй у птушнік і саджае ў клетку.

А Піня ўжо ў новым месцы рые пясок. Ён выкапаў яму амаль да пояса. Набраўшы ў таз пяску, зноў яго прамывае. Ён увесь аддаўся працы, напяваючы песеньку. Пясок уходзіць з таза разам з вадой.

Пара-тара-ціра,
Ай-я-я-ай!..

Піня абрывае песню. Вочы яго загараюцца сквапнасцю! Ён бачыць на дне таза бліскучыя залатыя крупінкі! Вочы Піні расшырыліся, заблішчэлі, ён яшчэ не верыць свайму шчасцю і ў захапленні шэпча:

— Золата!.. Божа мой, золата! Сапраўднае золата!.. А калі не золата?.. Не, золата! Ну, канечне ж, золата! Ха-ха-ха-ха!.. Кац знайшоў!.. Я, Піня, знайшоў золата!..

Піня ліхаманкава збірае залатыя крупінкі ў насоўку. Таз і лапату схаваў ў кустах і адбягае.

У птушнік уваходзіць Натан.

— Добры дзень, Бася.

— Добры дзень, Натан.

— Вось білеты і дакументы. Можаце заўтра з мужам ехаць.

Натан падае ёй паперы. Бася іх не бярэ. Яна кажа:

— Зноў ехаць?.. Куды? Навошта?.. Ад дабра дабра не шукаюць. Тут жа ўсё іначай!.. А Піня ўсё той жа, — з сумам дадала яна.

Па лясной сцяжынцы бяжыць Піня. Ён часта дыхае і ўвесь абліваецца потам. У руцэ яго моцна заціснуты клуначак. Вось ён спыняецца, азіраецца і, спатыкаючыся аб карэнішчы, бяжыць далей.

А ў птушніку Натан і Бася вядуць гаворку.

Натан падыходзіць да Басі бліжэй і, адвёўшы вочы, з сумам кажа:

— Так, Бася. Адзін мае жонку, але не цэніць яе, другі цаніў бы, ды няма жонкі… — у голасе Натана гучыць пытанне.

Бася пяшчотна на яго глядзіць.

— Пашукайце — знойдзеце, — адказвае яна з хітрынкай.

— Ну каму патрэбен стары халасцяк, як я? — зноў нібы пытаецца Натан аб нечым важным.

— Стары! — з пяшчотнай усмешкай кажа Бася.

Яна разумее, чаго хоча старшыня.

— Калі ў гэтага халасцяка добрае сэрца і харошыя рукі…

Бася не паспявае дагаварыць: у двары раздаецца голас Піні:

— Бася!.. Бася!

У птушнік убягае Піня. У яго шчаслівы твар. Ён з цяжкасцю пераводзіць дыханне. Піня нешта хоча сказаць Басі, але… бачыць Натана. І хуценька хавае клуначак у кішэню.

Старшыня паварочваецца да яго і працягвае паперы:

— Ну вось, Піня, можаце ехаць.

Піня машынальна бярэ білеты і дакументы і азадачана на іх глядзіць. Вінавата апусціўшы галаву, запінаючыся, ён кажа:

— Ведаеце, Натан… Я рашыў не ехаць. Застануся тут і буду жыць і працаваць, як усе, і кончана!.. Я вас прашу! — аддае назад паперы.

Гэта было так нечакана, што Натан разгубіўся і нейкі час маўчыць.

— Ну што ж… Вельмі добра… Вельмі добра, Піня, — нарэшце кажа ён бязрадасна і, крадком зірнуўшы на Басю, цяжка ўздыхае.

Бася стаіць самотная, апусціўшы галаву.

Піня ліслівa кажа Натану:

— Натан, але вы мне абяцалі лёгкую работу.

— Ну якая лёгкая работа? Самая лёгкая работа тая, якую любіш. Ну якую вы работу любіце? — хмура пытае Натан.

Піня няпэўна паціснуў плячыма. Але па твары яго відаць, што ён падшукаў сабе работу, толькі ўголас не рашаецца сказаць.

— Я не адмаўляюся. Але… я… карчоўка… Проста мой арганізм не прымае цяжкай працы! — з хітрай ухмылачкай паясніў Піня.

Натан падумаў.

— Ну добра. Вы будзеце сцерагчы гарод. Падабаецца?

— О!.. Гарод!.. Гэта добра… Вельмі добра!

— Да пабачэння, Бася, — сумна кажа Натан.

— Да пабачэння.

— Дзякуй, — дзякуе старшыню Піня.

Натан ідзе. Бася ціха плача.

— Знаеш, Бася… Вельмі харошы чалавек гэты Натан, — кажа задаволены Піня.

Заўважыўшы, што Бася плача, здзіўлены, ён падыходзіць да яе.

— Плачам?… Ты плачаш?.. Ты ўзрадавалася, што я застаюся, і заплакала? — Піня пяшчотна гладзіць Басю па галаве і, суцяшаючы яе, летуценна кажа: — Басечка! У цябе залаты муж!.. Басечка, за-ла-ты! — Піня з асаблівым націскам вымавіў слова «залаты».

Вочы яго ззяюць, шчасліва ўсміхаючыся, ён цалуе Басю ў галаву. Бася ўздрыганулася: ёй непрыемны пацалунак Піні. Але Піня гэтага не заўважае. Ён глядзіць паверх яе галавы невідушчым позіркам. Не, не Басю ён бачыць, а золата, тыя залатыя крупінкі, якія ён так доўга і пакутліва шукаў і нарэшце знайшоў… Калі ў яго будзе золата, вельмі многа золата, у яго будзе многа шчасця. І Бася… Усё будзе.

На ложку ляжыць хворы Карней. Ледзь-ледзь прыадкрыўшы вочы, з-за веек ён назірае за Розай. Яна толькі што прыйшла з работы. Карней сочыць за кожным яе рухам. Штосьці хітрае затаілася ў яго вачах. Роза, памыўшыся, выцерлася ручніком, павесіла яго і ціхенька, на дыбачках ідзе да Карнея. Карней імгненна заплюшчыў вочы і прыкінуўся, што спіць. Роза садзіцца на ложак. Баючыся разбудзіць Карнея, яна лёгкім жэстам рукі гладзіць яго валасы, ледзь дакранаючыся да іх. Потым азірнулася, нібы правяраючы, ці ёсць хто ў пакоі, і, схіліўшыся над ім, углядаецца ў яго твар. Раптам Карней моцна абдымае і цалуе Розу.

У пакой уваходзяць Двойра і Піня. Убачыўшы Розу ў абдымках Карнея, яны застываюць на месцы. А тыя, шчаслівыя, нічога не бачаць і не чуюць. Двойра, моўчкі пераглянуўшыся з Пінем, засмучаная выходзіць. За ёй, з дакорам ківаючы галавой, выйшаў Піня і ціхенька прычыніў за сабою дзверы.

Двойра стаіць на ганку і плача. Піня кажа ёй з горкай іроніяй:

— Віншую, мамаша, Розачка ўжо прыстасаваная. У вас харошы новы зяць… Чысты інтэрнацыянал!.. Цьфу!..

Прыгнечаны Піня ідзе. Двойра плача.

Карней і Роза з барака выходзяць на вуліцу. Яны спускаюцца па сцежцы да ракі. Вось і настаў час расставацца. А так не хочацца!.. Карней доўга не адпускае руку Розы, гледзячы ў яе ласкавыя вочы.

— Бывай.

— Бывай, — з усмешкай адказвае Роза.

— На рыбалку паедзеш?

— Не ведаю.

— Прыязджай. З бацькам пазнаёмлю. Ладны ў мяне стары. Прыязджай!

Развітаўшыся, Карней скача ў лодку.

Лодка адчальвае ад берага. Вецер, надзьмуўшы ветразі, нясе яе на водную прастору. Гайдаючыся на лёгкіх хвалях, лодка з Карнеем адплывае ўсё далей і далей… Роза глядзіць ёй услед і махае рукой.

— Прыязджа-а-ай! — ужо здалёк крычыць Карней.

Вось ужо маленькай кропкай бялее ветразь. А Роза ўсё стаіць на беразе. Да яе падыходзіць Двойра.

— Розачка, што ж гэта будзе? Дык ён жа рускі? — жаласна, спалохана пытае Двойра.

Роза сочыць за ветразем, які знікае ўдалечыні, задумліва кажа:

— Так, рускі… Але я не ведаю, што лепей: рускі Карней ці яўрэйскі Піня?

— Так, я таксама не ведаю. А з кім параіцца?..

Самотная стаіць Двойра. Вочы яе поўныя слёз.

Вясковая вуліца. Ля агароджы на лаўцы сядзяць Натан і Двойра. У Двойры засмучаны і заклапочаны выгляд. Яна кажа Натану:

— У мястэчку я магла параіцца з рабінам, а тут я не ведаю, з кім…

Натан смяецца.

— Парайцеся са мной, цёця Двойра. Чым я горшы за рабіна?

— Вы нават лепшы, — згаджаецца Двойра. — Ці нельга зрабіць так, каб Роза не ехала на рыбу?

— Чаму? — здзівіўся старшыня.

— Розачка маладая дзяўчынка. А там будзе гэты… Карней! — нахмурылася Двойра. — Вы ж разумееце, я маці… Ці мала што можа здарыцца?

Зноў смяецца Натан.

— Ай, цёця Двойра, цёця Двойра! — з дакорам кажа ён. — Роза вялікая разумная дзяўчына, яна ведае, што рабіць. А яшчэ яна брыгадзір. Як жа яна можа не ехаць?

Двойра паднялася і раздражнёна кажа:

— Тады вазьміце і мяне з сабой! Што ж, вы думаеце, я зусім старая? Я магу працаваць не горш за маладых! А можа, нават лепей!

— Вось гэта ўжо іншая размова, — з усмешкай кажа Натан. — Паедзем, паедзем, цёця Двойра.

Яны ідуць да калёсаў, што стаяць ля калгаснай канюшні.

Перад канюшняй выцягнуўся ў адну лінію доўгі абоз. У калёсы з жартамі і смехам усаджваюцца калгаснікі.

На адных калёсах сядзяць Лёва, Роза, Шлёма і Бася. Шлёма частуе Басю яблыкам. Потым азіраецца па баках і сарамліва кажа:

— Бася, з той пары, як я вас убачыў, у мяне няма спакойнага жыцця. Калі б вы захацелі перамяніць мужа, дык я бы меў з вамі сур’ёзную размову.

Бася смяецца. Перастае жаваць яблык і кажа:

— Вы вельмі добры хлопец! Вы мне падабаецеся.

Твар Шлёмы расплыўся ў наіўнай задаволенай усмешцы.

Да калёсаў падыходзяць Натан і Двойра. Натан звяртаецца да Розы:

— Роза, запішы ў сваю брыгаду цёцю Двойру, яна таксама едзе.

На твары Розы здзіўленне. Двойра садзіцца на калёсы.

Зборы закончаны. Сёй-той яшчэ папраўляе папругу і ўсцілае падводу сенам, каб мякчэй было сядзець. І нарэшце абоз крануўся. З гіканнем, свістам і песняй выязджае ён на вялікую дарогу. Піня адзін застаўся ў пасёлку. Ён здзіўлена глядзіць у

акно, за якім імчацца коні, на калгаснікаў, што сядзяць на падводах і на тачанках цеснымі кучкамі, на конскія грывы, што, як флагі, палошчуцца на ветры… Да яго далятае іскрыстая, вясёлая і радасная песня:

На рыбалке, у реки
тянут сети рыбаки,
на откосе блещет рыба,
словно глыба серебра.

Больше дела, меньше слов!
Нынче выпал нам улов!
Будет сёлам и станицам
вдоволь рыбы! Ийо-о-о!..

Глядзіць Піня на доўгі шумны абоз, што імчыцца па дарозе, і кажа з усмешкай:

— Махноўцы! Далібог, махноўцы!

А песня, нібыта ўвабраўшы ў сябе сонца, звонкімі галасамі рассыпаецца па прыволлі:

Над рекою, над водой
плавал месяц золотой,
не меня ли ты ласкала,
называла «милый мой»?

Пругкі вецер б'е ў смуглявыя разгарачаныя ад шпаркай язды і сонца твары, яшчэ больш гулліва развявае конскія грывы і разносіць заўзятую песню далёка-далёка па зялёных прасторах…

На рыбалке, у реки
тянут сети рыбаки,
тянут сети, распевая,
а милая не со мной!

Больше дела, меньше слов!
Нынче выпал нам улов!
Будет сёлам и станицам
вдоволь рыбы! Ийо-о-о!..

Імчыць абоз. Ляціць вясёлая, як вецер, песня… Яна ўзмывае да адгор'яў Хінгана, да аблокаў, што плывуць па ярка-блакітным

небе, яна абудзіла дрымотную тайгу, яна імкнецца наперад… Туды, да Амура! Там многа рыбы, там чакае праца, радасць, там усходы і заходы сонца над паўнаводнай прыгажуняй-ракой… Там будуць паліць вогнішчы на ўзбярэжжы, там жарты, песні, смех… А можа, і каханне кагосьці чакае?.. Надзея?.. Шчасце?..

Пакідаючы за сабой клубы дарожнага пылу, абоз знікае ўдалечыні, несучы з сабой шчаслівую песню.

На беразе Амура ля складзеных спехам буданоў пануе вялікае ажыўленне. Жанчыны, рускія і яўрэйкі, спешна пластуюць рыбу. Да берага штохвілінна, адна за адной падплываюць лодкі, перапоўненыя рыбай. Яе вывальваюць на бераг. Мужчыны набіраюць рыбу ў карзіны і нясуць да жанчын, зноў вывальваюць яе прама ля ног.

Да берага падплывае лодка, у ёй Карней і яго бацька. Яны выйшлі з лодкі, выцягваюць яе на пясок і пачынаюць выбіраць з сеткі рыбу. Карней выкідае на пясок буйную рыбіну і, не гледзячы на бацьку, кажа яму:

— Баця, а баця?

— Ну?

— Ну што, пагаворыш?

— Аб чым?

— Наконт Розы.

Стары насупіўся.

— Заладзіў сваё. Пагаворыш, пагаворыш… Не было ў нас такога звычаю браць у дом чужой веры. Як дзяды нашы жылі, так і мы жывем… Ну і выкінь, знаць, з галавы, — незадаволена прабурчаў ён.

Карней, падбіраючы сетку і па-ранейшаму не гледзячы на бацьку, кажа:

— Пайду я ад цябе, баця! Сваім домам зажыву!

— Што ты сказаў?! Ах ты!..

Разззлаваўся стары і схапіў багор, што падвярнуўся пад руку. Замахнуўся. Карней схапіў вясло. Стаяць яны адзін перад адным, высокі здаравяк бацька і вельмі падобны на яго Карней, узброеныя не толькі багром і вяслом, але і ўпартасцю. Глянуў стары на сына і зразумеў, што той не ўступіць, і здаўся. «Увесь у мяне», — задаволена падумаў ён і, хітра прыжмурыўшы вочы, сказаў дружалюбна:

— Ты што? Руку падымаеш?

— Я не… а ты, — спакойна адказаў Карней.

І той, і другі адкідваюць вясло і багор.

— Ну… сынок!
— Ну… баця!
— Не прыставай. Будзе час — пагавару, — ужо зусім мірна сказаў стары.
Карней, усміхаючыся, адыходзіць.
— Канчай!.. Канчай!.. — ужо неслася па ўзбярэжжы.
Кончылі пуціну рыбакі. Над Амурам спусціўся вечар. Уздоўж берага гарацць вялікія вогнішчы. На вешалях сушацца сеткі, рыба, стаяць на прычалах лодкі. Да вогнішчаў сходзяцца рыбакі і ўсаджваюцца вакол. Над агнём на трыножніках вісяць вялізныя катлы, у іх варыцца юшка.
Ля аднаго вогнішча ўвіхаецца старая Двойра. Яна сыпле ў кацёл соль, перац, спрабуе юшку, зачэрпнуўшы яе з катла вялікім драўляным чарпаком, смакуе і задаволена ўсміхаецца.
Да катла падыходзяць з міскамі людзі. Двойра налівае ўсім гарачую наварыстую юшку. Пачынаецца вячэра. Недалёка ад вогнішча ў цяні сядзіць Лёва.
Да Двойры падыходзіць бацька Карнея.
— Здарова!
— Добры дзень!
— Хараша юшка!.. Смачна пахне… Маць!
— Ну?
— Як толькі наладзіш у сябе, прыходзь да лодкі.
— Навошта?
— Гаворка сур'ёзная… Ладна?
— Чаму не? Прыйду!
— Ну-ну!
— Прыйду!
Стары пайшоў. Усхваляваная Двойра кліча Лёву.
— Лёва!
— Га?
— Знайдзі Розу!
— Мама, а Басю таксама знайсці? — хітра пытае Лёва.
— Навошта Басю? — незадаволена адгукаецца тая.
Лёва пайшоў шукаць Розу. Ён ідзе па беразе Амура. Шырока раскінулася паўнаводная рака. Стыне вячэрняя вада, акунуліся ў Амур яркія халодныя зоркі. Лёва, углядаючыся ў цемру, шукае Розу.
Каля самай ракі на паваленым дрэве сядзіць Бася. Каля яе на прыбярэжных камянях прымасціўся Натан. Абое аб нечым ціха, ажыўлена гавораць. Па ўсім відаць, што ім добра.

Лёва нячутна крочыць па беразе. Убачыўшы два сілуэты, ён хаваецца за кустамі і прысядае, каб яго не заўважылі. Лёва глядзіць з-за кустоў і бачыць Натана і Басю. Ён здзіўлены.

— Што яўрэі-беднякі, Бася, ведалі пра сонца, пра добры дах над галавой?.. Нічога гэтага ў іх ніколі не было, — кажа Натан.

Насунуўшы на вочы кепку, каб яго не пазналі, Лёва ідзе ад гэтага месца. Адышоў крыху, спыніўся і кажа азадачана:

— Цікава…

Лёва ідзе далей па беразе і раптам… ён чуе вясёлы смех Розы. Лёва крадзецца да кустоў, расхінае іх і… застывае, як укопаны: перад ім на перакуленай наверх дном лодцы сядзяць у абдымку Роза з Карнеем і цалуюцца. Лёва, задаволены, усміхаецца. Яшчэ глыбей насунуўшы на вочы кепку, ён сарамліва адварочваецца і ціха адыходзіць убок, каб не спужаць закаханую парачку.

— Во гэта мне падабаецца, — кажа ён.

У вачах у Лёвы гарэзлівыя агеньчыкі.

Ён ідзе назад. Не дайшоўшы да вогнішча, ля якога нядаўна варыла юшку Двойра, ён раптам спыніўся, уражаны ўбачаным, Лёва нават зажмурыў вочы. Мо яму памроілася? Але калі адкрыў іх — прывід не знік: на беразе ракі сядзелі бацька Карнея і… Двойра. Лёва добра іх бачыў. Двойра сядзела на носе лодкі, а стары рыбак на вялізным камені. Іхнія твары асвятляў ліхтар, што вісеў на багры. Рука бацькі Карнея ляжала на руцэ Двойры. Стары казаў:

— Сэрцу не загадаеш, маць. Гаспадыні ў мяне ў хаце няма…

Здзіўлены Лёва выцягнуў шыю з-за кустоў, слухае.

— …Да ты не бойся! Усе людзі з аднаго кораня род вядуць. Пуціну кончым, заўтра па дамах, а там і вяселле можна згуляць… Ну?.. Згаджайся!

Лёва сумеўся. Нічога не разумеючы, ён разгублена кажа:

— Здаецца, у мяне будзе новы тата…

Лёва знікае ў цемры.

Двойра думае. Аднекуль з цемры далятае шчырая, кранаючая душу песня. Малады дзявочы голас спявае пра каханне. Двойра пазнала голас Розы. Яна прыслухалася. А Роза спявала:

Ох ты, сердце,
сердце девичье,
не видать мне с тобой покою,

пел недаром за рекою,
за рекою соловей…

Слухае Двойра. Цяпер ужо Роза не адна спявае. Яна спявае з Карнеем.

Приходи в вечор, любимый,
приголубь и обогрей,
пел недаром за рекою,
за рекою соловей.

Двойра ўздыхнула. Выціраючы слёзы, яна кажа бацьку Карнея:

— Трэба згаджацца… Усё роўна яны зробяць па-свойму. Нам ужо нішто не дапаможа…

А песня ўсё гучней і гучней. Карней і Роза спяваюць, цесна прытуліўшыся адно да аднаго. Спяваюць два ўлюбёныя сэрцы. Слухаюць песню зоркі, слухае прыціхлы бераг… Удалечыні па шырокай рацэ ў блакітным ззянні месяца слізгочуць ветразі… Цякуць воды Амура, зносячы з сабой у бясконцую далячынь самотны напеў, у якім шчасце, пяшчота, каханне…

Ох ты, ночка,
ночка тёмная,
разгони ты печаль-заботу,
а на зорьке за работу,
за работу веселей!

Приходи ко мне, любимый,
приголубь и обогрей,
а на зорьке за работу,
за работу веселей!

І старая Двойра пачала рыхтавацца да вяселля.

А пакуль тое вяселле, жыццё ў бараку ідзе сваім парадкам.

Двойра ўвіхаецца ля пліты. Яна падае клуначак з ежай Басі.

— Аднясі Піню.

Бася марудзіць.

— Ну?.. Ты панясеш?

Бася неахвотна павязвае на галаву хустку, кажа:

— Мама, а можа, не трэба?.. Я лепей вам памагу. Паслязаўтра вяселле, а ў нас нічога не гатова.

— Што значыць «не трэба»? — раззлавалася Двойра. — Ён табе муж ці чужы? Аднясі яму есці. Слава богу, ён цяпер працуе, сцеражэ гарод.

Узяўшы клуначак, Бася ідзе.

Тайга. Да рэчкі падыходзіць Піня з лапатай і тазам.

На бахчу ўрываецца статак свіней.

Па пасёлку ідзе Натан. Ён ветліва ўсміхаецца Шлёму, які крочыць насустрач.

— Натан, куды ідзеш? — пытае Шлёма.

— Хачу паглядзець, як Піня каравуліць.

І тут Шлёма ціха і даверліва кажа Натану:

— Я хачу з табой параіцца.

— Аб чым, Шлёма?

Шлёма шумна ўздыхнуў і сарамліва кажа:

— Я люблю Басю… і яна, здаецца, любіць мяне.

Усмешка знікае з твару Натана. Нічога не сказаўшы, ён крута павярнуўся і пайшоў. Шлёма з недаўменнем глядзіць яму ўслед. Яму не зразумела, чаму раптам змяніўся настрой старшыні.

Засмучаны Натан ідзе па сцежцы сярод гародаў. Раптам спыняецца і прыслухоўваецца: недзе паблізу сапенне і рохканне. Натан кідаецца наперад — і ўрываецца ў свіны статак. Схапіўшы палку, што падвярнулася пад руку, ён разганяе свіней. Старшыня пахмурны ходзіць па сапсаваным гародзе. Наўкол ляжаць пашматаныя, напалову абгрызеныя гарбузы, кабачкі, расплюшчаныя памідоры. Натан са злосцю крычыць:

— Пі-іня!

Ніхто не адгукаецца.

Прагнаўшы свіней з гарода, Натан ідзе да будана. Будан пусты. На саломе валяецца вінтоўка. Натан бярэ вінтоўку і садзіцца на пень у будане. Задумаўся.

— Няўжо яна любіць Шлёмку? — сумна вымавіў ён.

Побач пачуўся голас:

— Піня!

Натан павярнуўся — перад ім з клуначкам у руках стаіць Бася. Убачыўшы замест Піні Натана, Бася разгубілася.

— Прабачце, я думала, што тут Піня. Я яму вячэру прынесла. Дзе ён?

Старшыня падняўся і падыходзіць да яе.

— Дзе? Мусіць, пайшоў шукаць лёгкую работу.

Бася прысела на лавачку ля будана, развязвае клуначак.

— Ешце, Натан. Гэта фаршыраваная рыба.

— Дзякуй. А вы будзеце есці са мной?

— Калі хочаце, — ахвотна адказвае Бася.

Яны сядзяць на лавачцы і ядуць.

— Натан, я хацела з вамі параіцца, — перастаўшы есці, раптам збянтэжана загаварыла Бася. — Мне сорамна мець такога мужа, як Піня… і я… кахаю іншага… але не ведаю, ці любіць ён мяне?

Натан папярхнуўся.

— Што з вамі? — спалохана спытала Бася.

— Нічога… я ведаю… ён кахае вас, — змрочна адказаў Натан.

Цяпер у Басі ад хвалявання рыба засела ў горле.

— Што з вамі? — занепакоена спытаў Натан.

— Нічога, — ачуўшыся ад хвалявання, вымавіла Бася. — Хто — «ён»? — нарэшце задала яна пытанне.

— Высокі, у яго вялікі нос, і нішто сабе хлопец… адным словам… Шлёмка.

Бася весела рассмяялася. Сабраўшы рэшткі ежы ў клуначак, яна паднялася.

— Вы не ўгадалі, Натан.

Натан з надзеяй глядзіць на Басю.

Яны ідуць з гародаў па сцяжынцы побач, абое ўсхваляваныя, шчаслівыя.

У бараку за сталом сядзіць Лёва, ён есць аладкі, макаючы іх у смятану. У пакой уваходзіць Шлёма. Ён з зайздрасцю глядзіць, як Лёва есць аладкі.

— Шлёма, вы, здаецца, нешта хочаце сказаць? — пытае яго Лёва.

— Карней прасіў перадаць. На Крывым ручаі сёння бачылі мядзведзя, — паволі, расцягваючы словы, кажа Шлёма, глытаючы слінкі.

— Ну-у?! — не паверыў Лёва.

— Далібог, — пацвердзіў Шлёма.

Лёва перастаў есці, імкліва ўскочыў і, ні слова не кажучы, кінуўся па лесвіцы на вышкі.

Шлёма падыходзіць да стала, азіраецца на Двойру, якая гатуе ежу ля пліты, і, цяжка ўздыхнуўшы, прымаецца за Лёвіны аладкі. Паглынаючы аладкі, ён працягвае гаворку так, каб чуў яго на вышках Лёва.

— Бабы збіралі ягады… Ён на іх наскочыў… Паднялася сумятня…

Лёва на вышках возіцца з ружжом.

Шлёма шчодра абмакнуў апошнюю аладку ў смятану.

— Лёва, вы маеце шанц забіць мядзведзя, — вымавіў ён пафіласофску і адправіў аладку ў рот.

Лёва паспешна спускаецца з вышак, ідзе да пліты, на якой Двойра пячэ піражкі.

— Мамачка, чула?.. Маю шанц забіць мядзведзя!.. Два піражкі… Большых, большых!.. Падсмажысцей! — просіць ён.

Двойра дае яму два піражкі.

— Дзякуй!

— На здароўе, — пяшчотна адказала Двойра.

Лёва падыходзіць да Шлёмы, працягвае яму піражок, але… рука яго на паўдарозе застывае. Лёва падазрона глядзіць на Шлёму, на яго губы і шчаку, запэцканыя смятанай. Ён кідаецца да стала — і бачыць сваю пустую талерку. Раззлаваны, падбягае да Шлёмы і зноў уважліва і з абурэннем вывучае ягоны твар.

— Шлёмка!.. О-ой! — толькі і сказаў Лёва, дакорліва паківаў галавой, са злосцю гледзячы на сытага, задаволенага Шлёму.

— Э-э-э!.. — няпэўна працягнуў Шлёма, сарамліва ўсміхаючыся і выціраючы рукавом рот.

Лёва хацеў яму яшчэ нешта сказаць, але перадумаў. Махнуў рукой і выскачыў з барака.

Па густой, непралазнай пушчы прабіраюцца Карней і Лёва. Яны выходзяць на невялікае ўзвышша, спыняюцца ля схіленага дрэва. Карней, нагнуўшыся да зямлі, паказвае Лёву на мядзведжы след і кажа:

— Ты пойдзеш за ім па следзе, а я ў абход. Ля Крывога ручая сустрэнемся. Толькі глядзі не куры! Мядзведзь дыму не любіць.

Карней пайшоў у адзін бок, Лёва — у другі.

Лёва ідзе асцярожна і ціха, часта нагінаючыся да зямлі, каб не згубіць след. Раптам ён насцярожваецца і здымае з пляча ружжо. Наперадзе чуецца нейкае бразганне і няясны шум. Лёва паволі падымае стрэльбу, дулам расхінае кусты — і бачыць Піню. На твары Лёвы вялікае здзіўленне.

Піня, седзячы на карачках на пясчанай касе ля ручая, прамывае ў тазе пясок, ціха напяваючы.

Пара-ціра-тара,
Ай-я-яй!..

Нахіліўшы таз, ён глядзіць, як вада зносіць з яго пароду, а на дне таза цьмяна паблісквають асобныя крупінкі. Піня беражліва перасыпае крупінкі з таза ў пляшку, працягвае мурлыкаць.

Тара-пара-ціра,
Ай-я-яй!

Сонечны прамень, прабіўшыся скрозь голле дрэў, ударыў у шкло — зайгралі, зазіхацелі крупінкі. Падняўшы пляшку да сонца, любуецца Піня.

— Цікава, чым тут жыба займаецца? — ціха кажа Лёва. Ён на дыбачках выходзіць з-за кустоў, нячутна падыходзіць да паваленага дрэва, садзіцца, прытуліўшы да яго вінтоўку.

— Піня! — паклікаў ён.

— Што?! — Піня пужліва ўздрыгвае і хуценька хавае пляшку за спіну. Азірнуўшыся, бачыць Лёву. — Лёва! — усклікнуў ён з палёгкай і нават заўсміхаўся.

— А што тут робіце, га?

— А, нічога… гуляю! — Піня ўцягнуў носам паветра. — Хараша!

Лёва падымаецца, падыходзіць да Піні і намагаецца зазірнуць за яго спіну. Але Піня адступае назад. Тады Лёва хапае яго за руку і кажа:

— А пакажыце!

— Добра, Лёва!.. Табе я магу паказаць. Але, Лёва… — Піня глядзіць па баках, каб пераканацца, што нікога няма. Прыклаўшы палец да вуснаў, ён робіць выразны жэст, даючы зразумець Лёву, што ён павінен маўчаць, што гэта, маўляў, толькі паміж імі. Піня паказвае Лёву пляшку. Лёва бярэ пляшку з дрыготкіх рук Піні (каб толькі Лёва не выпусціў з рук!) і глядзіць на яе, нічога не разумеючы.

— А што гэта такое, га?

— Пясок… Залаты пясок! — урачыста кажа Піня, не адводзячы ад пляшкі зачараваных і сквапных вачэй.

— Золата?! — не верыць Лёва. Ён уважліва разглядае тое, што ў пляшцы. — Божа мой!.. Золата! Няўжо гэта сапраўднае золата?

— Так! Гэта золата!.. Гэта тое, аб чым я марыў усё жыццё.

Лёва з пляшкай у руках прысядае на кукішкі і пытае:

— А што вы будзеце рабіць з ім?

Піня прысаджваецца побач з Лёвам і, асцярожна ўзяўшы з яго рук пляшку, кажа з летуценнай усмешкай:

— Што я буду рабіць? Усё, Лёва, усё!.. Магу купіць, я знаю, дом… не, фабрыку! Адкрыць буйную справу — фабрыку падцяжак!..

Піня гаворыць усё больш ажыўлена. Лёва асцярожна бярэ ў Піні пляшку. А Піня, падняўшыся на ўвесь рост, гаворыць палка, натхнёна, раз-пораз падцягваючы спаўзаўшыя з яго штаны.

— …Падцяжкі — ходкі тавар. О!.. Я раблю тавар прыма — простыя, шаўковыя, гумавыя… Усе купляюць — і прэзідэнты, увесь свет!.. І на падцяжках — мая фабрычная марка… карона… — Піня піша ў паветры пальцам. — «Піня Копман»! Піня Копман — кароль падцяжак!.. — Піня тыцкае сябе пальцам у грудзі. Штаны зноў спаўзаюць з яго… — Ну, што вы на гэта скажаце, Леў Саламонавіч? — горда пытае Піня і энергічным жэстам падцягнуў штаны.

Лёва ўвесь час слухаў Піню насуплена, аб нечым думаў. Нібы схамянуўшыся ад сваіх думак, ён падымаецца і з захапленнем, тым жа ўрачыстым тонам загаварыў:

— Так, Піня. Вы знайшлі золата! Цяпер вы самы знакаміты чалавек нашай радзімы! Пра вас будзе гаварыць уся наша краіна! Ва ўсіх газетах будуць друкаваць ваш партрэт. А пад ім надпіс: «Знакаміты чалавек яўрэйскай аўтаномнай вобласці — Піня Копман»!.. О-о-о! Як я вам зайздрошчу, га?

Абураны Піня падскоквае да Лёвы і выхоплівае з яго рук пляшку.

— Радзіма!.. Знакаміты чалавек!.. Дурань! З гэтым золатам усюды радзіма… нават там! — кіўнуў кудысьці ўбок Піня.

— Дзе?

— У кітайцаў.

— У кітайцаў?!

— Так. Там нават лепей… І цяпер можна пляваць на ўсё і на ўсіх, і кончана!

Піня раптам змоўк, нібыта спалохаўшыся чагосьці. Секунду падумаў і загаварыў ужо другім, ліслівым тонам.

— Лёвушка, я заўсёды лічыў вас разумным чалавекам. Хочаш чвэрць?

Лёва адмоўна пакруціў галавой.

— Ну, добра. Палова вам, палова мне. Толькі, Лёва, каб ні-хто не ведаў аб гэтым.

Лёва задумаўся.

— Дзяліць па-чэснаму? — раптам спытаў ён.

— Калі ласка… На, дзялі сам, — адказаў пакрыўджаны Піня і падае Лёве пляшку.

Узяў пляшку Лёва, спакойна хавае яе за пазуху.

— Піня, я думаў, вы гультай, а вы яшчэ і мярзотнік. Бывайце!

Піня хапае Лёву за руку.

— Лёва, што гэта значыць?!

Лёва, павярнуўшыся, адказвае:

— Гэта значыць, што квітанцыю атрымаеце ў калгасе.

— Лёва!.. Лёвушка!

— Га?

— Што ты робіш са мной?.. Лёванька! — жаласліва, ледзь не плачучы, просіць Піня. — Аддай! Гэта маё золата!.. Я цэлымі начамі не спаў!.. Я працаваў, як катаржнік! Вось гэтымі рукамі сотні пудоў зямлі перарыў! Аддай маё золата! — Піня цягнецца па золата, намагаючыся адабраць яго ў Лёвы.

— Пусці, ты… жяба! — адпіхнуў яго Лёва.

Зразумеўшы, што маленне не дапаможа, Піня з дзікімі вачыма кідаецца на Лёву, намагаецца адабраць пляшку.

— Злодзей!.. Злодзей!.. Аддай маё золата!.. Я яго нікому не аддам!

Лёва намагаецца вызваліцца ад Піні. Яны падаюць на зямлю. Мёртвай хваткай учапіўся Піня ў Лёву.

— Сволач! — Лёва спрабуе скінуць з сябе Піню.

У бойцы абодва катаюцца па зямлі.

— Аддай! — ажно задыхаецца ад гневу Піня.

Пляшка вывалілася з-за пазухі Лёвы. Цяпер ужо Піня намагаецца аслабаніцца ад Лёвы, каб падабраць з зямлі пляшку. Але Лёва яго не адпускае. На нейкае імгненне Піня аказаўся пад Лёвам. Іх твары сутыкнуліся.

— У, якая пыса! — з агідай вырвалася ў Лёвы. Напружыўшыся, ён дацягнуўся рукой да ружжа і націснуў на курок. Раздаўся стрэл.

Карней прабіраецца скрозь таежны буралом. Пачуўшы стрэл, прыслухоўваецца і, ускінуўшы ружжо, страляе ўгору.

Ярасна збіваючы адзін аднаго, Піня і Лёва катаюцца па зямлі. Той і другі намагаюцца дацягнуцца да пляшкі. У час бойкі Лёва незнарок разбівае яе ботам. Убачыўшы разбітую пляшку, абод-

ва падымаюцца з зямлі. Піня кідаецца да золата. Але тут Лёва моцна б’е Піню. Той падае і нейкі час ляжыць нерухома. Лёва ўвесь у пыле, з раскудлачанымі валасамі, стаўшы на калені, збірае ў шапку рассыпаныя па зямлі залатыя крупінкі. Піня, ачомаўшыся пасля ўдару, падымаецца на ногі. Выгляд у яго страшны. Цяжка дыхаючы, ён глядзіць на Лёву, на тое, як ён збірае з зямлі яго золата.

— Што?!.. Вось як! — з нянавісцю шэпча ён.

Падняўшы з зямлі лапату, ён ціха крадзецца да Лёвы з-за спіны. Лёва, пачуўшы шум, паварочваецца — і бачыць занесеную над сабой лапату і шалёныя вочы Піні. Ён спалохана прыкрыўся рукой і хацеў адскочыць, але было позна. Страшэнны ўдар абрынуўся на яго галаву.

— А-а-а!.. Жяба… — слаба прастагнаў Лёва.

Ён падае ніцма, страціўшы прытомнасць, заліваючыся крывёю. Піня са страхам падыходзіць да нерухомага цела Лёвы. Яшчэ не верыць у тое, што адбылося, ён ціха паклікаў:

— Лёўка!

Шырока адкрытымі вачамі ён глядзіць то на Лёву, на яго бледны твар, на тонкі струменьчык крыві, што сочыцца з-пад валасоў, то на шапку з золатам, заціснутую ў яго руцэ. Піня нагнуўся, паспешна вырваў з сутаргава скурчаных пальцаў шапку. Падабраў з зямлі рэшткі золата і, яшчэ раз са страхам зірнуўшы на змярцвелае цела Лёвы, адступае і кідаецца бегчы.

Піня бяжыць па тайзе, цяжка дыхаючы. У знямозе ён спыняецца і садзіцца на пень. Выняў з кішэні хустку, перасыпае ў яе з Лёвавай шапкі золата, завязвае хустку ў вузельчык і хавае яго ў кішэні пінжака. Заўважыўшы на руках кроў, Піня гідліва выцірае іх аб траву. І зноў бяжыць.

Да Лёвы падыходзіць Карней і ў жудасці спыняецца.

Піня бяжыць па сцяжынцы. Да яго даносіцца песня калгаснікаў, што ідуць насустрач. Разгубіўшыся, Піня кідае Лёваву шапку і трушком бяжыць у другі бок.

На сцежку, па якой толькі што бег Піня, выходзяць калгаснікі. Адзін з іх заўважае шапку. Падняўшы з зямлі, разглядаюць яе. Бачаць кроў. Шапка ідзе па руках і трапляе Натану.

— Чыя гэта шапка? — кажа ён у роздуме.

Роза бярэ шапку. Убачыўшы на ёй кроў, пабялела і спалохана ўскрыкнула:

— Ой!.. Гэта Лёвава шапка!

Зашумелі, захваляваліся калгаснікі, выказваючы свае здагадкі. Натан усіх суцяшае:

— Цішэй! Можа, яшчэ нічога не здарылася. Ідзіце дамоў! — сказаў ён жанчынам. — А мы пойдзем ланцугом па тайзе.

Калгаснікі, акружыўшы заплаканую Розу, ідуць у пасёлак.

Ланцугом ідуць па тайзе мужчыны, мільгаюць іхнія постаці ў кустах і высокай траве.

На пясчаную касу з ручаём, што выцякае з крыніцы, на месца нядаўняй бойкі выходзіць з тайгі Шлёма. Ён бачыць на беразе ручая Лёву і схіленага над ім Карнея.

— Гэй!.. Сюды! — крычыць Шлёма.

— Што здарылася? — спытаў падбегшы Натан.

— Лёўку забілі, — глуха адказаў Карней.

Натан нахіляецца да Лёвы, расшпільвае на ім кашулю і, прыклаўшы вуха да грудзей, слухае сэрца.

Шлёма, прыклаўшы далоні да рота, крычыць:

— Сюды!.. Сюды!

З усіх бакоў збягаюцца калгаснікі. У спешцы ладзяць насілкі, каб несці Лёву. Адзін калгаснік падняў з зямлі асколак пляшкі і ўважліва яго разглядае. Ён заўважае прыліплыя да шкла залацістыя крупінкі.

— Аднака… залацішка тута! — сказаў ён здзіўлена.

Паглядзеў на вырытую яму, потым падазрона глянуў на Карнея і хмура спытаў:

— Разам мылі?

— Не, — адказаў Карней.

Але калгаснікі яму не вераць. Усе з падазронасцю і асуджэннем глядзяць на яго. Карней, убачыўшы нядобрыя позіркі людзей, з недаўменнем азіраецца па баках.

Натан тым часам вывучае сляды на пяску. Ён убачыў выразны адбітак абцаса з цвікамі. У Карнея простыя боты, у Лёвы таксама. А гэта чые сляды? Натан азадачаны. Тут нехта быў трэці.

Калгаснік, які заўважыў золата на асколку пляшкі, падыходзіць да Карнея і грозна пытае яго, паказваючы на нерухомага Лёву:

— Не падзялілі?

— Ты што?.. Ачмурэў, ці што?.. Каб я… Лёўку?! Жартуеш? — здзіўлена і з крыўдай кажа Карней.

Не, не вераць Карнею. Моўчкі і сурова глядзіць на яго натоўп. Развязаўшы на сваёй кашулі пояс, калгаснік яшчэ бліжэй падыходзіць да Карнея.

— Сам ведаеш. Там, дзе залацішка, бацьку роднаму веры няма. Ану, давай рукі! — загадвае ён.

— Вы што?.. Ашалелі? — абурыўся Карней.

— Давай рукі! Там разбярэмся.

Акінуўшы ўсіх позіркам і не знайшоўшы ні ў кім спачування, Карней раптам адскочыў ўбок і выхапіў нож.

— Глядзі, не падыходзь!

У адзін момант Натан апынуўся ля Карнея. Ён хапае яго за руку, у якой заціснуты нож, і крычыць:

— Узяць яго!

Не паспеў Карней ачомацца, як яго рукі былі звязаны. Умомант абмяклы і разгублены Карней, абводзячы ўсіх вачамі, кажа:

— Вы што, браце?.. За што?! Я ж Лёўку не чапаў!.. Натан! — усклікнуў Карней, шукаючы спачування ў старшыні.

Натан глядзіць на яго, прыжмурыўшы вочы. Ён верыць Карнею: не ён забіваў. Але ці ж зараз дакажаш?

— А ты нажом не жартуй, — сказаў ён Карнею.

Праўленне калгаса. За сталом сядзіць Натан, насупраць яго — начальнік будоўлі Саламон, які прыехаў з горада.

— Добра, даю табе людзей на месяц. Глядзі, не затрымай! — кажа Натан Саламону.

Той ідзе.

Пакой у бараку. На ложку ляжыць Лёва. У яго ўзгалоўі сядзяць і няўцешна плачуць старая Двойра і Бася. Да іх падышла Роза.

— Лёвачка… сыночак мой дарагі, — заліваецца слязьмі, галосіць Двойра. — О-ой, Лёвачка!..

— Мама, не трэба, супакойся, — суцяшае Роза.

Двойра, уся ў слязах, паварочваецца да яе:

— Пакінь мяне!.. Уйдзі!.. Гэта ты вінавата!.. Гэта твой Карней забіў майго хлопчыка!..

У пакой увайшоў калгаснік і жэстам паклікаў Розу. Тая падышла.

— Роза, цябе кліча Натан. Трэба ў горад ехаць.

Роза, павярнуўшыся, з горыччу глядзіць на заплаканую Двойру, хоча нешта сказаць, але, апусціўшы галаву, выходзіць з пакоя.

— Я ехала сюды, каб нам усім было добра… А вось… нехта хацеў адабраць у цябе тваё жыццё… — плача старая Двойра.

Вялікае яе гора.

Праўленне калгаса. За сталом Роза і Натан.

— Заўтра паедзеш са сваёй брыгадай на будоўлю, а заадно адвязеш у бальніцу Лёву, — кажа старшыня.

Роза ідзе да дзвярэй. Спынілася.

— Натан! — Яна хоча нешта спытаць у Натана, але не рашаецца. Натан разумее, чаго хоча Роза. Падняўся з-за стала, падыходзіць да яе.

— Ты пра Карнея?

— Так.

— Я ведаю. Не хвалюйся, — сказаў ён спачувальна. — Я ж дзеля гэтага застаюся, зразумела? Едзь, працуй… Да, а што Піня, дома?

— Не. А што?

— Нічога. Я так. Ступай!

Роза пайшла.

Натан глядзіць у акно, з якога відаць свіран. Ля дзвярэй свірна стаіць Шлёма. Ён ахоўвае Карнея. Натан сочыць, як Роза падыходзіць да свірна. Усміхаючыся, ён адышоў ад акна.

Роза хоча ўвайсці ў свіран, але Шлёма яе не пускае.

— Шлёма, пусці мяне! Толькі на два словы! — просіць Роза.

Той адмоўна круціць галавой.

— Ну не магу!

— Шлёма, ну зрабі гэта дзеля мяне, — вельмі просіць Роза.

Добры Шлёма ўступае. Асцярожна азірнуўшыся, ён адчыняе свіран і ўпускае ў яго Розу.

Роза падыходзіць да Карнея. Убачыўшы яе, Карней узрадаваўся. Але ў Розы сумны твар. Яна моўчкі і доўга глядзіць на Карнея, нібы вывучаючы яго. Карней нахмурыўся.

— Няўжо і ты… мне не верыш? — з адчаем у голасе пытае ён.

Роза пяшчотна яму ўсміхнулася.

— Веру. Але ты дакажы Натану. Усім дакажы, — адказала яна і пацалавала Карнея.

У праўленні калгаса Натан і Карней. Натан усхвалявана кажа:

— Людзі вякамі былі раскіданы па ўсёй зямлі… Прыязджаюць, будуюць у нас сваё жыццё… шукаюць шчасця, знахо-

дзяць гэта шчасце… ужо знайшлі. Ажываюць! І вось… нейкая чартаўшчына! — злосна ўсклікнуў Натан. Ён паварочваецца да Карнея. — Ну хто?.. Хто мог раніць Лёўку?

— Хто, хто… — у роздуме паўтарае Карней. — Хто золата ўзяў, той і раніў. Не свой жа. Драпежнік, мусіць.

— А я вось след бачыў… з заграічнымі шыпамі…

— Стой, Натан! — ускочыў Карней. — Тады да месца ісці трэба! Па слядах і знойдзем!

Натан падыходзіць да тэлефона. Ён вісіць на сцяне. Над ім памятка: «Помни! Тебя подслушивает враг!» Натан набірае нумар пагранзаставы.

— Ало!.. Мікалай Іванавіч?

Пагранзастава. Пагранічнік гаворыць па тэлефоне.

— Далёка не ўцячэ! — адказвае ён Натану.

З тайгі выбягае Піня. Ён спяшаецца да Амура. Шукае лодку, каб пераплыць на той бераг. Там ратунак. Але лодкі няма. Піня ідзе ўніз па беразе і бачыць ля невялікай пратокі бацьку Карнея. Стары сядзіць ля будана, назірае за сеткай, працягнутай цераз пратоку. Піня бачыць яго лодку, прывязаную да берага.

Азіраючыся, ён асцярожна падыходзіць да рыбака.

— Добры дзень!

— Здарова! — дабрадушна адказвае стары.

— Слухай, дзед! Перавязі мяне на той бераг, га?

— На той бераг?! — здзівіўся рыбак.

— Так, так! — адказвае Піня, баязліва азіраючыся.

— Ну-ну!

— Дзед! — Піня выразным жэстам паказвае, што заплаціць.

Адчуўшы нешта няладнае, стары спадылба, падазрона глядзіць на Піню.

— Да кітайцаў? — кіўнуў на той бераг.

— Так, — зусім шэптам пацвердзіў Піня.

Стары падумаў.

— Перавязу!

— О!

— Светла толькі. Ноччу перавязу, — дадаў хмура.

— Добра!

— А пакуль дахаты даедзем.

— Ладна.

Абодва садзяцца ў лодку і адчальваюць ад берага.

Тайга. Натан і Карней пад’язджаюць на конях да месца сутычкі Піні з Лёвам. Сышоўшы з коней, яны шукаюць сляды.

На даху дома, які будуецца, працуе Роза са сваёй брыгадай. Не пазнаць Розу, не пазнаць дзяўчат. Быццам і не калгасніцы зусім. У спяцоўках і камбінезонах яны выглядаюць, як сапраўдныя рабочыя. Работа на даху дома кіпіць ваўсю.

На дах падняліся начальнік будоўлі Саламон і інжынер.

— Хто брыгадзір? — пытае начальнік будоўлі.

— Я! — адказвае Роза.

— О-о!.. Калгас «Ройтэ Фелд»? — узрадавана ўсклікнуў Саламон. — Здрасце!

— Здрасце! — адказвае Роза.

Начальнік і інжынер пачынаюць аглядаць кроквы і дах.

Тут жа, паблізу працуе Шлёма са сваёй брыгадай. Улюбчывы Шлёма і тут заглядаецца на дзяўчат. Вось ён падыходзіць да дзяўчыны з вясёлым тварам. Зняў свой саламяны капялюш і, далікатна прыклаўшы яго да грудзей, кажа:

— Блюма, з той пары, як я вас убачыў, у мяне няма спакойнага жыцця…

Блюма, усміхнуўшыся, жартаўліва б’е Шлёму па плячы і кажа:

— Прыходзьце вечарам у парк!

Усе працуюць з жартамі. Адной Розе нявесела. Кінуўшы работу, яна ідзе на край даху, садзіцца на крокву і задумліва глядзіць удалечыню. Што з Лёвам? Што з Карнеем? Трывога за іх перапаўняе яе сэрца.

Барак. Двойра і Бася сядзяць ля халоднай пліты. Навошта гатаваць ежу, калі не стала сям’і? Няма Лёвы, няма Розы, і Піня кудысьці знік… Усё з рук валіцца ў бедных жанчын.

— Была сям’я, і няма сям’і… Лёва, Лёвачка… што з ім?.. А Роза?.. Бедная мая дзяўчынка, — скардзіцца Двойра.

У пакой увайшоў Натан. У руках ён трымае медны таз.

— Добры вечар! — Натан апускае таз на падлогу.

— Добры вечар!.. Натан, дзе ж вы ўзялі наш таз? — здзіўлена пытае Двойра.

— А гэта ваш таз?

— Ну так!.. Ох ужо гэты Піня! Возьме рэч і ніколі на месца не пакладзе, — з абурэннем сказала Двойра.

Натан спахмурнеў.

— А дзе Піня?

— Дзе Піня? — пытае і Двойра, гледзячы на Басю.

У хату бацькі Карнея ўваходзіць пагранічнік.

— Андрэй Іванавіч, прывет! Чаго клікаў? — ён пацiснуў старому руку.

Рыбак паказвае госцю на крэсла ля стала і сам падсаджваецца да яго.

— Чалавек тут адзін на той бераг просіцца, а дарогі не ведае. Правядзеш? — хітра прыжмурыўшы вочы, спытаў ён.

Пагранічнік усміхнуўся.

— На той бераг? Чаму ж… Можна!

— Піня, злазь! Гэта свой! — крыкнуў, гледзячы на печку, рыбак.

Піня злазіць з печкі. Убачыўшы пагранічніка, замірае. Рыбак падыходзіць да Піні, бярэ яго за каўнер і цягне да пагранічніка. Піня ўпіраецца.

— Да кітайцаў, на той бераг просіцца! — кажа са злосцю рыбак.

— Не! Ён усё брэша, таварыш начальнік! — узбурана крычыць Піня, спрабуючы выкруціцца.

Пагранічнік уважліва разглядае Піню.

— А гэта што ў цябе? — паказаў на адтапыраную кішэню.

— Нічога… Пясок!

— Пясок?.. Ну-ка, дай-ка сюды!

Піня неахвотна дастае з кішэні клуначак.

— Давай, давай!

Пагранічнік бярэ клуначак і ідзе з ім да стала. Піня з працягнутымі дрыготкімі рукамі ідзе за ім, не адводзячы ад свайго клуначка гарачых, сквапных вачэй. Пагранічнік кладзе клуначак на стол і развязвае яго. Уважліва разглядае бліскучыя крупінкі. Бацька Карнея з цікавасцю заглядае ў развязаную хустку.

— Ого!.. Залацішка! — усклікнуў ён.

— Дзе ўзяў? — строга пытае Піню пагранічнік.

Піня як быццам ачомаўся.

— Намыў!.. Сам намыў!

— Дай-ка кіслоткі, — звярнуўся пагранічнік да рыбака.

Рыбак падае флакон з кіслатой. Піня, усё так жа насцярожана, выцягнуўшы шыю да стала, сочыць за рукамі пагранічніка. Той лье кіслату на золата — ад яго з шыпеннем паднялося воблачка пары.

— Гэта не золата, — кажа пагранічнік. — Гэта метал!
— Як не золата?!.. Вы мяне не падманіце! — істэрычна крычыць Піня. — Гэта золата!.. Сапраўднае золата!
— Эх ты, старацель! — насмешліва кажа рыбак.
І тут Піня, нібы зразумеўшы нешта, адразу абмяк, як падкошаны, ссутуліўся, пастарэў. У поўнай разгубленасці ён знясілена садзіцца на табурэтку.

Пагранічнік прывёў Піню ў барак. У пакоі Двойра, Бася і Натан. Убачыўшы Піню, усе трое моўчкі на яго глядзяць.
— Ваш калгаснік? — пытае пагранічнік.
Двойра павалі падыходзіць да Піні і доўга ўглядаецца ў яго твар, быццам бачыць упершыню. У яе сумных вачах боль, дакор і адчужанасць.

Бальнічная палата. Ля ложка Лёвы сядзіць Роза. Лёва, з цяжкасцю павярнуўшы да яе забінтаваную галаву, ледзьве чутна кажа бледнымі, бяскроўнымі вуснамі:
— Ой!.. М-м.. Здорава ён мяне…
— Хто, Лёвушка, хто?— нахілілася над ім Роза.
— Жяба… Піня…
— Піня?.. Піня?!
Роза, здзіўленая, ускоквае і выбягае з палаты.

Барак. За сталом сядзіць непазнавальны, паніклы Піня. У крайнім адчаі ён моўчкі раскачваецца з боку ў бок. Каля яго стаіць Двойра. З дакорам і слязьмі яна кажа:
— Паглядзі на мае рукі, Піня!.. Ім семдзесят пяць год!.. Яны высахлі ад працы… Мы вырваліся адтуль, дзе нас не лічылі за людзей. Выцягнулі цябе з нястачы і бруду. Стараліся цябе зрабіць чалавекам. А ты… ты забыў усё. Ты хацеў забіць майго хлопчыка, адабраць у яго жыццё. За што-о-о?..
Піня паварочваецца да Двойры, ён хоча нешта сказаць у сваё апраўданне, але тая жэстам рукі яго спыняе.
— Маўчы, маўчы!
Піня зноў парываецца нешта сказаць. Але Двойра не хоча яго слухаць.
— Уйдзі, уйдзі!.. Чужы чалавек!

Побач з Пінем сядзіць пагранічнік. Ён запісвае яго паказанні.

— Чужы чалавек… Цяжка, — задумліва і гаротна кажа Піня. — Усё жыццё хлеба не хапала… Золата… Грошы… Я думаў, грошы — гэта ўсё!.. Я — нічога не разумею?..

— Ваша прозвішча?

— Копман.

— Імя і імя па бацьку?

— Піня… Пінхас Абрамавіч, — адказаў Піня, гаротна паківаўшы галавой.

— Колькі вам год?

— Сорак тры.

— Адкуль прыехалі?

— З-за граніцы.

Позірк у Піні патухлы, твар змарнелы, жаласны.

Вяселле Розы спраўлялі ў новым доме.

На ганак выходзяць Двойра і Натан.

— Ну як, цёця Двойра? Падабаецца дом?.. Тут добра? — пытае Натан.

— Добра!.. Але калі мы жылі ў драўляным бараку, мы былі ўсе разам. А цяпер Розачка з'едзе да Карнея, — сумна кажа Двойра.

— Што вы, што вы, цёця Двойра! Такіх брыгадзіраў, як Роза, мы не адпускаем!

Яны спускаюцца з ганка і ідуць уздоўж сталоў, якімі застаўлены ўвесь двор. А на сталах чаго толькі няма! Медзвяжаціна, парасяціна, казуля, асятрына, таймень, гарбузы, дыні, памідоры… Бутэлек, келіхаў, шклянак — як дрэваў у лесе! Сталы гнуцца пад цяжарам стравы. Гэта сапраўднае свята дастатку! Госці сядзяць радасныя, смех і жарты гучаць на ўсю ваколіцу.

Двойра садзіцца за стол. Паблізу ад яе Лёва з перавязанай галавой, ён дзеліць паміж дзецьмі цукеркі і апельсіны.

На чале вясельнага стала — шчаслівыя Роза і Карней.

Паміж сталамі ходзіць смуглявая кучаравая дзяўчына. Твар яе азораны светлай усмешкай, у вачах гарэзлівыя агеньчыкі. Яна трымае ў руцэ ружу і спявае:

Собирайтесь в круг тесней,
запевайте веселей!
Тундай-тундай, тундай-тундай,
тундай-тундай, тундай-да!

Мы недаром собрались,
если любишь — так женись…

Да жаніха і нявесты падыходзіць Натан з падарункамі.

— Ад праўлення калгаса! — ставіць радыёпрыёмнік. — Ад партыйнага камітэта! — падае вялікую звязку кніг. — Віншую!

Двойра радасна ўсміхаецца. Не, яна не шкадуе, што яе Роза выходзіць замуж за рускага Карнея.

Шырока ўсміхаецца Шлёма, працягвае жаніху і нявесце двух пародзістых шчанюкоў. Адначасова з ім працягвае свой падарунак і тоўсты карантыш.

— Жадаю вам… — кажуць яны абодва ва унісон і тут жа змаўкаюць, здзіўлена гледзячы адзін на аднаго.

— Жадаю вам, — зноў сказалі яны разам. І, ужо злосна пераглянуўшыся, пад агульны смех уручаюць падарункі, так і не пажадаўшы нічога маладым.

— О-о-о! — урачыста ўскрыкваюць госці, убачыўшы пародзістых паляўнічых сабачак.

Э-э-э-эй!
Эге-е-е-ей!

По тайге да по густой
шёл охотник молодой…

Спявае кучаравая зграбная дзяўчына. Гарэзліва падміргнуўшы жаніху і нявесце, падыходзіць да іх.

Встретил зверя — не убил,
встретил девку — полюбил…

Усміхаюцца Карней і Роза. Льецца віно ў звонкія бакалы… Бацька Карнея дорыць футравыя шубы.

— Ну-ну!.. Сынку і дачцэ. Цёпла жывіце! — рыбак цалуе Розу і Карнея.

Двойра, расчуленая, выцірае слёзы.

Смяюцца і, не шкадуючы сваіх далоняў, апладзіруюць госці. І зноў звіняць бакалы.

А смуглянка з кветачкай спявае:

Ветер дует на Хинган,
губы тянутся к губам…

— Горка!.. Горка!.. — закрычалі ўсе.

Карней і Роза цалуюцца.

В жизнь мы весело пойдём,
радость-счастие найдём…

Да жаніха і нявесты падыходзяць начальнік будоўлі Саламон і інжынер. Саламон урачыста кажа:

— Ад будаўніцтва! Лепшай ударніцы!

Яны ўручаюць Карнею і Розе два веласіпеды. Усе апладзіруюць. Падарункі сыплюцца, як з рога дастатку: кавалкі сукна, сукенкі, посуд, боты… Лёва дастае з-пад стала новую бярданку і перадае яе Карнею. Нехта працягвае маладым ружовенькага вісклівага парсючка.

Смех, звон бакалаў.

Приходи гулять, дружок,
на полянку, на лужок…
Тундай-тундай, тундай-тундай,
тундай-тундай, тундай-да!

Выйдут девушки гурьбой,
выбирай, танцуй с любой!..

Нястомна спявае смуглянка сваю заўзятую, жартаўлівую песню. Хітра пазірае на Лёву.

Выбирай, танцуй с любой,
я с моею дорогой…

Госці адсоўваюць сталы, аслабаняюць месца для танцаў.

Зайграў аркестр. Праменіцца весялосцю музыка. Усе танцуюць.

Двойра сядзіць шчаслівая. Яна глядзіць, як танцуюць Роза і Карней. Танцуюць Лёва з кучаравай смуглянкай і Шлёма з Блюмай. Толькі Натан і Бася сядзяць за сталом разам з Двойрай, збянтэжана апусціўшы галовы. Відаць, што ім таксама хочацца танцаваць, але яны не рашаюцца.

— Дзеці, дык вам жа таксама хочацца танцаваць!.. Ну ідзіце! Весяліцеся! — кажа Двойра. — Бася, ідзі, танцу-уй! — лёгенька падпіхнула яе Двойра.

Шчаслівыя Натан і Бася выходзяць з-за стала і ідуць танцаваць у агульны круг.

Здаецца, не будзе канца гэтаму вясёламу танцу. Але вось з бакалам віна падымаецца Двойра. Шум заціхае. Усе ўважліва

глядзяць на яе. На вачах у Двойры шчаслівыя слёзы. Яна стаіць з поўным бакалам віна ў руцэ і ўсхвалявана кажа:

— Калі мы жылі ў мястэчку, мяне ўсе лічылі добрай гаспадыняй. Я ўмела рэзаць адзін маленькі селядзец на дзевяць ратоў. Ну, калі я рэзала гэты селядзец, я рэзала, як сваё ўласнае сэрца. Гэта ж, калі дзеці глядзяць табе пад рукі, і кожны просіць кавалачак як мага большы, і кожнага шкада, а ў хаце, акрамя гэтага іржавага селядца, нічога няма…Я нікому гэтага не пажадаю бачыць…

Голас Двойры дрыжыць, і слёзы коцяцца з яе вачэй.

— Ці ж мог мой нябожчык Аўрум Бер думаць, што яго старая Двойра дажыве да такіх светлых дзён!..

Двойра высока падымае бакал. Яна працягвае гаварыць, і ў яе голасе шмат душэўнай цеплыні да ўсіх, хто прысутнічае.

— …Кушайце, мае госці!.. Кушайце, мае дзеці!.. Наліце віна, і мы вып'ем за нашу радзіму! Мы вып'ем за тое, каб шчаслівым было наша жыццё!

Да Двойры цягнуцца рукі з бакаламі. Зноў зайграла музыка.

На ганку сядзяць старыя і ў такт пляскаюць у ладкі.

Усе танцуюць.

*1935*

# ПАЎСТАННЕ ГНЕВУ

*Памяці легендарнага*
*партызана Алеся Салаўя*[1] *—*
*беларускага Чапаева*

А хто там ідзе, а хто там ідзе у агромністай такой грамадзе?
— Беларусы.
А што яны нясуць на худых плячах, на руках у крыві, на нагах у лапцях?
— Сваю крыўду.
А чаго ж, чаго захацелася ім, пагарджаным век, ім, сляпым, глухім?
— Людзьмі звацца.

*Я. Купала*

## ЧАСТКА ПЕРШАЯ

Ціхая маляўнічая вуліца глухой палескай вёскі, з усіх бакоў акружанай лесам. Над нізкім плотам звесіўся бэз. А над кустамі бэзу схіліла сваё цяжкое вецце адцвілая чаромха. Мяккае святло месяца шчодра залівае бязлюдную вуліцу. Ля брамкі пад густой разгалістай ліпай прытуліліся адно да аднаго дзяўчына і хлопец. Наляцеў аднекуль ветрык, ціха зашамацеў лістотай. Задорна засмяялася дзяўчына, парывіста абняла хлопца і горача яго пацалавала. Расплыўся ў прамяністай усмешцы хлопец.

— Кахаеш? — шэпча ён.

Гарэзлівым і шчаслівым смехам адказвае яму дзяўчына і зноў цалуе і цалуе свайго кавалера.

Быццам з-пад зямлі, ля брамкі ўзнікла постаць. Чалавек у абшарпаным салдацкім шынялі, крыху хістаючыся, бесцырымонна звяртаецца да хлопца:

— Д-даруйце… д-дазвольце аганьку, калі маеце… закурыць!

Спалохана адхіснулася дзяўчына ад свайго каханага, сарамліва адвярнулася. Хлопец хмурна пакорпаўся ў сваіх

кішэнях, працягнуў п’янаму салдату пачак запалак, непрыязна буркнуў:

— Калі ласка.

Марудзіць салдат, корпаецца ў запалках, усё ніяк не можа прыкурыць. Але вось успыхнуў агеньчык. Глыбока зацягнуўся салдат, пусціў дым у хлопцаў твар.

— Дзякуй, — сказаў.

Засунуў машынальна запалкі ў кішэню і пайшоў нецвярозай хадой уздоўж плота, зрэдку хапаючыся за яго рукой.

Зноў смяецца дзяўчына. Пасадзіў яе хлопец на лавачку, укапаную ў зямлю пад ліпай, сеў побач, прынік галавой да яе грудзей і заціх, забыўшыся пра ўсё на свеце. Звалілася з галавы кепка на зямлю. Не падымае яе хлопец, не можа адарвацца ад любай. Хораша яму. Пяшчотна гладзіць яго па шчацэ дзяўчына. Павярнула хлапечы твар да сябе, нахілілася і… у доўгім пацалунку зліліся вусны закаханых.

— Д-даруйце…

Спалохана адхіснуліся адно ад аднаго дзяўчына і хлопец. Перад імі стаяў усё той жа п’яны салдат.

— Д-даруйце… д-дазвольце аганьку… патухла, праклятушчая.

І салдат, нібы ў сваё апраўданне, паказаў ім згаслую цыгарку. Ледзь стрымлівае сябе ад гневу хлопец, кажа незадаволена:

— Не дуры галавы! Я ж даў запалкі!

П’яны зрабіў моцны крэн убок, схапіўся адной рукой за брамку, а другой пачаў доўга, марудліва мацаць свае кішэні.

— Пр-раўда… я і забыўся… счас знойдзем…

Не вытрымаў хлопец, падняўся і, схапіўшы п’янага за плячо, з пагрозай сказаў:

— Слухай… матай адсюль… ды хутчэй!

Зусім не пакрыўдзіўся салдат. З п’янай ухмылкай падміргнуў хлопцу, супакоіў:

— Не з-злуй, хлапец… яно, канешне… я разумею… і бэз і іншая чаромха… любоў — не картопля. Р-разумею… я такі… Закуру і пайду.

Як шалёны падскочыў да п’янага хлопец, замахнуўся сціснутым у злосці кулаком. Павісла на яго руцэ дзяўчына.

— Лёня! Родненькі… не трэба… Лёня!

Апусціў той руку і скрозь зубы працадзіў:

— Швэндаецца тут… немаведама чаго… Ану яго к чорту! Пойдзем адсюль, Каця.

Хлопец абняў дзяўчыну, і абое пайшлі па ціхай вячэрняй вуліцы. П’яны доўга глядзіць ім услед, прыслухоўваецца да іх крокаў па драўляных мастках.

— Н-да-а… чаромха, бэз і іншая пятрушка… — мармыча ён.

А калі іх галасы і крокі заціхлі ўдалечыні, салдата нібы хто падмяніў. Ён ужо зусім цвярозымі вачамі асцярожна азірнуўся па баках і шпарка прашмыгнуў у брамку. Падышоў да старэнькай хаткі, што стаяла ў глыбіні двара, ціхенька пастукаў у шыбу.

— Хто? — пачуўся голас.

— Я… Алесь.

Рыпнулі дзверы, і салдат апынуўся ў хаце.

Невялікі, бедна абсталяваны пакой слаба асвятляла газавая лямпа, што вісела пад столлю. Насустрач госцю закульгаў пажылы мужчына з чорнай густой барадой. Моцна паціснуў руку.

— Здарова, Алесь! Хваста не было?

— Здаецца, не, — спакойна адказаў Алесь, але тут жа заклапочана дадаў: — А вось у цябе, Адам, пад вокнамі хлапец нейкі швэндаецца.

Хваляванне адбілася на твары гаспадара. Ён прачыніў дзверы і ціха паклікаў:

— Франя! Хадзі сюды!

Жанчына гадоў пад сорак увайшла ў пакой і ветліва прывіталася з Алесем.

— Паглядзі, хто там пад вокнамі ходзіць, — загадаў ёй Адам, — а мы тут пагамонім.

Жанчына паспешна выходзіць на двор. Яна амаль што нячутна знікае ў цені бэзавых кустоў, крадзецца па гародчыку да плота. Спыніўшыся, прыслухоўваецца. Здалёк далятае звонкі дзявочы смех і голас мужчыны. Жанчына не спяшаецца ісці ў хату, ёй здалося, што галасы набліжаюцца. Прытуліўшыся да плота, яна назірае. Міма яе, пяшчотна прыціскаючыся адно да аднаго, праходзіць тая ж парачка. У святле месяца выразна відаць твары дзяўчыны і хлопца. Жанчына асцярожна расхінае рукамі вецце, прабіраючыся сярод кустоў бэзу назад, да хаты.

У пакоі за сталом вячэрае Алесь. Ён есць прагна, паспешна, відаць, што дужа прагаладаўся.

— Лёнька… суседскі хлапец. Жаніх, — спакойна паведаміла Франя, увайшоўшы ў хату. — З Кацяй ходзіць.

— А ён не бачыў, як ты сюды ўвайшоў? — спытаў Алеся гаспадар.

— Не.

— Ото ж добра. Падагрэй нам, Франя, чаю. Трэба ж падсілкавацца чалавеку з дарогі… і бадай што ў дарогу.

Франя бярэ з падаконніка вялікі закураны чайнік, ідзе ў другую палавіну хаты.

— Галоўнае — гэта сабраць людзей, — працягвае пачатую раней размову Адам. — Кожнага чалавека падбірай асцярожна, адзін к аднаму. Сувязь з камітэтам трымай праз Максіма Ляўкова[2]. Весткі перадавай Семянчуку.

— Семянчуку? — здзіўлена спытаў Алесь. — Не чуў пра такога.

— Семянчук — гэта я… Зразумеў? Не Адам і не Славінскі[3], а Захар Семянчук.

— Зразумеў! — кіўнуў галавой Алесь.

— Вось табе дакументы, — Адам працягнуў яму пачак папер.

І вось ужо стаяць яны абодва ля парога, усміхаюцца. Збіў набок салдацкі картуз на галаве Алеся Адам. Закучараваліся з-пад картуза цёмныя валасы.

— Ну вось… малайчына! Памятай, будзь асцярожней: за справу адказваеш галавой, а галава ў цябе добрая — маладая ды кучаравая… Пабераж̌ы яе… згадзіцца… Ну, ды што там!

Адам моцна абняў Алеся.

Яны ціха выйшлі на двор. Выглянуў Славінскі на вуліцу, агледзеўся па баках.

— Можна…

Моцны поціск рук, і вось ужо Алесь упэўнена крочыць па начной бязлюднай вуліцы.

Вялікі натоўп сялян паволі рухаецца па шырокай вясковай вуліцы. Наперадзе пахмура крочаць чацвёра партызан, акружаныя шчыльнай сцяной пешага і коннага канвою. Промні яркага сонца блішчаць на штыках, на вынятых з ножнаў шаблях. Суровыя твары ў канвойных. З натоўпу даносіцца ўсхліпванне і гаротнае галашэнне жанчын:

Яблычак мой недаспе-е-елы,
ягадка мая недазрэ-э-элая!
Дзіцятка маё лю-у-убае,
сыночак ты мой ненагля-а-адны…

Марудліва пасоўваецца страшнае шэсце. Пакутліва галосяць жанчыны:

Лісточак мой зялё-о-оненькі,
цвяточак мой чырво-о-оненькі!
Без пары ты апада-а-аеш,
а мне гора пакіда-а-аеш…

Акінуў натоўп змрочным позіркам вахмістр, рыкнуў бязлітасна:

— Хто вые? Маўчаць!

Адразу стала ціха. Толькі прарываецца прыдушаны плач. Марудліва, цягуча пасоўваецца натоўп, як жалобнае шэсце. Але вось ціхі плач стаў грамчэй, і зноў прарвалася жаласнае галашэнне. Звонкі, але поўны болю і скаргі голас жанчыны, здавалася, далятаў да самага неба:

А дзіцятка маё га-аро-о-о-отнае!..
Саколік мо-ой, слязьмі абмы-ы-ы-ыты-ы!..

І раптам, павярнуўшыся ўсім целам да натоўпу, неяк памаладзецку хвацка крыкнуў народу стары партызан Раман Салавей[4]:

— Прашчайце, людзі-і-і!.. Спраўце па нас памінкі, каб яны панам адрыгнуліся!.. Э-э-эх! Гіну я… згінь і мая шапка!

І, размахнуўшыся, ён шпульнуў сваю шапку ў натоўп.

— Стой! — паспешна скамандаваў вахмістр.

Падцягнуўся канвой, шчыльней акружыў партызан. Уздыбіў каня пад сабой вахмістр і, размахваючы шабляй, урэзаўся ў натоўп.

— Аддаць шапку!

Захваляваліся сяляне, спалохана шарахнуліся ад яго, але шапку не аддаюць. Пераходзіць яна з рук у рукі, і вось яна ўжо ў Максіма Ляўкова. У адзін момант замяніў Максім шапку Рамана на сваю, якраз такую ж.

— Шапку, сволачы-ы! — крычыць вахмістр.

Падбег да яго Максім, з нізкім паклонам падаў сваю шапку.

— Калі ласка, пане вахмістр.

І зноў марудліва пасоўваецца гэта страшнае шэсце.

Ціхі світанак. У лагчынах паміж узгоркамі яшчэ цёмна, але над пушчай днее. Паволі, неахвотна, быццам шкадуючы пакідаць цёплую, утульную пасцель, падымаецца з лагчын густы туман. Ён ляніва цягнецца ўверх, абвалаквае ствалы дрэў на пагорках і, падняўшыся ўжо зусім высока, пачынае клубіцца.

І тады лагчына нагадвае кратар гіганцкага бясшумнага вулкана, ахутанага дымам і парай. Але вось з-за пагорка дапытліва скасавурыла сваё вогненнае вока ранішняе сонца. Яго пяшчотныя, не гарачыя праменні спярша слізганулі па вяршалінах стромкіх, як свечкі, сосен, і раптам пырснуў сноп праменняў, зайгралі яны, заблішчалі на лісцях роснага хмызняку — і адразу ж зазвінела, заспявала, зашчабятала, прачнулася пушча. Лагодна і млява забуркавала галубка, ёй азвалася другая. Пранізліва пракрычала жаўна, недзе далёка-далёка закувала зязюля, пад кустамі ціхенька перагукваюцца рабчыкі. Раптам іх чародка з шумам паднялася на крыло і рассыпалася па вершалінах дрэў. Хто іх так спудзіў? Насцярожана і зацікаўлена птушкі выцягваюць свае шыйкі, назіраючы за чалавекам.

Па вузкай сцежцы крочыць Алесь. Ён падышоў амаль упрытык да рабіны, спыніўся. Рабчыкі даверліва пазіраюць на яго, ляцець і не збіраюцца. Алесь ціхенька засвістаў, як той рабчык. У адказ яму з дрэва раздаўся баязлівы, няўпэўнены свіст.

— От дурненькія… Самі ў чыгун просяцца, — з лагоднай усмешкай прамармытаў сабе пад нос Алесь.

Спускаецца ён сцежкай з узгорка, прадзіраецца скрозь густыя калючыя зараснікі ажыны, спыняецца на кручы. Унізе звілістай стужкай бяжыць па лугах і балотах родная рэчка Пціч. Клубіцца туман над вадой. Ён плыве ўсё вышэй і вышэй.

Пад крутым рачным берагам, на невялікай пясчанай касе, табарам размясціліся рыбакі. Слаба дыміцца вогнішча. Над агнём на трыножку вісіць закуранае вядро. На роўнядзі рачной вады акуратным пункцірам паплаўкоў закругляецца невад. Штуршкамі, ледзь нахіляючыся да вады, падганяе дзед Цімох лодку да берага, мякка, бязгучна ўпіраючыся ў рачное дно доўгім шастом. Ля самага берага стоячы па пояс у вадзе, з натугай цягнуць невад двое сялян, намагаючыся як мага хутчэй сашчапіць яго канцы ля самай касы.

— У дно, у дно цісніце… у дно! — хвалюецца дзед Цімох.

Дзве вялікія рыбіны выслізнулі з невада цераз верх і з цяжкім плёскатам боўтнуліся ў ваду за пункцір паплаўкоў.

— Э-эх, разявы! — крычыць дзед Цімох. — Усю рыбу выпусціце!.. У дно, кажу вам, цісніце… у дно ды хутчэй!

Але вось сышліся канцы невада ля самага берага. Выскачыў з лодкі на пясок дзед Цімох, шлёпае па мелкаводдзі, дапамагае выцягнуць невад. Рыба шумна б’ецца ў кулі серабрыстай грудай. Як шалёныя скачуць на вадзе паплаўкі.

— Вось дык чарпанулі! — пачуўся голас Архіпа. — Глядзітка!.. Вось ета шчупак!.. Акула, а не шчупак!

Нагружаюць рыбакі ў плеценыя з лазы садкі сваю здабычу. Расцягваюць на пяску невад для прасушкі. А ля вогнішча ўжо шчыруе над вядром дзед Цімох. Беражліва, скупа прысольвае юшку, спрабуе, апякаючыся, і весела кліча сваіх таварышаў:

— Ну што, рыбачкі!.. Снедаць сядайце! Юшка паспела!

Разаслаў Архіп ля вогнішча старэнькую дзіравую посцілку. Ставіць на яе дзед Цімох вядро з юшкай, наразае важкія лусты хлеба. Выціраюць падоламі кашуль свае лыжкі рыбакі. Дзед Цімох акінуў вясёлым позіркам таварышаў, урачыста кажа:

— Ну вось, пачынаем. Лавіся, рыбка, вялікая і маленькая, — і першы апусціў лыжку ў вядро.

Са смакам сёрбаюць рыбакі навtowarыстую юшку, зачэрпнуць і падстаўляюць пад лыжку хлеб, каб не разліць.

Раптам над іх галовамі пачуўся шоргат, пасыпаўся пясок з крутога берага, хруснула галінка, а затым пачуліся чыесьці цяжкія крокі. Павярнулі рыбакі галовы ў бок крутой сцяжынкі. Спускаецца да іх Алесь. Блішчаць на яго грудзях два «георгіі».

— Здарова, мужыкі! Хлеб вам ды соль!

— Ядзім, ды свой… а ты збоку пастой, — незадаволена буркнуў Архіп, косячыся на георгіеўскія крыжы.

— А-ай, навошта ты, — папракнуў яго дзед Цімох. — Не бярыце да галавы! Ета ж ён жартуе… Сядайце разам снедаць.

— А ён заўжды такі, — засмяяўся Алесь. — Ці не праўда, Архіп?

Здзіўлены Архіп падняўся на ногі, спытаў:

— Вы адкуль мяне ведаеце?

— Не толькі цябе. І дзеда Цімоха.

— Мяне-е?.. — падзівіўся Цімох і зацікаўлена пачаў углядацца ў салдата. Раптам ляпнуў сябе дзед далонямі па клубах і ледзь не закрычаў:

— Чакай, чакай… дык ты… Алесь!.. Раманаў сын.. Салавей!

— Я і ёсць. Здарова, Архіп!.. Здарова, дзед Цімох!

Радасныя Архіп і Цімох кінуліся абдымаць Алеся, ціскаць яму рукі.

— Ты адкуль?

— Службу адбыў. Дамоў іду. Што добрага чуваць у нашай Карпілаўцы?

Але тыя нібы не чуюць.

— Алеська!.. Вярнуўся! Жывы і здаровы!.. Ото ж як добра!

— Гадоў шэсць мо ваяваў?… Ета ярунда! Абы жывы быў…

Дзед Цімох неяк абмяк і, не стрымаўшыся, заліўся радаснымі старэчымі слязьмі. Праз хвіліну-другую, зноў седзячы за юшкай і са смакам сёрбаючы, мужыкі ўсё гаманілі:

— Божачка! От радасць якая! — ніяк не супакоіцца Цімох. — Во як бывае на свеце… Па чалавеку даўно панафіду[5] адпелі, а ён жывы-здаровы вярнуўся. А матка ўсе вочы павыплакала…

— Ну, а Марына як?.. Не ажанілася часам другараз? — увесь напружаны, спытаў Алесь.

— Не, не! — стары ажно замахаў рукамі. — Увіхаўся тут за ёй адзін… Шымчонак. Але дарэмна. Яна ета яму адразу паварот ад варот. Пра Марыну нічога дрэннага не пачуеш… Га-га-га! — раптам засмяяўся дзед, нешта прыгадаўшы.

— Дзед Цімох, — пакрыўджана насупіўся Алесь. — Я з табой сур'ёзна, а ты…

— Дык я ж ета… успомніў! Паслухай, як яно было… Гы-гы-гы! Смяхоцце, дый годзе! Прыходзіць, значыцца, да мяне на самую на Піліпаўку[6] кума Наста… Маці ягоная, — кіўнуў дзед Цімох рыбакам на Алеся. — Прыходзіць, значыцца, да мяне за парадай. Што рабіць, пытае. Шэсць гадоў прайшло, як сын на ерманскай вайне, ані слуху табе, ані духу… ніякай, значыцца, вестачкі, няйнакш як забілі. Гніюць, кажа, яго костачкі ў сырой зямельцы. Дык ці не грэх будзе, пытае, панафіду па ім адслужыць? Я, ета, ёй і кажу. Калі забілі, то панафіда не пашкодзіць, а калі жывы — дамоў вернецца, да роднае хаты. Але ж я не поп і не ведаю, што табе параіць. Ідзі, кажу, да Паісія, ён табе скажа. Пайшла Наста да папа. Панесла яму гусака, яек, сала, грошай крыху. І дзе толькі ўзяла па беднасці па сваёй? А поп доўга не думаў, за такое смакоцце ўзяў ды адслужыў панафіду па табе, Алесь. І што ты думаеш? На другі дзень прыбегла да мяне Марына ды як разышлася-а-а! Як венік у лазні. Ледзь у бараду не ўчапілася. Ты што ета, стары чорт, крычыць, маёй мацеры сказаў па жывому чалавеку панафіду служыць? Пакрычала, пашумела і пабегла. Куды б ты думаў? К папу-у!.. Да таго ж Паісія!.. Га-га-га!.. — зноў смяецца дзед Цімох.

— Адымаць усё назад? — спытаў зацікаўлены Алесь.

— Ды не-е… якое адымаць! Яшчэ панесла яму яек ды гуся, каб адслужыў ён панафіду за тваё здароўе… Спярша за ўпакой, а пасля за здароўе… Гы-гы-гы! — развесяліўся Цімох.

— І адслужыў? — усміхаючыся, спытаў Алесь.

— У-га! Яшчэ як! Нават з пеўчымі. Айцец Паісій хі-і-ітры! За грошы ды гуся што хош зробіць. Як гаркнулі пеўчыя «многая ле-эта»[7] — ажно шыбы ў царкве забрынчэлі. — Дзед Цімох

пяшчотна паляпаў Алеся па плячы і аўтарытэтна, з нейкім старэчым гумарам дадаў: — Сто гадоў пражывеш, Алесь. Два разы чалавек не памірае. Весела будзеш жыць. Ды яно, калі ета па праўдзе, «многае лета» куды мацней гучыць, чымся «І падай яму вечную памяць». Сто гадоў будзеш па свеце хадзіць і яшчэ сто на прызбе сядзець, старыя косці грэць. Бо чалавек ты адпеты і прапеты.

— Ну, а бацькі як?.. Жывыя, здаровыя? Не хварэюць? — зноў пытаецца Алесь. — Чаму бацькі няма на рыбалцы? Ён жа такі заўзяты рыбак… — трывога адчулася ў голасе Салаўя.

Сумеўся дзед Цімох, адвёў вочы ўбок. Апусцілі галовы рыбакі.

— Бацька… таго… як яго… — разгублена прамармытаў у адказ Цімох. І раптам закашляўся стары. Так закашляўся, што нават сагнуўся ўвесь і адвярнуўся ад Алеся. Доўга ён кашляў. Нешта нядобрае адчуў Алесь.

— Кажы, дзед Цімох. Усё кажы адразу, — неяк глуха, як не сваім голасам, патрабаваў ён.

Ледзь аддыхаўся стары ад кашлю.

— Фу-у… Дым які ядучы, трасца яму, — і, падняўшыся на ногі, крадком змахнуў слязу. — Пра бацьку асобна трэба пагаварыць. Ён жа… ён жа…

У гэту хвіліну з шумам расхінуліся галінкі прыбярэжных кустоў, бліснулі на сонцы ствалы вінтовак і чыйсьці зычны голас гучна скамандаваў:

— Ренкі до гуры![8]

Рыбакі спалохана ўскінулі рукі ўгору і застылі. З кустоў з вінтоўкамі наперавес выйшлі балахоўцы[9] на чале з вахмістрам.

— Хто такія ёсць? — грозна крыкнуў вахмістр. — Дакументы!

— Якія ж будуць у людзей дакументы, пане вахмістр, на рыбалцы? — збянтэжана развёў рунамі дзед Цімох.

— Адкуль самі?

— Хто з Карпілаўкі[10], а хто з Рудабелкі[11], — паясніў Цімох. — Ды мы вось тут за бугром на смалакурні працуем. Можаце ў смалакурні запытаць.

— Запытаем. Не турбуйся, стары, — буркнуў вахмістр і звярнуўся да Алеся: — А ты?

Выцягнуўся як па камандзе «смірна» Алесь і гучна, пасалдацку адчаканіў:

— Старшы унтэр-афіцэр Чацвёртага Заамурскага кавалерыйскага палка дзевятай арміі паўднёва-заходняга фронту Алесь Раманавіч Салавей! Вяртаюся на радзіму па дэмабілізацыі!

— Та-а-ак… Дакументы? — строга патрабаваў вахмістр.

— Калі ласка!

Алесь дастаў з нагруднай кішэні паперы, падае вахмістру. Уважліва разглядае дакументы вахмістр. Часта адрывае вочы ад папер, пазірае на георгіеўскія крыжы на грудзях салдата. Адрывіста задае пытанні:

— За што ўзнагароджан?

— Вынес камандзіра, ротмістра Машкова, смяротна параненага, з бою!

— Калі? Дзе?

— Пад Залешчыкамі. У Галіцыі. У красавіку 1915 года.

— А другі крыж?

— За разведку пад Перамышлем. У снежні 1914 года.

— Ну што ж, салдат. Можаш адпраўляцца дахаты. — Вахмістр аддае Алесю дакументы. — А можа, да нас служыць пойдзеш? Абмундзіраванне добрае, коні дужыя…

Усміхаецца Алесь.

— А дзе ж вашы коні дужыя?

— Не верыш? — самазадаволена падкручвае вусы вахмістр. — Зараз убачыш. — І, павярнуўшыся да самых густых кустоў, падаў каманду: — Каняводы, ка мне!

З трэскам і шумам вылятаюць з кустоў балахоўцы-каняводы. Вядуць за сабой восем коней гарачай венгерскай пароды.

Любуецца Алесь коньмі. І з аўтарытэтам заўзятага конніка кажа з захапленнем:

— Ай ды коні! На такіх увесь свет можна праехаць!

— Падабаюцца? То-та ж, — ганарыцца вахмістр. — Ідзі да нас служыць… не пашкадуеш.

— Ніяк не магу, пан вахмістр! — спрытна шчоўкнуў абцасамі, аддаючы чэсць вахмістру, Алесь. — Шэсць гадоў не быў дома!.. Ваяваў!.. Трэба крыху адпачыць.

— Твая справа, — абыякава адказаў расчараваны вахмістр і скамандаваў: — Па конях!

Ускочылі балахоўцы на коней. Павёў позіркам вахмістр па рыбаках, спытаў:

— Дзе ж ваша рыба?

— Ды вунь, у садках, — паказаў рукой дзед Цімох.

— Высыпай яе ў лодку, стары, ды хутчэй. Павязеш у мястэчка і аддасі эскадроннаму капцёру. Скажаш: вахмістр прыслаў.

— Яно, канешне, можна… — замітусіўся дзед Цімох. — А толькі дазвольце спытаць, па якой цане?

Цынічна ўсміхнуўся вахмістр і, памахваючы нагайкай перад носам старога, выразна растлумачыў:

— Па самай сходнай… па гэтай. Хочаш? Дык адразу задатак адсыплю. Бач, быдла! Іх ад бальшавікоў абараняем, а яны нам рыбы шкадуюць. Ану, паварочвайся хутчэй!

Рыбакі, як угарэлыя, кінуліся высыпаць з садкоў рыбу ў лодку. Хвілін праз дзесяць лодка цяжка адчаліла ад берага і паплыла ўніз па цячэнні.

Акружылі коннікі рыбакоў. Зноў падаў каманду вахмістр:

— Шагам а-а-аррш! У Карпілаўку! Паглядзім, што вы за смалакуры.

Панура крочаць рыбакі, падымаючыся па сцяжынцы на бугор. Павярнуўся назад, тварам да берага, Архіп і гучна крыкнуў:

— Алесь, скруці невад і аднясі на смалакурню! Тут недалёка!

Хмурна адказаў яму Алесь Салавей:

— Добра… Аднясу.

Стаіць Алесь, змрочны, як хмара, у цяжкім роздуме на беразе, глядзіць услед рыбакам, якія адзін за адным знікаюць за бугром. Вось ужо схаваліся апошнія, і коннікі з вахмістрам — у хмызняку. Не спяшаючыся падышоў Алесь да разасланага на пяску невада, развесіў яго на прыбярэжных кустах для прасушкі. Адбіваецца ад дакучлівых камароў, ляпае сябе то па шчоках, то па шыі. Кінуў у вогнішча ахапак сухога хвойніку і прыкрыў зверху аерам. Густы дым клубамі пацягнуўся ўгору, павольна і шчыльна захінаючы неба.

Гарачы поўдзень. Сонца яркім святлом залівае лясную паляну. Курыцца лёгкі дымок над дзвюма зямлянкамі, пакрытымі дзёрнам. Бочкі з дзёгцем, груды наваленых карчоў, стары бак для перагонкі — вось, бадай, і ўся гаспадарка мізэрнага смалакурнага завода. Непадалёк ад маленькай хаткі пасецца на палянцы пара стрыножаных коней. Дрэмле ў цяні пад коламі вялізны сабака-дварняк. Горача яму. Высунуў язык, дыхае часта-часта. Пачуяў нешта дварняк, ускочыў з месца, моцна забрахаў, кінуўшыся ў кусты міма зямлянкі. Даносіцца сабачы брэх, парывісты, злосны і раптам… перайшоў у жаласны пранізлівы віск. З хмызняку на паляну выходзіць Алесь з невадам на плячы. Цяжка яму адбівацца ад азвярэлай псіны. Але вось прачыніліся дзверы хаткі — і на ганку ўзнікла рослая постаць смалакура

Максіма Ляўкова. Перабег Максім палянку і сярдзітым вокрыкам адагнаў сабаку:

— Пайшоў, пайшоў, Цыган!.. А каб цябе ваўкі заелі! Пайшоў!..

Незадаволена гыркаючы, схаваўся сабака пад колы, ашчэрыўся, пазірае на прышэльца налітымі крывёю вачыма.

Стомлена кідае Алесь на траву ля зямлянкі невад.

— Добры дзень! Ці не ваш гэта невад, гаспадар?

Здзіўлена і насцярожана глядзіць на Алеся Максім.

— Дзень добры. Здаецца, мой… А як ён да вас трапіў?

— Архіп папрасіў данесці да смалакурні. Во і прынёс…

— А дзе ж яны, рыбакі… куды падзяваліся?

— Дзед Цімох павёз рыбу ў мястэчка. Архіпа з нейкімі парабкамі балахоўцы ў Карпілаўку пагналі.

Разгублена паціснуў плячыма Максім.

— Дзіва!.. А вы хто ж будзеце?

З дакорам паківаў Алесь галавой, з лёгкім папрокам сказаў:

— Сорамна, Максім, свайго лепшага сябра не пазнаць… А я дык цябе адразу пазнаў, хоць ты і запэцкаўся ў смале, як чорт.

— Сябра?.. У мяне шмат сяброў было. Але які ж ты…

— А той самы. Катораму ты памятку на лбе зрабіў… — Алесь лёгкім жэстам рукі паказаў на ледзь прыкметны шрам над сваім правым брывом. — Прыгадаў?

Радасна войкнуў Максім.

— Алесь… ты?.. Не можа быць! Жывы! Па табе ж імшу[12] справілі… Вярнуўся! Ды як жа гэта?.. А браточак жа ты мой!

І сябры моцна абняліся. Крыху адхіліў ад сябе Алеся Максім, глядзіць на яго здзіўлена і радасна, нібы вачам сваім не верыць.

— Дзе ж ты прападаў столькі гадоў? Вой, як жа я рады цябе бачыць!

— Дзе быў — там ужо няма. А быў я, Максім, і на кані і пад канём.

— Дык чаго ж мы стаім? Пойдзем у хату, Алесь! Пасядзім, пагамонім, вып’ем па чарцы… Раскажаш, дзе быў і што бачыў.

Як калісьці, даўным-даўно, паклаў Максім сваю сяброўскую руку на плечы Алеся і павёў яго да сябе ў хату. Ціха прычыніліся за імі дзверы.

У цесным, але чыста прыбраным пакойчыку за скасабочаным сталом сядзіць задумлівы, сумны Максім. На стале недапітая

пляшка і рэшткі недаедзенай закусі: бульба, кавалкі варанай рыбы, гуркі, хлеб. Ля акна спінай да Максіма стаіць Алесь. Яго плечы ціха ўздрыгваюць.

— Не гаруй, Алесь… Што зробіш? Час такі… Грабяць, забіваюць, гвалтоўнічаюць. Але яшчэ загляне сонца і ў наша аконца!

Павярнуўся да сябра Алесь. У руках яго бацькава шапка. Задумліва глядзіць на яе, пытаецца ў Максіма:

— Як жа яна трапіла да цябе?

— На сваю памяняў. У мяне такая ж самая была. Я адразу здагадаўся, што не дарма твой бацька шапку кінуў. Запіска была ў падшэўцы.

Алесь уздыхнуў. Можа, дзесяты раз ён перачытвае запіску: «Выдалі сваякі. Праверце». Асцярожна складвае Алесь запіску і хавае ў кішэню. З болем кажа:

— Сваякі… Але хто? Як праверыць?

Ён глыбока задумаўся і, нібыта выказваючы смутную здагадку, ціха вымавіў:

— Марына?

Аж падскочыў з табурэткі Максім.

— Здурэў? І не думай нават! Не ведаеш ты Марыну… дарма, што муж.

— Ну дык хто ж? Ніколі не паверу, каб маці балбатнула.

— І не яна, — упэўнена заявіў Максім. — У тваёй маткі слова за год абцугамі не выцягнеш.

— Ну дык хто ж? Хто? Няма ў нас больш родзічаў… Э-э, ды што там! Усё роўна даведаюся. Душа з мяне вон, а дакапаюся!

І, у злосці сціснуўшы кулакі, Алесь скрозь зубы шэптам, з пагрозай выдыхнуў:

— А па бацьку я яшчэ памінкі спраўлю… Такія памінкі… што паны крывёю захлынуцца!

Са спачуваннем глядзіць на Алеся Максім і па-сяброўску перасцерагае:

— Глядзі, будзь асцярожны. Зараз час такі… Кінеш слова абы-дзе — і прапаў! Не гарачыся.

— Лёгка сказаць — не гарачыся! — Алесь уважліва глядзіць у вочы Максіма. — Па-твойму, лепей моўчкі сядзець? Чакаць ля мора пагоды?.. Лета гарачае. Маліна ў пушчы паспела, — раптам, панізіўшы голас, прамовіў ён, дапытліва гледзячы на сябра.

— Збіраць трэба хутчэй, — у тон яму адказаў здзіўлены Максім. — Браточак! Дык ты наш? — радасна ўскрыкнуў ён.

— А ты як думаў? — ужо з усмешкай адказаў Алесь. — Таму да цябе першага зайшоў, а не дамоў.

— Ото ж як добра! — радуецца Максім. — Дзе ж ты прападаў доўгі час?

— Да лютага быў на фронце… Потым у конным чырвонагвардзейскім атрадзе пад кіраўніцтвам Барыса Гарбачова[13]. Чуў пра такога?

— І чуў і нават бачыў… пад Ігуменам[14].

— Ён мяне і накіраваў да Семянчука, а Семянчук — да цябе.

Нахіліўся Алесь, сцягнуў з нагі бот, дастаў з туга загорнутай анучы нейкія паперы і працягвае іх Максіму.

— На… Семянчук перадаў. Схавай, ды падалей. Знойдуць — сам прападзеш і ўсю нашу справу загубіш.

— Ведаю, — спакойна адказаў Максім, прымаючы паперы.

Абуўся Алесь, лёгка ўскінуў на плечы свой салдацкі мяшок і пайшоў да дзвярэй.

— Бывай здаровы, Максім. Прабач, дамоў спяшаюся… Увечары ўбачымся.

Цёпла праводзіць яго Максім, клапатліва перасцерагае:

— Ты ж таго… Алесь… Пасцеражыся! У нашай Карпілаўцы ды ў Рудабелцы розны народ трапляецца. Дык ты ета… таго… глядзі!

Выпрастаўся Алесь на ўвесь рост — і ў той жа міг як хто падмяніў яго. Вочы сталі мутныя, асавелыя, няўцямныя. Стаіць у сваім пашарпаным шынялі з двума «георгіямі» на грудзях, хістаецца і на ўсю глотку гарлапаніць салдацкую песню:

Е-е-ехалі салда-а-аты
са слу-у-ужбы дамо-о-ой,
на плячах паго-о-оны,
на грудзях хр-рэсты-ы-ы!

Праз некалькі секунд Алесь зноў прыняў свой ранейшы выгляд.

— Зразумела? — спытаў ён у Максіма. — Бравы служака, георгіеўскі кавалер за бацьку не ў адказе. І ніякага табе падазрэння.

У захапленні ўсміхаецца Максім.

— Здорава! Артыст! Дзе ж ты гэтаму навучыўся?

— Семянчук навучыў. А ён, сам ведаеш — галава!

З гэтымі словамі Алесь выйшаў з хаты і асцярожна прычыніў за сабою дзверы.

Па зялёнай вясковай вуліцы, прыкметна хістаючыся, ідзе Алесь і напаўголаса напявае:

Е-е-ехалі салда-а-аты
са слу-у-ужбы д-дамо-о-ой,
на плячах паго-о-оны
ды на грудзях хр-рэсты-ы-ы!

З асаблівым націскам на слове «хрэсты» ён абрывае песню. З вокан і з-за брамак выглядаюць зацікаўленыя сяляне. Спыніўся Алесь перад старой скасабочанай хатай, што амаль да вокнаў урасла ў зямлю. Акружыла салдата басаногая вясковая дзятва. Дапытліва глядзіць на яго старая цераз плот. І раптам з крыкам і слязьмі выбягае з-за брамкі да Алеся, кідаецца на шыю і сціхае.

— Алеська… дзіцятка маё… сынок… жывы… жывы…

Абдымае старая сына і, як некалі ў яго далёкім маленстве, вядзе ў хату. І ўжо з ганка крычыць радасная маці:

— Марынка!.. Глядзі, хто прыехаў!

Выбегла жонка, кінулася да Алеся.

— Алесь…

Не знайшлося ў яе слоў, каб выказаць пачуцці. Доўга ўсхліпвае на грудзях Алеся маладая жанчына. А той, крадком выціраючы слёзы, з дакорам, але лагодна і прытворна бурчыць на кабет:

— Ну даволі, даволі… Не разводзьце вільгаці ў хаце. А мо не рады, што прыехаў?

Скінуў шынель Алесь, сеў за стол, па-гаспадарску абвёў позіркам хату. Цьмяна прасочваецца святло скрозь мутнае, бруднае акенца. Сям-там, дзе выбіты шыбы, дзіркі заткнуты анучкамі. Нізка навісла прагнілая столь.

Душыцца слязьмі, жаліцца сыну Наста:

— Рабавалі нас… балахоўцы… Бацьку…

І, не маючы сіл даказаць, загаласіла надрыўна, няўцешна:

— А пара-а-аднічак[15] ты мой мі-і-ілы!.. А рабо-о-отнічак мой нясто-о-омны-ы-ы!..

Бязгучна зноў заплакала і Марына. Няўклюдна, засаромеўшыся сваіх слёз і каб схаваць свой боль, адвярнуўся Алесь. Зноў кінулася яму на грудзі Марына.

— Алеська… родненькі… не ў добры час ты прыехаў! — І, моцна абдымаючы мужа, з плачам працягвае: — Не аддам цябе… не аддам!

Алесь супакойвае жонку, усхвалявана кажа:

— Сціхні, Марына… не плач. Ніхто мяне не возьме. Дый каму я патрэбен?

Грукаюць дзверы. Хата паступова напаўняецца суседзямі. Шумна выказваюць яны сваю радасць і здзіўленне:

— А міленькі!.. А родненькі!.. Няйнакш як з таго свету вярнуўся?

— Ужо ж і не чакалі цябе!.. І не паранены?

— Усяго было. Давялося спазнаць, пачым саўкін дзёгаць, — жартуе Алесь, не паспяваючы адказваць на прывітанні і пытанні сялян. Кладуць суседзі на стол хто што можа: кавалкі сала, сыр, кілбасу. Але вось у хату з шумам урываецца брат Марыны — Ларык. Яшчэ з парога ён, шырока раскінуўшы рукі, кінуўся да Алеся.

— Здарова, Алесь! Здароў, зяцёк! З прыездам!

Ён моцна абдымае Алеся і тройчы яго цалуе.

— Во дзіва, дык дзіва! З’явіўся жывы-здаровы ды яшчэ з крыжамі! — крычыць у захапленні Ларык. — А мы тут па табе панафіду адслужылі, нават чаркай памянулі за ўпакой!.. — усміхаецца ён. Павярнуўшыся да Марыны, Ларык загадвае: — Марына! Чаго стаіш? Накрывай абрусам стол! Пілі мы за ўпакой яго душы, а цяпер вып’ем за здравіе!

Ларык дэманстратыўна ставіць на стол дзве вялікія пляшкі.

— Першачок! Уласнага гатунку! — урачыста аб’явіў ён.

Мяккія летнія прыцемкі. Паціху гойдаюцца галінкі разгалістых клёнаў над вялікай хатай, што стаіць наўскрай сяла ля самай аколіцы. Маляўнічай чародкай у стракатым адзенні размясціліся дзяўчаты на бярвеннях. Звонка грае гармонік у руках Ларыка. Складна спяваюць дзеўкі задушэўную народную песню.

Ці свет, ці світае?  
Ці на зоры займае?  
Ці мой міленькі,  
голуб сізанькі,  
коніка сядлае?..

На доўгай прызбе паселі ў рад старыя. Калі-нікалі перакінуцца словам, але больш слухаюць песню, аб нечым задумаўшыся.

Мужыкі маладзейшыя ўладкаваліся на траве — хто сеў, хто прылёг. Успыхваюць агеньчыкі цыгарак. Тут жа прытуліліся Алесь Салавей, Архіп і дзед Цімох. Напаўголаса спяваюць дзяўчаты.

— Кажуць людзі, енерал у мястэчка заўтра прыедзе, — парушыў маўчанне Архіп.

— Га? — не дачуў глухаваты, гадоў пад дзевяноста дзед Кандрат.

— Енерал, кажуць, прыедзе! Балаховіч[16]! — грамчэй загаварыў Архіп. — Загадалі ўсім сустракаць яго! Стараста казаў: хто не пойдзе — кепска таму будзе!

Не спяшаючыся, выняў з рота люльку дзед Кандрат, пагардліва сплюнуў, махнуў рукой, важка заўважыў:

— Якія цяперака енералы!.. Во раней, калі мы на турку хадзілі, былі енералы… настаяшчыя. Як дасць у вуха — дык з ног і звалішся. Во ета енерал! А цяперака што?..

— Усе яны аднолькавы наконт мужыцкага вуха, — умяшаўся ў гаворку Максім. — Што ранейшыя, што цяперашнія.

— Глупства ты мелеш! Малады занадта, — сярдзіта запярэчыў дзед Цімох. — Балаховіч не такі… ета наш енерал, беларус. Яго «бацькам» не дарма клічуць.

— А ты яго ведаеш, дзед Цімох? — з усмешкай глядзіць Максім на старога.

— Заўтра пабачу. Мяне ж у дэлегаты апрадзялілі… каб сустрэць яго. Цэлы тыдзень рэпеціравалі, як там і што гаварыць. Але я ўжо ўсё пазабываў…

— Солі ў яго папрасі! Заціркі няма чым прысаліць, — падказаў нехта з сялян.

Усміхнуўся Алесь Салавей, акінуў позіркам мужыкоў і быццам паміж іншым заўважыў:

— Дзе ён вам той солі возьме? — і, павярнуўшыся да Цімоха, ужо сур'ёзна і важка дадаў: — Вось каб ён зямелькі даў, а то ўся добрая зямля ў паноў ды ў шляхты. Сялянам альбо балота, альбо пясок… дый таго не густа.

Як па камандзе загаманілі, закрычалі сяляне. Так усхвалявалі іх гэтыя словы, што не змаглі стрымаць даўно набалелае.

— Правільна! Зямлі прасі!

— Як адабралі ў нас зямлю, тую, што бальшавікі нам далі, дык і кураня няма куды выгнаць!

Не вытрымаў дзед Цімох, ускочыў на ногі, крыкнуў з запалам:

— А я і папрашу! Ён жа свой чалавек… беларус!

Раптам змоўк гармонік, сціхлі дзяўчаты. Па вуліцы лёгкай рыссю праязджаў вахмістр. Спыніў ён каня ля сялян, спытаў:

— Што за крык?

Асцярожна, з апаскаю адказалі сяляне:

— А ці ж мы крычым?.. ета мы так гаворым.

— Раімся, як лепей бацьку Балаховіча сустрэць, — паясніў вахмістру Алесь. — Каб урачыста, цікава, з хлебам ды соллю.

— А-а, ну-ну! То добра, — задаволіўся вахмістр. — А дзе ж хата вашага старасты?

— Вунь, крайняя ад калодзежа!

Вахмістр паехаў далей. Людзі марудліва пачалі разыходзіцца па хатах. Апусцела вуліца. Прыцемкі змрочным покрывам ахінулі Карпілаўку.

Шырока і прывольна раскінулася вялікае беларускае мястэчка на высокім беразе ракі Пціч. Местачковая плошча запруджана народам. Ля платоў у некалькі радоў выстраіліся сялянскія калёсы. Сярод іх вылучаюцца двухколавыя шарабаны багацеяў, а сям-там нават і «выезды»[17] паноў і падпанкаў. Мяркуючы па тым, што многія сяляне закусваюць прама на вазах, можна здагадацца, што прыехалі яны з далёкіх вёсак. Натоўп узначальваюць духавенства, шляхта і некалькі сялян, апранутых па-святочнаму. Паўднёвае сонца неміласэрна смаліць зямлю, іграе праменнямі на пазалочаных крыжах царквы, залівае нясцерпнай спёкай плошчу, што раскінулася перад валасной управай. Ля самага ганка «воласці» стаяць, пераступаючы з нагі на нагу, дэлегаты ў чаканні Балаховіча. Яны стаяць за вялікім круглым сталом, прыбраным стракатым абрусам. А на стале — пышныя боханы і соль. Наперадзе дэлегацыі важна застыў поп, апрануты ў раскошную рызу і акружаны ўсім сваім клірам. Урачыста і шыкоўна задумала валасное начальства сустрэць «бацьку» Балаховіча. Сіратліва і жаласна выглядае сярод дэлегатаў постаць дзеда Цімоха. Адчуваючы ўрачысты момант, дзед Цімох з усяе сілы намагаецца надаць сваёй паставе важнасць, але гэта яму не ўдаецца. Струменьчыкі поту сцякаюць па яго твары, блішчаць кропелькі на носе, і нават барада дзеда Цімоха, якая заўсёды заўзята тырчыць угору, цяпер чамусьці панікла, быццам пучок леташняй пажоўклай травы. Убаку, трошкі далей ад дэлегацыі, вахмістр дбайна павучае чародку сялян:

— Як толькі пад’едзе бацька Балаховіч і паздароўкаецца, усе як адзін павінны крыкнуць «ура». Крычаць доўга і гучна, як мага гучней. Зразумела?

Моўчкі слухаюць яго сяляне. Вахмістр задумаўся, а потым усё тым жа тонам працягвае:

— Зараз паспрабуем. Зараз я буду вас прывітаць, быццам бацька Балаховіч.

Ён рыссю ад’ехаў ад чародкі сялян убок, затым павярнуў каня, паволі і ўрачыста вяртаецца назад. Параўняўся з сялянамі і, выгнуўшы грудзі колам, смешна і важна надзьмуў шчокі і гаркнуў:

— Добры дзень, спадары!

З дзесятак галасоў уроскід крыкнулі знямоглае «ўра».

— Адставіць! — паморшчыўся вахмістр. — Дружней трэба! Гучней! — і, махаючы нагайкай, тлумачыць: — «Ура» — слова малое, але сэнс у ім вялікі! Зразумелі?.. Больш радасці! Прывету больш!.. Паўторым!

І толькі ён павярнуў каня, як насустрач яму з-за вугла хаты грымнуў духавы аркестр.

— Едзе! — крычыць вахмістр. — Тыя, што з хлебам і соллю, наперад!

Грыміць духавы аркестр. Акружаны паслугачамі, эскартаваны конным атрадам, пад’язджае Балаховіч да натоўпу. За спінай «бацькі» ўзляцела ўгору, нібы дырыжорская, рука з нагайкай памагатага вахмістра.

— Ур-ра-а!.. — нявесела прагуў натоўп. Ударылі царкоўныя званы. З групы дэлегатаў высунуўся наперад валасны староста.

— Бацька наш, — пачаў староста сваю прамову, — усе мы шчыра вітаем цябе… Мы вельмі ўдзячны табе за тое, што абараняеш зямлю нашу беларускую ад усялякіх злодзеяў і бальшавікоў. Усе мы, увесь народ, пачынаючы, канешне, ад паважанага пана Радамірскага і бацюшкі і канчаючы, канешне, бедняком Цімохам Ажойчыкам, будзем дапамагаць табе і твайму войску хто чым зможа.

Скончыўшы прамову, староста пакланіўся долу і паднёс Балаховічу хлеб і соль. Натоўп глядзіць на ўсё, што адбываецца, і перашэптваецца. За спіной Балаховіча зноў рука вахмістра пачала дырыжыраваць нагайкай — і некалькі чалавек з натоўпу, надрываючыся, зараўлі:

— Ур-р-ра-а-а-а!..

— Гавары! — шэптам загадаў староста дзеду Цімоху, піхаючы яго наперад.

Цімох нерашуча пераступае з нагі на нагу.

— Выходзь! — ужо са злосцю падштурхнуў яго староста.

Перапалоханы Цімох з боханам і сальніцай у руках апынуўся перад Балаховічам.

— Усе мы дужа рады бачыць ваша правасхадзіцельства… бацьку нашага… і я… спрадвеку бядняк-беларус… таксама, — залпам выпаліў Цімох і раптам спыніўся. Па яго твары відаць, як напружана намагаецца ён успомніць далейшую частку сваёй «прамовы». З адчаем павярнуўся дзед да старасты і з выглядам чалавека, які прапаў, безнадзейна махнуў рукой, ціха прашаптаў: — Забыўся…

Заўважыўшы разгубленасць старога, Балаховіч усміхнуўся яму і падбадзёрыў:

— Смялей, стары! Не бойся!

Цімох ажывіўся. І ўжо без боязі залапатаў:

— Прасілі дужа нашы мужыкі, каб была ваша ласка вярнуць тую зямельку, што нам бальшавікі далі. Толькі год і пакарысталіся ёю. Дужа цяжка жыць стала, уся лепшая зямелька ў паноў, а нам балота альбо пясок, пясок альбо балота… Працуем, працуем, ажно пуп трашчыць, і ўсё на чорта лысага!

— Правільна гавора!

— Зямлі!.. Зямлі-і-і!.. — загуло з усіх бакоў.

Заварушыўся натоўп. З самай гушчы яго, як тая ерыхонская труба, загуў і голас Максіма:

— Кураня няма куды выгнаць! Хоць на вяроўку яго бяры!

Алесь, які стаяў побач, так моцна сціснуў яго руку, што Максім ажно прысеў. Алесь зашаптаў яму на вуха ціха і ўладна:

— Цішэй!.. Глядзі, каб самога на вяроўку не ўзялі!

У адказ на здзіўлены позірк Максіма Алесь коратка шапнуў:

— Па дарозе пагаворым… Зразумеў?

Скрозь гул натоўпу пранізліва зазвінеў хлапечы, як жаночы, голас:

— Хоць бы па дзесяцінцы!

Салавей паказаў вачамі Максіму на маладога кучаравага хлопца, што крычаў, і зноў шапнуў:

— Хлапца гані адсюль… арыштуюць. За яго бабы выкрычацца.

Праціснуўся да хлопца Максім, тузануў яго за рукаў, шапнуў:

— Ану дамоў!

Нырнуў хлопец у самую гушчу натоўпу і быццам не было яго.

Пахмуры стаіць Балаховіч, услухоўаецца ў гул незадаволенага натоўпу. Нядобрым позіркам акінуў з галавы да ног старога

Цімоха. А той маўкліва стаяў перад ім, і ўся постаць старога выказвала мальбу, просьбу, веру. Падняў Балаховіч руку — сціх адразу натоўп.

— Калі ў каго-небудзь яшчэ знойдуцца скаргі, прыходзьце заўтра да мяне. У штаб. Там памяркуем што і як трэба зрабіць, каб дапамагчы беларускаму народу, нашаму сялянству. Як прадстаўнік беларускай Цэнтральнай рады[18], а таксама беларускай рады вайсковай[19], я абяцаю вам гэта, — спакойна сказаў Балаховіч.

Здзіўлена пераглянуліся прыслужнікі, што акружалі Балаховіча. Паехалі коннікі. Разыходзіцца з плошчы народ.

Пагодны летні вечар. Заходзіць сонца. Касыя праменні кранаюць хату Алеся Салаўя, шыбы адліваюць чырванню. Дзверы ў павець наросхрыст, ля іх на нізенькім цурбане сядзіць Алесь. Паміж шырока расстаўленых ног яго стаіць другі цурбанок з убітай у яго «бабкай», на якой Алесь старанна адбівае касу. Лёгкім меладычным звонам спявае каса пад ударамі малатка. Тут жа, на парозе павеці, сядзіць дзед Цімох. Ён яўна ўзбуджаны, часта падымаецца з месца, нервова жэстыкулюе і расказвае Алесю:

— Я, ета, пачаў яму гаварыць… а потым тыц-мыц… спыніўся, маўчу. Як ветрам з галавы ўсё выдзьмула. Ета ж трэба такое ліха! Усё, чаму мяне рэпеціравалі, забыўся. А ён глядзіць на мяне дый кажа: «На бойся, стары, кажы смела». Вось тут я і пальнуў. Усё як на далоні вылажыў… і пра зямельку, і крыўду нашу сялянскую. Народ, ета, канешне, кругом за мяне, «правільна!» — крычаць.

— Ну, а ён табе што? — пытае Алесь дзеда Цімоха, не спыняючы працы і робячы выгляд, быццам не чуў Цімохавай «прамовы».

— Слухаў мяне… Вельмі ўважліва слухаў. А калі пачуў пра нашу цяжкую жысць, пра зямельку-гаротніцу, дык ажно спахмурнеў.

— Спахмурнеў?.. Глядзі ты! — іранічна ўсміхаючыся, заўважыў Алесь і асцярожна прытуліў касу да сцяны павеці.

— Але… спахмурнеў, — працягваў Цімох. — А тады і кажа: «Калі ў каго ёсць яшчэ скаргі, прыходзьце заўтра да мяне ў штаб. Там памяркуем, якую помач, ета, зрабіць беларускаму сялянству».

— І пойдзеш да яго? — зноў з іранічнай усмешкай спытаў Алесь.

— А то як жа! Усе пойдзем!

— Хто гэта — усе?

— Пакрыўджаныя. Усе, каго балахоўцы пакрыўдзілі. Рак Антон, Крывеня Хвядос, Стэфка Камлючыха…

— Чым жа іх пакрыўдзілі? — перабіў дзеда Алесь.

— У Антося дачку Гэльку згвалцілі і парсюка пудоў на восем забралі… А яшчэ Дзядзюля Пятро, яму дык больш за ўсіх дасталося — каня ўзялі, а самога так адлупцавалі, што ледзь жывы застаўся. Пакрыўджаных шмат, з розных вёсак. З Карпілаўкі, з Харамцоў, нават з Касорычаў[20] заявы са скаргамі прынеслі. Ды ты, ета… во сам пачытай!

Дзед Цімох падае Алесю пачак пакамечаных, завэдзганых заяў, спісаных такімі крымзолямі, што і не разбярэш. Алесь уважліва пачаў разглядаць заявы, зрэдку ціха задаючы Цімоху пытанні:

— Лявон Рыбка?

— З Харамцоў. Новыя боты забралі і вока выбілі, — тлумачыць дзед.

— Дубчак Восіп?

— І ён з Харамцоў. Кажух узялі новы ды зарод сена спалілі.

— Юзік Маргунёнак?

— Еты хлапец з Кавалёў[20]. Гармонік яму шляхцюкі ўшчэнт разбілі.

— Завошта? — пацікаваў Алесь.

— Адмовіўся іграць «Ешчэ Польска не згінэла»[22]. І гармонік разбілі і ўвесь твар ягоны размалявалі.

Ужо моўчкі чытае Алесь сялянскія скаргі, іх шмат, вельмі шмат — на лісточках са школьных сшыткаў, на абрыўках шпалер ці на шматках шэрай абгортачнай паперы. Чытае Алесь, хмурыцца, бровы так насупіў, што яны сышліся. Потым склаў акуратным стосікам заявы і паклаў на цурбанок.

— Навошта ты мне прынёс? — пытае ў Цімоха Алесь.

— Каб ты за ўсіх пакрыўджаных адну заяву напісаў. Не будзе ж ён чытаць ета ўсё. Енералу часу не хопіць. Начальства!

— Праўду кажаш, Цімох. Не хопіць яму часу, — з незразумелым для Цімоха сэнсам пахмура сказаў Алесь. — Не буду я вам пісаць заяву, — раптам заявіў ён катэгарычна.

Аж прыпадняўся ў роспачы дзед Цімох.

— Чаму? — ледзь вымавіў ён.

— А таму, што з гэтага нічога добрага не выйдзе, — усё так жа рэзка і няўмольна адчаканіў Алесь. — Таму што ваўку

наваўчанят скардзіцца смешна. Таму што Балаховічу пан Радамірскі бліжэй і даражэй за нас, мужыкоў.

Як апараны ўскочыў з месца дзед Цімох.

— Хлусня ета!.. Глупства!.. Ён жа наш чалавек… беларус! Ён нават па-нашынскаму, па-сялянску гаворыць!

— Гаворыць па-сялянску, а думае па-панску, — упарта стаіць на сваім Алесь. — Не буду я вам пісаць заявы!

— Не будзеш?! — злосна крыкнуў Цімох. — Ну і не трэба! Без цябе праўду знойдзем… без цябе! — І дзед сярдзіта патупаў да брамкі.

— Глядзі, дзед… пашкадуеш! — наўздагон яму крыкнуў Алесь.

Нават не азірнуўся Цімох. Сярдзіта крочыць ён па вуліцы і, злосна плюючыся, абураецца. Глядзіць яму ўслед Алесь, з дакорам ківае галавой. Асцярожна ўзяў з цурбанка стосік сялянскіх крыўд і пайшоў у хату. Праз адчыненае акно відаць, як Марына хавае за пазуху скрутак, што перадаў ёй Алесь. Ужо на ганку ён кажа жонцы:

— Перадай Максіму. І глядзі ж, каб нікому… — Алесь выразна прыклаў палец да вуснаў. — Ні-ні!

— Не ўпершыню, — спакойна адказала Марына.

Яна паспешна ідзе з двара.

Нязграбная старая хата, нахіленая на адзін бок, прытулілася на краі местачковай базарнай плошчы. Над трухлявым ганкам матляецца на адным цвіку напаўсарваная заржавелая шыльда з надпісам «Школа». Ля ганка гэтай былой школы мітуслiва і шумна. Раз-пораз падлятаюць на ўзмыленых конях ардынарцы з данясеннямі. Плошча запруджана абозам, двухколкамі, скрынямі з артылерыйскімі зарадамі. Ля аднаго плота згрудзіліся сялянскія калёсы з паднятымі ўгору аглоблямі. Клапатліва падкідае сена сваёй кабыле дзед Цімох, затым накіроўваецца да ганка, ля якога стоўпілася чалавек дзесяць сялян. Яны аб нечым напаўголаса перагаворваюцца і боязна азіраюцца па баках. Сярод іх немаладая кабета Гапуля Суніца, яна расказвае пра сваю бяду, жаліцца, шукаючы ў слухачоў калі не паратунку, дык хоць бы спачування.

— Куфар разбілі… дачушчын пасаг выграблі да апошняй нітачкі. Каму яна цяперака патрэбна, гаротніца мая, жабрачка галадраная?

Падышоў дзед Цімох, спытаў:

— Ну як? Мяне яшчэ не выклікалі?

Адмоўна пакруціў галавой селянін. А жанчына ўсё ўсхліпвае ды прыгаворвае:

— Ай, божа ж мой, божа! І адкуль тое ліха звалілася на нашы галовы?

Дзед Цімох, поўны веры ў справядлівасць, бадзёрым голасам суцяшае кабету:

— Не гаруй, Гапуля! Не галасі! Раскажаш пра ўсё бацьку Балаховічу — ён навядзе парадак. І куфар новы дадуць і пасаг вернуць. Ён жа наш чалавек… свой, беларус! Ён дапаможа!

— Чакай, кума, Пятра — сыр з’ясі, — іранічна заўважыў адзін селянін. — Пакуль ён дапаможа, дык…

І не паспеў ён даказаць, як з сенцаў крыкнулі:

— Цімох Ажойчык! Дэлегат!

Па-маладзецку аправіў на сабе вопратку дзед Цімох. Яшчэ на ганку зняў з галавы шапку і ўвайшоў у школу. У пакоі, які ў свой час быў настаўніцкай, Цімоха сустрэлі Балаховіч і Барыс Савінкаў[23]. Седзячы за сталом, надзьмуты і важны, як індык, Балаховіч акінуў змрочным паглядам лядашчую постаць дзеда Цімоха. Пальцы беларускага «бацькі» нервова барабанілі па стале. Савінкаў стаяў побач. Ён таксама свідраваў старога злосным позіркам, які нічога добрага не прадказваў Цімоху.

Спудзіўся стары. Аж да самай падлогі пакланіўся абодвум. Гаспадары маўчалі. Нейкі час дзед бездапаможна топчацца на месцы, ён то адкрые рот, то закрые, усё ніяк не асмеліцца вымавіць хоць слова. Вачамі ўдава, які ўбачыў труса, глядзіць на Цімоха Балаховіч. Нарэшце ён загаварыў:

— Ты беларус ці бальшавік?

Яшчэ і яшчэ нізка кланяецца Цімох і адказвае на пытанні хуценька, з гатоўнасцю, запінаючыся ад страху.

— Тутэйшы я… з вёскі… з Карпілаўкі. І дзед мой адсюль, і бацька… і я, ета, таксама… тутэйшы.

— Хто цябе навучыў пра зямлю так гаварыць? — зноў спытаў Балаховіч.

— А ніхто… Усе етак гавораць, — растлумачыў дзед. — У каго зямлі мала альбо зусім няма… той і гаворыць.

— Многа ў вашай Карпілаўцы такіх?

— Бадай усе, — уздыхнуў Цімох. — Калі і ёсць у каго невялічкі кавалак зямелькі, дык і тая… альбо пясок, альбо балота… Што на ёй уродзіць? Не зямля, а гаротніца.

— Та-а-ак, — нешта абдумваючы, працягнуў Балаховіч і зноў пытае ў Цімоха: — Няўжо ўся ваша вёска жабрацкая? Няўжо ў вашай Карпілаўцы зямлі добрай няма?

— Чаму няма? — раптам асмялеў Цімох. — Ёсць і добрая зямелька, ёсць… ды толькі ж яна, ета, у шляхты ўся. У каго валока[24], а ў каго ажно дзве.

— Та-а-ак, — зноў працягнуў Балаховіч і, падышоўшы да дзеда Цімоха, як не зашыпеў па-змяінаму: — Зямлі захацелася? Чужое дабро хапаць? Грабіць? У бальшавікоў навучыўся на старасці? — І, павярнуўшыся да дзвярэй, Балаховіч крыкнуў: — Эй! Хто там на варце? Сюды!

У настаўніцкую ўваліліся два зверападобныя балахоўцы. Ліха шчоўкнулі абцасамі і замерлі як статуі.

— Узяць! — тыцнуў Балаховіч пальцам у дзеда Цімоха.

— Бацька… родненькі… ды я, ета… завошта?!

— За чужую маёмасць, сыночак! За чужое дабро! За бальшавіцкія выкрунтасы! — злосна адчаканіў Балаховіч. — Узяць!

Вартавыя падхапілі дзеда пад рукі, пацягнулі яго ў сенцы.

— Шомполами его!.. Двадцать пять! — кінуў наўздагон Савінкаў. — На площади! Принародно!

Балаховіч зноў сеў за стол, адглынуў з шклянкі астылага чаю і, звяртаючыся да Савінкава, загаварыў па-руску:

— Вот они, крестьянские настроения. Что вы на это скажете, Борис Викторович?

— Скажу, — пахмура адказаў Савінкаў. — И многое скажу.

Наступіла паўза. Цяжкімі, грузнымі крокамі ходзіць Савінкаў па пакоі, нібы нешта абдумвае, рыхтуючыся да прамовы. Любіць Савінкаў пагаварыць, вельмі любіць.

— По-моему, вы, простите за откровенность, плохо разбираетесь в политической обстановке и оценке событий. Да разве этот старик, эта советская голытьба, может быть выразителем крестьянских настроений? Центральный комитет «Союза защиты Родины и свободы» дал ясные указания и директивы по этому вопросу. Ими надо руководствоваться и исполнять их. Мы делаем ставку не на голытьбу, а на крепкого, хозяйственного российского мужика. Именно он, крепкий, хозяйственный мужик, и является становым хребтом нашей Родины. Матушка Россия — страна сугубо аграрная. Следовательно, основная сила и могущество ее заложено в крестьянстве. Хозяйственный мужик прежде всего собственник. Ему враждебны и большевизм и главенство советской голытьбы. А поэтому необходимо внушать ему всегда, везде и всюду мысль о том, что большевистская продразверстка является по существу простым неприкрытым грабежом крестьянства. Ему надо обстоятельно вбивать

в сознание, что большевики превращают имения помещиков в совхозы, а поэтому мужику не видать той земли, о которой он мечтал веками и мечтает теперь. Нашей задачей является главная, основная цель — это свержение большевизма. А поэтому необходимо разъяснить мужику положение о продразверстке и совхозах, и тогда он, как медведь, зарычит и станет на дыбы против большевиков. Это доказано на опыте. Восстание крестьян Тамбовской губернии под руководством Антонова[25] растет и ширится, как снежный ком. Мятеж Григорьева[26] на Украине охватил массы зажиточных крестьян. Рейды Тютюнника[27] и даже, коли на то пошло, самого Нестора Махно[28] — говорят о том, что крестьянство против большевизма. Отсюда и план действий… Коммунистов — на фонари, землю — мужику, советскую голытьбу — в колодец. Жечь и расстреливать, расстреливать и жечь. Только беспощадным террором можно обуздать большевистскую шантрапу. Террор в политической борьбе — средство могучее и проверенное на опыте.

— Так-то оно так, — згадзіўся Балаховіч, калі Савінкаў змоўк. — Однако надо было бы и белорусскому крестьянству выработать хоть какую-то программу.

— Программу? — крыва ўсміхнуўся Савінкаў. — Она давно выработана.

— Где, когда? — шчыра здзівіўся Балаховіч.

— Вот! — І Савінкаў злосна тыцнуў пальцам на бізун, што вісеў на сцяне ля акна. — Только короткий, а надо бы подлиннее. — І, падышоўшы да сцяны, ён выразным жэстам паказаў, якой даўжыні павінна быць гэта «праграма» для беларусаў.

Глыбока задумаўся Балаховіч.

Шумна, весела ў Карпілаўцы ў нядзелю. Ля хаты пад клёнамі, што стаіць наўскрай сяла, вялікае зборышча людзей. Звініць гармонік, не адстаюць ад яго цымбалы і скрыпка, глуха бубніць бубен. Хлопцы і дзяўчаты пусціліся ў скокі — ажно пыл пад нагамі курыцца! Гэтак яны танцуюць «таўкачыкі»[29]. На дзяўчатах стракатыя спадніцы і блузкі, на хлопцах такія ж святочныя кашулі, падперазаныя ўзорыстымі паясамі. Ларык на сваім гармоніку такія каленцы выводзіць — чарадзей, дый годзе! Шнырае пад нагамі дарослых дзятва. Мірна гамоняць на прызбе старыя. Весела і святочна ў Карпілаўцы.

— Нешта доўга няма нашага дэлегата, — задумліва сказаў Максім.

— Мабыць, зямельку нам дзеліць з Балаховічам, — шырока ўсміхаючыся, пажартаваў нехта з сялян.

— А можа, дзесяцінцы па дзве і выпрасіць? Ён такі… Ён дойдзе, — падтрымаў аўтарытэт дзеда Цімоха Архіп.

Маўчыць Салавей, слухае, аб чым гамоняць людзі. Паранейшаму танцуе моладзь, звініць-заліваецца гармонік, сярдзіта бубніць бубен.

Раптам з правулка паказалася кабылка дзеда Цімоха. Не спяшаецца кабылка, ледзьве ногі перастаўляе, нават вушы яе паніклі.

— Гляньце, мужыкі! Ці не Цімохава ета каняжына?

— Яна самая… дуга, як заўсёды, на баку…

— Едзе!.. Дэлегат едзе! Дзед Цімох!

— Музыку яму! Ды павесялей! — з жартам кінуў нехта.

Шырока расцягнуў гармонік музыка. Часцей забубніў бубен. Грымнула вясёлая музыка.

— Дэлегат едзе! — крычыць народ.

З цікаўнасцю і нецярпеннем пасунуліся людзі насустрач кабылцы. Раптам нехта здзіўлена заўважыў:

— А дзе ж Цімох?.. Каняжына сама ідзе!

Абарвалася музыка. У поўнай цішыні панура пляцецца па вуліцы стомлены конь. Кінуліся людзі да воза — і ўбачылі на дне дзеда Цімоха, збітага, ледзь жывога. Моўчкі стаяць збянтэжаныя сяляне. Тым часам Марына прынесла вядро з вадой і кварту, пачалі на бедалагу ліць ваду, далі яму папіць. Ачомаўся Цімох. Абвёў усіх мутнымі вачыма і, ні слова не кажучы, заліўся горкімі слязьмі ад крыўды. Панура маўчаць сяляне. Нехта шумна, гаротна ўздыхнуў.

— Вось яна, праўда наша… і зямелька наша сялянская, — ціха і пахмура сказаў Алесь.

Плача дзед Цімох, намагаецца нешта сказаць, але яму цяжка.

— Дурань я, стары ёлупень… Не паслухаўся Алеся… енералу паверыў, — ледзь чутна вымавіў ён. Больш нічога не сказаў і зноў заплакаў стары.

Ціхая летняя ноч. З цёмнага неба глядзіць на зямлю залаты месячык. Шырокай серабрыстай стужкай выгінаецца па неабсяжных лугах рака Пціч. На адным з яе берагоў палае барвовым агнём вялікае вогнішча. Гучыць старажытная песня, яна ўзлятае высока-высока — ажно да самых зор!

Бадай, пану ў двары страшна,
Як нам сонца ў полі зашла.
Сонца зашла — яшчэ мы жнема,

Пры месяцу снапы нясема.
Пры зоры ў капы кладзема,
У паўночы дадому ідзема.
На світанні вечарэма
І ў дзень белы зноў ідзема.
Бадай, пана не хавалі,
Каб сабакі разарвалі,
Каб па пану ваўкі вылі,
Бадай, пана грамы ўбілі,
Як мы ручкі патамілі.

У водбліску вогнішча выразна выдзяляюцца людскія постаці. Калі-нікалі да самага агню падыдзе конь, фыркне і, адышоўшы, зноў нахіліцца, скубе траву. Зрэдку данясецца з цемры звонкае конскае ржанне. І зноў ціха. Толькі песня некаму жаліцца, у ёй сум і гнеў, быццам расказвае аб глыбокім, нявыплаканым сялянскім горы. Ля вогнішча, гледзячы ў неба, ляжыць на спіне задумлівы Салавей. Ля яго прытуліўся Ларык, ён глядзіць у агонь, падпёршы падбародак далонямі. Старанна выграбае дзед Цімох печаную бульбу з попелу. Узяў адну гарачую бульбіну і, апякаючыся, перакідвае яе з далоні ў далонь.

— Мужыкі! Бульба спяклася! Ешце, — гасцінна запрашае Цімох усіх, хто сядзіць ля вогнішча.

Адна за адной пацягнуліся рукі за дымнай пахучай бульбай. Толькі Алесь нават не варухнуўся.

— Які ў ёй смак без солі? Во каб прысаліць, — сумна сказаў Максім, беручы бульбіну.

— Трэба нам, мусіць, дзеда Цімоха зноў апрадзяліць у дэлегаты, каб ён солі ў Балаховіча папрасіў, — каварна заўважыў Ларык.

Пырснуў ад смеху нехта з начлежнікаў. Нахмурыўся дзед Цімох, папярэдзіў:

— Яшчэ раз такое скажаш — кепска табе будзе.

Зарагатаў Ларык. Злосна і пакрыўджана сплюнуў дзед Цімох.

— Дурань!.. Смешна яму… Каб табе етак усыпалі па срацы, не да смеху было б.

— Завошта мне сыпаць? Я ж не дэлегат, — з’едліва і неяк бязвінна адказаў хітры Ларык.

Адвярнуўся ад яго дзед Цімох, зусім пакрыўджаны, і змоўк.

Ціха даносіцца песня ад другога вогнішча, раскладзенага на тым жа беразе. Раптам пачуўся тупат конскіх капытоў і нейчы голас з цемры:

— Гэй, мужыкі! Канчай начлег! Дахаты пара!

Коннік спыніў каня ля вогнішча і саскочыў ледзь не ў самы агонь.

— Стараста загадаў, каб зараз жа ўсе былі ў вёсцы. Раніцай у падводы трэба ехаць з войскам… з карнікамі.

Закрычалі ўсе, загаманілі, скупіўшыся ля вогнішча.

— Якой яму трасцы трэба, етаму старасту?

— Самая праца цяперака! Сена трэба касіць! Дзень год корміць, а ён у падводы гоніць…

— Не паедзем! — крыкнуў Архіп. — Не паедзем, і ўсё!

— І без таго коні ледзь жывыя…

Ахоплены гневам, махаючы рукамі, закрычаў і Ларык:

— Слухайце, мужыкі! Пагонім коней у пушчу! Чорта лысага яны нас там знойдуць!

— Правільна!.. У пушчу!

— Не, хлопцы!.. Паслухайце, што я вам скажу, — аўтарытэтна запярэчыў Алесь Салавей. — Па-мойму, трэба ехаць.

—А мы не паедзем! — зароў Ларык.

Алесь яшчэ раз паспрабаваў загаварыць, але раз’юшаны Ларык так закрычаў, што заглушыў яго словы.

— У пушчу пагонім коней! У пушчу! Не будзем етых чарцей вазіць!

Калі Ларык выкрычаўся, тады ўжо важка і цвёрда сказаў аднасяльчанам Салавей:

— Не слухайце Ларыка, мужыкі! Хлапец ён добры, але малады і гарачы. Вось што я вам скажу. Загібелькі, Прытыкі, Зарэчча, Тамашэвічы[30] паедуць, а мы — у пушчу?.. Спаляць балахоўцы Карпілаўку, ушчэнт спаляць! Трэба ехаць, а там… там будзе відаць.

— Ета праўда… — цяжка ўздыхнуў дзед Цімох і пачухаў патыліцу. — Пайду пашукаю сваю кабылку.

— Я, мабыць, таксама пайду? — запытліва зірнуў на Алеся Архіп.

Алесь кіўнуў. Неахвотна, адзін за адным пацягнуліся і астатнія начлежнікі па сваіх коней. Хвілін праз дваццаць ехалі ўсе моўчкі і панура па вузкай палявой дарозе.

Край неба на ўсходзе пабялеў. Пачынаўся світанак.

Міма смалакурні Максіма Ляўкова па лясной дарозе рушыць балахоўскі атрад. На прагалінах і ў рэдкім хмызняку мільгаюць конныя дазоры. Яны, як цені, то ўзнікаюць, то зноў хаваюцца ў густых зарасніках пушчы. Наперадзе спакойным крокам

праходзіць конны эскадрон, а за ім на дыстанцыі аднаго каня цягнуцца трохдзюймовыя гарматы. Адна, другая, трэцяя… За паўбатарэяй крочаць стомленыя, упараныя коні, з натугай цягнуць яны зарадныя скрыні. Доўгай гадзюкай выгінаецца, паўзе сялянскі абоз. Падводы абознікаў нагружаны рознай вайсковай амуніцыяй. Вось праехаў Архіп, а за ім пануры Антось, той самы хлопец, які ў Балаховіча дзесяціну прасіў. Мільгаюць знаёмыя і незнаёмыя твары абознікаў. Ззаду ўсіх плятуцца коні дзеда Цімоха і Салаўя. Пранізліва вішчыць нязмазаная вось у драбінах Алеся. Далёка разносіцца надакучлівае рыпенне вазоў. Крочыць побач са сваім канём Алесь, калі-нікалі пазірае на двух балахоўцаў, якія ляжаць у яго драбінах. І вось, калі параўняліся яны са смалакурняй, спыніў Алесь каня і звярнуўся да балахоўцаў з просьбай:

— Дазвольце, калі ласка, збегаць да смалакурні дзёгцю набраць. Перагарыць, ператрэцца вось у дарозе… Як паедзем?

Пераглянуліся незадаволена салдаты, адзін неахвотна прабурчаў:

— Ідзі ды хутчэй, каб не адстаць нам ад усіх, — і павёў насцярожаным позіркам па лясным гушчары.

Бяжыць Алесь да смалакурні Ляўкова. Адчыніў дзверы ў хату і знік.

Гаспадар быў дома. На размовы часу не было. Спехам запіхвае Алесь за пояс пад кашулю нейкі плоскі скрутак, што даў яму Максім. Зашпіліў пінжак і хуценька шэпча:

— У Касорычах Драпеза[31]… шэсцьдзесят тры чалавекі… вінтовак дзевятнаццаць, а набояў няма.

— На тым тыдні будуць, — шэпча ў адказ Максім і паказвае Алесю на пінжак. — Зацягні тужэй пояс… Выпірае… Глядзі, каб не заўважылі.

— За Рудабелкай, — зноў шэпча Алесь, — Малаковіч[32] са сваімі хлопцамі. Сто дзесяць чалавек. Ёсць вінтоўкі, адзін кулямёт, толькі стужак няма…

На ганку пачуліся цяжкія крокі. Шарахнуўся Алесь да пасудніка на сцяне, зароў на ўсю глотку:

— Дзёгцю табе шкада? — крычыць ён на Максіма. — У мяне вось перагарае!.. Разумееш?

У пакой уваліліся два балахоўцы з падводы Алеся. Яны бачаць, як злуе іх align возьнік, вось-вось кінецца біць смалакура.

— А куды я табе яго налью? У жменю? — адбіваецца Максім. — Давай якую-небудзь пляшку альбо бляшанку. Мне дзёгцю не шкада.

— А і сквапны ж ты, гаспадар, — умяшаўся адзін балаховец. Ён рашуча падышоў да паліцы, зняў збан і падае яго Алесю. — Трымай! — І загадаў Максіму, адчаканіўшы кожнае слова: — Налі яму дзёгцю! Жыва!

Паспешна, нібы спалохаўшыся нечага, Алесь і Максім выходзяць з хаты па дзёгаць.

Тым часам другі салдат падышоў да люстэрка, што вісела на сцяне, зірнуў у яго — і няўцямна вылупіў вочы. З люстэрка, счарнелага і аблупленага ад старасці, на яго глядзела зверападобная пыса. Здзіўлены салдат павярнуўся да свайго таварыша і спытаўся:

— Зірні, Міхась. Няўжо гэта я? — тыцнуў ён пальцам у люстра.

Той засмяяўся і адказаў:

— Як дзве кроплі вады. У люстэрку нават прыгажэй.

Зноў, як той бык, утаропіўся салдат на свой адбітак у шкле. Пацiснуў у роспачы плячыма, папляваў на далоні, прыгладзіў чупрыну і толькі тады зняў з пляча вінтоўку, каб шарахнуць прыкладам па люстэрку. Бразнула разбітае шкло, разляцеліся ва ўсе бакі асколкі, усыпалі падлогу бліскучымі плямкамі. Убег у пакой устрывожаны Максім.

— Што здарылася?

— Люстэрка ў цябе, гаспадар, дрэнь. Паклёп на салдата беларускага войска наводзіць, — спакойна і нахабна растлумачыў пакрыўджаны люстэркам балаховец.

— А боты ў цябе, гаспадар, добрыя, — заўважыў другі балаховец. — Пазыч, бо мае ўжо зусім парваліся. — І ў доказ сваіх слоў ён высунуў уперад нагу ў падраным боце.

Разгубіўся Максім.

— А як жа я? У чым я хадзіць буду?

— Ты? — нядобра ўсміхнуўся балаховец. — Ты і ў лапцях пакрасуешся. Ды яшчэ ў якіх! У ліпавых! Тутака, у вашай пушчы, ліпы хапае.

Разгублена топчацца на месцы Максім. А балаховец, не спяшаючыся, зняў з пляча вінтоўку. Загадаў:

— Скідавай боты, пакуль сам з іх не вываліўся. Ды хутчэй!

Здымае Максім з нагі свой бот. Знімае і салдат свой, падраны, а замест яго нацягвае Максімаў. Але так і не надзеўшы, адставіў яго ўбок. Твар у салдата засмучаны.

— Цесныя, халера… Шкада.

Зноў нацягнуў ён свой дзіравы бот. Максім з палёгкай уздыхнуў. Абыякава зірнуў на яго балаховец і сказаў:

— Чаму другі не скідаеш? Скідавай, скідавай! Не саромся! Навошта табе адзін бот? — дадаў ён з’едліва.

Зняў Максім і другі. Сарваў салдат фіранку з акна, старанна загарнуў у яе боты Максіма і сунуў іх сабе пад паху.

— Дзякую, гаспадар. Надта ж ты шчодры чалавек, — з нахабнай ухмылкай «аддзякаваў» марадзёр. — Пасля вайны разлічымся.

Абодва салдаты выйшлі з пакоя. Панура глядзіць ім услед Максім. Вусны яго ціха, але выразна шэпчуць:

— Разлічымся… яшчэ як разлічымся!

Марудліва, з рыпеннем і грукатам паўзе міма смалакурні абоз…

Ад пушчы да маленькай вёсачкі шырокай, разгорнутай лавай скача балахоўскі эскадрон. Палахліва хаваюцца жыхары вёскі па хатах. Некаторыя насцярожана выглядаюць з-за вугла павеці альбо хаты, апасліва разглядаюць коннікаў. Шчыльным кольцам акружылі балахоўцы лясную вёсачку. Падае каманду вахмістр:

— Стой!.. Распрагай!..

Выпрагаюць абознікі коней. Суне дзед Цімох сваёй кабылцы лусту хлеба.

Выстраілася на вуліцы паўроты балахоўцаў, невядома адкуль набраных разнашэрсных людзей. Падае каманду «смірна» палкоўнік Паўлоўскі[33] — і ўсе замерлі.

— Из деревни никого не выпускать, даже детей!— зноў гучыць яго каманда.

Галопам паскакаў ад’ютант выконваць загад. Рассыпаліся балахоўцы па дварах, па хатах,ператрасаюць сялянскія пажыткі. Ідзе павальны вобыск і адкрыты грабеж. Загаласілі бабы, плача напалоханая дзятва, як ашалелыя, брэшуць сабакі, і недзе на задах пранізліва вішчыць парсючок: мусіць, трапіў пад нож.

Цягнуць з двара раззлаваныя балахоўцы хлапца гадоў семнаццаці з акрываўленым, разбітым тварам. Падае ніц на калені пажылая сялянка. Заліваецца горкімі слязьмі, намагаючыся абняць рукамі бот балахоўца. Просіць няшчасная маці:

— Пашкадуйце, людзі добрыя… злітуйцеся!.. Па глупству ета ён… дзіця яшчэ неразумнае…

Азвярэла пхнуў жанчыну ў грудзі балаховец. Забілася маці на зямлі ў горы і роспачы, нават не адчуваючы болю.

— А дзіцятка ты маё роднае!.. Гаротнічак мой любы!..

Прыцягнулі балахоўцы юнака да палкоўніка, дакладваюць:

— Абрэз знайшлі.

Падае адзін салдат палкоўніку Паўлоўскаму абрэз. Акінуў той юнака позіркам, поўным нянавісці, і працадзіў скрозь зубы:

— Хорош голубчик!

Дзед Цімох, які назіраў за гэтай сцэнай, цяжка ўздыхнуў і напаўголаса прамармытаў:

— Прапаў хлапец… Ох-хо-хо-о-о!

Хуткім позіркам акінуў дзеда Цімоха Алесь Салавей, які стаяў побач. Пацёпаўся стары ад гэтага позірку і прыкусіў язык. З крайняга двара раздаўся крык:

— Пане палкоўнік! Калі ласка, сюды!

Кінуўся Паўлоўскі на двор, увайшоў у хату і бачыць: стаіць пасярэдзіне пакоя селянін гадоў пад трыццаць шэсць, абкружаны балахоўцамі, а на стале ляжаць некалькі дыскаў ад ручнога кулямёта, набітых патронамі.

— Фамилия? — кінуў арыштаванаму палкоўнік. З нянавісцю глянуў у вочы палкоўніку селянін і нічога не адказаў, адвярнуўся. Як шалёны, рвануўся да яго Паўлоўскі, зароў:

— Пулемет, пулемет где?.. Где пулемет?!

Не звяртаючы ўвагі на палкоўніка, нахіліўся селянін да хлапчука год дзесяці, дрыготкім голасам вымавіў:

— Прашчай, Юрка… прашчай, сынок!

Абхапіла хлапчанё бацькаву шыю, прыгарнулася да яго.

— Татка… татачка… родненькі!

Заскрыгатаў зубамі ад злосці Паўлоўскі і завішчаў як недарэзаны парсюк:

— Прочь!.. Прочь!

Узмахнуў стэкам і выцяў хлопчыка па кволых плечыках. Жаласна і спалохана закрычала дзіця, заліўшыся слязьмі. Як паранены звер, зарычаў селянін і накінуўся на Паўлоўскага, падмяў яго пад сябе. Бульдогамі павіслі на селяніне балахоўцы, але той так рвануўся, што разляцеліся ў розныя бакі салдаты. З грукатам перакуліўся стол, зазвінелі шыбы… Грымнуў стрэл — упаў селянін галавой да парога. Забіўшыся ў куток, напалоханы палкоўнік пасылае ўжо ў мёртвага селяніна кулі адну за адной. Кончылася абойма. Суха шчоўкае пісталет раз, другі, трэці. Толькі цяпер ачомаўся Паўлоўскі і падае каманду:

— Сжечь хату!

Балахоўцы выцягваюць забітага на вуліцу.

А па ўсёй вёсцы разносіцца лямант, крык, плач, нема галосяць жанчыны. Шныраюць па хатах балахоўцы. Брэшуць, рвуцца

з прывязі сабакі. І здаецца, што ўся вёска, усе хаты стогнуць і плачуць у няўцешным горы, і ён, гэты плач, журботны і жудасны, нясецца далёка-далёка і ляціць аж да самых нябёс… Самотна глядзяць у неба калодзежныя жураўлі, быццам просячы літасці.

Жудасная, страшная ноч апускаецца на лясную гаротніцу-вёску.

Бледны світанак. Ледзь дыміцца згаслае вогнішча. Спяць стомленыя абознікі. Спіць і вартавы балаховец, прыхіліўшыся спінай да кола падводы. Рэзкі гук трубы разнёсся ў ранішнім паветры. Трубіць гарніст пад'ём і збор.

— Та-ра-та-ра-та-а-а!..

Рэхам пакаціўся сігнал па гулкай пушчы. Заварушыўся, загудзеў лагер абознікаў. Мітусяцца сяляне, запрагаючы коней. З хат, адрын выбягаюць напаўсонныя балахоўцы. Тоўпяцца яны і сяляне купкамі ля варотаў, платоў — чытаюць газету «Звязда», расклееную на самых відных месцах. Выязджае з двара на сваім кані палкоўнік Паўлоўскі. Заклапочана і трывожна рапартуе яму вахмістр:

— Так што дазвольце далажыць, пане палкоўнік, газеты па дзярэўні расклеены!

— Что? — няўцямна ўтаропіўся палкоўнік на вахмістра. — Какие газеты?

— Бальшавіцкая «Звязда»! — адчаканіў вахмістр.

Акінуў Паўлоўскі позіркам вуліцу, убачыў салдат, якія стоўпіліся ля расклееных газет, і быццам выбухам вынесла яго разам з канём на сярэдзіну вуліцы.

— Постро-оиться-а-а-а!.. — зароў як не сваім голасам.

Бягуць балахоўцы строіцца. Спяшаюцца і абознікі да сваіх вазоў.

— Взводные командиры, ко мне! — зноў падае каманду палкоўнік.

Спешна падбягаюць да яго ўзводныя.

— Сейчас же выступать! Выслать вперед разведку и конные разъезды в дозоры по флангам! Запретить солдатам читать эту дрянь! Оставить двух взводных посрывать все газеты! — аддае загады палкоўнік.

Моўчкі казырнулі ўзводныя, кінуліся выконваць загады.

І зноў рыпяць калёсы, абоз пасунуўся далей. Але не паспеў ён выехаць з вёскі, як загучала новая каманда:

— Сто-о-о-ой!

Гэта крычаў вахмістр. Спыніўся абоз. Падлятае на кані вахмістр да Паўлоўскага, дакладвае:

— Восем абознікаў уцяклі з коньмі, падводамі і набоямі!

Паімчаўся да абозу Паўлоўскі, убачыў на зямлі зваленую ў кучу амуніцыю і накінуўся на вахмістра:

— Ты куда смотрел, болван?! Расстррреляю!

Лыпае вачыма вахмістр, не ведае, што сказаць у сваё апраўданне.

— Погрузить имущество на другие подводы! — зноў распарадзіўся Паўлоўскі.

Неахвотна прыняліся за работу абознікі. Нервуецца палкоўнік, крычыць, выкаціўшы азвярэлыя зрэнкі:

— Вахмистр! Возьми с собой полусотню и сейчас же отправляйся в погоню! Не вернешь беглецов — отдам под суд!

Моўчкі адказырнуў вахмістр і як віхор паімчаўся па вуліцы.

— А вы… поворачивайтесь живее! — крычыць на абознікаў Паўлоўскі. — И помните: за малейшую попытку к бегству буду расстреливать на месте! Сбежавших сегодня же поймают и расстреляют на ваших глазах.

— Шукай ветру ў полі, — ціха прамармытаў дзед Цімох.

— Ты что там бубнишь, старый черт? — грозна спытаў Цімоха палкоўнік.

— Я кажу, пане палкоўнік, што ета… нядобра зрабілі тыя, хто ўцёк. Цяперака нам прыйдзецца коней сваіх надрываць, груз залішні вазіць… а нашы коні і без таго ледзь жывыя.

— То-то, — буркнуў Паўлоўскі, недаверліва пазіраючы на Цімоха.

Пасунуўся ўслед за атрадам абоз. Рыссю паімчаўся Паўлоўскі ў галаву атрада.

А па вясковай вуліцы мітусяцца ўзводныя, зрываючы газеты са сцен і загарод. Густымі барвова-чорнымі клубамі ўзнімаецца дым над хатамі. Гарыць падпаленая балахоўцамі вёска. Праводзяць «карнікаў-пераможцаў» галашэнне жанчын, плач дзяцей, праклёны дзядоў і трэск палаючых хат.

Паволі ўпаўзае абоз у цёмную, непрыветную пушчу.

Поўдзень. Рыпяць падводы па глухой лясной дарозе. Хрыпла дыхае кабылка дзеда Цімоха, цягнучы воз з апошніх сіл. Ззаду глуха тупае капытамі конь Алеся. Цімох і Алесь пахмурныя крочаць побач. Змахнуў рукавом з твару пот, жаліцца дзед Цімох:

— Здароўе маё ўжо не тое… Старасць. Як прайду вярстоў сорак, дык нешта і ногі млеюць, і спіну ломіць…

— А ты сеў бы на воз ды паехаў, — параіў Алесь.

— Кабылку шкада, — уздыхае дзед. — Старэнькая ды слабенькая. Я ж яе з маленства выгадаваў… Не сяду. Ёй і так цяжка… ледзьве цягне, гаротная.

— Сядай на мой воз, — прапанаваў Алесь.

— Добры інтэрас! Ты будзеш пехам перці, а я на тваім вазу сядзець, як пан. — І, асцярожна азірнуўшыся па баках, горача зашаптаў Алесю дзед: — Уцяку… дальбог, уцяку! Ну яго к чорту!.. Каб я з етымі душагубамі ездзіў? Не! І кабылку сваю кіну, а ўцяку.

— Хату спаляць, а самога шомпаламі засякуць. А мо і заб'юць, — папярэдзіў Алесь, уважліва зірнуўшы на дзеда, зацікаўлены яго словамі і яго пераменай.

Цяжка ўздыхнуў стары. Доўга крочаць яны моўчкі, кожны думае аб нечым сваім. З хрыпам і свістам дыхае Цімохава каняжына, цяжка паводзячы запалымі бакамі. Рыпяць аднастайна не змазаныя восі вазоў.

Парушыў маўчанне Алесь, загаварыў асцярожна і нават трошкі лісліва:

— Во каб нашы коні падохлі ці ў дрыгву трапілі… тады б адпусцілі нас, і нават паперку звальніцельную далі б… — сказаў і дапытліва, хітравата зірнуў на Цімоха.

А той ажно рот раскрыў ад здзіўлення, спыніўся нават.

— Глядзі-тка, што надумаў!.. А і праўда, сынок. Усё роўна кабылка мая здохне… — сказаў і з вялікай павагай паглядзеў дзед Цімох на Алеся.

— А свайго каня як?

— І свайго, — ціха адказаў Алесь.

Зноў ідуць моўчкі. Відаць, як наперадзе выгінаецца доўгай, бясконцай стужкай абоз на дарозе. Параўняўся з імі Ларык, пакрочыў побач.

— І калі скончыцца ета катарга? — злосна і гучна выкрыкнуў ён. — Замардуюць і нас і коней.

Моўчкі крочаць Цімох і Алесь.

— Алесь! — паклікаў Ларык.

— Ну?

— Парай, што рабіць? — раптам ціха і па-змоўніцку загаварыў Ларык. — Надумаў я ўцякаць… як тыя, што ноччу ўцяклі. Зусім уцячы… у пушчу.

— Твая справа. У кожнага свая галава на плячах, — спакойна і абыякава азваўся Алесь.

Не адразу загаварыў Ларык пасля гэтых слоў.

— Слухай, Алесь… Чаму ты такі?.. ну, такі… — Ларык не мог падабраць патрэбнае слова. — Дзіўны нейкі. Свае мы з табой, здаецца, а пачнем гаварыць, дык як чужыя…

— Бацька мой быў надта разгаворлівы… і дагаварыўся, — коратка і неахвотна адказаў Алесь.

— Пры чым тут бацька? — насцярожыўся Ларык.

— Ды так… прыгадалася нешта, — уздыхнуўшы, заўважыў Алесь.

— Куды цябе халера панесла! — раптам зароў на свайго каня Ларык і пабег да воза.

Моўчкі крочаць Алесь і Цімох. Па лясным балоце, па слані цягнецца абоз. Хлюпае вада пад конскімі капытамі і коламі, пад нагамі вознікаў. Пагрозліва калышацца і трашчыць пад вазамі загадзя насланае галлё. Ледзьве цягнуць цяжка нагружаныя коні. Ім дапамагаюць людзі, падпіхваючы плячамі і грудзямі вазы.

А калі настала ноч і абоз спыніўся на начлег, далёка па прыбалотнай паляне разышліся коні; стомленыя, яны скубуць сакавітую траву. У прыцемках, асцярожна азіраючыся па баках, падганяюць да балота сваіх коней Алесь і дзед Цімох.

— Тут, — ціха сказаў Алесь, паказаўшы на чорную твань.

Разгублена замітусіўся ля сваёй кабылкі дзед Цімох. Узяў доўгі прут і ціхенька стаў паганяць бедалагу ў цьмяную твань.

— Н-но-о-о!.. — панукае ён дрыготкім голасам.

Рванулася кабылка, але раптам Цімох спалохана закрычаў:

— Тр-р-р!.. Тр-р-р!..

Спынілася каняжына. Падышоў дзед Цімох да яе, прытуліўся шчакой да цёплай морды, адчуў, як слёзы пакаціліся з яго вачэй. Пастаяў ён так, горка ўздыхнуў і зноў махнуў доўгім прутам. Але толькі кабылка зрабіла крок, як у той жа момант з вуснаў Цімоха зноў сарвалася жаласнае:

— Тр-р-р-р!..

Павярнуўся ў роспачы Цімох да Алеся, вінавата і ціха сказаў:

— Не магу… З маленства яе гадаваў, з жарабяці… Гані ты.

Выраўняў Алесь побач з кабылкай свайго каня, пяшчотна паляпаў на развітанне і строга сказаў:

— Но-о!

Рвануліся коні наперад — мякка і ўчэпіста прыняла іх дрыгва. Спалохана заржалі коні. Немым голасам закрычалі Алесь і Цімох:

— Ратуйце, людзі!.. Ратуйце!

Збегліся абознікі і салдаты… але было позна. Паволі знікаюць конскія галовы ў балотным зыбе. Выцірае шчырыя слёзы дзед Цімох. Маўчыць Алесь. Панура глядзяць абознікі.

А раніцай стаялі перад палкоўнікам Паўлоўскім Алесь і дзед Цімох, трымаючы ў руках свае картузы. Падае ім паперы палкоўнік і кажа:

— Вот вам увольнительные. Без лошадей вы мне не нужны.

Нізка пакланіўся палкоўніку дзед Цімох і просіць:

— Пане палкоўнік! Трэба ж ета… хоць што-небудзь за кабылку заплаціць… Я ж цяперака без каня зусім прападу. А ладная кабылка была… І ўсе зубы цэлыя.

Насупіўся палкоўнік.

— Денег у меня нет. Могу дать записку. Пойдешь в волость, в штаб Болоховича — там тебе заплатят.

Аж галаву ўцяў у плечы дзед Цімох і паспешна сказаў:

— А мо не варта, пане палкоўнік? Старая кабылка была, зусім старая… Што за яе дадуць?

— Ну, как хочешь, — абыякава заўважыў Паўлоўскі.

Пасунуліся па лясной сцежцы Алесь і Цімох у дарогу назад. З цяжкасцю прадзіраюцца яны скрозь лясныя чашчобы, скарачаючы шлях. А сонца ўсё вышэй і вышэй.

Шуміць, гамоніць векавая пушча. Шамаціць лістотай, звініць птушынымі галасамі. Меладычна і сумна куваюць зязюлі, пяшчотнымі флейтамі адгукаюцца івалгі, дзелавіта, пагаспадарску перастукваюцца дзятлы. Калі-нікалі ў птушыны аркестр уразаецца пранізлівы крык жаўны — «тры-тры-тры»… і замрэ, заціхне ў густых, непраходных нетрах.

Скрозь пераплеценую калючую ажыну прадзіраюцца Алесь і Цімох. Але вось і бераг роднай Пцічы. Спыніліся спадарожнікі, залюбаваліся цудоўным краявідам родных мясцін. Неабсяжным стракатым дываном раскінуліся квітнеючыя лугі. Падзьмуў ветрык — закалыхаліся зялёнымі хвалямі травы, усыпаныя яркімі кветкамі.

— Як хораша! — з палёгкай выдыхнуў дзед Цімох. — Давай пасядзім тут крыху… стаміўся я.

Моўчкі ўсеўся Алесь на паваленае дрэва, закурыў. Прытуліўся ля яго і дзед Цімох. Задумаліся абодва, адпачываюць. А навокал, у парэчніку, якім парос бераг, над лугамі, над рачной вадой — грыміць салаўіны спеў. Цэлым хорам спяваюць птушкі. Неяк таямніча ўсміхнуўся дзед Цімох, паглядзеў на Алеся і кажа:

— Чуеш, як сваякі твае заліваюцца?

— Якія сваякі? — не зразумеўшы, здзіўлена запытаў Алесь.

— Салаўі, — з той жа таямнічай усмешкай паясніў Цімох. — Во… чуеш?.. Бач ты!.. як выводзіць… аж за сэрца хапае.

Як зачараваныя слухаюць мужыкі цёхканне салаўёў, слухаюць, як цудоўную музыку — у ёй шчырасць, каханне, яна як гімн той прыгажосці, якая раптоўна адкрылася вачам спадарожнікаў, як крыніца, з якой п'юць, каб прагнаць смагу.

— Бацька твой, Раман, надта ж добра спяваў, — парушыў маўчанне Цімох. — Людзі казалі, што ён птушыную мову разумеў. Таму і наракле яго Салаўём.

— Глупства… выдумка гэта, — задумліва кінуў Алесь.

— Э-э-э… не скажы! — запярэчыў Цімох. — Дыму без агню не бывае. Я і сам хацеў у яго навучыцца, ды на вуха тугі, не здолеў етай навукі. Вельмі ж яна мудрагелістая, далікатная, мова етая, птушыная. Во!.. Паслухай!

Зноў слухаюць мужыкі, стары і малады, трапяткія салаўіныя пералівы.

— Бач ты… бач, як цёхкае, — у захапленні кажа Цімох. — А каб цябе!.. Пра што ён пяе, разумееш? — пытае ў Алеся.

Адмоўна пакруціў галавой Алесь. Ускочыў раптам дзед на ногі і кажа:

— Слухай!

Склаў Цімох губы трубачкай, як для пацалунка, і тоненькім фальцэтам праспяваў:

Пі-ліп… Пі-ліп… Пі-ліп! (Павольна.)
Цярэнці… Цярэнці… Цярэнці! (Хутчэй.)
Баба спіць… спіць… спіць! (Часта.)
Хр-р-р-р-р-р-р-р-р-р-р-р-р-р! (Як россып.)

Шчыра смяецца Алесь і, ляпнуўшы Цімоха па плячы, кажа:

— Ну і фокуснік ты, дзед!

— Хвокуснік? — ускрыкнуў Цімох. — Ета бацька твой быў хвокуснік. Каб ён жывы быў, дык ён бы табе ўсю птушыную мову растлумачыў. А я… толькі етак магу.

— Каб жывы быў… — задумліва і строга вымавіў Алесь.

— Такога чалавека забілі… душагубы, — з болем вырвалася ў Цімоха.

Зноў памаўчалі абодва.

— Скажы мне, дзед, хто мог яго прадаць? Хто?.. Як патвойму?

У роспачы развёў рукамі дзед.

— А ліха яго ведае… Каб мы ведалі хто, дык даўно б яго костачкі ў зямлі згнілі.

— У мяне ёсць думка, што нехта з радні, — хмурна заўважыў Алесь.

— Якая ў цябе радня! — запярэчыў Цімох. — Маці ніколі не прадасць, хоць на кавалкі яе рэж. Марына? І думаць не магі! Яна — камень! А болей у цябе і няма нікога. Якая ж у цябе радня? Адзін толькі Ларык застаўся. Швагер твой. Дык ці ж ета радня? Чужы чалавек.

— Ну што ж, дзед. Адпачылі — пойдзем далей. Трэба спяшацца.

Падняліся яны і пайшлі. Ідуць берагам Пцічы. Глянуў дзед на неабсяжныя прасторы, на квяцістыя лугі і ўздыхнуў.

— Ета ж сена колькі будзе, ай-я-ай!.. Касіць — не перакасіць. Ды мне навошта?.. Кабылкі няма, — жаласлівыя ноткі прагучалі ў голасе Цімоха. — Мне бы стрэльбу добрую ды набояў паболей, я б з етымі душагубамі за кабылку маю, за шомпалы і за ўсё жыццё наша горкае разлічыўся.

Дзве мужчынскія постаці, старога і маладзейшага, знікаюць у прыбярэжных кустах.

Змярканне. Глыбокі лясны яр. Над крутым абрывам навіс махнаты ельнік. На дне яру звініць ручай. Пад вялікім камлём паваленага непагодай дрэва размясцілася чалавек дваццаць сялян. Сярод іх уцекачы-абознікі. Побач у густым хмызняку стаяць драбіны. Недалёка пасвяцца коні.

— Гляньце, мужыкі… коні! — трывожна крыкнуў адзін з сялян, ускокваючы на ногі.

Падхапіліся ўсе мужыкі. Спуджана фыркаюць коні, стрыножаныя, цяжкімі скачкамі збіваюцца яны ў круг галовамі ў сярэдзіну, дзе пужліва кідаецца малое жарабя. Бягуць да коней абознікі.

— Пэўна, воўк блізка ходзіць, — сказаў селянін, азіраючыся па баках. — Трэба вогнішча паболей раскласці… не падыдзе.

Малады кучаравы хлопец, у якім можна пазнаць Антося, кідае ў касцёр ахапкі сухога ламачча. Залатой мяцеліцай закружыліся іскры. Слуп агню шугануў у неба. І толькі пачалі сяляне лацвей рассядацца пад вываратнем, як пачуўся шорах і зверху пакаціліся каменьчыкі, пасыпаўся пясок. Насцярожана ўглядаюцца людзі ў цемрадзь пушчы.

— Здарова, мужыкі! — загучэў вясёлы голас над ярам.

Паўскоквалі сяляне, глядзяць: па крутаяры спускаюцца да іх Алесь Салавей з дзедам Цімохам.

— Прывітанне вам ад пана палкоўніка! — жартаўліва ўсміхаецца Алесь. — Казаў, што, калі каго зловіць, абавязкова расстраляе.

Панура ўсміхаюцца сяляне, пытаюцца:

— А вы як уцяклі?

— Ніяк!.. Мы і не ўцякалі! — хітравата прыжмурыў вочы Алесь. — Пан палкоўнік нас з пасады зняў. Коні нашы незнарок у дрыгву трапілі, а без коней мы войску панскаму не патрэбны. Вось і звольнілі нас з Цімохам, каб харчы дарма не елі.

— Шкада кабылкі, — уздыхнуў Цімох. — Бадай усе зубы цэлыя былі.

— Сядайце! — шырокім жэстам рукі запрасіў Алесь сялян. — Памяркуем пра нашы справы.

Моўчкі агледзеў Алесь таварышаў, нібы падлічваючы ўсіх, і пачаў размову:

— У партызаны мы падаліся, а зброі ў нас пакуль што мала.

— Вось табе і яно!.. Я дома яшчэ казаў пра гэта Архіпу. Якія мы партызаны без зброі? — сумна зазначыў Антось.

— Не сумуй, Антось! Зброю дабудзем, — ляпнуў яго па плячы Архіп.

— У Балаховіча пазычым, — упэўнена кіўнуў галавой Алесь.

— Таксама як і набоі, — падтрымаў яго нехта.

— Пакуль пазычым, нас усіх пераб'юць, — з тым жа сумам прамармытаў Антось.

Алесь здзіўлена паглядзеў на хлопца і, звяртаючыся да Архіпа, спытаў:

— Ты дзе адкапаў такога ваяку?

— Малады яшчэ, — заступіўся за хлопца Архіп. — Не ўсё яшчэ зразумеў, але дай толькі яму стрэльбу ў рукі!..

І тут загаварыў Алесь, горача загаварыў, натхнёна:

— Слухайце, мужыкі! Мы сілком нікога ў партызаны не цягнем! Той, хто хоча зямлі, каму абрыдла працаваць на паноў ды на розных іншых дармаедаў, каму надакучыла жысць такая, павінен біцца за новае жыццё!.. Вольнае!.. Разумнае! Біцца зброяй, кулакамі, зубамі, чым давядзецца, але біцца! Упарта!.. Настойліва! Зразумелі?

— Каб не зразумелі, у пушчу б не пайшлі.

— Ты скажы, што далей рабіць?

— І скажу!.. Яшчэ да мяне сказалі! Разумнейшыя за нас людзі!

— Хто ета?.. Якія людзі?.. Што сказалі? — пасыпаліся пытанні.

— А вось паслухайце, — працягваў Алесь. — Толькі цішыні прашу!

Ён асцярожна выцягнуў з-за пазухі складзены ўдвая ліст паперы, які нагадваў шматок газеты, зачытаны да дзірак, і голасна, з хваляваннем пачаў чытаць:

— «Трэба рашучым чынам абяссіліць памешчыцкі і дваранскі клас. І на самай справе задаволіць надзённыя патрабаванні сялянства. Зямля да сённяшняга дня знаходзіцца ў руках памешчыкаў, што з’яўляецца вялікай небяспекай для рэвалюцыі. Трэба неадкладна адабраць усю зямлю ў памешчыкаў і перадаць у рукі сялянскіх саветаў…» Чулі? — пытае сялян Алесь, абводзячы ўсіх дапытлівым позіркам.

— Чулі, — за ўсіх адказаў Архіп. — Чытай далей.

Алесь чытае, і суровы голас яго гучыць у пушчы як набат, як прызыў да барацьбы, да бою.

— «Наша рэвалюцыя рабоча-сялянская. Таму ўся ўлада павінна належаць пралетарыяту і сялянству, іх паўнамоцным установам — Саветам рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў». Падпісана: «РСДРП(б), Мінск, 17 чэрвеня, 1917 года». Цяпер зразумелі, што трэба рабіць?

— Зразумелі!

— Ды яшчэ як!

— А мне не зразумела, — заявіў Антось. — Што ета за рэсэдэрэпэ?

— Эх і цёмная твая галава, — з дакорам сказаў адзін мужык. — Дык ета ж бальшавікі!

— Так бы і пісалі… Бальшавікі — гэтак ясней, — не здаваўся Антось.

— Самае галоўнае цяпер — здабыць зброю. А дзе здабыць і як, трэба падумаць. Хто хоча слова? — спытаў Алесь.

Адзін селянін расхінуў сваю світку, выцягнуў з-пад пояса два абрэзы і паклаў перад Алесем. У другога цьмяна бліскануў у руках нязграбны пісталет фірмы «Сміт і Весан». І пачалі сыпацца да ног Салаўя абрэзы, драбавікі-дубальтоўкі, бярданкі, вінтоўкі.

— Ну, вось і добра, — задаволена адзначыў Алесь. — Зараз трэба даць зброю тым, хто ўцёк з абозаў. Ім дахаты вяртацца

нельга. А тыя, хто астанецца без зброі, пойдуць у свае вёскі склікаць людзей да нас у атрад.

— Во цікавая справа! — расчаравана ўсклікнуў адзін з сялян. — Я павінен аддаць сваю зброю, а сам з пальца страляць?

І ён хуценька падхапіў з зямлі сваю бярданку. Як па камандзе, у адзін момант расхапалі партызаны сваю зброю. Аж пацямнеў твар у Алеся. Без крыку, але жорсткім голасам загадаў:

— Зброю пакласці на месца.

Загаманілі, закрычалі партызаны.

— Я вінтоўку з акопаў прынёс! Год хаваў, а цяперака аддавай?!

— Дзе ты дурня знайшоў, каб сваю зброю аддаць?

— Няхай самі здабудуць!

Зашумелі партызаны, намагаючыся перакрычаць адзін аднаго.

— Паслухайце, мужыкі!.. — крыкнуў Алесь.

— Няма чаго слухаць! — яшчэ грамчэй закрычалі сяляне.

Алесь яшчэ раз зрабіў намаганне загаварыць, але дарэмна, яму не далі. Тады ўскочыў Алесь на пень і загарлапаніў разам з усімі:

— Самі ў пушчу пойдзем!.. Дзе такога дурня знойдзеш, каб ружжо аддаць!.. З акопаў прынёс!.. Гэ-э-э!..

Збянтэжаныя партызаны ўраз змоўклі. Здзіўлена глядзяць яны на Салаўя. І калі стала зусім ціха, неяк шчыра, сардэчна загаварыў з людзьмі Алесь.

— Ну што?.. Накрычаліся?.. Дапамагло? Балаховіча разбілі? Паноў прагналі? Зямлю атрымалі? Адным словам — пераможцы, героі!

Вінавата апусцілі вочы партызаны і яшчэ больш уважліва пачалі слухаць Салаўя.

— Вось што, таварышы. Нам дысцыпліна патрэбна. Жорсткая, вайсковая. І калі пачалі слухаць мяне, дык слухайце! Зараз трэба ўзброіць тых, хто з абозу ўцёк. А астатнія пойдуць па сваіх вёсках і будуць збіраць надзейных людзей. Я з дзедам Цімохам кіруюся ў Карпілаўку. Сваім намеснікам астаўляю Данілу. Слухайце яго — ён ведае, што рабіць.

Панура, вельмі неахвотна здаюць партызаны сваю зброю Данілу.

— Даніла! Патроны прыхавай там, дзе дамовіліся, — аддае апошні загад Алесь. — Ну, бывайце здаровы!

Цёпла развітаўшыся з таварышамі, Алесь з дзедам Цімохам пакрочылі ўздоўж яру. Партызаны доўга глядзяць ім услед.

— А я думаў, што ён не прыйдзе, — выказаў думку Антось.

— Не такі ён чалавек, каб маніць, — адказаў Даніла. — Я і бацьку яго ведаў, старога Рамана, і ён такі ж быў… Бяры, Антось, вінтоўку і станавіся ў дазор. Я пакажу, дзе стаяць. Цябе зменіць Архіп.

Антось узяў вінтоўку. Даніла сунуў яму ў рукі абойму з патронамі.

— Пойдзем!

Абодва нырнулі ў хмызняк. Недзе ў нетрах пушчы глуха вухнуў пугач, і зноў стала ціха. Гусцее змрок. Коні купяцца бліжэй да вогнішча. Ноч навісла над ярам.

На парозе папоўскай кухні стаіць залітая слязьмі Наста. Побач з ёю, выцягнуўшыся ў струнку, «есць» папа вачыма бравы георгіеўскі кавалер Алесь Салавей. Разгублена перабіраючы ў пальцах звенні ланцужка наперснага крыжа, аднекваецца поп:

— Не, не магу, старая. Не магу. Муж твой ад споведзі адмовіўся.

Наста з плачам кінулася папу ў ногі:

— Айцец Паісій! Бацюшка!.. Душу хрысціянскую пашкадуй!.. Закапалі іх не па-людску, без пакаяння… як гавяду.

Алесь асцярожна паднімае маці і, зноў выцягнуўшыся ў струнку, салдацкім голасам чаканіць:

— З чатырнаццатага года на фронце! Паміласердствуйце! Не адкажыце ў просьбе георгіеўскаму кавалеру! Адслужыце імшу па-хрысціянску!

І, дастаўшы з кішэні некалькі крэдытак, ён паклаў іх на край стала. Поп адмоўна круціць галавой.

Усхліпваючы, Наста вымае з кішэні спадніцы насовачку, завязаную вузлом. Дрыготкімі рукамі развязвае — з хустачкі выкаціліся дзве залатыя пяцірублёўкі, са звонам падаюць на падлогу. Хуценька падняў іх Алесь і паклаў на край стала, да крэдытак.

— Бацюшка! Прымі адну залатоўку на храм божы, на царкву. А другую — вам, за труды вашы праведныя, — гаворыць Наста.

Айцец Паісій наблізіўся да старой і ціхамірна сказаў:

— Не плач, раба божая Наста! Толькі за радзі сэрца твайго богабаязнага змагу адслужыць імшу. Бог наш усеблаг, усема-

гушч і ўсеміласціў. Пахадайнічаю перад валасным начальствам і адслужу.

Звычным спрытным жэстам змахнуў айцец Паісій абедзве пяцёркі сабе на далонь. Жаласна дзынкнулі, патанулі яны недзе ў глыбіні неабсяжнай папоўскай кішэні.

— Ідзіце з мірам.

Пачціва казырнуўшы, Алесь лісліва просіць папа:

— І яшчэ просьба, бацюшка… каб з пеўчымі. За тое асобная плата.

— Добра! — поп згодна кіўнуў галавой. — Будуць і пеўчыя. І я, між іншым, мужычкам пропаведзь скажу на магіле: «Несць власці ашчэ не ад бога» і «Падняўшы меч ад меча і пагібне». Ідзіце з мірам.

Нізка кланяючыся папу, маці і сын выходзяць.

Надвячэрняе сонца чырвона-вогненным бляскам адбіваецца ў вокнах сялянскіх хат. Шырока па лагчыне раскінулася сяло Карпілаўка. Бялее над дахамі невысокая званіца карпілаўскай царквы. На выгане, ля старога, абпаленага маланкай дуба, згрудзіўся вялікі натоўп сялян. Пад дубам ляжыць гранітны валун-марэна, расколаты на дзве няроўныя палавіны. Пад большай — узвышаецца пагорак-магіла. На абломку вялікага каменя, як на гранітным абеліску, далёка відаць намаляваная сурыкам пяцікутная зорка і пад ёй надпіс: «Тут пахаваны абаронцы гаротнага беларускага сялянства: Максім Ус, Раман Салавей, Змітрок Корзун і Лявон Дзядуля[34]. Вечная памяць вам, браты».

Ідуць сяляне да магілы групамі і па адным. Дзяўчаты кладуць на магілу вянкі з палявых кветак. Сёй-той, усклаўшы вянок і зняўшы шапку, хрысціцца і адбівае нізкі паклон. Расце куча вянкоў, усё вышэй і вышэй магіла-пагорак герояў. Прыглушана галосяць жанчыны. У невыказнай журбе стаіць на каленях маці Алеся — Наста. Ціха ўздрыгваюць яе плечы. А людзі ўсё ідуць і ідуць. Алесь нахіліўся над маткай, асцярожна абдымае яе за плечы і кажа:

— Мама! Хопіць ужо. Разумею, горка… мне таксама… але што зробіш?

Паволі, цяжка падымаецца маці. З тугою ў вачах яна абводзіць позіркам вялікі натоўп людзей і пытае:

— А дзе ж бацюшка? Чаму ён не ідзе? Трэба ж па-людску…

— Прыйдзе, — адказвае Алесь. — Нідзе не дзенецца. А калі і не прыйдзе, без яго абыдземся.

— Як ета без яго! — трывожыцца Наста. — А хто ж імшу адслужыць?

— Максім Ляўкоў… смалакур. Глядзі, ён ужо служыць.

— Максім?.. — разгублена пытае маці.

Яна шукае вачыма смалакура, але ці знойдзеш яго адразу ў такім вялікім натоўпе? Але вось ён. Наста бачыць: стаіць Максім пасярод сялян і ўголас чытае… газету. Яго голас гучна грыміць над натоўпам:

— «…У Антося Рака балахоўцы дачку Стэфку згвалцілі, а дзяўчынцы ўсяго чатырнаццаць гадкоў. Хворая ляжыць, перапалоханая. Дзіцянё яшчэ…»

— Звяры!.. Нелюдзі!.. — рвецца голас з натоўпу.

— «…У Петрыка Крывулі з Новай Дубровы каня адабралі, а самога так збілі, што ледзьве жывы астаўся. Ахрэму Карчу вока выбілі і боты забралі…»

— Каб на іх пранцы[35], на етых злодзеяў!.. Што толькі з людзьмі робяць! — раз’юшана закрычала старая кабета.

— А ў мяне цялушку зарэзалі і куфар разбілі… усё да каліва вынялі… Каму скардзіцца? Каму пісаць? — жаліцца цётка Гапуля.

Пачуў яе словы Максім і кажа:

— Ужо напісана, цётка Гапуля, дасканальна напісана!

— Аво-ой! — дзівіцца тая, пляснуўшы рукамі. — А хто напісаў?.. Дзе?

— Тутака, у газеце. У «Звяздзе». Во паслухай! — І Максім выразна прачытаў: — «У вёсцы Кавалі ў сялянкі Гапулі Суніцы балахоўцы зарэзалі цялушку, разбілі куфар і парвалі сукенкі на анучы».

— І ні грошыка, ні капейкі не заплацілі… каб на іх трасца! — заплакала Гапуля. — Дзе ж праўда, людцы добрыя?

— У бацькі Балаховіча, — горка ўсміхнуўся Архіп. — Ідзі да яго жаліцца. Ён цябе сагрэе.

— Як Цімоха Ажойчыка, — кінуў нехта з’едліва з натоўпу. — Чытай, Максім! Гучней чытай!

— Поп ідзе! З пеўчымі і кадзіламі! — раптам празвінеў высокі малады голас.

— Далёка яшчэ. Пакуль дойдзе, можна чытаць. Давай, Максім, чытай!

— Э не! — запярэчыў Максім. — Поп нашу газету не любіць. А калі вам хочацца ўсё прачытаць, дык наце самі чытайце. Толькі хавайце газету, каб бяды не было.

Максім аддаў сваю газету старому пахмураму дзеду, які стаяў бліжэй за ўсіх. Затым выцягнуў з-пад кашулі яшчэ некалькі экзэмпляраў «Звязды», пачаў раздаваць людзям. Рванулася да Максіма цётка Гапуля.

— Добры інтэрас! Рудабельцы — газету, Карпілаўцы — газету, а чым Кавалі горшыя? Давай, давай і нам! Няхай і пра маю крыўду людзі прачытаюць!

— На і табе, — і Максім даў Гапулі дзве газеты.

— Дзякуй, Максім… ажно дзве даў! Адну мужыкі на раскурку расцягнуць, а другую не аддам… да самай смерці буду берагчы ету крыўду сваю… Глядзі ж ты! — дзівіцца кабета. — І пра мяне напісана… І адкуль газета пра мае пакуты ведае?

— Ціха! Поп ідзе!

— Бач ты! З усімі прычындаламі і клірам!

Расступіўся цесны натоўп — саступіў папу дарогу да магілы. Ідзе ён паволі, важна, пазіраючы на сялян насцярожанымі вачыма. Чорная жалобная рыза папа, напружаная цішыня, прыглушаныя ўсхліпванні жанчын — усё гэта маркотна і цяжка, як перад нейкай навалай. Падышоў поп да магілы, зірнуў на кучу вянкоў, на абломак валуна з зоркай і эпітафіяй, нахмурыўся і адрывіста і гнеўна спытаў у Алеся:

— А дзе крыж? Чаму няма крыжа?

— Няма і не будзе! — цвёрда адказаў Алесь. — Навошта ён мёртвым?.. Ды і жывым не патрэбен.

— А гэта патрэбна? — і абураны поп са злосцю тыцнуў на чырвоную зорку і эпітафію. — Без крыжа служыць не буду! Блюзнерства!

Рэзка павярнуўшыся, поп шпарка пакрочыў назад, у Карпілаўку. Расступіўся натоўп, даючы яму дарогу. Рванулася са слязьмі да папа Наста. Загаласілі і іншыя кабеты.

— Бацюшка! Пашкадуй душы хрысціянскія!..

Але поп на хаду толькі злосна агрызаўся. Спяшаецца за ім, дробненька перабіраючы нагамі, увесь яго клір, пеўчыя і дзячок. Густой шызай стужкай уецца за папом дым ладану, што курыцца з кадзілаў. Хмурнымі позіркамі праводзіць папа людскі натоўп.

Па-юнацку лёгка ўскочыў на валун Максім і крыкнуў:

— Людзі, вы чулі?

— Чулі! — глухім грозным рэхам адгукнуўся натоўп.

— Бачылі?

— Бачылі! — зноў пракатала ў адказ.

— Вось яна, праўда папоўская!.. Калі расстрэльвалі, поп крыжа не патрабаваў! Яны, нашы людзі, абаронцы гаротнага сялянства, адмовіліся перад смерцю ад споведзі! — грыміць голас Максіма. — Дык навошта ж мы будзем паганіць іх магілу? Самі адслужым імшу! Сваю! Шчырую! Чалавечную!

І, узвышаючыся на валуне над натоўпам сялян, Максім урачыста і грозна заспяваў:

Вы же-е-ертво-о-ою па-а-али-и в борьбе роковой,
В любви беззаве-етной к наро-о-о-оду.

Натоўп разнагалосна падхапіў жалобную песню:

Вы о-о-отдали все, что могли за него,
За жизнь его, че-есть и свобо-о-о-оду…

Спяваюць людзі гімн барацьбы, як малітву, як прысягу вернасці рэвалюцыі. Грозна гучыць ён над палямі, пералескамі… далёкім рэхам аддаючыся ў пушчы. І раптам у мелодыю журбы і гневу ўварваўся тупат конскіх капытоў. Галопам нясецца па выгане конны ўзвод балахоўцаў на чале з вахмістрам. Нехта спалохана і пранізліва закрычаў:

— Людзі-і-і-і!.. Конніца ляціць!.. Балахоўцы!

Здрыгануўся натоўп. Сёй-той, ратуючыся, кінуўся ў бок сяла. Але большасць яшчэ шчыльней самкнулася вакол магілы. Яшчэ мацней і больш грозна загучала песня:

Но время придет и воспрянет народ
Могучий, счастливый, свобо-о-одный!
Прощайте же, братья, вы честно прошли
Свой доблестный пу-уть благоро-о-о-одный!

Крута асадзіў каня вахмістр ля самай магілы. Стрымалі сваіх коней і коннікі. Вахмістр акінуў позіркам сялян і злосна крыкнуў:

— Што за збор? Хто дазволіў?

— Я, — спакойна і цвёрда адказаў Алесь.

Грымаса здзіўлення перасмыкнула твар вахмістра.

— Ты?.. А ты што за начальнік?.. Хто такі?

— Я — сын свайго бацькі, Рамана Салаўя!

— Салаўя?.. То глядзі, каб сёння не апынуўся разам з ім, — кіўнуў вахмістр на магілу і, звярнуўшыся да натоўпу, загадаў: —

Раскідаць вянкі!.. Магілу зраўняць з зямлёй, каб і следу ад яе не асталося!

Наступіў цяжкі, напружаны момант. Ніхто з сялян не варухнуўся. Вахмістр завішчаў, як рэзаны:

— Каму кажу, быдла?!.. Ну?! Прэнтко![36]

І зноў ніхто не зварухнуўся з месца. Зірнуў раз'юшаным позіркам вахмістр на натоўп і… міжволі ўздрыгнуўся: з нечалавечай нянавісцю ўтаропіліся на яго сотні вачэй… калючых, бязлітасных. І, панізіўшы голас, неяк разгублена скамандаваў:

— Вонсік, Яворскі, Майданэк, раскідайце гэту погань! — кіўнуў ён на вянкі.

Тры коннікі спешыліся і кінуліся да магілы. Але перад імі як з-пад зямлі выраслі постаці Алеся, Максіма, Архіпа і іншых сялян, шчыльнай сцяной загарадзіўшы дарогу.

— Не чапаць! Рукі прэч, халуі панскія! — грозна сказаў Алесь.

— Цо-о-о?! — люта зароў вахмістр. — Ах ты, быдла пшэклента!..[37]

І, страціўшы ад шаленства розум, вахмістр сцебануў Салаўя нагайкай па твары. Ваўком накінуўся на вахмістра акрываўлены Алесь. Нехта крыкнуў:

— Налятай, хлопцы!

Грымнуў стрэл, уздыбіліся спужаныя салдацкія коні, рассунуўся ва ўсе бакі натоўп. Сяляне накінуліся на балахоўцаў. Немым галасам закрычалі жанчыны. Яшчэ стрэл. Мільгануў у бойцы клінок шаблі. У разадранай гімнасцёрцы, з рассечаным нагайкай тварам камандуе Алесь:

— Жывымі бярыце!.. Вяжы!.. Абяззбройвай!

— Коні!.. Коней хапайце! — гучыць голас Максіма.

Віхрам ляціць па выгане конь, валачэ за сабой балахоўца, што заблытаўся нагой у стрэмені. Дагналі на конях яго сяляне. Пасля кароткай бойкі пазнімалі яны з коней усіх балахоўцаў. Збіліся тыя ў кучу. Абяззброеныя, перапалоханыя, паднялі рукі ўгору.

Цяжка дыхае Алесь. Размахваючы вінтоўкай, крычыць дзед Цімох:

— Чаго іх там вязаць!.. Бі душагубаў!

Кінуліся сяляне да палонных балахоўцаў. Грозна і ўладна спыніў іх Алесь:

— Стой! Не руш! — затым павярнуўся да балахоўцаў і кажа: — Слухайце, мужыкі! Слухайце, сяляне!..

— Якія ж ета сяляне!.. — абурыўся дзед Цімох.

— Забойцы яны, злодзеі!.. Панскія прыхвасні! — падтрымаў Цімоха натоўп.

— Сяляне яны, як і вы! Толькі ашуканыя! — растлумачыў Алесь і зноў павярнуўся да балахоўцаў: — Каму вы служыце? За каго свае галовы кладзяце? Завошта вы расстралялі гэтых людзей? — паказаў Алесь на магілу. — На сваіх жа руку падымаеце. На такіх жа гаротных сялян, як і вы… З вамі трэба было б зрабіць тое ж самае, але мы гэтага не зробім. Жывіце!.. Ідзіце і раскажыце ўсім ашуканым, што здарылася з вамі сёння ля гэтай магілы. І памятайце: калі хто пападзецца да нас другі раз — літасці не будзе!

Незадаволена загаманіў натоўп.

— Чаго з імі цацкацца!

— А яны нас шкадуюць?

— Ага, пашкадуюць! Дзе зграбуць, там і катуюць! — гучыць бурклівы голас Цімоха.

— Па конях! — раптам аддае каманду Алесь.

Узброеныя хлопцы ўссаджваюцца на балахоўскіх коней. Да іх далучаюцца і сяляне, колішнія коннікі. Усе выстройваюцца.

— Справа па трры-ы!.. Рыссю!.. А-а-аррш! — падае апошнюю каманду Салавей.

Новы партызанскі атрад рушыў у дарогу. Гасцінна прыняла яго цёмная пушча.

## ЧАСТКА ДРУГАЯ

Чтоб вовеки не смел
Никакой Керзон
Брать на пушку,
Горланить ноты, —
Даже землю паша,
Помни сабельный звон,
Помни марш
Атакующей роты.

*У. Маякоўскі*

У вялікім пакоі, выцягнуўшы рукі па швах, стаіць вахмістр. Перад ім, калоцячыся ад лютай злосці, як шалёны драпежнік, выгінаецца палкоўнік Паўлоўскі. Моўчкі, ні слова не кажучы, быццам выконвае важную справу, ён старанна б'е вахмістра па шчоках. Стаміўся Паўлоўскі. Адышоўся ўбок і цэдзіць скрозь зубы:

— Болван!.. Бревно! Идиот!.. Позволить сиволапым мужикам обезоружить себя!.. Стрелять надо было! Стрелять!.. Почему не стрелял?!

— Там дзяцей было шмат, — паспрабаваў апраўдацца вахмістр.

— Детей? — зароў Паўлоўскі, пырскаючы слінай. — Какие там дети! Это волчата!.. Да, да! Они завтра, а может, и сегодня будут нам глотки зубами рвать, идиот ты несчастный!

Пахмура назірае за гэтай сцэнай сам Балаховіч. За вокнамі пачуўся конскі тупат і каманда:

— Стой!

У пакой, дзынкаючы шпорамі, увайшоў малады рослы карнет. Выцягнуўшыся па форме перад начальствам, далажыў:

— Господин полковник, корнет Дзмухановский по вашему приказанию прибыл.

Паўлоўскі падае карнету пакет са словамі:

— Карпиловку окружить двумя эскадронами. Произвести тщательный, повальный обыск по всей деревне. Заложников взять согласно списку. При малейшем сопротивлении расстреливать на месте. Хаты Алеся Соловья, Тимоха Ажойчика, Максима Левкова сжечь, предварительно конфисковав все имущество. Смолокурню сравнять с землей. Исполняйте.

Ліха адказырнуў карнет і пайшоў. За акном прагучала каманда:

— Рысью а-а-арш!

Глядзіць у акно палкоўнік, назірае. Мільгаюць за шыбай пікі коннікаў. Далятае ў пакой глухі тупат конскіх капытоў. Павярнуўся Паўлоўскі да вахмістра і доўга, нібы вывучаючы яго, глядзіць. Пахмура спытаў палкоўніка Балаховіч:

— А что с этим будем делать, господин полковник? — кіўнуў ён у бок вахмістра.

Каменным слупам застыў у чаканні вахмістр. Ні жывы, ні мёртвы. Толькі вочы, як у пабітага сабакі, які гатовы верай і праўдай служыць сваім гаспадарам, хай толькі не вельмі строгі вынесуць яму прысуд. Ад гэтых двух людзей залежыць яго лёс.

— Я думаю так, — паволі, нібы ўзважваючы кожнае слова, загаварыў Паўлоўскі. — За такой проступок вахмистра следует предать военно-полевому суду и… — палкоўнік вытрымаў доўгую паўзу, — расстрелять, но… — зноў паўза, яшчэ даўжэйшая, — будем милостивы. Дадим ему взвод, и пусть он рассчитается с теми, кто покрыл его позором. Ясно?

— Так точна, пане палкоўнік! Ясна! — гаркнуў павесялелы вахмістр.

— Иди и выполняй. Заслужи себе прощение, — загадаў вахмістру Балаховіч.

— Хаты мужиков, сбежавших из обоза с патронами, сжечь дотла, — дадаў палкоўнік. — Имущество можешь раздать солдатам. Все. Иди.

Старанна, па ўсіх правілах субардынацыі, адказырнуў узрадаваны вахмістр і выйшаў з пакоя.

Страшная ноч навісла над Карпілаўкай. У барвовых водблісках пажараў шнырaюць па дварах і хатах балахоўцы. Ідзе павальны вобыск, а калі дакладней, дык самы сапраўдны разбой і грабеж. Зрэдку сям-там бухаюць глухія стрэлы. Раздаецца пакутлівы жаночы крык і абрываецца на высокай ноце раптоўна і жудасна. Даносіцца трэск палаючага дрэва і грукат падаючых бэлек і стрэх. Па вясковай вуліцы паволі ідуць заложнікі, акружаныя канвоем. У водблісках агню вылучаецца постаць Марыны. У падранай адзежы, збітая. Яе падтрымліваюць суседкі, якія ідуць побач з заплаканымі тварамі. Спераду заложнікаў ледзь пляцецца старая Наста. Аніводнай слязінкі на яе вачах. Заложнікі ідуць ціха, панура. Старыя, жанчыны і нават падлеткі. Ніхто з іх ужо не плача, не просіцца і не спрабуе супраціўляцца. У вялікі свіран заганяе ўсіх вахмістр, падлічваючы людзей нагайкай, як гавяду.

— Раз… два… тры…

Мільгануў у людскім натоўпе і твар Ларыка.

Ужо не чуваць голасу вахмістра. Толькі мернае гайданне нагайкі над смяротнікамі вядзе свой страшны адлік. З трэскам і скрыгатам зачыніліся за людзьмі вароты свірна. Павесіў вахмістр вялізны замок, павярнуў ключ — гучна шчоўкнуў замок. Расстаўляе панскі паслугач ля свірна варту, двух салдат ля варот і па адным ля вуглоў свірна.

А ў вёсцы ўсё яшчэ ідзе расправа. Лютая, няшчадная, звырыная. Бухне недзе стрэл, пранізлівы крык болю адзавецца недзе на задворках… і зноў усё замрэ на нейкі час. Затухаюць агні пажараў. Якая доўгая страшная ноч у Карпілаўцы…

По неабсяжным балоце марудліва і цяжка пасоўваецца партызанскі атрад Алеся Салаўя. Шырока ва ўсе бакі раскінулася дрыгва, сям-там парослая рэдкім хмызняком. Купіны, багна… багна, купіны… І здаецца — канца гэтаму не будзе. Тысячы жаб напаўняюць паветра сваім рыпучым, уедлівым, раздзіраючым вушы кваканнем. Аднастайным, нудным, аглушальным. Здаецца, што ён паўсюль — і на зямлі і ў небе, гэты абрыдлы жабіны хор. Спацелыя, змучаныя, брудныя ідуць людзі, час ад часу правальваючыся па пояс у багну. Цяжка дыхаючы, моўчкі ідуць партызаны, раз-пораз пераскокваючы з купіны на купіну. Калінікалі выбера хто-небудзь купіну паболей, прыляжа на хвілінку-другую, адпачне і, набраўшыся сіл, ідзе далей. Раптам да вушэй партызан даляцеў спалоханы крык дзеда Цімоха:

— Рату-у-уйце-е-е, лю-у-удцы-ы-ы!.. Во-о-ой!.. Рату-уйце-е!

Кінуліся партызаны да дзеда Цімоха на дапамогу. Бэрсаецца стары ў твані. Ледзь не па грудзі засмактала яго зыбкая твань. Працягваюць яму партызаны доўгую жэрдку і папругу. Ухапіўся за папругу дзед Цімох, хуценька абкруціў сябе пад пахай, учапіўся за жэрдку рукамі і крычыць:

— Цягніце хутчэй!

Цягнуць партызаны дзеда. Цмокнула сквапная твань, неахвотна аддаючы сваю здабычу. Выцягнулі Цімоха. Сеў ён на купіну, дыхае цяжка, хрыпла. Спаўзае па ім рэдкая балотная гразь — і здаецца, што гэта не дзед Цімох, а вялікая балотная купіна.

Пасунуліся партызаны далей. Убачыў гэта Цімох, устаў на ногі і як закрычыць:

— Стойце, мужыкі! Стойце!

Павярнулі людзі назад, акружылі старога. А Цімох узлез на купіну як мага вышэй і, страціўшы самавалоданне, загаварыў, заенчыў, як у істэрыцы:

— Куды ж ета ён нас вядзе?.. Га?.. Загінем мы ў етым балоце. Як піць даць, загінем. Павяртайце назад!

Загулі стомленыя мужыкі, заспрачаліся паміж сабой. Знайшліся і спачувальнікі ў дзеда Цімоха.

— Ото ж праўду кажа стары!.. Тут нам і капцы… Ні канца ні краю не відаць етаму балоту… Цьфу, каб на яго пранцы!

— Чорт яго пяройдзе…

Раз’юшаны, у страшэнным гневе раптам закрычаў Даніла:

— Чаго заенчылі!.. Ваякі! Тут, браточкі, так: альбо грай, альбо скрыпку аддай!

Раззлаваны словамі Данілы, дзед Цімох сарваў з пляча вінтоўку і з усяго размаху ўткнуў яе штыком у купіну.

— На табе тваю скрыпку!.. Грай!

Падышоў заклапочаны Алесь.

— Што тут у вас за сварка?

— Не хоча ісці далей. На ляжанку закарцела, — растлумачыў Алесю абураны Даніла, кіўнуўшы на дзеда Цімоха.

— І не пойдзем! — завішчэў Цімох. — Кладзіся, мужыкі!

І ён першы дэманстратыўна і рашуча ўлёгся на купіну жыватом уніз. Гледзячы на Цімоха, на купіны палягло яшчэ некалькі чалавек.

— Та-а-ак, — неакрэслена працягнуў Алесь і правёў рукой па спацелым твары. І, быццам разважаючы ўслых, загаварыў гучна, выразна, але спакойна, стрымана: — Вось што, браткі. Ісці нам трэба. Трэба, і ўсё тут. І як мага хутчэй перайсці гэта чортава балота. Пакуль Балаховіч будзе акружаць наш лагер, мы тым часам паспрабуем наляцець на валасць, каб захапіць зброю, патроны і вызваліць нашых заложнікаў. А потым пойдзем на злучэнне з Чырвонай Арміяй.

— Не пойдзем! — упарта стаіць на сваім дзед Цімох. — Чырвоная Армія і без нас абыдзецца. Тутака нашы вёскі… тутака наша бацькаўшчына. Вось яе і будзем абараняць.

— Та-а-ак, — зноў у роздуме працягнуў Алесь.

І раптам, павярнуўшыся да партызан, пачаў выклікаць:

— Рашатняк!

— Я! — азваўся малады хлопец.

— Скажы, адкуль ты сам? Дзе нарадзіўся?

— Я з Рэчыцы, з-пад Гомля.

— Бецінш! — зноў выклікнуў Алесь.

Пажылы, гадоў на сорак, мужчына зрабіў крок наперад.

— А ты адкуль родам? — спытаў яго Алесь.

— Здалёк. З Лібавы я… латыш.

— Ну, вось бачыш, Цімох? — зноў павярнуўся да старога Алесь. — Лібаўскі, гомельскі, а б'юцца разам з намі… за нашы вёскі, і за тваю, Цімох. Трэба змагацца разам за нашу долю. Вось ты і падумай.

— Няма чаго думаць, — агрызнуўся дзед. — Свая кашуля бліжэй…

— Цімох, ета… праўду кажа, — падтрымаў старога адзін з тых, хто ляжаў на купіне. — Мы не супраць таго, каб ваяваць з Балаховічам, але каб тут… дома.

— Ну што ж, мужыкі. Давайце параімся. Падумаем усе разам: што нам рабіць далей?.. А хочаце, я вам адну байку раскажу? — па-ранейшаму спакойна прапанаваў Алесь.

Здзіўленыя такім паваротам, але разам з тым і зацікаўленыя партызаны наблізіліся да Салаўя. Прысеў Алесь на купіну побач з Цімохам і пачаў:

— Дык вось. Раскажу я вам байку пра аднаго канакрада, круцяля-ашуканца і двух папоў. Было гэта не так даўно. У адным мястэчку з'ехаўся вялікі кірмаш. Там якраз святкавалі прастольнае свята. Ну і жыў у тым мястэчку поп. Прыехаў да яго благачынны. Адслужылі яны разам абедню, нахапалі грошай з парафіян, а потым пайшлі да папа, выпілі, закусілі.

— Ета яны ўмеюць, выпіць ды закусіць, — шумна ўздыхнуў дзед Цімох.

— Асабліва выпіць мастакі, — пагадзіўся з ім Даніла.

— Ціха вы! — зашыкалі партызаны. — Дайце паслухаць!

— Ну, выпілі яны, значыцца, закусілі, — працягвае Алесь. — А потым выйшлі з хаты свежым ветрам падыхаць. Паселі ў крэслах на ганку. А хата папоўская якраз насупраць кірмашу стаяла. Сядзяць гэта яны і назіраюць, што на кірмашы робіцца. Тут поп і кажа свайму благачыннаму: «Айцец Ананій! Зірні вунь на тых людзей!» — і тыцнуў пальцам. Глянуў благачынны, куды тыцнуў поп, і бачыць: стаяць два чалавекі. Ці то гарадскія, ці то сяляне… не разбяры-паймі. Стаяць і спрачаюцца. «У чым справа?» — пытае ў папа благачынны. «А вунь, — кажа поп, — той, што вышэй ростам, — гэта Васіль Грынза, усім вядомы канакрад. Відаць, украў каня і прадае, а купляе Сенька Жмот — круцель несусветны». — «Дык у чым жа справа?» — зноў пытае благачынны. «А вось у чым. Як ты думаеш, хто каго абдурыць: канакрад круцяля ці круцель канакрада?» Падумаў благачынны

дый кажа: «Па-мойму, круцель канакрада». А поп пярэчыць: «Не, я думаю, канакрад круцяля абдурыць». Ну, паспрачаліся гэтак яны і назіраюць далей. Потым бачаць: сышліся абодва ў цане, і вядзе ашуканец каня за лейцы, а конь кульгае. Паклікаў тут поп ашуканца і пытае: «Сеня, бачыў я, ты каня купіў?» — «Купіў», — адказвае ашуканец. «А колькі даў?» — «Дваццаць пяць рублёў». «А што ж ты так дорага заплаціў? Конь жа кульгавы! Відаць, абдурыў цябе Васька». Усміхнуўся ашуканец і кажа: «Не, не ён мяне абдурыў, а я яго. Конь не кульгавы. Васька кепска яго падкаваў. Не так ухналь забіў у капыта. Выцягну ўхналь з капыта, палячу каня з тыдзень і не менш як за сотню прадам». Сказаў гэтак ашуканец і пайшоў на кірмаш. Клічуць папы канакрада. «Вась, а Вась? Як жа ты гэта даў сябе абдурыць? Конь жа не кульгавы! Ты яго падкаваў кепска. Сенька ўхналь выцягне, каня падлечыць і не менш як за сотню прадасць». А Васька зарагатаў на ўсю глотку дый кажа: «У тым і справа, што конь ад роду кульгавы, а ўхналь я яму ў капыта загнаў, каб Сеньку абдурыць». І таксама пайшоў сабе канакрад на кірмаш. Смяюцца папы і зноў клічуць да сябе ашуканца Сеньку. «Слухай, Сень, а Васька цябе абдурыў. Конь ад роду кульгавы». — «Ну і што, — смяецца ашуканец. — Усё ж я абдурыў яго, а не ён мяне. Я ж яму грошы фальшывыя даў». Не вытрымалі папы, рагочуць, як жарабцы, і зноў клічуць Ваську-канакрада. «Васіль, а Васіль, а ты ў дурнях застаўся. Сенька табе грошы фальшывыя за каня даў». — «Ну і што? — смяецца канакрад. — Падумаеш, страх які! Конь жа крадзены!» І вось сабраліся яны ўсе да кучы — канакрад, ашуканец і два папы. Далі злодзеі папам па пяцёрцы, пасмяяліся, выпілі, закусілі ў адной кампаніі. Вось вы цяпер і адгадайце, — пытаецца Алесь у партызан, — хто з іх выйграў, а хто прайграў?

Усміхаюцца партызаны. Зацікаўлена глядзіць на Алеся дзед Цімох.

— Ну вось скажы хоць ты, дзед Цімох. Хто з іх у выйгрышы?

На хвілінку задумаўся дзед, а потым кажа:

— Па-мойму, дык ета… усе выйгралі. І Васька, і Сенька… і папы.

— Ну, а хто ж тады прайграў? — зноў пытае Алесь.

— А ніхто! — упэўнена адказаў Цімох.

— Вось і няправільна. Адзін прайграў, — сказаў Алесь.

— Хто ж? — здзівіўся Цімох.

— А вось хто. Прайграў той мужык, у якога каня ўкралі, — растлумачыў Алесь. — Зразумела?

Ажно рот разявіў ад здзіўлення дзед Цімох.

— Аво-ой!.. Ото ж праўда!.. І як жа ета я не дакумкаў?.. А каб ім халера ў бок, і злодзеям і папам!

— Вось як. Трэба добра разумець сітуацыю, — працягваў Алесь. Цяпер голас яго загучаў цвёрда і ўладна. — Балаховіч — гэта канакрад! Паны, буржуі з іхнім прыхваснем Савінкавым — гэта ашуканцы! А мы — той самы мужык, у якога каня ўкралі! І не толькі каня, але і волю нашу, і зямлю, і бацькаўшчыну! Вось тут і памяркуйце, асабліва ты, дзед Цімох. Запомні, будзеш гэтак ляжаць на купіне пузам уніз, «па-дэлегацку», — кепска табе будзе.

— Га-га-га!.. — смяюцца партызаны.

Сарамліва падняўся Цімох з купіны, падышоў да Алеся, вінавата і ціха сказаў:

— Прабач, Алеська, старога дурня. А толькі ета, скажу табе… надта ж стаміўся я. Сілаў маіх няма. І здароўе не тое, як калісь… Старасць прыйшла, — гаротна ўздыхнуў дзед.

— Разумею. Таму і дарую, — сурова адказаў Салавей. — Але і ты зразумей! Бо другім разам за гэткія выкрунтасы… судзіць будзем! Не паглядзім на старасць. Дысцыпліна ў нас павінна быць вайсковая! А іначай…

Павярнуўся да партызан дзед Цімох і строга прыкрыкнуў:

— Ну чаго стаіцё, раты паразяўлялі! Адпачылі крыху і далей шуруйце!

Шчыра, на ўсю пушчу зарагаталі партызаны.

— Глядзі ты на яго!.. Ачуняў дзед!.. Уваскрэс, каманду падае!.. Гы-гы-гы!..

Усміхнуўся Алесь і пайшоў у галаву атрада.

Далёка-далёка раскінулася дрыгва… і няма ёй ні канца ні краю. Стаміліся людзі. Цяжка пасоўваюцца яны. Вязнуць ногі, цмокае багна, пускаючы бурбалкі, хлюпае вада. Але ўпарта, настойліва ідуць партызаны ўсё далей і далей. Вось і сонца ўжо зусім нізка схілілася к заходу. Хаваецца галава атрада ў густых зарасніках хмызняку. І раптам адтуль пачуліся крыкі людзей.

— Ур-р-р-р-ра-а-а-а-а-а!.. — грымнула з зараснікаў.

Схамянуліся партызаны. Умомант скінулі з плеч вінтоўкі, падрыхтаваліся к бою. Застылі яны на купінах, сціскаючы ў руках зброю.

— Што там за лямант? — устрывожана пытаюцца адзін аднаго.

І ўжо нясецца спераду эстафетай радасная навіна:

— Зямля!.. Дайшлі!

— На месца дайшлі!.. На выспу выбраліся!

АжыВіліся людзі, павесялелі. Выбіваючыся з апошніх сіл, спяшаюцца тыя, хто пляцецца ў хвасце, хто адстаў, і таксама знікаюць нарэшце ў лазняку. Вось яна, такая жаданая, доўгачаканая цвёрдая зямля пад нагамі! Выспа, парослая густым магутным лесам! Выбраліся апошнія партызаны на вялікую паляну, а там ужо яркім полымем шугаюць вогнішчы, густа клубяцца раскладзеныя дымакуры. Купяцца бліжэй да дыму пакусаныя і ўжо стрыножаныя коні, шукаючы паратунку ад надакучлівых камароў. Вісяць над агнём катлы, кацялкі, вёдры, чайнікі… нешта булькае ў іх, смачным пахам напаўняючы паветра. Сушацца людзі, развесіўшы адзежу ля агню, чысцяцца, прыводзяць сябе ў парадак. Нават у скокі пусціліся два маладыя партызаны. Напаўголыя, танцуюць яны паміж вогнішчаў заўзята, весела, напяваючы самі сабе, «пад язык». Тут жа сушыцца іх мокрая, наскрозь захлюстаная адзежа.

— Во-о!.. — радасна і ўзбуджана кажа партызанам Даніла. — Другая жысцьпачалася. А то енчаць: балота… балота… канцакраю няма… Чорт яго пяройдзе! — вочы Данілы ззяюць.

— Чорт, можа, і не пяройдзе, а партызан павінен перайсці, — з усмешкай заўважыў пажылы партызан.

— Доля наша такая… балотная, — уздыхнуў дзед Цімох.

— Не сумуй, Цімох, — падбадзёрыў яго Даніла. — Даб’емся і мы лепшай долі. Даб’емся, калі толькі ета… не будзем класціся пузам уніз.

— Цьфу ты!.. Авадзень! — гнеўна сплюнуў Цімох. — Во прыстаў! Колькі ж ета дакараць чалавеку можна? Сам добра бачыш — я ўжо пузам дагары не ляжу! — і дзед Цімох у доказ гучна ляпнуў сябе далонню па голым худым жываце.

— Гы-гы-гы-гы!.. — смяюцца партызаны.

А на другім канцы паляны ля вялікага вогнішча грымнула песня, баявая, партызанская. Разам з усімі спявае Салавей. Твар яго задуменны і строгі. Здаецца, не спявае, а моліцца камандзір. Такія ж твары ва ўсіх спевакоў.

А песня шырыцца, нарастае, мацнее магутны хор. Усё больш і больш галасоў уплятаецца ў песню. Нават дзед Цімох падышоў і слухае ўрачыстую і ў той жа час самотную песню, калі-нікалі падпяваючы. І вочы яго сталі вільготныя.

Грыміць партызанскі хор, разбудзіўшы векавую пушчу. І вось на высокай і звонкай ноце спевакі абарвалі песню. Але што гэта? Песня не змоўкла! Нібы падхапіў яе нейкі нябачны мужчынскі

хор! І здавалася, што песня ліецца ад вяршалін калматых, магутных, высокіх дрэў… ад самых нябёс!

Здзіўлена войкнуў маладзенькі партызан.

— Чуеце?.. Пушча спявае… пушча… Слухайце! — таямніча, амаль шэптам кажа ён таварышам.

Прыслухаліся партызаны.

— Якая там пушча! Рэха… рэха! — такім жа таямнічым шэптам удакладніў дзед Цімох.

— Ды не! — не здаецца хлопец. — Не рэха ета…

А песня ўсё набліжалася. Яна ўсё грамчэй, усё выразней гучаць галасы, і нават словы ўжо можна пачуць. І тут… лёгка ўскочыў на высокі пень Салавей.

— Ага! Малайцы! У тэрмін прыйшлі! Сказана — зроблена! Па-вайсковаму!.. — радасна крычыць ён, асветлены водбліскам вогнішча, такі прыгожы, шчаслівы…

Ускочылі на ногі партызаны. Здзіўленыя, стаяць у радасным чаканні.

А па гушчары ледзьве прыкметнай сцяжынкай ідуць строем па два чалавекі да вогнішчаў узброеныя лясныя людзі. І вось яны выйшлі на паляну. І тут крыкнуў Алесь:

— Мужыкі! Гэта з Рудабелкі прыйшлі!.. Малаковіч вядзе!

Загаманілі, замітусіліся партызаны, кінуўшыся гасцям насустрач.

— Здароў, Сымонка!

— Кастусь, і ты тутака?.. Як жывеш, браток?.. А каб цябе ваўкі!..

Шумна і весела вітаюцца партызаны. Але песня чамусьці не сціхае. Яна ўсё грамчэй і грамчэй, толькі даносіцца ўжо з другога боку. Новы атрад узброеных партызан выходзіць да вогнішчаў на паляну. І зноў крычыць шчаслівы Салавей:

— Вёска Кавалі прыйшла!

На чале свайго атрада ідзе Драпеза. Зноў воклічы, радасныя сустрэчы. А на паляну ўсё ідуць і ідуць новыя атрады па таямнічых сцежках, вядомых толькі ім, палешукам.

І калі ўсе сабраліся, ля палаючага вогнішча паселі камандзіры атрадаў. Сардэчна вітае іх Салавей. А партызанскі лагер усё гудзе і гудзе ад неспадзяванай падзеі, ад нечаканых сустрэч.

— І Касорычы тутака!

— Глянь, мужыкі!.. Халопенічы[38] прыйшлі!

— Ого! Цяперака мы — сіла! Мусіць, уся гаротная Беларусь за зброю ўзялася!

І зноў ускочыў на пень Салавей, высока падняў рукі. Наступіла цішыня. Усе замерлі.

— Слухайце, браты! — пачаў сваю прамову Алесь. — Заўтра ў нас дзень адпачынку. Да паўдня кожны павінен пачысціцца і прывесці сябе ў парадак. Асабліва старанна пачысціць зброю! У другой палове дня адбудзецца ўрачыстае свята, якое мы з вамі запомнім на ўсё жыццё, — мы будзем прысягаць нашай радзіме, нашай бацькаўшчыне! Будзем даваць клятву вернасці нашай Беларусі!

— Ур-р-р-р-а-а-а-а-а!.. — грымнулі сотні галасоў.

— …р-р-р-р-р-а-а-а-а-а-а!.. — адгукнулася рэхам пушча.

— Ідзіце адпачываць, толькі ў баявым парадку, па атрадах! Зараз жа трэба расставіць дазоры! Камандзіры атрадаў — да мяне!

Густы туман заклубіўся над дрыгвой. Шчыльнымі бялявымі хвалямі ахінае ён партызанскі лагер. Здаецца, што густая заслона зацягнула выспу з усіх бакоў, каб схаваць яе ад варожага вока. Цьмянымі плямамі адбіваюцца ў бялявай імгле вогнішчы. Ноч навісае над выспай. Недзе далёка-далёка вухнуў пугач, яму адгукнуўся другі, трэці… А можа, гэта партызанскія дазоры перагукаюцца ў пушчы?.. Усё цішэй гучаць людскія галасы. Нарэшце ўсё ўгаманілася. Сціх лагер. Толькі зрэдку фыркне конь, і зноў цішыня. Лагер акунуўся ў сон, трывожны, чуйны, насцярожаны. А пугачы ўсё вухкаюць, вухкаюць…

Вялікі класны пакой. Ля акна прытуліўся стол, абы-як збіты з абструганых дошак. Ля адной сцяны стаіць разбітая класная дошка. На ёй яшчэ застаўся напалову сцёрты надпіс па-польску: «Нех жые Матка Боска похвал»[39], а далей толькі размазаная па дошцы крэйда. Ля другой сцяны бязладнай кучай навалены зламаныя парты. Пасярэдзіне пакоя на земляной падлозе стаіць шырокая доўгая лаўка. Упоперак яе вінтовачны шомпал, яшчэ адзін валяецца на зямлі, ля цела непрытомнай Марыны, якая ляжыць тварам уніз, няёмка падкурчыўшы пад сябе рукі. З сярдзітым тварам, насупіўшыся, ходзіць па пакоі ўзад і ўперад, заклаўшы рукі за спіну, Барыс Савінкаў. Ён нешта абдумвае. За сталом сядзіць такі ж пахмуры Балаховіч. Тут і палкоўнік Паўлоўскі. Ён падыходзіць да Марыны, нахіляецца над ёй і злосна кажа:

— Притворяется сука… Ану, вставай!

Павярнуўся да яго Савінкаў, з паўпаварота незадаволена сказаў:

— Переборщили, Сергей Эдуардович… переборщили.

— Нет! — запярэчыў Паўлоўскі. — Самый обычный прием притворства. — І, прысеўшы на кукішкі ля нерухомага цела жанчыны, ён бярэ яе за руку і мацае пульс. — Живая! Переверните ее лицом вверх! — загадвае ён двум мажным балахоўцам, якія нібы істуканы застылі ля дзвярэй.

Спешна паварочваюць два дзецюкі Марыну. Палкоўнік тыцкае ёй пад нос нейкую бутэлечку. Але дарэмна. Марына нават не варухнулася. Раззлаваны палкоўнік коратка загадвае:

— Убрать в амбар и привести старуху!

Падхапілі балахоўцы абмяклую Марыну за рукі і выцягнулі з пакоя. Садзіцца на крэсла Паўлоўскі, нервова і стомлена пазяхае.

— Спать хочется… Всю ночь мучила нас, стерва… Хоть бы слово проронила.

Па-ранейшаму панура «вымярае» нагамі пакой Савінкаў.

— Что за люди? Каменные, что ли? — ці то сказаў, ці то спытаў ён, не хаваючы злосці.

— Быдло… скот, — флегматычна азваўся палкоўнік. — Расстрелять без всяких разговоров и дело с концом. Зачем портить нервы?

— Расстрелять… — саркастычна ўсміхнуўся Савінкаў. — Это легче всего. А смысл? — І, падышоўшы да Балаховіча, ментарскі вымавіў: — Из подследственного надо выжать все без остатка, а потом на помойку выбросить, как выжатый лимон. Это надо уметь… да, уметь.

Адчыніліся дзверы — і вахмістр з балахоўцамі ўвялі старую Насту. Зрабіў крок насустрач Паўлоўскі, няспешна спытаў:

— Надумала?

— Няма чаго мне думаць, — ціха адказала старая.

— Скажешь, где сын? — ужо з пагрозай пытае палкоўнік.

— Адкуль мне ведаць? Цяперака дзеці бацькоў не слухаюць, пане палкоўнік. Яны цяперака сваім розумам жывуць, — па-ранейшаму ціха адказала Наста.

— Врешь… Скажешь! — як шалёны, зашыпеў, страціўшы самавалоданне, Паўлоўскі і, звяртаючыся да вахмістра, загадаў: — Привязать ее к скамье! Взять в работу в четыре шомпола!

Накінуліся на старую балахоўцы, паклалі яе на лаўку тварам уніз, прывязалі. Падышоў да яе бліжэй палкоўнік і працадзіў скрозь зубы:

— Слушай, старая ведьма. Предупреждаю в последний раз. Не скажешь, где сын — с живой шкуру сдерем… Будешь говорить?

— Буду, — сказала Наста.

Пераглянуліся палкоўнік і Савінкаў.

— Давно бы так, глупая баба. Развяжите ее! — загадаў Паўлоўскі.

Кінуліся дзецюкі да лаўкі, развязалі Насту, паставілі на ногі. Пахіснулася старая, ледзь не ўпала. Падтрымаў яе вахмістр.

— Подойди ближе к столу, — загадаў палкоўнік і паказаў на крэсла. — Садись.

— Пастаю, — адказала Наста. І раптам, зірнуўшы Паўлоўскаму прама ў вочы, спытала: — Скажы, калі ласка, пане палкоўнік, а ці ёсць у цябе маці?

Гэта нечаканае пытанне здзівіла Паўлоўскага. Глядзіць ён на старую атарапела і пытае:

— При чем тут моя мать?

— А ўсё ж.. Няхай мне пане палкоўнік скажа, ці ёсць у яго маці? — настойвала Наста.

— Ну, допустим, есть… — усё з тым жа здзіўленнем адказаў Паўлоўскі.

— А як пане палкоўнік думае… вось каб мой сын Алесь шукаў пана палкоўніка ды ўзяў бы яго маці на допыт, дык ці сказала б яна, дзе яе сын?

Застыў ад нечаканасці Паўлоўскі. Падняўся з крэсла здзіўлены Балаховіч. Утаропіўся злымі вачыма на старую Савінкаў.

— Не, не сказала б, — цвёрда і ўпэўнена заявіла Наста. — Няма на свеце той сілы, якая б прымусіла маці аддаць сваё роднае дзіця на пакуты, на смерць… Няма!

Голас старой стаў гучны і звонкі. Смела гледзячы на сваіх катаў, яна гаварыла:

— Я не ведаю, дзе мой сын. Магу на евангеллі, на крыжы паклясца, што не ведаю! А я ж у Бога верую, — і старая плаўным і прыгожым жэстам перахрысцілася. — Але каб я і ведала, дзе мой сын, — працягвала яна, — усё роўна не сказала б… Хоць рэжце мяне на кавалачкі, усю кроў да крапелькі выпіце — не сказала б, і ўсё!.. Я — маці… і гэта трэба разумець, — ужо ціхім, але такім жа цвёрдым голасам скончыла Наста.

Стаіць яна рашучая, непахісная. Беларуская сялянская маці. У гэтыя хвіліны яна здаецца нават вышэй ростам, прыгожая, з горда ўзнятай галавой.

Запанавала доўгая напружаная паўза. Яна перарвалася шалёным крыкам Паўлоўскага:

— Ах ты, сука старая!.. Вот как ты заговорила?!

Рвануўся ён да Насты, узмахнуў бізуном, збіраючыся сцебануць старую па ненавісным твары, па ўпартых вачах.

— Отставить! — спыніў яго Савінкаў.

Паволі і нехаця апусцілася рука з бізуном Паўлоўскага. І зноў запанавала цяжкая доўгая паўза. Зноў «вымярае» нагамі пакой Савінкаў, кідаючы скосыя позіркі ў бок Насты. А старая стаіць нерухома, гатовая да ўсяго.

Нарэшце павярнуўся Савінкаў да вахмістра і коратка загадаў:

— Вахмистр! Освободите старуху немедленно… Мать! — звярнуўся ён да Насты. — Ты свободна!

Шырока адчыніў дзверы перад Настай вахмістр.

— Калі ласка, дахаты, — сказаў ветліва.

Нізка пакланілася Наста Савінкаву і, не спяшаючыся, з годнасцю выйшла з пакоя. Зачыніў за ёю дзверы вахмістр.

— Ничего не понимаю, — сказаў нарэшце збіты з панталыку Балаховіч, пацiснуўшы плячыма.

— И я, — падтрымаў яго Паўлоўскі.

— Терпение, господа, терпение. Посидите еще минут двадцать и поймете, — спакойна адказаў ім Савінкаў і тут жа загадаў вахмістру: — Приведите этого… Ларика… Ларика… А, черт, как же его?.. Ага! Ларика Слимака!

Вахмістр знікае за дзвярыма, уводзячы з сабой балахоўцаў. І зноў ходзіць па пакоі Савінкаў, нешта абдумваючы. Па яго твары відаць, што ён намагаецца рашыць нейкую складаную задачу.

— И все-таки не понимаю, — незадаволена буркнуў Балаховіч.

— А я повторяю, — пахмура адказвае Савінкаў. — Не торопитесь, послушаете и поймете.

Вахмістр упхнуў у пакой Ларыка. Нізка, нізка, ажно да самай зямлі пакланіўся Ларык усім прысутным.

— Дзень добры, панове! — прывітаўся лісліва.

Ніхто яму не адказаў. Моўчкі глядзіць прама ў вочы Ларыку Савінкаў, нібы вывучаючы яго. Выгляд у Ларыка жудасны. Кашуля разадраная да пупа. Ускудлачаныя валасы перасыпаны мякінай. Твар збіты, размаляваны шыза-барвовымі сінякамі.

— Вахмистр, выйдите и уведите вот этих, — кіўнуў Савінкаў на балахоўцаў.

Тры балахоўцы зараз жа выйшлі. Зноў Савінкаў утаропіўся ў твар Ларыка. У вачах яго адбілася агіда.

— Хорош, — сказаў ён.

— Людзі добрыя… панове! Завошта мяне арыштавалі? Я ж ні ў чым не вінаваты, — заенчыў Ларык.

— Для пользы дела, — спакойна паясніў яму Савінкаў.

— А білі за што?.. Глядзіце, што са мной зрабілі?

— Также для пользы дела, — паўтарае сваё Савінкаў. — Да ты не огорчайся! За одного битого двух небитых дают. А тебя так разукрасили, что и четверых могут дать, — пажартаваў Савінкаў.

— Я ж ні ў чым не вінаваты, — стаіць на сваім Ларык.

— Знаю. Слушай меня внимательно. Арестовали тебя и били не «за что», а «для чего». Понятно? Били, чтобы не было подозрения на тебя у партизан. Сегодня мы тебя освободим.

— Дзякую, пане, дужа дзякую! — узрадаваны Ларык схапіў руку Савінкава і чмокнуў яе. Вырваў Савінкаў сваю руку і гідліва зморшчыўся.

— Слушай и запоминай, — працягваў ён. — Мы сожгли хату Соловья. Мы отпустили его мать. Ты сейчас же пойдешь и разыщешь ее. Приюти в своей хате и глаз с нее не спускай. Постарайся узнать, где находится Соловей, сколько у него партизан, как вооружены. Войди к Соловью в доверие. Скажи, что от нас сбежал. Втолкуй ему, что если он явится добровольно, то его простят, а заложников, в том числе его жену, немедленно освободят. В случае неявки — все, не исключая жены, будут расстреляны. За старухой следи очень внимательно. При малейшей попытке скрыться уберешь ее. Будь осторожен и сведения передавай нам тем же способом, что и раньше. Вахмистр! — паклікаў Савінкаў.

Адчыніліся дзверы, у пакой увайшоў вахмістр. Выцягнуўся, адказыраў і замёр у чаканні новага загаду.

— Выведите его на улицу, — кіўнуў на Ларыка Савінкаў, — но только так, чтобы жители деревни увидели, поддайте ему коленкой под зад и отпустите на все четыре стороны.

— Дзенькуе, дзенькуе, пан! — зноў пачаў кланяцца Ларык і радасны кінуўся да дзвярэй.

— Стой! — спыніў яго Савінкаў.

Ларык застыў.

— Не вздумай переметнуться к партизанам!

— Бронь божа…[40] бронь божа! — часта захрысціўся Ларык.

— Не забудь, что мы можем им сообщить, из-за кого погиб отец Соловья. Понял?

— Зразумеў, — панік Ларык. — Я ж сабе не вораг.

— Можешь идти.

Паспешна, як ліса, выслізнуў Ларык з пакоя.

— Ну, теперь вам понятно? — звярнуўся Савінкаў да Балаховіча.

— Я восхищен, — адказаў Балаховіч.

— А вам, Сергей Эдуардович? — спытаў Савінкаў палкоўніка.

— Понял и преклоняю голову, — адказаў той.

— То-то же, — самазадаволена ўсміхнуўся Савінкаў. — «Где силой не возьмешь, там надобна ухватка». Кажется, так сказал дедушка Крылов?.. А он был не дурак, наш дедушка Крылов.

Па вузенькай лясной сцежцы стомлена крочыць пажылы чорнабароды мужчына. Па вопратцы відаць, што гарадскі. Старая, зношаная кепка, абшарпаны пінжачок, стаптаныя чаравікі — увесь яго ўбогі выгляд наводзіць на роздум, што чалавек гэты з прыгарадных мяшчан-саматужнікаў. Стомлена крочыць мужчына, прыкметна кульгаючы на адну нагу. За спінай у яго вялікая торба на лямках,у левай руцэ — плеценая з лазы кашолка. Ідзе ён паволі, абапіраючыся на здаравенны дрын. Раптам нейкі трэск і шоргат прымусілі яго насцярожыцца. Чалавек спыніўся, прыслухаўся, потым саступіў са сцяжынкі ўбок і схаваўся за густой арэшынай. Прыгнуўшыся, затаіўся і стаў паціху расхінаць галінкі — перад яго вачыма адкрыўся бераг лясного ручая, а пад вялікай, старой і абадранай ліпай ён убачыў селяніна, які сядзеў ля груды панадзіранага лыка. Скручвае селянін доўгай стужкай лыка ў невялікія рулоны, моцна зацягвае іх тонкім лазняком і складвае ў мех. Выйшаў чалавек з свайго ўкрыцця і гучна прывітаўся:

— Дзень добры!

Спалохана павярнуўся да яго тварам селянін, адказаў разгублена:

— Дзень добры… Вой, як жа вы мяне напалохалі!

Прыветна ўсміхнуўся падарожнік, добразычліва сказаў:

— Чаму? Хіба я такі страшны?

— Ды не-е-е!.. ета ж … знянацку.

— Лыка дзерацё?

— Ага!

— Лыка… хром наш беларускі, — неяк сумна прамовіў падарожнік. — А навошта так многа? — кіўнуў ён на вялікую груду панадзіранага лыка.

— А як жа інакш? — ахвотна адказвае селянін. — Сямейства ў мяне вялікае… і ўсе разутыя. Улетку яшчэ так-сяк, а зіма прыйдзе — спытае абутку.

— Лапці?

— Ото ж! З лыка боты не пашыеш.

— Яно, канешне, так, — згадзіўся чалавек. І, крыху памаўчаўшы, раптам спытаў: — А ці не скажаш мне, міл чалавек, як выйсці да Рудабелкі? Заблудзіўся я… Ад самага рання швэндаюся па лесе і ніяк не магу выбрацца.

Прывычным рухам пачухаў сабе патыліцу селянін, ссунуўшы картуз на лоб.

— Сказаў бы я вам… але, дальбог, не ведаю. Я, ета… не тутэйшы. У нас ліпы няма, усё бярозы ды елкі. Дык мы сюды па лыка ходзім. Тут ліпы шмат!.. А дзе тая Рудабелка — бог яе ведае! Чуў я… ёсць такая вёска, а дзе? — селянін пацiснуў плячыма. — А вы ідзіце па сцежцы, яна куды-небудзь і выведзе… а там спытаецеся, — параіў селянін.

— Хіба што так… Бывайце здаровы! — і мужчына, прыветна кіўнуўшы на развітанне, пайшоў па сцяжынцы далей.

Уважліва, вельмі ўважліва глядзіць яму ўслед селянін. А калі постаць незнаёмца знікла ў гушчары, прыклаў ён далоні да вуснаў і закрычаў па-птушынаму — як каршун.

— Кі-кі-кі-кі! — трывожнымі гукамі напоўнілася пушча.

Змоўк «каршун». Стаіць селянін ля свайго лыка і слухае. Ціха шумяць вершаліны дрэў. Зноў падае сігнал селянін. Прыслухаўся. Нарэшце аднекуль здалёк даляцеў да яго крык другога «каршуна»:

— Кі-кі-кі-кі!

Прысеў на кукішкі селянін, як ні ў чым ні бывала, зноў вяжа ў рулоны лыка.

Стомлена ідзе падарожнік па лясной сцежцы. І ўсю дарогу суправаджаюць яго трывожныя крыкі «каршуноў». Адвячоркавае сонца залацістай чырванню зайграла на магутных сасновых ствалах. Радзее лес. З палёгкай уздыхнуў падарожнік. Нарэшце ён выйшаў на вялікую паляну. Сеў на пянёк, закурыў, задумаўся. А сонца ўсё ніжэй і ніжэй. Сосны адкінулі на зямлю свае доўгія чорныя цені… Здалёк да паляны даляцела сумная песня:

Я табу-у-ун сцерагу-у-у-у,
А ўсе людзі спя-а-а-а-аць…

Падхапіўся падарожнік і пайшоў насустрач песні. Прадзіраецца скрозь гушчар. А песня ўсё бліжэй і бліжэй. Вось і палянка. На ёй з дзесятак кароў скубе траву. Пад вясёлай кучаравай бярозай сядзіць цыбаты вясковы хлапчук, ён выразае нажом на кіёчку ўзоры і спявае:

Вы каро-о-оўкі старыя,
Вы цяля-а-аткі малыя,
Не ўцякайце, не брыкайце
Ды у шкоду не трапляйце,
О-о-о-о-ой!..

Як толькі змоўкла песня, падарожнік падышоў да пастушка.

— Здарова, пявун!

Ускочыў напалоханы хлопчык, але, як толькі ўбачыў добрую ўсмешку на стомленым твары прахожага, супакоіўся.

— Не бойся, я не кусаюся, — весела пажартаваў незнаёмец.

— А я і не баюся, — таксама ўсміхнуўся пастушок.

— Ладна спяваеш, — усеўся побач з хлопчыкам прахожы. — Хто навучыў?

— А ніхто, — бадзёра адказаў пастушок. — Сам. Я і паптушынаму магу.

— Як гэта па-птушынаму? — зацікавіўся падарожнік.

— А во як… паслухайце. — Хлопчык задраў галаву, прыклаў да вуснаў далоні — і з яго рота вылецеў крык каршуна. У тую ж хвіліну яму адказаў аднекуль такім жа крыкам другі «каршун»:

— Кі-кі-кі-кі!

— Чулі? — спытаў хлопчык. — Адгукнуўся!

— Чуў, — з хітраватай усмешкай адказаў незнаёмец. — Майстар ты… малайчына! А ці не скажаш мне, як да Рудабелкі хутчэй дабрацца?

— А во етак… нацянькі! — паказаў рукой хлопчык. — І вярсты, мусіць, не будзе. Тутака сцежка ёсць. Калі хочаце, дык я пакажу.

— Зрабі ласку, — узрадаваўся чалавек.

Вывеў хлопчык яго на сцежку.

— Вунь туды, прама ідзіце!

— Дзякую, хлопчык, — сказаў прахожы і пакрочыў па сцежцы.

Усё часцей і часцей траплялiся на яго дарозе вялізныя вываратні, гусцейшай і больш змрочнай рабілася пушча. Падышоў падарожнік да старой паваленай бярозы і ў роздуме спыніўся: перад ім веерам рассыпаліся некалькі сцяжынак у розныя бакі. Куды ісці? Па якой сцежцы рушыць далей?..

— Рукі ўгору! — раптам пачуў ён уладны вокрык.

Вытыркнуліся з кустоў на прахожага амаль упрытык ствалы дзвюх вінтовак. Паволі падняў рукі чалавек і азірнуўся — за яго спінай, з-за дрэў, таксама тырчаць ствалы накіраваных на яго вінтовак. Вынырнуў з кустоў дзед Цімох са стрэльбай у руцэ, учыніў незнаёмцу допыт:

— Хто такі?

— Чалавек, як бачыце… — пачуў ён спакойны адказ.

— Адкуль самі? — зноў пытае Цімох. — Куды ідзяцё?

— Бабруйскі я… кравец з Бабруйска.

— Дзе ж там жывяцё? — пацікаваў дзед.

— На фарштаце.

— І далёка крочыце?

— У Рудабелку. Хачу сёе-тое на харч выменяць.

— Шпігулянт, значыцца, — удакладніў Цімох.

— Які з мяне «шпігулянт»? — горка ўсміхнуўся чалавек. — Сваё барахло нясу. Дзеці з голаду пухнуць.

— Та-ак, — працягнуў дзед Цімох. — Ану, ета… выкладвай сваё барахло, паглядзім, які ты гандляр.

Не спяшаючыся, знімае з плеч сваю торбу падарожнік, пагаспадарску выкладвае ўсе свае рэчы прама на сцежку. Кладуцца на прымятую траву кавалкі мыла, шпулькі нітак, некалькі кавалкаў сала, загорнутыя ў анучкі, пара скруткаў квяцістага паркалю, некалькі пачак сахарыну і дробны россып пакецікаў з фарбай для мануфактуры. Вытрас чалавек пустую торбу, адкінуў яе ўбок. Потым прысеў ля кашолкі. Выняў з яе акуратна складзены, амаль што новы, мужчынскі касцюм, пару жаночых блузак і штук пяць кепак розных фасонаў і колераў.

— Усё! — сказаў чалавек і перавярнуў кашолку на бок.

— Прыйдзецца вам з намі пайсці, — аб’явіў яму дзед Цімох.

— Куды? — незадаволена і з несхаванай падазронасцю спытаў прахожы. — А хто вы такія?

— Мы? — усміхнуўся Цімох. — Паляўнічыя мы. А вось хто вы, нам невядома. Таму і пойдзеце з намі. Ды не ўздумайце ета… уцякаць. Бо застрэлім, — папярэдзіў незнаёмца дзед. — Збірайце свае манаткі!

Укладвае прахожы свой скарб зноў у торбу і кашолку, пытаецца:

— Куды вы мяне павядзеце?

— У Рудабелку, — адказаў Цімох.

— То бэндзе бардзо добже![41] — павесялеў прахожы.

Здзіўлена і яшчэ больш насцярожана акінуў яго позіркам дзед Цімох.

— Пан мувіць па-польскему?[42] То, можа, пан естэм[43] поляк? — спытаў ён.

— Так, поляк, — кіўнуў галавой затрыманы.

— Цікава, — прамармытаў Цімох і распарадзіўся: — Ахрэм і Міхась! Ідзіце на свае месцы. Астатнія са мной, адвядзем пана ў штаб.

Два хлопцы моўчкі знікаюць у кустах і разыходзяцца ў розныя бакі. Незнаёмец ідзе, акружаны вартай на чале з дзедам Цімохам. Спяшаецца дзед Цімох, бадзёра крочыць ён спераду ўсіх, зрэдку азіраючыся на затрыманага. А лес усё гусцей і гусцей. Ужо ў адвячоркавых прыцемках углыбляецца ў пушчу група партызан разам з затрыманым.

Пакой звычайнай сялянскай хаты. Над сталом вісіць дзесяцілінейная газавая лямпа з чорным бляшаным калёсікам замест абажура. Шкло лямпы з аднаго боку закуранае аж да чарнаты, і таму святло падае на адну палавіну стала, пакідаючы ў цяні большую частку пакоя. У вокны прабіваюцца першыя блакітныя водбліскі світанку. Стомлена схіліўся над сталом Максім Ляўкоў. Ляжыць на стале аркуш паперы, на якім выразна выведзена ад рукі: «Пратакол № 4 сходу Рудабельскай Валячэйкі РКП(б)». Ніжэй злева — «Слухалі», а справа — «Пастанавілі». І больш аніводнага слова. Аркуш амаль увесь чысты. Сядзяць на лаўках і табурэтках вясковыя камуністы. Абводзіць позіркам прысутных Максім. Моўчкі сядзяць з засяроджанымі і пахмурымі тварамі Малаковіч, Адзінец[44], Раговіч, Драпеза, Алесь Салавей і Адам Славінскі (той самы чорнабароды «шпігулянт», якога затрымаў дзед Цімох).

— Як будзем рашаць, таварышы? — пытае Ляўкоў у прысутных. — Хто яшчэ хоча слова?

Зноў доўгая напружаная паўза нібы скавала ўсіх. Панура сядзяць людзі. Раптам за акном закрычаў певень, абвясціўшы, што настаў ранак. Міжволі галовы прысутных павярнуліся на гэты крык, да вокнаў. Падняўся Максім з табурэткі, закруціў кнот у лямпе, незадаволена прабурчаў:

— Няўжо так і будзем сядзець моўчкі?

Маўчаць камуністы. Моцна прызадумаўся Адам Славінскі, патанаючы ў клубах тытунёвага дыму. Апусціў галаву Алесь. А за вокнамі ўжо на ўсю моц гарлапаняць пеўні, іх звонкае і хрыплае рознагалосае «кукарэку» гучыць па ўсёй Рудабелцы

як гімн наступіўшаму дню. Самотна задудзела берасцяная жалейка. Пастухі выганяюць кароў. Працягла замычалі яшчэ сонныя каровы… Прачынаецца вёска. Ранішняя музыка ўсё грамчэй б’ецца ў вокны, ужо афарбаваныя ружовым святлом узыходзячага, яшчэ млявага сонца.

— А мо перадумаў? — звяртаецца Ляўкоў да Салаўя. — Мо зразумеў сваю памылку?

Цяжка падняўся з табурэткі Алесь. Падышоў да стала і, звяртаючыся да ўсіх, загаварыў горача, з запалам:

— Не памыляюся я, таварышы! Зразумейце мяне. Не хачу я… не магу дапусціць, каб праз мяне аднаго загінула столькі людзей. Таму і рашыў ісці.

— У пастку? — схамянуўся, ускочыўшы з месца, Драпеза. — Яны ж цябе ўраз расстраляюць!

— Ведаю… і ўсё ж пайду. Я загіну адзін… Адзін! Разумееце? Затое заложнікі, шмат нявінных людзей будуць выратаваны.

— Глупства! — рэзка заключыў Славінскі.

— Якое ж гэта глупства? — па-ранейшаму горача пярэчыць Салавей. — Усе за аднаго, адзін за ўсіх. Я так думаю: камандаванне атрадамі трэба перадаць Нупрэю Драпезу. Партызаны любяць яго і паважаюць.

— А я не прыму! — цвёрда заявіў Драпеза.

І тут ужо не вытрымаў Адам Славінскі. Ён загаварыў узбуджана, натхнёна, аздабляючы беларускую мову польскімі і рускімі словамі:

— Вы чулі? — абвёў ён усіх палымянымі вачыма. — Алесь Салавей думае!.. А партыя не думае? — павярнуўся ён да Алеся. — Партыя таксама думае, ды яшчэ як!.. «Усе за аднаго, адзін за ўсіх»! Бач ты! Граматны!.. Ты хцэш[45] отдаць сваё жыццё ў ахвяру, каб выратаваць людзей?.. Мы цябе за гэта вельмі паважаем. Але і заяўляем: гэта глупства! Так, так, глупства! Балаховіч разам з панствам расстраляе і цябе і ўсіх заложнікаў. У 1917 годзе буржуазія і часовы ўрад Керанскага хацелі судзіць Владзіміра Ільіча Леніна. А тачней, хацелі судзіць нашу партыю. І Владзімір Ільіч сабіраўся явіцца на суд таксама, «один за всех», а партыя яму забараніла! Разумееш?.. Партыя самому Ільічу забараніла. І ён падчыніўся партыйнай дысцыпліне. Разумееш?.. Падчыніўся! А ты?.. Ты што? Лічыш сябе разумнейшым за Леніна?..

Алесь стаіць у роздуме, апусціўшы галаву. Славінскі падышоў да яго ўпрытык і паклаў яму на плячо руку.

— Цо ніц не мувіш?[46]

Алесь маўчаў. А Славінскі працягваў сход:

— Уездны камітэт партыі атрымаў звесткі аб тым, што ўпраўляючы маёнткам барона Урангеля Бістром[47] паслаў генералам тэлеграму з просьбай узяць пад ахову яго рудабельскі маёнтак. Не сёння, дык заўтра палкі белых пасунуцца на Рудабелку. Укам даў загад сабраць усе сілы і даць белагвардзейскаму воінству рашучы адпор. Савецкая ўлада ў Рудабелцы павінна застацца непахіснай. Трэба неадкладна адправіць партызанскія атрады на шляхецкія засценкі[48] і хутары. Канфіскаваць усю зброю поўнасцю, нават паляўнічы порах і дубальтоўкі. За Бярэзінай знаходзяцца часці 16-й Чырвонай Арміі. Хутка коннікі корпуса Гая[49] рынуцца ў наступленне. Неабходна сувязь. Неабходзен агульны план разгрому праціўніка. Патрабуецца сувязь з ЦБ РКП(б) у Мінску. Абяцаю аказаць дапамогу зброяй і боепрыпасамі. На сувязь з корпусам Гая неабходна выслаць Максіма Ляўкова. У Мінск па зброю да таварыша Мяснікова[50] пасляць Нупрэя Драпезу.

І ўжо звяртаючыся толькі да Алеся і гледзячы яму прама ў вочы, пытае Адам Славінскі:

— Ну вось, цяпер пасудзі сам. Ці ёсць сэнс ісці табе з пакаяннем да Балаховіча?.. Ты зразумеў?

— Зразумеў, — ціха вымавіў Алесь. — Няхай будзе паводле вашаму.

— Даўно б гэтак, — цёпла і сардэчна ўсміхнуўся Адам Салаўю. — І запамятай: прыгожыя жэсты партыі не патрэбны. Яна іх не прымае. Прыгожыя жэсты — гэта як бенгальскі агонь: свеціць, ды не грэе. А калі нават прыйдзецца памерці, дык памры так, каб была карысць агульнай справе.

У дзверы пастукалі ціха, але настойліва. Змоўклі камуністы, пераглянуліся.

— Таварышы, можна да вас? — пачуўся за дзвярыма жаночы голас.

Адчыніліся дзверы, і на парозе вырасла мажная постаць Гапулі Суніцы.

— Таварышы, людцы мае добрыя, — засакатала Гапуля. — Ці ж вы часам не здурэлі?.. Есці вам калі-небудзь трэба? Ці мо святым духам думаеце пражыць?.. Да вячэры не дазавешся, сёння зноў тое ж самае. Я ўжо і зацірку зварыла, і дранікаў напякла. Ідзіце снедаць, зрабіце ласку!

— Зараз, зараз, — супакоіў яе Максім Ляўкоў. — Зараз прыйдзем, цётачка Гапуля.

— Ведаю я ваша «зараз», — не сунімаецца Гапуля. — Пакуль вас дачакаешся, і зацірка мая пастыне і дранікі задубеюць. Ідзіце,

ідзіце снедаць!.. Не ўгінайцеся! Захланецеся ад голаду, што тады мне партызаны скажуць? Голадам камандзіраў замарыла?..

— Ідзем ужо, ідзем! — мякка падпіхнуў да дзвярэй цётку Гапулю Максім.

— Ці мо вам не па густу мой харч? — пакрыўджана скрывіла рот Гапуля, вось-вось расплачацца. — Мо не смачна гатую? Дык даруйце, у лістаранах не працавала… Ужо ж і не ведаю, як вам дагадзіць… — у роспачы спынілася Гапуля на парозе, не збіраючыся выходзіць з пакоя.

Максім бездапаможна ўсміхнуўся, разгублена развёў рукамі.

— Цяжкі выпадак, хлопцы. Нічога не зробіш. Трэба ісці. Цётка Гапуля — строгі начальнік… не адверцішся.

— А як вы думалі? — задаволена заўважае Гапуля. — Кожан чалавек у сваёй справе начальнік. Пайшлі, пайшлі, не ўгінайцеся!

З жартамі ідуць камуністы снедаць.

— Алесь! Затрымайся на хвілінку, — кінуў Салаўю Славінскі.

— Пярчыць будзеш? — пытае Алесь, вярнуўшыся да стала і сеўшы на табурэтку.

— Навошта пярчыць? — супакоіў яго Адам. — Параіцца трэба, выясніць сёе-тое… Скажы мне, Алесь, хто табе перадаў прапанову аб тваёй добраахвотнай яўцы да Балаховіча?

— Балаховіч, — спакойна адказаў Алесь.

— Сам Балаховіч? — усміхнуўся Адам. — Прыйшоў і сказаў?

— Ён прыслаў да мяне аднаго заложніка… брата маёй жонкі… Ларыка Слімака.

— Жартуеш? — нахмурыўся Адам.

— Не, не жартую. Кажа, што ўцёк. І сюды, да мяне.

— Даўно?

— Бадай, дзён пяць будзе…

— Та-а-ак, — задумліва працягнуў Славінскі. — А дзе ён?

— Пакуль што са мной.

— Ты яго добра ведаеш? Што ён за чалавек?

— Хлопец як хлопец… як і ўсе. Праўда, я шэсць гадоў не быў дома. Можа, і перамяніўся. Веры яму я не даю. Прыглядаюся.

— Пакліч яго сюды. Зараз жа, — загадаў Адам.

Алесь пайшоў. Славінскі наблізіўся да акна, з якога была відаць уся вуліца. Ён убачыў, як крочыць Алесь, як яго зграбная і дужая постаць знікла за рогам хаты. Нейкі час Адам стаяў і назіраў

за жыццём вуліцы. Вось прайшла жанчына з поўнымі вёдрамі на каромысле, па шырокай вуліцы нага ў нагу, па-вайсковаму, прамаршыравала група партызан у стракатым адзенні. Хто ў чым — адны ў зношаным салдацкім абмундзіраванні, другія ў палатняных штанах, саматканых кашулях, амаль трэць абутыя ў лапці. За плячыма вінтоўкі, за паясы заткнуты абрэзы, у сяготаго матляецца збоку на вяровачцы шабля без партупеі.

А вось і Алесь з Ларыкам, яны выйшлі з-за рога хаты. Твар у Салаўя пахмуры, засяроджаны, ён ідзе ўпэўненай хадой, крок яго шырокі, цвёрды. Ларык жа побач дробненька перабірае нагамі, каб не адстаць ад Алеся. Нешта ўзбуджана гаворыць ён Салаўю, размахваючы рукамі і раз-пораз забягаючы наперад, каб лісліва зазірнуць Алесю ў вочы. Вось яны пераходзяць ужо вуліцу. Славінскі адышоўся ад акна і прысеў за стол. У сенцах пачуліся крокі, дзверы адчыніліся, і ў пакой увайшлі Алесь і Ларык.

— Дзень добры! — прывітаўся Ларык і раптам застыў ад здзіўлення, утаропіўшыся на Славінскага.

— Здарова, здарова, стары знаёмы, — адказаў Адам. — Садзіся. — І ён жэстам паказаў Ларыку на табурэтку.

— Пастаю. Не вялікі пан, — сказаў збянтэжаны Ларык.

— Сядай, сядай! Старыя людзі кажуць, што ў нагах праўды няма, — усміхаецца Адам. — Пазнаў мяне?

— Ото ж не пазнаць… пазнаў, — нехаця адказаў Ларык, сядаючы на табурэтку.

Здзіўлена глядзіць на іх Алесь, пераводзячы позірк з аднаго на другога.

— Дык вы знаёмыя? — пацікаваў ён.

— Ото ж… знаёмыя, — буркнуў Ларык. — Я ў іх сала на мыла выменьваў.

— Даўно з Карпілаўкі? — задае пытанне Ларыку Славінскі.

— А ўжо дзён пяць будзе.

— Бач ты яго! Раней за мяне паспеў, — адзначыў Адам. — А цяпер скажы нам, хлопец, толькі праўду кажы. Хто цябе накіраваў у Рудабелку?

— А вам якая да етага справа? — нахабна адказаў пытаннем на пытанне Ларык. — Вы што, начальнік? — з’едліва дадаў ён.

— Не агрызайся, — умяшаўся Алесь. — Адказвай на пытанне.

— Дзіўна! А я думаў, што ў Рудабелцы вышэй за Алеся начальнікаў няма, — зноў з’едліва сказаў Ларык.

— Ёсць. Адказвай на пытанне: хто цябе накіраваў у Рудабелку? — ужо ўладна прыказаў Салавей.

— Я ж табе казаў, — ухіляецца Ларык. — Бяда мяне сюды прыгнала… Марыну трэба ратаваць. Загіне яна!.. Вось і прыйшоў да цябе за паратункам… каб параіцца, што рабіць.

— Толькі таму і прыйшоў? — спытаў Славінскі.

— А ці мала?.. Сястра яна мне, не абы-хто, — захваляваўся Ларык. — Табе, вядома, лягчэй, — папракнуў ён Алеся. — Матку тваю аслабанілі, а жонку… жонку і другую можна знайсці!

— Сціхні ты! — рвануўся да Ларыка Алесь. — Сціхні, пакуль я…

— Што ты?.. Што?.. Біць мяне будзеш?! — ужо крычыць Ларык, спахапіўшыся з табурэткі. — На, бі!.. Балахоўцы мяне каталі, а цяперака вы будзеце?! — істэрычна зароў Ларык. — Усе начальнікамі сталі!.. Паны — начальнікі! Балахоўцы — начальнікі! Бальшавікі таксама начальнікі! Куды дзявацца гаротнаму чалавеку?!

Змоўк Ларык, цяжка дыхаючы. Нават спацеў ад крыку.

— Та-а-ак, — задумліва сказаў Адам Славінскі. — Садзіся, хлопец, на сваё месца, супакойся і не крычы. Ніхто цябе біць не збіраецца.

Ларык неахвотна сеў на табурэтку.

— Давай пагаворым спакойна, — працягваў Адам. — Вось скажы ты мне, чаму ты гэтак хвалюешся, чаго крычыш?

— Як жа мне не хвалявацца! — зноў ускочыў Ларык. — Марыне смерць пагражае, а ён… — кіўнуў на Алеся Ларык, — а ён ні куе, ні меле… Быццам ета яго не датычыць.

— Што ж па-твойму ён павінен рабіць?

— Ён сам ведае. Добра ведае — што! — зноў гарачыцца Ларык. — Або самому явіцца, каб выратаваць заложнікаў, або… — Ларык раптам змоўк, не даказаўшы думкі.

— Далей, далей! — падбадзёрыў яго Адам. — Або што?

— Або наляцець на Карпілаўку і адбіць людзей. Нельга іх пакідаць на пагібель! — цвёрда заявіў Ларык. — Партызаны к бою гатовы, зброі хапае… нават кулямёты ёсць. Чаго чакаць?

— А ты адкуль пра кулямёты ведаеш? — раптам схамянуўся Алесь, падазрона гледзячы на сваяка.

— Не сляпы, бачу, — нехаця і спалохана прабурчаў Ларык, сеўшы на табурэтку.

— Та-а-ак… А табе вядома, што заложнікаў у Карпілаўцы няма? Табе вядома, што іх ужо… — раптам у адкрытую загаварыў Славінскі. Але яго перабіў Алесь.

— Забілі?!.. — трывожна спытаў ён.

— Пакуль што не. Адправілі ў Бабруйскую крэпасць[51], — супакоіў яго Адам. І дадаў: — І маці тваю.

— Чаму ж ты мне адразу пра гэта не сказаў?! — накінуўся Алесь на Ларыка.

Ад гнеўнага позірку Салаўя спалоханы Ларык скурчыўся, уцяў галаву ў плечы і, гледзячы сабе пад ногі, няўцямна прамармытаў:

— Я не ведаў… ета, мусіць, пасля таго… як я ўцёк.

— Не ведаў?!.. Дзякую табе, сваячок, — цэдзіць скрозь зубы абураны Алесь, не спускаючы гнеўных вачэй з Ларыка. — Ён не ведаў, а з прапановай явіўся. Пойдзем!

— Куды? — насцярожыўся Ларык.

— Там убачыш. Апошні раз пытаюся, — гаворыць Алесь, устаючы з месца, — хто цябе сюды паслаў?

— Ніхто мяне не пасылаў!.. — зноў істэрычна зароў Ларык. — Гора мяне сюды пагнала! — ён ледзь не плакаў.

— Сціхні! — грозна загадаў яму Алесь. — Не глухія!.. — і больш спакойна дадаў: — Пакуль не скажаш, хто цябе паслаў і што табе даручылі, з Рудабелкі не выйдзеш. Зразумеў?

— Значыцца… я… арыштант? — з адчаем і выклікам спытаўся Ларык.

— Не арыштант, а часова затрыманы… да высвятлення некаторых пытанняў, — паясніў Алесь.

— Ну што ж… няхай будзе етак, — шумна перавёў дух Ларык. — Няхай да высвятлення… Папаўся ў нерат — ані ўзад, ані ўперад… — неяк неакрэслена сказаў ён. — Дзякуй табе, сваячок. Калі-небудзь і я цябе аддзякую, зраблю такую ласку.

— Пагражаеш?

— Не… не пагроза ета… але адгукнецца.

— Ідзі наперад! — загадаў Алесь. — І глядзі мне, каб без крыку, без ляманту!

Апусціўшы галаву, Ларык выходзіць з хаты. За ім, пераглянуўшыся, пайшлі следам Алесь і Славінскі.

Па шырокай, укачанай драбінамі вуліцы, крочыць Ларык пад канвоем дзеда Цімоха. Расхлябаная хада, расхрыстаная на голых грудзях кашуля і ўвесь нахабны выгляд Ларыка прымушаюць прахожых спыняцца і зацікаўлена пазіраць на арыштаванага. Крочыць Ларык, а ззаду з вінтоўкай ледзь паспяшае за ім, драбненька перабіраючы нагамі, дзед Цімох, зрэдку выціраючы з твару пот рукавом сваёй кашулі. Яны праходзяць міма вялікай

хаты, крытай драніцай. Над ганкам кідаецца ў вочы жасцяная шыльда: «Рудабельчаскі валасны рэвалюцыйны камітэт». Над дахам палошчацца на лёгкім ветрыку вялікі чырвоны сцяг. На сценах з бярвення па абодва бакі ганка расклеена газета «Звязда». Паблізу стаяць некалькі сялянскіх драбін. Коні прывязаны да плота, а самі вазакі, седзячы на ганку, чакаюць начальства. Насцярожанымі позіркамі праводзяць яны Ларыка і Цімоха, перашэптваюцца.

Крочаць Цімох і Ларык пасярэдзіне вуліцы міма сялянскіх хат, упрыгожаных чырвонымі сцягамі розных памераў і колераў. А побач, на плошчы, ідуць ваенныя заняткі. Паўзводна і па адным вучацца маладыя і пажылыя партызаны калоць штыком ворага, замест якога пакуль што мяхі з саломай, прымацаваныя да спехам збітых станкоў. Гучыць адрывістая каманда:

— Уперад!.. Штыком калі!.. Назад прыкладам бей!..

Старанна выконвае малады партызан каманду. З разгону ўтыркае ён штык у мех з саломай, нібы ў свайго ненавіснага ворага. Воддаль займаецца конная разведка. Там таксама гучыць каманда:

— Вольт направа!.. Вольт налева!.. Аддай стрэмя!..

Аддалі стрэмя коннікі, падскокваюць у сёдлах. Сёй-той з непрывычкі хіліцца набок і хапаецца рукамі за грыву каня. Апрануты ўсе па-рознаму: хто ў гімнасцёрках, хто ў кашулях, пінжаках, а некаторыя ў галіфэ, а боты нават са шпорамі. Прыцішыў крок Ларык, уважліва назірае. Потым узняў галаву — і ўбачыў чырвоны сцяг над купалам царквы. Павярнуўся да Цімоха, спытаў з’едліва:

— І царкву зачынілі?.. Стайню зрабілі. А папа куды падзявалі?.. Мо ў палітрукі пайшоў?

— Ты што ета вярзеш? — абурыўся дзед Цімох. — Поп, кажуць, у Бабруйск падаўся.

Нейкі час ідуць моўчкі.

— За што ён на цябе ўзлаваў? — пацікаваў Цімох.

— За праўду… праўду яму ў вочы пальнуў, — злосна адказаў Ларын. — Вялікім начальнікам стаў… А начальству праўда заўсёды ў нос коле.

— А той хто будзе?.. З барадой чорнай? — зноў пытае дзед.

— Той?.. Нейкае партыйнае начальства. Дужа вялікае.

Цімох нават спыніўся, пачуўшы гэтыя словы.

— Дзіўна, — паківаў ён збянтэжана галавой. — А я думаў, ета… шпігулянт нейкі…

— Куды ты мяне вядзеш? — раптам пытае Ларык.

— Вяду, куды загадана, — строга сказаў Цімох. — У лазню да Восіпа Сцяпуры. Ідзі, ідзі, не аглядайся!

— Парыць будуць? — усё з той жа злосцю дапытваецца Ларык.

— А што?.. Калі прыкажуць, дык і папарым, — абыякава адказаў дзед.

Апусціў Ларык галаву, пакрочыў хутчэй.

Выйшлі яны за аколіцу на бераг рэчкі Нератоўкі[52]. Падвёў дзед Цімох Ларыка да свежарубленай лазні і адчыніў яму дзверы.

— Заходзь!

Сагнуўся Ларык, каб не выцяцца аб вушак, і ступіў у прылазнік. Зачыніў дзед Цімох дзверы, павесіў на іх вялікі замок. І тут жа ўсеўся на валун, што ляжаў ля сцяны лазні, не выпускаючы з рук вінтоўкі.

Цёплая летняя ноч. Па небе, як пасля навальніцы, хутка нясуцца шматкі чорных хмарак, раз-пораз закрываючы поўню. Парывісты вецер прыгінае долу лазнякі, разгойдвае вершаліны дрэў. Калі-нікалі выплыве з-за калматых хмар поўня — і тады рабізна на Пцічы, залітая месячным святлом, нагадвае доўгую бліскучую стужку, перакінутую на другі бераг. Глуха і трывожна шамаціць у цемры прыбярэжны чарот. Але зноў вынырнуў месяц з-за хмар і заліў усё наваколле прывідным блакітным святлом.

У кустах крутога берага ўзнікла нейкая цьмяная пляма. Яна пасоўваецца ў бок ракі ўсё бліжэй і бліжэй. Ля зламанага рачнога створу ўзнікла чалавечая постаць. Наблізіўся чалавек да сігнальнага створу і па вузкай сцяжынцы спусціўся да вады. Уважліва і насцярожана ўглядаецца ён у бераг ракі, у прыбярэжныя чараты і, прытуліўшыся да абрывістага берага, замірае. Выплыў месяц з-за хмар — і асвяціў твар Максіма Ляўкова. Прыгнуўся Максім ледзь не да самай зямлі, прыклаў рупарам далоні да вуснаў і… завыў. Вые Максім, паступова выпрамляючыся на ўвесь свой рост. Жудаснае воўчае выццё разносіцца над ракой і недзе далёка замірае. Зноў прыціснуўся Максім да абрыву, які амаль навіс над вадой. Стоячы на вузенькай палосцы зямлі, ён намагаецца зліцца з берагам, каб стаць непрыкметным, нябачным. Ціха. Таямніча шамацяць чарацінкі, глуха палошчацца ля ног вада. Зноў прыгінаецца Максім і пачынае «вабіць» да сябе ваўка… нуднае жудаснае выццё зноў разносіцца па рацэ. Прыслухоўваецца Максім у чаканні. І не дарэмна. Недзе вельмі блізка, амаль побач азваўся… балотны

бугай. І адразу ж з чаратоў вытыркнуўся нос чаўна-даўблёнкі. На карме, стоячы на каленях, грабе вяслом карпілаўскі рыбак. Човен мякка ўткнуўся ў бераг.

— Сядай хутчэй, — свісцячым шэптам падае каманду рыбак.

Адпіхнуў Максім човен ад берага і сеў побач з рыбаком. Некальні ўзмахаў вяслом — і даўблёнка зноў нырнула ў чарот. На маленькай затоцы сярод чарацінак лёгка гайдаецца човен. Шчыльнай сцяной акружылі яго чараты, хаваючы ад варожых вачэй. Толькі цяпер запытаўся ў рыбака Максім:

— Як бераг?

— Пакуль што ціха. Не так даўно праехаў конны раз'езд. Цяперака, мусіць, да раніцы нікога не будзе.

Зірнулі абодва на неба — плывуць па ім маленькія шматкі хмарак, ярка свеціць поўня. Але вось напаўзла на яе вялікая хмара — і ўсё наваколле разам з ракой патанула ў непрагляднай цемры.

— Налягай! — шэпча Максім.

Імклівымі штуршкамі нясецца човен у бок супрацьлеглага берага. Грувасцяцца на небе хмары, захінаюць поўню чорным змрокам. Глуха і трывожна шамацяць чараты, маркотна і нудна плешчацца рака.

Вялікая сялянская хата запоўнена людзьмі штаба коннага корпуса Гая. У кутках, на лаўках раскладзена зброя і сякая-такая амуніцыя. На шырокім стале грудай ляжаць тапаграфічныя карты — «дзесяцівёрсткі» і «трохвёрсткі». Да сцяны прымацавана вялікая карта, утырканая чырвонымі сцяжкамі, якія абазначаюць лінію фронту. Ля карты стаяць камкор Гай, Ляўкоў, малады чубаты камандзір эскадрона і высокі барадаты коннік, які сваім тварам і постаццю вельмі нагадвае легендарнага Дыбенку[53]. Абводзіць камкор тупым канцом алоўка крывую, ламаную лінію фронту. Мусіць, тлумачыць баявую задачу.

— Напамінаю яшчэ раз, — кажа камкор Ляўкову і камандзіру эскадрона. — Вы павінны быць на месцы чацвёртага чэрвеня. Вось тут. — Ён ужо каторы раз абводзіць алоўкам крывую лінію. — Рака Пціч дужа пятляе… Тут, — зноў паказвае алоўкам Гай, — сем мастоў. А брады ёсць? — раптам пытаецца ён у Ляўкова.

— Два. Падыходы да іх забалочаны, — адказаў Максім.

— Вельмі добра, дарагі… Перадай Салаўю, хай ён да чацвёртага чысла выставіць на брадах моцныя партызанскія заслоны.

Масты знішчайце… узрывайце, паліце, пілуйце. Рабіце ўсё так, як падкажуць абставіны. У вас двайное заданне: пазбавіць праціўніка магчымасці атрымліваць падмацаванне і боезабеспячэнне ў самым пачатку бою. І другое: не даць яму магчымасці адступаць пры разгроме. Задача зразумела?.. Пытанні ёсць?

— Усё ясна, — амаль разам адказалі камкору Ляўкоў і камандзір эскадрона.

— Што на пераправе? — зноў запытаў у Ляўкова Гай.

— Усё ў парадку, — коратка адказаў той. — Паплаўкі гатовы.

— Вельмі добра, дарагі, — пацiснуў камкор руку Максіму. — Аб'яві, калі ласка, сялянам падзяку ад імя камандавання. Прыступай, дарагі. Ні пуху ні пяра.

Па-вайсковаму адказырнуў Максім камкору і выйшаў.

— Табе, камандзір, дадатковае заданне, — звяртаецца камкор да камандзіра эскадрона. — Пойдзеш на злучэнне з партызанамі. Ты павінен дэзарганізаваць тыл праціўніка. Падзялі эскадрон на ўзводы. Нападай на праціўніка адначасова ў розных месцах. Каб вораг думаў, што ў яго тылах дзейнічае вялікая армія. Нападай смела, рашуча, і галоўнае, знянацку, а сам заставайся няўлоўным. Бярэзіну фарсіраваць зараз жа і непрыкметна. Ідзі выконвай.

— Ёсць ісці выконваць! — і, ліха адказырнуўшы, камандзір эскадрона накіраваўся да выхаду.

— Адну хвілінку! — затрымаў яго камкор. — Не забудзь пра мясцовых жыхароў. Разлічвай на іх падтрымку. Гэта край непакораных, і называюць яны сябе горда — Рудабельская савецкая рэспубліка. Зразумеў?.. Коні фуражом, а байцы харчам будуць забяспечаны.

Яшчэ раз адказырнуўшы, камандзір эскадрона выйшаў.

Густы перадсвітальны туман, быццам клубы белага дыму, ахінуў, засланіў ад вачэй і раку, і абодва берагі. Нейкія цені бязгучна, як здані, пасоўваюцца па пясчанай водмелі. У іх угадваюцца постаці сялян (іх дзесяткі тры), яны робяць нейкую спешную справу. Ціха палошчуцца рачныя хвалі, і чамусьці незвычайна шамацяць нябачныя ў тумане чараты. Мільгаюць постаці-здані туды-сюды, складваюць яны ля самай вады вялікія снапы чароту. Жнуць сярпамі чарот сяляне, кладуць вялікімі ахапкамі, звязваюць у снапы. Ідзе па беразе Максім Ляўкоў і бязгучна варушыць вуснамі — падлічвае снапы. Падыходзіць ён да аднаго селяніна і шэпча:

— Колькі?

— Не менш як сотні тры будзе. Па два на каня… у самы раз, — зашаптаў той у адказ.

— Хопіць, — рашае Максім і дадае: — Вядзі людзей у вёску. Адпачыць, абсушыцца.

Радзее туман. Мокрыя, завэдзганыя сяляне падышлі да Максіма, пытаюць:

— Усё?

— Усё. Досыць. Ад чырвоных камандзіраў усім вам падзяка, таварышы, за падмогу.

Горача зашапталі сяляне:

— За што тут дзякаваць!.. Дайце балахоўцам па карку, каб з іх чэрці павысыпаліся… Ото і будзе падзяка.

— А цяпер па хатах… ды не кучай, а па адным ці па два… і ціха, — параіў сялянам Максім.

Ва ўсе бакі рассыпаліся людскія постаці, расталі ў тумане, як быццам і не было іх. А на тое месца, дзе толькі што працавалі людзі, ціхім крокам паўзводна выехалі коннікі і спыніліся ля чарацяных снапоў. Падводзяць аднаго каня да Максіма. Паспешна прывязвае ён снапы пад крылы сядла з абодвух бакоў, укараціў стрэмя і ціха кажа камандзіру эскадрона:

— Чакайце сігналу куліка.

Згодна кіўнуў галавой камандзір. Ускочыў Максім у сядло. Асцярожна ідзе ў ваду конь, фыркае. І вось ужо ён плыве на сярэдзіне ракі. Лёгка трымаецца на вадзе конь, падтрымліваюць яго чарацяныя паплаўкі. Не відаць ужо ні каня, ні Максіма, зніклі яны ў тумане супрацьлеглага берага.

Знакам падае каманду камандзір. Паспешна прывязваюць коннікі чарацяныя паплаўкі да сёдлаў. Яшчэ адна каманда — ускочылі яны на коней, ускінуліся ўгору пікі. Чакае камандзір сігналу, углядаючыся ў супрацьлеглы бераг. Ціха. Але вось над ракой прагучаў меладычны і звонкі посвіст куліка. Нахіліў камандзір піку ў бок супрацьлеглага берага — і рушылі коннікі, пяшчотна гладзячы сваіх коней, падбадзёрваючы іх. Фыркаюць коні, прывычна і лёгка плывуць яны. А калі выплылі на другі бераг і апошнія коннікі строем па тры нырнулі ў пушчу — тройчы пракрычаў над ракой кулік.

Адвячорак. Сонечныя праменні залацістай чырванню адбіваюцца на крыжах і купалах царквы. За нізкай мураванай царкоўнай агароджай шумна і весела. На цвінтары чародка маладых партызан гуляе ў «чмяля». Як вужака, выгінаецца юнак паміж двух сваіх партнёраў. Ляскае ён то аднаго, то другога па

шчоках, якія «праціўнікі» закрываюць далонямі, а сам спрытна ўхіляецца ад іх udараў.

— Ж-ж-з-з-ж-ж-з-з-ж-ж-з-з… — гудзіць па-чмялінаму хлапчына, наганяючы страх.

— Лясь!.. Лясь!.. — шчоўкаюць яго аплявухі. Выгінаецца хлапчына, спрытна ўхіляецца ад аплявух сваіх праціўнікаў, то маланкай прысеўшы да зямлі, то стралой шугануўшы ўбок.

— Га-га-га-га!.. — рагочуць шматлікія гледачы.

— Э-эх, няўмекі! — насмешліва крычыць адзін партызан. — Я б даўно збіў з яго картуз!

— Ану, станавіся! Збі! — прапануе яму адзін з ігракоў і ўвесь потны і расчырванелы ўступіў сваё месца.

Заняў той зыходную пазіцыю, прыкрыў левай рукой правую шчаку, а другую выцягнуў для ўдару.

— Ж-ж-з-з-ж-ж-з-з… — гудзе, як чмель, юнак, выгінаецца, падманвае партнёраў прытворнымі рухамі, а твар яго жывы, свавольны, гарэзлівы — не твар, а «пантаміма».

— Лясь!.. Лясь! — раздае ён аплявухі налева, направа.

— Гы-гы-гы!.. — задаволена рагочуць балельшчыкі. — Атрымаў, умека?.. Лясні яму, Рыгорка, яшчэ разік!

А на густой траве прасторнага царкоўнага двара яшчэ адна чародка партызан — тут ідзе «цыганская» барацьба. Кладуцца барцы на траву і па камандзе «тры» — намагаюцца перакуліць праціўніка цераз галаву. Кулём коціцца па траве няспрытны барэц.

А воддаль, пад разгалістым клёнам, арудуе ля паходнай салдацкай кухні цётка Гапуля.

— Гэй!.. Шалапуты! — нязлосна крычыць Гапуля. — Дакуль ета я буду чакаць? Бярыце вячэру!

Ідуць да яе партызаны з кацялкамі, міскамі, каструлямі, вёдрамі. Лапоча языком, лагодна ўсміхаецца, шуруе чарпаком у вялізным катле нястомная цётка Гапуля, налівае зацірку байцам і па-мацярынску сардэчна пытае:

— Мо дабавіць?

— Хопіць, цётачка Гапуля!.. Хопіць!

Амаль апошнім падышоў да Гапулі дзед Цімох. Ён са сваёй неразлучнай вінтоўкай, як з паляўнічай стрэльбай. Падстаўляе Цімох пад Гапулін чарпак тры кацялкі, незадаволена бурчыць:

— Зноў зацірка?

— А табе што? — добразычліва адгукаецца кабета. — Марцыпанаў закарцела?

— Абрыдла ета зацірка… каб чаго смачнейшага.

— А ты на сняданак прыходзь. Я цябе нетавай ікрой пачастую, — весела сакоча Гапуля. — Навошта тры кацялкі падстаўляеш? Няўжо адзін з’ясі? Табе ж ета зацірка абрыдла!

— Сабе, майму зменшчыку Лявону Шарамету і таму… арыштанту, — растлумачыў Цімох.

— Арыштанту таксама трэба, і ён есці хоча, — згаджаецца цётка Гапуля, шчодра наліваючы ў кацялкі зацірку. — А завошта яго пасадзілі? — пытаецца яна.

— А ліха яго ведае, — бурчыць Цімох. — Сам ён не кажа, а я не пытаўся, — выкруціўся дзед.

Асцярожна нясе кацялкі дзед Цімох па вуліцы, баючыся разліць вячэру. Падбег да яго хлапчук гадоў дванаццаці.

— Дзед Цімох, давай падсаблю!

— Падсабі, сынок, падсабі, — ахвотна згаджаецца дзед і падае адзін кацялок хлапчуку. — Глядзі ж, не разлі!

— А стрэльбу паднесці дасьцё? — пытае старога малец. І такая просьба, такое маленне адбілася на яго твары, што не вытрымаў дзед. Паставіў кацялкі на траву, зняў з пляча вінтоўку і падае хлапчуку. У таго твар ажно свяціўся ад шчасця. Ліха ссунуў на патыліцу малец свой абшарпаны картузік, няўмела ўскінуў на плячо вінтоўку.

— Пайшлі! — падаў каманду.

— Пайшлі, ваяка! — падтакнуў Цімох.

І пакрочылі яны ўздоўж вуліцы, намагаючыся ісці пасалдацку, у нагу. Горда крочыць хлапчук, раз-пораз папраўляючы за спінай вінтоўку.

— Дзед Цімох, а шротам з вінтоўкі страляць можна?

— Не, шротам зайцоў б’юць. А балахоўцаў трэба куляй страляць.

— А вы хоць аднаго забілі?.. А ці праўда, што балахоўцы панам боты ліжуць? — закідаў пытаннямі старога хлопчык.

— Во ета дык праўда, што ліжуць, — пацвердзіў дзед Цімох. — І не толькі боты.

Так яны ідуць па вуліцы, старое і малое, разважаючы на розныя, хвалюючыя іх тэмы. Спыніўся на хвілінку малец перад плакатам, а на ім ліхі коннік з клінком у руках і ў будзёнаўцы. А ўнізе подпіс: «Пралетарый, на каня!»

— Дзед Цімох, а мяне ў партызаны возьмуць?

— Ты ж даўно ета… партызан. Усе мы тутака партызаны. Ад старога да малога… усе як адзін, — тлумачыць Цімох. — Пойдзем, зацірка астыне.

— А чаму ж тады мне стрэльбу не даюць? — не сунімаецца хлапчук.

— Дадуць, дадуць, — абнадзейвае Цімох. — Крыху падрасцеш і дадуць. — Пойдзем хутчэй, — прыспешае Цімох. — Чакаюць там нас.

— А я сабе падпеканку зрабіў, — таямніча загаварыў малец і выняў з кішэні самаробны пугач. — Толькі страляць няма чым… сярнічак няма.

— Грозная зброя, — усміхнуўся дзед. — Ты не сумуй… сярнічак я табе дабуду.

Гэтак разважаючы «на роўных», выходзяць яны на бераг Нератоўкі. Падышлі да валуна, які ляжаў ля дзвярэй лазні. Здзіўлена азіраецца па баках дзед Цімох, не знаходзячы вартавога. На траве ля валуна ляжыць ахапак надранага лыка, а на валуне стаіць пара новенькіх лапцей. Адзін лапаць гатовы, а другі яшчэ не даплецены. Побач з ім валяецца нейкая жалязяка, накшталт падкавыркі. А дзе ж вартавы?.. Можа, у кустах? Асцярожна, каб не разліць, ставіць Цімох кацялкі з заціркай на валун.

— Давай стрэльбу, сынок, — з хваляваннем, адчуваючы нядобрае, кажа Цімох хлапчуку.

Той з жалем аддае вінтоўку. Ужо трывожна азірае Цімох наваколле. Мо на рэчку пайшоў Лявон? Павярнуўся дзед да прыбярэжных кустоў, углядаецца.

— Ляво-о-он!.. Дзе ты дзеўся, Ляво-о-о-он!

Ні гуку ў адказ. Цімох пайшоў за лазню.

— Ляво-о-он!

Падышоў да дзвярэй і забарабаніў кулакамі.

— Ларык! — паклікаў.

І адтуль ні гуку. Дастаў Цімох з кішэні ключ, пачаў адмыкаць замок — вылецеў прабой, з грукатам ударыўся аб вушак і павіс на клямцы. Страшэнная здагадка паласнула па сэрцы. Асцярожна адчыніўшы дзверы, Цімох ступіў у лазню.

— Лявон!.. Лявон! — данёсся адтуль спалоханы крык старога.

Як апараны выскачыў дзед з лазні. Твар яго перакрыўлены страхам і гневам. Ускінуў Цімох вінтоўку і… бах!.. бах!.. бах!.. Пяць разоў стрэліў у неба і, калі затвор шчоўкнуў ухаластую, крыкнуў хлапчуку:

— Бяжы!.. Бяжы хутчэй, сынок!.. Кліч людзей, камандзіраў! Тут забойства!

Куляй паляцеў хлапчук па вуліцы. А насустрач яму ўжо бягуць устрывожаныя партызаны. Стоўпіліся людзі ля дзвярэй

лазні ўсхваляваныя, заклапочаныя. Вынеслі абмяклае цела Лявона і тут жа, ля валуна, асцярожна апусцілі на траву. Заліты крывёю твар партызана, і хоць цяжка, але можна пазнаць у ім таго селяніна, які надзіраў лыка ў пушчы і першы сустрэў Адама Славінскага. Абступілі партызаны Лявона, стаяць маўкліва, панура. Пачуўся тупат конскіх капытоў. Поўным кар'ерам падскакалі да лазні Алесь Салавей і Нупрэй Драпеза. Асадзілі коней. Саскочыў Алесь. Расступіўся натоўп, даючы праход камандзіру. Нахіліўся над Лявонам Алесь, узяў яго за руку, памацаў пульс, адрывіста сказаў:

— Падводу!.. Зараз жа адвезці яго ў бальніцу. Жывы яшчэ. Хутчэй!

Кінуліся некалькі чалавек выконваць загад.

— Цімох, як гэта здарылася? — пытае ў старога Алесь.

— А хто ж яго ведае, — у роспачы адказаў Цімох, развёўшы рукамі. — Прыйшоў я на змену… гляджу — няма Лявона, гукаю — не адгукаецца. Кінуўся да лазні, а на дзвярах прабой выдзерты. Я ў лазню… ажно бачу — тут ён… Лявон… у крыві ляжыць. Ларыкава ета работа, — выцірае слязу рукавом дзед Цімох.

— Нупрэй! — гукнуў Драпезу Салавей.

— Слухаю! — па-вайсковаму азваўся той.

— Зараз жа пашлі сваіх хлопцаў у пагоню. Перакрыць усе дарогі, усе сцежкі, што вядуць у Карпілаўку, нават звярыныя. Злавіць гэту сволач і прывесці жыўцом. Абмацаць усю пушчу, але злавіць.

— Чорт яго зловіць, — панура буркнуў Цімох. — У злодзея адна дарога, а ў нас сто.

Удвух, утрох памкнуліся людзі Драпезы ў пагоню за Ларыкам у розныя бакі. З тарахценнем пад'ехалі пустыя драбіны з бліжэйшага двара. Асцярожна паклалі партызаны Лявона на дно падводы. Панукнуў каня дзед Цімох — ціха пакаціліся драбіны па вясковай вуліцы, везучы нерухомае цела Лявона. Паволі разыходзяцца жыхары вёскі, прыбегшыя на крыкі і стрэлы Цімоха. Ускочыў на каня Салавей, узмахам рукі затрымаў людзей і цвёрда, безагаворачна загадаў:

— Слухайце, людзі! Па загаду рэўкама ўсе мужчыны павінны ўвечары, як толькі сцямнее, явіцца ў рэўкам са сваёй зброяй і лапатамі. Жанчынам сабраць усе бароны, жалезныя і драўляныя, якія толькі ёсць, і адвезці да царквы.

— Цю-ю-ю-у-у-у! — падзівілася адна жанчына. — А бароны навошта? Ці не бараніць надумаў рэўкам? — не ў час пажартавала яна.

— Там убачыце навошта, — спакойна адказаў Алесь. — Мо і бараніць, і скародзіць давядзецца. — І, кранухўшы каня, Алесь галопам паскакаў, узяўшы кірунак на царкву.

Ноч. Лёгкі ветрык калыша густое невысокае жыта рудабельскага поля. У садах і прыбярэжных кустах дружным хорам спяваюць салаўі. Не спяць салаўі. Не спяць і людзі. У перадсвітальным змроку варушацца людскія постаці, чутна ціхая гаворка, калі-нікалі бразне, заскрыгоча аб камень рыдлёўка. Пад покрывам ночы падпраўляюць партызаны акопы, спяшаюцца. Цёмны насып бруствераў крывой лініяй упіраецца левым флангам у балота, а правым у лес. Дзе-нідзе на брустверах акопаў ужо ляжаць падрыхтаваныя да бою вінтоўкі, абрэзы, драбавікі. Адна за адной пад'язджаюць падводы, нагружаныя жалезнымі і драўлянымі баронамі. Ціха знімаюць жанчыны бароны з падвод і па жывым ланцугу перадаюць партызанам. А тыя нясуць іх за лінію акопаў, у жытнёвае поле. Губляюцца ў прыцемках постаці партызан. Замацоўваюць яны подступы да сталіцы Рудабельскай рэспублікі. На левым флангу, ля балота, дапамагае Алесь паставіць кулямёт «Максім». Набіваюць маладыя партызаны патронамі кулямётныя стужкі. Перасцерагае кулямётчыкаў Алесь:

— Без каманды не страляць… Патроны берагчы… Біць толькі наверняка.

Ідзе Салавей уздоўж акопаў, правярае работу партызан. Коратка дае заданні. А на правым флангу тым жа займаецца Драпеза. З некалькімі партызанамі маскіруе Нупрэй кулямёт, ужо запраўлены стужкай з патронамі. Кулямётнае гняздо зроблена ўмела і тут, у асобным, добра замацаваным акопе. Штук пяць нямецкіх гранат з драўлянымі ручкамі ляжаць у асобнай нішы.

— Добра замаскіраваліся. Даглядзі тут, Нупрэй, а я ў царкву збегаю, — кажа Нупрэю Салавей.

— Памаліцца перад боем? — хітравата ўсміхаецца той. — Каб пан бог перамагчы дапамог?

— Казаў бог, каб сам быў няплох, — у тон Нупрэю жартуе Алесь.

І яго зграбная постаць знікае ў перадсвітальным змроку.

Вось ужо ён сваім лёгкім, пругкім крокам конніка перасек царкоўны двор і падняўся па крутой лесвіцы на званіцу. Стаіць перад кулямётам Даніла, запраўляе стужку. Некалькі ўжо набітых патронамі стужак старанна ўкладвае для падачы дзед

Цімох. У кутку яшчэ адзін пажылы партызан начыняе патронамі запасныя стужкі. Нагнуўся Алесь да кулямёта, мацае рукой кажух.

— Вады залілі?

— Ото ж, — адказаў Даніла. — Вады хопіць. Патронаў дайце паболей.

— Трэба жанчын з дзецьмі ў пушчу адправіць, — нясмела выказаў сваю думку дзед Цімох.

— Рэўкам даваў загад… але ўсе адмовіліся ісці ў пушчу, — адказаў Алесь. — Дапамагаць нам хочуць. Ну, я пайшоў… Вы ж тут глядзіце, без каманды не страляць.

Ужо радзеюць прыцемкі, пабялеў край неба за Рудабелкай, адкуль узыходзіць сонца. Дружным хорам заспявалі салаўі. Змораныя бяссонніцай людзі прымасціліся ў акопах пазручней, адпачываюць. Сёй-той умудрыўся і храпануць. Ціха гойдае густое жыта лёгкі ветрык за брустверам акопаў. Невялікая група партызан заняла баявую пазіцыю ля ўваходу ў акоп сувязі. Узброены хто чым. Ёсць вінтоўкі, ёсць драбавікі, абрэзы. Тут не спяць. Тут напагатове. Кураць, ціхенька перагаворваюцца паміж сабой, абменьваюцца думкамі.

— І адкуль іх халера прынесла на нашу галаву? Тутака самы час сена касіць… трава перастаіць. А нам, ядрона вош, ваяваць трэба.

— Што зробіш… Не будзем ваяваць, дык ета ж зноў прыйдзецца горб на паноў гнуць. Я думаю, людцы мае, трэба нам… — І не паспеў партызан дагаварыць, як пачуўся трывожны крык каршуна:

— Кі-кі-кі!

— Кі-кі-кі! — азваўся яму другі.

Ускочылі ўсе на ногі, сціскаюць у руках зброю, пільна ўглядаюцца за бруствер акопаў. Ужо развіднела. Першы сонечны прамень слізгануў з-за званіцы.

— Кі-кі-кі! — не сціхае трывожны крык «каршуна».

Грымнуў недзе ў канцы поля стрэл, за ім другі, трэці… Рассыпаліся пункцірам балахоўцы, рэдкім ланцужком падступаюць яны да Рудабелкі.

— Усім на свае месцы!.. Падрыхтавацца к бою! — звонка прагучаў у ранішнім паветры голас Салаўя. — Слухаць маю каманду! Па наступаючых бандытах, па злодзеях-крывасмоках… па панскіх прыхваснях рэдкі агонь — плі!

— Бах!.. Бах!.. Бах!..

Загучалі рэдкія стрэлы з акопаў. Старанна бяруць на мушку праціўніка партызаны, каб не страляць ухаластую, каб збе-

рагчы патроны. А балахоўцы ўсё бліжэй, бліжэй… падаюць яны, забітыя, то там, то тут, падаюць і жывыя, каб упаўзці з поля бою, шукаючы паратунку. Увайшлі балахоўцы ў жыта і адсюль адкрылі агонь. Засвісталі над брустверам кулі. І раптам разамкнуўся ланцуг балахоўцаў, расступіліся яны ўправа і ўлева, аслабанілі шырокі праход метраў на дзвесце, а мо і трыста. І адразу ж выскачыла з бярэзніку конніца, імкліва панеслася на акопы ў атаку. Бліснулі на сонцы клінкі балахоўцаў. Нясецца іх конніца на Рудабелку, ажно гудзе пад капытамі зямля.

Цэляцца партызаны, але пакуль што не страляюць, чакаюць сігналу камандзіра. А конніца ўсё бліжэй і бліжэй, вось ужо выразна відаць твары седакоў.

— Алесь! — спалохана крычыць малады хлапчына. — Чаго маўчыш? Давай каманду!

— Не страляць! — грозна і ўладна камандуе Салавей.

— Парубаюць нас!.. Хлопцы, страляйце! — крыкнуў нехта ў паніцы, ахоплены страхам.

І раптам, без адзінага стрэлу з боку партызан, кулём паляцелі коннікі разам з коньмі на зямлю. Перамяшаўся жудасны крык балахоўцаў з конскім ржаннем. Грукаюцца яны вобзем. На пярэдніх налятаюць заднія і, не маючы магчымасці стрымаць разгарачаных коней, натыкаюцца на вострыя зубы баронаў, якіх не відаць у жыце, або на груду пакалечаных людзей і коней. Крыкі, стогны, ржанне, лязг… І раптам у гэтым страшэнным лямантце прагучала рэзкая каманда Салаўя:

— Часты агонь!.. Агонь!.. Агонь!!

Затрашчалі доўгімі чэргамі партызанскія кулямёты. Частая вінтовачная стральба ды кулямёты паддалі аганьку ўсім, хто сядзеў у акопах. І яны пачалі добра смаліць. Рвануліся ў паніцы назад шматкі ўцалелай балахоўскай конніцы. Прыгнуўшыся да шыі сваіх коней, нясуцца балахоўцы назад, у пушчу. Пахіснулася і пяхота праціўніка, пачала адыходзіць.

Тады ўскочыў на бруствер Алесь і крыкнуў:

— У атаку за мной! Ур-р-р-р-а-а-а-а!..

— …р-р-р-р-р-а-а-а-а-а-а!.. — панеслася па акопах.

Рынуліся партызаны наперад даганяць балахоўцаў. І раптам сустрэчнае «ўра» загрымела ім у адказ. З-за пагорка шалёным алюрам неслася наперарэз балахоўцам чырвонаармейская конніца. Счапіліся нашы коннікі з балахоўцамі. Пачалася кароткая, але жудасная рубка. Лавай скачуць чырвоныя коннікі з пікамі, насядаюць на балахоўцаў, не даючы ім уцячы, скамячылі ўшчэнт. Апошнія, падчэпленыя пікамі, грукаюцца з коней на

зямлю. Разгубілася балахоўская пяхота, у страху падымаюць рукі ўгору салдаты.

Нарэшце ўсё сціхла. Змоўкла ружэйная перастрэлка і кулямётны агонь. Ходзяць партызаны па акрываўленым жыце, зрываюць з забітых балахоўцаў зброю, рассупоньваюць пакалечаных коней: і збруя спатрэбіцца. Урачыстае, радаснае «ўра» грыміць перакатамі і доўга не сціхае на полі бою. Яшчэ і яшчэ вітаюць партызаны чырвонаармейскую конніцу.

— У самы раз падаспелі, браточкі… Як з неба зваліліся! Ай, малайцы! Далі бандытам прыкурыць!

Гоняць партызаны і чырвоныя коннікі палонных у Рудабелку. Гоняць групамі або па адным. На царкоўным двары акружылі палонных шчыльным канвоем.

Абдымае Алесь Максіма Ляўкова, моцна цісне руку камандзіру эскадрона.

— Яшчэ раз дзякую вам, таварышы! Дапамаглі!

Бягуць з усіх бакоў жанчыны з боханамі, салам, з гладышамі малака. Частуюць чырвоных коннікаў і прыветна запрашаюць у хаты. Вясёлую, радасную перамогу і сустрэчу святкуе Рудабелка.

Карпілаўка. Густы чорны дым навіс над вёскай. Голыя закураныя печы цьмяна бялеюць сярод попелу і дагараючых бэлек — гэта ўсё, што засталося ад спаленых хат. Даносіцца далёкая страляніна. Зрэдку грукне выбух ад узарванай гранаты ды часта-часта затарахціць кулямёт. Недзе за вёскай ідзе бой. А на выгане чародкамі стаяць або сядзяць перапалоханыя жыхары, прыслухоўваюцца да нарастаючага гулу бою. Маўчаць скаваныя страхам людзі, — жанчыны, дзеці, старыя. Іх сцерагуць балахоўцы. Палыхаюць яркім агнём бліжэйшыя ад выгану хаты. Баяцца людзі ратаваць сваю маёмасць: азвярэлыя балахоўцы вачэй з іх не спускаюць.

Цягнецца па вуліцы абоз, везучы з Рудабелкі параненых балахоўцаў. Панура крочаць побач з драбінамі сяляне, ведучы сваіх коней за лейцы.

Ля школы сумятня. Збіліся ў кучу пасярэдзіне вуліцы выезды, экіпажы і нават павозкі, нагружаныя рознай шляхецкай маёмасцю. Стаіць, акружаны купкай бежанцаў, палкоўнік Паўлоўскі.

— Пане палкоўнік!.. Молім, як бога, дайце нам ахову! — просяць уцекачы.

— Толькі да Бабруйска… пане палкоўнік!

Паўлоўскі не ведае, як адбіцца.

— Не магу, — кажа. І сам упрошвае: — Ад’язджайце ды пахутчэй!.. Наперадзе дарога чыстая… Тут недалёка.

— Недалёка?.. Гэта ж лесам!.. Пане палкоўнік!

Грымнуў за вёскай аглушальны залп балахоўскай батарэі — аж скаланулася зямля.

— Матка боска! — спалохана ўскрыкнуў нехта.

З крыкам і віскам кінуліся бежанцы да свайго транспарту, заваленага маёмасцю. І панеслі іх коні, уздымаючы клубы пылу, растрасаючы на зямлю клункі і розныя рэчы з павозак. А праз нейкі час за імі ўслед прагрукацела палявая батарэя, мусіць, мяняючы баявую пазіцыю. Гарцуе на ўпараным кані вахмістр, паказваючы салдатам на хаты, якія належыць спаліць або абрабаваць. Групамі і па адным бягуць да хат балахоўцы. У клунках, мяхах цягнуць яны нарабаванае сялянскае дабро і кідаюць усё на падводы.

Урываюцца чацвёра балахоўцаў у двор Ларыкавай сядзібы. Бачаць: спехам укладвае на воз сваю маёмасць Ларык. Вось ён ужо ўскочыў на калёсы і крычыць маці, якая стаіць у роспачы на ганку, трымаючы ў руках грамафон:

— Мама, хату не кідай!.. Цябе яны не тронуць!.. Праз тыдзень мы вернемся! — Узмахнуў Ларык пугаўём: — Нно-о-о!..

Схапіў адзін балаховец каня за лейцы, загадаў Ларыку строга:

— Ану злазь!

— Куды ета «злазь»?.. Навошта? Я таксама адступаю з войскам у Бабруйск! — абурана, але і спалохана зароў у адказ Ларык.

— Злазь, табе кажуць!.. Жаба!.. Хутчэй злазь! — крычыць балаховец і моцным рыўком скідвае Ларыка з воза на зямлю.

Кінулася маці Ларыку на дапамогу, моліць слёзна:

— Ай, людцы добрыя!.. Што ж ета робіцца? Свой ды свайго забівае!.. Пашкадуйце, панове!..

Ускочыў Ларык на ногі, учапіўся за лейцы, крычыць:

— Не дам!.. Не дам, ета маё!.. Маё! Не дам!

— Адыдзіся ты… пся крэў! — рыкнуў на яго балаховец і адпіхнуў убок. — Сядайце, хлопцы! — кінуў ён сваім.

Лезуць балахоўцы на воз. Ваўком кідаецца на іх Ларык з лямантам:

— Не аддам!.. Не аддам!.. Маё ета!.. Маё!..

Узмах прыклада, хруст касцей — і Ларык кулём валіцца на зямлю. Кінулася маці да нерухомага Ларыка.

— Забі-і-ілі-і!.. А сыночак ты мо-ой!.. А дзіцятка маё-о! За што ж яны цябе, за што?! — галосіць маці, заломваючы ў горы рукі.

Нават не азірнуліся, сцебанулі каня пугаўём, вылятаюць балахоўцы на вуліцу.

А там аддае апошнія загады палкоўнік Паўлоўскі:

— Спаліць, усё спаліць!.. Ушчэнт спаліць!

Прышпорыў каня Паўлоўскі, імчыць у галаву адступаючага войска. Гарыць Карпілаўка, з канца ў канец ахопленая агнём. Густымі клубамі паваліў чорны дым, агарнуў і вёску і ўсё наваколле змрочнай, непрагляднай заслонай.

Цёмная, пахмурная, непрыветная ноч. Здаецца, шэрым салдацкім сукном зашморгнута неба над поймай Бярэзіны. Трывожна, вельмі трывожна на пойме ў гэтую ноч. Раз-пораз узлятаюць у неба жоўта-зялёныя ракеты, заліваючы нежывым святлом лазнякі, альхоўнік на ўзбярэжжы ракі. Зрэдку грымне вінтовачны стрэл, прасвішча тужлівым і жудасным стогнам сляпая куля, паляціць некуды ў цемру, і… зноў цішыня. Аднастайна, надакучліва звініць камар. Не, не камар гэта… трывожна і настойліва гудзе зумер палявога тэлефона. Пад аховай вялізнага вываратня, стоячы на адным калене, камкор Гай слухае данясенне.

— Так… так… знянацку… да, да!

Уважліва, засяроджана слухае камкор, падносіць к вачам руку з гадзіннікам. Стрэлкі на цыферблаце паказваюць дзве гадзіны сорак хвілін.

— Не, не! — павышае голас камкор. — Патрэбна артпадрыхтоўка! Зруйнаваць іх з зямлёй! Да, да!.. Знішчыць кулямётныя гнёзды… Правільна!.. Давайце!

І не паспеў камкор падняцца на ногі, як неба азарылася крывава-вогненнымі ўспышкамі, і страшэнны грукат гармат скалануў зямлю. Яшчэ… яшчэ… і яшчэ… Грукат і водбліскі… водбліскі і грукат. Узлятаюць угору вогненныя разрывы снарадаў на другім беразе Бярэзіны. З камякамі, з глыбамі зямлі, разам з дрэвамі, вырванымі з карэннем, ляцяць у неба вогненныя смерчы. Бязладна залапаталі, застракаталі ў адказ варожыя кулямёты, грымнулі варожыя батарэі з таго берага. З жудасным выццём рассякаюць снарады начное паветра.

Зноў нахіліўся камкор да палявога тэлефона, потым крыкнуў у густыя зараснікі:

— Каняводы! Коней!

Вось і каняводы. Узвінчаныя музыкай бою, трывожна танцуюць коні. Ускочыў у сядло камкор. Ускочылі на коней камісар Дыбенка і штабісты. Галопам паімчаліся па лясной прыбярэжнай дарозе. Выбухі гармат усё часцей і часцей. Скачуць камандзіры ў водблісках агню. Крута асадзіў каня камкор на крутым беразе Бярэзіны, спешыўся. Спешыліся за ім і штабісты. І зноў каняводы адвялі коней у прыкрыцце, быццам расталі ў лясным гушчары.

Памалу рассейваецца начны змрок, і ўжо даволі выразна відаць, што робіцца за ракой. Мацуюць сапёры пантоны тонкімі тросамі, наводзячы мост. Бесперапынна грымяць гарматы. Успыхваюць над ракой разрывы шрапнелі. Трэск і шоргат стаіць у лесе: асколкі ўпіваюцца ў ствалы дрэў, адсякаюць начыста галінкі.

Усё даўжэй і даўжэй пантонны мост, ціха калышацца ён на рачных хвалях. Спяшаюцца сапёры. Шнырaюць ля пантонаў сялянскія лодкі і нават чаўны. Дапамагаюць чырвонаармейцам сяляне з прыбярэжных хат як мага хутчэй наладзіць пераправу.

А на касу ўжо вылецеў першы эскадрон, за ім другі, трэці і пайшло!.. Плывуць, фыркаюць коні, спалохана косяць вачыма. Плывуць разам з імі коннікі, хто на паплаўках, а хто проста трымаючыся за конскую грыву ці хвост. Выплыўшы на супрацьлеглы бераг, усе атрасаюцца ад вады — і коні, і людзі. Зноў ускокваюць у сёдлы коннікі і паўзводна ляцяць у атаку.

Не відаць ужо коннікаў Гая. Зніклі яны ў гушчары. Кулямётныя чэргі і вінтовачныя залпы ўсё цішэй і далей ад ракі. А па наведзеным мосце цячэ ўжо другая «рэчка» — цягнуцца абозы, санітарныя двухколкі, асцярожна за лейцы вядуць каняводы ездавых коней, упрэжаных у тачанкі.

Ужо недзе далёка за ракой чутно чырвонаармейскае «ўра». Гул бою ўсё больш прыглушаны, пакуль зусім не сцішыўся ў нетрах пушчы. Праз кучавыя воблакі праглянула сонца, яшчэ бледнае і млявае.

Спякотны чэрвеньскі поўдзень. Высока над зямлёй, у густым веццi разгалістага клёна добра замаскіраваны паляўнічы лабаз. Гэта назіральны пункт Алеся Салаўя. Сядзіць ён на суку, падносіць да вачэй бінокль і доўга, уважліва ўглядаецца ў наваколле. Аднекуль здалёк далятае гуд артылерыйскай кананады, часты, ледзь чутны шрот вінтовачнай перастрэлкі і прыглушаны трэск кулямётаў. Паволі паварочваецца бінокль у руках Салаўя.

У паўкруглыя шкельцы відаць: па неабсяжным полі з розных бакоў бягуць палявыя дарогі і зліваюцца ў адзін шырокі ўкатаны гасцінец, які ўцякае па спадзістым схіле ўніз, на бераг звілістай Пцічы, ажно да моста. Падкруціў Алесь бінокль, незадаволена зморшчыўся, дакорліва паківаў галавой. Яму выразна відаць лінія акопаў на высокім беразе Пцічы за драўляным мостам. Добра праглядаўся і ланцужок партызан, якія затаіліся злева і справа ад моста, якраз насупраць шырокіх перакатаў ракі. Нават відаць сляды конскіх капытоў і колаў, адпячатаных на пяску ля перакатаў. Тут і знаходзяцца брады і мелі ракі Пціч з маленькімі пясчанымі наноснымі выспачкамі. Заклапочана схіліўся ўніз Алесь, нягучна паклікаў:

— Максім!

Расхінуліся кусты — і з іх вынырнуў Ляўкоў. Задраў галаву, пытае:

— Чаго?

— Пашлі сувязнога на той бераг. Перадай, каб акопы лепей замаскіравалі. Ваякі!.. Насыпле пагорачак, схавае галаву, а сам ляжыць, як уюн на патэльні.

— Добра, зараз пашлю. — І Максім стрымгалоў нырнуў назад у кусты пад клёнам.

Прыклаў Алесь далоні рупарам да вуснаў:

— Кі-кі-кі! — прагучаў трывожны крык «каршуна».

І адразу ж з усіх бакоў пачулася:

— Кі-кі-кі!.. Кі-кі-кі!.. Кі-кі-кі!..

Адзін «каршун», другі, трэці… далёка разносіцца, быццам коціцца па вяршалінах дрэў партызанскі лясны сігнал. А гул гармат усё набліжаецца. Выразней чуваць кулямётныя чэргі, то доўгія, то кароткія. Усё гучней рассыпаецца шрот вінтовачнай перастрэлкі. Зноў падносіць Алесь да вачэй бінокль. Ён бачыць, як разварочваецца перад ім карціна бою. На далёкім ускрайку поля ўзніклі людскія постаці. Кароткімі перабежкамі адступаюць партызанскія ланцужкі пад націскам балахоўскай пяхоты. Нясуцца сялянскія драбіны, везучы з поля бою параненых. Паспешна пакідае свой назіральны пункт Алесь. Адступаюць партызаны, прыціскае іх варожае войска да берага Пцічы. Густа насядае балахоўская пяхота. Разрываецца над галовамі партызан шрапнель. Выбухі, посвіст асколкаў, трэск зламаных снарадамі дрэў, крыкі людзей — уся грозная музыка бою павісла над полем, над лесам, ракой.

Падляцеў на драбінах да назіральнага пункта дзед Цімох. Кідаюцца да яго некалькі чалавек, паспешна здымаюць з драбін кулямёт і цынкавыя скрынкі з патронамі.

— Цімох, адвядзі каня за бугор і там чакай каманды, — загадаў дзеду Алесь.

Хапае дзед за лейцы каня і бягом за бугор у прыкрыцце. Нізка, над самымі галовамі партызан, з трэскам разрываецца шрапнель.

— Прыстраляліся, гады! — крычыць Алесь Ляўкову. — Трэба адыходзіць!

Усё хутчэй і хутчэй адкатваюцца ланцугі партызан на дарогу, якая вядзе на мост. Ярасна атакуюць, настойліва набліжаюцца балахоўцы. Вось-вось пахіснуцца партызаны, у паніцы пабягуць. І тады выбег на дарогу Алесь і крыкнуў:

— Хлопцы!.. Не бяжыце!.. Адыходзьце пацíху, без панікі! А мы тут будзем вас прыкрываць!

Адкатваюцца ўніз па схіле партызаны на бераг Пцічы. Спяшаюцца да моста. З гіканнем, крыкам і свістам нясуцца як ашалелыя балахоўцы, каб захапіць мост на плячах партызан. Але… затахкаў кулямёт Данілы, пачаў касіць бандытаў. Прыпаў Даніла да кулямёта, як прыліп, і ўсё водзіць ствалом па балахоўцах, ярасна палівае іх свінцовым агнём. У самую гушчыню наступаючых разануў Даніла. Прыціснуў да зямлі варожыя ланцугі сваім няўмольным, бязлітасным агнём. Захлынулася варожая атака. А разам з Данілам косяць ворагаў з ручных кулямётаў Салавей і Ляўкоў. Добра смаляць кулямёты!

— Ага! — радасна крычыць Даніла. — Вось чаго яны не любяць!..

— Та-та-та-та-та!.. — ажно захліпаецца яго кулямёт.

Кончылася стужка з патронамі ў Данілы. І пакуль Алесь і Максім паліваюць свінцом праціўніка, ён закладвае ў свой кулямёт новую стужку, начыненую патронамі, і строчыць, строчыць, не даючы балахоўцам галавы ўзняць. Перастрэлка ідзе па ўсёй лініі ад флангу да флангу. Дзынкаюць кулі па шчытку кулямёта, а рукі Данілы быццам прыраслі да яго, не выпускаюць. Закіпела вада ў кажуху. Строчыць Даніла, і раптам… грымнула над яго галавой шрапнель — пасыпалася з клёна збітае асколкамі сучча, адзін асколак ударыў у шчыт і перавярнуў набок кулямёт. Рвануліся балахоўскія рады з флангаў, намагаючыся акружыць кулямётчыкаў. Крыкнуў Алесь, павярнуўшыся назад:

— Цімох! Давай сюды! Цімох!

Вылецеў з-за бугра на драбінах дзед Цімох. Кідаюць партызаны кулямёт на дно драбін, ускочыў туды і Даніла, а за ім Максім з Алесем.

— Гані!.. За мост! — крычыць Алесь.

Выцяў Цімох каня пугаўём — як апараны паскакаў конь, вынес драбіны на дарогу і павярнуў да моста. Але дагнала яго шрапнель — тыцнуўся конь галавой у зямлю, задрыгаў нагамі. Зноў рвануліся ў атаку балахоўскія пехацінцы. Строчыць па іх Алесь з ручнога кулямёта. Крыкнуў:

— Максім!.. Рэж збрую!

Спешна рэжа вупраж Максім. Схапілі яны абодва аглоблі і, як упрэжаныя коні, пакацілі драбіны разам з кулямётам, Данілам і дзедам Цімохам уніз па схіле да моста. Нясуцца яны па дарозе, узнімаючы за сабой пыл. Гоняцца за імі балахоўцы. Спешна паварочвае Даніла кулямёт на драбінах ствалом да праціўніка. Імчацца драбіны да моста. Хрыпла дыхаюць Алесь і Максім. Бягуць яны, не выпускаючы з рук аглоблі. Гоняцца за імі балахоўцы. Трыццаць коннікаў. Вось-вось дагоняць. Тарахцяць драбіны, падскокваюць на выбоінах. Тупаюць капыты балахоўскіх коней ужо за самай спінай, бліснулі на сонцы клінкі шашак, вось-вось апусцяцца на галовы ўцекачоў, але раптам… затахкаў з драбін кулямёт Данілы. Грукаюцца на дарогу коннікі, коні. Кінуліся балахоўцы ўрассыпную, хто куды. Уздыбіўся конь пад карнетам, чмякнуўся вобзем, падмяў пад сябе седака. Драбіны ўжо ўзляцелі на мост, а Данілаў кулямёт усё тахкае, тахкае…

— Ур-р-р-р-а-а-а-а-а-а!.. — грыміць урачыста з партызанскіх акопаў, і часты агонь паласнуў адтуль па праціўніку.

А як толькі драбіны праляцелі мост… страшэнны выбух скалануў паветра. Вогненным смерчам узляцелі ў неба бярвенні і дошкі над тым месцам, дзе толькі што быў мост.

— Ур-р-р-р-а-а-а-а!.. — зноў пераможна грыміць з акопаў, і не толькі з акопаў, а з усяго партызанскага берага.

Густы чорны дым агарнуў абломкі моста, бераг Пцічы і ўсё наваколле.

Вялікая вёска патанае ў квецені садоў. Стаяць чародкамі сялянскія хаты, прысадзістыя, лядашчыя, з маленькімі падслепаватымі вокнамі, амаль урослымі ў зямлю… а сярод іх красуюцца свежыя зрубы зусім нядаўна пастаўленых хат, з гародчыкамі, у якіх ваўсю буяюць кветкі. Ранішняе сонца пазалаціла шыбы. Цыбатыя калодзежныя жураўлі нізка і часта кланяюцца, акунаючы парожні цэбар і крэкчучы, калі выцягваюць з калодзежа сцюдзёную ваду. Але як толькі выпрастаюцца, радасна вітаюць сонейка. Сёння яно святочнае. На шматлікіх хатах палошчуцца чырвоныя сцягі. Цягуча бухае царкоўны

звон. Не спяшаючыся ідуць па вуліцы, парослай травой, сяляне — жанчыны, дзеці, нават сівыя дзяды і бабулькі. Па тым, як апрануты жыхары, па тым, як яны няспешна ідуць, адчуваецца, што сёння ў вёсцы дзень незвычайны, урачысты. А звон усё бухае, бухае… Адгукаецца рэха ў лясах, і тады здаецца, што гэта звініць уся навакольная пушча. Але вось у гэту музыку ўліўся нейкі дробны пераразвон. Ён даносіцца з другога канца вёскі. Гэта ў кузні б'юць па кавадле малаткі.

Малаткі па кавадле б'юць так часта, што здаецца — яны пусціліся ў скокі. Куюць і зварваюць калёсныя шыны армейскія кавалі. Тут жа, ля дзвярэй кузні, на абломку млынарнага жорна байцы сцягваюць кола тачанкі ўжо адрамантаванай шынай. Гнуцца цяжы, гатовыя вось-вось лопнуць. Націскаюць на іх маладыя дужыя байцы. Прысеўшы на кукішкі, камандуе імі камлюкаваты сялянскі каваль:

— Яшчэ!.. яшчэ крыху!.. яшчэ разік!

Стала на месца шына, сцягнуўшы тугім кольцам кола тачанкі.

— Усё, — камандуе каваль. — Можна адзягаць.

Падкацілі ездавое кола. Весела блішчаць новыя белыя спіцы. А на тачанцы, ля кулямёта, валтузяцца вясковыя хлапчукі. Адпіхваюць адзін аднаго, каб быць бліжэй да кулямёта, каб хоць разок зазірнуць у прарэз прыцэла. Спрачаюцца паміж сабой, ледзь не даходзіць да сваркі:

— Міколка! Ты ўжо два разы цэліў!.. Цяперака мая чарга!

Не звяртае ўвагі на просьбу таварыша Міколка. Хочацца яму, ой як хочацца хоць трошкі павадзіць ствалом кулямёта.

— Ану, падшыванцы, марш з тачанкі! — прыкрыкнуў на іх камлюкаваты каваль. — Дайце кола надзець!

Як гарох пасыпаліся на зямлю хлапчукі. Байцы надзяваюць кола на тачанку. Тут жа, побач, другі каваль прыкладвае падкову да конскага капыта. Заструменіў ад капыта белаваты лёгкі дымок. Таргануўся конь.

— Стаяць! — прыкрыкнуў на яго каваль і лёгкімі ўдарамі малатка забівае ў капыта ўхналі.

А сонца ўсё вышэй і вышэй. Адкацілася адна тачанка ўбок. Зірнуў ездавы на хлапчукоў, усміхнуўся і шырокім жэстам гасцінна запрасіў:

— Садзісь, кулямётчыкі!

Эх і ўзрадаваліся хлапчукі! Кінуліся навыперадкі да тачанкі. Набілася іх біткам, як тых грыбоў у кошык.

— Дзяржысь, кулямётчыкі-і-і-і!.. — ліха крыкнуў ездавы.

І панеслася тачанка на выган. Жвава скачуць, адпачыўшы, свежыя коні. Свецяцца шчасцем і гонарам твары мальцоў. Вынеслі коні тачанку на шырокі выган. Крута асадзіў коней ездавы, а там… Шумна, весела, святочна.

Размясціліся, не ламаючы парадку, вайсковыя падраздзяленні. Выстраіўся артдывізіён. Паблісквающь на сонцы ствалы начышчаных гармат. І тут круціцца дапытлівая дзятва, шнырающь хлапчукі паміж батарэй, згараючы ад нецярпення: усё ім тут цікава, усё трэба памацаць, паглядзець на ўласныя вочы. На шчытах гармат выведзены буйнымі літарамі надпісы: «ДАЁШЬ МИНСК!» І на перадках тачанак таксама красуюцца такія ж заклікі.

Сям-там на выгане дымяцца паходныя кухні. А пад вялізным векавым дубам уладкаваўся духавы аркестр. Граюць трубачы заліхвацкі горскі танец — «Наурскую». З шаблямі ў руках ліха танцуюць коннікі. Пляскаюць у такт, не шкадуючы далоняў, ахопленыя азартам гледачы, шырокім паўкругам абступіўшы артыстаў. Чырвонаармейцы, жанчыны, дзяўчаты, дзятва і нават старыя адбіваюць далоні, дапамагаючы танцорам. Круцяцца ўюнамі ў танцы байцы, імітуючы бой, сутычку чырвонаармейскіх коннікаў з ворагам.

— Аса-аса-аса! — выкрыкваюць і танцоры і гледачы.

І няма канца гэтаму танцу, бо стомленыя танцоры пакідаюць «эстраду», а іх месца займаюць іншыя байцы.

— Аса-аса-аса!

У самы разгар вяселля вылецеў на ўзгорак на гарачым кані гарніст, прыклаў да вуснаў горн:

— Та-ра-та-ці-та-а-а-а-а!.. — звонка прагучаў сігнал.

Трубіць трубач збор. І ўмомант мяняецца карціна. Разыходзяцца з выгану сяляне. Паўзводна, паэскадронна строяцца на апусцелым выгане палкі Самарскай дывізіі[54]. Рушыць у паход галаўны ўзвод гарністаў, за ім пасунуліся батарэі. А з вясковых вуліц і завулкаў таксама паўзводна і паэскадронна на рысях спяшаюцца коннікі. І вось ужо па шырокай вуліцы ідуць конныя палкі. Глуха загула зямля пад капытамі. Ззяе золатам на сонцы высока ўзняты бунчук[55]. Калышуцца сцягі ў галаве палкоў, здабытыя перамогамі, пакрытыя славай. Паабапал вуліцы тоўпяцца сяляне, праводзяць байцоў. Падбягаюць да коннікаў дзяўчаты і дзеці, падносяць ім кветкі. А тыя ўпрыгожваюць кветкамі фуражкі.

Ля сельсавета на невялікай пляцоўцы стаяць камандзіры, гатовыя ў паход. Тут камкор Гая Гай, камісар Паўло Дыбенка,

члены штаба корпуса. Ліхім коннікам сядзіць на кані Алесь Салавей у новым абмундзіраванні. Урачыста грыміць аркестр. Ідуць і ідуць палкі… Гойдаюцца пікі з чырвонымі сцяжкамі на канцы. Ледзь нахіліўшыся над поручнямі ганка, вітае байцоў Адам Славінскі:

— Байцам непераможнай, жалезнай Самарскай дывізіі — слава!

— Ур-р-р-р-а-а-а-а-а!.. — радасна грыміць у адказ па радах коннікаў.

На нейкі час змаўкае аркестр, і замест яго гучыць баявая паходная:

Все пушки, пушки грохотали,
И громко строчил пулемет…

Едзе калона, уздымаючы клубы пылу. Фыркаюць коні. Праходзяць артылерыйскія вупражкі, а за імі строем ідуць партызаны. І ўжо новая песня нарастае, мацнее, набліжаецца. Песня беларускіх партызан. І такім родным дыхнула… Усё ўвабрала яна ў сябе — і пушчу з яе соснамі і бярозамі, і непраходныя твані на неабсяжнай дрыгве, і гора, і помсту народа, і смутак, і боль па тых, каго страцілі ў баях за лепшую долю, за тое, каб звацца людзьмі.

— Нашы ідуць… партызаны, — з цёплай усмешкай ціха сказаў Гаю Алесь. — Рашылі ваяваць да пераможнага канца.

— Вельмі добра, Аляксандр Раманавіч, — удзячна адказвае Гай. — Толькі я думаю, лепей было б пакінуць іх тут, граміць і вылоўліваць бандытаў.

— А яны так і рашылі, — паясніў Адам Славінскі. — Заняць Мінск і вярнуцца назад. Вылоўліваць па лясах балахоўцаў.

— Правільна. Зусім добра, — згаджаецца камкор.

Песня партызан усё мацнее. А вось і яны, беларускія партызаны. Наперадзе атрада замест сцяга два дужыя хлопцы нясуць вялізны транспарант з партрэтам Леніна. Па баках чырвоныя сцягі. Прыпадняўся ў сядле Салавей, ззяючы ўсмешкай, вітае рукой сваіх баявых таварышаў.

— Слава вам, беларускія. героі! — крычыць партызанам Адам Славінскі.

— Ур-р-р-р-р-а-а-а-а-а-а-а!.. — нясецца па радах партызан.

Яшчэ вышэй узняўся транспарант з партрэтам Леніна.

Ідуць партызаны хто ў чым. У ботах, у лапцях, а хто і басанож. Гімнасцёркі, пінжакі, кашулі. Стракатая каманда, але зброя ва ўсіх добрая, усе з вінтоўкамі. Замыкаюць калону дзед Цімох і

Гапуля Суніца. Сядзяць яны на возе поплеч. Убачыў іх Алесь, крануў свайго каня і пад’ехаў да воза ўпрытык.

— А вы куды? — пытае.

— Куды ўсе, туды і мы, — коратка адказаў дзед Цімох.

— А хіба мы не партызаны? — пакрыўдзілася цётка Гапуля.

— Партызаны, — згаджаецца Алесь. — Толькі не раю я вам з намі ісці. Далёка мы пойдзем і надоўга.

— Бараніць? — з усмешкай пытае Цімох.

— Так, — адказвае Салавей. — І бараніць, і скародзіць, і нават карчаваць. Шмат яшчэ ўсякай погані, трэба ўсіх вымесці з нашай роднай Беларусі. А вы вяртайцеся дахаты і прымайцеся за гаспадарку.

— Якая ў мяне гаспадарка? — сумна ўздыхнуў Цімох. — Кабылка прапала, хату спалілі, жонку, мусіць, забілі… Няма чаго мне вяртацца.

— Ёсць, дзед Цімох… ёсць да чаго, — запэўніў яго Алесь.

— Каня вось гэтага, з возам, табе пакідаем… бяры яго сабе. Хату новую рэўкам абяцаў паставіць і выканае гэта абавязкова. Так мы дамовіліся. А Марыя Дамінікаўна твая хутка вернецца.

— Адкуль ты ведаеш? — схамянуўся Цімох.

— Ведаю. Бабруйск нашы вызвалілі. Знянацку ў бой пайшлі. І ворагам было не да заложнікаў. Пяткі змазалі і пабеглі. Трэба ж было ратаваць сваю скуру. Вось і не паспелі яны з заложнікамі расправіцца. Хутка ўсе будуць дома. Марыя Дамінікаўна, і маці мая, і Марына.

На ўсе вочы глядзіць Цімох на Алеся. Глядзіць і вушам сваім не верыць.

— Алеська… любачка мой… дзякуй табе за навіну. Дык ета ж… ета я… цяперака мы… — расхваляваўся дзед Цімох, не знаходзячы слоў, каб выказаць сваю радасць, вось-вось заплача.

— Ну, бывайце здаровы!.. Мне пара… чакаюць, — нахіліўся Алесь з сядла, пацалаваў дзеда Цімоха і цётку Гапулю і галопам паімчаўся даганяць галаву калоны.

Раскруціў пугаўё над галавой Цімох, крэкнуў і сцебануў каня.

— Н-но-о-о-о-о!..

Рвануўся з месца конь, але Гапуля ўчапілася за лейцы і стрымала яго:

— Тр-р-р!.. Куды «но-о»?.. Куды?! — накінулася яна на Цімоха. — Вяртай назад каня!.. Нас жа пакінулі тутака… не патрэбны, мусіць, ім старыя.

— Трэба ж хаця правесці трохі… Не чужыя ж яны. Нно-о-о!.. — зноў сцебануў каня Цімох.

— Ото ж праўда… — пагадзілася Гапуля. Учапілася за бакавіны драбін, каб не вываліцца: гэтак гнаў каня Цімох!

Доўга едуць яны побач з калонай, стараючыся не адставаць. А калі ўжо ад'ехалі далёка ад вёскі, скіраваў з бальшака Цімох, спыніўся. Доўга глядзяць Цімох і Гапуля ўслед партызанам і чырвонаармейцам. Уздыхнуў дзед і самотна схіліў набок галаву. Глянула на яго Гапуля — бачыць: коціцца сляза па шчацэ старога, губляецца ў сівой ускудлачанай барадзе.

— Цімох… Га, Цімох? Ты чаго? — кранула яна дзеда за рукаў.

— Анічога… так ета, — ціха адказаў дзед. — Церушынка ў вока папала. — Непрыкметна змахнуў слязу стары, вінавата зірнуў на Гапулю і з самотнай, але і хітраватай усмешкай спытаў: — А ты чаго?.. І табе… ета… цярушына папала?

— Ото ж… і мне, — адказала Гапуля, выціраючы слёзы. І раптам як накінецца на Цімоха: — Ты чаго ета,стары шалапут, смяешся? Я — кабета… мне можна! Не чужыя ж яны…

Іўсё сядзяць яны ў драбінах, доўга сядзяць, праводзячы вачыма сваіх таварышаў, сяброў, і ўжо не хаваюць слёз… А твары ў іх самотныя, задуменныя. Усё пражытае адбілася на гэтых тварах і дабавіла зморшчынак, як успамінаў аб тым, што было.

*1935, 1936, 1968*

# ГЕРОІ БАЛТЫКІ

Час дзеяння — красавік 1918 г. Гельсінгфорс[1].

Марозны поўдзень.

Шырока раскінуўся ў бляску сонца скаваны лёдам заліў. На далёкім гарызонце нияснай кропкай, амаль зліваючыся з ільдамі, узнік адзінокі ветразь.

Павялічваецца ветразь, расце. На вялікай хуткасці імчыцца буер, са звонам ляцяць з-пад яго канькоў бліскучыя асколкі ледзяшоў.

Лёгка кіруе рулём начальнік марскіх сіл Кавалёў. Тут жа, спераду ад яго, ляжыць з марскім біноклем у руках консул замежнай дзяржавы. Ён няспешна прыкладвае бінокль да вачэй. Бухта пад горадам усыпана мноствам застылых у льдзінах караблёў.

Ледзь дымяцца трубы суднаў.

Шырокай панарамай разгарнуліся на рэйдзе нерухомыя ваенныя караблі. Відаць выразна назвы мінаносцаў, крэйсераў, транспартаў: «Боевой», «Стерегущий», прамільгнуў недзе «Бурный»… «Кречет», «Уссуриец», «Победитель»…

Адвёўшы ад вачэй бінокль і не павярнуўшы галавы да Кавалёва, кажа консул:

— Досыць. Мяняйце галс[2].

Адпусціў Кавалёў шкоты[3] на ўсю даўжыню, ветразь хлопнуў на ветры, — і буер значна сцішыў ход, заслізгацеў па лёдзе міма эскадры. Углядаецца консул, ужо без бінокля чытае надпісы: «Баян», «Донец», «Грозный»…

І цяпер, на ціхім ходу, павярнуўшыся ўсім корпусам да Кавалёва, заяўляе консул:

— Віталій Паўлавіч, калі флот затрымаецца на рэйдзе да дванаццатага красавіка, радзіма вас не забудзе…

Іранічна ўсміхаецца Кавалёў і, не выпускаючы з рук руля, спакойна адказаў:

— Калі радзіма заўтра ж не забудзе пакласці на мой рахунак 500 000 марак, флот затрымаецца на рэйдзе не толькі да дванаццатага, але і значна даўжэй…

Усміхаецца консул:

— Вы разумны чалавек, Віталій Паўлавіч. Радзіма ўжо аб гэтым паклапацілася… Трымайце на бераг…

Нацягваючы на сябе шкоты, Кавалёў выразна кажа:

— Мяняю галс…

Зноў усміхнуўся консул.

Павярнуўся ветразь, і, надзьмуты ветрам, імчыцца буер, слізгае па вадзе да берага.

Усё бліжэй і бліжэй насоўваецца горад. Лавіруе Кавалёў між палонак. З лёгкасцю птушкі пералятае буер даволі шырокае разводдзе. З шалёнай хуткасцю ляціць насустрач набярэжная… І на вялікай паўзе, нібы працягваючы недаказаную думку, кажа Кавалёў:

— Пра камісара падумалі?

І тым жа тонам консул:

— І падумалі, і паклапаціліся… У гэтым вы сёння пераканаецеся.

Буер паволі падыходзіць да берага.

Наскрозь пракураны матроскі кубрык перапоўнены ўзрушанымі маракамі.

Ля стала заклапочаны карабельны кок Сцяпан Галушка перакладае ў ладнай скрыначцы свае немудрагелістыя пажыткі. Захоплены работай, ён ціхенька спявае:

Ехалі салдаты са службы дамоў,
На плячах пагоны, на грудзях крыжы…

Абрываючы песню на паўслове, крыкнуў Сцяпан таварышу:

— Раман!

Да яго няспешна і грузна падышоў малодшы рулявы «Крэчата» Раман Пракапенка. Паставіў Сцяпан скрыню на табурэтку, упёрся ў вечка каленам, кажа:

— Цісні!

Абодва сябры каленямі націскаюць на вечка скрыні. Суха лязгнуў замок. Прыўзняў цяжкую скрыню Сцяпан — і раптам у кубрыку зазвінеў бравурны паходны марш. Акружылі Галушку матросы, разглядаюць скрыню, слухаюць. Звініць марш. Не вытрымаў адзін з маракоў, крыкнуў з зайздрасцю і зачараваннем:

— Во д’ябал! Катрынка, а не скрыня. Прадай, Сцёпа…

Горда выпрастаўся Сцяпан Галушка, зняважліва акінуў позіркам з галавы да ног «пакупніка», цыкнуў скрозь зубы моцным пляўком і сказаў:

— Прадай… Тожа, галава… Я, можа, з гэтай скрыняй першым хлопцам у вёсцы буду… Нявесты ў чаргу стануць… — і ён беражліва паставіў скрыню на стол побач з простай, замызганай скрыняй Рамана Пракапенкі.

Заціхла, змоўкла музыка.

Апошні раз акінулі позіркам кубрык сябры-таварышы, і сказаў Пракапенка маракам:

— Ну, бывай, братва…

— Можа, камісара дачакаецеся, — панура кінуў адзін з матросаў.

Весела і бесклапотна адказаў Галушка:

— А мы па камісару не сумуем!.. Пойдзем, Раман.

І абодва, нагружаныя сваімі пажыткамі, пайшлі да выхаду.

Нявесела праводзілі іх позіркамі таварышы, і нехта з прыкрасцю кінуў ім услед:

— Барахло!

Вечарэе. Па бязлюднай набярэжнай дружна крочаць Пракапенка і Галушка.

Пыхціць Сцяпан пад цяжарам сваёй важкай «скрыні», адстае. Збаўляючы крок, ідзе побач з ім Пракапенка, гаворыць:

— Вясна падыходзіць, Сцёпа. Прыйдзем дадому — сеяць трэба, а мы з табой нават забылі, як плуг у руках трымаць.

Бесклапотна прысвіснуў Галушка.

— Прывыкнем, Раман. Цяпер зямлі колькі хочаш… Эх, і дарвуся ж я да работы!..

І сябры зноў моўчкі крочаць па набярэжнай, паглыбіўшыся ў свае думы.

На рагу сябры сутыкнуліся з камісарам карабля Сямёнычам і рулявым Запрудным.

Здзіўлена акінуў позіркам матросаў Запрудны, спытаў Галушку:

— Ты куды тупаеш, Сцёпа, са скрыняй?

Апусцілі маракі паклажу на снег.

Сеў на сваю «скрыню» Галушка і, выціраючы рукавом бушлата пот з твару, адказаў:

— Дамоў адшвартоўваемся, таварыш Запрудны, таму што дзеўкі па нас сумуюць… Хопіць… наплаваліся…

— Хто дазволіў? — пахмура спытаў камісар.

Ахвотна, з некаторай марудлівасцю дастае з унутранай кішэні паперку Сцяпан, падае камісару.

— Па звальненні. Пакаж, Раман…

Таксама няспешна і дзелавіта дастае сваю звальніцельную Раман, беражліва разгладжвае яе і моўчкі падае камісару.

Уважліва прачытаў дакументы камісар, склаў іх, схаваў у сваю сумку і стрымана, але даволі сурова заўважыў:

— Сорамна, таварышы, у такі час флот пакідаць. Вяртайцеся назад. Звальніцельныя застануцца ў мяне.

Панурыўся Пракапенка, спадылба пазглядае на камісара. Потым ссунуў бесказырку на патыліцу Сцяпан і задзірліва ступіў да Запруднага.

— Думаеш, без звальніцельнай дарогу не знойдзем?.. Тупай, Раман!

Падхапіў сваю «скрыню» Галушка, грымнула паходная музыка.

Павярнуўся на хаду Сцяпан, пахлопаў рукой па вечку, гарэзліва крыкнуў:

— Вось яно, таварыш камісар! З музыкай дадому ідзем!.. На тое і слабода!

І абодва сябры зніклі на завароце.

Рвануўся быў Запрудны ўслед за матросамі, але камісар схапіў яго за плячо.

— Не туды спяшаешся, Андрэй. Давай хутчэй на карабель. Здаецца, зноў афіцэр'ё замуціла…

Яны шпарка пакрочылі па набярэжнай.

Цягнуцца доўгія карпусы партовых пакгаузаў.

Аддзяліліся ад сцен аднаго з іх некалькі цёмных постацей, і нязладжаны залп грымнуў насустрач камісару і Запруднаму.

Упаў камісар, упіраючыся рукамі ў снег.

На момант разгубіўся Запрудны. Паспешна расшпільвае кабуру маўзера, выхапіў яго і сыпле кароткай чаргой насустрач бягучым шуцкорам[4]. Прыцiснуліся тыя, хто да сцен пакгаузаў, хто за іх калонамі.

Тармошыць камісара Запрудны. Ледзь расплюшчыў вочы камісар і, падаўляючы стогн, прашаптаў:

— Андрэй… дакументы… флот выведзі… дванаццатага… Я… бяжы… — і галава камісара знясілена торкнулася ў снег.

Паспешна расшпіліў Запрудны на яго грудзях бушлат, выхапіў дакументы, пераклаў у сваю кішэню, сарваў з яго сумку, заціснуў у руцэ і выпрастаўся, поўны рашучасці, гатовы да бою.

Адступае Запрудны, адстрэльваецца, не выпускаючы з рук агнём палаючага маўзера. Але вось за спінай грымнуў стрэл.

Зляцела на снег збітая куляй бесказырка. Агледзеўся вакол сябе Запрудны — і з разбегу скокнуў з набярэжнай на лёд. Бяжыць, адстрэльваючыся, па лёдзе заліва. Гоняцца за ім шуцкоры.

Замаячылі наперадзе агні караблёў. Адстала пагоня. І толькі цяпер Запрудны спыніўся на пару секунд і, цяжка пераводзячы дых, павольным крокам, хістаючыся, як п'яны, рушыў да прыветна мігаючай агнямі эскадры.

Палуба «Кречета» перапоўнена маракамі.

Матросы, узрушаныя, слухаюць развітальную прамову Кавалёва. Некаторыя з іх грудзяцца ля самага трапа. Больш нецярплівыя, узваліўшы сундучкі і карзіны на плечы, групамі пакідаюць карабель. Асабняком трымаецца кучка камандзіраў, зрэдку абменьваюцца рэплікамі.

На капітанскім мосціку выступае з прамовай Кавалёў:

— Урад супраць вайны… Ад імя камандавання жадаю вам шчаслівай дарогі. Вас чакае неабсяжная, руская, вольная наша зямля…

Узбег на мосцік нейкі ўзбударажаны марачок, адчайна замахаў у паветры бесказыркай.

— Мілыя, дарагія мае!.. Дачакаліся!.. Мір… без анексій і кантрыбуцый!.. — і, не стрымаўшы перапаўняўшых яго пачуццяў, у захапленні зароў марачок:

— Камандзіру Кавалёву ўра-а!!

Дружна падтрымалі яго матросы, і гучнае «ўра» рэхам пакацілася па заліве.

Задаволены Кавалёў кідае ў натоўп апошнія развітальныя словы:

— Будзьце шчаслівыя!..

Ускінулі на плечы матросы карзінкі, сундучкі. Весела піхаючыся, пасунуўся народ да трапа, і ў гэтай вясёлай гамане нехта зацягнуў задушэўным тэнарам:

Последний нынешний денечек
гуляю с вами я, друзья…

Падхапілі песню дзесяткі моцных галасоў. І не паспеў тэнар пачаць другі куплет, як перад матросамі ўзнікла постаць змучанага, хістаючагася Запруднага.

Здзіўлена абрывае песню запявала, і ў напружанай цішыні пачуўся хрыплы голас:

— Вады…

З грукатам апусціліся на палубу карзінкі і сундучкі.

У знямозе прысеў на адзін з іх Запрудны. Зноў папрасіў:

— Вады…

Акружылі яго матросы, нехта падаў кварту з вадой.

Прагна п’е Запрудны.

Насцярожана ўглядаюцца ў яго матросы.

Напіўся той, і, цяжка перавёўшы дыханне, як абухом па галаве, ударыў маракоў страшнай навіной:

— Таварышы, толькі што на набярэжнай шуцкоры забілі… Сямёныча…

Застылі ад нечаканай весткі матросы і павольна, моўчкі здымаюць бесказыркі.

Працягла, тужліва застагнала сірэна, падхапілі астатнія караблі сігнал гора і страты. І вось над ільдамі заліва, ад берага да берага, равуць гудкі, панура і грозна. Прыпадняўся з сундука Запрудны, пацягнуўся рукой да галавы за шапкай і, не знайшоўшы яе на месцы, разгублена зірнуў на акрываўленую руку, апусціў яе ўніз.

Не паспелі змоўкнуць сірэны, як у натоўпе раздаўся нейчы, поўны гневу і пагрозы, голас:

— Братва… У ружжо!..

У гнеўным парыве людзі забегалі па караблі, спешна падпяразваюцца крыж-накрыж кулямётнымі стужкамі, хапаюць вінтоўкі і бомбы. Трохпавярховая лаянка загучала на палубе. Адчужана ў старонцы назірае за ўсім гэтым група афіцэраў.

Падбег да Запруднага аграмаднага росту матрос і, размахваючы ў паветры ручной гранатай, закрычаў:

— На бераг!.. За Сямёныча!.. У шчэпы разнясем!..

Парывістым рухам ён сарваў з сябе бесказырку і адным махам нахлабучыў яе на галаву Запруднага:

— Вядзі!..

Выпрастаўся Запрудны, акінуў уважлівым позіркам карабель, мітусіўшыхся матросаў, ціха скамандаваў:

— Пастроіцца…

Пастроіліся матросы ў шарэнгу.

Зноў, ужо гучна, падае каманду Запрудны:

— Раўняйсь!.. Смірна!..

У поўнай цішыні, абыходзячы ад фланга да фланга строй маракоў, сказаў свае слова Запрудны:

— Таварышы! Савецкі ўрад заключыў Брэсцкі мір. Выступіць зараз — гэта значыць уцягнуць краіну ў новую вайну. Я разумею

вас — усім нам цяжка і балюча. Мне самому хочацца ўдарыць па гэтай сволачы так, каб ад іх трэскі ўгору ўзляцелі… — і, цяжка ўздыхнуўшы, Запрудны закончыў: — Шкада Сямёныча. Цяжка стрымаць сябе… а трэба. Разумееце, трэба. Нельга нам зараз з немцамі ваяваць…

Адзін матрос выбег са строю і амаль з нянавісцю звярнуўся да Запруднага:

— Гэта як жа разумець? Нашых б'юць, а мы памалківай!..

Расстроілася шарэнга. Узбуджаныя маракі акружылі Запруднага, а ён усё так жа суцяшае, упрошвае людзей:

— Нельга. Нам трэба да дванаццатага красавіка вывесці флот у Кранштат.

Упрытык да яго падышоў высокі матрос і ці то з дакорам, ці то з пагрозай прабасіў:

— Не туды штурвал павярнуў, таварыш Запрудны. — І тут жа, звяртаючыся да матросаў, закончыў: — Мы спярша за камісара разлічымся, а пасля па дамах… На які ляд нам флот, калі мір падпісаны…

У лад яму загудзелі наўкола маракі.

Хутка спусціўся з капітанскага мосціка Кавалёў і, урэзаўшыся ў самую гушчу людзей, нервова і спешна, намагаючыся заглушыць гоман, падтрымаў матроса:

— Правільна! Вызваленая Расія не жадае вайны. Лозунг «Далоў вайну» і салдаты, і маракі прынялі з радасцю. Мы ні з кім не збіраемся ваяваць… Брэсцкі мір падпісаны, і баявы флот нам не патрэбен. Я, як камандзір, як друг, як брат, раю вам адправіцца па родных сёлах і вёсках. Па вас сумуюць вашы маці, жонкі, дзеці, нявесты. Неабсяжная руская зямля чакае сваіх сыноў, сваіх аратых.

— А з флотам як жа будзе? — спытаўся Запрудны.

Нікольні не сумеўшыся, з тым жа пафасам кінуў Кавалёў:

— Вялікая рэвалюцыя вайны не хоча. Ёй не патрэбны ваенныя караблі!

Ахнуў у захапленні нейкі матросік, з сімпатыяй пазіраючы на Кавалёва:

— Як жа ўсё верна — у самую кропку. Ды я цяперака любы крэйсер на плуг прамяняю, таму што час такі — зямля чакае.

Знарок гучна, каб чулі ўсе, важка і мнагазначна сказаў Запрудны:

— Рана араць сабраўся…

А матросік, хітра прыжмурыўшы вока, выпаліў прама ў твар Запруднаму:

— Якое — рана! Красавік на дварэ — самы раз!

Падхапіўшы сваю просценькую карзінку з палубы, ён лёгка ўскінуў яе на плячо і, накіраваўшыся да трапа, крыкнуў:

— Валі па дамах!

Ля самага трапа ён сутыкаецца твар у твар з малодшым рулявым Раманам Пракапенкам і карабельным кокам Сцяпанам Галушкам.

Раптам зарагаталі маракі, убачыўшы сваіх таварышаў:

— Сцёпа!.. Раман!.. З прыездам!.. Ха-ха-ха…

Пад рогат, скурчыўшыся ад холаду і ляскаючы зубамі, распранутыя да споднягa, Раман і Сцёпка панура топчуцца на месцы.

Падышоў адзін з матросаў да Сцяпана і, смеючыся, ляпнуў яго па плячы:

— Зноў?.. Эх, Сцёпа, Сцёпа. Казаў жа я табе — не гуляй у ачко…

Новы выбух рогату пракаціўся па палубе.

Сярдзіта замахнуўся на матроса кулаком Сцяпан, той з усмешкай ад яго адскочыў.

Бяжыць узрушаны Галушка на капітанскі мосцік. Ён паварочваецца ва ўсе бакі, пытае:

— Бачылі?

Новы выбух рогату ў адказ Сцяпану. Чутны выкрыкі:

— Харош!.. Як малады бог!

Не звяртаючы ўвагі на кпіны, кліча Сцяпан:

— Раман, тупай сюды!

Няўклюдна, моўчкі падымаецца да яго Пракапенка.

Натоўп, адчуўшы нешта нядобрае, у чаканні сціхае.

Стаяць абодва ў споднім. Галушка працягвае:

— Вось… — Ён паказвае на Рамана, потым на сябе і дадае: — Без анексій і кантрыбуцый… Бушлат знялі, барахлішка забралі, штаны сцягнулі.

Захваляваўся натоўп:

— Хто?

І ўжо надрыўна крычыць Сцяпан:

— Шуцкоры! Яшчэ караблі на рэйдзе, а ўжо штаны здымаюць, а што будзе, калі флот страцім? Апошнія споднікі здзяруць…

Ваўсю разбушаваўся на мосціку Сцяпан Галушка, узмахнуў туга сцятымі кулакамі:

— Кулямёт дайце! Дайце мне кулямёт!..

Упэўнена, адчуваючы сваю правату, крыкнуў Запрудны:

— Герой!.. Без штаноў. Нам флот трэба выводзіць, а не ў драку лезці… за споднікі.

Пасля яго слоў моўчкі падыходзіць да Запруднага Кавалёў, адшпільвае корцік і кідае яму пад ногі.

— З сённяшняга дня я не камандзір.

За ім, як па камандзе, падыходзяць астатнія афіцэры і, адшпільваючы корцікі, таксама кідаюць іх пад ногі Запруднаму. Глуха ўдараюцца корцікі аб палубу.

Спешна збягаюць уніз з капітанскага мосціка Раман і Сцёпка.

Здзіўлена глядзіць на камандзіраў Запрудны і гнеўна пытае:

— Сабатаж?

Са з’едлівай усмешкай адказвае Кавалёў:

— Не… Дэмабілізацыя… — І, выразна паказаўшы на груду корцікаў, падкрэсліў: — Мяняем мячы на арала.

Праходзячы міма капітана Багавога, які адзінока стаяў убаку, Кавалёў з той жа з’едлівай усмешкай спытаў:

— А вы, Аляксандр Васільевіч?

Пахмурна і неахвотна прабурчаў Багавы:

— Капітан карабель пакідае апошнім.

Падхапіўшы яго фразу, Запрудны з запалам, з выклікам на ўсю палубу крыкнуў:

— А пацукі бягуць першымі!

Скрывіўся Кавалёў і, як не расшаркаўся перад Багавым, насмешліва прамовіў:

— Божа мой, якая патэтыка! Рад за вас, Аляксандр Васільевіч.

Апошнім здымае з сябе корцік малады мічман. І з яўным выклікам, грэбліва кідае яго пад ногі Запруднаму:

— Калі ласка… атрымайце. Я спадзяюся, што форма англійскага афіцэра мне будзе больш да твару.

Як шалёны падляцеў да яго Сцяпан Галушка, схапіў аберуч загрудкі і, трасянуўшы мічмана, зароў:

— Скідай!.. К чортавай мацеры ўсё скідай! Калі табе не да твару…

Сутаргава хапаецца мічман за рэвальвер, але аглушальная аплявуха Рамана Пракапенкі апракідвае яго на палубу.

— Не жартуй.

Наваліліся абодва на мічмана, кінуліся ім на падмогу другія матросы. І вось праз пару хвілін чмякнуўся мічман прама на снег,

распрануты да споднягa… Ойкнуў ён, хуценька ўскочыў на ногі і рысцой, курчачыся ад холаду, пабег у бок набярэжнай.

Улюлюкаюць, крычаць, свішчуць яму ўслед маракі:

— Глядзі… у Англію па штаны пабег!

Свіст, рогат, улюлюканне.

Цяжка дыхаючы, апраўляе на сабе мічманавы штаны Сцяпан Галушка:

— Самы раз, — і з ухмылкай падае сіні кіцель Раману: — Без крыўды… Табе палавіна і мне палавіна, а разам мы — як цэлы мічман.

Рагочуць, акружаюць іх матросы.

Моўчкі назірае за гэтай сцэнай Багавы, затым рашуча падыходзіць да Запруднага, заяўляе:

— Што ж, Андрэй Іванавіч, распранайце і мяне. — Няспешна адшпільвае корцік, працягвае яго Запруднаму: — Адслужыў… Весці флот па льдах без ледаколаў я не здольны.

Машынальна прыняў ад яго корцік Запрудны, з дакорам сказаў:

— І вы, Аляксандр Васільевіч?.. Капітан карабель пакідае апошнім.

Шчыра глянуў яму ў вочы Багавы:

— Я цяпер не капітан… Я… — і, махнуўшы рукой, пакрочыў да сходняў.

Маўклівым позіркам праводзіць каманда свайго капітана.

Суровы твар Запруднага. Ён аддае загад:

— Выставіць вахтавых!

Шыкоўная зала кінематографа перапоўнена багата апранутай публікай. У адну з пярэдніх паўзакрытых ложаў уваходзіць консул і Кавалёў. Раздаецца тры рэзкія званкі, фаза за фазай гасне святло. На экране загарэўся вогненны певень. Ён выцягвае шыю, надрываючыся ў сваім «кукарэку». Замільгалі рэкламы: «Патэ-журнал», «Апошнія навіны дня», «Сенсацыйны матч на першынства свету». І вось ужо экран запаўняе вялізны, рослы негр, «чэмпіён Амерыкі — Томі Джонсан». Пасярод рынга скаліць бялюткія зубы чорны Томі, кланяецца публіцы. З другога боку на рынг выходзіць такі ж рослы і дужы кітаец, «чэмпіён Нябеснай Імперыі — Лі-Сін».

Па сігналу суддзі пачалася сутычка.

У чарговым кадры глядач бачыць ляжачага на рынгу кітайца.

Бясстрасна адлічвае секунды суддзя, спрабуе падняцца кітаец і зноў бяссільна валіцца долу. Накаўт. Суддзя бярэ Джонсана за руку, падымае яе ўгору, прадстаўляючы пераможцу.

Мерна стракоча кінаапарат.

На палатне экрана дрыжаць літары: «Развал рускай арміі».

Разбітыя пустыя акопы ламанай лініяй цягнуцца ад небасхілу да небасхілу. Парваная, скамечаная драцяная загарода абвешана бляшанкамі з-пад кансерваў і дзе-нідзе абрыўкамі вопраткі. Па шырокім полі хаатычным натоўпам ідуць узбуджаныя абшарпаныя салдаты. Стаяць у снезе зарадныя артылерыйскія скрыні з абрэзанымі пастромкамі.

Ледзь нахіляецца консул да Кавалёва, выразна шэпча:

— Гэта мне падабаецца… Зараз чарга за флотам…

Стракоча кінаапарат. І замест салдат і разгромленага поля на палатне грацыёзна пырхае балерына. Балет змяняецца вакзальным пляцам, на якім натоўп з захапленнем кідае кветкі пад ногі раскошна апранутай жанчыне. Тлумачальны надпіс на экране: «Прыезд Айседоры Дункан у Лондан».

Нясе натоўп на руках славутую балерыну. Мітусяцца людзі, зліваючыся ў невыразную цёмную пляму, на якой дрыжыць чарговы кінанадпіс: «Уцёкі рускага флоту з Гельсінгфорса».

Па шырокім, пакрытым лёдам заліве доўгім гужом, адзін за адным паволі рухаецца караван судоў, з труб пускаючы дым. Цёмная паласа разводдзя чарнее сярод ільдоў за кармой апошняга карабля.

Незадаволена зморшчыўся консул і ўладна сказаў Кавалёву:

— Без вугля астатнія не выйдуць, я аб гэтым паклапачуся. Вы ж вяртайцеся на карабель, намагайцеся затрымаць яго на рамонт. З Запрудным я пагавару сам…

Згодна кіўнуў галавой Кавалёў.

Змоўк строкат кінаапарата: парвалася стужка. У зале поўная цемра.

Невялічкі, але ўтульны і чысты пакойчык Запруднага.

За сталом, перад пыхкаючым самаварам сядзіць Багавы, трымае ў руках маленькую дзіцячую распашонку.

— Ды толькі я думаю, Наталля Сяргееўна, для хлопчыка малаватая будзе…

З любоўю, пяшчотна пазіраючы на распашонку, з жаночай хітрынкай пытае Наталля:

— Чаму для хлопчыка? А можа, для дзяўчынкі?

Па-добраму, па-старэчы ўсміхнуўся Багавы і пацвердзіў:

— Для хлопчыка.

Ён лагодна глядзіць на распаўнелую постаць Наталлі, гладзіць свае пухкія вусы і паўтарае:

— Іменна для хлопчыка. — Ён хітра падміргнуў Наталлі. — Паверце вопыту старога халасцяка.

Збянтэжылася радасная і мілая ў гэту хвіліну Наталля, сарамліва апусціла галаву. Усміхнулася, нібы прыслухоўваючыся да сваіх патаемных мар.

У пакой у заснежаным шынялі, з клубамі марознай пары ўваходзіць Запрудны. Здзіўлены госцю, з лагоднай усмешкай кажа:

— Заляцаецеся, Аляксандр Васільевіч? Карыстаецеся адсутнасцю мужа?

Радасна кінулася яму насустрач Наталля.

— А каму ж яшчэ заляцацца, калі муж па тры дні дамоў не з'яўляецца?

Абтрасаючы снег і здымаючы бушлат, на хаду цалуе жонку Запрудны, паціскае руку Багавому.

— Добры вечар, Аляксандр Васільевіч.

Адказваючы на поціск рукі Запруднага і не выпускаючы яе, цёпла і сардэчна кажа Багавы:

— Да пабачэння, Андрэй Іванавіч. Развітацца прыйшоў. Ад'язджаю заўтра.

Ледзь здзіўлена зірнуў на яго Запрудны і такім жа сардэчным, цёплым тонам сказаў:

— А можа, застанецеся?.. Разам… З флотам пойдзем…

Адмоўна паківаў галавой Багавы.

— Не. Без ледаколаў не магу… — Па-бацькоўску зірнуў на Запруднага, з сумам і жалем прамовіў: — Я не вар'ят. Губіць флот не хачу…

Настойлівы і разам з тым асцярожны стук у дзверы спыніў іх гутарку.

Павярнуўся Запрудны і крыкнуў:

— Заходзьце!

Запрудны, стоячы пасярод пакоя, здзіўлена глядзіць на ўвайшоўшага консула.

— Добры вечар, спадар Запрудны. Я, як бачыце, зноў да вас.

— Зноў з тым жа? — пахмура і даволі недалікатна спытаў Запрудны.

— Не зусім… Нам неабходна пагаварыць сам-насам…

Паспешна апранаецца Багавы, развітваецца з Наталляй. Паціскае яму руку Запрудны.

— Прабачце Аляксандр Васільевіч, справы… — І, зачыніўшы дзверы за Багавым, павярнуўся да консула: — Гаварыце тут, у мяне няма асобнага кабінета.

Не распранаючыся, консул сядае ля стала.

Пануры ходзіць па пакоі Запрудны.

Ціха і лісліва зацурчаў голас консула:

— Спадар Запрудны, мы перадумалі. Мой урад дае вам дваццаць пяць мільёнаў доларaў не за продаж флоту… Мы вас просім толькі спазніцца на адзін дзень. У вас хворая жонка, дрэннае становішча з вугалем, у вас няма ледаколаў… людзей…

Спыніўся Запрудны, з яўнай нянавісцю ў позірку, але з абсалютным спакоем перарваў прамову консула:

— Перадайце вашаму ўраду, што я вас выгнаў… — І выразным жэстам паказаў госцю на дзверы. — Прашу…

Няспешна, з фанабэрыстым выглядам прыўзняўся консул з месца і ва ўпор, цэдзячы слова за словам, шматзначна заявіў:

— Асцярожней, спадар Запрудны… Ваш папярэднік таксама быў незгаворлівы…

У парыве гневу ступіў да яго Запрудны, хапаючыся за кабуру рэвальвера.

— Каціся ты да…

Перапуджаны консул пробкай вылецеў з пакоя.

Усхваляваны Запрудны падышоў да акна і, нервова расчыніўшы фортку, на поўныя грудзі ўдыхае марознае паветра.

— Ну і гадзіна!

Перапуджаная падышла да яго Наталля і, абняўшы, ледзь стрымліваючы слёзы, загаварыла:

— Андрэйка, родненькі! Кінь ты гэты флот. Заб'юць цябе…

Заўзята і неяк па-хлапечы падцягнуў на сабе штаны Запрудны, пяшчотна пагладзіў жонку па шчацэ.

— Кінь, Наталля… Мяне?.. Заб'юць?..

Прытулілася да яго грудзей Наталля, моцна абхапіла рукамі за шыю.

— Шальны ты, Андрэйка. Далібог, шальны…

Змрочны зімовы поўдзень.

Лёгкі сняжок ахутвае прыстань, зацягвае рэдкай сеткай баявыя караблі. Ля самай прыстані, насупраць пакгаузаў групы

маракоў цягнуць грузы, напаўняючы імі пражэрлівыя неабсяжныя трумы караблёў.

Усюды чуецца зычнае:

— Віра!..

І як адгалосак:

— Майна!..

Дзелавіта рыпяць лябёдкі, звякаюць ланцугі.

Перапэцканыя мукой матросы працуюць зладжана, з нейкай хвацкасцю. Мяхі, цюкі, скрыні, вінтоўкі і патроны, нават паўразбітыя аэрапланы — усё гэта на плячах маракоў пераносіцца на палубу «Кречета», бо ўжо не ўмяшчаецца ў трумы.

Ля трапа на вахце стаіць Раман Пракапенка, зрэдку перакідваецца словамі з таварышамі.

Упэўненай хадой, па старой афіцэрскай звычцы, падыходзіць да яго Кавалёў.

Спакойным, але цвёрдым вокрыкам спыніў яго Раман:

— Пропуск!

Ступіў да яго бліжэй Кавалёў, камандзірскім тонам пагардліва спытаў:

— Вы не пазналі мяне?

Усё так жа спакойна і важка заявіў яму Раман:

— Пазнаў. Пабочных асоб… на борт… не пускаем.

Скаланула Кавалёва, але, хутка авалодаўшы сабой, таксама суха і спакойна папрасіў:

— У такім выпадку паведаміце аб маім прыбыцці камісару Запруднаму.

Азіраецца навокал Пракапенка і, заўважыўшы недалёка ад сябе аднаго з камандзіраў, абсыпанага мукой, звяртаецца да яго:

— Таварыш камандзір, скажыце камісару — Кавалёў прыйшоў.

Страціўшы ўсякую вытрымку, былы начальнік злосна паправіў:

— Прабачце!.. Таварыш Кавалёў прыйшоў!

Спакойна ўсміхнуўся Раман:

— Таварышы на карабель без пропускаў ходзяць — не затрымліваем.

Нібы ў пацвярджэнне яго слоў паўз іх гужам праходзяць па трапе матросы з цюкамі, мяхамі, скрынямі.

Моўчкі і не зусім далікатным жэстам запрасіў за сабой камандзір Кавалёва. Абодва яны перасеклі палубу, заваленую грузамі, накіроўваючыся ў кают-кампанію.

Абапёрся локцем на піяніна, уважліва слухае Кавалёва Запрудны. Той нервова жэстыкулюе, хвалюецца, тлумачыць:

— Я не знаходжу сабе месца… Я так люблю наш флот… Андрэй Іванавіч, я згодзен на любую, самую цяжкую работу…

Нудная паўза.

Запрудны ў задуменні апусціў руку на клавішы інструмента і, уважліва назіраючы за Кавалёвым, адным пальцам наігрывае вядомую дзіцячую песеньку «Чыжык, пыжык, дзе ты быў».

Наблізіўся да яго Кавалёў.

— Вы мне не верыце?

Спыніў ігру Запрудны, абыякава кажа:

— Я вас слухаю…

І Кавалёў, упадаючы ў экстаз, захлынаючыся словамі, спавядаецца:

— Я… зразумеў сваю памылку… Учора… мне прапанавалі… — ён яшчэ бліжэй ступіў да камісара і, ледзьве пераводзячы дыханне, зашаптаў: — …прапанавалі… стаць здраднікам… Мне прапанавалі грошы… Хацелі купіць маё сумленне…

Выпрастаўся Запрудны і, увесь напружаны, усё ж спакойна спытаў:

— Хто?

— Консул.

Твар Запруднага заставаўся спакойным.

— Ведаю.

Знясілена прысеў Кавалёў на канапу і, не зводзячы вачэй з Запруднага, раскрывае душу, як на споведзі:

— …мне прапанавалі вярнуцца на службу да вас і… шкодзіць. Андрэй Іванавіч, я не камуніст… можа, я ніколі бальшавіком не буду, але я чэсны рускі чалавек і марак… Калі верыце — вазьміце на карабель… Мы выведзем флот…

Хвіліны дзве-тры ходзіць у роздуме па кают-кампаніі Запрудны.

З надзеяй тужліва назірае за ім Кавалёў.

Падышоў да яго камісар і сардэчна, моцна паціснуў руку, заявіў:

— Веру!

Абодва прыязна ўсміхнуліся.

У кают-кампанію ўвайшоў карабельны кок Сцяпан Галушка. У руках яго два бачкі, якія дыміліся парай. Паставіў Галушка бачкі на стол, выняў з кішэні лыжку, абцёр яе фартухам і, падаючы Запруднаму, адрапартаваў:

— Таварыш камісар. Абед для каманды гатовы. Вазьміце пробу.

Кіўком галавы паказаўшы на Кавалёва, каротка загадаў Запрудны:

— Перадайце пробу камандзіру карабля.

Радасна здрыгануўся твар Кавалёва.

Стаіць перад ім збянтэжаны Галушка, пераводзіць позірк то на Запруднага, то на Кавалёва і затым, з яўнай горыччу падышоўшы да камісара, ледзь не плачучы, кажа:

— Андрэй Іванавіч, ты ж з учарашняга вечара нічога не еў. Вазьмі пробу… пакаштуй… — І, нахіліўшыся да Запруднага, Галушка з ледзь прыкметнай фамільярнасцю і разам з тым з клапатлівасцю прашаптаў: — А боршч сёння — закачайся. Пах — майская ружа.

Цёпла зірнуў камісар на Галушку і, хаваючы ўсмешку, сухавата паўтарае загад:

— Перадайце пробу камандзіру карабля.

Вельмі неахвотна тыцкае Сцяпан у рукі Кавалёва лыжку.

— Каштуйце…

І тады Запрудны строга і патрабавальна адчаканіў:

— Таварыш Галушка, перадайце пробу па ўставу!

У струнку выпрастаўся Галушка і, падышоўшы да Кавалёва, драўляным голасам рапартуе:

— Таварыш камандзір карабля, абед гатовы!

Кавалёў звычным жэстам узяў лыжку і пакаштаваў страву.

— Раздавайце.

Незадаволены Галушка куляй вылецеў за дзверы.

Усміхаючыся, кіўнуў яму ўслед Запрудны, звяртаецца да Кавалёва:

— Ладны хлопец.

Увесь левы борт «Кречета» густа ўсыпаны матросамі. Яны ўсхвалявана ўглядаюцца ўдалечыню шырокага, пакрытага лёдам заліва, абменьваючыся рэплікамі.

На капітанскім мосціку Кавалёў і Запрудны таксаманазіраюць за нейкімі ледзь прыкметнымі кропкамі на лёдзе.

Рыўком адрывае Запрудны бінокль ад вачэй і крычыць уніз:

— Да бою!

Услед за ім аддаў кароткі загад Кавалёў:

— Падрыхтаваць зеніткі!

Кінуліся маракі выконваць загад.

Грозна ўзняліся ўгору дулы зенітных гармат і кулямётаў.

Глядзіць у бінокль Запрудны на рухомыя чорныя кропкі.

У паветры нарастае рокат матораў. Усё бліжэй і бліжэй самалёты. На лёдзе зламанай лініяй выцягнуўся атрад фінскіх чырвонагвардзейцаў-лыжнікаў. Суха стракоча над імі кулямёт.

Пахіснулася некалькі чалавек. Занепакоена скамандаваў свайму атраду Анці Вікалайнен:

— Лажыся!

Зарываюцца чырвонагвардзейцы, як курапаткі, у снег.

І вось на шырокай прасторы заліва белата, бязлюддзе, і толькі шматлікая лыжня сведчыць аб прайшоўшым атрадзе.

Па-драпежніцку зрабіўшы некалькі кругоў, самалёты выраўняліся ў зграю і з грозным ровам і гулам панесліся на эскадру.

Не сыходзячы з капітанскага мосціка, паспешна камандуе Запрудны:

— Падрыхтавацца!.. Без каманды не страляць!

Зніклі людзі з палубы. Ускінуліся дулы зенітак. З грукатам пранесліся самалёты над эскадрай, кідаючы цень ад крылаў на палубы. Заціх гул удалечыні. І тады з палёгкай зноў скамандаваў Запрудны:

— Адставіць!

Апусціліся дулы зенітак. Жвавыя матросы зноў густа ўсеялі левы борт «Кречета».

Да эскадры набліжаюцца знясіленыя паходам чырвонагвардзейцы на чале з Анці Вікалайненам.

Цягнуць за сабой байцы параненых на насілках, замацаваных на лыжах. Паспешна бягуць насустрач ім матросы.

Збег з мосціка на палубу Запрудны і, заўважыўшы сярод матросаў Сцяпана Галушку, заклапочана сказаў:

— Сцёпа, валі ў камбуз, пакарміць трэба…

Сцяпан згодна кіўнуў галавой, тыцкае пальцам у чырвонагвардзейцаў і лічыць уголас:

— Раз, два, тры, чатыры… — з хвіліну падлічвае моўчкі, махаючы рукой, затым павярнуўся да Запруднага: — Ёсць пакарміць! Боршч — закачайся! Пах — хрызантэма! — І ён шпарка пабег да камбуза.

Усміхаецца ўслед яму Запрудны.

Рагочуць матросы.

Па кают-кампаніі няспешна крочыць заклапочаны Запрудны. Ён зрэдку кідае позіркі на Вікалайнена, які сядзіць за сталом.

Анці, забыўшыся на абед, махаючы лыжкай, як камертонам, даказвае:

— Паўгадзіны артылерыйскага агню з тваіх караблёў — і мы затрымаем наступ немцаў.

Спакойна, без запальчывасці, тлумачыць Запрудны:

— Зразумей ты, галава садовая: мы не маем права парушаць Брэсцкі мір. Няма нам выгады задзірацца з немцамі.

Ашаломлена глядзіць на яго Анці.

— Фронт адкрываеш?..

І з тым жа спакоем пераконвае яго Запрудны:

— Патроны дам… вінтоўкі дам… кулямёты бяры… Але з караблёў страляць не буду… І ні адзінага матроса на фронт не пушчу: флот трэба выводзіць. У нас і так людзей не хапае.

Як уджалены ўскочыў Вікалайнен, не выпускаючы лыжкі з рук.

— Рэвалюцыю прадаеш?.. Струсіў?..

Ледзь стрымліваючы сябе, спакойна кажа Запрудны:

— Прытрымай язык, Анці. Бязглуздзіцу вярзеш…

Як шалёны, шпурнуў Анці лыжку на стол, разляцелася тая на дробныя кавалачкі.

— Баязлівец!.. Калі так — я сам павяду матросаў…

З пагрозай, узважваючы кожнае слова, заяўляе камісар:

— Расстраляю… Разумееш?..

Застыў на месцы ад нечаканасці Анці.

— Андрэй… ты… мяне?..

І тады падышоў да яго ўпрытык Запрудны, паклаў яму руку на плячо і з асаблівай цеплынёй сказаў:

— Гарачы ты дужа… а на сярдзітых ваду возяць. Падумай… Для нас воля партыі — усё.

Нізка схіліў галаву Вікалайнен, знясілена садзіцца на крэсла.

Ускудлачыў яму валасы на галаве Запрудны і з цёплай усмешкай прагаварыў:

— Малады ты, Антошка… Зусім малады…

У кают-кампанію ўрываецца яўна расхваляваны Кавалёў.

— Андрэй Іванавіч, мы засталіся без вугалю. База захоплена шуцкорамі, ахова арыштавана.

Доўгая, цяжкая паўза. Разгублены Запрудны глыбока ўздыхнуў.

— Вось як!.. Здорава.

Спружынай выпрастаўся Анці Вікалайнен і, не ў стане стрымаць сябе, папрасіў:

— Андрэй, ты… толькі дазволь мне з маімі хлопцамі пайсці туды. Вугаль будзе!

Жэстам рукі супакоіў яго Запрудны.

— Не кіпяціся. — І тут жа загадаў Кавалёву: — Збярыце чалавек пяцьдзесят з кулямётамі.

Не паспеў Запрудны закончыць фразу, як поўны гатоўнасці Кавалёў адрапартаваў:

— Ёсць, таварыш камісар! Восемдзесят маракоў з трыма кулямётамі пастроены на палубе.

Моцна пацінуў яму руку Запрудны і на хаду кінуў Анці Вікалайнену:

— Што ж, Антось, Пойдзем. Паваюем.

Наўсцяж набярэжнай стройна крочаць маракі, узброеныя вінтоўкамі, бомбамі і ручнымі кулямётамі. Людзі ідуць моўчкі. Наперадзе, як на парадзе, выступаюць Запрудны і Кавалёў, а ззаду, за калонай матросаў, вядзе сваіх чырвонагвардзейцаў-фінаў Анці Вікалайнен. Звярнулі абодва атрады ўбок, за вугал.

Затрымаўся на імгненне Запрудны, спыніў атрад маракоў. Чорны дым клубамі ўецца над дахамі дамоў і цяжкай, густой заслонай сцелецца па вуліцах.

Устрывожана і злосна крыкнуў адзін з маракоў:

— Падпалілі!.. Базу падпалілі!

Выхапіў Запрудны маўзер з кабуры.

— Бяго-ом!

Імкліва, хаатычна кінуліся людзі насустрач клубам дыму.

Дзе-нідзе скрозь густыя, чорныя хмары дыму прарваліся ўжо языкі полымя.

Яшчэ адзін паварот — і вылецела грозная, узброеная лавіна людзей на невялікую пляцоўку перад вугальнай базай.

Спыніліся, як укопаныя, маракі і чырвонагвардзейцы перад бушуючым полымем.

Дым клубіцца над базай. Трашчаць у агні драўляныя пабудовы.

З анямеласці вывеў усіх уладны вокрык Кавалёва:

— Ламай агароджу!

Рвануліся матросы і фіны да агароджы, затрашчалі дошкі, разбурылася ў некалькіх месцах загарадзь, вырвалася шалёнае полымя агню насустрач людзям.

Яшчэ мацней і ярчэй запалала вогненнае мора вугалля.

Шырока раскіданыя штабелі антрацыту пераліваюцца рознакаляровымі агнямі, і цяжкі, як чорная вата, дым пад парывамі ветру то сцелецца па зямлі, то шугае ўгору.

Трашчаць пабудовы, чуюцца злосныя выкрыкі байцоў, але на момант усё пакрывае зычны голас Запруднага:

— Пажарных давай!

Некалькі рабочых і матросаў на чале з Вікалайненам бягуць да пажарнага дэпо.

Расчынілі створкі варотаў.

У памяшканні пуста.

Злосная лаянка Вікалайнена гулка разнеслася па дэпо:

— У-у, саттана… перрекелле!..[5]

Узбуджаныя і раззлаваныя вярнуліся людзі да Запруднага.

— Пажарны абоз угналі!

Падышоў да камісара Анці, працягвае жменю вуголля.

— Газай аблілі. Нічым не патушыш.

Зморана прысеў Запрудны на абломак бервяна.

— Та-ак… Лоўка прыдумалі…

Трашчыць, гудзіць, бушуе полымя. Нізка сцелецца па зямлі дым.

Пануры сядзіць камісар і, нібы пытаецца ў самога сябе, мармыча:

— Што ж цяпер рабіць? Дзе ўзяць вугаль?..

Ціха перагаворваюцца па-фінску паміж сабой рабочыя і чырвонагвардзейцы, затым некалькі чалавек з Вікалайненам, падышоўшы да Запруднага, паведамляюць:

— Ёсць вугаль.

Ускочыў Запрудны.

— Дзе?!

— На вакзале.

Радасна, з надзеяй і некаторым здзіўленнем развёў рукамі Запрудны:

— Сапраўды… З галавы выскачыла.

І ён ужо зусім цвёрдым і рашучым голасам загадвае:

— Наперад.

Чаканіць крок па вуліцах Гельсінгфорса зводны атрад маракоў і фінскіх чырвонагвардзейцаў.

Вырваўся з радоў малады заліхвацкі тэнар, бадзёра выводзіць старую марскую песню «Варяг».

Дружна і грозна падхапіў яе хор.

Далёка разнеслася:

Всё вымпелы вьются и цепи гремят,
Наверх якоря поднимая…

Грымнула:

> Готовые к бою орудья стоят,
> На солнце зловеще сверкая.

Падхапілі песню і гарэзлівыя гельсінгфорскія хлапчукі, слізгочучы за атрадам на фінскіх санях.

Выходзіць атрад на вялізную прывакзальную плошчу. Грымнула кімсьці кінутая бомба. Гэтак жа нечакана затрашчалі кулямёты. Абарвалася песня. Пранёсся поўны болю і перапуду дзіцячы крык:

— А-ай!.. Дзядзенькі!..

Імкліва слізгацяць пустыя фінскія санкі, перакульваюцца на бок. Рассыпаліся ў ланцуг па шырокай плошчы чырвонагвардзейцы і матросы. Крычыць, ахоплены гневам і рашучасцю, Запрудны:

— Лажыся!

Чорнымі камянямі пападалі ў снег байцы.

Паўз іх, спуджана насцёбваючы коней, праносяцца рамізнікі.

Аглушальна трызвоніць вагонаважаты трамвая. Пырснула ва ўсе бакі шкло на пярэдняй пляцоўцы.

Частая ружэйная перастрэлка, паспешнае шчоўканне кулямётаў, крыкі і ўладная каманда навіслі над плошчай.

Пакінуў сваё месца вагонаважаты, бяжыць па плошчы да смяротна раненага матроса і, нахіліўшыся над ім, хутка хапае са снегу вінтоўку, што выпала з яго рук.

Ранены матрос з цяжкасцю дастае з кішэні дзве поўныя абоймы патронаў, працягвае іх вагонаважатаму.

— На, браток… не прамахніся… за мяне… — і ніцма торкнуўся ў снег.

Выхапіў з мёртвых рук патроны вагонаважаты і тут жа, непадалёку, кладзецца ў ланцуг паміж матросаў.

Б’е па ланцугу бесперапынны кулямётны агонь.

Прыўзняўся са снегу Запрудны.

— Адыходзь у завулкі!

Байцы, зрываючыся з месца, адзін за адным перабягаюць у вуліцы.

Ад аднаго да другога гучаць словы:

— Перадаць па ланцугу…

І яшчэ раз, ужо трохі прыглушана здалёк данеслася:

— Па ланцугу-у…

Адгалоскам у грукаце стральбы на далёкім флангу ледзь чутна каманда:

— Камандзіру Кавалёву… На караблі… Адкрыць агонь па вакзалу…

Падняўся Кавалёў са снегу і з двума матросамі знік у завулку. А ўслед яму гучыць:

— Па ланцугу-у… Прыслаць падмацаванне…

Аддае нячутны загад Кавалёў бліжэйшаму матросу. Той паспешна знікае за паваротам.

У процілеглы бок ідзе Кавалёў з другім маракам.

Ляжыць на скрыжаванні вуліц вагонаважаты поплеч з некалькімі матросамі.

Таропка і люта страляюць маракі. Метадычна і спакойна цэліцца вагонаважаты. Ля яго на снезе ляжаць акуратна і беражліва раскладзеныя гільзы. Спусціў курок вагонаважаты, шчоўкнуў стрэл, і яшчэ адна гільза звалілася на снег. Пагаспадарску падняў яе вагонаважаты і паклаў побач з другімі. Затым, пералічыўшы дзевяць гільзаў, ён асабліва ўважліва ўглядаецца ў пад'езд вакзала, падымае вінтоўку і доўга-доўга цэліцца.

Аглушальна разарваліся шрапнельныя снарады над плошчай. Высока над чыгуначнымі пуцямі растаюць белыя воблачкі разрываў.

Рвануўся Анці Вікалайнен наперад. Бягуць за ім матросы і чырвонагвардзейцы. Няспынны грукат разрываў суправаджае звон трэснутага шкла. Прыгінаючыся да зямлі, бягуць байцы па чыгуначных пуцях.

Трывожна гудзіць доўгі састаў сашчэпленых паміж сабой паравозаў. Паступова набіраючы хуткасць, адыходзяць яны. Падняўся на ўвесь рост Запрудны.

— Затрымаць паравозы!

Лавай кінуліся наперад байцы.

Гулка рвецца, даганяючы паравозы, шрапнель.

Павярнуўся на хаду Запрудны, крычыць:

— Перадаць па ланцугу: біць па палатне — адрэзаць дарогу!

Яшчэ раз грымнулі снарады, узрываючы палатно. Ляцяць угору асколкі рэек ззаду паравознага саставу. Далёка за паваротам чыгуначнага насыпу зніклі паравозы, і адразу ж абарвалася стральба.

Акружылі маракі і чырвонагвардзейцы Запруднага.

Сярдзіта глядзіць Анці Вікалайнен услед адышоўшым паравозам.

— Саттана перрекелле!..

Акінуўшы позіркам стомленых байцоў, кажа камісар:

— Што ж, таварышы. Упусцілі мы паравозы. Зараз на сабе вугалёк павязем…

І людзі натоўпам рушылі да штабеляў вугалю.

Папляваўшы на рукі, схапіў шуфель вагонаважаты і, захапіўшы добрую порцыю вуголля, заўзята кінуў яго на платформу.

Усміхнуўся матрос, які стаяў паблізу.

— Няблага атрымліваецца… Ану давай — хто лепш!

І, скінуўшы бушлат, узброіўся шуфлем, узяўся за працу.

Людзі хвацка накінуліся на вугаль.

Чорны з'едлівы пыл закруціўся ў паветры. Падштурханыя плячыма людзей, цягнуцца доўгім гужам парожнія платформы да штабеляў вуголля.

Нехта заспяваў песню. Падхопленая ўсімі, яна звініць, перакочваецца ад групы да групы, ад вагона да вагона.

Падбягаюць да перапэцканага вуголлем Запруднага Сцяпан Галушка і Раман Пракапенка.

Нахіліўшыся да камісара, напаўголаса паведамляе Сцяпан:

— Андрэй Іванавіч, на «Баяне» нядобра…

І тут жа пераходзіць на шэпт.

Згодна кіўнуў яму Запрудны і моўчкі адышоў убок.

Таропка мыецца, трэ снегам рукі і твар камісар. Спехам абціраецца насоўкай.

— Гатовы. Едзем.

І ўжо ўсаджваючыся ў падагнаную Сцяпанам дрызіну, распараджаецца:

— Анці, за пагрузку адказваеш ты!

Узяліся Сцёпка з Раманам за ручку — і паімчалася дрызіна па пуцях. Імчыць яна паўз штабелі вуголля. І Андрэй бачыць, як маракі, чыгуначнікі, чырвонагвардзейцы, нават жанчыны і дзеці грузяць вугаль.

І несціханая песня гучыць для яго пераможным маршам.

Высока ў небе палошчуцца на мачце рознакаляровыя флагі. Яны трымцяць у такт музыцы. На працягнутых вяроўках матляюцца на ветры споднікі, кашулі, матроскія форменкі.

Грыміць аркестр, залівaецца гармонь.

Даносіцца дробны тупат ног, і паўп'яны голас пад свіст у такт аркестру ліха напявае:

Эх, ночка цёмна,
Ды я баюся,
Ах, правадзі мяне, Маруся!

Яшчэ гучней грымнуў аркестр, і нястройны хор галасоў хвацка падхапіў напеў:

Эх, праваджала
Да вакзала,
Прыйшла дадому —
Плакаць стала.

І зноў той жа паўп'яны голас гарланіць:

— Наярывай!..

Эх, катрыншчыкі,
Эх, кішэншчыкі,
Ды эх, ліхія шырмачы!

Ваўсю надрываецца аркестр. Дробнай чачоткай выстукваюць матросы-клёшнікі песню на палубе крэйсера «Баян». Невялічкая група марачкоў з жанчынамі вельмі легкадумнага выгляду скачуць пад «Ночку цёмную».

Палуба забруджана акуркамі, луской сланечніку, паперкамі. Людзі расхлябана танцуюць, віхляючыся з боку ў бок. Сярод танцуючых адзін уладальнік ашаламляльнага клёша і заліхвацкай чупрыны выкрыквае:

— Наярывай!

Стараецца аркестр. Танцуюць пары. І ў гэтых скоках нейкая бесшабашнасць, разгул, анархія.

Раптам знізіў і тэмп, і гучанне аркестр.

Здаецца, спалохана лопнула струна.

Паволі, нясмела заціхла на дзівотным акордзе гармонь, і ўвесь аркестр паволі заціх. Толькі адна мандаліна працягвае тоненька выводзіць матыў «Ночкі», але вось і яна абарвалася, не скончыўшы музычнай фразы.

У неразуменні спынілі скокі танцуючыя, глядзяць у бок трапа, і толькі матрос-клёшнік, нічога не заўважаючы, працягвае адбіваць чачотку з выкрыкам:

— Ах, правадзі мяне, Маруся!..

Голас яго адзінока і недарэчна гучыць па ўсёй палубе.

Марачок раптам спыніўся, зірнуў на капітанскі мосцік, дзе знаходзіўся аркестр, і крыкнуў:

— Чаго сталі? Дуй!..

Адчуўшы нешта нядобрае, хлопец павярнуўся і міжволі выпрастаўся.

Ля самага трапа маўклівы і хмурны стаяў Андрэй Іванавіч Запрудны, каля яго Раман Пракапенка і Сцяпан Галушка.

На хвілінку збянтэжыўся клёшнік, а затым, прыняўшы нахабны выгляд, рушыў да Запруднага.

— А-а!.. Во госць дык госць!..

Падышоўшы ўпрытык да камісара, развязна, з утрыраванай фамільярнасцю павітаўся:

— Андрэю Іванавічу пашана і павага!.. Ад імя ўсёй братвы крэйсера «Баян» запрашаем цябе на калектыўнае вяселле марачкоў…

Запрудны моўчкі выйшаў на сярэдзіну палубы і акінуў позіркам увесь карабель.

Палошчуцца на ветрыку кашулі, форменкі, панчохі.

Стрымліваючы гнеў, Запрудны ўладна і рашуча камандуе:

— Загадваю ўсім грамадзянкам зараз жа пакінуць карабель.

Падляцела да Запруднага размаляваная, як лялька, жанчына:

— Дазвольце, я мужа не пакіну…

Пагардліва агледзеў яе з ног да галавы Запрудны.

— Каторы ваш?

Усміхнуўся на ўвесь рот Галушка, паказаў на групу марачкоў.

— Палова гэтых…

Завішчала істэрычна жанчына, затупала нагамі.

— Лёнечка!.. Мяне абражаюць!

З натоўпу вырваўся знаёмы клёшнік.

Ён пагражальна падступае да Запруднага:

— Зарваўся, таварыш камісар…

І, размахваючы кулакамі, крычыць на ўсю глотку матросам:

— Браточкі! Зноў стары рэжым?.. Мы скінулі афіцэрню, дык новая знайшлася?.. Далоў камісараў!.. Бі-і!..

Яго парывісты крык спыніў кароткі нечаканы стрэл.

Узмахнуўшы рукамі, клёшнік мёртвым зваліўся на палубу.

Стаіць, як напятая струна, Запрудны з маўзерам у руцэ.

Мёртвая цішыня на палубе.

Людзі ашаломленыя глядзяць на камісара, а ён з напускным спакоем рашуча ўзрывае гэту цішыню адным толькі словам:

— Наступны…

Рванулася да Запруднага кучка «Іванмораў».

Вырас на іх шляху з высока ўскінутымі рукамі Сцяпан Галушка.

Цьмяна паблісківаюць у яго руках дзве бомбы.

— Но-но… Толькі без жартаў, — папярэдзіў Сцяпан.

Падаліся назад спалоханыя клёшнікі.

А Запрудны ўсё тым жа тонам паўтарыў свой загад:

— Грамадзянкі, пакіньце карабель, ды хутчэй.

Пацягнуліся перапужаныя жанчыны доўгай чарадой да трапа. Спалохана косяцца на Запруднага, Галушку і Пракапенку. Не вытрымаў Сцёпка і з хітраватай ухмылкай крыкнуў аркестрантам:

— Маэстра! Прашу марш… вышыбальны.

Сурова паглядзеў на яго Запрудны.

Скурчыўся Галушка і паспешна крыкнуў:

— Адставіць!

Пакідаюць жанчыны палубу.

Аддае загад Запрудны:

— Падрыхтуйцеся грузіць вугаль… Членаў судавога камітэта прашу ў кают-кампанію.

У суправаджэнні Пракапенкі і Галушкі ён рушыў па ўнутраным трапе ўніз.

У багата абсталяваным кабінеце ля сцяны, перад вялізнай картай Балтыкі, стаяць Кавалёў і консул.

Скончыўшы ўторкваць шматкаляровыя флажкі, Кавалёў робіць крок назад, звярае лінію флажкоў з планам, які трымае ў руцэ.

— Вось… Сакрэтны стратэгічны шлях, па якім можна вывесці ўвесь флот. — І, падаючы консулу план, Кавалёў падкрэсліў: — Адзіны экземпляр… Калі ласка.

Уважліва разглядае план консул, зрэдку звяраючы яго з картай, што вісіць на сцяне, затым клапатліва хавае паперу ў стол і, павярнуўшыся да Кавалёва, кажа:

— Вы цудоўна працуеце, Віталь Паўлавіч. Мы вамі задаволены.

Лёгкім кіўком галавы, не губляючы пачуцця ўласнай годнасці, Кавалёў адказвае на камплімент і садзіцца на крэсла.

Консул падыходзіць да карты і ўжо сам упэўнена наколвае лінію флажкоў ад Гельсінгфорса да Кранштата.

Гэта лінія значна карацей за першую.

Над кропкай, што абазначае востраў Інсаары, ён уторквае асабліва буйны флажок і, звяртаючыся да Кавалёва, даручае заданне:

— На вугалі мы пралічыліся. Вы паведзяце флот гэтым, звычайным шляхам… Тут. — І консул паказаў на буйны флажок. — Тут флот будзе абстраляны батарэяй з вострава… Ваша задача — адказаць на агонь. І Брэсцкі мір будзе сарваны.

Падняўся Кавалёў з крэсла і, зірнуўшы на гадзіннік, сказаў:

— Я гатовы… Час… Мяне чакаюць на караблі.

Ветліва праводзіць яго да самых дзвярэй консул.

— Улічыце, Віталь Паўлавіч, гэта наша апошняя стаўка.

Адказваючы на поціск рукі, падаў яшчэ адну думку Кавалёў:

— Ёсць яшчэ адзін сродак затрымаць флот… Праўда, не зусім надзейны.

Запытальна глядзіць на яго консул.

Нахіліўшыся, напаўголаса кажа Кавалёў:

— Жонка камісара…

— Ідэя! — вырвалася ў здзіўленага здагадкай консула.

Меладычны бой гадзінніка на гарадской вежы заглушае іхнюю размову.

Звон вахтавых склянак на «Кречете». У звон склянак уразаецца рыпенне лябёдак.

Апошнія карзіны і мяхі вуголля правальваюцца ў трумы.

Перад караблямі на набярэжнай стаяць парожнія, пакрытыя вугальным пылам платформы.

На адной з іх Анці Вікалайнен з шуфлем чорны, як негр. Ён ускідвае шуфель на плячо, крычыць:

— Усё!

Падхапілі яго слова матросы, рабочыя, жанчыны:

— Усё!..

— Усё!..

— Усё!..

І асабліва радасны бас заканчвае:

— Усё!

Саскоквае Анці Вікалайнен з платформы, узбягае па трапе на палубу «Крэчата» і ўрачыста рапартуе Запруднаму:

— Гатова!

Усміхнуўся Запрудны, лагодна трасянуў за плечы Анці.

— Добра, Антошка.

І тут жа, звяртаючыся да Кавалёва, які стаяў побач, загадаў:

— Таварыш камандзір, праверце гатоўнасць караблёў да адыходу.

Урачыста падымаюцца на капітанскі мосцік Кавалёў, Запрудны і Анці.

Аддае Кавалёў загад:

— На «Баяне»…

Выразна замахаў флагамі сігнальшчык.

— Іменна, у першую чаргу на «Баяне»… — пахвальна заўважыў Запрудны.

— На «Уссурийце»… — працягвае тым жа тонам Кавалёў.

Зноў, але ўжо трохі іначай махае флагамі сігнальшчык.

Мільгаюць розныя постаці сігнальшчыкаў з розных караблёў. Суха рапартуе Запруднаму Кавалёў:

— Таварыш камісар, флот да адыходу гатовы.

Сардэчнай усмешкай адказаў яму Запрудны.

— Вельмі добра. Ну, Віталь Паўлавіч, цяпер дазвольце і мне заняцца пагрузкай. Па жонку паеду.

З жартаўлівымі ноткамі ў голасе адпускае Кавалёў камісара:

— Дазваляю.

Рушыў Запрудны сумесна з Анці Вікалайненам да трапа, падбег да яго Раман Пракапенка, спыніўся ў нерашучасці, хоча нешта сказаць.

Падміргвае яму Сцяпан Галушка, падбадзёрвае.

І тады рашуча звяртаецца Раман з просьбай да Запруднага:

— Андрэй Іванавіч, захапі і мяне на бераг… — і ўжо з некаторай хітрынкай дадаў: — Бабец… развітацца хачу…

Зразумеўшы яго, кінуў Запрудны:

— Добра.

Хутка спусціўся ён па трапе з Вікалайненам. Садзіцца ў машыну. Дае адыходны сігнал шафёр.

Дакрануўся да яго пляча Запрудны.

— Пачакаем Рамана.

А Раман спехам запіхвае ў кішэні дзве бомбы.

Шэптам кажа яму на дарогу Сцяпан Галушка:

— Глядзі, Раман. Заб'юць Андрэя — усім нам каюк.

Нецярпліва сігналіць шофер.

Ускоквае Раман у аўтамабіль, і машына лёгка імчыцца па набярэжнай.

Замільгацелі вуліцы.

З усмешкай, штурхаючы пад руку Пракапенку, пытае Запрудны:

— Раман, табе дзе злазіць?

Махнуў рукой Пракапенка.

— Раздумаў… Не пайду.

Машына едзе далей.

Мільгаюць крутыя вуліцы Гельсінгфорса.

Аўтамабіль падлятае да натоўпу ўсхваляваных жанчын і дзяцей, спыніўся ля аднапавярховага доміка.

Выходзяць з машыны маракі. Расступіўся натоўп і змоўк.

У поўнай цішыні глядзяць Запрудны, Пракапенка і Анці на людскі натоўп.

Устрывожаны Запрудны ступіў на ганак, убачыў разбітыя вокны, сарваныя з завесаў дзверы, імкліва ўварваўся ў кватэру.

Не адстаючы, рвануліся за ім Анці і Пракапенка.

Панура азіраюць яны разгромленую кватэру. Вісяць на сценах шматкі абадраных шпалераў, расчынены разбітыя вокны, валяюцца на падлозе рэшткі зламанай мэблі і ля самых ног Андрэя ляжыць перакуленая швейная машына з павіслай на ёй дзіцячай распашонкай.

Скрыгануў зубамі Анці.

— І тут пастараліся…

Нахіліўся Запрудны над швейнай машынай, падняў дзіцячую распашонку і знясілена апусціўся на зламаную канапу.

У дзвярах і вокнах узніклі зацікаўленыя твары жанчын.

Убачыўшы іх, Анці ўзмахнуў рукой:

— Вон!

Умомант зніклі галовы.

Абмяняўшыся позіркамі, Анці з Раманам выходзяць.

У глыбокім горы схіліў галаву Запрудны, павольна, кропля за кропляй скрозь пальцы прасочваюцца слёзы. Падняўся камісар і, выціраючы рукавом вочы, апошні раз азірае сваё жытло.

На ганак ён выходзіць зноў дужы і цвёрды. Суха пытае натоўп:

— Хто?

— Шуцкоры, — прагучаў голас.

Моўчкі садзіцца ў машыну Запрудны, следам за ім Анці і Раман.

Коціцца машына па дарозе назад, да набярэжнай.

Мільгаюць знаёмыя вуліцы.

Парушыў маўчанне Запрудны, просіць Вікалайнена:

— Антон!.. Выручай, сэрца гарыць…

Ляціць імклівай птушкай аўтамабіль.

Кратае за плячо шофера Анці Вікалайнен.

Крута затармазіў машыну вадзіцель. Шыпяць на снезе шыны.

Парывіста ўстае з месца Анці і, выходзячы з машыны, рашуча заяўляе:

— Увесь Гельсінгфорс уверх нагамі пастаўлю, а Наталлю знайду… Да адыходу флоту прывязу.

Імчыцца машына.

Наперадзе маячыць заліў з рассыпанымі па ім караблямі.

Лёгка коціцца машына па набярэжнай. Следам за ёй імчацца з гары хлапчукі на фінскіх санях, аглушаючы прахожых званкамі і сірэнамі.

Выйшаў з машыны пануры Запрудны. Схіліў галаву, ідзе па трапе «Кречета».

Ціхі вокліч спыніў яго:

— Андрэй Іванавіч…

Падняўшы галаву, Запрудны ўбачыў перад сабой Багавога.

Сарамліва мармыча Багавы, паказваючы на свае чамаданы:

— Рашыў з вамі… Паравозаў няма… Заставацца не хачу. Прападаць, дык разам.

Падняў адзін з чамаданаў Запрудны, сказаў:

— Даўно б так, Аляксандр Васільевіч.

Узрадаваны Багавы.

Бярэ яшчэ пару чамаданаў Раман Пракапенка, і ўсе разам падымаюцца на карабель.

Грымнула музыка гарадскога аркестра.

З усіх вуліц горада на набярэжную ідуць натоўпы святочна апранутых людзей.

Узнікае і далёка разносіцца песня.

Ідуць атрады чырвонагвардзейцаў.

Бесперапынна сігналяць сваімі званкамі і сірэнамі хлапчукі на фінскіх санях.

Выстройваюцца чырвонагвардзейцы шарэнгамі насупраць караблёў.

Натоўпы людзей запаўняюць набярэжную.

Грымнула ў адказ гарадскому аркестру музыка аркестраў з караблёў.

Радасна, па-святочнаму затрымцелі флагі на мачтах.

Усыпалі матросы барты суднаў, абменьваюцца вясёлымі рэплікамі з праважаючымі.

На капітанскім мосціку Запрудны, ён тужліва ўглядаецца ў натоўп.

Б'юць склянкі.

Уздрыгнуў Запрудны.

Заўважыў яго хваляванне Кавалёў і, падышоўшы да камісара, сказаў адно толькі слова:

— Час…

Гнеўна абрэзаў яго Запрудны:

— Паспеем!

Ледзь здрыганулiся ў задаволенай усмешцы губы Кавалёва.

Сціснуў рукамі поручні Запрудны, яшчэ больш напружана ўглядаецца ў масу народа.

Шалёна коціцца закрыты аўтамабіль па набярэжнай. Бесперапынна сігналіць вадзіцель.

Шарахаюцца ўбакі людзі.

Рэзка затармазіўшы, спынілася машына перад «Крэчатам». Віхурай узлятае на карабель Анці Вікалайнен і, цяжка дыхаючы, кідае Запруднаму:

— Не знайшлі…

Задумаўся Запрудны. Павярнуўшыся да Кавалёва, камандуе:

— Давайце адыход.

З ноткамі спачування звяртаецца да яго Кавалёў:

— Андрэй Іванавіч, а можа, затрымаемся… да заўтра.

— Давайце адыход, — сурова паўтарыў Запрудны. — Заўтра дванаццатае красавіка.

Як на шарнірах, павярнуўся Кавалёў, суха аддае загад:

— Падняць трап!

Паспешна пацiснуў Анці руку Запруднаму, збег па трапе на набярэжную.

Гучней ударылі аркестры.

Ускінуліся, затрымцелі флагі пад наляцелым ветрыкам.

Замахалі шапкамі, хустачкамі, проста рукамі людзі на набярэжнай.

Махаюць бесказыркамі маракі.

Равуць карабельныя сірэны.

І набярэжная ў мільганні шапак, хустак аддаляецца ўсё далей і далей.

Узышоў на капітанскі мосцік засмучаны Багавы і, кранаючы рукой Запруднага, клапатліва пытае:

— А дзе ж Наталля Сяргееўна?

Глыбока ўздыхнуўшы, адказаў яму Запрудны:

— Не збярог я Наталлю, Аляксандр Васільевіч… Не збярог.

Разгублена развёўшы рукамі, стаіць перад ім Багавы.

— Андрэй Іванавіч, як жа гэта?..

Утульная кают-кампанія «Крэчата».

Перад вялікай картай Балтыкі, разасланай на стале, схіліліся Кавалёў, Запрудны і Багавы.

Упэўнена, паказваючы на шлях, адзначаны флажкамі, кажа Кавалёў Багавому:

— Вы мяне прабачце, Аляксандр Васільевіч, але гэты шлях значна карацейшы… Я павяду толькі гэтак.

Вельмі выразна паціснуў плячыма Багавы.

— І праз пару дзён нас раздавіць плывучымі ільдамі. Ледаколаў жа няма… Прапаную весці флот стратэгічным шляхам.

Фанабэрыста, з яхідствам пытае Кавалёў:

— Лоцыі дзе?

Не вытрымаў Багавы, падняўся і, ледзь стрымліваючы гнеў, адчаканіў:

— На памяць павяду!

Пагардліва ўсміхнуўся Кавалёў.

— Няпэўная лоцыя.

Хвалюючыся, уторквае флажкі ў карту Багавы, адзначае стратэгічны шлях. Апошні флажок уторкнуў ля Кранштата, запальчыва сказаў:

— Вось… даўжэй, але больш надзейна. Паверце майму вопыту. Сорак гадоў на вадзе правёў.

Дапытліва глядзіць на камандзіраў Запрудны.

Дзелавіта, па-службоваму звяртаецца да яго Кавалёў:

— Як бачыце, Андрэй Іванавіч, мы разышліся… за вамі рашаючае слова.

Задумаўся Запрудны, яшчэ раз зірнуў на карту і выдзернуў флажкі, наколатыя Багавым.

— Гэтак пойдзем.

На карце рэзка выдзяляецца лінія флажкоў, наколатых Кавалёвым.

Зімовая ноч.

На белых ільдах, аблітых прывідным святлом месяца, маячаць гмахі караблёў.

Цішыня разрываецца трэскам, скрыгатаннем.

З галаўнога судна ў марозным паветры раздаецца каманда:

— Ціхі назад!

Цурчыць вада.

І зноў той жа голас паўтарае каманду:

— Поўны наперад!

З трэскам і грукатам ламаецца лёд.

Ярка-блакітныя промні пражэктараў, прамыя, як мячы, скрыжоўваючыся, асвятляюць ледзяныя таросы.

Зіхацяць, пераліваюцца рознакаляровымі агнямі глыбы лёду.

У капітанскай рубцы стаяць Запрудны, Кавалёў і Багавы.

Старанна паварочвае штурвал Раман Пракапенка.

Кінуўшы на яго позірк, ціха камандуе Кавалёў:

— Так трымаць!

Лаканічна, як на занятках, паўтарае каманду Пракапенка:

— Ёсць так трымаць!

Выпусціў штурвал Раман, дыхае на рукі, трэ адну аб другую.

Заўважыў гэта Запрудны, зняў свае рукавіцы, падае іх Раману.

— Надзень.

— Ёсць надзець! — удзячна ўсміхнуўся Раман, нацягваючы рукавіцы.

Блукае прамень пражэктара па ільдах, прайшоў паўкруга і застыў на адным месцы.

Далёка на шырокай гладзі заліва мільганула цёмная кропка.

Адразу ж дзесяткі пражэктараў скрыжаваліся на ёй, асвяцілі бягучага каня, запрэжанага ў сані.

Насцёбвае каня чалавек, захутаны ў кажух.

Б’юць прамяні пражэктараў па кані, асдеплены, ён фыркае, але бяжыць, сыходзячы парай на ўзмыленых баках.

Хутка набліжаюцца сані да флоту.

Гучыць каманда Кавалёва:

— Стоп!.. Спусціць трап!

Фыркае ўзмылены конь.

Жмурачы вочы ад яркага святла, выскаквае з саняў Анці Вікалайнен. Спускаюцца да яго па трапе некалькі матросаў, дапамагаюць падняцца на борт.

Узбягае Анці на капітанскі мосцік, працягвае Запруднаму пакунак, гаворыць усхвалявана:

— Сын!

Узрадаваны Запрудны бярэ на рукі пакунак, адхінуў коўдрачку — перад ім у карунках маленькі тварык дзіцяці.

Залюбаваўся сынам Запрудны.

— Малайчына Наталля! — І тут жа Вікалайнену: — Цягні яе сюды. З музыкай сустрэнем.

Апусціў вочы Анці, маўчыць.

Дапытліва і ўстрывожана глядзіць на яго Запрудны.

І адказаў Анці толькі адным выразным і журботным жэстам.

Зразумеў Запрудны, і цяжкая, мужчынская сляза скацілася па яго шчацэ, упала на тварык дзіцяці.

Пахмурныя стаяць маракі.

Раман Пракапенка, адвярнуўшыся, употай змахвае слёзы, кажа з дакорам Запруднаму:

— Ну вось… слёзы распусціў, а яшчэ марак… — І, быццам раззлаваўшыся, выхапіў у Запруднага дзіця. — Давай дзіцянё, застудзіш на ветры.

Раман, моцна трымаючы спавітае немаўлятка, асцярожна спусціўся ўніз па трапе.

На яго месца, ні слова не кажучы, стаў Багавы і, сціскаючы рукамі штурвал, праз хвіліну-другую ціха і сумна прагаварыў:

— Ёсць так трымаць.

Сходзяць з капітанскага мосціка Запрудны і Анці.

Спыніў на палубе Запрудны свайго сябра.

— А можа, застанешся? На караблях людзей не хапае.

Адмоўна пахітаў галавой Анці.

— Не магу. Уся арганізацыя разгромлена. Вяртацца трэба. Там кожны чалавек на ўліку… — І, працягнуўшы яму руку, цёпла сказаў: — Ну бывай, Андрэй. Можа, больш не ўбачымся.

У моцных развітальных абдымках застылі сябры.

Па каюце з дзіцём на руках ходзіць Раман Пракапенка. Дзіця крычыць. Раман рытмічна люляе малога і, каб заглушыць яго плач, напявае:

Ой, маленькі, ты не плач,
Прынясу табе калач.
А-а-а, а-а-а…

Надрываецца ў крыку дзіця.

Перад Раманам з прыгнечаным выглядам стаіць Сцяпан Галушка з ражком, узбоўтваючы малако. Кок падыходзіць бліжэй і, намагаючыся трапіць у нагу з Раманам, дапамагае яму спяваць:

А-а-а, а-а-а…

Яшчэ грамчэй закрычала дзіця.

З дакорам зірнуў на Сцёпку Раман:

— Маўчы, дурыла. Голас у цябе непадхадзяшчы.

Разгубіўся Сцёпка, змоўк.

Плача дзіця.

Заходзіць матрос, заклапочана пытаецца:

— Ну як?

Безнадзейна махнуў рукой Сцяпан Галушка.

— Крычыць і малака не бярэ. Не інакш… апендыцыт.

З дакорам кіўнуў галавой матрос і, звяртаючыся да сяброў, заўважыў:

— Дзіцянё не могуць забавіць.

Сярдзіта агрызнуўся Сцёпка:

— Сам паспрабуй! Герой!

Выняў з кішэні грабянец матрос, закруціў яго ў папяросную паперу, прыклаў да вуснаў і загудзеў.

Плача дзіця.

У каюту ўвайшоў боцман. Моўчкі, позіркам спытаў Сцяпана, кіўнуўшы ў бок дзіцяці. Той адказаў таксама моўчкі, прыгнечаным позіркам.

На дыбачках, каб не тупаць нагамі, падыходзіць боцман бліжэй. Прыклаўшы да вуснаў дудку, заліўся вясёлай трэллю.

Не сціхае дзіця, крычыць.

Ля расчыненых дзвярэй каюты з’явілася некалькі матросаў.

Зірнулі на ўспацелых «нянек» і, нічога не пытаючыся, паспешна пачалі шнарыць па сваіх кішэнях.

Мільганулі ў руках маракоў ключы, драўляны партсігар, губны гармонік.

Дружна загучаў шумавы аркестр.

Надрываецца ў плачы дзіця.

Раптам, схамянуўшыся, палез Сцёпка пад койку, выцягнуў адтуль гармонь «Лівенку» і шырока расцягнуў мяхі.

Грыміць заліхвацкая музыка.

Змоўкла дзіця.

Не спыняючы музыкі, крычыць Сцёпка Раману:

— Малако давай!

Таропка совае Раман ражок у рот дзіцяці.

Прагна смокча дзіця.

Стараюцца аркестранты, наігрываюць.

Смокча дзіця.

Рыўком сціснуў мяхі «Лівенкі» Сцёпка.

Абарвалася музыка.

Пераможна зірнуў на сяброў Сцяпан Галушка і, стукаючы сябе ў грудзі, горда заявіў:

— Ай ды я!.. Маўчыць?

Напалоханае яго выкрыкам дзіця адарвалася ад соскі і пранізліва завішчала.

Прысеў ад нечаканасці Сцяпан, але, хутка ўцяміўшы, зноў расцягнуў гармонь.

Дружна падхапілі матыў матросы.

Грае аркестр.

Зноў змоўкла дзіця.

Асцярожна тыцкае яму ў рот соску Пракапенка.

Смокча дзіця, глядзіць на Рамана вытрашчанымі вочкамі.

Зачараваны Сцёпка, не спыняючы ігры і намагаючыся заглушыць музыку аркестра, крычыць:

— Капельмайстрам будзе! Пабі мяне бог, капельмайстрам!

Іграе аркестр. Раптам у музыку ўварваліся некалькі цяжкіх выбухаў. Затрослася ўвесь карабель. Змоўк аркестр. Наверсе гарніст пратрубіў трывогу. Разгублена і апасліва пераглядваюцца музыканты. Раздалося яшчэ некалькі цяжкіх выбухаў. Данеслася каманда:

— Усе наверх!

Нібы ветрам здзьмула з каюты аркестрантаў. Спешна хутае дзіця ў бушлат Раман Пракапенка.

На палубе кароткая мітусня. На капітанскім мосціку Запрудны, Кавалёў і Багавы.

Запрудны глядзіць у бінокль, бачыць абрысы вострава Інсары.

З пранізлівым выццём ляціць снарад і ўзрываецца недалёка ад судна.

Бясстрасна камандуе Кавалёў:

— Падрыхтавацца.

Грозна павярнуліся вежы гармат і дуламі ўставіліся на далёкі востраў Інсары.

Усё тым жа бясстрасным тонам загадвае Кавалёў:

— …0 — 8, трубка 10…

І не паспеў ён закончыць, як Запрудны зычна і ўладна дае каманду:

— Адставіць!

Скрывіў твар Кавалёў. Звярнуўся ён да Запруднага, незадаволена адчаканіў:

— Прабачце, Андрэй Іванавіч. Я — камандзір…

І, скоса акінуўшы позіркам карабель, гучна, каб чулі матросы, дадаў:

— …я не магу дапусціць расстрэл флоту! За дзесяць хвілін мы ад Інсары пакінем пясок ды камяні!..

Зрабіў крок да яго Запрудны і ярасна паўтарыў:

— Адставіць!

Шалёнай рознагалосіцай пасыпаліся злосныя выкрыкі матросаў:

— Моўчкі паміраць?..

— Як зайцоў пераб'юць!..

— Даць пару залпаў — і ад іх трыбуха ўверх паляціць!..

Людзі, злосна сціскаючы кулакі, хапаюцца за ружжы, акружаюць капітанскі мосцік.

Адпіхнуўшы Кавалёва, выпрастаўся на ўвесь свой рост перад раз'юшанымі матросамі Запрудны.

— Запарыліся, таварышы. Вытрымку страцілі…

Крыкнуў з натоўпу адзін матрос:

— Даеш агонь!

Кінуліся некалькі камендораў да гармат. Выхапіў з кабуры маўзер Запрудны і ў раптоўнай цішыні пачулася:

— Першага, хто стрэліць, угрохаю на месцы.

Застылі людзі. А Запрудны ўжо больш спакойна растлумачыў:

— Таварышы! Нам страляць нельга: мы можам сарваць Брэсцкі мір. Нас знарок задзіраюць…

У адказ яму раздаліся крыкі:

— Здрэйфіў!..

— Гайка аслабла!..

— Трус…

Як ад удару, скалануўся Запрудны і, не раздумваючы, кінуўся ўніз, у самую гушчу матросаў.

— Хто? Я — трус?.. Эх ты, брахун!.. Ведаеце мяне як аблупленага… Не адзін пуд солі разам з'елі…

Крыху астыўшы, ужо больш стрымана дадаў:

— Дай мне паўгадзіны… Перагавару са Смольным, і, калі ўрад дазволіць… ушчэнт размалоцім.

Незадаволена бурчаць маракі на палубе.

— За паўгадзіны мы ракаў на дне будзем карміць, — рэзка сказаў куртаты матрос.

Другі, што стаяў побач, з усмешачкай кінуў:

— Ды што ты, Федзя! Ад цябе любога рака званітуе.

Зарагаталі маракі. І Запрудны ўсміхнуўся. Карыстаючыся хвілінкай зацішша, дае каманду:

— Па месцах, таварышы.

Разыходзяцца маракі.

У прадымленым кубрыку грэюцца матросы. Сярод іх сядзіць яўна расстроены Кавалёў. Ён канчае сваю прамову:

— Справа не ў боязі, таварышы.

І, працяжна ўздыхнуўшы, сказаў:

— Прадалі нас.

Дапытліва глядзяць на яго матросы, ловяць кожнае слова. Абвёў іх позіркам Кавалёў. Не ўступаючы ў далейшую размову, выйшаў.

Нервова ходзіць па капітанскім мосціку Запрудны, час ад часу пазіраючы на наручны гадзіннік. Багавы і Пракапенка спачувальна глядзяць на яго.

Падымаецца на капітанскі мосцік Кавалёў і, адкінуўшы абшлаг шыняля, глядзіць на свой гадзіннік.

— Паўгадзіны прайшло.

Гучна грымнулі два выбухі ад разарваўшыхся снарадаў. Азірнуліся ўсе, убачылі: высока ўгору ўзляцелі глыбы лёду.

Зірнуў на свой гадзіннік Запрудны, суха сказаў:

— Ваш гадзіннік спяшаецца… У мяне застаецца яшчэ восем хвілін.

Нічога не сказаў Кавалёў.

На капітанскі мосцік падымаецца Сцяпан Галушка. У яго ў руках два бачкі з абедам, над якімі курыцца пара. Узлез на мосцік Сцяпан. Ударылі склянкі.

Кавалёў, ледзь павярнуўшы галаву да Запруднага, задзірліва нагадаў:

— Час ужо скончыўся… нават на вашым гадзінніку… Патрабую адкрыць агонь.

Злосна, страціўшы цярпенне, вылаяўся Запрудны:

— Пайшоў ты… к чортавай мацеры…

Кавалёў, не валодаючы сабой, істэрычна крыкнуў матросам:

— Таварышы! Нас прадалі!.. Рэвалюцыя ў небяспецы!.. Смерць здраднікам!..

Рванулася рука Запруднага да кабуры. Выхапіў свой рэвальвер Кавалёў, цэліцца ў Запруднага. Рыўком падскочыў да Кавалёва Раман Пракапенка, каб абараніць камісара. Грымнуў стрэл. Як дуб, паваліўся Раман. Кавалёў збіраецца зноў стрэліць у Запруднага. Але тут узмахнуў бачкамі Сцяпан Галушка. Пазвярынаму зароў Кавалёў, апараны гарачым флоцкім баршчом, выпусціў з рук рэвальвер.

На міг нахіліўся Сцёпка над Пракапенкам.

— Раман…

Адкінута акрываўленая галава Рамана.

Выпрастаўся Сцёпка, упаў яго позірк на рэвальвер Кавалёва, які вылецеў з апараных рук. Схапіў яго Сцяпан і без перадышкі ўсаджвае кулю за куляй у Кавалёва.

Мяшком зваліўся той.

Як шалёны, усё націскае на курок Сцёпка. Суха шчоўкае рэвальвер без патронаў.

Замерла палуба. Маўчаць людзі.

Выцер пот з твару Запрудны. І ў гэту хвіліну ў поўнай цішыні раздаўся ўсхваляваны голас радыста:

— Камісара Запруднага ў радыёрубку. Выклікае з Смольнага Ленін.

Узрадаваны камісар спускаецца з капітанскага мосціка, кінуў радысту:

— Уключыце рупар.

І, на хвіліну затрымаўшыся на палубе, звяртаецца да Багавога:

— Аляксандр Васільевіч, сігнальце аб размове ўсяму каравану.

Знікае ў радыёрубцы Запрудны.

Слухае ля апарата.

А па ўсёй палубе разносіцца глухі, далёкі, хвалюючы голас:

— З вамі гаворыць Ленін. Не адказвайце на правакацыйную стральбу агнём... Помніце, Брэсцкі мір павінен быць захаваны...

Людзі ля гармат і на палубе насцярожана слухаюць голас.

— Ведайце, абарона Піцера ў вашых руках... Вітаю герояў Лядовага паходу...

Глыбока ўздыхнуў Сцяпан Галушка і, піхнуўшы ў бок матроса, што стаяў побач, ціха сказаў:

— Пра Рамана...

З радыёрубкі, хістаючыся, нібы п'яны, выходзіць усхваляваны Запрудны і, звяртаючыся да маракоў, кажа:

— Ясна... Надзець чахлы.

Моўчкі надзяваюць чахлы на гарматы камендоры, а Запрудны, цяжка падняўшыся на капітанскі мосцік, стомлена кажа Багавому:

— Аляксандр Васільевіч... Мяняем курс... Вядзіце стратэгічным шляхам...

Кіўком галавы паказаў яму Багавы на штурвал, загадаў:

— Станавіцеся!

Узяўся за штурвал Запрудны, дапытліва зірнуў на Багавога. Зноў загадаў Багавы:

— Лева руля!

Механічна, па старой звычцы, адчаканіў у адказ Запрудны:

— Ёсць лева руля!

І зноў, нахіліўшыся да рупара, аддае каманду Багавы:

— Поўны наперад!

Ціхі марозны світанак. Над бліскучым лёдам і снягамі, над бяскрайняй роўняддзю мора ўзыходзіць яскравае барвовачырвонае сонца. Зіхацяць яго промні на лядовых таросах, пераліваюцца снягі featureрознакаляровымі агнямі. І, як у крышталі, блікуе сонца на абледзянелых вінтах, мачтах і нават на пакрытай лядовай коркай палубе.

Плавіць сонца заледзянелую бараду соннага Багавога. Стаіць ён, хістаецца. Спіць.

Тут жа, ля штурвала, таксама змерзлы і заінелы Запрудны, і ён трошкі хістаецца ад стомленасці.

Парыпвае лёд. Ціхенька пасоўваецца наперад карабель.

Нягучна кліча Багавога Запрудны:

— Аляксандр Васільевіч…

Уздрыгнуў той, расплюшчыў вочы, схамянуўся:

— А?.. Што?..

Са стомленай усмешкай кажа Запрудны:

— Паспаць бы вы пайшлі… Стоячы дрэмлеце.

Вінавата замаргаў соннымі вачамі Багавы:

— Нічога… Я ўжо выспаўся.

І, нібыта ў доказ сваёй свежасці і бадзёрасці, ён падносіць да вачэй марскі бінокль. І бачыць: далёка ў ільдзінах зломанай лініяй расцягнуўся караван судоў. Не адрываючы ад вачэй бінокля, звяртаецца Багавы да Запруднага:

— Бяда з гэтым «Баянам»… Зноў адстае.

І, павярнуўшыся, азірае гарызонт.

Грувасцяцца цяжкія глыбы таросаў. Глядзіць на іх у бінокль Багавы, ціха ўздыхае:

— Цежаленька прыйдзецца…

Раптам уздрыгнуў капітан, насцярожыўся. Перадае бінокль Запруднаму.

— Андрэй Іванавіч, паглядзіце-ка… У вас вочы маладзейшыя.

Узяў з яго рук бінокль Запрудны, глядзіць.

Удалечыні, на гарызонце, чарнеюць дзве невыразныя кропкі. Напружана ўглядаецца Запрудны, рэгулюе шкло бінокля. Вось ён апусціў бінокль, радасцюззяе яго твар, быццам пранізаны сонцам.

— Усе наверх!.. Вахтавыя!.. Выклікаем аркестр!..

І тут жа, шчаслівы і парывісты, падае бінокль Багавому.

— Аляксандр Васільевіч, ледаколы ідуць!.. «Ермак», «Силач»… Аляксандр Васільевіч!..

Таропка выхоплівае з яго рук бінокль Багавы і, не адрываючы яго ад вачэй, камандуе:

— Сігнальце: ясна бачу!..

Узняліся ўрачыста, затрымцелі на высокай мачце сігнальныя сцягі. Напаўняецца палуба ўзрушанымі, радаснымі людзьмі, усаджваюцца з інструментамі сонныя, недаспаныя музыканты.

Дастае з-пад свайго бушлата корцік Запрудны і з цёплай сяброўскай усмешкай вяртае яго Багавому.

— Вазьміце, Аляксандр Васільевіч. Капітан павінен быць апрануты па форме.

Расчулены Багавы прымае корцік:

— Дзякуй, Андрэй Іванавіч, мы яшчэ з вамі паплаваем.

Моцна цісне яму руку Запрудны.

Усё бліжэй два ледаколы. Згрудзіліся матросы на палубе ля поручняў, глядзяць у біноклі і падзорныя трубы.

Урачыста грае аркестр.

А спераду ўсіх, высока падняўшы над галавой дзіця, шчаслівы і радасны, кажа Сцяпан Галушка:

— Ну, Пятрунька, цяпер мы дома…

*1939*



# ЭСЭ, УСПАМІНЫ

## НЕКАЛЬКІ СЛОЎ ПРА КІНАКАДРЫ

Улетку гэтага года пачнецца пабудова вялікай кінафабрыкі ў Віцебску. Як вядома, да гэтага года беларуская кінафабрыка знаходзілася ў Ленінградзе. Трэба праўду сказаць, што да гэтага часу мы яшчэ не маем ніводнай нашай карціны, аб якой бы маглі сказаць, што яна, безумоўна, з'яўляецца нашай беларускай карцінай, нацыянальнай… Праўда, у нас ёсць некаторая частка карцін, якія маюць у сабе элементы набліжэння да нашых саюзніцкіх карцін. Але гэтага яшчэ мала. Трэба дабіцца, каб наша кінамастацтва, каб наша кінафабрыка выканалі тыя задачы і патрабаванні, якія перад імі былі пастаўлены асабліва ў гэты час. Дзеля гэтага трэба шмат чаго зрабіць.

Вядома, што пабудова фабрыкі ў Віцебску — значны крок наперад. Але і гэтага мала. Зараз жа трэба клапаціцца аб жывых людзях, аб тых людзях, якія будуць працаваць праз два гады на нашай новай моцнай кінафабрыцы. Зараз вельмі востра стаіць пытанне з нашымі кінакадрамі. Хто, дзе і як іх падрыхтоўвае, хто, дзе і як імі кіруе? Вось пытанне, якое мы павінны паставіць зараз перад кіраўніцтвам Белдзяржкіно, а таксама і перад кіраўніцтвам ленінградскай фабрыкі.

Трэба сказаць, што да гэтага часу кадрамі цікавіліся вельмі мала. Зрабілі нейкія сцэнарныя курсы, утварылі нейкі тэхнікум у Віцебску, і пакуль што вынікаў не відаць. Праўда, быў малы час, каб можна было б зараз жа патрабаваць вельмі значных вынікаў. Але ні кіраўніцтва Белдзяржкінатрэста, ні кіраўніцтва фабрыкі нідзе ў друку аб гэтым нічога не казалі, і, нам думаецца, не сказалі таму, што няма аб чым сказаць.

Сцэнарныя курсы падбіраліся вельмі няўдала… Гэтыя самыя курсы, на вялікі жаль, далі толькі аднаго сцэнарыста і аднаго рэжысёра.

Віцебскі тэхнікум, вядома, не мог нічога даць, бо яго толькі цяпер зацвердзілі, і то без ухвалення Саюзкіно. А кадры ўсё ж такі вельмі і вельмі патрэбны. Нам здаецца, што і Белдзяржкіно, і кіраўніцтва фабрыкі зараз павінны паставіць пытанне аб кадрах вельмі востра і перад ЦК КП(б)Б і перад БелАППам, а таксама і перад сваімі ўстановамі. Нам трэба зараз жа, у першую чаргу падрыхтаваць сваіх сцэнарыстаў, рэжысёраў, аператараў і г. д. Дзеля гэтага трэба, каб Белдзяржкіно пры падтрымцы БелАППа і пад кіраўніцтвам партыі зрабіла заклік нашым пралетарскім пісьменнікам і лепшым спадарожнікам[1] на работу ў кінамастацтва.

Нам здаецца, што цяпер трэба і Белдзяржкіно, і кіраўніцтву фабрыкі, і БелАППу паставіць гэтую справу на моцныя рэйкі, зрабіць заклік, аб якім мы пішам, зрабіць умовы — як мага лепшыя — для падрыхтоўкі новых кінакадраў і для выхавання лепшых з старых кадраў з такім разлікам, каб праз два гады, калі будзе пабудавана вялікая фабрыка, у нас былі свае моцныя працаўнікі, з якімі адразу ж можна працаваць упарта, плённа і цікава.

*1932*

## ЯК Я ПРАЦАВАЎ НАД ГУКАВОЙ КІНАДРАМАЙ «ДВОЙЧЫ НАРОДЖАНЫ»

Перад тым, як расказаць аб працы над гукавой першай беларускай кінадрамай, мне хочацца сказаць некалькі слоў наогул аб рабоце ў галіне кінематаграфіі. Трэба адзначыць, што работа над гукавымі карцінамі ў практыцы саміх аўтараў, рэжысёраў, аператараў, актораў і г. д. з'яўляецца работай вельмі новай, нявывучанай, неўдасканаленай, а таму часта памылковай і не надта дабраякаснай. Часта мы, ствараючы гукавыя карціны, не ўлічваем вялікага значэння гуку, і бывае, што нашы карціны мала чым адрозніваюцца ад нямых карцін і робяцца бадай так, як і нямыя. Мне здаецца, што ў гэтым ёсць буйная памылка, мне здаецца, што гук у гукавой кінадраме або камедыі павінен арганічна ўваходзіць у твор, адыгрываць сваю ролю нават у той час, калі на экране не будуць дэманстравацца кінакадры. Мне здаецца, што гукавая карціна, калі яна напісана, павінна быць так пабудавана, каб яе ні ў якім разе нельга было зазняць нямой. Гук павінен умацоўваць карціну, гук павінен хваляваць гледача

і слухача, ён павінен быць вельмі значнай неад’емнай часткай усёй работы. Вось чаму, калі я пачаў пісаць гукавую кінадраму, і асабліва першую беларускую гукавую, перада мною паўстала пытанне і гуку, і ідэі, і вырашэння пытання аб паказе жывых, моцных і цікавых людзей, таксама паўстала пытанне аб тым, што калі я ўзяўся за гэтую кінадраму, дык яна павінна быць зроблена так цікава, так моцна, каб глядач хваляваўся, радаваўся, быў вельмі зацікаўлены карцінай.

Аб самой ідэі гэтай карціны.

Тэма — перавыхаванне адсталага чалавека ва ўмовах нашага калгаснага жыцця, калгаснага будаўніцтва. Тэма — перавыхаванне канакрада ў калгасе, таго самага канакрада, які ўкраў з калгаса коней, быў злоўлены, вельмі моцна пабіты, а тады перавыхаваны. Ад пачатку карціны і да канца гэтая думка праходзіць чырвонай істужкай, прымушае гледача цікавіцца лёсам Рыгора Лопуха (канакрада), яго пачуццямі, яго думкамі, яго ўчынкамі, а таксама і паводзінамі, і ўчынкамі тых людзей, якія яго перавыхоўваюць. Галоўнымі героямі карціны з’яўляюцца: канакрад Рыгор Лопух, старшыня калгаса Дубовік, калгасны каваль цыган — Доньчо, яго дачка Зара, падкулачнік Крукоўскі, камсамолец Лёшка і жонка Крукоўскага Грыпіна.

Калі прыйшла ў галаву тэма, паўстала пытанне аб драматургічнай напружанасці, аб тым, каб паказаць людзей яскравымі, жывымі і цікавымі, каб паказаць калгаснае будаўніцтва бальшавіцка-моцным, цікавым, захапляючым і каб уся карціна наогул была цікавай і хвалюючай як з боку ідэі, так і з боку мастацкага афармлення.

Працаваў… шмат думаў і напісаў.

Здаў у мастацкі савет беларускай кінафабрыкі «Савецкая Беларусь». Прынялі, ухвалілі. Кінадрама лягла ў партфель. Праз некаторы час пачалі зноў разглядаць. Я сам зноў прачытаў кінадраму, і захацелася чагосьці лепшага. Работа здавалася цікавай, але я адчуваў, што неяк хутка гэты самы канакрад перавыхоўваецца. Не паверыць гэтаму глядач! Малавата драматургічнай напружанасці. Зноў пачаў працаваць, і зноў пераканаўся, што трэба працаваць далей. Такім чынам мне тры разы давялося працаваць над гэтай кінадрамай, удасканальваць яе, правяраць, зноў перапрацоўваць. А тым часам надвор’е змянялася. Сонца ўцякала.

Пачалася зіма. А карціна была разлічана на веснавую натуру. Зноў працаваў. Удалося зрабіць так, каб карціну можна было здымаць увосень і пераводзіць галоўныя здымкі на асеннюю сяўбу. Нарэшце зрабіў. Мне здаецца, што добра. Але гэта яшчэ

не значыць, што ў карціне няма слабых месцаў, гэта не азначае, што карціна на ўсе 100 працэнтаў таленавітая. Гэта яшчэ не значыць, што калі карціна падабаецца мне і некаторым людзям, дык у ёй не можа быць некаторых памылак. Але наогул трэба сказаць, што карціна абяцае быць моцнай і цікавай.

Зараз ідуць здымкі ў Сухумі. Рэжысёр Аршанскі, аператар Рабаў, кампазітары Цікоцкі і Любан працуюць над кінадрамай «Двойчы народжаны». У галоўных ролях — заслужаны артыст БССР У. Крыловіч, Васілеўскі, Рагавенка і Мазалеўская. Такім чынам нам удалося прымацаваць да карціны нашы беларускія мастацкія сілы. Будзем спадзявацца, што першы блін не выйдзе камяком. Будзем спадзявацца, што з карцінай справімся, але справімся тады, калі нам дапаможа савецкая грамадскасць Беларусі, калі яна будзе сачыць за нашай работай, патрабаваць ад нас і тэмпаў, і якасці. Тады мы сапраўды зможам даць першую гукавую беларускую карціну, цікавую, дабраякасную, якую зараз ад нас патрабуе партыя і ўся савецкая грамадскасць.

*1932*

## КУПАЛАВА НОЧ

Я стаяў ля рэдакцыйнага стала, нервова сціскаў рукамі спінку крэсла і калаціўся як у ліхаманцы ад злосці, адчуваючы сваё бяссілле. Сакратар рэдакцыі, чалавек з тварам езуіта і сэрцам ката (гэтак мне тады здавалася) бязлітасна, як люты звер, крэмзаў мой чарговы фельетон.

— Што ты робіш, інквізітар? — рыкнуў я на яго, не стрымаўшыся.

— Тое, што бачыш, — спакойна адказаў ён і працягваў спрытна арудаваць вялізнымі нажніцамі. — Трэба давесці да ладу твой фельетон.

— Які там чортаў лад! Хвіліны праз тры ад яго застанецца толькі назва! Кінь нажніцы!

— Не хвалюйся, Грышачка, — адказаў сакратар, па-ранейшаму рэжучы фельетон. — Адзін мамент… вось адхаплю яшчэ радкоў сорак, і ўсё будзе ў парадку.

Шчоўкнулі нажніцы — і добрая палова фельетона паляцела ў рэдакцыйны кошык.

— Чорная ты душа… сухар газетны! Усю лірыку абрэзаў, кат… — прастагнаў я. — Кінь, кажу, нажніцы! Хутка з-пад іх кроў пырсне.

— Кроў не пырсне, а вось вадзічка пацячэ… Так-так, пацячэ з фельетона вадзічка. І ніякі я не кат, а проста хірург, які клапоціцца пра здароўе нашых чытачоў.

— Пры чым тут здароўе чытачоў? — здзівіўся я.

— Магу растлумачыць. Ты, лахматы бадзяга, даеш кожны тыдзень чатыры, наскрозь прамочаныя вадой, фельетоны. Калі я не буду рабіць хірургічнай аперацыі, дык месяцы праз тры ўсе нашы чытачы захварэюць вадзянкай. Уяўляеш сабе? Гэта ж будзе масавае злачынства.

— Ах вось яно што! У цябе вадабоязь… Цябе шалёны сабака ўкусіў. Іду да рэдактара і выклікаю «хуткую дапамогу».

Я павярнуўся і пайшоў да дзвярэй, але на парозе сутыкнуўся з Янкам Купалам.

— Добры дзень, хлопцы! Лаецеся? — з лагоднай усмешкай спытаў нас Купала.

— Ой не… што вы, Іван Дамінікавіч. У нас адбылася кароткая сяброўская размова на высокім узроўні, з поўнай павагай з абодвух бакоў, — растлумачыў сакратар.

— Бачу, бачу, якая сяброўская. У Рыгора ажно іскры з вачэй ляцяць. Чым ты яго пакрыўдзіў?

— Я яму нажніцы паказаў, а яму паказаць нажніцы — усё роўна, што іспанскаму быку чырвоную сукню. Адразу шалее.

— Нажніцы паказаў… Парэзаў фельетон уздоўж і ўпоперак. Жывога месца не пакінуў… і яшчэ радуецца, — скарджуся я Купалу.

— А можа, сапраўды трэба было рэзаць? — суцяшае мяне Іван Дамінікавіч. — Аднойчы Вальтэр напісаў Екацярыне Вялікай даўжэзны ліст, а ўнізе дабавіў: «Прабачце, Ваша вялікасць, за надта доўгі ліст, бо кароткага не было часу пісаць». Вось як, Рыгор! Вучыся пісаць коратка, ясна і вобразна. Тады табе і нажніцы не будуць страшнымі. А я, між іншым, па тваю душу прыйшоў, — дадаў Іван Дамінікавіч. — Заданне табе ёсць.

— Якое?

— Адказнае, — усміхнуўся Іван Дамінікавіч. — Сёння субота. Дык ты адпраўляйся на завод, збяры сваю рыбацкую брыгаду, падрыхтуй снасці, і мы пойдзем у Банцыроўшчыну[1] пад Ждановічы на рыбалку… На ўсю ноч.

Я выцягнуўся па-ваеннаму «ў струнку» і радасна выгукнуў:

— Ёсць сабраць рыбалавецкую арцель і падрыхтаваць снасці!

— Вудачак не бярыце. Рагулькі таксама не патрэбны. Захапіце паболей шнуроў, закідушак і запасных кручкоў. Ментузоў

лавіць будзем. Вераценніцу для нажыўкі здабудзем на месцы. Увечары а пятай гадзіне чакаю ўсіх на кватэры Міхася Чарота. Бывайце здаровы.

І пайшоў.

Эх і ўзвіхурыўся ж наш сакратар! Нібы хто яго падмяніў. Закруціўся вакол мяне гэтакім добрым дзядзькам. Просіць:

— Грышачка, родненькі! У панядзелак чакаю ад цябе замалёвачку радкоў на трыста, а зрэшты — можна і на падвал.

— Якую замалёвачку?

— Самую лірычную. Напоеную водарам красавіцкай ночы, рокатам і гулам паводкі, азораную гарачым полымем вогнішча, агучаную перадсвітальнымі трэлямі салаўя. Адным словам, рамантыка плюс паэзія, а над усім гэтым спалучэннем яркі вобраз — партрэт беларускага кабзара Янкі Купалы… Зразумеў?

— Зразумець я зразумеў. А потым зноў будзеш шыпець на мяне за «ваду»?

— Ні-ні!.. Крый мяне божа! — заверыў сакратар. — Няўжо ты на самай справе думаеш, што я канчаткова зачарсцвеў і стаў бяздушным газетным сухаром, хірургам лірыкі? І за «ваду» не бойся. Пішы. На рыбалцы без вады ніяк нельга… дый паводка ж. Пішы, Лахматы, пішы! У панядзелак замалёўка павінна ляжаць у мяне на стале.

— А нажніцы? — застрахаваўся я.

— Нават у рукі не вазьму. Я ўсё ж такі літсупрацоўнік, а не кравец. Абыдземся без нажніц. Пастарайся добра напісаць. Магу нават загаловак падказаць… «Купалава ноч». Не блага?

На тым і дамовіліся.

А трэцяй гадзіне я ўжо быў на заводзе. Абвясціў усіх аб рыбалцы, што мае адбыцца. Рыбацкая арцель — гэта значыць качагар піўзавода «Беларусь» Восіп Кніпет, заторшчык Віктар Сіневіч, машыніст драджджавога завода «Пралетарый» Грыша Каліннік і я. Зборы былі нядоўгія, але грунтоўныя. Падрыхтавалі шнуры з грузіламі і запаснымі кручкамі, прыхапілі бульбы, хлеба, солі. Ведалі: любіць Іван Дамінікавіч пячы бульбу ў прысаку вогнішча… Ну, вядома, узялі і яшчэ сёе-тое, бо «не единым хлебом жив человек», асабліва халоднай красавіцкай ноччу на рыбалцы…

У прызначаны час вясёлым гуртам увaліліся ў кватэру Міхася Чарота. Іван Дамінікавіч ужо быў там.

— Малайцы, хлопцы, — пахваліў нас Купала. — Па-ваеннаму сабраліся, без затрымкі. Сядайце.

Мы селі. Купала абвёў нас пяшчотным уважлівым позіркам, спытаў:

— Шнуры ўзялі?

— Паўсотні, Іван Дамінікавіч.

— Добра. Хлеб, соль, бульбу не забыліся?

— Не. Гэтага хопіць ды яшчэ застанецца.

— Малако?

— Тры літры! — адрапартаваў Кніпет. — Крама цэнтраспірту была зачынена, дык я ў гастраноме прыхапіў.

— Ого! Тры літры? Ці не замнога будзе на шасцярых? — спытаў Купала і з хітраватай усмешкай дадаў: — Каб не скісла яно… малако.

— У нас не скісне, — запэўніў Віктар Сіневіч пад рогат хлопцаў.

— Ну што ж, — падняўся з крэсла Іван Дамінікавіч. — Час у дарогу. Ні пуха, ні пяра, ні лускі, ні хваста. Пайшлі, хлопцы, бо, не дай Бог, заляціць сюды Уладзіслава Францаўна — задасць яна рыбалку, пападзе і вам, і мне.

У лёгкім, добра скроеным паўкажушку, у зімовай вушанцы, абуты ў высокія паляўнічыя боты, ён выглядаў маладым і бадзёрым. Жартаваў, смяяўся. І смех яго быў па-дзіцячы шчыры, вясёлы. Пачуўшы яго, хацелася смяяцца самому. І ўсе мы смяяліся. А жарты Купалы былі вострыя, трапныя, але нікому не крыўдныя.

На Савецкай вуліцы селі ў вагон гарадской конкі[2] (трамваяў яшчэ не было) і пакацілі ажно да апошняга прыпынку, на Старажоўку[3]. І тут нам давялося панервавацца. Амаль на кожным кроку акружалі Івана Дамінікавіча школьнікі.

— Добры дзень, дзядзька Купала!

— Здравствуйте, Иван Доминикович!

Чародкамі і па адным зляталіся яны да яго, як пчолкі на мёд, шчабяталі кожны сваё, дзіцячае.

— Дзядзька Купала, а калі вы новыя казкі напішаце?

— А мне за вашы вершы «добра» ў школе паставілі!

Ішоў Іван Дамінікавіч па Старавіленскім шляху, акружаны дзятвой, гутарыў, распытваў аб нечым, і здавалася, што ён зусім забыўся і пра нас, і пра сваю рыбалку. А сонца ўсё ніжэй і ніжэй кацілася на заход.

— Іван Дамінікавіч, — просім мы, — досыць з імі. Мы гэтак да раніцы на рыбалку не дойдзем.

— Э не, хлопцы, не-е… Гэта ж дзеці. Ім трэба на ўсе пытанні адказаць, усю ўвагу ім аддаць. А вы не хвалюйцеся! Трошкі пазней, а на рыбалку мы трапім… Абавязкова трапім.

І толькі ў прыцемкі прыйшлі на даўно аблюбаванае намі месца. Атабарыліся на крутым левым беразе Свіслачы. Невялікая,

акружаная маладым хвойнікам палянка дала нам гасцінны начны прытулак. Вельмі хутка размеркавалі абавязкі. Янку Купалу аднагалосна абралі «камендантам» табара. Міхася Чарота прызначылі «шэф-кухарам», прычым папярэдзілі:

— Калі хоць адзін чалавек застанецца незадаволены вячэрай, «шэф-кухар» неадкладна будзе перакваліфікаваны і пераведзены ў простыя кашавары.

Мне і Грышу Калінніку даручылі загатоўку паліва для вогнішча і хваёвых лапак для пасцеляў. Восіп Кніпет і Сіневіч адправіліся па вераценніцы для нажыўкі на кручкі.

Бушавала, разгуляўшыся, Свіслач. З глухім ракатаннем, з гучнымі ўсплёскамі несла яна на мутных хвалях вывернутыя з карэннем прыбярэжныя кусты, дрэвы, нейкія дошкі. Павольна круціўся на віры знесены талай вадой куратнік. Процілеглы бераг недзе губляўся, патанаў у прыцемках, і наша сціплая Свіслач здавалася грознай, шырокай, паўнаводнай ракой. У цёмным небе нясмела праглянулі першыя зоркі.

— Ах як хораша! — шумна ўздыхнуў Купала. — Кожны год назіраю такое, а ўсё здаецца, нібы ўпершыню. Люблю самы пачатак вясны… Бурны, парывісты, калі ўсё прарываецца да жыцця. І веснавую Свіслач люблю, хоць яна не раз заганяла мяне на вышкі ратавацца ад паводкі.

Гусцелі прыцемкі. Цёмная палаeducational лесу на правым беразе патанула ў змроку. Шумела рака.

— Ого-го-го-го-го-о-о!.. — данеслася знізу, з лагчыны. — Дзе вы та-а-ам?

— Качагары! На лінію агню! — падаў каманду Іван Дамінікавіч. — Шуруйце!

Загад не давялося паўтараць. Сухая, пажоўклая леташняя хвоя загарэлася адразу. Высока ў неба шугануў барвовы слуп агню. Палянка расхінулася, стала большай і надзіва прыгожай і ўтульнай.

Неўзабаве да вогнішча падышлі Кніпет і Сіневіч. Спяцоўка на Восіпу была мокрая, ажно пачарнела. У ботах хлюпала вада.

— Ты што… выкупаўся? — устрывожана спытаў яго Купала.

— Здаецца, так — паслізнуўся і ўваліўся ў яму, — з усмешкай адказаў Восіп.

— Шэф-кухар! Выдаць пацярпеламу кварту малака неадкладна.

Чарот паспешна наліў вялікую кварту «зуброўкі», падае Восіпу.

— Пі!

Адным духам асушыў Восіп кварту. Смачна крэкнуў за яго Сіневіч, сказаў:

— Шанцуе чалавеку. Ведаў бы я такую справу — сам бы ў яму ўваліўся.

— Пацерпіш… За вячэрай вып’ем.

Клапатліва і ўстрывожана загадаў Іван Дамінікавіч Восіпу:

— Распранайся… Нагала распранайся. Саромецца нечага… І садзіся да вогнішча, грэйся, сушы адзежу. Рыбалка рыбалкай, а здароўе трэба берагчы. Вераценніцы накапалі?

— Штук сорак. На ўсе шнуры хопіць.

— І то добра… Восіпу сушыцца, Міхасю гатаваць вячэру і напячы бульбы, астатнім закідваць шнуры.

Хутка насеклі калкоў. Як змеі, выгіналіся вераценніцы, насаджаныя на кручкі. Пры кожным усплеску закінутага ў ваду шнура Іван Дамінікавіч прыгаворваў:

— Лавіся, рыбка, вялікая і маленькая.

Праз паўгадзіны мы ўтульна ўселіся вакол вогнішча. Чарот урачыста аб’явіў.

— Вячэра гатова. Калі ласка. На першае — бульба ў мундзірах з селядцом, на другое — бульба з гуркамі, на трэцяе — бульба печаная з соллю, на чацвёртае — бульба з…

— Попелам! — смеючыся, закончыў за яго Іван Дамінікавіч. — Малайчына, Міхась! Прызнаем вячэру шэдэўрам кулінарнага мастацтва.

Выпілі і закусілі. Яшчэ выпілі і зноў закусілі. Смакоцце — гарачая печаная бульба, пасыпаная буйной зярністай соллю. Елі, апякаліся, пахвальвалі. Павячэралі смачна і здорава!

Іван Дамінікавіч ёмка сядзеў на кучы хваёвага вецця. Ён яшчэ жартаваў і смяяўся, але было відаць, што стаміўся, што змагаецца з дрымотай, якая ўсё больш і больш адольвала яго. Лёгка і прыемна было гутарыць з ім. Такі просты, ветлівы, абаяльны. Ён заўсёды быў вытанчана далікатны, і ад таго, што цяпер да кожнага з нас звяртаўся на «ты», было вельмі добра на душы. Бо гэтак можна размаўляць з блізкім чалавекам. Мы адчувалі гэту цеплыню і радаваліся. І мне здалося, што нашу радасць адчуў і ён, Купала.

— Ну як, хлопцы, будзем спаць ці, можа, пасядзім ля вогнішча да світанку?

Рашылі спаць. Праз пяць хвілін гарачае вуголле было адсунута ўбок. На тым месцы, дзе было вогнішча, засталася чорная пляма зямлі, ад яе пыхала гарачынёй, як ад распаленай печкі. На гэту «печку» мы паслалі шчыльны слой хваёвага вецця.

— Пярына гатова, Іван Дамінікавіч. Можна лажыцца.

Улягліся. Купалу паклалі на сярэдзіну, самі леглі па баках.

— Ого! — здзівіўся Іван Дамінікавіч. — Ды тут горача, як у лазні Паплаўскага. Добра прыдумалі.

— Па-рыбацку, — растлумачыў Сіневіч.

— А самі чаму так далёка адсунуліся? Суньцеся да мяне бліжэй.

— Нам і так добра. Адпачывайце.

— Бач ты, — усміхнуўся Купала. — Клапатлівыя анёлы-засцерагальнікі.

— Як-як, Іван Дамінікавіч? Анёлы…

— Засцерагальнікі, — смеючыся паўтарыў Купала. — Гэтак адзін мой знаёмы эстонец гаварыў… «засцерагальнікі» замест «захавальнікі».

Памалу гутарка сціхла. Далася ў знакі стомленасць.

Рубінавыя вугольчыкі вогнішча агарнуў палевы налёт попелу. Ціхенька пахропвае сагрэты Восіп Кніпет. Бурліць-шуміць Свіслач. Недзе далёка-далёка ў лесе стагналі сычы. З цёмнага неба даносіліся крыкі пералётных гусей. У верхавінках елачак прашамацеў лёгкі вятрыска… Непрыкметна я заснуў.

Прачнуўся глыбокай ноччу. Прыснілася: раззлаваная маці злавіла мяне за каўнер кашулі і лье на спіну з кварты халодную, ледзяную ваду. Намагаюся вырвацца з яе рук, кінуўся ўбок і… прачнуўся.

Перадранішні халадок красавіцкай ночы запаўзаў пад адзежу і праймаў да дрыжыкаў.

Купала ўжо не спаў. Ён стаяў на каленях, прыгнуўшыся да зямлі, і дзьмуў на агеньчык, каб распаліць згаслае за ноч вогнішча.

— Іван Дамінікавіч! Дайце я расшавялю агеньчык!

— Тсс! — пагразіў мне пальцам Купала. — Цішэй… Не галасі, хлопцаў разбудзіш. Яны пасля работы адразу на рыбалку пайшлі. Стаміліся. Хай адпачнуць, — кажа ціхенька.

Перагаворваемся шэптам і старанна дзьмем, каб распаліць вогнішча. Праз хвіліну-другую вясёлы агеньчык зайграў сярод галля.

— Вось, — узрадаваўся Іван Дамінікавіч. — Жывём, Рыгор! Грэйся!

— А можа, пойдзем шнуры праверым? — прапанаваў я.

— Не… правяраць шнуры пойдзем усе разам… на світанку. Хай хлопцы паспяць, а я тым часам запішу сёе-тое. І табе параю.

— У мяне блакнота няма.

— Блакнота няма? — здзівіўся Іван Дамінікавіч, — Які ж ты журналіст без запісной кніжкі? А яшчэ ў пісьменнікі цэліш. Маякоўскага любіш… А ты ведаеш, што Маякоўскі заўсёды быў начынены блакнотамі, як пірог грыбамі? Ці табе запісваць няма чаго?

— Запісваць ёсць што… нават сёння. Замалёўку даручылі напісаць, а я не ведаю, з чаго пачаць.

— Ну вось бачыш, — Іван Дамінікавіч з нейкай асаблівай, купалаўскай, шчырасцю ўручыў мне новенькі блакнот. — На, запісвай. І паспрабуй толькі яго забыць дзе-небудзь… я табе накручу твой лахматы чуб. Пішы аб гэтай цудоўнай ночы… аб сваіх таварышах пішы. Яны ж цікавыя, яркія людзі… і Восіп, і Віктар, і Грыша Каліннік… А Міхась Чарот — ці не выдатны хлопец? І як паэт і як чалавек. Запішы ў свой блакнот. У памяці ўсё не ўтрымаеш. Паміж іншым, прачытай нарыс Караленкі «Рака гуляе». Падумай — і ты лёгка напішаш замалёўку.

Расчулены да глыбіні душы, я горача падзякаваў Купалу і за падарунак і за ўвагу.

— Не рассыпайся ў падзяках. Пойдзем-ка лепей прыляжам на маё месца, там цёпла… і пагамонім.

Ціхенька, каб не разбудзіць таварышаў, мы ўлягліся на зялёную «пярыну.

— Дык вось, Рыгор. Даўно я да цябе прыглядаюся… Пагаварыць хацеў, ды ўсё часу не знаходзіў. Не вучышся ты… І здольнасці ёсць, і хватка ў рабоце ёсць, а ведаў не хапае. Вучыцца табе трэба… Шмат вучыцца, упарта.

Я ляжаў і маўчаў. Было мне і радасна, і трошкі сорамна і сумна. Сумна ад таго, што я добра разумеў усю праўдзівасць яго слоў, востра адчуваў іх горкую ісціну. І ў тую ноч я цвёрда рашыў: вучыцца! Упарта, настойліва, што б там ні было, але — вучыцца!

Так мы гаманілі ў тую вясновую ноч, пакуль не развіднела. І не спатрэбіўся мне тады купалаўскі блакнот. Быццам цвікамі, увагнаў Іван Дамінікавіч у маю памяць кожнае слова. На ўсё жыццё.

Наступіў світанак. Змрочны, мокры, няветлівы. Нізка, здавалася, над самым лесам паўзлі цяжкія, набраклыя вільгаццю хмары. Шумела рака, цяпер ужо аднатонна і роўна. І раптам у гэты аднастайны шум уварваліся новыя гукі. Недзе высока, за кучамі хмар, насілася птушка і крычала. Трывожны, самотны крык яе то аддаляўся і заміраў удалечыні, то зноў узнікаў амаль над самай зямлёй, над намі.

— Гусь адбіўся ад чарады, — задумліва сказаў Іван Дамінікавіч. — Адбіўся, а цяпер мітусіцца. Згубіўся ён сярод хмар… Самотна яму, тужліва і страшна. Вось так і з людзьмі часам бывае. Адарвецца чалавек ад людзей, кружыць па белым свеце адзін-адзінюткі, і трывожна яму і жудасна. Мітусіцца, шукае… Знойдзе — добра яму, спакойна. Не знойдзе — прапаў… Вучыся, Рыгор! Табе з тваім характарам гэта трэба добра помніць.

Зачасціў дробны, як бісер, дакучлівы дождж. Паспешна ўскочыў Іван Дамінікавіч, загадаў:

— Будзі хлопцаў… Уцякаць трэба. Заложны дождж — на суткі зацягнецца.

— Пад'ём! — як не сваім голасам крыкнуў я.

Усе падхапіліся, бы па трывозе. Сабралі манаткі, спехам праверылі шнуры. Не толькі ментузоў, нават печкуроў на кручках не было.

Мы ішлі хутка, шлёпалі па вадзе, па вясновых лужынах аж да самага Мінска. На Ніжнім базары купілі пару вялізных шчупакоў і дзесятка паўтара ментузоў, нават не таргаваліся. У гадзін дзесяць мокрыя і брудныя, але з выглядам пераможцаў уваліліся ў кватэру Івана Дамінікавіча. Эх, і ўляцела нам ад цёткі Уладзі!

Раз'юшанай, устрывожанай квактухай наляцела яна спачатку на Міхася Чарота, а потым на мяне.

— Хлопцы! Вы што, здурэлі? Пацягнулі старога чалавека за блізкі свет на ўсю ноч! Ці доўга яму прастудзіцца? Сумлення ў вас няма!

— Не шумі на іх, Уладзя, не шумі. Нічога са мной не здарыцца. Ну прамоклі крыху… Затое рыбы колькі налавілі! Глядзі!

Іван Дамінікавіч шырокім жэстам кінуў «трафеі» на стол.

— Налавілі! — пагардліва фыркнула цётка Уладзя. — На сярэбраны кручок вы налавілі. Ведаю я вас, рыбакоў. Прызнавайцеся, колькі заплацілі? Прызнайцеся, бо гарэлкі не дам.

— Ну і Уладзя, — усміхнуўся Купала. — Як у ваду глядзела.

— А куды ж яшчэ? — не сунімалася цётка Уладзя. — Рыба ж у вадзе жыве. Распранайцеся, мыйцеся… Паснедаем.

Пакуль мы прыводзілі сябе ў парадак, Іван Дамінікавіч «вісеў» на тэлефоне.

— Ало!.. Броўка?.. Вельмі добра, Пятрусь… Так, так. Купала. Слухай, Пятрусь. Прыхапі там Вольнага, Маракова, Александровіча… на рыбу… У Банцыроўшчыне лавілі… Спаткаеш Дудара — цягні і яго. Толькі хутчэй!

Праз гадзіну кватэра Янкі Купалы гула, як пчаліны вулей. Любіў Іван Дамінікавіч маладнякоўцаў. Ветлівая, хлебасольная гасціннасць цёткі Уладзі, вясёлыя някрыўдныя жарты Купалы прыцягвалі ў дом паэта моладзь, як магніт. Пятрусь Броўка, Чарот, Дудар — амаль уся літаратурная моладзь Мінска адчувала сябе ў кватэры Івана Дамінікавіча, як у сябе дома. Тут заўсёды можна было атрымаць і добрую параду, і дапамогу, а іншы раз і выслухаць суровую, але справядлівую натацыю. І часам цяжка было разабрацца: хто ж ён для нас, Купала, настаўнік ці бацька? Бадай што і тое і другое. Любілі і паважалі мы яго моцна, бо ён Чалавекам быў для нас з вялікай літары.

*1959*

## СПРЭЧКА

Літаратурны вечар закончыўся позна. Камандаванне дывізіі клапатліва праводзіла на вайсковых аўтамашынах Янку Купалу і Якуба Коласа. Нас, маладых пісьменнікаў, гасцінна пакінулі да раніцы. І далёка за поўнач звінелі ў вайсковых палатках песні, гучаў вясёлы смех, парушаючы цішыню начы. А на досвітку, калі прызыўна і патрабавальна прагучаў сігнал пад'ёму, мы з Паўлюком Трусам крочылі па Магілёўскай шашы ў Мінск і спрачаліся. Спрачаліся горача, з запалам. Аб чым? Аб дыме! Не смейцеся. Мы сапраўды спрачаліся з Паўлюком аб дыме. Уздумалася яму прачытаць урыўкі з новай, яшчэ не надрукаванай паэмы «Дзесяты падмурак». Я з захапленнем слухаў чароўную музыку вершаў, здзіўляўся выразнасці паэтычных вобразаў і раптам…

— Стой!

— Што — стой? — не зразумеў мяне Паўлюк.

— Нядобра! — рашуча кажу я Паўлюку і тут жа пачынаю выказваць сваю думку: не прымала мая качагарская душа радкоў:

О, край, —
Калі ж ты станеш
Краем фабрык дымных
і машын?..

— Зразумей! — кажу Паўлюку. — Не будзе пры камунізме дымных фабрык!.. Дым з фабрычных труб — гэта неашчаднасць, гэта энергія, дарэмна выкінутая ў паветра.

З хітрынкай у паглядзе паківаў Паўлюк галавой і спачувальна прамовіў:

— Эх, Рыгор, Рыгор. Шкада мне цябе. Нічога ты ў паэзіі не разумееш.

— Хто — я?

— Ты.

— Глупства! Я сам вершы пішу!

— Дрэнныя! — бязлітасна разануў Паўлюк.

Адным словам, спрэчка перайшла амаль у сварку. І дзіўна, маладымі мы былі, гарачымі, але праз паўгадзіны памірыліся і крочылі далей. Хутка ў праменнях ранішняга сонца паказаліся першыя вуліцы Мінска.

— Ага! — узрадаваўся Паўлюк. — Глядзі! Бачыш? А ты мне цэлую лекцыю наконт дыму хацеў чытаць.

Густа дымелі трубы гарбарнага завода «Бальшавік», не адставаў і дражджавы завод «Чырвоная зара». Чорнай хмарай вісеў над Серабранкай дым.

— Ну? Што ты цяпер скажаш? — радаваўся Трус. — Дым?

— А ўсё тое ж і скажу. Гэта ад таго, што там ля катлоў не качагары шуруюць, а паэты, такія ж, як і ты. Дарэмна неба сажай закурылі… Паліва на вецер пускаюць.

— Во-во, — згаджаецца Паўлюк. — Прыйдзем у Мінск і папросім, каб нам накіравалі гэтых паэтаў у «Маладняк», а цябе зноў на завод. Тады і вершы ў нас добрыя з'явяцца, і дыму не будзе…

Даўно гэта было, дзесяткі гадоў таму назад. Але ў памяці ясна захаваўся яркі, сонечны ранак, Магілёўская шаша і незабыўны вобраз паэта Паўлюка Труса. Здавалася, не ішоў ён па дарозе, а плыў… Плыў і марыў уголас аб будучыні любімай Радзімы, марыў вершамі:

І тады я стану пад гарою,
Каб пазбыцца смутку і журбы,
Буду слухаць песні Асінстрою,
Захаплюся музыкай турбін.

Звінела паэма рыфмамі, пералівалася яркімі вобразамі, рвалася ў цудоўную будучыню.

Творчы міг… Напорная
імклівасць…
Працай тут заняты муляры.

І пад небам зорнасці
маўклівай
Вырастаюць волаты-муры.

І ці ж мог я ў той час думаць, што давядзецца мне ўбачыць сваімі вачамі здзейсненую мару паэта і не дзе-небудзь, а тут, пад Мінскам, на Магілёўскай шашы… Ці ж мог я прадбачыць, што якраз на гэтым месцы вырастуць «волаты-муры» велізарных заводаў: трактарнага, аўтамабільнага, слава пра якіх грыміць па краіне!

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

У вялікім задуменні выйшаў я з варот трактарнага завода на шашу. Па шырокай стужцы асфальту мільгацелі сотні машын самых розных марак. Вось прайшлі 40-тонныя цуда-машыны — самазвалы Беларускага аўтазавода, прашасталі, абганяючы іх, хуткія і прыгожыя таксі. Паволі прайшлі стракатыя аўтобусы з пасажырамі. І здавалася мне: не шаша, а паўнакроўная тугая артэрыя вібрыруе, перадае пульсацыю сэрца вялікага горада.

Так. Трэба пісаць нарыс. І стала мне чамусьці сумна і балюча. Як шкада, што няма з намі цудоўнага паэта Паўлюка Труса. Быў бы ён, глянуў бы на Магілёўскі шлях-шашу, убачыў бы «волаты-муры» трактарнага, аўтамабільнага заводаў, пазнаёміўся б ён з такімі цікавымі людзьмі, як майстар Сукала і яго таварышы, — і ўстала б перад ім яго мара, бачная, адчувальная, і напісаў бы ён не нарыс, а чароўную па прыгажосці паэму, магчыма, з такой назвай — «Сорак пяты падмурак».

*1962*

## НА ЎМАЦАВАННЕ…

1929 год. Зіма. Я працую ў рэдакцыі рэспубліканскай газеты «Рабочий». Неяк у кабінеце рэдактара раздаецца званок. Галоўны бярэ трубку, слухае. У трубцы голас:

— Падрыхтуйце заўтра да выезду вашага супрацоўніка Кобеца Рыгора, паедзе з намі на калектывізацыю.

— Хто гаворыць?

— Старшыня Саўнаркама Галадзед…

На калектывізацыю? Куды? Навошта? — закруціліся ў маёй галаве пытанні. Але мы тады не прывыклі пытацца. Калі пасылае ўрад, — хоць у агонь, хоць у ваду, але ідзём і даволі весела ідзём. Назаўтра я быў гатовы. Едзем. Едзем на калектывізацыю.

Хто едзе? Старшыня Саўнаркама Галадзед Мікалай Мацвеевіч, старшыня ЦВК Чарвякоў Алесь Рыгоравіч, сакратар Галадзеда Дубавіцкі, ну, і я як карэспандэнт газеты «Рабочий». Выехалі ўночы, у спецвагоне.

Вось ужо світае, мароз… Мы выходзім у Оршы. Толькі выйшлі — бачым: стаіць конны ўзвод міліцыі. Чуем каманду:

— Смірна!

Коннікі ўсе ўзброены, апрануты ў форму. Падыходзіць камандзір, дакладвае:

— З'явіліся ахоўваць па загаду начальства.

— Каго ахоўваць?— пытаецца Галадзед.

— Конны ўзвод міліцыі будзе ахоўваць урад. Вы ж у вёску едзеце…

Мікалай Мацвеевіч зірнуў на Алеся Рыгоравіча, той на яго, усміхнуліся абодва, адказваюць:

— Дзякуй за клопат, за тое, што пра нас думаеце! Толькі ахоўваць нас не трэба.

— Мы ж едзем да сваіх людзей, да тых людзей, што нас выбіралі. Не трэба нас ахоўваць.

Зноў каманда:

— Узвод! Справа па тры — шагам марш!

А мы паехалі чацвёра па вёсках…

Час быў трывожны. Ломка была, ломка ўсяго. Цяжкія, напружаныя сходы… і бандытызм. Вось так і ездзілі, рабілі калектывізацыю. Ідзе сход усю ноч, а бывала — і двое сутак запар. Народ хвалюецца. Дубавіцкі — каля акна, я каля дзвярэй стаю. На ўсякі выпадак… А гэтыя двое бедалаг, старшыня Саўнаркама і старшыня ЦВК, суткамі не спяць, размаўляюць з народам, праяўляюць максімум цярпення. Я б такога не вытрымаў. А яны ўсё пераконваюць, растлумачваюць. А ў людзей тысячы скаргаў: там перагнулі, там бядняк не пайшоў у калгас, а яго дзяцей за гэта са школы выгналі… У асноўным народ ішоў у калгасы, але было і шмат такіх, хто не разумеў, супраціўляўся…

А я езджу з членамі ўрада, фіксую ўсё, што адбываецца. Штосьці ў памяці пакідаю, штосьці на заметку ў блакнот бяру. Працую, адным словам. Праўда, былі і якія-ніякія непрыемнасці, сутычкі былі. Час жа трывожны. Але ніколі ні Аляксандр Рыгоравіч, ні Мікалай Мацвеевіч аніякай аховы не прызнавалі. Ну, уявім, бандыты нападуць. Дык нас жа чацвёра, чатыры мужыкі! Хто нас возьме? Вось так і ездзілі, праводзілі калектывізацыю. Трэба сказаць, што народ іх вельмі любіў —

Галадзеда і Чарвякова. І гэта, між іншым, была вялікая, добрая гарантыя. І аховы не трэба было. Я ж усё запісваў, пасылаў карэспандэнцыі ў газету.

…Мінуў год. Раптам мяне выклікаюць у Саўнаркам. З'яўляюся. Хто выклікаў? Мікалай Мацвеевіч выклікаў. Заходжу да яго, слухаю. Галадзед і гаворыць:

— Заўтра ж адпраўляйся.

— Куды, Мікалай Мацвеевіч?

— У Ленінград. А што? Паедзеш на кінастудыю «Савецкая Беларусь»— трэба яе ўмацаваць.

Я ў разгубленасці.

— Што я там буду рабіць, Мікалай Мацвеевіч? Я ж нічога не ўмею і нічога ў гэтай справе не разумею!

— Сцэнарыі будзеш пісаць. Ты чалавек здольны.

— Але ж ці змагу?

— А вось мы загадаем — тады і зможаш! Едзь, вучыся. Навучышся. Мы на цябе ўскладаем вялікія надзеі. Вось яшчэ пашлём такіх, як ты, — і будзе студыя. Павінна быць кінастудыя, павінны быць нашы, беларускія фільмы. Табе трэба навучыцца. Загадваем!

Ну што ж, загад урада — закон. Сёння мне сказалі, а заўтра к вечару я ўжо быў у Ленінградзе. Пачаў вучыцца. Сапраўды, як пішуцца тыя сцэнарыі, я не ведаў. Але мне пашанцавала — хутка пасябраваў з Барысам Львовічам Брадзянскім. Неяк прыходзіць ён да мяне.

— Ведаеш што, — кажа, — давай пісаць разам. Ты знаёмы з рабочым побытам, так што… увогуле… сядай. Будзем пісаць сцэнарый пра рабочы клас.

Мне цікава. Брадзянскі — сцэнарыст, спецыяліст вядомы. Ну што ж, думаю, павучуся. Пачалі працаваць. Зрабілі сцэнарый. «Ураган» называўся. Пра будаўнікоў аршанскага льнокамбіната. Фільм здымаў Валодзя Вайншток. Шчыра кажучы, фільм шэранькі атрымаўся, так сабе — глядзець можна, але без асаблівага захаплення. Аднак я таму-сяму навучыўся. Спасцігнуў спецыфіку напісання сцэнарыя. А тут якраз вельмі моднай зрабілася тэматыка пра калектывізацыю. Выходзіць адзін фільм, другі, трэці… І ўсё — адно і тое ж: калгаснікі жывуць — во, а аднаасобнікі ў гэты час з голаду пухнуць.

Неяк зайшла на мастацкім савеце гаворка пра гэтыя карціны. Я і не вытрымаў, выступіў:

— Лухту, таварышы, верзяце! Адзін фільм пагледзіш, а далей і глядзець няма чаго. У іншых — тое ж самае. Бо ў першай

частцы пачынаецца калгас, а падчас трэцяй устае муж-глядач і кажа жонцы-глядачцы: «Хадзем, Мар'я, бо ў апошняй частцы абавязкова будуць чырвоны флаг і крыкі «ўра». Усе фільмы аднолькавыя. Так пра калгасы здымаць нельга!

А мне раптам:

— Паспрабуй сам!

— Ну і паспрабую! Вось убачыце, праз паўгода здам сцэнарый — як трэба!..

Так гэта, па гарачнасці, вырвалася. А мне тут адразу — дагавор:

— Ану, падпішы!

Я і падпісаў, зноў жа па гарачнасці. Малады быў, што зробіш…

Мінуў нейкі час — трэба ўжо і за сцэнарый брацца. З'ездзіў у вёску, прагледзеў свае блакноты з нататкамі пра калектывізацыю (спатрэбіліся!). Пачаліся творчыя пакуты. Неабходна, думаю, з іншага ракурсу, з іншага пункту гледжання паказаць гэтую калектывізацыю. Праўду паказаць. І вось якую: што ў калгасах адразу асаблівага «мёду» не было, што і людзі галадалі, сумняваліся, што і коні дохлі, але ўсё ж нешта такое прарастала, камуністычныя ідэі пра агульную гаспадарку ўсё ж пранікалі ў масы, даходзілі да свядомасці людзей. Але як паказаць усё гэта, каб праўдзіва было, каб глядач паверыў? Каб на экране адлюстравалася рэчаіснасць? І я знайшоў такі ракурс. Не адразу, вядома.

Тады ўсе фільмы былі нямыя. Гукавое кіно толькі нараджалася. Мы, «Белдзяржкіно», былі ў гэтым сэнсе ледзь не на першым месцы ў Саюзе. У нас працаваў Вадзім Ахотнікаў, які гукавую апаратуру вынаходзіў. На яго рахунку было ўжо некалькі гукавых дакументальных фільмаў. Вось я і падумаў: трэба напісаць сцэнарый гукавога мастацкага фільма, і з такім разлікам, каб гук уліваўся ў сюжэт. А на той час мінула ўжо больш трох месяцаў пасля падпісання дагавора. Нават жонка пачала на мяне падазрона паглядаць: такі, напэўна, выгляд у мяне быў — ачмурэлы. Карацей, вынасіў я гэтую тэму да таго, што ўвесь фільм у мяне перад вачыма, асобныя кадры бачыў. Тады ж я вырашыў: калі мяне ўмацоўваць кінастудыю «Савецкая Беларусь» паслаў беларускі ўрад, значыцца, я павінен рабіць беларускі фільм і абавязкова з беларускімі акцёрамі. Ролю канакрада ў сцэнарыі я загадзя аддаў У. Крыловічу. І для П. Малчанава ролю адвёў — падкулачніка Ваські. Спадзяваўся і іншых нашых акцёраў запрасіць.

Прадумаў усё да канца. І вось неяк раніцою я рашуча накіраваўся ўніз (тэатр «Крывое люстэрка», дзе мы размяшчаліся, быў двухпавярховы: на першым паверсе кінастудыя, на другім — кватэры). Жонка пытаецца:

— Ты куды?

— Сцэнарый дыктаваць.

— Ты што — звар'яцеў?! Людзі больш адукаваныя і тыя загадзя запісваюць, а ты — дыктаваць!..

— Ну і што? — адказваю. — Калі я сам буду пісаць, шмат арфаграфічных памылак нараблю, могуць і сцэнарый забракаваць. А так — хоць нейкая гарантыя…

І пайшоў. Унізе паведаміў пра свой намер Валодзю Вайнштоку. Той таксама мяне высмеяў, нават у закладкі пайшоў, што ў мяне нічога не атрымаецца. Каб паздзекавацца з мяне, паклікаў Барыса Брадзянскага, рэжысёра Эдуарда Аршанскага — цэлы натоўп сабраўся. Разам рушылі да машыністкі Бэлы Бешу.

І пачалося! Шэсць гадзін я хадзіў па кабінеце і дыктаваў. Спачатку з мяне пасмейваліся, потым — змоўклі, і за ўсе шэсць гадзін ніхто з кабінета не выйшаў. Я ж у рэшце рэшт змоўк: не ведаю, што далей дыктаваць, і ўсё тут. Стаю разгублены, а Бэла крычыць:

— Усё, Грыша! Сцэнарый закончаны!

Тут, на месцы, я і ўручыў сцэнарый Леаніду Рыгоравічу Тотмейсену, дырэктару студыі.

А праз пару дзён — мастацкі савет. К таму часу яшчэ некалькі заявак было пададзена, але пашанцавала мне. Мо і сапраўды сцэнарый атрымаўся неблагі, хто ведае… Там жа было вырашана, што фільм будзе ставіць Эдуард Аршанскі. Ён і ўзяўся за працу ледзь не на другі дзень. Я ж паехаў на Далёкі Усход збіраць матэрыял для «Шукальнікаў шчасця».

Выйшла карціна «Двойчы народжаны» ў 1934 годзе[1], калі я быў у Бірабіджане. Неяк вяртаюся з тайгі з палявання, а мне — газету «Известия» ў рукі. Там цэлы «падвал» — рэцэнзія за подпісам Сяргея Дынамава, вядомага крытыка. Прачытаў — ну і дыфірамбы! Фільм і цудоўны, і сапраўды нацыянальны, беларускі… Вельмі добры водгук быў.

Карціна пайшла на нашых экранах, нават у Прыбалтыку трапіла, дзе тады былі буржуазныя ўрады. Усюды яе цёпла прымалі. Асабліва адзначалі ігру У. Крыловіча, які выконваў галоўную ролю — Лопуха. На ім, можна сказаць, увесь фільм і трымаўся. Адметныя вобразы стварылі таксама Б. Бабачкін, П. Малчанаў, Л. Кміт, іншыя акцёры. Вылучалася і рэжысура Э. Аршанскага.

Вельмі шкада, што фільм цалкам не захаваўся да нашага часу. Прапала шмат кадраў, нават цэлая частка знікла. Але тым не менш ён вельмі памятны для мяне як мой першы ўдалы сцэнарый, як пачатак маёй працы ў кінематографе.

*1964*

## АЎТАБІЯГРАФІЯ

Жыццё маё такое незвычайнае, што часам мне самому яно здаецца неверагодным, выключна цяжкім.

Пачну па парадку. Нарадзіўся я ў Херсонскай губерні ў горадзе Елісаветградзе (цяпер Кіраваград) у прадмесці Кушчоўка ў 1900 годзе 12 ліпеня старога стылю[1]. Маці мая, Мотра Яўхімаўна Драч, служыла ў розных паноў кухаркай і пусціла мяне на свет, не будучы замужам, таму я з маленства меў «званне» байструка па прозвішчы Міхайла Драч. Дзед мой, каваль з сяла Севярынаўкі на Адэсчыне, быў так абураны, што вырашыў забіць маю маці, Мотру, за тую ганьбу, якую яна прынесла іхняму роду. Маці паехала ў Адэсу, а мяне пакінула ў старой бабулі-малдаванкі Земфіры Фундобнай. Плаціла ёй тры рублі на месяц. Вы самі разумееце, якое мог мець «выхаванне» трохрублёвы байструк. Жыў я ў галадзе, у брудзе і лахманах. Дзе якая поўха — мая. Выспятак, дубец, бізун — таксама мае. У той час байструкі былі самыя бяспраўныя істоты на зямлі, і з імі абыходзіліся горш, чым з быдлам.

Часценька я пераходзіў з рук у рукі: ад бабулі Земфіры да бабулі Хвядоры, а ад Хвядоры да цёткі Мар'і. Імёны цётак і бабуль мяняліся, а маё жыццё заставалася без змен. У шасцігадовым маім узросце настаў перапом. Нарэшце маці неяк сабрала трыста рублёў, прыехала ў Елісаветград, купіла хату на Новай Кушчоўцы (6-я лінія) і пачала жыць самастойна. Быў у нас свой сад і кветнік. Маці вырошчвала кветкі, прадавала іх, і з гэтага мы жылі. Прыехаў мой бацька, Мусій Іванавіч Сандыга[2]. Паходзіў ён з беззямельных сялян сяла Вялікі Хутар Залатаношскага павета Палтаўскай губерні. Працаваў у прыватнай пякарні Тарантула (на Быкавай) і прыпісаўся да мяшчан пры елісаветградскай мяшчанскай управе. Жыць мне стала лепш. У мяне былі маці, бацька, догляд і, хоць зрэдку, мацярынская ласка.

У восем год мяне аддалі ў царкоўнапрыходскую школу пры кушчоўскай царкве. Вучыўся я добра, і мяне перавялі ў народнае вучылішча пры мяшчанскай управе.

Калі мне споўнілася дзесяць год, бацькі павянчаліся ў царкве (уступілі ў законны шлюб). Але я так і застаўся Міхайлам Драчом: нягледзячы на хадайніцтва бацькі, па тагачасных законах яму не дазволілі мяне ўсынавіць. К таму часу бацькі пераабсталявалі хату і адчынілі сваю «справу» — саматужную пякарню. Гады праз два «справа» разраслася, і яны сталі заможнымі гаспадарамі. Пад націскам маіх настаўнікаў бацькам хоць і з вялікімі цяжкасцямі, але ўдалося аддаць мяне ў Елісаветградскае земскае рэальнае вучылішча. І там я спачатку вучыўся добра.

Але ў 1913 годзе пякарная справа «прагарэла», і мае бацькі збяднелі. Пачаліся новыя непрыемнасці: не было чым плаціць за навучанне, за што купіць форму; зноў кпіны і здзекі з боку вучняў з заможных сямей, адчуў я і пагарду настаўнікаў. Зноў навалілася на мяне маё «байстручаства». Калолі ім мяне ў вочы. А да каго пойдзеш са сваёй крыўдай? Бацькі мяне не разумелі, не хацелі разумець. Я ім пра зверскі рэжым у вучылішчы, аб здзеках над беднасцю, а яны мне сваё дзяўбуць: «Цярпі… але вучыся. Хоць лопні, але цярпі!» А як цярпець? На кпіны я адказваў мардабоем, а дома мяне за гэта лупцавалі, пакуль не траціў прытомнасць.

Адным словам, жыццё маё стала пеклам. І ў 1914 годзе, калі пачалася Першая сусветная вайна, я ўцёк на Аўстрыйскі фронт. Трапіў у 4-ты Заамурскі полк 9-й арміі Паўднёва-Заходняга фронту. Удзельнічаў у баях за Перамышль, Бугач, Залешчыкі, Цярнопаль. 26 красавіка 1915 года пад Калымаяй мяне цяжка параніла ў баі разрыўной куляй у правую руку. Лячыцца накіравалі ў родны Елісаветград. На фронт больш не пусцілі, але дазволілі далей займацца ў рэальным вучылішчы без платы за навучанне. Гэта мяне ўзрадавала, але… ненадоўга. Ад платы за навучанне аслабанілі, а здзекамі і насмешкамі ўзнагародзілі яшчэ больш. Рэжым, як я казаў, там быў вельмі жорсткі. Не кожны мог вытрымаць здзекі. Вучань Навум Лур’е застрэліўся, вучань Гусараў кінуўся пад цягнік і загінуў. Я не стрываў кпінаў і здзекаў і таксама спрабаваў кончыць жыццё самагубствам. Але вучань Уладзімір Валохін[3] таўхануў мяне пад руку, і куля ўвайшла ў грудзі на 1 см вышэй сэрца. Лячылі мяне ў шпіталі Чырвонага Крыжа (на Вакзальнай вуліцы). Аперацыю рабіў урач Пакаціла. Вылечылі і… выключылі з рэальнага вучылішча.

Грымнула Лютаўская рэвалюцыя. І я, ні ў кога не пытаючыся, стаў сынам свайго бацькі — Міхаілам Майсеевічам Сандыгам.

Булачнікам мой бацька і пайшоў на фронт. А я, акрыяўшы крыху пасля ранення, накіраваўся ў рэальнае вучылішча і не столькі папрасіў, колькі патрабаваў, каб мяне пераэкзаменавалі па ўсіх прадметах за чатыры класы. Інсцэніравалі экзамены, і я атрымаў пасведчанне за чатыры класы рэальнага вучылішча. Па ўсіх прадметах — тройкі, а за паводзіны — чацвёрка. Ну і што ж? І на тым дзякуй. Так завяршылася мая адукацыя[4]. Пара пачынаць самастойнае жыццё. Мне ж ужо ішоў семнаццаты год. Паступіў працаваць на чыгунку. Маркіроўшчыкам на станцыі Елісаветград-Таварны Паўднёва-Заходняй чыгункі. З маркіроўкай асвоіўся хутка. Пачалося цікавае і даволі бурнае жыццё. Улетку станцыя Елісаветград была запоўнена эшалонамі войск. Трашчаў фронт па ўсіх швах, разбягаліся дамоў салдаты, і ніякія эмісары Керанскага не маглі іх стрымаць.

Елісаветград гудзеў і кіпеў. Палітычнае жыццё горада біла ключом. Мітынгі, мітынгі, сходы, дэманстрацыі і… прамовы, прамовы! Мора прамоў і акіяны слоў. Левыя эсэры, правыя эсэры, бундаўцы, барацьбісты, анархісты, бальшавікі, меншавікі, украінскія нацыяналісты. Розныя партыі, саюзы, таварыствы. Нават ліга «Прэч сорам» узнікла ў горадзе. На Дварцовай вуліцы з’явіліся дзяўчаты ў адзенні Евы, ледзь прыкрытыя фігавымі лісточкамі розных фасонаў і колераў. Але елісаветградцы хутка вымелі гэту лігу і прымусілі «ультра-эмансіпіраваных» дзяўчат прытрымлівацца элементарных правіл прыстойнасці. Горад бурліў, горад кіпеў. Партыйныя лідэры хрыплі ад прамоў. У меншавікоў — натарыус Якубоўскі, у бальшавікоў — Каламіец, Цепічэнка, Вінаградаў, ва ўкраінскіх нацыяналістаў — Бульба, Шпачынскі, браты Вярбіцкія, Харунжы, у анархістаў — Барыс Волін (сапраўднае прозвішча Эхенбаўм), Максюта, Аксенфельд. Нават настаяцель гарадскога сабора протаіерэй Коласаў прымаў актыўны ўдзел у мітынгах, на сходах і дыспутах, выступаючы за ўстаноўчы сход. І вось у гэтым палітычным бурлівым катле мітусіцца семнаццацігадовы хлопец Міхаіл Сандыга, слухае лідэраў розных партый і ніяк не можа зразумець, хто ж з іх больш рэвалюцыйны? Да якой партыі прыстаць? Якая партыя пачне рашуча «курочыць» памешчыкаў і іншых багацеяў? «Памог» выпадак. Пакуль лідэры мітынгавалі і спрачаліся паміж сабой, немцы ўсё больш упарта пёрлі на Украіну. У Кіеве тыя ж немцы пасадзілі на гетманскі трон Паўла Скарападскага. У той час у Елісаветградзе выходзіла газета «Наша жизнь». Я зрэдку друкаваў на яе старонках байкі. Часцей за ўсё — пераймаў Дзям’яна Беднага. Падпісваўся: «Рабочий М. Сандыга». І вось

у горадзе з’явілася новая газета — «Друг народа». Наважыў я змясціць і ў ёй пару вершаў[5]. У самы разгар гетманшчыны мне ўдалося надрукаваць рыфмаваны фельетон «Лавочка». Што пасля са мной адбылося, раскажу падрабязней.

Першыя строфы «Лавачкі» і цяпер помню:

Когда внезапно разделилась
Россия, вотчина царей,
В Берлине лавочка открылась
Для распродажи королей.
Там тоже спекулянты были
(Монархов лестно продавать),
Но почему-то позабыли
Нам прейскуранты разослать.
И потому ошибка вышла:
Пан Скоропадский к нам попал.
На трон Украины он пышно
Воссел… Павло Скороупал…

Раніцай тыраж газеты разышоўся па горадзе, а ўночы дзяржаўная варта, узмоцненая конным раз’ездам гайдамакаў, акружыла нашу хату. Білі мяне бязлітасна. Адсыпалі «ганарар» спаўна кулакамі, шомпаламі і нагайкамі, а потым кінулі ў старую турму (на Пермскай вуліцы). Пасля двух дзён пабояў і допытаў, ноччу, калі мяне пераводзілі ў новую турму ля турэцкай крэпасці, кушчоўскія хлопцы наляцелі на канвой і адбілі мяне. Не ўлічыла варта, што я кушчовец. Пралічылася. Цяпер прыйшлося хавацца. Скрываўся і ў вёсцы Беражынка, потым у Завадоўцы, Абознаўцы і Кампанееўцы. Шэфства нада мной узяла федэрацыя анархістаў групы «Набат». Духоўныя настаўнікі — Максюта і Барыс Волін. Так лёс наканаваў мне ўключыцца ў актыўнае палітычнае жыццё. Сур’ёзным, паўнапраўным членам федэрацыі анархістаў мяне не лічылі. Па-першае, занадта малады, а па-другое, палітычна не дазрэў. Блытаў праграмы. Барыс Волін нашпігаваў мяне літаратурай тэарэтыкаў анархізму (Бакуніна, Крапоткіна і іншых лідэраў), тлумачыў мне праграмы анархістаў.

Быў я не столькі членам федэрацыі, колькі «спачуваючым». Даручалі мне спачатку дробязныя справы, потым прызначылі сувязным і глыбока законспіравалі. А жыццё бурліла. Разгаралася Грамадзянская вайна. Улада ў горадзе мянялася, як у калейдаскопе. Керанстчына, Цэнтральная рада, Саветы, гетманшчына, зноў Саветы, пятлюраўшчына, махноўцы, дзянікінцы,

грыгор'еўшчына і зноў савецкая ўлада. Былі тыдні і месяцы, калі насельніцтва Елісаветграда змагалася на два фронты. Са станцыі Шастакоўка наступалі немцы, а з паўстанка Канатава рваліся да горада галаварэзы банды Марусі[6] (400 чалавек). Нашы гарадскія батарэі білі па немцах шасцідзюймовымі снарадамі з турэцкай крэпасці, а за Петрапаўлаўскай царквой грымелі нашы трохдзюймоўкі па бандытах Марусі. У гэтым віры Грамадзянскай вайны перапынілася мая сувязь з анархістамі. Пайшоў я служыць у Чырвонаармейскі Брацкі полк (фарміраваўся ў Елісаветградзе). З Брацкага палка перавялі ў 1-шы Інтэрнацыянальны батальён Рэўваенсавета Паўднёвага фронту (ваенкамам у нас быў Уладзімір Каламіец, член ЦК КП(б)У). Служыў у міліцыі пад кіраўніцтвам Цімафея Шабарава. За Златаполем разбілі мы банду Квашы. Сам Кваша быў забіты. Пад Нова-Украінскай ліквідавалі банду Каласаева. Кіраваў намі начальнік Сямён Данілавіч Громаў. Потым пайшоў я ў Першую Конную Армію С. М. Будзённага. Служыў у асобным кавалерыйскім дывізіёне пад камандай Мяркулава.

І вось тут зноў мяне знайшлі анархісты. Яны далі мне вельмі сур'ёзнае і небяспечнае заданне. У Елісаветградзе наспяваў мяцеж. Украінскія нацыяналісты рыхтавалі паўстанне. Арганізавалі паўстанцкі штаб. Кіравалі ім Яўгеній Грахольскі (падпольная клічка Грэчка), начальнік конзапасу Упраформа (Упраўлення фарміраванняў) Першай Коннай — нехта Ціханаў і супрацоўнік асобага аддзела Бандарэнка. Мяне перавялі з каўдывізіёна ў Упраформ Першай Коннай (начальнікам тады быў Шароў, а ваенкамам Собалеў). Анархісты загадалі наладзіць кантакт з нацыяналістамі, забяспечваць іх зброяй і патронамі, трымаць сувязь. Было вырашана памагаць нацыяналістам, а ў час паўстання адкінуць іх і абвясціць Паўднёва-Рускую «вольную» рэспубліку пад чорнымі сцягамі. Патрэбнай колькасці зброі я не змог дабыць, акрамя некаторых запасных частак да вінтовак і некалькіх скрынак патронаў, а сувязь падтрымліваў акуратна і вербаваў людзей у асноўным з асяроддзя крымінальнікаў-налётчыкаў.

Знаёмства з крымінальным светам у мяне было даволі шырокае, бо з маленства мяне выхоўвала вуліца. Але сам я налётаў не любіў і крымінальшчынай не займаўся. Чатыры месяцы рыхтаваўся мяцеж. Аднойчы вечарам сабраўся штаб на Балцы ў доме нацыяналіста Коўгана. Нечакана дом акружылі работнікі

Елісаветградскай ЧК. Усе ўдзельнікі сходу былі арыштаваны, а мне ўдалося ўцячы. Шукалі мяне доўга і настойліва. Зноў прыйшлося перайсці на нелегальнае становішча. Праз два тыдні мяне арыштавалі работнікі АРТЧэка на станцыі Каменка. Арыштаваць арыштавалі, але… не ведалі каго. У мяне на руках ужо быў дакумент на імя наваміргарадскага служачага па прозвішчы Дончанка, таму нагляд быў слабы, і я на світанні ўцёк. Дні праз два апынуўся ў Фаставе з дакументамі на імя чырвонаармейца Данілы Леанцяна, малдаваніна, 1894 года нараджэння (на той час адрасла і такая-сякая бародка). Паслалі мяне ў Кіеў, на Лук’янаўку, у маршавую роту, прызначаную для адпраўкі ў Сярэднюю Азію на барацьбу з басмачамі.

Пакуль ішлі страявыя і палітычная заняткі, пакуль рыхтаваліся да далёкага паходу — прыйшоў загад аб частковай дэмабілізацыі. Дэмабілізавалі і мяне як нараджэнца 1894 года. Выдалі воінскую ўліковую картку на імя дэмабілізаванага чырвонаармейца Данілы Леанцяна. Запыталіся, куды я хачу паехаць. Я назваў горад Атбасар Акмолінскай вобласці. Там у мяне было шмат сваякоў, якія ведалі мяне толькі па фотаздымках і перапісцы. Ніхто з іх ні разу ў жыцці мяне не бачыў. У Атбасары пражываў і мой дзядзька Андрэй Іванавіч Сандыга. Быў ён пры царызме валасным пісарам, прачытаў на сялянскім сходзе сакрэтныя зямельныя дакументы і за гэта трапіў на вечнае пасяленне ў Паўночны Туркестан. Там ажаніўся і астаўся жыць назаўсёды.

Ішла вясна 1921 года. У краіне — страшны голад, разруха. Засуха загубіла ўраджай. Мёртвыя людзі валяліся на вуліцах. Я перасёк амаль усю краіну і бачыў сляды вайны і голаду. З цяжкімі думкамі ехаў я ў Атбасар: «А што, калі б паўстанне адбылося? Колькі б яшчэ гора, слёз, крыві прынесла яно людзям!»

Са станцыі Інза я паслаў у Елісаветградскую ЧК шчырае пісьмо, у якім напісаў: «Прашу Вас не шукаць мяне. Усё роўна не знойдзеце. Я разумею, што заслужыў суровае пакаранне. Я прайшоў амаль усю краіну, бачыў пакуты народа, бачыў разруху. Глыбока ўсвядоміў свае памылкі, перагледзеў і пераацаніў свае погляды на жыццё. Я стаў другім чалавекам. Няма больш анархіста Міхаіла Сандыгі. Замест яго — новы чалавек, які ўсім сваім розумам і душой стаў на платформу савецкай улады і будзе змагацца і працаваць у імя яе росквіту і ўмацавання. Прашу маё пісьмо надрукаваць у газеце. Я заклікаю ўсіх, хто яшчэ гэтага не зразумеў, скласці ружжо таксама, як я. Міхаіл Сандыга».

Магчыма, пісьмо гэта захавалася ў архівах, бо шмат дакументаў маіх і пра мяне ўцалела да нашага часу.

Прыехаў да дзядзькі Андрэя, пазнаёміўся са стрыечнымі братамі і сёстрамі, расказаў пра сябе ўсё без утайкі. Войкалі, ахкалі, уздыхалі. Не хацеў я наклікаць на іх бяду. Прыйшоў я да іх уночы і перад світанкам той жа ноччу пайшоў ад іх. Рушыў назад, на Украіну. За паўтара месяца дарогі я шмат чаго яшчэ пабачыў і зразумеў. Прыехаў у сяло Вялікі Хутар, што за дваццаць кіламетраў ад Залатаношы. Палова Вялікага сяла — Сандыгі. Усе — мае сваякі, але і яны не ведалі мяне раней. Расказаў пра сябе толькі дзядзьку Панфілу Іванавічу Сандыгу. Ён таксама, як і дзядзька Андрэй, быў у царскай ссылцы, але вярнуўся дадому. Палаяў ён мяне моцна за мой анархізм, а потым, зрабіўшы вынік, што гэта памылка маёй маладосці, уладкаваў у кузню малатабойцам. Але доўга працаваць не давялося. Праз месяц ці паўтара — на мяне аблава. Арыштаваць не ўдалося, але я зразумеў, што ЧК мяне не забыла і не даравала. Закінуў дакументы на імя Леанцяна і пайшоў на захад — у Беларусь. Прабіраўся начамі. Зваўся я ўжо дэмабілізаваным чырвонаармейцам 25-й стралковай дывізіі Рыгорам Якаўлевічам Кобецам. У лясах пад Мазыром, недалёка ад вёскі Махновічы, мяне арыштавалі, добра аддубасілі і кінулі ў Мазырскую турму на беразе Прыпяці. Неяк выпадкова на прагулцы мяне ўбачыў Міхаіл Мікалаевіч Тухачэўскі. Запытаў:

— Ты хто?

— Дэмабілізаваны чырвонаармеец 25-й стралковай дывізіі Кобец Рыгор Якаўлевіч!

— За што арыштавалі?

— Не ведаю!

— Хто цябе так размаляваў?

— Следчыя павятовага палітбюро*.

— На допыце?

— Так.

На тым размова і скончылася. Тухачэўскі выклікаў начальніка турмы і загадаў:

— Такія метады недапушчальны! Мы не царскія каты, мы не белапалякі! Вядзіце следства, карайце сурова, калі заслужыў, але… без самавольства!

Больш мяне ніхто і пальцам не крануў. Перавялі ў Мінск, у ЧК Беларусі. Сядзеў у сутарэнні на Савецкай вуліцы (цяпер

---

* Былі тады такія ў палітбюро.

праспект Леніна). На допыт не выклікалі ні разу. Тут я захварэў на сыпны тыф. Пад строгай вартай ляжаў у 3-й востразаразнай бальніцы (вул. Крапоткіна). І як жа я здзівіўся, калі аднойчы прыехаў старшыня ЧК Беларусі т. Ольскі і ў прысутнасці членаў Савецкага ўрада Беларусі ўручыў мне ордэр на вызваленне. Аказваецца, Рыгор Кобец ніякіх злачынстваў не зрабіў. Разгружалі перапоўненую турму, як звычайна, і мяне, не ведаючы, хто я, — выпусцілі на волю.

Далячыўся і астаўся ў бальніцы качагарам. Сваёй адзежы ў мяне не было, апранулі мяне ў вопратку нябожчыкаў, і я прыступіў да працы.

Працаваў старанна. Цяжка было. Мёрзлы торф здзіраў скуру з далоняў, але я працаваў, добра памятаючы сваё абяцанне Елісаветградскай ЧК стаць савецкім грамадзянінам. І я ім стаў. Працуючы ў качагарцы, неяк прачытаў я кнігу Войніч «Авадзень». Яна вельмі ўзрушыла мяне. Да чаго ж падобны мой лёс! Памылка, зробленая ў юнацкія гады, скалечыла ўсё наступнае жыццё. Я шмат разоў перачытваў гэту цудоўную кнігу. І думаў. І вырашыў: шлях яе героя — мой шлях! Памыліўся ў юнацтве — выпраўляй сваю памылку нават цаной неверагодных пакут, нават цаной свайго жыцця. І я цвёрда стаў на гэты шлях выпраўлення. Я пачаў пазбаўляцца ад анархісцкіх звычак, прывучаў сябе да свядомай дысцыпліны, з галавой акунуўся ў вір грамадзянскага савецкага жыцця.

Праз год мяне запрасілі працаваць качагарам на Мінскі дражджавы завод «Пралетарый». Пайшоў з задавальненнем. Два ланкашырскія катлы давалі магчымасць па-сапраўднаму разгарнуць маё качагарнае майстэрства. Працаваў здорава. Вучыў працаваць другіх. Актыўна ўдзельнічаў у прафсаюзным руху. Праз год я ужо быў старшынёй заўкама. Выбіралі мяне на гэту пасаду некалькі год запар. Зноў, як у маладыя гады, адчуў жаданне пісаць. Пачаў друкаваць у газетах допісы, нарысы, фельетоны. Зрэдку пісаў апавяданні ў маскоўскую рабочую газету. Падпісваўся — Грыша Лахматы. Пад гэтым псеўданімам публікаваў вершы ў газетах і часопісе «Прафрух Беларусі». Далучыўся да літаратурнага аб’яднання «Звенья» (філіял беларускага «Маладняка»). У 1925 годзе напісаў верш «Паравоз». Асаблівая дынамічная рытміка палюбілася чытачам, і мой «Паравоз» імкліва паімчаўся па ўсёй савецкай краіне ў выкананні харавых калектываў (галоўным чынам «сінеблузнікаў») і ў сольным выкананні дэкламатараў. Выбіралі мяне членам Мінскага

гарадскога Савета (і не адзін раз). Быў я членам цэнтральнага праўлення прафсаюза харчавікоў Беларусі. Аднак пра тое, што я не Кобец, а былы анархіст Сандыга, не забываў: я быў пад пільным надзорам ЧК Беларусі (потым ДПУ, а пазней НКУС). Выклікалі людзей, з якімі я працаваў, пыталіся пра мяне, а я рабіў выгляд, што нічога не заўважаю, і працаваў яшчэ лепш. Але на душы было неспакойна. Раптам возьмуць? Арыштуюць? Кожны дзень, у любы час мяне маглі «ўзрадаваць» гэткім сюрпрызам. І тады паляціць к чорту ўсё маё перавыхаванне. Было крыўдна. Ды што зробіш? Такое жыццё. Каму якая справа да таго, што ты быў юным рамантыкам, яшчэ не кемлівым, які заблытаўся ў віры жыцця і не знайшоў верны шлях? Вінаваты — адказвай. І пад вялікім нервовым напружаннем я рыхтаваўся да таго, каб трымаць адказ за сваю віну, гатовы быў кожны дзень, кожную гадзіну. Былі ў мяне магчымасці (і неаднойчы) уцячы за мяжу. Але навошта? Што дасць мне «заграніца»? Усё для мяне там будзе чужым. Не! Хай будзе, што будзе — а я астануся тут, на сваёй зямлі. Няма чаго рабіць мне на чужыне.

Мінула яшчэ колькі часу і раптам… мяне пазналі. Выступаў я ў клубе імя Дзям'яна Беднага з дакладам пра Кастрычніцкую гадавіну. Крокі за чатыры ад трыбуны — у ложы — размясціўся духавы аркестр 7-й Самарскай кавалерыйскай дывізіі. І вось чую:

— Хлопцы! Ды гэта ж Мішка Сандыга!

Сэрца ў мяне захаланула. Ну, думаю, зараз крыкнуць:

— Лаві! Трымай!

Не, маўчаць. Павёў позіркам па аркестры — бачу капельмайстра Каратаева, кларнетыста Далінскага і трубача Кісялёва. Пазіраюць яны на мяне, падміргваюць. Адны ведалі мяне па Першай Коннай, другія (Каратаеў і Далінскі) па Елісаветградзе. Што рабіць? Напружваю волю, «спакойна» канчаю даклад. А за кулісамі мне пацiскаюць рукі, вітаюцца:

— Здарова, Мішка!

— Ціха! Я не Мішка, а Грышка.

Расказаў я ім пра свае юначыя памылкі, пра жаданне перавыхавацца. Паспачувалі мне.

— Мы цябе не выдадзім.

І не выдалі. Шмат гадоў яны маўчалі. Маўчаць і па сённяшні дзень. Праўда, Каратаеў памёр у Мінску, Далінскі паехаў, а Кісялёў і цяпер яшчэ кіруе музычным гуртком на Мінскім трактарным заводзе. Яшчэ некалькі разоў пазнавалі мяне елісаветградцы, але не выдавалі. Аднойчы ў Ленінградзе, ва

украінскім тэатры «Жовтень», у час пастаноўкі маёй п’есы «Гута» мяне пазнаў акцёр Раманоўскі, але мне ўдалося пераканаць яго, што я не Міхаіл Сандыга, а Рыгор Кобец, беларускі пісьменнік, рабочы. Ён зрабіў выгляд, што паверыў мне, а можа, і паверыў?..

Вось пад такім дамоклавым мячом я жыў і працаваў.

У 1927 годзе мяне залічылі на пасаду штатнага супрацоўніка рэдакцыі газеты «Рабочий» (орган ЦК КП(б) Беларусі). Праз паўгода я стаў вядомым у рэспубліцы фельетаністам і нарысістам Грышам Лахматым. Рызыкнуў напісаць вялікі твор. У 1929 годзе напісаў п’есу «Гута». У 1930 Першы беларускі дзяржаўны тэатр (цяпер тэатр імя Янкі Купалы) атрымаў самую высокую ацэнку на алімпіядзе тэатраў СССР за пастаноўку «Гуты». Потым ставілася мая п’еса ва ўсіх рэспубліках Савецкага Саюза і за мяжой — у Польшчы, Чэхаславакіі, Румыніі, Венгрыі і Аўстрыі. На Украіне «Гута» ішла ў Днепрапятроўску — тэатр імя Тараса Шаўчэнкі; у Харкаве — Красназаводскі тэатр; у Кіеве — польскі тэатр (мастацкі кіраўнік Вандурскі).

Пасля «Гуты» напісаў камедыю «На заставе», якая ішла на сцэне маладзёжных тэатральных калектываў Беларусі, Грузіі, Ленінграда. У 1931 годзе мяне выклікалі ў СНК БССР, прапанавалі:

— Рыгор, заўтра ж едзь у Ленінград на кінастудыю Белдзяржкіно.

— Чаго? Што я там буду рабіць? — здзівіўся я.

— Пісаць сцэнарыі для студыі Белдзяржкіно.

— Я іх ніколі не пісаў. Не ўмею.

— Навучышся. Ты хлопец здольны.

На другі ж дзень увечары я быў ужо на кінастудыі Белдзяржкіно (канал Грыбаедава, 90). Вучыўся і працаваў.

Гукавых фільмаў яшчэ не было. У 1931 годзе на экраны СССР выйшаў нямы фільм «Ураган» (сцэнарый Барыса Брадзянскага і Рыгора Кобеца, пастаноўка Уладзіміра Вайнштока). Фільм, шчыра кажучы, атрымаўся шэранькім. Аднак я сяму-таму навучыўся. Пачаў вывучаць спецыфіку кінафільмаў, тэхніку напісання сцэнарыяў больш уважліва і ўдумліва. У 1931 годзе адважыўся напісаць кінасцэнарый для першага гукавога фільма Белдзяржкіно. Назваў яго «Двойчы народжаным». Гэта была мая першая самастойная работа ў кіно. Сцэнарый быў ухвалены і прыняты нават без паправак. Пастаноўку даручылі рэжысёру Эдуарду Аршанскаму. Пачаліся кіназдымкі. А я паехаў на Далёкі Усход у Яўрэйскую аўтаномную вобласць (Бірабіджан).

Збіраў матэрыял для новага кінасцэнарыя пра жыццё яўрэяў-перасяленцаў. Знаёміўся з людзьмі, з флорай і фаўнай вобласці. Працаваў на залатых капальнях на рацэ Сутары ў якасці старацеля, лавіў рыбу на Амуры (асенняя кетавая пуціна), а зімой хадзіў у тайгу з паляўнічымі за пушнінай. Супрацоўнічаў у газетах «Биробиджанская звезда» і «Тихоокеанская звезда».

У 1933 годзе на экране паяўляецца першы гукавы фільм Белдзяржкіно «Двойчы народжаны» (сцэнарый Рыгора Кобеца, рыжысёр Эдуард Аршанскі). Але яго рашылі прытрымаць да двух юбілеяў — да 15-годдзя Савецкай Беларусі і да 15-годдзя з’езда КП(б)Б. Другі раз «Двойчы народжаны» выходзіць на экраны Савецкага Саюза ў 1934 годзе, фільм ідзе па ўсёй Савецкай краіне і доўга не сыходзіць з экранаў. Ён атрымаў бліскучую ацэнку на старонках цэнтральнага друку (у газетах «Известия», «Правда», «Литературная газета» і іншых). Неўзабаве фільм ішоў з поспехам і за рубяжом. Вытрымаў ён выпрабаванне часам, дэманструецца і цяпер (на экранах Варшавы).

Мяне тэрмінова выклікалі на студыю ў Ленінград і прапанавалі напісаць сцэнарый пра яўрэяў-перасяленцаў, жыццё якіх я вывучаў на Далёкім Усходзе (заяўку я падаваў загадзя). Пачалася работа над сцэнарыем (пазней да мяне далучыўся сааўтар І. Зельцар). Частыя творчыя размовы з Бабачкіным, Кмітам (яны здымаліся ў «Двойчы народжаным»), Міхоэлсам (ён быў кансультантам фільма «Шукальнікі шчасця»), Зускіным, Блюменталь-Тамарынай і іншымі цудоўнымі акцёрамі, якія здымаліся ў гэтым фільме, значна пашырылі мой творчы далягляд. Актыўны ўдзел у грамадскай рабоце (мяне ўжо выбралі членам Ленінградскага гарсавета), сустрэчы з маскоўскімі і ленінградскімі пісьменнікамі, дзеячамі мастацтва, кампазітарамі (Дунаеўскім, Шастаковічам, Жыватовым) — усё гэта дало мне магчымасць узбагаціць не толькі свой мастацкі, але і маральны багаж. Сцэнарый «Шукальнікаў шчасця» быў напісаны і запушчаны ў вытворчасць. (Пастаноўку даручылі У. Корш-Сабліну.)

У сакавіку 1935 года мяне выклікалі з Ленінграда ў Мінск. На ўрачыстым пасяджэнні ў БДТ-1 усенародна абвясцілі пастанову ЦВК і СНК БССР аб прысваенні мне звання заслужанага дзеяча мастацтваў БССР. Шчыра скажу: такая высокая ўзнагарода мяне ашаламіла і ўсхвалявала да слёз. Я лічыў сябе неаплатным даўжніком Савецкага ўрада і працаваў усё больш настойліва і ўпарта.

Я працаваў. Са сваім сябрам, беларускім пісьменнікам Анатолем Вольным напісаў кінасцэнарый «Паўстанне гневу» (пра беларускага легендарнага героя грамадзянскай вайны Алеся Салаўя), напісаў пасля таго, як беларускі ўрад кінуў кліч стварыць кінастужку пра свайго беларускага Чапаева, і гэту пачэсную справу даручылі групе пісьменнікаў і кінадраматургаў, у тым ліку і мне. (Яшчэ раней, у 1932 годзе, я разам з Вольным напісаў трохактовую тэатральную камедыю «Ратуй, божа», пісаць з ім было лёгка.) У 1936 годзе наш сцэнарый быў прыняты кінастудыяй.

Я трывала ўвайшоў у асяроддзе пісьменнікаў, кампазітараў, артыстаў. Шмат дапамаглі мне сяброўскія адносіны з Янкам Купалам, Міхасём Чаротам, Кузьмой Чорным, Платонам Галавачом. Знаёмства, творчая і бытавая сувязь з украінцамі, такімі, як Куліш Дасвітны, Астап Вішня, Ірчан, Уладзімір Сасюра, два Кулікі і Карняйчук, акрылялі мяне і натхнялі на далейшую творчую працу. Але асабліва паўплывала на маю творчасць, думкі, пераасэнсаванне жыцця ўвогуле сустрэча і размова з Максімам Горкім, якога я меў шчасце прывітаць ад імя рабочых Беларусі, калі вялікі рускі пісьменнік вяртаўся з Сарэнта ў Маскву. Частыя сяброўскія сустрэчы і праца з лепшымі старымі бальшавікамі Беларусі рушылі мяне наперад. Такія цудоўныя людзі, як старшыня Саўнаркама Галадзед, старшыня ЦВК БССР Чарвякоў, сакратар ЦК Кампартыі Беларусі Гей, а з імі Шаранговіч, Гікала, Гамарнік, Славінскі, Наташа Красіна — вучылі мяне, любілі і давяралі. Мяне акружалі чуллівыя разумныя людзі, у якіх можна было вучыцца і было чаму навучыцца. Яны ператрэслі ўсю маю псіхалогію, выкруцілі мяне навыварат і перавыхавалі — зрабілі мяне савецкім чалавекам. Усё гэта радавала і разам з тым засмучала. Яны ж не ведалі, каму так шчыра памагаюць. Ніхто з іх і падумаць не мог, што я — былы анархіст, украінец. Нават мая сям’я, ні жонка Соф’я Аляксееўна, ні дзеці пра гэта не ведалі і не здагадваліся. І гэта было пакутліва, мне не давала спакою сумленне. Не мог больш ашукваць людзей, хацелася выйсці на вуліцу і крыкнуць:

— Людзі! Я не той, за каго вы мяне прымаеце! Я не Кобец! Я — Сандыга! Судзіце мяне! Не магу болей так жыць, як Авадзень з рамана Войніч! Хачу расказаць аб сабе праўду!

Доўга вагаўся і нарэшце не вытрымаў. У 1936 годзе пайшоў да старшыні СНК БССР Мікалая Мацвеевіча Галадзеда і ўсё

расказаў яму пра сябе шчыра, нічога не утаіў. Ён быў вельмі ўражаны, здзіўлены і, па-мойму, засмучаны. Запытаў:

— Ты ўкраінец?

— Так.

— Цябе шукалі органы НКУС?

— Шукаюць і цяпер.

— Та-ак! Ну што ж… добра. Гэта вельмі добра, што сам прыйшоў. Ідзі дахаты і напішы ўсё, што мне расказаў, і падрабязней. Пішы заяву на маё імя і помні… каб усё шчыра і падрабязна. Заўтра раніцай прынясеш.

На другі ж дзень у 10 гадзін раніцы я прынёс Мікалаю Мацвеевічу сваю заяву, у якой апісаў і жыццё сваё, і радаслоўную, і грахі маладосці, нават згушчаючы фарбы. Не схаваў і сувязь з Максютам, які быў у свой час начальнікам штаба Махно, не ўтоіў і ўдзел у антысавецкай змове, і кантакты з крымінальным светам Елісаветграда — усё, куды завяла мяне рамантыка анархізму. На маё шчасце, я нікога не забіў (за выключэннем бою), нікога не аграбіў, ні на каго не ўзвёў паклёпу і маны. Я лічыў паклёп і здраду подлым і самым страшным злачынствам. Гэтай думкі я трымаюся і па сённяшні дзень.

Я паклаў заяву на стол Галадзеда. Гэта было ў 1936 годзе. Мікалай Мацвеевіч уважліва прачытаў і сказаў:

— Веру табе. Разумею.

І тут жа запытаў:

— Ты ведаеш, на што пайшоў?

— Ведаю!

— Разумееш, што табе пагражае?

— Разумею, Мікалай Мацвеевіч.

Упоперак маёй заявы пралягла рэзалюцыя старшыні Саўнаркама: «Неадкладна перадаць у органы НКУС». А пад ёю подпіс М. М. Галадзеда.

— Ну, вось і ўсё! Цяпер ідзі.

— Куды?

— Ідзі ў НКУС і раскажы там усё так, як мне. А заяву я зараз жа перашлю туды. Ідзі!

Я падышоў да дзвярэй і спыніўся як укапаны.

— Чаго стаіш?

— Чакаю канвою.

— Дурань! Які канвой цябе ўтрымае, калі надумаеш збегчы? Ідзі. Сам ад сябе нікуды не ўцячэш. Ідзі! Выконвай загад!

І я пайшоў. Два дні пражыў з сям'ёй, а на трэці пачаў развітвацца. Жонка спалохалася:

— Куды? Надоўга?

— Не ведаю. Можа, назаўсёды.

Нічога я ёй не сказаў. І слёзы не памаглі. Але трохі суцешыў:

— Пераводзяць на небяспечную працу. Чакай. Можа, і вярнуся.

Пацалаваў я жонку і дзяцей і пайшоў у НКУС з пакаяннем. Першы паверх, пакой № 25, кабінет наркама НКУС Беларусі т. Ляплеўскага. Спаткаў мяне наркам ветліва:

— А-а! Рыгор Якаўлевіч? Сядайце, сядайце, — гасцінна паказаў ён на крэсла.

— Надоўга садзіцца? — пытаюся ў яго.

Усміхнуўся. Зірнуў на мяне.

— А гэта будзе залежаць ад абставін. Можа, і надоўга. Мы — народ гасцінны.

— Ведаю. Можаце і прыгалубіць.

— Вось і цудоўна! Як вы сябе адчуваеце?

Трапляю яму ў тон:

— Як у гасцях.

— Як гэта разумець?

— Проста. Як у гасцях ні добра, а дома лепей.

Шчыра засмяяўся наркам Ляплеўскі.

— Бадай, што гэта верна. Аднак вы, Рыгор Якаўлевіч, не хвалюйцеся. Давайце адкінем жарты і пагаворым сур'ёзна. Добра, што вы самі прыйшлі да нас.

На стол лягла важкая, напакаваная паперамі папка. Тут жа і мая заява аб добраахвотнай яўцы. Наўскасяк на заяве выразна выдзялялася рэзалюцыя Мікалая Мацвеевіча Галадзеда. Пачалася доўгая, спакойная не то гутарка, не то допыт. Бацька? Маці? Дзед па матчынай лініі? Дзед па бацькавай лініі? Адказваю падрабязна. Адукацыя? Першае раненне? Колькі вам было год?

— Аўстрыйскі Паўднёва-Заходні фронт. Было чатырнаццаць год. Каламыя, 4-ты Заамурскі полк 9-й арміі…

Шалясцяць дакументы, сыплюцца пытанні.

— З кім з крымінальнікаў былі блізка знаёмы?

— Мішка Гоц, Колька Чыкар, Ігнат Чапурны, Пецька Адэка.

— А яшчэ?

— Міцька Печаны, Віктар Японец, Трафім Жальма.

— Налётчыкі?

— Так.

— У налётах удзельнічалі?
— Не. Такая «рамантыка» мяне не вабіла. Не сквапны.
— Та-ак… З кім з анархістаў былі звязаны?
— З Максютам і Барысам Воліным.
— Вашы функцыі ў анархістаў?
— Сувязь і часам транспарціроўка зброі, потым — вярбоўка людзей з асяроддзя крымінальнікаў.
Дакументы перагледжаны, пытанні зададзены, адказы на іх атрыманы.
— Ну вось і ўсё, Рыгор Якаўлевіч. Добра, што вы самі да нас прыйшлі. Мужна і сумленна, — кажа Ляплеўскі. — А цяпер дазвольце мне пазнаёміць вас з маімі памочнікамі.
Кароткі званок. Кабінет запоўнілі вайскоўцы з ромбамі ў пятліцах.
— Знаёмцеся, таварышы! — звярнуўся да іх Ляплеўскі. — Беларускі пісьменнік, заслужаны дзеяч мастацтваў Рыгор Якаўлевіч Кобец, ён жа — Міхаіл Сандыга, той самы анархіст Сандыга, якога мы шукаем вось ужо шаснаццаць год. Глядзім яго п’есы ў тэатрах, глядзім яго фільмы на экранах, часта сустракаем яго партрэты ў газетах і часопісах і… працягваем шукаць. Ці не здаецца вам, што гэта крыху кур’ёзна? І вось, як бачыце, добраахвотная яўка…
Сёй-той з прысутных здзівіўся, сёй-той засмяяўся, бо ведаў мяне яшчэ як качагара Грышку Кобеца. Пачалася жывая размова, пасыпаліся пытанні. Больш за ўсё цікавіліся маім метадам канспірацыі, «тэхнікай» уцёкаў з-пад арыштаў, аблаў. Ніякай варожасці ці падазронасці да сябе я не адчуў.
Калі ўсе пайшлі, мы засталіся ўдвух — я і наркам. Наступіла даўжэзная і пакутлівая (для мяне) паўза. І я не вытрымаў.
— А што далей? — спытаўся ў наркама.
— Далей? — таварыш Ляплеўскі ўсміхнуўся. — Хвалюецеся?
— Я ж ведаю, што мяне чакае.
— Не! Не ведаеце і нават не здагадваецеся.
З шуфляды пісьмовага стала наркам дастаў нейкі дакумент.
— Слухайце мяне ўважліва. Вось пастанова калегіі НКУС СССР за подпісам таварыша Ягоды[7]: «Кобеца Григория Яковлевича (он же Михаил Сандыга) за все его преступления, совершенные им в годы юности по несознательности, — амнистировать. Дать ему все права и обязанности советского гражданина со снятием всех судимостей. Разрешить ему избрать себе имя, отчество и фамилию, какую он пожелает за собой оставить, а также национальность».

Наркам падняўся з крэсла і па-сяброўску працягнуў мне руку.

— Віншую вас, Рыгор Якаўлевіч! Ад усяго сэрца віншую!

А я… я не мог устаць. Я быў настолькі ўзрушаны тым, што пачуў… што літаральна знямеў, не змог вымавіць аніводнага слова. Не было сіл падняцца з крэсла, і толькі адчуў, як цяжкая сляза скацілася па шчацэ. Наркам клапатліва падаў мне шклянку вады.

— Выпіце і супакойцеся. Наша размова яшчэ не скончана.

Напружыўшы ўсе свае сілы, я крыху супакоіўся. А Ляплеўскі працягваў:

— Яшчэ раз віншую вас, Рыгор Якаўлевіч, і параю: надалей вы — Кобец Рыгор Якаўлевіч, беларускі пісьменнік, заслужаны дзеяч мастацтваў. Зразумела? Гэта не толькі мая парада, але і Мікалая Мацвеевіча Галадзеда і старшыні ЦВК БССР Алеся Рыгоравіча Чарвякова. Сандыгі Міхаіла няма. Ёсць Рыгор Кобец. Зразумела?

— Зразумела. Я магу расказаць пра гэта праўленню Саюза пісьменнікаў? — запытаўся я.

— Навошта? Урад ведае, ЦК партыі ведае, органы бяспекі таксама ведаюць. Гэтага даволі. Каму патрэбна лішняя сенсацыя? Мяшчане пусцяць розныя плёткі і перашкодзяць вам працаваць, а мы чакаем ад вас добрых твораў, як кажуць, нацыянальных па форме і сацыялістычных па зместу. Жадаю вам поспеху!

Быццам на крылах вяртаўся я дахаты. Не ішоў, а ляцеў. І якім жа ўсё навокал мяне стала прыгожым, звонкім, сонечным! Свет раскрыўся перада мной, зайграў усімі колерамі вясёлкі. Цяжар скінуты з душы. Хопіць перажыванняў! Не трэба хавацца! Але ні сябрам, ні нават сям'і (памятаючы параду Ляплеўскага) пра сваю радасць я не сказаў ні слова. Дый якая ім справа да нейкага Міхаіла Сандыгі? Няма такога чалавека. Ёсць Рыгор Кобец. Сябра, муж, бацька. Горача, з захапленнем пачаў працаваць, пісаць новыя творы.

Увосень 1936 года выйшаў фільм «Шукальнікі шчасця». Поспех фільма быў настолькі вялікі, што можна без перабольшвання сказаць — гэта было сапраўднае трыумфальнае шэсце не толькі на экранах Савецкага Саюза, але і на экранах усяго свету (за выключэннем фашысцкіх краін: Германіі, Італіі, Японіі і Іспаніі). Фільм вытрымаў выпрабаванне часам і больш за трыццаць год не сыходзіць з экрана.

Як толькі выйшлі «Шукальнікі шчасця», я пачаў працаваць ужо над новым сцэнарыем: разам з Іларыёнам Барашкам

пісаў «Дняпро ў агні». Пастаноўку даручылі старэйшаму кінарэжысёру Чэславу Сабінскаму. Я ж зноў паехаў у Біракбіджан: трэба было рыхтаваць сцэнарый другой серыі «Шукальнікаў шчасця». У 1937 годзе фільм «Дняпро ў агні» выйшаў на экран. Я тым часам завяршыў сваю працу, але запусціць у вытворчасць другую серыю «Шукальнікаў шчасця» не давялося: 15 ліпеня 1938 года ў самы разгар культу асобы я быў арыштаваны ў Біракбіджане. Мне прад'явілі абвінавачванне ў шпіянажы на карысць Японіі, Англіі, Польшчы. Пачаліся допыты з пострахам. Вынікаў ніякіх. Не мог я прызнацца ў тым, у чым быў непавінен, і ў знак пратэсту аб'явіў галадоўку. На адзінаццатыя суткі галадоўкі, 5 красавіка 1939 года, мяне вывелі на суд абласнога суда Яўрэйскай аўтаномнай вобласці. Старшыня суда Пярлоў, пракурор — Рабкін. Судзілі мяне за маё мінулае. Вылажылі ўсе мае грахі. Судзілі Рыгора Кобеца як анархіста Міхаіла Сандыгу. Раніцай пачаўся судовы працэс, вечарам закончыўся. Было разгорнута ўсё маё жыццё, пачынаючы з маленства, па даведках, атрыманых з Кіравеграда. Усё прыпомнілі, нічога не забылі. Прыгавор вынеслі такі: «Учитывая чистосердечное раскаянье подсудимого, его юность и неопытность при совершении преступлений, давность содеянных преступлений, а также и его особые заслуги перед Советской властью, подсудимого Григория Яковлевича, он же Сандыга Михаил Моисеевич, из-под стражи немедленно освободить со снятием всех судимостей». Пад прыгаворам подпіс старшыні суда Пярлова, а подпіс сакратара не памятаю. Такім чынам я другі раз быў памілаваны. З-пад варты мяне вызвалілі тут жа, на судзе.

Пераехаў жыць у Хабараўск. Далі кватэру. У нечым дапамаглі. Пачаў супрацоўнічаць у рэдакцыі газеты «Тихоокеанская звезда» (нарысы, вершы, байкі). Друкаваўся ў часопісе «На рубеже» (аповесці, апавяданні), у газеце «Тихоокеанский комсомолец» (артыкулы, фельетоны). У выдавецтве «Дальгиз» выдаў дзве кнігі: кінааповесці «Трофим Бутан» і «Герои Балтики». Напісаў аднаактовую п'есу «Мигрень»[8] (таксама выйшла асобнай кніжкай). Затым разам з паэтам Сямёнам Бытавым напісаў музкамедыю «Счастливый берег» (музыка кампазітара І. Ільіна). Аперэта з поспехам ішла ў 1940 годзе на сцэне Хабараўскага тэатра музкамедыі (пастаноўшчык Міцін) і ў Маскве.

Пачалася Вялікая Айчынная вайна. У першы ж дзень вайны я па радыё аб'явіў сябе добраахвотнікам і пайшоў у Хабараўскі

ваенкамат з просьбай адправіць мяне на фронт у рады дзеючай арміі. Мне ветліва сказалі:

— Не! Такія людзі, як вы, патрэбны тут, на Далёкім Усходзе.

Хабараўскае аддзяленне Саюза савецкіх пісьменнікаў разам з мастакамі арганізавала выпуск патрыятычных «Окон «Роста». Пісьменнікі пісалі тэксты, мастакі — ілюстрацыі. Мне ўдалося разам з Дзмітрыем Нагішкіным[8] зрабіць некалькі вельмі вострых сатырычных плакатаў, некаторыя з іх друкаваліся на старонках цэнтральных выданняў. Пісаў я вершы, байкі. А потым мне прапанавалі пасаду галоўнага рэдактара Хабараўскай студыі кінахронікі. Працаваў я заўзята. Здавалася, усё ідзе добра, як раптам… 5 снежня 1941 года мяне зноў арыштавалі. Можа, зноў анархізм 20-га года? Не! Аб грахах майго юнацтва нават не ўспомнілі. Прад'явілі абвінавачванне: «Вы слишком резко критикуете И. В. Сталина. Вы враждебно о нем высказываетесь, называете его деспотом…» і г. д. Вочную стаўку даў мне Дзмітрый Нагішкін, а я да таго часу ўжо настолькі стаміўся, што і не думаў абвяргаць абвінавачванне. Падпісаў без асаблівага ўздзеяння. Тады мне прапанавалі напісаць просьбу аб памілаванні. Адмовіўся катэгарычна. Чаму? Па-першае, страшэнна стаміўся, па-другое, не лічыў сябе вінаватым, па-трэцяе, — абрыдла жыццё. Судзіла мяне (завочна) асобая нарада. Далі мне дзесяць год заключэння ў лагерах (ИТЛ) і… трапіў Грышка-Мішка пад сібірскія вышкі. Будаваў чыгунку ад станцыі Тайшэт да сярэдняга берага ракі Лены. Будаўніцтва закансервавалі і нас, зэкаў (у тым ліку і мяне), перакінулі ў Манголію. Там мы будавалі чыгунку ад станцыі Наушка (на граніцы) да Улан-Батара. Закончылі будаўніцтва, пусцілі паязды, здалі дарогу ў эксплуатацыю, атрымалі падзяку ад Чайбалсана[9] і… вярнуліся дабудоўваць чыгунку ад Тайшэта да ракі Лены. К 1951 году закончылі мы і гэту дарогу. Пайшлі паязды ад Тайшэта ажно за Усць-Кут да прыстані Асятровая на рацэ Лене. Затым перакінулі мяне на берагі Ангары, і тут я адбыў свой тэрмін. Адрабіў, як кажуць, ад званка да званка поўную дзесятку.

Вызвалілі ў горадзе Заярску. Выдалі пашпарт на імя Кобеца Рыгора Якаўлевіча (ён жа Сандыга Міхаіл Маісеевіч), так і ўказалі ў пашпарце і ў даведцы аб вызваленні. Забаранілі пражываць у сталічных і абласных гарадах і «парэкамендавалі» адправіцца ў Сярэднюю Азію на пастаяннае месца пражывання. Нават дакладны адрас указалі: Кіргізія, сяло Кара-Балты Фрунзенскай вобласці. Уладкавалі на працу ў саўгас «Чалдавар»

(Чуйская даліна). Затым я — памочнік пчалавода ў гарах Цянь-Шаня, а потым загадчык клуба і мастацкі кіраўнік. Атрымаў шмат грамат за добрую працу, быў рэдактарам саўгаснай газеты і друкаваў нарысы і фельетоны ў рэспубліканскім друку Кіргізіі. Працаваў бібліятэкарам і загадчыкам гаспадаркі ў школе.

У 1958 годзе пачалася мая перапіска з сям'ёй. Дачка мая Алена падняла на ногі ўвесь Саюз пісьменнікаў Беларусі. Мне прыслалі пісьмы крытык Алесь Есакоў, паэт Пятрусь Броўка, а таксама пісьменнік Іларыён Барашка. Пачаліся клопаты аб маім вяртанні ў Беларусь. І вось нарэшце доўгачаканая радасная тэлеграма: «Мілы, родны татачка! Віншую! Ты рэабілітаваны! Прыязджай хутчэй у Мінск. Цалую. Лена».

Радасці маёй не было граніц. Звольніўся з работы, сабраўся ехаць у Мінск, як раптам… зноў тэлеграма: «Татачка! Адбылася памылка. Рэабілітацыі няма. Лена».

Можаце ўявіць, што са мной было? Гэта тэлеграма ледзь не адправіла мяне на той свет. Узяў сябе ў рукі, падумаў і вырашыў: не! Чорта з два! Паміраць яшчэ ранавата. І, нікога не пытаючыся самавольна паехаў у Мінск[10]. У Мінску знайшоў сям'ю, з вялікімі цяжкасцямі прапісаўся. А як і на што жыць? На фізічную працу я ўжо быў не здольны: пакалечаны абедзве кісці рук. Друкаваць творы? Не друкуюць: «Вы не рэабілітаваны». Падтрымала жонка, Соф'я Аляксееўна, і дзеці.

Змучаны, знерваваны (маральна) да крайнасці, я напісаў вялікае пісьмо генеральнаму пракурору тав. Рудэнка з просьбай перагледзець маю справу. Прайшло месяцы тры. Хвалююся, чакаю. Нарэшце выклікаюць мяне ў міліцыю і, на маю вялікую радасць, выдаюць мне дакумент аб маёй поўнай рэабілітацыі. Дапамагло хадайніцтва Саюза савецкіх пісьменнікаў Беларусі, даведкі адміністрацыі саўгаса «Чалдавар» і характарыстыкі рабкама саўгаса і партарганізацыі. Ажыў я. Быццам другі раз на свет нарадзіўся. Такім чынам Савецкі ўрад трэці раз праявіў да мяне найвялікшы акт гуманізму. Аднавілі мяне ў членстве Саюза пісьменнікаў, яшчэ раз прынялі ў Саюз кінематаграфістаў. Так у 1960 годзе я зноў стаў чалавекам. Аказалі мне матэрыяльную дапамогу. Быццам па ўзмаху чарадзейнай палачкі ўсё раптам перамянілася наўкол мяне і азарылася яркім святлом, усміхнулася ласкава і па-чалавечнаму. Вось і ўся мая біяграфія.

*1967 г., Мінск*

## АЖЫЦЦЁЎЛЕНАЯ МАРА

Максім Горкі. Чалавек з вялікай літары. Пісьменнік, рэвалюцыянер, прыяцель і абаронца беднаты. З самага маленства вядома мне гэта імя. Па расказах дарослых Максім Горкі ўяўляўся мне вялікім, незвычайна дужым і бясстрашным асілкам. Гэтыя расказы захоплівалі і хвалявалі мяне лепш за ўсялякія казкі, і я часта дакучаў бацьку просьбамі:

— Тата! Раскажы пра Максіма Горкага. Ён дужы?

— Ого! Мацней за яго нікога на свеце няма, — гучыць у адказ.

— І смелы?

— Уга! Цара не баіцца! — горда адказвае бацька.

Памятаю, збіраліся ў нашай хаце вечарамі з суботы на нядзелю булачнікі. На стале звычайная закуска. Селядцы, квашаная капуста, гуркі і пара бутэлек гарэлкі. А як жа? З палучкі не грэх і выпіць. Вып'юць — закусяць, зноў вып'юць і закусяць, а потым ужо… толькі чокаюцца. І льюцца размовы, то ціхія, лірычныя, добрыя, то часам шумныя і запальчывыя. Мітусіцца вакол стала шустры падмайстар Ваня Шагельскі, змяк захмялелы бацька, задумаўся аб нечым Антось Серада, а калі застольныя размовы пераходзяць у спрэчку, гарачую і вострую — гучыць густы бас Тыбурцыя Дробата.

— Ды кіньце вы ваду ў ступе таўчы! Давайце лепш заспяваем… нашу… любімую. — І, не пытаючы згоды сяброў, пачынае:

Солнце всходит и заходит.
А в тюрьме моей темно-о.

Дружна, як па загаду, падхопліваюць булачнікі:

Днем и ночью часовые
Да эх! Да э-э-эх! Стерегут мое окно.

Грыміць песня! Спяваюць яе булачнікі неяк асабліва выразна, па-свойму, з пачуццём. Спяваюць як малітву, як гімн, прызываючы да барацьбы за лепшую долю. Твары іх становяцца задумлівымі, строгімі, рашучымі. Маці паспешна зачыняе вокны. Баіцца. За гэту песню па галоўцы не пагладзяць. А калі ціха заміраюць словы, наступае доўгая паўза. І ў цішы гэтай паўзы раздаецца голас маці:

— Добрая песня… душэўная… за душу бярэ!

— Добрая? — грахоча бас Тыбурцыя. — Лепш гэтай песні, Яўхімаўна, на свеце няма! А напісаў яе Максім Горкі… наш… булачнік!

— Булачнік? — здзіўляецца маці. — А я чула — басяк!

— Басяк? — ужо рычыць Тыбурцый. — Дай нам божа болей такіх басякоў! Жыць бы мы сталі па-людску!

І сыпаліся расказы аб Максіме — сваім, родным і блізкім чалавеку. Быль змешвалася з легендай, выдумка з рэчаіснасцю. Гаварылі пра яго з любоўю, павагай. Ніхто з іх яго ніколі не бачыў, але ведалі ўсе. Гаварылі цёпла, і нават кожны з іх падкрэсліваў з гордасцю і захапленнем:

— Наш!.. Булачнік!

І здавалася, што яны самі, успамінаючы аб ім, станавіліся больш моцнымі, смелымі. А я, седзячы на печцы за фіранкай, упітваў у сябе кожнае слова аб Максіме Горкім, кожны расказ аб яго праўдзівасці, бясстрашшы і марыў. Марыў па-дзіцячаму, з захапленнем. Вось бы ўбачыць яго! Хоць бы раз! Мабыць, вельмі вялікі, як Паддубны або Заікін. Пра іх я таксама нямала наслухаўся.

І яшчэ памятаю. Аднойчы падзяліўся я сваёй марай з сябрам Янэкам Шкодам, сынам Тыбурцыя. Быў Янэк багаты на выдумкі і гарэзлівы да немагчымасці. Білі яго часта і балюча, а яму — як з гусі вада. Ці прыцярпеўся, ці забываўся аб пакаранні. І зноў выкідваў які-небудзь выбрык. Нават Ядвіга Францаўна, маці Янэка, часам здзіўлена разводзіла рукамі.

— Янэк! Халера! На цо збанок на глову Юльке надзеў? Скінь, прэндко, лайдак!

Крычаць на Янэка — крычалі, біць — білі, але і любілі. Жвавы быў хлапчук. Фантазёр непамерны. З ім сумаваць не прыходзілася. Яму я і даверыў сваю мару, каб убачыць Максіма Горкага. Ён і выдумаў штуку-забаву, пра якую я помніў усё жыццё і не забуду да глыбокай старасці. Выслухаў мяне Янэк і запаліўся:

— Пойдзем шукаць Максіма! Знойдзем, паглядзім, які ён… Потым усім раскажам.

— А куды? Ты ведаеш?

— Не-е!.. — Янэк адмоўна паківаў галавой.

— І я не ведаю. Пачакаем… вырасцем, даведаемся і пойдзем.

— Вырасце-ем! — Янэк зняважліва паглядзеў. — Чакай, покуль вырасцем. Давай мы сёння самі Максімамі станем.

— Ма-а-ксімамі! А як?

— У кайданах!— зашаптаў Янэк. — Надзенем кайданы і будзем як Максім.

— А дзе ж мы іх возьмем?..

— Зробім! Самі зробім. Бяжым да хаты Крушана — кайданы рабіць.

І пабеглі. Трухлявая хата Крушана прыляпілася на краі глыбокага яра. Рыгора Крушана ведала ўся бедната рабочай ваколіцы. У летнія пякучыя месяцы паднімаўся ён разам з сонцам, браў правілку, некалькі лісткоў бляхі, драўляную кіянку і адпраўляўся па дварах.

Хадзіў Крушан, стукаў, грымеў сваёй кіянкай, жартаваў, атрымліваў пятакі, а то і капейкі. У поўдзень вяртаўся дадому, і там ужо пачынала працаваць Крушанава «фабрыка». Сям'я ў яго была вялікая — душ восем дзяцей, і ўсе дзяўчаты. Садзіў іх Крушан за нізкі даўгі варштат, усцілаў яго мяккімі бліскучымі лістамі белай бляхі, дротам, тонкімі дашчэчкамі, фанерай. І пачыналася работа. Выраблялі тазы, тазікі, формы, формачкі для мазурак, мышыныя пасткі, пасткі для пацукоў. Скрыгаталі нажніцы, глуха бухала кіянка і дзесяткі дробных бліскучых бытавых вырабаў напаўнялі невялікую кладоўку. Назаўтра ўсё гэта дабро цётка Крушаніха вынесе на базар. Гандаль у яе ідзе бойка. І цэны капеечныя, і канкурэнтаў няма. К вечару работа заканчваецца.

Старэйшая дзяўчынка збірае адыходы вытворчасці і з грукатам скідвае ў яму ля яра.

Вось да гэтай ямы і прывёў мяне Янэк. Вочы ў мяне разбегліся. Колькі абрэзкаў! Шырокіх, вузенькіх, доўгіх, кароткіх. Бляха белая, чорная. Нават тоненькія пласцінкі латуні трапляліся. Бяры якія хочаш і колькі хочаш. І пачалі мы з Янэкам майстраваць кайданы. Спяшаліся, пальцы парэзалі вострымі краямі, але змайстравалі. Кайданы нажныя і кайданы ручныя. Нават падкайданнікі з рыззя зрабілі. А як жа! Справу гэту мы вывучылі дасканала. Па нашай вуліцы часта праходзілі этапы арыштантаў са звонам ланцугоў, з вокрыкамі канвою, а часам і з горкім галашэннем праважаючых.

Кайданы зроблены. Прыгожыя, бліскучыя, больш падобныя на ёлачныя цацкі. Звону няма, але бразгаюць добра.

— Адзявай! — падштурхоўвае мяне Янэк.

А як? На босыя ногі? Нядобра. Арыштанты ў катах лямцавых ходзяць. Ды і ногі ў нас «цыпкамі» ўсеяны. Баліць. Збегалі мы ўпотайкі дадому. Янэк прыцягнуў старыя рваныя галёшы, а мне пашанцавала знайсці ў кладоўцы сярод хламу галоўкі ад

разношаных валёнак. Здорава! Чым не арыштанцкія каты. Надзяваем свае кайданы, нацягваем каты.

— Пайшлі! — загадвае Янэк.

І тут нечакана ўзнікае сур'ёзны канфлікт. Хто мы? Проста арыштанты?

— Я — Максім Горкі, — рашуча адчаканьваю сябру.

— Брахня! — гарачыцца Янэк. — Двух Максімаў няма… Ёсць адзін Максім Горкі. Я буду Максімам.

Гарачымся. Нікому з нас не хочацца пайсці на ўступкі. Вось-вось разгарыцца сварка. Пахне бойкай. І тут выручае Янэк.

— Добра, — заяўляе ён. — Ты будзь Максім Горкі, а я ведаеш хто?

— Хто?

— Я — разбойнік Савіцкі, — выпальвае Янэк.

На гэтым і парашылі. Вылезлі з ямы і пайшлі па самай сярэдзіне вуліцы. Ідзём важна, горда. Паходка ўразвалачку, па-арыштанцку. Пабразгваюць нашы кайданы. Эх, і фурор жа мы выклікалі на вуліцы! Умомант акружыў нас натоўп дзяцей. Знайшліся і пераймальнікі. Збегалі да ямы Крушана, спехам змайстравалі сабе кайданы і далучыліся да нас. І каго тут толькі не было! І Максім Горкі, і Катоўскі[1]. Нават разбойнік Васька Чуркін аб'явіўся. Знайшліся і «канваіры». Праўда, дубцы, ускінутыя на плечы, мала чым нагадвалі вінтоўкі, але пры добрым уяўленні — сыдзе і так. Рушыў наш «этап» па вуліцы. І, пераймаючы свайго бацьку Тыбурцыя, зацягнуў Янэк:

> Эх вы, цепи, мои цепи,
> Вы железны сторожа!

А за ім ахнулі і мы:

> Не побить вас, не порвать вас.
> Да эх! Да э-э-эх… доля горькая моя.

Спявалі мы, праўду кажучы, не вельмі складна, затое гучна.

Бразгалі брамкі, расчыняліся вокны. Нават дарослыя выбягалі на вуліцу паглядзець на дзівосны «этап».

— Гнат! Глянь! Іш, да чаго дадумаліся, падшыванцы.

— Усыпаць бы ім як належыць за такую гульню!

— Ах, сукіны сыны! — крычала бабка Пахільчыха. — З маленства ў турму лезуць, пагібелі на іх няма.

З двара Дробата вылецела раз'юшаная Ядвіга Францаўна з пугай у руках:

— Янэк! Шкода пшэклента! Ідзь прэндко до хаты, лайдак!

Янэк ірвануўся, нават больш, чым «прэндко», толькі не дахаты, а ў бок яра. Там ён недасягальны. Ён добра ведаў, чым пахнуць матузы маці. А я не паспеў. Мая маці віхурай уварвалася ў кучу «кайданнікаў» і, схапіўшы мяне за вуха, пацягнула ў двор. Біла ж яна мяне ручкай ад веніка, біла моўчкі, сціснуўшы зубы, а потым раз'юшана выдыхнула:

— Скідай! Скідай, арыштанцюга, свае кайданы.

Схапіла адразу і за ручныя, і за нажныя, і рванула злосна, бязлітасна. Парэзала сабе руку і, не звяртаючы ўвагі на кроў, пачала мяне біць па чым папала. Стамілася, адкінула венік і горка-горка заплакала, а потым прытуліла мяне і ціха спытала:

— Дзетка мая, хто цябе гэтаму навучыў?

— Ніхто, мама, я сам прыдумаў!

— Хлусня, — успыхнула маці. — Гэта ўсё гэты Шкода… Янэк. Я яму галаву адарву.

І зноў абдымала мяне і плакала. Я таксама заліўся слязьмі. Бразнула клямка брамы, прыйшоў з работы бацька.

— Што гэта ў вас за тарарам? Нашкодзіў?

Са слязьмі, з вялікай крыўдай расказала яму маці пра наш «арыштанцкі этап».

Панура выслухаў яе бацька, а потым кажа мне:

— Ну, а ты што скажаш? Раскажы, толькі ўсю праўду, ды не бойся. Біць я цябе не буду, калі раскажаш праўду.

Я расказаў. З плачам. Аб сваёй мары, аб размове з Янэкам. Дзіўна слухаў мяне бацька. То хмурна зводзіў бровы, то злёгку ледзь прыкметна ўхмыляўся. А потым аб'явіў:

— Больш у такія гульні не суйся. Ведай, Максім Горкі не арыштант. Ён вельмі добры чалавек… лепшы за ўсіх на свеце. Разумееш? У суботу будзе палучка, і я табе прынясу кніжку пра Максіма. Прачытаю. А на печку за фіранкі больш не хавайся. Няма чаго табе слухаць размовы старэйшых.

І слова сваё бацька стрымаў. Прынёс у суботу, ды не адну, а некалькі кніжак. І сам чытаў мне і маці ўголас. Напачатку ў сне я бачыў палаючае сэрца Данкі, Чалкаша, Паўла Уласава і Нілаўны. І хоць я мала разумеў, цьмяна запамінаючы прачытанае, — мара мая ўбачыць Максіма Горкага ўсё больш і больш захапляла мяне.

Мінула многа год. Я ўжо стаў дарослым чалавекам. Прачытаў амаль усе яго творы, вывучыў кнігі, у якіх пісалі аб ім. І вось, зусім нечакана, збылася мая мара. Я ўбачыў Аляксея Максімавіча, чуў яго, размаўляў з ім.

А адбылося гэта так.

1928 год. Май месяц. Я, качагар піваварнага завода «Беларусь», дзяжуру ля катлоў ад шасці гадзін раніцы. Надвор’е цудоўнае, цёплае, сонечнае, а ў мяне вельмі дрэнны настрой. І газеты і радыё паведамілі: «Сёння праз Мінск будзе праязджаць з Сарэнта ў Маскву Максім Горкі. Вялікі пісьменнік вяртаецца на Радзіму». Дзесяткі тысяч мінчан рыхтуюцца да сустрэчы з любімым пісьменнікам, а я павінен тырчаць ля печаў з 6 гадзін раніцы аж да 2 гадзін дня. Ці ж не крыўдна? Адзіны выпадак у жыцці, мабыць, апошняя магчымасць хоць мімаходзь зірнуць на Аляксея Максімавіча, і вось на табе! Дзяжур ля катлоў і не рыпайся. Іду ў машыннае аддзяленне і пачынаю прасіць таварышаў:

— Хлопцы! Падмяніце мяне сёння. Я потым адраблю. Мне так хочацца ўбачыць Горкага!

— Ха-ха! Бачылі фокусніка? Яму хочацца бачыць Горкага! А нам не хочацца?

— Я адраблю, пяць змен запар аддзяжуру!

— Хоць дзесяць змен. І не прасі і не спадзявайся. Сёння ўсе не занятыя працай пойдуць на вакзал. Хто прапусціць такую магчымасць? Такая ж сустрэча на ўсё жыццё ў памяці застанецца!

Засмучаны вяртаюся ў качагарку. Злосна шурую топкі, падразаю шлак. Смутна і крыўдна. А тут яшчэ ўвальваецца півавар.

— Грыша! Як даўленне?

— Дванаццаць атмасфер!

— Добра. Праз паўгадзіны пачнём затор варыць. Ты чаго такі пахмуры сёння?

— Ды вось… хацеў Горкага ўбачыць, а мяне ніхто падмяніць не хоча.

— І не падменяць. Усе на вакзал збіраюцца. Не пашанцавала табе. Але ты не смуткуй. Горкі, кажуць, надоўга прыязджае. Другі раз убачыш.

— Як жа! Чакай другога разу.

І раптам… (бывае такое шчасце) раптам у качагарцы з’яўляецца кур’ер газеты «Рабочий» Воран і з парога крычыць мне:

— Грышка! Здавай змену і дуй на вакзал сустракаць Горкага. Ты ўключан у склад дэлегацыі. Будзеш вітаць ад імя рабочых Мінска. — І тут жа ўручае мне канверт з білетам і паведамленнем.

Чытаю і вачам сваім не веру:

«Кобец Р. Я. Вы ўключаны ў склад дэлегацыі для сустрэчы Аляксея Максімавіча Горкага на станцыі Негарэлае. Яўка к 10 гадзінам раніцы на Мінскі вакзал абавязковая».

Аж дух у мяне захапіла ад радасці. Тут жа перадаю змену Осіпу Кніпсту. А ён мне:

— Змену я ад цябе прымаю, але толькі пры адной умове.

— Якой?

— Перадай Горкаму прывітанне і ад нас. Запрасі яго да нас. Адным словам, на завод без Горкага не вяртайся.

Качагарка напоўнілася машыністамі, слесарамі. Таварышы мне яўна зайздросцілі:

— Пашанцавала табе, Грышка! Вельмі пашанцавала!

— А ён гараваў. Амаль не расплакаўся. Горкага да нас запрасі абавязкова.

— Хлопцы, колькі гадзін?

— Пяць мінут дзесятага!

— Ой! Ды я ж спазнюся! Мне к дзесяці трэба быць на вакзале. Бягу!

— Куды бяжыш, чумазы? У спяцоўцы? Ану марш пад душ!

— Я ж спазнюся! Дадому яшчэ трэба забегчы пераапрануцца!

— Марш пад душ! Хутка! Касцюм прынясём!

І прынеслі. Пакуль я пляскаўся пад душам, таварышы, што жылі бліжэй да завода, прынеслі касцюм, чаравікі, кашулю, гальштук, кепку.

— Апранайся! Хутка!

— Не так гальштук завязваеш… набок з’ехаў.

— На грабёнку… спатрэбіцца.

Апранулі, як жаніха на вяселле. Дырэктар завода вылучыў пралётку.

— Пешшу спозніцца… паўгадзіны засталося. Сядай, Грыша. Пятро, паганяй хутчэй.

У 10 гадзін я быў на вакзале. Камень зваліўся з душы. Паспеў, не спазніўся. Далучаюся да складу дэлегацыі. Навокал свае, знаёмыя: Платон Галавач, Цішка Гартны, Андрэй Александровіч[2]. Вось і прадстаўнікі партыі, урада. Вось і масквічы: Сцяпанаў-Скварцоў[3], Халатаў[4]. Іх пазнаю па партрэтах. Кінарэпарцёры, фатографы, журналісты. А вось і рэдактар газеты «Звязда» Асьмоў.

— Грыша? Вітаць будзеш?

— Буду!

— Хвалюешся?

— Трохі ёсць!

Пасадка ў вагон, гудок адпраўлення — і мы імчымся да савецка-польскай граніцы на станцыю Негарэлае. У вагоне

шумна, весела. Ідзе жвавая размова аб міжнароднай літаратуры. Я сяджу і памаўчваю. Напружана думаю аб сваім прадстаячым выступленні. Вітаць Аляксея Максімавіча Горкага! Ды не дзе-небудзь у кабінеце, а на вакзале і пры гэтым усенародна. Было аб чым падумаць. Сказаць яму, што яго любяць і паважаюць у СССР? Ён вельмі добра ведае аб гэтым і без мяне. Расказаць, што ў яго ўжо не дзесяткі тысяч чытачоў, мільёны — вядома яму па тыражах твораў. Як жа ўсё ж такі вітаць? Аб чым казаць? Так я нічога цікавага, асобна выразнага і не прыдумаў.

Вось і пагранічная станцыя Негарэлае. Выходзім з вагона. Азірнуўся я навокал і аж ахнуў. Вакзал, перон, чыгуначныя пуці, тупікі, крышы вагонаў — усё ўсеяна святочна апранутымі людзьмі. Колькі іх? Не злічыць! І сцягі, сцягі! Усё гэта рухаецца, калышацца. Кінарэпарцёры і фатографы спрачаюцца з-за месц і займаюць зыходнае становішча. Прайшло дзесяць мінут, дваццаць. Поезда з польскага боку няма і няма. Адчуваецца вострае, стамляючае напружанне натоўпу. Мінула яшчэ з паўгадзіны, а поезда няма. Пастуфова напружанне перарастае ў смутную трывогу, але… Чуем далёкі гудок цягніка з польскага боку.

— Едзе!

— Едзе!

Натоўп ускалыхнуўся і рвануўся да вузкакалейкі. Поезд спыніўся, стомлена адсопваючыся парай. Прамільгнулі тамажнікі. Бліснулі незнаёмай формай польскія чыгуначнікі. Натоўп густа абляпіў поезд. Гучыць музыка. Бачу, высока ўзлётвае над натоўпам знаёмая па партрэтах фігура Аляксея Максімавіча. Захопленыя людзі не далі яму ступіць нагой на родную савецкую зямлю. Яны на руках перанеслі яго з польскага цягніка на савецкі шырокакалейны пуць. І пачалося! Прамовы… прамовы… строкат кінаапаратаў, прывітальныя выгукі. Ад Савета Народных Камісараў БССР, ад Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта Беларусі, ад пісьменнікаў рэспублікі, ад камсамола. Мора прывітанняў, патокі гарачых слоў. Нават піянеры з'явіліся сюды са сцягамі. І калі апошні прамоўца трохі сціх, я пачуў:

— Слова для прывітання ад рабочых Мінска мае качагар Кобец.

І тут жа пацiху мне на вуха:

— Не болей дзвюх мінут. Аляксей Максімавіч не зусім здаровы.

Я не прамоўца. Я далёка не Дэмасфен. А што мог бы сказаць і сам Дэмасфен за дзве мінуты? Сэрца ў мяне ўздрыганулася, аднак выступаць трэба. Ускочыўшы на прыступку вагона, я

загаварыў. Аб чым? Цяжка зараз успомніць. Многа гадоў мінула. Цьмяна памятаю: казаў я аб бязмежнай любові да яго мінскіх пралетарыяў, казаў аб нашым жыцці, рабоце, аб вялікіх поспехах, якіх мы дасягнулі за час яго адсутнасці.

Памятаю, Аляксей Максімавіч стаяў у тамбуры і ледзь схіліўшыся слухаў, углядваючыся ў мяне. Потым ён праслязіўся і, схіліўшыся да мяне, абняў і моцна пацалаваў. Я хваляваўся і забыў, канчаткова забыў, аб чым мне гаварыць далей. Ды і ці мог я знайсці словы для выказвання пачуццяў, якія хваляй лінуліся ў маё сэрца? Памятаю, Аляксей Максімавіч змахнуў насоўкай слёзы і сказаў:

— Я не прамоўца. Не магу гаварыць. Я потым… напішу. — Ён усхвалявана, нейкім мяккім жэстам памахаў рукой. Яго асцярожна завялі ў вагон.

Я саскочыў з прыступкаў і змяшаўся з натоўпам. Мінут праз дзесяць чую:

— Кобец! Дзе Кобец?

У натоўпе якіясьці незнаёмыя людзі шукаюць мяне.

— Я Кобец. У чым справа?

— Горкі кліча.

Двойчы мяне запрашаць не давялося. З хуткасцю спрынтэра імчаўся я да вагона. Ускочыў у тамбур, прыадчыніў дзверы і бачу: у салон-вагоне за круглым сталом сядзіць Аляксей Максімавіч у акружэнні многіх людзей. Прадстаўнікі ЦК партыі, Савецкага ўрада, ЦК камсамола, пісьменнікі. Уважліва слухае Аляксея Максімавіча Цішка Гартны, запісвае нешта ў блакнот Платон Галавач. Я паціху прыкрыў дзверы і думаю: зайсці або ўстрымацца? Стаю. Наткнуўся на мяне сын Аляксея Максімавіча Максім.

— Чаму стаіцё ў тамбуры?

— Мяне выклікалі… не ведаю чаго.

Ён зайшоў у салон.

— Там, у тамбуры, стаіць рабочы, той самы.

— А-а… Паклічце сюды.

Максім шырока расчыніў дзверы.

— Уваходзьце!

Мы разам з Андрэем Александровічам зайшлі ў салон-вагон. Сталі ля дзвярэй і ні кроку далей. Паважаныя людзі сядзяць за сталом! Нам неяк і няёмка далучацца да такога грамадства. Саромеемся. Убачылі мы ля дзвярэй невялічкую падстаўку для абутку і прыселі на яе. Сядзім, слухаем. А за сталом ідзе сур'ёзная размова пра апошнія еўрапейскія палітычныя падзеі. Распытваюць аб адносінах да нас італьянцаў. Поезд імчыцца ўжо да Мінска. Перастукваюць на стрэлках колы вагонаў, мільгацяць

### *Гута (с. 27)*

Упершыню — час. «Маладняк», 1929, № 8–10.

Друкуецца паводле выд.: Бібліятэка беларускай драматургіі. Мінск, 1970.

У 1931 г. была выдадзена асобным выданнем у перакладзе на рускую мову ў Маскве ў выдавецтве «Федерация» (Всероскомдрам). У Дзяржвыдзе БССР у 1932 г. таксама выходзіла асобнай кнігай на беларускай мове.

П’еса перакладалася на мовы розных народаў СССР і замежныя мовы (польскую, чэшскую, нямецкую і інш.) і нават на мову эсперанта (1932).

«Гута» ўпершыню была паказана БДТ-1 у г. Гомелі, куды тэатр выязджаў на гастролі. Прэса пісала: «У працягу зімовага сезону ў Гомелі і Магілёве БДТ-1 паставіў тры новыя п’есы — «Міжбур’е», «Ярасць» і «Гуту». Усе тры п’есы прайшлі з вялікім поспехам і сведчаць аб несумненным мастацка-палітычным росце тэатра» (Беларуская культура. Хроніка // Полымя. 1930. № 5–6).

На вялікі жаль, сталічная прэса, акрамя часопіса «Полымя», ніяк не адгукнулася на гэту падзею. Толькі пасля прэм’еры «Гуты» ў Магілёве газета «Рабочий» («Советская Белоруссия») надрукавала станоўчы водгук. Гэты водгук абвяргае выдумку драматурга Я. Рамановіча, быццам «Гута» на прэм’еры ў Магілёве правалілася.

Другі раз «Гута» была пастаўлена БДТ-1 на першай усесаюзнай алімпіядзе тэатральнага мастацтва ў чэрвені 1930 г. у Маскве на сцэне МХАТ-2. Поспех «Гуты» быў такі трыумфальны, што пасля алімпіяды яе ставілі амаль усе тэатры Савецкага Саюза і нават замежныя (Польшча, Чэхаславакія, Аўстрыя, Румынія, Венгрыя). Прэса адзначыла, што «Гута» і яе пастаноўка БДТ-1 — адна з самых яркіх і слаўных старонак у гісторыі беларускай савецкай драматургіі і тэатральнага мастацтва. Гэтая п’еса прынесла Р. Кобецу славу, і ён па праву стаў вядучым драматургам Беларусі. Толькі пасля перамогі БДТ-1 на алімпіядзе ў Маскве і ў сувязі з сотым паказам «Гуты» на беларускай сцэне (у кастрычніку 1931 г.) было шмат водгукаў і віншаванняў у адрас п’есы і спектакля ў газетах «Звязда» і «Рабочий». Больш шчодрай на водгукі аказалася цэнтральная прэса (часопісы і газеты): «Советский театр», «Театр и драматургия», «Новый мир», «Театр и революция», «Литературная газета», «Известия», «Рабочий и искусство» і шмат іншых. Гэта быў трыумф. БДТ-1, паказаўшы на алімпіядзе «Гуту», заняў першае месца, падзяліўшы яго з грузінскім тэатрам.

«Гута» — псіхалагічная драма ў 3-х дзеях, 14 карцінах. Падзеі ў п’есе адбываюцца ў 1928 г. У ёй упершыню паказана жыццё рабочых Беларусі.

Акрамя У. Крыловіча, які бліскуча іграў ролю рабочага Мароза, у спектаклі прымалі ўдзел таленавітыя артысты У. Уладамірскі,

Г. Грыгоніс, М. Зораў, Э. Шапко, Л. Рахленка і іншыя, якія ўяўлялі сабой цудоўны акцёрскі ансамбль, дзякуючы рэжысёру Е. Міровічу. Музыку да спектакля напісаў кампазітар А. Туранкоў. Дэкарацыі мастака Д. Крэйна.

Пасля тэатральнай алімпіяды маскоўская прэса адзначыла «бурны рост беларускай нацыянальнай культуры». У. Крыловічу было прысвоена званне заслужанага артыста БССР.

«Гута» стала этапнай не толькі ў творчым лёсе Р. Кобеца, але і артыста У. Крыловіча — выканаўцы галоўнай ролі (рабочага Мароза) — і самога тэатра. Вялікі поспех «Гуты» садзейнічаў таму, што тэатр пачалі запрашаць на гастролі па Саюзу.

Менавіта «Гута» стала першай беларускай п’есай, якая ставілася за мяжой, што спрыяла замацаванню культурных сувязяў з зарубежнымі краінамі, як і з савецкімі рэспублікамі.

«Гуту» называлі пралетарскай п’есай. Пэўны час яна была канонам, узорам для драматургаў. З некаторых водгукаў: «Гута» — канон. У час алімпіяды мастацтва, у час нашага падарожжа на Украіне — «Гуце» былі дадзены зусім станоўчыя водгукі. Яна з’явілася пераломнай п’есай у развіцці БДТ-1... «Гута» паказала шмат такіх падтэм, якія да таго часу былі зусім не закранутыя. «Гута» з’яўляецца п’есай пралетарскай... і тое, што гэта было адзначана нашым друкам і грамадскасцю, і тое, што гэта робіць «Гуту» вельмі папулярнай п’есай у асяроддзі рабочага гледача ўсіх гарадоў БССР і тых месц, дзе яна ставілася, — гэта зусім правільна» (Бабарэкін. З стэнаграмы Усебеларускай нарады па мастацтве пры ЦК КП(б)Б ад 10–12 снеж. 1931 г. НАРБ. Ф. 4п. Воп. 1. Спр. 5464).

Першая назва п’есы — «Карусель». Пад такой назвай яна была прынята да пастаноўкі ў БДТ-1 рэжысёрам Е. Міровічам у 1929 г.

Больш падрабязна пра «Гуту» ў кнізе А. Кобец-Філімонавай «Калі ўцякала сонца» (Мінск: Кнігазбор, 2006. С. 21–158).

Апошнім часам недасведчаныя аўтары пішуць, што першае месца на алімпіядзе тэатральнага мастацтва ў Маскве ў 1930 г. заняў Беларускі дзяржаўны яўрэйскі тэатр (БДзЯТ), прыпісаўшы яму поспех БДТ-1 і тым самым прынізіўшы вялікія дасягненні беларускага нацыянальнага тэатра імя Я. Купалы. Вось вытрымкі з некаторых публікацый:

«В 1930 году театр участвовал в Всесоюзной олимпиаде национальных театров в Москве, где разделил первое место с Грузинским театром» (Галина Кудрякова. «Он предвосхитил судьбу театра». Мишпоха. № 3. 1997).

«Среди 30 коллективов, принявших участие в театральном смотре… Белгосет разделил первое место с Грузинским театром им. Ш. Руставели» (Яков Басин. «Большевизм и евреи: Белоруссия, 1920-е» (исторические очерки). Мн., 2008).

Дарэчы, удзел у алімпіядзе прымалі 18 тэатраў, а не 30. Скажоная лічба перапісана з кнігі А. Г. Герштейн «Судьба одного театра» (Мн., 2000).

Тая ж інсінуацыя ў энцыклапедыі «Тэатральная Беларусь» (2003. Т. 2) у тэксце «Усесаюзная алімпіяда нацыянальных тэатраў у Маскве». Ніхто з пералічаных аўтараў нават не прыгадаў БДТ-1, які на алімпіядзе прадстаўляў рэспубліку Беларусь. Між іншым, тэатральная алімпіяда праходзіла не ў Зялёным тэатры парку культуры і адпачынку, як пішуць Герштэйн і Басін, а ў МХАТ-2 і тэатры Рэвалюцыі.

Лёс «Гуты» бліскучы і цярністы. Рыгор Кобец напісаў сваю п’есу ў 1929 г. У тым жа годзе яе надрукаваў часопіс «Маладняк» у трох нумарах.

Першым заўважыў таленавіты твор малады тэатральны крытык Уладзімір Сядура: «…У рэцэнзуемым нумары часопіса змешчан драматычны твор — першы акт вялікай драмы «Гута» Рыгора Кобеца. У сучасны момант, калі мы вельмі бедныя на драматычную творчасць, з’яўленне такой рэчы, як «Гута» Рыгора Кобеца, вельмі дадатнае і значнае з’явішча. Яшчэ больш павялічвае ўвагу гэтай значнасці тэма драмы, узятая з рабочага жыцця. У драме, у вельмі яскравых і выпуклых фарбах на фоне дадатных і адмоўных бакоў жыцця рабочых шкляной гуты, закінутай у глушы, зачэплены і добра вырашаюцца хвалюючыя ўсю грамадскасць такія пытанні, як нацыяналізацыя вытворчасці, вынаходніцтва і інш.» («Савецкая Беларусь», 17 верасня, 1929 г.).

Вядомы паэт Рыгор Рэлес прыгадваў, як ён, быўшы вучнем 7-га класа чашніцкай школы (у Віцебскай вобласці), прачытаў лекцыю пра «Гуту», такую выклікала цікавасць п’еса яшчэ да пастаноўкі ў тэатры. «У той час, — прыгадваў паэт, — ніхто не чытаў надрукаваных п’ес. Звычайна п’есы глядзелі ў тэатрах. А з «Гутай» было інакш. Яшчэ не было яе пастаноўкі, а часопіс «Маладняк», у якім яна друкавалася, быў нарасхват. Нават на чаргу запісваліся ў бібліятэках, каб прачытаць гэту п’есу».

Цікавасць да «Гуты» была выклікана і тым, што вакол яе яшчэ да прэм’еры разгарэліся спрэчкі. Больш хвалілі, але і лаялі. Не было такой газеты ці часопіса, якія б не пісалі пра «Гуту».

Другі, хто сур’ёзна зацікавіўся п’есай, як толькі яна трапіла ў яго рукі, быў рэжысёр БДТ-1 Еўсцігней Афінагенавіч Міровіч. Ён адразу ж прыняў п’есу Кобеца да пастаноўкі, нягледзячы на незадаволенасць тэатральнай адміністрацыі. Больш таго, калі ў чэрвені наступнага года ў Маскве мелася адбыцца першая ўсесаюзная алімпіяда тэатральнага мастацтва, Міровіч прыняў рашэнне везці «Гуту» ў Маскву. Гэта пакрыўдзіла некаторых драматургаў, «ветэранаў» тэатра, бо, на іхнюю думку, на ўсесаюзны прагляд трэба везці п’есу прафесійнага драматурга, а не нейкага там качагара. Справа ў тым, што Кобец яшчэ да публікацыі прыносіў «Гуту» ў тэатр, але далей адміністрацыі яна не пайшла, і Міровіч яе не чытаў. А качагару далі ад варот паварот.

Паэт Анатоль Вольны напісаў пра першы візіт свайго сябра ў тэатр у гумарэсцы «Літаратурны сілуэт. Рыгор Кобец».

Каб жа на гэтым усё і скончылася! Цярністы шлях «Гуты» да славы яшчэ толькі пачынаўся. І справа не толькі ў амбіцыі асобных драматургаў, якія ўбачылі ў Лахматым непажаданага канкурэнта, а ў барацьбе старога з новым, тэатральных традыцый з пралетарызацыяй, якая з нястрымнай сілай прарывалася ў тэатр, паэзію, літаратуру, ва ўсе віды мастацтва. Пачыналася пралетарызацыя ўсяго, яна пранікала паўсюдна. Гэта быў адзін з перагібаў кампартыі, які з аднаго боку не вельмі спрыяў росту нацыянальнай культуры, а з другога — даў беларускаму мастацтву выйсце на міжнародную арэну.

Дваццатыя гады былі найбольш складаныя, таму што сацыялізм толькі пачынаўся. Старое ламалася, але без бою здавацца не жадала, новае ж наступала імклівa, напорыста. І ў гэтай віхуры ўсё трашчала, бурліла…

У такой атмасферы прабівалася «Гута», робячы свае першыя крокі. Але на пачатку дарогі было досыць спакойна, калі не лічыць спрэчак у друку, бо спектакля яшчэ не было. Да алімпіяды заставалася дзевяць месяцаў. Калектыў тэатра ўзяўся ставіць п’есу. Пачалася звычайная рэжысёрская праца: чытка п’есы сумесна з аўтарам і артыстамі, выбар акцёраў на галоўныя і эпізадычныя ролі, рэпетыцыі. Нарэшце лютаўскі нумар «Маладняка» (1930) аб’явіў, што БДТ-1 рыхтуе да пастаноўкі п’есу «Шклозавод».

Захавалася інфармацыя ў прэсе, якая сведчыць аб вялікім поспеху спектакля «Гута» на яе прэм’ерах:

«Пад кіраўніцтвам аўтара пастаўлена ў Магілёве Першым Белдзяржтэатрам новая п’еса Рыгора Кобеца «Гута». Акторскі калектыў на чале з Міровічам цалкам справіўся з задачай пастаноўкі. П’еса «Гута» будзе першай пастаўлена БДТ-1 на ўсесаюзнай алімпіядзе». (Беларуская культура. Хроніка / Полымя. 1930. № 5–6).

Першая прэм’ера «Гуты», як было ўжо сказана, адбылася ў Гомелі. Пасля прагляду «Гуты» ў Магілёве 17 мая газета «Рабочий» друкуе вялікую рэцэнзію, у якой даецца станоўчая ацэнка спектаклю і п’есе:

«Постановщик, заслуженный артист республики Мирович, всячески заострял бытовой характер спектакля, действующие лица пьесы поданы правильно, убедительно, без утрировки. С актерским коллективом проделана большая работа. Артисты показали, что они прекрасно умеют справляться с современным материалом, что Первый Белгостеатр находится в периоде культурного политического роста. Особенно хороши артисты Крылович (Мороз) и Владомирский (Цыганок). Это два противоположных по характеру человека. Изобретатель Мороз — исключительно скромный, он хочет все время оставаться в тени. А рядом с ним бурный, полный кипучей молодости и желания творить комсомолец Цыганок. Они объединились — Мороз и Цыганок, чтобы

совершить настоящую революцию на гуте, заменив старых мастеров-стеклодувов машиной. Мороз и Цыганок как бы дополняют друг друга. Крылович и Владомирский прекрасно поняли мысль автора и создали весьма сильные по своей убедительности образы. Интересно показаны типы мастеров-стеклодувов…» («Рабочий», 27 мая, 1930. З. Д. «Новая пьеса Григория Лохматого (Кобеца) в постановке БДТ-1»).

Аўтар таго ж артыкула піша: «…В повседневной жизни так много захватывающего, интересного. Нужно только уметь подметить, уметь интересно подать, создать социально значимое, убеждающее зрелище… Театр хорошо справился с материалом автора. Внешне спектакль оформлен блестяще». Вось так станоўча ацаніў назіральнасць і здольнасці маладога драматурга рэцэнзент З. Д. (не ведаю, хто стаіць за гэтымі дзвюма літарамі). Па заслугах ацэнена ў гэтай рэцэнзіі і праца мастака-дэкаратара: «Художник Крейн создал исключительно интересное зрелище… И огненная гута, и новая машина, все это прекрасно сработано».

У тым жа годзе (1930) Белдзяржвыдат выпускае кнігу А. Некрашэвіча «БДТ-1», прысвечаную 10-годдзю тэатра, у якой аўтар падкрэслівае, што «Гута» ўдалая праца і  што п’еса «Гута» адна з лепшых не толькі на беларускай сцэне».

На вялікі жаль, пачынаючы з пасляваеннага часу і да сённяшніх дзён, некаторымі беларускімі тэатразнаўцамі падаюцца фальсіфікаваныя факты аб поўным быццам бы правале спектакля «Гута» ў Магілёве перад самым выездам тэатра ў Маскву. Але прыведзеныя мною водгукі ў прэсе 30-х гадоў сведчаць не аб правале, а наадварот, аб вялікім поспеху трох новых п’ес, «Міжбур’я», «Ярасці» і асабліва «Гуты», з якімі тэатр выязджаў на гастролі па гарадах Беларусі ў зімова-вясновы сезон і якія збіраўся везці на алімпіяду. Дый хто павёз бы праваленую п’есу на ўсесаюзны прагляд!

Пра першыя цярністыя крокі і «шумны» поспех «Гуты» яшчэ да алімпіяды сведчыць і сам аўтар знакамітай п’есы, прыгадваючы 1929–1930-я гады: «У 1929 годзе я напісаў для тэатра п’есу «Гута». У гэтай п’есе я моцнымі мастацкімі фарбамі выпісаў яркія вобразы беларускіх рабочых, паказаў рост і моц рабочага класа Беларусі… Зразумела, што некаторыя сустрэлі п’есу ў штыкі, а разам з ёй і мяне самога. Тэатр адмовіўся яе ставіць на сцэне… І толькі праз год мне ўдалося, дзякуючы дапамозе Пралеткульта… дабіцца афармлення п’есы «Гута» на сцэне Беларускага Дзяржаўнага тэатра. Поспех быў «шумны», а ў 1930 годзе на ўсесаюзнай алімпіядзе мастацтваў п’еса атрымала першую прэмію ў Маскве».

Гэта была першая алімпіяда ў СССР. Пасля яе прагляд талентаў на розных спаборніцтвах стаў традыцыяй.

БДТ-1 паказаў дзве п’есы ў пастаноўцы рэжысёра Е. Міровіча — «Гуту» і «Міжбур’е». «Гута», як і планавалася, ставілася першай. Поспех спектакля быў трыумфальны.

Водгукі ў прэсе: «Московский корреспондент «Звязды» сообщает: «25 утром в помещении Московского Художественного театра состоялся спектакль Белорусского Государственного театра специально для членов жюри и участников Олимпиады. Шла пьеса Г. Лохматого «Гута». Спектакль имел величайший успех. Отдельные моменты игры во время действия прерывались бурными аплодисментами. После каждого действия занавес поднимался до десяти раз.

После спектакля выступающие с оценкой жюри отметили, что «Гута» — один из лучших спектаклей Олимпиады и должен занять одно из первых мест при присуждении премий». («Рабочий», 29 июня, 1930. «На театральной Олимпиаде»).

Пра тое ж пісаў і крытык Юрка Лявонны: «25 чэрвеня ў памяшканні МХАТа тэатр паказаў «Гуту» Рыгора Лахматага і 30 чэрвеня ў тэатры Рэвалюцыі «Міжбур’е» Д. Курдзіна.

Першы спектакль «Гуты», дадзены ў дзень для ўдзельнікаў алімпіяды, быў трыумфам БДТ-1. Кожная дзея выклікала велізарны ўздым у гледача і праводзілася гураганам апладысментаў…» («Звязда», 15 ліпеня, 1930. Лявонны Ю. «Усесаюзная алімпіяда мастацтва народаў СССР. Буйны поспех БДТ на алімпіядзе»).

Газета «Известия» адзначыла, што «оба олимпиадных выступления белорусского театра являются одной из самых ярких страниц всесоюзного смотра». А «Гуту» называлі «імянінніцай алімпіяды».

Пасля вяртання БДТ-1 з Масквы ў Беларусь адбылася нарэшце прэм’ера «Гуты» на сваёй радзіме, у Мінску. Яна адбылася 14 ліпеня ў памяшканні БДТ-1.

Газета «Рабочий» пісала: «…Билеты на постановку начали распространять поздно, но, несмотря на это, к 8 часам в театр уже начали стекаться трудящиеся, за 30–40 минут заполнив до отказа помещение зрительного зала. Мы знали об успехах театра в Гомеле, Могилеве, на Всесоюзной олимпиаде национальных театров в Москве, но успех постановки превзошел все ожидания.

Только прогудел гудок, только поднялся занавес, а зритель уже дружными аплодисментами встречает постановку. Пьеса непрерывно сопровождается аплодисментами. Зритель напряженно следит за ходом действия.

Театр значительно вырос за эти полгода отсутствия в Минске. Спаянность коллектива, четкая режиссерская работа сказывается в каждой мелочи, и особенно ярко виден рост театра, когда смотришь «Гуту» Григория Кобеца. Трудящиеся недаром в этот вечер устроили шумную овацию коллективу театра, его режиссеру тов. Мировичу». («Рабочий», 14 июля, 1930. Е. С. «После всесоюзной олимпиады искусств. Постановка «Гуты» в Минске».)

«Гута» на алімпіядзе падзяліла першае месца з грузінскай п’есай «Ламара», якую ставіў таленавіты рэжысёр Сандро Ахметэлі. Галоўную гераіню іграла Тамара Цулукідзе, вялікая актрыса Грузіі. У 1936 г.

Ахметэлі быў расстраляны за «спробу зрабіць замах на жыццё Сталіна». Яго жонка Тамара Цулукідзе арыштавана ў 1937 за тое ж самае і саслана ў лагер на 10 год. У тым жа годзе быў расстраляны Дзмітрый Курдзін. У 1938 першы раз будзе арыштаваны Рыгор Кобец, другі раз — у 1941 і таксама сасланы на 10 год у сібірскі лагер, пасля якога ў пажыццёвую ссылку. Шмат загінула талентаў, удзельнікаў алімпіяды.

Прыгадаем гістарычныя падзеі таго часу. Грамадзянская вайна скончылася. Бальшавікі перамаглі і пачалі будаваць сацыялізм, пакуль што ў адной, асобна ўзятай краіне. Але пераможцы разумелі, што іх заваёвы трэба замацоўваць і спяшацца, пакуль капіталісты не задушылі маладую савецкую дзяржаву. У 1925 г. XIV з’езд бальшавікоў прыняў курс на індустрыялізацыю краіны, у 1927 г. XV з’езд — на калектывізацыю вёсак, у чэрвені 1930, у адзін час з Першай усесаюзнай алімпіядай праходзіў XVI з’езд ВКП(б) разгорнутага наступлення сацыялізму на ўсіх франтах, і асабліва на культурным. Культурны фронт — гэта літаратура і мастацтва.

Наступленне азначае вайну. Калі вайна — патрэбна зброя. Самая лепшая зброя — прапаганда. Каго мабілізаваць на культурны фронт? Пісьменнікаў, мастакоў, дзеячаў культуры. «Мастацтва — зброя рэвалюцыі» — цяпер гэта новы рэвалюцыйны лозунг. Мастацтва замест вінтоўкі. Але інтэлігенцыі няма веры, бальшавікі ўпэўнены, што яна падвядзе. Зноў пацягне ў сваё «мяшчанскае буржуйскае стойла», таму трэба выхаваць сваю інтэлігенцыю, пралетарскую, з рабочых і сялян. Яны адваяваліся ў Грамадзянскую вайну, стаміліся і не адмовяцца ад новага, культурнага жыцця. Мастацтва павінна працаваць на сусветную пралетарскую рэвалюцыю. І яны працавалі. А замест падзякі — куля ў патыліцу або праца ў лагерах і пажыццёвая ссылка. І сёння скажаць п’есы пацярпелых драматургаў амаральна і недаравальна.

У мяне такое ўражанне, што сучасныя мастацтвазнаўцы не заўважылі галоўнай ідэі п’есы Кобеца «Гута». Усе дружна сталі пісаць, быццам рабочы-вынаходнік Мароз ствараў шкловыдзімальную машыну для таго, «каб павялічыць выпуск прадукцыі, паспяхова выконваць і перавыконваць планы першай пяцігодкі». На самай справе рабочага Мароза хвалявала здароўе людзей, якія хварэлі на сухоты і паміралі. Дарэчы, Мароз не быў камуністам. «Гута» — псіхалагічная драма, а не камуністычная агітка. Крытыкі 20–30-х гадоў ідэю п’есы зразумелі правільна, таму і пісалі, што Мароз і Цыганок зрабілі рэвалюцыю на гуце, замяніўшы шкломашынай саматужную працу, шкодную для здароўя рабочых.

Незвычайны поспех «Гуты» тлумачыцца і тым, што п’еса выражала тагачасныя жыццёвыя праблемы, адлюстроўвала барацьбу паміж старым і новым.

На вялікі жаль, і сёння некаторыя маладыя даследчыкі «ашаламляльны» поспех «Гуты» тлумачаць не майстэрствам рэжысёра Е. Міровіча і талентам артыстаў купалаўскага тэатра, а толькі «стыхійнасцю» і

«наўмысным нагрувашчваннем самых узнёслых эпітэтаў і метафар» у савецкай прэсе, якім нельга верыць, бо яны «стваралі ўражанне незвычайных поспехаў беларускага літаратурнага і тэатральнага жыцця», патрэбнае тагачасным палітыкам. Ці не прыніжае такая прымітыўная трактоўка нашу спадчыну і годнасць беларусаў увогуле?..

## КІНАСЦЭНАРЫІ

Творчы шлях у кіно Р. Кобец пачынаў са сцэнарыяў нямых дакументальных фільмаў, прысвечаных беларускаму камсамолу, — «Наша змена» (1930), «Ленінскае племя» (1930) і інш. Ні сцэнарыі, ні фільмы не захаваліся. Ён часта выступаў у ролі кансультанта фільмаў («Аб двух заводах», «Жанчына» і інш.), бывала, і сам здымаўся ў фільмах, каб лепш пазнаць спецыфіку кіно («Хто лепшы?», 1931).

Яго першы сцэнарый публіцыстычнага фільма (агітпрапфільма) «Ураган» (1931) аб ролі друку ў будаўніцтве Беларусі таксама не захаваўся, як і сама кінастужка. Фільм здымаўся нямым, бо гукавая кінаапаратура на кінастудыі «Савецкая Беларусь» яшчэ толькі вынаходзілася гукаінжынерам В. Ахотнікавым. Сцэнарый Р. Кобец напісаў сумесна з кінасцэнарыстам Б. Брадзянскім.

«Ураган» поспеху не меў, яго крытыкавалі не толькі за мастацкія якасці, а перш за ўсё за тое, што аўтары «змазалі кіруючую ролю партыі». Тым не менш газета «Звязда» пісала: «Гураган» па сваёй актуальнасці і палітычным значэнні — каштоўны ўклад у скарбніцу беларускай кінематаграфіі».

На пачатку 1930-х гадоў агітпрапфільмы, як і «Окна РОСТА» адлюстроўвалі жыццё краіны. Яны ж заклалі аснову мастацкіх фільмаў на сучасную тэму.

У фільме «Ураган» здымаўся будучы знакаміты расійскі артыст Л. Кміт у галоўнай ролі рабкара Каваля. Больш падрабязна пра фільм «Ураган» гл. у кн. А. Кобец-Філімонавай «Калі ўцякала сонца» (с. 197–202); у яе ж артыкуле «Сто нянек — дзіця без носа» (ЛіМ. 2003. 18 ліпеня (№ 29). С. 13–14).

У 1931 г. быў запушчаны ў вытворчасць сцэнарый Р. Кобеца «Калі празраваюць сляпыя» (нямы поўнаметражны мастацкі фільм аб нарастанні рэвалюцыйнага руху ў Германіі). Ставіўся рэжысёрам У. Корш-Сабліным. Але гэты сцэнарый не ўбачыў экрана. Р. Кобец прыгадваў: «У мяне і Корша ў 1934 годзе ўкралі не толькі гатовы сцэнарый, а тры чвэрці ўжо адзнятай карціны «Калі празраваюць сляпыя» (Рыгор Кобец. Письма из ссылки. Неман. 1998. № 9. С. 184).

У 1933 г. на экран выходзіць кінафільм «Двойчы народжаны», зняты паводле сцэнарыя Р. Кобеца. У тым жа годзе кінадраматург

напісаў сцэнарый па рамане і п’есе К. Чорнага «Бацькаўшчына», але сцэнарый экрана не ўбачыў і не захаваўся.

Пасля «Двойчы народжанага» выйшлі на экран фільмы «Шукальнікі шчасця» (1936) і «Дняпро ў агні» (1937). Не ўбачылі экрана «Паўстанне гневу» (1936) і «Героі Балтыкі» (1939).

*Двойчы народжаны (с. 109)*

Друкуецца ўпершыню паводле машынапіснага тэксту з архіва Р. Кобеца. Адноўлены аўтарам і А. Кобец-Філімонавай (дачкой драматурга) па мантажных лістах кінааператара (захоўваюцца ў фондах Нацыянальнай бібліятэкі РБ), па фрагментах не знойдзенага літаратурнага сцэнарыя, што друкаваліся ў 30-я гг., і кінакадрах фільма. (Пакадравыя мантажныя лісты кінааператара захоўваюцца таксама ў архіве Дзяржфільмафонда СССР.)

Літаратурны сцэнарый першага гукавога і першага на беларускай мове мастацкага фільма. Першы варыянт сцэнарыя Рыгор Кобец напісаў у 1931 г. Прэса паведамляла: «Апрача заказных сцэнарыяў фабрыка мае ў сваім партфелі зусім гатовы сцэнарый для 1932 г. «Два разы народжаны» — гукавы сцэнарый Рыгора Кобеца...» Фрагмент з самага першага варыянта сцэнарыя друкаваўся ў 1932 г. пад назвай «Урывак з гукавога сцэнарыя «Двойчы народжаны» (ЛіМ. 1932. 11 крас. № 5). У сваёй «Аўтабіяграфіі» Рыгор Кобец прыгадвае: «...у 1931 годзе адважыўся напісаць кінасцэнарый для першага гукавога фільма Белдзяржкіно. Назваў яго «Двойчы народжаным». Гэта была мая першая самастойная работа ў кіно. Сцэнарый быў ухвалены і прыняты нават без паправак». Для сюжэта Кобец выкарыстаў сапраўдны факт з жыцця калгаса ў Барысаўскім раёне пад Мінскам, які яшчэ толькі нараджаўся. Будучы там у камандзіроўцы, пазнаёміўся з былым канакрадам, які не адразу прыняў калгас: ён жа марыў аб сваёй уласнай гаспадарцы. Малады сцэнарыст напісаў сцэнарый надзіва хутка. Нельга забываць і тое, што ў кіно Кобец прыйшоў, ужо маючы значны вопыт літаратара і драматурга (пасля п’есы «Гута»). Ён належаў да тых пісьменнікаў, якія не сядзелі доўга за пісьмовым сталом, а выношваў свае творы, абдумваў іх і адразу дыктаваў на машынку. У сваім сцэнарыі Р. Кобец паказаў выдатнае веданне жыцця беларускай вёскі на пачатку 30-х гадоў з яе перабудовамі, з глыбокім пранікненнем у псіхалогію чалавека, з вялікім майстэрствам будаваў і развіваў вострыя драматычныя канфлікты. Нягледзячы на гэта, сцэнарый не выпускаўся ў вытворчасць больш за год, яго «замарынавалі». А калі кіназдымкі ішлі поўным ходам, Кобецу было адмоўлена ў публікацыі сцэнарыя ў часопісе «Беларусь калгасная». Больш таго, Галоўліт намагаўся забараніць кіназдымкі фільма. Р. Кобец быў вымушаны звярнуцца па дапамогу ў ЦК КП(б)Б. Ён піша заяву на імя сакратара ЦК М. Ф. Гікалы і адсылае ў ЦК КП(б)Б разам з сцэнарыем. (Гл. раздзел «Лісты». Сакратару ЦК КП(б)Б тав. Гікалу.)

Але падтрымкі не было. На другі ж дзень на ліст Р. Кобеца быў напісаны знішчальны адказ:

«Кобеца “Дважды рожденный” печатать нельзя по следующим причинам.

1. Кто такой основной персонаж сценария Лопух.

Вот его лицо.

Прижатый к обрыву верховыми колхозниками, «является в кадр» конокрад Лопух, который украл колхозную лошадь. Подкулачник бросается к нему и ударяет в лицо, бьют и остальные колхозники. Потом везут его в колхоз. «В колхозе разберемся». В колхозе конокрада берет к себе Дубовик (председатель колхоза), где он и ночует. В беседе с конокрадом выясняется, что он умеет чинить сбрую. Утром председатель под конвоем комсомольца Лешки с винтовкою отправляет Лопуха в амбар, где лежит сбруя. Сам Лопух сначала берется починять сбрую, потом бросает, потом снова берется («перерождается»). Потом узнают, что Лопух умеет лечить лошадей. Конокрад переродился. Потом приходит милиционер, забирает Лопуха в суд. Председатель жалеет и говорит: «Такой закон» и передает в суд просьбу от колхоза, быть может, об освобождении конокрада. Суд присуждает конокрада на 5 лет условно. Лопух возвращается в колхоз.

Вот кто такой в представлении Кобеца конокрад Лопух.

Из этого можно сделать вывод, что тех, кто раскрадывает колхозное имущество, «врагов народа» (постановление ЦВК и СНК), нужно не расстреливать или изолировать на 10 лет, а принимать в колхоз и там они через несколько дней (буквально) станут ударниками социалистического строительства. Кобецу нужно было показать, кто такой конокрад Лопух, что его толкнуло на это и т. д., чтобы обнаруживать перед массами, что Лопухи выполняют дело классового врага, являются врагами народа и этим мобилизовать массы на выявление Лопухов. Этого требует данный этап классовой борьбы в стране, а не возбуждать любовь масс к ворам, которые расхищают государственное и колхозное добро; выставлять свои другие пути борьбы с расхитителями общественного добра, чем определила партия и советская власть.

2. Есть еще ряд моментов менее важных по своему значению, но их также нужно отметить. Совершенно неправильно делает Кобец, показывая, что колхоз имеет винтовки и колхозники оперируют ими, как средством защиты колхоза. Это неверно. Винтовка является боевым оружием Красной Армии, а не сельских колхозников.

С политической точки зрения эту вещь печатать нельзя.

*Политредактор* *Гарбуз.*
*Верно: Секретарь Главлитбела* *Сикорский.*
*10/1-33 г.».*

## Заключэнне
## аб сцэнарыі т. Кобеца «Двойчы народжаны»

1. У сцэнарыі не ўскрыты карэнні галоўнага героя канакрада Лопуха, не паказана, што прымусіла яго стаць канакрадам, не паказана, а толькі бегла ўпамінаецца, што ён бядняк.

2. Працэс перараджэння паказаны вельмі слаба, з мастацкага боку не апраўданы.

3. Таму сцэнарый не толькі не мабілізуе на барацьбу з расхіцілямі калгаснай маёмасці, а, наадварот, прытупляе пільнасць мас.

4. Друкаваць сцэнарый без карэннай перапрацоўкі нельга.

*15/1-33 г.*
*Подпіс*
*Подпіс*
*Подпіс*

*(НАРБ, Ф. 4п. Воп. 1. Спр. 6303. Л. 3–60.)*

Забаронены кінасцэнарый захоўваецца ў тым жа фондзе без апошніх 6 старонак і ў сямейным архіве (ксеракопія). Дакумент упершыню надрукаваны ў скарачэнні з каментарамі: «Друкаваць нельга». Публікацыя доктара гістарычных навук Р. Платонава. ЛіМ. 1993. № 22; «Друкаванню не падлягае». Публікацыя таго ж аўтара. Мінская «Памяць». Кніга 3-я. 2004. С. 180.

У той час, калі забараняўся праўдзівы кінасцэнарый, падманутыя сяляне цэлымі сем'ямі ўцякалі з калгасаў разам са сваёй жывёлай і інвентаром, каб ўратавацца ад голаду. Горад, пазбаўлены харчавання, што паступала з калгасаў, таксама галадаў. Напалоханы беларускі ўрад распачаў агітацыю сярод сялянства, каб вярнуць былых калгаснікаў і замацаваць калгасы. З тае нагоды літаратурныя часопісы падлягалі рэарганізацыі. Той жа лёс напаткаў і часопіс «Беларусь калгасная», куды Р. Кобец аддаў рукапіс сцэнарыя «Двойчы народжаны». Незадоўга да гэтага выйшла пастанова сакратарыята ЦК КП(б)Б аб тым, што часопіс «Беларусь калгасная» павінен арыентавацца на чытача-калгасніка, адлюстроўваць працэсы сацыялістычнай рэканструкцыі вёскі, паказваць вобраз героя калгасных і саўгасных палёў, а таксама класавае змаганне ў вёсках. Адным словам, праводзіць масавую тлумачальную работу па аднаўленні разваленых калгасаў.

Р. Кобец многа ездзіў па Беларусі, будучы рабкарам газеты «Рабочий», і ў сваім сцэнарыі адлюстраваў сапраўднае жыццё калгаснай вёскі таго часу. Галоўны герой сцэнарыя Рыгор Лопух таксама ўзяты з жыцця, паказаны праўдзіва. У канцы сцэнарыя ён не ўступае ў калгас. Уступіць ці не? Гэтае пытанне засталося за кадрам.

На працягу некалькіх гадоў першы сакратар ЦК КП(б)Б М. Ф. Гікала пачкамі атрымоўваў дакладныя запіскі з розных раёнаў Беларусі аб раз-

вале калгасаў. І, вядома, член урада не мог даць дазвол на публікацыю сцэнарыя Р. Кобеца, у якім галоўны герой не агітаваў за калгасы.

Пасля заключэння Паліткантролю Кобец дапрацоўвае кінасцэнарый. Апошні варыянт убачыў экран увосень 1933 г. 26 лістапада 1933 г. газета ЛіМ паведаміла: «1 лістапада брыгада рэжысёра Э. Аршанскага здала дырэкцыі кінафабрыкі «Савецкая Беларусь» вялікую гукавую мастацкую карціну паводле сцэнарыя Р. Кобеца «Двойчы народжаны» (І. Барашка. «Двойчы народжаны» // Літ. і мастацтва. 1933. № 31). У 1935 г. той жа ЛіМ надрукаваў дзённік кінафабрыкі «Савецкая Беларусь» да 10-годдзя беларускага кіно: «…1933 г. На экране паяўляецца «Першы ўзвод», «Двойчы народжаны», «Першае каханне», «Паручнік Кіжэ», «Хто твой друг?», якія занялі значнае месца ў савецкай кінематаграфіі...» (ЛіМ. 1933. 11 сак. № 12).

Вялікую цікавасць выклікае артыкул Р. Кобеца «Як я працаваў над гукавой кінадрамай «Двойчы народжаны» (Савецкая Беларусь. 1932. 27 ліпеня).

Стваральнікі фільма: Р. Кобец (сцэнарыст), Э. Аршанскі (рэжысёр), П. Шамшур (асістэнт рэжысёра), Б. Рабаў (аператар), Р. Фэдар (мастак), І. Дунаеўскі (кампазітар), артысты У. Крыловіч (Лопух), Т. Гурэцкая (Марына), Л. Кміт (Лёшка), Б. Бабачкін (Дубовік, старшыня калгаса), М. Цароў, П. Малчанаў і інш.

У 1930-х фільм дэманстраваўся ў замежжы (у краінах Прыбалтыкі і інш.) разам з лепшымі беларускімі фільмамі. У лютым 1967 г. у Варшаве адбыўся фестываль беларускіх фільмаў. На ім былі прадстаўлены: «Лясная быль» (паводле аповесці М. Чарота) — як першы мастацкі (каляровы) беларускі фільм, і «Двойчы народжаны» як першы беларускі гукавы. Адзін з арганізатараў фестывалю Віктар Швед пісаў: «Двойчы народжаны» — гэта першы гукавы беларускі фільм, прысвечаны жыццю калгаснай вёскі, рэалізаваны рэжысёрам Э. Аршанскім... паводле сцэнарыя Р. Кобеца» («БГКТ. Фестываль беларускіх фільмаў». Ніва. 1967. 19 лютага).

Праз дзесяцігоддзі Э. Аршанскі прыгадваў: «Ні адзін фільм за гады маёй рэжысёрскай работы на беларускай кінастудыі не прыносіў мне столькі радасці і творчага задавальнення, як карціна «Двойчы народжаны». Гэта была прыемная сустрэча з таленавітым, самабытным беларускім драматургам Рыгорам Кобецам і цудоўным майстрам сцэны — акцёрам Уладзімірам Крыловічам» (Э. Аршанскі. «Сустрэчы, якія не забываюцца». ЛіМ. 1969. 30 верас).

Фільм атрымаў вельмі высокую ацэнку і шырокую вядомасць. Першы гукавы, першы на беларускай мове, першы фільм, які меў «самы вялікі поспех кінематографа рэспублікі ў стварэнні нацыянальнага характару» (заслуж. артыст У. Крыловіч у ролі былога канакрада Рыгора Лопуха), першы на сучасную тэму — ён стаў этапным у беларускай кінематаграфіі. Яго хутка знялі з экрана, каб прытрымаць да двух юбілеяў — 15-годдзя БССР і КП(б)Б як першае самае буйное

дасягненне кінастудыі «Савецкая Беларусь». Другі раз фільм з’явіўся на экране ў 1934 г. На дзесяцігоддзе беларускага кіно (1935) Кобец атрымаў званне заслужанага дзеяча мастацтваў БССР за вялікі ўклад у станаўленне і развіццё беларускай кінематаграфіі.

«Фильм имел большой успех. Он стал самой значительной удачей Белгоскино. Как много лет назад, так и сегодня искусствоведы пишут, что “Дважды рожденный” положил начало целому ряду белорусских кинопроизведений, посвященных современности. Если вспомнить, что “Дважды рожденный” еще и первый звуковой белорусский фильм на современную тему и первый фильм, который вышел на экран на белорусском языке, то будет понятней, почему он стал этапным в белорусском киноискусстве» (А. Красінскі. Среди зачинателей // Неман. 1986. № 11). Варта адзначыць, што «Двойчы народжаны» і першы гукавы фільм у савецкай кінематаграфіі на тэму калектывізацыі вёскі.

На пачатку XXI стагоддзя пачалося нешта неверагоднае. Мастацтвазнаўцы выдаюць новую гісторыю беларускага кіно, фальсіфікаваную, у якой Рыгору Кобецу не аказалася дастойнага месца. Кінатворы яго прааналізаваны па-новаму, непрафесійна, скажона, а заслугі першага кінадраматурга прыпісаны іншым аўтарам. Больш за ўсё пацярпеў сцэнарый кінафільма «Двойчы народжаны», які ў «Гісторыі кінамастацтва Беларусі» (2001, першы том) ужо не названы этапным, першым гукавым і першым на беларускай мове. Усё гэта некампетэнтнымі кіназнаўцамі прыпісана фільму «Першы ўзвод» (рэж. У. Корш-Саблін), а ахвярай новага аналізу «Двойчы народжанага» стаў не апошні варыянт сцэнарыя, які ўвайшоў у гісторыю беларускага кіно, а адзін з першых, які ў 1933 г. Паліткантроль забараніў друкаваць. Наўрад ці ведалі аўтары новай гісторыі, што гэты варыянт захоўваецца ў НАРБ, і аналіз рабілі па некаторых газетных публікацыях, каб патрафіць Паліткантролю 1933 г. А ў 1998 г. была знішчана і кінастужка. Кінасцэнарый не друкаваўся больш за 70 год. Аўтару было адмоўлена ў публікацыі нават фрагмента апошняга варыянта кінасцэнарыя. Больш падрабязна аб усім гэтым у кнізе А. Кобец-Філімонавай «Калі ўцякала сонца» (С. 161–276).

Адноўлены кінасцэнарый захоўваецца ў сямейным архіве.

[1] *Рымар* — спецыяліст па конскай збруі і іншых скураных вырабах.

### *Шукальнікі шчасця (с. 143)*

Упершыню — час. «Советиш Геймланд» («Советская Родина». 1986. № 6) у перакладзе з рус. мовы на ідыш (перакладчык П. Кантар) са скарачэннямі; другі раз — у літаратурным штогодніку «Год за годом» (Советский писатель. 1988. Вып. 4) на рус., англ. і франц. мовах; у газ. «Бирабиджанер Штерн» («Бірабіджанская Звязда») на мове ідыш (1998. У 17 нумарах. Публікацыя прысвечана 70-годдзю Бірабіджана). Адноўлены А. Кобец-Філімонавай па першых варыянтах літаратурнага

сцэнарыя, што захоўваюцца ў маскоўскім ЦГАЛИ, і па кінакадрах фільма. Апошні варыянт сцэнарыя не знойдзены.

У «Выбраных творах» друкуецца на беларускай мове поўнасцю ў перакладзе з рускай А. Кобец-Філімонавай.

Кінасцэнарый лепшай беларускай кінакамеды «Шукальнікі шчасця» Р. Кобец пачаў пісаць у 1932 г. пасля таго, як яму на вочы трапіла нататка ў газеце «Правда» пад назвай «З Амерыкі ў Бірабіджан». У ёй расказвалася аб беднай яўрэйскай сям'і, якая блукала па свеце ў пошуках шчасця. Кобец едзе на Далёкі Усход і разам з яўрэямі-перасяленцамі будуе Бірабіджан. У 1934 г. ім напісаны першы варыянт сцэнарыя пад назвай «Шукальнікі шчасця» (праўда, сцэнарый не пра яўрэйскую сям'ю, а пра геолагаў, якія ў тайзе шукаюць золата, а знаходзяць нафту; ідэя фільма тая ж — роздум аб лёсе чалавека, аб яго шчасці), які быў прыняты да пастаноўкі кінастудыяй Белдзяржкіно. Але Кобец скарыстоўвае сюжэт сцэнарыя для лібрэта музкамедыі «Шчаслівы бераг» («Шчаслівы рэйс») і піша новы варыянт сцэнарыя «Шукальнікі шчасця». У 1935 г. быў гатовы асноўны варыянт сцэнарыя, па якім ставіўся фільм. У час кіназдымак да Кобеца далучыўся ў якасці сааўтара малады сцэнарыст І. Зельцэр, якога Р. Кобец, будучы загадчыкам кінасцэнарнага аддзела, вучыў кінасцэнарнаму майстэрству. Першыя варыянты сцэнарыя называліся «Стварэнне свету», «Сям'я» і «Бірабіджан». Урывак з кінасцэнарыя друкаваўся ў газеце ЛіМ у 1935 г.

Фільм выйшаў на экран у 1936 г. Карціна мела вялікі поспех не толькі ў савецкага, але і замежнага гледача. Аб тым, як ствараўся гэты кінатвор, расказаў П. Шамшур у нарысе «Грыша-качагар» (гл. «Дадатак». Сучаснікі пра Кобеца) з дакументальнай аповесці «Белые ночи Белгоскино», з якой захаваліся толькі фрагменты. Цікавасць выклікаюць успаміны кінарэжысёра Н. Любошыца (захоўваюцца ў архіве сектара кіно НАН Беларусі) і самога Р. Кобеца ў яго лісце, зачытаным на 50-годдзі кінафільма «Шукальнікі шчасця» ў Мінскім Доме кіно ў 1986 г. (гл. раздзел «Проза». Першая публікацыя ліста ў літаратурным штогодніку «Год за годом». 1988. Вып. 4. С. 239, 240).

Выключны поспех фільма ў значнай ступені тлумачыцца майстэрствам драматурга. У сцэнарыі прысутнічае паглыбленая ўвага да чалавека і глыбокая распрацоўка характараў. Ні сцэнарый (як літаратурны твор), ні фільм не страцілі сваёй актуальнасці і сёння.

«Шукальнікі шчасця» — першы мастацкі фільм пра будаўніцтва Бірабіджана. Сучасныя крытыкі абвінавачваюць аўтараў фільма ў лакіроўцы рэчаіснасці савецкіх часоў. Але калі чытаеш першыя варыянты сцэнарыя, ніякай лакіроўкі не адчуваеш, гэта азначае, што некаторая плакатнасць, лозунгі на экране — вынікі рэжысёрскіх знаходак. Без урапатрыятычных заклікаў фільм не мог выйсці на экран. Гэтага патрабаваў час з яго камуністычнай ідэалогіяй.

А што датычыць галоўнага героя карціны — Піні, дык з ім адбыўся парадокс. У савецкія часы Піня выглядаў з экрана нікчэмным смешным чалавечкам, які намыў метал замест золата. Яго мара разбагацець лопнула, як бурбалка. Глядач успрымаў адмоўнага героя як адшчапенца са скалечанай капіталістычнай псіхалогіяй. Сёння ж наадварот, Піня са сваёй марай стаць камерсантам выглядае станоўчым героем. Як сказаў украінскі літаратуразнавец У. Басько, «дажыві Піня да нашых дзён, яго, напэўна, паважалі б як сумленнага і шаноўнага камерсанта...» (Босько В. «Серед шукачив щастя були й наші земляки!» Народне слово (Кіровоград). 1996. Серпень. (Да 60-годдзя фільма «Шукальнікі шчасця.)

Фільм забараняўся тры разы. У 1938 г., пасля першага арышту Р. Кобеца, у пасляваенныя гады, калі былі забіты С. Міхоэлс і В. Зускін, у 1969 г. пасля «адлігі» ў перыяд застою.

Стваральнікі фільма: У. Корш-Саблін (рэжысёр-пастаноўшчык), І. Шапіра (сурэжысёр), Р. Кобец (асноўны сцэнарыст), І. Зельцэр (сцэнарыст), С. Міхоэлс (кансультант), Б. Рабаў (аператар), А. Фэдар (мастак); артысты В. Зускін (Піня), М. Блюменталь-Тамарына (Двойра), І. Бій-Бродскі (Шлёма), Л. Шмідт (Роза), Л. Тайц (Бася), Н. Вальяно (Лёва), А. Караў (Натан), С. Яраў (Карней), Б. Жукоўскі (рыбак, бацька Карнея).

Музыка кампазітара І. Дунаеўскага. Некаторыя крытыкі называюць «Шукальнікаў шчасця» музычнай кінакамедыяй — дзякуючы неўміручым песням Дунаеўскага, а некаторыя — псіхалагічнай драмай.

Фільм набыў сусветную вядомасць. У 1987-м быў адноўлены на кінастудыі М. Горкага і запісаны на відэафільм. У 2007 г. фільм запісаны на дыск (Масква. ООО «Компания Восток В». Пад рубрыкай Энциклопедия «Мастера кино»). Пра сцэнарый і фільм «Шукальнікі шчасця» ў кнізе А. Кобец-Філімонавай «Калі ўцякала сонца» (с. 276–322).

[1] *«Дэр Штэрн»* — «Звязда» (*яўр.*).

[2] *«Плач Ізраіля»* — старадаўняя яўрэйская песня.

[3] *«Ройтэ Фелд»* — «Чырвонае поле» (*яўр.*).

[4] *Кузьма Кручкоў* — легендарны герой Першай сусветнай вайны, казак, які адзін перамог семярых нямецкіх салдат (накшталт бравага салдата Швейка або Васі Цёркіна).

### *Паўстанне гневу (с. 186)*

Друкуецца кінааповесць упершыню паводле машынапіснага тэксту, які захоўваецца ў архіве Р. Кобеца.

Спачатку гэта быў кінасцэнарый, напісаны Р. Кобецам (у сааўтарстве з А. Вольным) у 1936 г. пасля таго, як старшыня Саўнаркама М. М. Галадзед у маі 1935 г. звярнуўся з заклікам да пісьменнікаў і кінаработнікаў стварыць 2-серыйны «манументальны кінафільм эпохі Грамадзянскай

вайны» да 20-годдзя Кастрычніцкай рэвалюцыі — пра беларускага «Чапаева», пра барацьбу рабочых і сялян за савецкую ўладу ў Беларусі.

Напісалі сцэнарый Рыгор Кобец і Анатоль Вольны. Беларускі «Чапаеў» быў знойдзены пошукавай групай партыйных работнікаў, якіх ЦК КП(б)Б накіраваў у вояж па рэспубліцы, каб знайсці нацыянальнага героя Грамадзянскай вайны. Такім героем аказаўся Алесь Раманавіч Салавей, які змагаўся за савецкую ўладу на Палессі. З 8 кандыдатур Салавей быў выбраны Галадзедам, Кобецам і Вольным. Стваральнікаў запланаванага фільма кансультавалі ўдзельнікі рэвалюцыйных падзей на Палессі М. А. Ляўкоў, А. І. Ягораў, В. Г. Кнорын, В. Ф. Шаранговіч, Г. Дз. Гай і іншыя.

Гая Гай у сцэнарыі не было, таму што ён быў арыштаваны як «трацкіст» у ліпені 1935 г. Р. Кобец дапісаў эпізоды з Гаем у 1968, калі аднаўляў сцэнарый.

Трэцяга кастрычніка 1936 г. сцэнарый Кобеца і Вольнага быў прынятыя да пастаноўкі кінастудыяй Белдзяржкіно і здадзены ў вытворчасць. Здымаць фільм даручылі рэжысёру Ю. Тарычу. Але з прычыны арышту органамі НКУС А. Вольнага (4 лістапада 1936 г.) і ў ліпені 1935 Гая Гай (удзельніка Грамадзянскай вайны на Палессі, былога камандзіра 3-га коннага корпуса, расстралянага ў 1937 г., як і Вольнага), а пазней арышт Р. Кобеца (1938) і з-за іншых падзей, звязаных з арыштамі так званых «ворагаў народа», якія адбываліся ў краіне ў час «вялікага тэрору», фільм зняць не ўдалося. «Паўстанне гневу» планавалася выпусціць на беларускай мове.

У 1940 г. Р. Кобец (перад другім арыштам у 1941 г.) друкуе ў выдавецтве Дальгіз перапрацаваны сцэнарый як кінааповесць пад назвай «Трафім Бутан». Праз 28 год (у 1968, пасля рэабілітацыі) аднаўляе беларускі варыянт, уносіць у яго значныя дапаўненні, у тым ліку эпізоды з Гаем Гай, аддае як 2-серыйны фільм пад назвай «А хто там ідзе» на кінастудыю «Беларусьфільм», прымеркаваўшы яго да 50-годдзя БССР. На жаль, другі раз сцэнарый не быў прыняты.

Сцэнарый «Паўстанне гневу» шмат дзесяцігоддзяў амаль не прыгадваўся мастацтвазнаўцамі. І толькі ў 2001 г. у новай «Гісторыі кінамастацтва Беларусі» ў раздзеле «Абаронныя фільмы» (с. 151) гісторыка-рэвалюцыйнаму сцэнарыю прысвечана больш за паўстаронкі тэксту. А крыху раней (29 кастрычніка 1999 г.) у «Народнай газеце» быў апублікаваны нарыс «Когда страна прикажет быть героем» Б. Селяменева і Л. Сяліцкай, у якім аўтары, спасылаючыся на знойдзеныя імі архіўныя дакументы 30-х гадоў, не вельмі прыхільна паставіліся да ідэі Гістпарта стварыць кінафільм пра беларускага «Чапаева» толькі таму, што ўдзельніка гістарычных падзей Алеся Раманавіча Салаўя зрабілі нацыянальным героем нібыта «па загаду партыі». А аўтарам яшчэ не існуючага сцэнарыя памылкова назвалі Міхася Лынькова.

У 2006 г. у газеце «Советская Белоруссия» (студзень, № 13–14) надрукаваны яшчэ адзін нарыс (па слядах першага) — «Сага о Соловье», у якім тыя ж аўтары зноў зацыкліліся на пытанні: ці варта Алеся Салаўя называць нацыянальным героем? Яны лічаць, што з-за нявырашанага пытання (каму быць нацыянальным героем з 8 кандыдатур партызанскага руху на Палессі) затрымліваліся кіназдымкі фільма. На самай справе ніякай затрымкі не было. Кобец і Вольны працавалі над сцэнарыем «Паўстанне гневу», пакуль не арыштавалі Вольнага.

Здзіўляе і наступны факт. У нарысе «Сага о Соловье» апублікаваны ліст Гікалы і Галадзеда да Сталіна, знойдзены ў 2005 г. у Расійскім дзяржаўным архіве сацыяльна-палітычнай гісторыі — у фондзе Сталіна беларускім гісторыкам В. Скалабанам, у якім яны просяць усенароднага правадыра дапамагчы ім выбраць нацыянальнага героя Грамадзянскай вайны ў Беларусі. Ліст датаваны 13 мая 1936 г. А крыху раней, 1 мая, ЛіМ змясціў інфармацыю пад назвай «Паўстанне гневу», у якой аб тым, што ў Саюзе пісьменнікаў Беларусі 26 красавіка прайшло абмеркаванне кінасцэнарыя пра беларускага «Чапаева» Алеся Салаўя, напісанага Р. Кобецам і А. Вольным, у якім прымалі ўдзел Я. Купала, М. Лынькоў і інш. А яшчэ раней, 1 студзеня, ЛіМ аб’явіў, што на ролю Салаўя запрошаны заслуж. арт. У. Крыловіч. Вось такі парадокс! (Ліст Сталіну за подпісам М. Гікалы і М. Галадзеда гл. у раздзеле «Дадатак»: Яўген Казюкін. «Хто “ўтапіў” беларускага Чапаева?».)

Сталін не мог не ведаць пра шматлікую інфармацыю ў беларускіх газетах за 1935–1936 гг. аб знойдзеным беларускім «Чапаеве» і на ліст Гікалы і Галадзеда не адказаў. Магчыма, меркаваў, што беларусы лепш ведаюць сваіх герояў, па-другое, навошта падказваць, калі беларускі «Чапаеў» вось ужо год, як знойдзены, нават кіназдымкі хутка пачнуцца. Больш таго, Галадзед не выклікаў сімпатыі ў Сталіна, правадыр лічыў яго ненадзейным: надта ж дбае аб незалежнасці Беларусі, за што і любіць яго народ. А гэта значыць, што Галадзед, як Чарвякоў і іншыя лідэры самастойных дзяржаў, — яго патэнцыяльныя ворагі. Ён іх баяўся. Дый развязка блізілася: праз год (у 1937) Галадзеда, як і многіх, расстраляюць.

А можа, прычына іншая? Можа, усенародны правадыр пакрыўдзіўся за тое, што не яго выбралі ў героі, як гэта зрабіў і Даўжэнка, не зразумеўшы намёку Сталіна і напісаўшы сцэнарый не пра яго, а пра Шчорса, што ваяваў на Паўднёвым фронце?..

Другое пытанне. Чаму ліст Сталіну напісаны з вялікім спазненнем? Пасля таго, як сцэнарый «Паўстанне гневу» быў прыняты ў вытворчасць. Страх? Боязь блізкай расправы?..

Да Алеся Салаўя яшчэ не раз будуць звяртацца гісторыкі і пісьменнікі, бо ён сапраўды нацыянальны герой Беларусі. Алесь Салавей загінуў у баі з белапалякамі, абараняючы Беларусь ад іншаземных захопнікаў (нямецкіх і польскіх). Самародак, народны важак, за якім

пайшлі масы. Ён мае права звацца нацыянальным героем, як і яшчэ сем кандыдатаў (барацьбітоў супраць акупантаў) на ролю беларускага «Чапаева», пра якіх пакуль што амаль нічога не сказана гісторыкамі.

Некаторыя лічаць, што ідэя стварыць кінафільм пра беларускага «Чапаева» належыць не беларусам, а... Маскве, спасылаючыся на ліст Гікалы і Галадзеда Сталіну. Такое заключэнне не адпавядае рэчаіснасці. Аб гэтым сведчаць шматлікія газетныя публікацыі 1930-х гадоў. (Чытай: А. Кобец-Філімонава «Калі ўцякала сонца». С. 348–368.) Фрагменты сцэнарыя друкаваліся: першы раз пад назвай «Паўстанне гневу» (1936, ЛіМ, № 30) з прысвячэннем: «Памяці беларускага партызана Алеся Салаўя»; другі раз пад назвай «Салавей» (1968, час. Беларусь, № 9); пад назвай «Паплаўкі для коней» (ЛіМ, 2003, № 29); у кнізе А. Кобец-Філімонавай «Калі ўцякала сонца» ў раздзеле «Паўстанне гневу». У «Выбраных творах» сцэнарый друкуецца поўнасцю, дапрацаваны і дапоўнены Р. Кобецам у 1968 г.

[1] *Салавей* Аляксандр Раманавіч (1897–1920) — удзельнік барацьбы за савецкую ўладу ў Беларусі, герой Грамадзянскай вайны, у 1918 г. узначальваў партызанскія атрады на тэрыторыі т. зв. «Рудабельскай рэспублікі», камандзір Чырвонай Арміі. Загінуў у баі з белапалякамі.

[2] *Ляўкоў* Максім Архіпавіч (1894–1941) — адзін з арганізатараў і кіраўнікоў партызанскага руху ў Беларусі ў Грамадзянскую вайну, дзяржаўны дзеяч БССР.

[3] *Славінскі* Адам Сямёнавіч (1885–1937) — рэвалюцыянер, партыйны і дзяржаўны дзеяч БССР, удзельнік барацьбы за савецкую ўладу.

[4] *Раман Салавей* — бацька Алеся Салаўя.

[5] *Панафіда* — паніхіда, царкоўная служба па нябожчыку.

[6] *На Пііпаўку* — піліпаўскі пост, у час якога, паводле народнага падання, адбываюцца воўчыя шлюбы.

[7] *«Многая лета»* — царкоўнае песнапенне.

[8] *Ренкі до гуры!* — Рукі ўгору! (*Польск*.)

[9] *Балахоўцы* — добраахвотнікі арміі генерала С. Булак-Балаховіча, якія змагаліся супраць савецкай улады.

[10] *Карпілаўка* — вёска на Палессі на беразе ракі Пціч, дзе нарадзіўся А. Салавей.

[11] *Рудабелка* — мястэчка на Палессі на беразе ракі Нератоўка, якая разам з Карпілаўкай і інш. суседнімі вёскамі стварала валасць Бабруйскага павета. У 1919–1920 гг. валасць называлася Рудабельскай рэспублікай. У 1920 г. польскія карнікі спалілі ўсю валасць. Пазней Рудабелку перайменавалі ў пасёлак Акцябрскі — у гонар Кастрычніцкай рэвалюцыі.

[12] *Імша* — каталіцкая абедня.

[13] *Гарбачоў* Барыс Сяргеевіч ( 1892–1937) — герой Грамадзянскай вайны, камкор. Удзельнік устанаўлення савецкай улады ў Беларусі.

[14] *Ігумен* — старая назва г. Чэрвеня.

[15] *Парадні́чак* — галава сям'і, кармілец.

[16] *Булак-Балаховіч* Станіслаў Нікадзімавіч (1883–1939) — генерал, непрымірымы змагар супраць савецкай улады ў Беларусі, адыёзнейшая асоба часоў Грамадзянскай вайны (з падачы бальшавікоў). Пасля «перабудовы» некаторыя гісторыкі называюць яго нацыянальным героем Беларусі, параўноўваюць з Махно, Чапаевым, Антонавым. Сяляне называлі яго «бацькам», сваім заступнікам.

[17] *«Выезды»* — брычка з коньмі.

[18] *Беларуская цэнтральная рада* — Цэнтральная рада беларускіх арганізацый, створаная ў пачатку ліпеня 1917 г., у якой на мэце было зверджэнне савецкай улады ў Беларусі.

[19] *Беларуская рада вайсковая* — Цэнтральная беларуская вайсковая рада (ЦБВР), створаная беларускімі вайскоўцамі ў лістападзе 1917 г. у Мінску. Гэта арганізацыя займалася фарміраваннем беларускага войска і каардынавала працу беларускіх вайсковых рад. ЦБВР удзельнічала ў стварэнні Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР).

[20] *Карпілаўка, Харомцы, Касорычы* — назвы вёсак былога Бабруйскага павета.

[21] *Кавалі* — вёска на Палессі.

[22] *«Ешчэ Польска не згінэла»* — польскі гімн.

[23] *Савінкаў* Барыс Віктаравіч (1879–1925) — лідэр эсэраўскай партыі, вораг Кастрычніцкай рэвалюцыі і савецкай улады. Заснавальнік «Народнага Саюза Абароны Радзімы і Свабоды» (НСЗРіС), галоўнай мэтай якога было звяржэнне бальшавіцкай улады.

[24] *Валока* — мера зямлі, роўная 21,36 га.

[25] *Антонаў* Аляксандр Сцяпанавіч (1889–1922) — эсэр-максімаліст. Восенню 1920 г. узначаліў паўстанне тамбоўскіх сялян супраць савецкай улады.

[26] *Грыгор'еў* Н. — партызанскі атаман, у гады Грамадзянскай вайны змагаўся супраць Саветаў.

[27] *Цюцюннік* Васіль — змагар за незалежнасць Украіны ў час Грамадзянскай вайны.

[28] *Махно* Нестар (1884–1934) — змагар за незалежнасць Украіны ў час Грамадзянскай вайны.

[29] *«Таўкачыкі»* — беларускі народны танец.

[30] *Загібелькі, Прытыкі, Зарэчча, Тамашэвічы* — назвы мястэчак на Палессі.

[31] *Драпеза* Анупрэй — удзельнік барацьбы за савецкую ўладу ў Беларусі ў час Грамадзянскай вайны.

[32] *Малаковіч* Пракоп Дзянісавіч (1895–1937) — удзельнік партызанскага руху ў Беларусі ў Грамадзянскую вайну, дзяржаўны дзеяч БССР.

[33] *Палкоўнік Паўлоўскі* — паплечнік Б. Савінкава ў барацьбе з бальшавікамі. Узначальваў атрад, сфарміраваны з разбітага воінства генералаў — братоў Булак-Балаховічаў.

[34] *Ус* Максім Філімонавіч, *Салавей* Раман, *Корзун* Змітрок, *Дзядуля* Лявон — удзельнікі партызанскага руху ў Беларусі ў Грамадзянскую вайну.

[35] *Каб на іх пранцы...* — праклён. Пранцы — так у народзе называлася венерычная хвароба сіфіліс, завезеная ў Беларусь у 1812 г. напалеонаўскай арміяй. «Пранцы» — перайначанае слова «франциы» (французы).

[36] *Прэнтко!* — Хутка! (*Польск.*)

[37] *Пшэклента* — праклятае (*польск.*).

[38] *Халопенічы* — вёска на Палессі.

[39] *Нех жые Матка Боска похвал* — няхай жыве Маці Божая (*польск.*).

[40] *Бронь Божа!* — Божа барані! (*Польск.*)

[41] *То бэндзе бардзо добжэ!* — Гэта будзе вельмі добра! (*Польск.*)

[42] *Пан мувіць па-польскему?* — Пан гаворыць па-польску? (*Польск.*)

[43] *Естэм* — тут у сэнсе ёсць (*польск.*).

[44] *Адзінцоў* Лявонцій Яфімавіч (1891–1942) — удзельнік барацьбы за савецкую ўладу ў Беларусі ў Грамадзянскую вайну.

[45] *Хцэш* — хочаш (*польск.*).

[46] *Цо ніц не мувіш?* — Чаму маўчыш? (*Польск.*)

[47] *...маёнткам барона Урангеля...* — Маёнтак белага генерала Урангеля знаходзіўся паблізу ад Рудабелкі.

[48] *Засценкі* — невялікія шляхецкія маёнткі.

[49] *Гай* Гая Дзмітрыевіч (1887–1937) — герой Грамадзянскай вайны, камкор. Удзельнічаў у вызваленні Беларусі ад польскіх акупантаў.

[50] *Мяснікоў* Аляксандр Фёдаравіч (1886–1925) — савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч, адзін з кіраўнікоў барацьбы за савецкую ўладу ў Беларусі.

[51] *Бабруйская крэпасць* — бабруйская турма.

[52] *Нератоўка* — прыток р. Пціч.

[53] *Дыбенка* Павел Яфімавіч (1889–1938) — палітычны і ваенны дзеяч савецкай Расіі, балтыйскі матрос, анархіст у раннія гады, пасля адзін з найбуйнейшых савецкіх военачальнікаў у Грамадзянскую вайну. Расстраляны ў 1938 г.

[54] *Палкі Самарскай дывізіі* — 7-я Самарская кавалерыйская дывізія нейкі час размяшчалася ў Беларусі. Камандзірам і ваенкомам быў Г. Д. Гай.

[55] *Бунчук* — кароткая палка з прывязаным конскім хвастом.

### *Героі Балтыкі (с. 285)*

Кінааповесць упершыню выйшла асобным выданнем у 1939 г. у Дальгізе. Другая назва: «Лядовы паход». Пад гэтай назвай апублікаваны фрагменты ў кн. А. Кобец-Філімонавай «Калі ўцякала сонца» (С. 369–385).

У аснове кінатвора — паслярэвалюцыйная падзея, гістарычны факт аб тым, як у красавіку 1918 г. маракі Балтыйскага флоту не паддаліся на правакацыю тых, хто намагаўся сарваць Брэсцкае пагадненне аб міры, каб уцягнуць у вайну маладую савецкую Расію. Ніводным стрэлам не адказалі маракі на артабстрэл з боку ворагаў і вывелі ваенныя караблі з Фінляндыі, уратавалі ад германскіх захопнікаў. У. І. Ленін вельмі вялікае значэнне надаваў гэтаму Лядоваму паходу, адным з кіраўнікоm якога быў Фёдар Раскольнікаў. У аповесці і пра тое, як быў падаўлены мяцеж на судне «Кречет». Пакуль што гэта адзіны твор пра знакаміты Лядовы паход.

У кінатворы паказаны мужнасць і гераізм балтыйскіх маракоў. Але вайну савецкай Расіі з Фінляндыяй нельга назваць абароннай. У 1918 г. фіны вялі вызваленчую вайну супраць краіны Саветаў, бо знаходжанне савецкай ваеннай эскадры на іх тэрыторыі было вялікай пагрозай для незалежнасці іхняй краіны. Яны абаранялі незалежнасць Фінляндыі, каб не ператварыцца ў аўтаномную вобласць Савецкага Саюза без нацыянальных свабод, без дзяржаўнасці. З успамінаў маршала ўзброеных сіл Фінляндыі Карла Густава Манергейма, удзельніка вайны з савецкай Расіяй: «...страну оккупировали русские войска... их пребывание на финской территории имело вполне определенную цель: присоединить в дальнейшем наше государство к России... Общая численность русской армии в Финляндии в январе 1918 года составляла приблизительно 40000 человек» (Маннергейм К.-Г. Мемуары. М.: Вагриус. 1999).

Фільм па сцэнарыі не ставіўся. Кінааповесць Р. Кобец напісаў у г. Хабараўску, дзе некаторы час пасля першага арышту жыў пісьменнік, паўторна арыштаваны ў 1941 г.

Друкуецца ў перакладзе на беларускую мову А. Кобец-Філімонавай.

[1] *Гельсінгфорс* — Хельсінкі, сталіца Фінляндыі.

[2] *Галс* — снасць бягучага судна.

[3] *Шкоты* — частка снасці.

[4] *Шуцкор*— ваенізаваная арганізацыя ў Фінляндыі, створаная ў 1917 г. для падаўлення рэвалюцыйнага руху.

[5] *Перрекелле!* — фінская лаянка.

# ПРОЗА

## *Некалькі слоў пра кінакадры (с. 329)*

Друкуецца паводле газ. ЛіМ, 11 крас. 1932 г., дзе апублікаваны ўпершыню.

[1] *Спадарожнікі* — пісьменнікі, творы якіх не адпавядалі савецкай ідэалогіі.

## *Як я працаваў над гукавой кінадрамай «Двойчы народжаны» (с. 330)*

Друкуецца паводле газ. «Савецкая Беларусь», 27 ліст. 1932 г., № 261, дзе публікавалася ўпершыню. Другі раз: у кн. А. Кобец-Філімонавай «Калі ўцякала сонца» (С. 245–247.)

Аповед Кобеца аб адным з першых варыянтаў кінасцэнарыя «Двойчы народжаны, які ў студзені 1933 г. быў забаронены Паліткантролем ЦК КПБ і дапрацаваны аўтарам.

Музыку да фільма напісаў кампазітар І. Дунаеўскі. Пачыналі Я. Цікоцкі і І. Любан. Гэта быў першы гукавы беларускамоўны сцэнарый фільма, выпуск якога планаваўся на 1932 г. Але прабівацца на экран яму было цяжка. Захаваўся ў НАРБ (ф. 4п, воп. 1) ліст сакратару ЦК ВКП(б) Постышаву ад ЦК КП(б)Б, у якім ідзе гаворка аб праблемах мовы ў гукавых кінафільмах:

«1932 год является переломным в развитии Белорусской Советской Кинематографии. Впервые в этом году приступлено в довольно широких размерах к производству звуковых картин. В связи с этим чрезвычайно серьезно встал вопрос о языке звуковых картин…

Белорусские киноорганизации при развертывании производства новых картин поставили этот вопрос перед руководством Союзкино в таком направлении, чтобы продукция Белорусской фабрики в основной массе шла на белорусском языке...

Такое требование является единственно правильным...

Эта постановка вопроса в органах Союзкино не встретила поддержки.

[…]

Фактически в 32 году по плану Союзкино должно производиться 22 картины на русском языке, 1 на еврейском и русском, и только для картины на белорусском языке из общего количества 5 единиц.

Считая такое положение в основе неправильным, ЦК КП(б)Б просит рассмотреть этот вопрос и дать соответствующее указание руководству Союзкино.

*Секретарь ЦК КП(б)Б».*

(Копія ліста ў архіве няпоўная. Прозвішча сакратара і дата адсутнічаюць.)

### *Купалава ноч (с. 332)*

Друкуецца паводле час. «Першацвет», 1998, № 5, дзе апублікаваны ўпершыню з пасляслоўем А. Кобец-Філімонавай «Да 100-годдзя Рыгора Кобеца».

Успаміны напісаны па просьбе Уладзіславы Францаўны Луцэвіч (жонкі Я. Купалы) у той час, калі яна займалася арганізацыяй музея беларускага песняра на вуліцы Янкі Купалы. Напісаны Р. Кобецам на рускай мове ў ссылцы. Рукапіс захоўваецца ў літаратурным музеі Я. Купалы (ЛМЯнК, ф. 1, воп. 1, адз. зах. 42).

Пераклад на беларускую мову А. Кобец-Філімонавай «Купалава ноч» прыгадваецца ў энцыклапедычным даведніку «Янка Купала», Мінск, 1986, с. 300 у тэксце «Кобец Рыгор Якаўлевіч (псеўд. Грыша Лахматы…»).

З пасляслоўя: «Лета 1959 г. Я спускаюся з ганка двухпавярховага асабняка, у якім размясціўся Саюз пісьменнікаў (гістарычны дамок, што ўтульна стаяў у садку па вуліцы Энгельса, быў знесены, каб не засланяў будынак ЦК КПБ). На двары стаіць група пісьменнікаў, акружыўшы невысокую мажную жанчыну з балесным ветлівым тварам і добрымі ўважлівымі вачыма. Гэта — цётка Уладзя, жонка Янкі Купалы. Мяне паклікалі і пазнаёмілі з ёю. Пачуўшы, што мой бацька, Рыгор Кобец, яшчэ не вярнуўся з ссылкі і што Пятрусь Броўка разам з праўленнем Саюза пісьменнікаў займаецца яго рэабілітацыяй, Уладзіслава Францаўна папрасіла, каб ён напісаў успаміны пра Івана Дамінікавіча для купалаўскага музея.

— Хто-хто, а Кобец можа шмат напісаць пра Янку, — сказала яна.

Я напісала бацьку. Ён выканаў просьбу Уладзіславы Францаўны...»

У 1968 г. супрацоўнікі музея Я. Купалы ў віншаванні Р.Кобеца з яго 70-годдзем пісалі: «Ваша імя паэта і нарысіста, драматурга і сцэнарыста шырока вядома не толькі ў рэспубліцы, але і далёка за межамі нашага краю. П’еса «Гута», напісаная Вамі, упрыгожвала рэпертуар купалаўскага тэатра. Фільм «Шукальнікі шчасця», які да гэтага часу ідзе на экранах краіны, з’яўляецца дасягненнем савецкага кіно.

Нам Вы блізкія і таму, што Вы добра ведалі Янку Купалу, напісалі цудоўныя ўспаміны пра яго і час ад часу выступаеце на літаратурных вечарах, расказваючы аб гэтых незабыўных сустрэчах. Спадзяемся, што Вы будзеце і надалей у нашым актыве...»

З таго ж пасляслоўя: «Амаль усе, запрошаныя Янкам Купалам на юшку, пасля рыбалкі на Свіслачы, якую прыгадаў у сваіх успамінах «Купалава ноч» мой бацька, у 1937 былі расстраляныя (Анатоль Вольны, Валерый Маракоў, Алесь Дудар, Міхась Чарот). Андрэя Александровіча арыштавалі ў 1938, пасля ГУЛАГа вярнуўся з падарваным здароўем і неўзабаве памёр. Горкі лёс напаткаў і майго бацьку:

пасля 22 гадоў рэпрэсій ён толькі пасля рэабілітацыі колькі гадоў пажыў спакойна, а як скончылася «хрушчоўская адліга», яго раптам пазбавілі персанальнай пенсіі рэспубліканскага значэння (за анархію ў 20-м годзе), потым перасталі друкаваць... і пачалася траўля старога хворага чалавека, якая не спынялася да апошніх яго дзён».

Успаміны друкуюцца без пасляслоўя.

[1] *Банцыроўшчына* — вёска на беразе р. Свіслач пад Мінскам.

[2] *Гарадская конка* — вагон, які цягнулі коні па рэйках, калі яшчэ не было трамваяў.

[3] *Старажоўка* — старая назва аднаго з раёнаў Мінска.

### *Спрэчка (с. 341)*

Друкуецца паводле час. «Беларусь», 1962, № 7, як урывак з нарыса «Сорак пяты падмурак», дзе апублікаваны ўпершыню.

### *На ўмацаванне... (с. 343)*

Друкуецца паводле час. «Мастацтва Беларусі», 1988, № 6, дзе апублікаваны ўпершыню. Першая назва — «У калгасах не адразу быў мёд». Кобец шмат ездзіў па Беларусі ў якасці журналіста ад газеты «Рабочий» (ён загадваў аддзелам сельскай гаспадаркі), што давала яму магчымасць вывучаць калектывізацыю. Ва ўспамінах — пра тое, як у 1929 г. Кобец разам з членамі ўрада наведаў некалькі раёнаў, у якіх сяляне не хацелі ўступаць у калгасы. Малады журналіст запісваў у свой блакнот, як Галадзед і Чарвякоў агітавалі за калгасы. Блакнотныя запісы ў далейшым дапамаглі яму ў напісанні кінасцэнарыя да фільма «Двойчы народжаны».

З гэтага кароткага ўспаміну вельмі выразна паўстаюць гады станаўлення савецкай улады на беларускай зямлі, скупымі штрыхамі Р. Кобец перадае характары шчырых сумленных людзей, якімі былі М. Галадзед і А. Чарвякоў (знішчаныя ў гады «вялікага тэрору»). З гэтага ўспаміну відаць аблічча і самога Р. Кобеца, які карыстаўся любоўю і павагай з боку старшыні Саўнаркама М. Галадзеда. Таму што ў асобе Р. Кобеца М. Галадзед бачыў не абы-які талент і спрыяў яго развіццю, бо разумеў, што такія людзі нямала зробяць для росквіту беларускай культуры. І ён не памыліўся.

У сваім успаміне Р. Кобец расказвае таксама пра тое, як ён ствараў і ўмацоўваў нацыянальную кінастудыю «Савецкая Беларусь», якая толькі нараджалася, як пісаў сцэнарый першага гукавога мастацкага і першага беларускамоўнага фільма, калі яшчэ толькі вынаходзілася гукавое кіно.

Успамін «На ўмацаванне…» — гэта, па сутнасці, выступленне Рыгора Кобеца ў студзені 1964 года на семінары «Гісторыя беларускага кіно», прысвечанага 30-годдзю фільма «Двойчы народжаны», запісанае метадыстам Дома кіно І. Рэзнікам, пазней адрэдагаванае Р. Кобецам.

Падрабязней пра гэта ў кнізе А. Кобец-Філімонавай «Калі ўцякала сонца».

[1] Фільм выйшаў на экран у 1933 г.

*Аўтабіяграфія (с. 348)*

Друкуецца паводле выд.: Вытокі песні: Аўтабіяграфіі беларускіх пісьменнікаў. Мінск, 1973, дзе апублікавана ўпершыню.

У гэтым выданні адноўлены купюры і выпраўлены наўмысныя скажэнні біяграфічных фактаў, якія былі зроблены рэдактарам выдавецтва «Мастацкая літаратура» П. Шаўцовым і якія, на вялікі жаль, перадрукоўваюцца ў іншых выданнях па сённяшні дзень.

«Аўтабіяграфія» напісана па просьбе Кіраваградскага абласнога гісторыка-краязнаўчага музея ў 1967 г. Гэта не проста анкета, запоўненая Р. Кобецам, а шчырая споведзь чалавека вельмі цяжкага, складанага лёсу, які заблытаўся ў супярэчаннях жыцця і таксама, як героі яго твораў, на пачатку рэвалюцыі не ведаў, да якога берага прыстаць. Перад вачыма ўсплывае ўся гісторыя савецкай краіны, пачынаючы з дарэвалюцыйнага часу. Паказваецца Лютаўская рэвалюцыя, кастрычніцкі пераварот, Грамадзянская вайна, станаўленне савецкай улады, змрочныя гады культу асобы і, нарэшце, перыяд жыцця, пачынаючы з 1960-х гадоў. Паўстаюць перад намі са старонак «Аўтабіяграфіі» і цікавыя людзі, якія паўплывалі на светапогляд і лёс маладога Кобеца. Усё, што напісаў Кобец у сваёй «Аўтабіяграфіі», пацвердзілася архіўнымі дакументамі.

«Аўтабіяграфію» суправаджае ліст да земляка, украінскага пісьменніка і краязнаўца У. В. Чабаненкі:

«Паважаны таварыш Чабаненка!

Перш за ўсё даруйце мне за тое, што вельмі доўга не адказваў на Ваш цёплы, сяброўскі ліст. Паверце! Гэта не мая віна. Доўгі час мяне не было ў Мінску, і ліст хадзіў па руках, пакуль мяне не знайшоў.

Усхваляваў мяне Ваш ліст да глыбіні душы. Падумаць толькі! За 47 гадоў я атрымаў першую вестачку з роднага горада, таго горада, у якім прайшло маё цяжкае дзяцінства і вельмі трывожнае юнацтва. Дзякуй Вам! Ад Вашага ліста дыхнула водарам любай радзімы. Радуюся, хвалююся і спяшаюся Вам адказаць. Вы просіце даслаць маю аўтабіяграфію і фота. Ахвотна, з хваляваннем і задавальненнем выконваю Вашу просьбу, хаця, праўду кажучы, не ведаю, ці спадабаецца яна Вам.

Паважаны таварыш Чабаненка! У Вас, напэўна, узнікне пытанне: як я жыву ў сённяшні час? Адказваю: я член ССП і Саюза кінематаграфістаў. Атрымліваю пенсію па старасці. Я — заслужаны дзеяч мастацтваў БССР. Імя маё ўвайшло ў гісторыю літаратуры Беларусі, гісторыю беларускага тэатра, у гісторыю кінематаграфістаў БССР. Увайшло маё імя ў літаратурную энцыклапедыю, у тэатральную энцыклапедыю.

Маю сям’ю: жонку — Соф’ю Аляксееўну, двух сыноў і дачку. Старэйшы сын, Мікалай Кобец, — юрыст. Ён ужо кандыдат юрыдычных навук. Малодшы сын, Яўген Кобец, — інжынер лёгкай прамысловасці. Дачка, Алена Кобец, — пісьменніца. Яна празаік, паэтэса, нарысістка. Мае свае працы. Яна член ССП. Закончыла Мінскую кансерваторыю па класу фартэп’яна. Ёсць у мяне ўнукі. Старэйшая унучка, Наталля Кобец, ужо студэнтка Ін’яза. Браты-пісьменнікі ставяцца да мяне па-сяброўску, Савецкі ўрад — па-бацькоўску, і ўсё ж… бывае горыч. У Нью-Ёрку беларусы выдалі на англійскай мове важкую кнігу «Гісторыя беларускага тэатра і драматургіі». Аўтар — прафесар Сядура. У гэтай кнізе змешчаны мой партрэт у жалобнай рамцы. Пад партрэтам —надпіс: «Таленавіты беларускі драматург Рыгор Кобец, які трапіў у 1936 г. у падвал НКУС, каб ніколі не ўваскрэснуць». Вось як! Зажыва пахавалі і праліваюць кракадзілавы слёзы па драматургу, якога яны ненавідзяць, якога яны ж «травілі» з усяе сілы… Але трапляюцца і «сябры» іншага сорту. Гэта так званыя «артадоксы-начотчыкі». Яны ўмудрыліся ўкрыцца ад усіх сацыяльных бур па ціхіх, утульных затоках, а калі наўкола стала бяспечна, яны павыпаўзалі з зацішша і пачалі ўсіх павучаць, настаўляць, загадваць і папракаць. Іх, праўда, нямнога… адзінкі, а можа, дзесяткі, але кусаюць яны яхідна і джаляць, як скарпіёны.

— Ты, Рыгор, не наш… не беларус. Ты ўкраінец ды яшчэ анархіст.

І намагаюцца хоць шапаткам, але ганіць, караць замоўчваннем, адпіхнуць ад творчасці, аддаць астракізму. І тады ў мяне наступаюць прыступы настальгіі, туга па радзіме, і тады на паперу кладуцца такія радкі:

Нэ одвернись вид мэнэ, Україна  
(Я Билорусь до сэрца пригорнув),  
Пробач свого катованого сина  
За тэ, що ридну мову вин забув.

Я моцна, усёй душой люблю Украіну, і так жа моцна люблю Беларусь. Люблю яе, як другую маці… На маім лёсе, на маім жыцці яскрава адлюстравана марксісцкая аксіёма «Бытие определяет сознание». Калі б трапіў я ў юнацкія гады ў іншае асяроддзе, не нарабіў бы глупстваў, якія цяжкім грузам леглі на ўсё маё жыццё. Кожны з нас павінен пакінуць пасля сябе хоць невялікі, але добры след. Праўда, і я недарма пражыў на свеце, і я пакінуў след, але калі б у гады майго юнацтва я трапіў у рукі добрых людзей — мой след мог быць глыбейшым і больш карысным для ўсіх.

Не асудзіце мяне і зразумейце правільна. Кажуць жа французы: «Понять — значит, простить».

Паважаны таварыш Чабаненка! Прабачце за нескладны пераказ маёй аўтабіяграфіі. Хваляваўся я дужа. Дый як не хвалявацца? За 47 год — адказваць на першую вестачку ад землякоў. Паверце: у маёй аўтабіяграфіі няма ні каліва выдумкі. Усё расказана дакладна, усе прозвішчы і мянушкі — сапраўдныя. Для Вас, магчыма, гэта навіна, а ў Беларусі мяне ведаюць, як аблупленага, хоць часам мне гэта вылазіць бокам. Усе дакументы, і мае, і пра мяне, на маё шчасце, захаваліся і знаходзяцца ў архівах органаў КДБ, Гістпарта і нават у Літаратурным музеі СССР («Никитинские субботники»). Калі Вам спатрэбяцца дадатковыя звесткі, вазьміце іх у родных, можа, яны жывыя. Даю адрасы.

Лявонцій Сямёнавіч Галаваты, Панцялей Сямёнавіч Галаваты (Новая Кушчоўка, 7 вуліца). Драч Іван, Драч Міхаіл, абодва Гаўрылавічы. Жывуць на Старой Кушчоўцы (Вясёлы завулак). Ганна Аляксееўна Сотнік, Кіліна Аляксееўна Сотнік, Еўдакія Аляксееўна Сотнік (Старая Кушчоўка, Вясёлы завулак). Усё гэта мае стрыечныя браты і сёстры. Упэўнены, што яны мяне сто разоў пахавалі і дзвесце разоў забылі. Гэта ж за 47 гадоў не было ніякай сувязі.

Паважаны таварыш Чабаненка! Дазвольце яшчэ раз падзякаваць Вам за ліст. Прашу перадаць маё самае сардэчнае прывітанне таварышам з літаратурнага аб’яднання Кіраваграда. Я не ведаю, як Вы паставіцеся да майго ліста, але… прашу Вас адказаць мне. Ласкава ці сурова-халадна, але адказаць абавязкова. (Баюся крушэння ілюзій.) І яшчэ. У 1939 г. я напісаў з Хабараўска ліст рэдактару кіраваградскай газеты (назвы не памятаю, а прозвішча рэдактара ў памяці захавалася — Цыгерт). Дык вось, у тым жа лісце я паведаміў аб наяўнасці руды ў яры за Курганом (за магілай, Завадивска Круга). У адным з левых адхонаў (калі ад галавы яру) амаль на віду агалілася руда. Мне там давялося хавацца ад немцаў у 1918 г. Я пра гэта пісаў і прыклаў план да ліста (праўда, грубы, аляпаваты). Вось мне і хочацца ведаць, знайшлі тую руду ці не. Калі знойдзеце час — паведамце.

З пісьменнікаў Кіраваграда ў Мінску жыве Спрынчан. Ён працуе ў часопісе «Нёман». Паэт, і неблагі паэт. Мае свае зборнікі вершаў. Я паказваў яму Ваш ліст і параіў спісацца з вамі.

Усё. Будзьце здаровы! Моцна цісну рукі, дарагія мае землякі.

*Ваш зямляк Рыгор Кобец (Сандыга)*
*1967 г., Мінск».*

[1] *12 ліпеня* — сапраўдная дата нараджэння Р. Кобеца — 7 ліпеня.

[2] *Сандыга* Мусій Іванавіч — айчым Р. Кобеца. У метрычнай кнізе кіраваградскай царквы Міхаіл Драч усыноўлены айчымам Сандыгам 2 ліпеня 1915 г.

[3] *Валохін* Уладзімір — у Кіраваградскім абласным дзяржаўным архіве — Глеб Валохін (заўв. уклад.).

[4] *Так завяршылася мая адукацыя.* — Больш дасканала ў дакументах Кіраваградскага абласнога дзяржаўнага архіва.

[5] *Наважыў змясціць у ёй пару вершаў.* — Даследчыкамі Кіравагградскага літаратурна-мемарыяльнага музея І. К. Карпенкі-Карага знойдзены першыя публікацыі сатырычных вершаў Р. Кобеца ў газеце «Друг народа»: «Лавочка» (1918), «Праздничный сюрприз» (1919), «Сон обывателя под Новый год» (1919).

[6] *Банда Марусі* — Маруся Нікіфарава — самая вядомая тэрарыстка свайго часу.

[7] *Ягода* Генрых Рыгоравіч (1891–1938) — начальнік НКУС СССР.

[8] *Нагішкін* Дзмітрый Дзмітрыевіч (1909–1961) — савецкі пісьменнік. Аўтар рамана «Сэрца Банівура». Адзін з даносчыкаў, па віне якога Р. Кобец быў сасланы на 10 гадоў у сібірскі лагер Тайшэтлаг Асобай Нарадай НКУС СССР за «антысавецкую агітацыю», а затым у пажыццёвую ссылку ў Кіргізію. Пра данос Нагішкіна сведчыць і сам Кобец у сваіх успамінах, дзе піша пра вочную стаўку з ім у НКУСе, дый захаваліся дакументы ў КДБ, копіі якіх былі дасланы дачцэ Р. Кобеца. Нагішкін не толькі на Кобеца пісаў данос. З ліста ленінградскага паэта Сямёна Бытавога Рыгору Кобецу: «…а ці не прыклаў Дзіма руку да ТОЗа (Таварыства па апрацоўцы зямлі. — *А. К.-Ф.*) увогуле, дзе была ў тыя гады жахлівая ўцечка людзей? Можа, і так!»

Калі Кобец адбываў тэрмін у Тайшэтлагу, час ад часу ён пасылаў адтуль лісты ў Хабараўск Д. Нагішкіну, у якіх было толькі два словы: «Я жывы». Пасля гэтых лістоў знерваваны даносчык памяняў месца жыхарства, з’ехаў у прыбалтыйскі горад Рыгу, дзе і завяршыў свой жыццёвы шлях у час хрушчоўскай «адлігі», у нецвярозым стане трапіўшы пад электрычку.

[9] *Чайбалсан* Хорлогійн (1895–1952) — глава Мангольскай Народнай Рэспублікі. Палітычны лідэр з 1930-х гг. Быў паслядоўнікам Сталіна, праводзіў масавыя беспадстаўныя рэпрэсіі. Пры жыцці Чайбалсана ў Манголіі існаваў культ яго асобы, як і культ асобы Сталіна ў СССР.

[10] *…паехаў у Мінск…* — Р. Кобец вярнуўся ў Мінск у маі 1960 г., дзе быў поўнасцю рэабілітаваны 19 ліст. 1960 г.

### *Ажыццёўленая мара (с. 376)*

Друкуецца паводле выд.: Максім Горкі і Беларусь. Мінск, 1968, С. 88–104, дзе поўнасцю апублікавана ўпершыню.

Успамін аб М. Горкім Р. Кобец напісаў праз 39 год пасля сустрэчы з ім на станцыі Негарэлае, дзе вітаў вялікага пралетарскага пісьменніка ад імя рабочых Беларусі ў 1928 г., калі той вяртаўся з Сарэнта. З прывітальнай прамовай Кобец выступіў па загаду заводскага камітэта будучы качагарам і лепшым рабкарам завода «Беларусь». Расказвалі, што самай яркай прамовай была Кобеца. Мусіць, таму не толькі рэспубліканскія газеты з захапленнем пісалі менавіта аб

кароткай прамове маладога рабочага і тым уражанні, якое зрабіла яна на М. Горкага. Пра гэту сустрэчу і хвалюючую прамову Кобеца праз шмат гадоў з цеплынёй успамінаў вядомы маскоўскі пісьменнік і журналіст Марк Чарны ў сваёй кнізе «Ушедшие годы»: «Горкі падняўся на прыступкі савецкага вагона, і адразу пачаўся мітынг. На першую прыступку ўскочыў качагар мінскага завода «Беларусь» Рыгор Кобец. Ён неяк адчайна махнуў рукой і сказаў: «Нас праслалі мінскія рабочыя даведацца — ці засумаваў па нас Аляксей Максімавіч, як мы па ім? Мы хочам параіцца з ім аб розных нашых справах. І яшчэ хочам ведаць, як яго здароўе, ці зможа ён застацца з намі назаўсёды...»

Горкі нахіліўся, абняў Кобеца і пацалаваў. А калі поезд пад крыкі «ўра» і шумныя прывітанні адышоў, ужо ў вагоне «Аляксей Максімавіч успомніў пра качагара Кобеца, — далей піша Чарны, — які выступаў у Негарэлым. Рыгор Кобец аказаўся тут жа, у поездзе. Яго паклікалі. Горкі, усміхаючыся, падняўся яму насустрач: «А, вось і ты. Я, ведаеш, хачу проста пацiснуць табе лапу. Вельмі ж ты хараша гаварыў...» (М. Чарный. Ушедшие годы. М., 1967, с. 102. Пер. з рус. мовы А. Кобец-Філімонавай).

Успаміны напісаны Р. Кобецам па просьбе выдавецтва «Беларусь».

У 1968 г. надрукаваны першы варыянт успамінаў у час. «Полымя», № 3 пад назвай «На ўсё жыццё».

[1] *Катоўскі* Рыгор Іванавіч (1881–1925) — герой Грамадзянскай вайны.

[2] *Галавач* Платон (1903–1937), *Гартны* Цішка (1887–1937), *Александровіч* Андрэй (1906–1963) — беларускія савецкія пісьменнікі.

[3] *Сцяпанаў-Скварцоў* І. І. — вядомы стары бальшавік, у той час адказны рэдактар газеты «Известия». Узначальваў асобую камісію, якая выехала з Масквы сустракаць М. Горкага.

[4] *Халатаў* А. Б. — кіраўнік «Госиздата».

### *Творчая садружнасць (с. 378)*

Друкуецца паводле час. «Маладосць», 1987, № 12, дзе апублікаваны ўпершыню пад назвай «Садружнасць» (у рукапісе «Творчая садружнасць»).

Успамін пра першыя крокі ў тэатры, пра першую п’есу «Гута», пра У. Крыловіча, цудоўнага беларускага артыста, высакароднага і шчырага чалавека, які меў вялікі ўплыў на творчасць Р. Кобеца. У. Крыловіч выконваў галоўныя ролі амаль ва ўсіх яго драматычных творах: Мароза («Гута»), Рыгора Лопуха («Двойчы народжаны»), Нічыпара Чэха («Дняпро ў агні»). Р. Кобец часта прыгадваў, што ролю Рыгора Лопуха ён пісаў толькі для У. Крыловіча, бо нават не ўяўляў на гэтай ролі іншага артыста.

У «Творчую садружнасць» Р. Кобец уключыў фрагмент з літаратурнай гумарэскі А. Вольнага «Рыгор Кобец» (Літаратурны сілуэт «Рыгор Кобец». ЛіМ, № 34, 1935). Гэты сяброўскі шарж на Р. Кобеца хаця і гратэскава, але яскрава адлюстроўвае яго першыя крокі ў тэатральнай драматургіі, у прыватнасці ў БДТ-1, дзе яго спачатку спаткалі не вельмі ветліва.

Сцэнарый «Дняпро ў агні» (Р. Кобеца і І. Барашкі) распавядае аб тым, як усеагульная хваля стачак і забастовак, што ахапіла ўсю царскую Расію напярэдадні рэвалюцыі 1905 года, дакацілася і да глухога мястэчка беларускага Палесся. У фільме паказана, як бастуюць сплаўшчыкі лесу на Дняпры і Сажы ў прыдняпроўскім мястэчку Лоева.

У цэнтры кінатвора «Дняпро ў агні» — Нічыпар Чэх (У. Крыловіч), атаман плытагонаў, які ўзначальвае лепшую на Дняпры арцель сплаўшчыкаў. Праз яго лёс у сцэнарыі паказаны працэс абуджэння свядомасці цёмных падманутых людзей. Фільм жорстка крытыкаваўся. Аўтарам сцэнарыя не маглі дараваць тое, што слаба паказаны ўплыў бальшавікоў на свядомасць бастуючых плытагонаў, і фільм быў аб’яўлены апалітычным і антымастацкім. Але нападкі на сцэнарый былі несправядлівыя. Некаторыя крытыкі, напрыклад, сцвярджалі, што настолькі слаба выпісаны ў сцэнарыі характар Нічыпара Чэха, што давялося на гэтую ролю запрасіць заслужанага артыста У. Крыловіча, каб ратаваць становішча. На самай сплаве У. Крыловіч быў запрошаны з другой нагоды. Гэта быў час, калі кінастудыю «Савецкая Беларусь» пачалі называць «беспрытульнай», па-першае, таму, што яна ўсё яшчэ знаходзілася ў Ленінградзе, а па-другое, — па-ранейшаму ў беларускіх фільмах здымаліся маскоўскія і ленінградскія акцёры. Вось як у той час пісала газета ЛіМ: «Надаючы асаблівае значэнне ўдзелу акцёраў тэатраў БССР у беларускай савецкай кінематаграфіі, дырэкцыя кінафабрыкі мае цвёрды намер запрасіць на галоўныя ролі ў гэтых фільмах (гаворка ідзе аб двух фільмах — «Дняпро ў агні» і «Салавей», апошні паводле сцэнарыя З. Бядулі і Н. Таўбе) засл. арт. БССР Крыловіча і арт. Грыгоніса».

Дасталося ад крытыкаў і атаману Нічыпару Чэху, ролю якога выконваў У. Крыловіч: «Никифор Чех — вожак сплавщиков — показан в фильме каким-то заросшим кретином-дикарем. Переход Никифора Чеха — штрейкбрехера и пьяницы — на сторону стачечников в фильме происходит совершенно необоснованно...» Паклёпніцкія водгукі на фільм і на Крыловіча, на вялікі жаль, друкаваліся беларускімі мастацтвазнаўцамі і ў нашы дні (у «Истории белорусского кино». Мінск, 1969). На самай справе Крыловіч стварыў цікавы вобраз Нічыпара Чэха, пра што сведчаць апублікаваныя матэрыялы і ўспаміны сучаснікаў таленавітага артыста. Пераацэнка фільма неабходна. У гэтым накірунку ўжо зроблены першыя нясмелыя крокі (Рыгор Кобец. «Садружнасць» (Маладосць, 1987. С. 164); А. Кобец-Філімонава. Каб не было белых плям. (ЛіМ, 1988, 2 верас.); А. Красінскі. Гісторыя

беларускага кіно (2001. С. 143); А. Кобец-Філімонава. Калі ўцякала сонца» (Мінск, 2006. С. 322–348); М. Черненко. Красная звезда и желтая звезда (М., 2006. С. 89–91). Але гэтага мала. Перш чым выказваць сваё меркаванне, трэба надрукаваць кінасцэнарый. А можа, і адшукаць кінастужку. Яе ж «капіравалі ў безлічы» і пусцілі па ўсёй краіне. Беларуская копія згарэла ў час вайны. Не маглі ж усе копіі загінуць пад бомбамі.

Прайшлі дзесяцігоддзі. У беларусаў няма «Дняпра ў агні». Але застаўся сцэнарый і фотаздымкі з кінакадрамі, а на іх Крыловіч (Нічыпар Чэх), яго жонка, таксама артыстка БДТ-1 Р. Рубанава (Эстэр), Грыгоніс (плытагон Гусак), а з расійскіх артыстаў Барысаў (бальшавік Бялоў), Томскі (Коган) і іншыя.

Усе героі фільма забытыя. У трыццаць сёмым памёр Крыловіч. Знішчальныя рэцэнзіі, як атручаныя кулі, абарвалі жыццё і без таго цяжка хворага вялікага артыста.

[1] *Галубок* Уладзіслаў (1882–1937) — беларускі драматург, паэт, празаік, рэжысёр, народны артыст БССР. Адзін з заснавальнікаў беларускага тэатра.

[2] Водгук М. Клімковіча на кінасцэнарый «Дняпро ў агні», датаваны 1 верасня 1935 г., захоўваецца ў БДАМЛіМ. Ф. 28. Воп. 1. Спр. 352. С. 2; выбарачна друкаваўся ў кнізе А. Кобец-Філімонавай «Калі ўцякала сонца».

### *Ноев ковчег (с. 385)*

Упершыню — час. «Нёман», 1989, № 3, у скарачэнні.

Урыўкі друкаваліся ў газетах: І стаў Моня чалавекам // Голас Радзімы, 1964, № 25–26, с. 4; Ноеў каўчэг: Старонкі з аповесці // ЛіМ, 1988, 22.VII, с. 9–12, 14; У бараку // Голас Радзімы, 2000, 1 сак., № 9, с. 8; Ноеў каўчэг // Карэльскія Курапаты / Мінск, 2007, с. 154–157).

Аўтабіяграфічная аповесць пра сталінскі канцлагер, у якім адбываў тэрмін сам аўтар. Аповед вядзецца ад трэцяй асобы. На рускай мове. Першая назва — «Не могу молчать».

Напісана ў 1964 г. пад уплывам аповесці А. Салжаніцына «Адзін дзень Івана Дзянісавіча». У тым жа годзе была прынята да друку рэдакцыяй час. «Неман». Але аповесць не была надрукавана: канчалася «хрушчоўская адліга» і тэма ГУЛАГа была забаронена. Рукапіс з рэдакцыі знік. Другім разам аповесць была прынята тым жа часопісам пасля перабудовы ў 1987 г. Апублікавана толькі праз два гады.

«Ноеў каўчэг» — першы празаічны твор у Беларусі на тэму ГУЛАГа. У ім — лагерныя пакуты бязвінных людзей, шматгадовыя назіранні, уласныя перажыванні самога аўтара і яго роздум. Трагічны аповед аздоблены гумарам, як і ўсе творы Р. Кобеца.

У кнізе друкуецца поўнасцю паводле час. «Неман» з адноўленымі купюрамі, без прысвячэння: «Тамаре Федотовне, Георгию Трофимови-

чу и всей семье Барахтиных с благодарностью посвящаю сию повесть. Рыгор Кобец». Хто такія Барахціны, высветліць не ўдалося.

У аповесці Кобец скарыстаў урывак з паэмы «Письма из Палестины», напісанай у Бірабіджане 13 чэрвеня 1933 г.

Вершаваны ліст сыну-франтавіку Мікалаю напісаны ў 1943 г. у Тайшэтлагу, дзе Р. Кобец незаконна адбываў пакаранне за «антысавецкую агітацыю». Ліст доўга блукаў, пакуль не знайшоў свайго адрасата ў шпіталі г. Хабараўска, куды сын драматурга трапіў пасля цяжкага ранення.

З ліста Мікалая да сястры Алены Кобец: «Написано оно было во время войны, в 1943 году в Тайшете. Я в это время был на фронте. В декабре 1943 г. я по ранению был демобилизован и вскоре получил от него письмо с этим стихотворением. Он прислал мне его в Хабаровск» (Ліст Мікалая датаваны 29 сак. 1998 г.).

[1] *Кондей* — карцэр.

[2] *Скачки́* — вулічныя рабаўнікі, якія нападалі наскокам.

[3] *Краснушники* — спяцы па кражах з таварных вагонаў.

[4] *Лепень* — пінжак.

[5] *Суп рататуй* — французская нацыянальная страва.

[6] *Помпобыт* — памочнік па побыце.

[7] *Поройхес* — заслона, якая закрывае сховішча свяшчэнных кніг і рэчаў рэлігійнага рытуалу (*яўр.*).

[8] *Шамес* — служка ў сінагозе; тое ж, што дзяк у царкве (*яўр.*).

[9] *Ротшильд* — буйны парыжскі яўрэй-банкір, заснавальнік дынастыі Ротшыльдаў.

[10] *Па́жити* — устарэлае рускае слова «пашы».

[11] *Ин* — левабярэжжа ракі Амур.

## ЛІСТЫ

### *1. Сакратару ЦК КП(б)Б тав. Гікалу (с. 457)*

Друкуецца ўпершыню. Датавана 9 студз. 1933 г. Захоўваецца ў НАРБ (Ф. 4п. Воп. 1. Спр. 6303. Л. 3) і ў сямейным архіве (копія).

Заява Р. Кобеца на імя сакратара ЦК КП(б)Б М. Ф. Гікалы. У ёй драматург просіць уратаваць першы гукавы кінасцэнарый «Двойчы народжаны» ад наскокаў Галоўліта, які забараніў яго друкаваць як палітычна шкодны. Па той жа прычыне рабіліся намаганні забараніць кіназдымкі аднайменнага фільма, якія ўжо ішлі поўным ходам і на яго затрачана шмат грошай. Сакратар ЦК не падтрымаў Р. Кобеца, сцэнарый так і застаўся неапублікаваным. Кінафільм пасля дапрацоўкі быў зняты і меў вялікі поспех.

### *2. Іларыю Барашку (с. 458)*

Друкуецца ўпершыню. Напісаны ў ссылцы. Датаваны 26 сак. 1958 г. Арыгінал захоўваецца ў БДАМЛіМ. Ф. 28. Воп. 1. Спр. 341. Л. 4. Ксеракопія ў сямейным архіве.

[1] *Барашка* Іларыён (1905–1968) — беларускі савецкі пісьменнік. Разам з Р. Кобецам напісаў кінасцэнарый мастацкага фільма «Дняпро ў агні» (1937).

[2] *Овод* — герой рамана англійскай пісьменніцы Э. Войніч «Авадзень», адзін з самых яскравых вобразаў рэвалюцыянераў у літаратуры. Жыццё яго было поўным небяспек і цяжкіх выпрабаванняў, але гэта яго не зламала, а толькі загартавала характар, зрабіла мужным і смелым.

[3] *Гоглидзе* — начальнік УНКВД Хабараўскага краю, паплечнік Берыі.

[4] *Кизяк* — пліткі, якія нагадваюць цагліны, сфармаваныя з напаўперагнілага гною. Прымяняецца для ацяплення печак у стэпавых пасяленнях.

### *3. Алене Кобец (с. 460)*

Упершыню — час. «Нёман», 1996, № 9. Напісаны ў ссылцы ў маі 1958 г. Захоўваецца ў сямейным архіве. Першы ліст да дачкі з ссылкі.

[1] *Кобец-Філімонава* Алена (нар. у 1931) — беларуская пісьменніца, дачка Р. Кобеца. Скончыла Белдзяржкансерваторыю па класу раяля (1969), Вышэйшыя літаратурныя курсы імя М. Горкага (1971). Працавала выкладчыцай музыкі ў Мінскай цэнтральнай музычнай школе, рэдактарам на кінастудыі «Беларусьфільм» (1971–1972), у выдавецтве «Юнацтва» (1981–1983). Сябра беларускіх пісьменнікаў з 1965 г. Аўтар кніг для дзяцей і юнацтва «Вянок дзівосаў», «Жаваранкі над Хатынню», «Агні за пералам» і інш. Напісала сцэнарый мультфільма «Вася Буслік і яго сябры» (выйшаў на экран у 1974). У перыядычных выданнях апублікавала шэраг артыкулаў пра драматургію бацькі і яго рэпрэсіі: «Вехі лёсу», «Гута» — 75», «Калі ўцякала сонца», «Паплаўкі для коней», «Сто нянек — дзіця без носа», «Бамбавозы», «Незвычайнае інтэрв’ю», «Ціхі субяседнік, або Пратэст Рыгора Кобеца» і інш. Займалася перакладамі з навагрэчаскай мовы і ўкраінскай. Апошнім часам выдала кнігі для дарослых «Шлях да малітвы» (споведзь пісьменніцы аб тым, як яна — дачка «ворага народа» — не стала музыкантам і як нарадзілася Малітва, якая стала вядомай далёка за межамі Беларусі), «Распятая Хатынь» (у кнізе ўпершыню надрукаваны дакументы, у якіх пададзена праўда пра гібель Хатыні), «Карэльскія Курапаты», прысвечаную ўшанаванню памяці ахвяр палітычных рэпрэсій. Напісала кнігу «Калі ўцякала

сонца» аб творчасці Р. Кобеца ў далёкія 1930-я гг., аб яго жыцці і пакутах.

[2] *Броўка* Пятрусь (1905–1980) — народны паэт Беларусі. Як старшыня СП прымаў актыўны ўдзел у справе рэабілітацыі Р. Кобеца, хадайнічаў аб наданні яму персанальнай пенсіі рэспубліканскага значэння, паляпшэнні бытавых умоў.

### *4. Алесю Есакову (с. 461)*

Друкуецца ўпершыню. Ліст з ссылкі. Датаваны 5 мая 1958 г. Захоўваецца ў БДАМЛіМ. Ф. 313. Воп. 1. Спр. 122. Л. 1–2.

[1] *Есакоў* Аляксандр (1911–1985) — беларускі пісьменнік, тэатральны крытык.

[2] *Корш-Саблін* Уладзімір (1900–1974) — беларускі кінарэжысёр. Пастаноўшчык фільма «Шукальнікі шчасця».

[3] *Справочник* — юбілейны даведнік «Пісьменнікі савецкай Беларусі» рыхтаваўся да выдання ў 1959 г. да 40-годдзя БССР. Р. Кобец быў выключаны з яго перад самым выданнем з-за адсутнасці рэабілітацыі. Карэктура з праўкамі С. А. Пятровіча (аўтара тэксту) захавалася ў сямейным архіве.

### *5. Алесю Есакову (с. 462)*

Друкуецца ўпершыню. Ліст з ссылкі. Датаваны 29 мая 1958 г. Захоўваецца ў БДАМЛіМ. Ф. 313. Воп. 1. Спр. 122. Л. 6.

[1] Сапраўдная дата нараджэння Р. Кобеца: 1900 г., 7 ліпеня.

[2] *Я не добился издания «Гуты» на белорусском языке.* — Памылка Кобеца. Ён, мусіць, забыў, што п’еса «Гута» асобным выданнем на беларускай мове была выдадзена ўпершыню ў 1932 г. пасля таго, як 15 вядучых пісьменнікаў Беларусі (у тым ліку і Р. Кобец) напісалі ліст у ЦК КП(б)Б першаму сакратару В. Ю. Жаброўскаму, у якім выказалі сваю незадаволенасць тагачасным становішчам нацыянальнай культуры і адносінамі ўлад да пісьменнікаў, да іх матэрыяльна-бытавых умоў.

З ліста пра «абуральны факт»: «...пралетарскаму пісьменніку, рабочаму Кобецу — аўтару п’есы «Гута», п’есы, якая ідзе па ўсім Савецкім Саюзе і за мяжой — толькі таму, што ён не ўваходзіў у былую каставую групу, былі створаны немагчымыя ўмовы для работы: ён з сям’ёй да гэтага часу знаходзіць сабе прытулак па чужых людзях; увесь час яго адхілялі ад кіруючай работы; яго п’еса «Гута», выдадзеная на многіх мовах народаў СССР, да гэтага часу на беларускай мове не выдадзена».

Гэты ліст вядомы як «Ліст 15-ці». Напісаны ў кастрычніку 1932 г. У падпісантаў былі вялікія непрыемнасці, іх абвінавацілі ў падрыве аўтарытэта ўлад і Аргкамітэта Саюза пісьменнікаў, назваўшы іх нацдэмамі, якія «арганізавалі контррэвалюцыйную вылазку», але ўсё

ж пытанні, пастаўленыя імі, былі разгледжаны, пасля чаго палепшыліся бытавыя ўмовы пісьменнікаў. Р. Кобец, да прыкладу, у тым жа годзе атрымаў кватэру на вул. Савецкай (д. 93, кв. 1; цяпер на тым месцы Кастрычніцкая плошча і Палац Рэспублікі), у тым жа 1932 г. была выдадзена нарэшце асобным выданнем п’еса Р. Кобеца «Гута» на беларускай мове («Ліст 15-ці» ўпершыню надрукаваны ў Мінскай «Памяці» са скарачэннямі. 2004 г. С. 143–145).

[3] *Шэйдэман-Носке* Філіп (1865–1939) — лідэр сацыял-дэмакратычнай партыі Германіі. У лютым–чэрвені 1919 г. быў старшынёй урада Германіі.

[4] *Бенеш* Эдуард (1884–1948) — прэзідэнт Чэхаславакіі з 1935 г. У 1931 г. быў міністрам замежных спраў.

[5] *Хайноўская* Марыя Канстанцінаўна — загадчыца бібліятэкі Саюза пісьменнікаў Беларусі ў савецкі перыяд.

### *6. Алене Кобец (с. 464)*

Упершыню — час. «Нёман», 1998. № 9. Датаваны 5 чэрв. 1958 г. Ліст з ссылкі. Захоўваецца ў сямейным архіве.

[1] *Женя — Кобец* Яўген (1929–2006), малодшы сын Р. Кобеца. Па адукацыі інжынер лёгкай прамысловасці. Жыў у Мінску.

### *7. Алене Кобец (с. 466)*

Упершыню — час. «Нёман», 1996, № 9. Ліст з ссылкі. Датаваны 16 чэрв. 1958 г. Захоўваецца ў сямейным архіве.

[1] *Коля — Кобец* Мікалай (1923–2003), старэйшы сын Р. Кобеца ад першага шлюбу. Пасля 10-га класа апынуўся ў стралковым палку на Варонежскім, а затым на Сцяпным фронце. Быў камандзірам узвода сувязістаў. У 1942 г. у бітве на Курскай дузе быў цяжка паранены пад Белгарадам. За подзвіг узнагароджаны ордэнам Чырвонай Зоркі. Пасля дэмабілізацыі вучыўся ў Маскоўскім юрыдычным інстытуце. Працаваў адвакатам, пракурорам, суддзёй. Будучы прафесарам навучальных установ, выкладаў юрыспрудэнцыю, выхаваў 48 кандыдатаў навук, дапамог абараніць дысертацыі 11 дактарам. Аўтар шматлікіх падручнікаў і артыкулаў.

Генерал-маёр юстыцыі, доктар юрыдычных навук, заслужаны юрыст Расіі, прафесар, акадэмік МАІ ААН.

[2] *Алёнушка — Сухініна* Алена, дачка Яўгена Кобеца. Скончыла журфак БДУ. Працуе галоўным стыльрэдактарам газ. «Советская Белоруссия».

### *8. У Прэзідыум Цэнтральнага Праўления Саюза харчавікоў БССР (с. 468)*

Упершыню — час. «Нёман», 1998, № 9. Ліст з ссылкі. Датаваны 16 чэрв. 1958 г. Захоўваецца ў сямейным архіве.

### *9. Алене Кобец (с. 469)*

Упершыню — час. «Нёман», 1998, № 9. Ліст з ссылкі. Датаваны 11 жніўня 1958 г. Захоўваецца ў сямейным архіве.

[1] *Статьи не было и нет.* — У следчай справе Р. Кобец абвінавачваецца па арт. 58-10 (антысавецкая агітацыя).

[2] *«Тяжелый случай»* — аднаактовая камедыя, напісана Р. Кобецам у ссылцы (перапрацаваная п'еса «Мігрэнь»). «Цяжкі выпадак» ставіўся ў 1959 г. калектывам мастацкай самадзейнасці саўгаса «Чалдавар». За рэжысёрскую працу і акторскае выкананне Р. Кобец, які кіраваў калектывам, узнагароджаны граматамі на раённых, абласных і рэспубліканскіх фестывалях. Пісаў п'есы, скетчы, частушкі. «Цяжкі выпадак» надрукаваны ў 1961 г. у Мінску.

### *10. Алене Кобец (с. 471)*

Упершыню — час. «Нёман», 1996, № 9. Ліст з ссылкі. Датаваны 24 жніўня 1958 г. Захоўваецца ў сямейным архіве.

[1] *Рамановіч* Яўген (1905–1979) — беларускі савецкі пісьменнік, драматург.

[2] *Іскра* — імя жонкі малодшага сына Р. Кобеца Яўгена.

### *11. Алене Кобец (с. 473)*

Упершыню — час. «Нёман», 1998. № 9. Ліст з ссылкі. Датаваны 23 верас. 1958 г. Захоўваецца ў сямейным архіве.

[1] *Мяжэвіч* Уладзімір (1925–1982) — беларускі пісьменнік.

[2] *Здаравенін* — у 1958 г. галоўны рэдактар газеты «Советская Белоруссия».

[3] *Садоўскі* Яфім (1908–1993) — беларускі пісьменнік і журналіст. Працаваў у газеце «Советская Белоруссия».

[4] *Цікоцкі* Яўген (1893–1970) — беларускі кампазітар.

[5] *Туранкоў* Аляксей (1886–1958) — беларускі кампазітар. Напісаў музыку да п'есы Р. Кобеца «Гута».

[6] *Любан* Ісак (1906–1975) — беларускі кампазітар.

[7] *Багатыроў* Анатоль — беларускі кампазітар.

[8] *Палонскі* Самуіл (1902–1955) — беларускі кампазітар.

### *12. Прэзідыуму Праўлення Саюза пісьменнікаў БССР ад былога члена ССП Кобеца Рыгора Якаўлевіча(с. 474)*

Упершыню — час. «Неман», 1998, № 9. Ліст з ссылкі. Датаваны 7 кастр. 1958 г. Копія захоўваецца ў сямейным архіве.

### *13. Петрусю Броўку (с. 476)*

Упершыню — час. «Нёман», 1998, № 9. Ліст з ссылкі да старшыні Праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі П. У. Броўкі. Датаваны 8 кастр. 1958 г. Копія захоўваецца ў сямейным архіве.

### *14. Алене Кобец (с. 476)*

Друкуецца ўпершыню. Ліст з ссылкі. Датаваны 8 кастр. 1958 г. Захоўваецца ў сямейным архіве.

### *15. Алене Кобец (с. 477)*

Упершыню — час. «Нёман», 1998, № 9. Ліст з ссылкі. Датаваны 23 ліст. 1958 г. Захоўваецца ў сямейным архіве.

### *16. Алене Кобец (с. 479)*

Упершыню — час. «Нёман», 1998, № 9. Ліст з ссылкі. Датаваны 26 ліст. 1958 г. Захоўваецца ў сямейным архіве.

### *17. Алене Кобец (с. 480)*

Упершыню — час «Нёман», 1998, № 9. Ліст з ссылкі. Датаваны 12 снеж. 1958 г. Захоўваецца ў сямейным архіве.

[1] *Багушэвіч* Юрый (1917–1983) — беларускі пісьменнік. У 1958 г. займаў пасаду літкансультанта СПБ, прымаў удзел у рэабілітацыі Р. Кобеца, яму было даручана весці перагаворы і перапіску з адпаведнымі органамі ў Маскве як пасрэдніку.

[2] *«Заяц-дипломат»* — скетч (жарт) для эстрады.

[3] *Сказки* — маюцца на ўвазе казкі «Тактагулава гара» (па матывах кіргізскай народнай легенды), «Лясны лазарэт». Першая прагучала па Мінскім радыё ў верасні 1960 г., другая надрукавана толькі праз 40 гадоў да 100-годдзя з дня нараджэння Р. Кобеца (Вясёлка. 1998. № 7); другі раз пад назвай «Плача, жаліцца янот» у кн. «Добрыя вершы» (Мн., 2005) у скарачэнні.

[4] *«Биракюль»* — лібрэта музкамедыі.

### *18. Алене Кобец (с. 482)*

Упершыню — А. Кобец-Філімонава. Шлях да Малітвы. Мінск, 2004. Таксама надрукаваны ў кнізе А. Кобец-Філімонавай «Карэльскія Курапаты. 1937–1938» (Мінск, 2007). Вершаваны ліст з ссылкі, напісаны на адваротным баку фотаздымка Р. Кобеца з прысвячэннем: «Моей умнице, моей дочечке Леночке Кобец от всего сердца», дасланы разам з лістом ад 12 снеж. 1958 г. Захоўваецца ў сямейным архіве.

### *19. Алене Кобец (с. 483)*

Упершыню — час. «Нёман», 1998, № 9. Ліст з ссылкі. Датаваны 27 студ. 1959 г. Захоўваецца ў сямейным архіве.

### *20. Яўгену Кобецу, Алене Кобец (с. 486)*

Упершыню — час. «Нёман», 1998, № 9. Ліст з ссылкі. Датаваны 13 лют. 1959 г. Захоўваецца ў сямейным архіве.

### *21. Яўгену Кобецу, Алене Кобец (с. 487)*

Упершыню — час. «Нёман», 1998, № 9. Ліст з ссылкі. Датаваны 16 сак. 1959 г. Захоўваецца ў сямейным архіве.

### *22. Яўгену Кобецу, Алене Кобец (с. 489)*

Упершыню — час. «Нёман», 1998, № 9. Ліст з ссылкі. Датаваны 24 верас. 1959 г. Захоўваецца ў сямейным архіве.

[1] *«Шутка» Багушэвіча.* — Пасля абяцанай з Масквы рэабілітацыі быў раптоўны адказ у ёй (па тэлефоне). Праўленне СПБ назвала гэта «жартам» Багушэвіча. Лісты і дакументы, якія маюць адносіны да хадайніцтва Саюза пісьменнікаў наконт рэабілітацыі Р. Кобеца, з партархіва СПБ зніклі і пакуль што не знойдзены.

### *23. Алене Кобец (с. 492)*

Друкуецца ўпершыню. Ліст з ссылкі. Датаваны 12 кастр. 1959 г. Захоўваецца ў сямейным архіве.

### *24. Алене Кобец, Віталю Філімонаву (с. 493)*

Упершыню — час. «Нёман», 1998, № 9. Ліст з ссылкі. Датаваны 13 кастр. 1959 г. Захоўваецца ў сямейным архіве.

[1] *Філімонаў* Віталь (1933–19?) — інжынер-канструктар. Муж дачкі Р. Кобеца Алены.

[2] *20 октября* — магчыма, 2 кастрычніка, а не 20.

### *25. Сяргею Пятровічу (с. 494)*

Друкуецца ўпершыню. Ліст з ссылкі. Датаваны 19 кастр. 1959 г. Захоўваецца ў архіве ІМЭФ АН Беларусі. Ксеракопія ў сямейным архіве.

[1] *Пятровіч* Сяргей (1931–1981) — беларускі тэатразнавец.

[2] *Міровіч* Еўсцігней (1878–1952) — рэжысёр, драматург, першы народны артыст Беларусі. Ставіў п’есу Р. Кобеца «Гута» з калектывам БДТ-1 (тэатрам імя Я. Купалы).

[3] *Крылович, Владомирский, Зорев, Платонов, Ржецкая, Шапко, Полло, Глебов* — артысты Акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы.

[4] *Курдзін* Дзмітрый (1899–1937) — беларускі драматург.

[5] *Гутараў* Іван (1906–1967) — беларускі літаратуразнавец.

[6] *Няфёд* Уладзімір (1916–1998) — тэатразнавец, пісьменнік, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі, член-карэспандэнт НАН Беларусі.

### *26. Алене Кобец, Віталю Філімонаву (с. 496)*

Упершыню — час. «Нёман», 1998, № 9. Ліст з ссылкі. Датаваны 28 кастр. 1959 г. Захоўваецца ў сямейным архіве.

### *27. Віталю Філімонаву, Алене Кобец (с. 497)*

Упершыню — час. «Нёман», 1998, № 9. Ліст з ссылкі. Датаваны 24 крас. 1960 г. Захоўваецца ў сямейным архіве.

Гэта апошні ліст Р. Кобеца з ссылкі. У маі 1960 г. ён вяртаецца ў Мінск, нягледзячы на тое, што ў рэабілітацыі яму было адмоўлена другі раз. Рэабілітавалі яго ў лістападзе 1960 г.

[1] *Філімонаў* Дзмітрый — сын дачкі Р. Кобеца Алены. Нарадзіўся ў 1960 г. Вучыўся на мастака, а стаў журналістам. Пасля навучання ў МСХШ пры інстытуце імя Сурыкава скончыў чатыры курсы журфака БДУ. Пачынаў карэспандэнтам газеты «Знамя юности», потым вядучы папулярнай тэлепраграмы «Крок». За смелыя перадачы быў пазбаўлены эфіру. У 1995 г. з'ехаў у Маскву, дзе працаваў спецкарам у газетах «Версия», «Известия» і інш. Апошняя пасада — адказны сакратар час. «Русский пионер». У час напісання ліста яму было 2 месяцы.

### *28. Генеральнаму пракурору СССР таварышу Рудэнку (с. 498)*

Друкуецца ўпершыню паводле копіі. Датаваны 1960 г. Захоўваецца ў сямейным архіве.

### *29. Соф'і Кобец (с. 499)*

Друкуецца ўпершыню. Запіска Р. Кобеца аб доўгачаканай рэабілітацыі. Датавана 15 снеж. 1960 г. Захоўваецца ў сямейным архіве.

[1] *Кобец* Соф'я (1909–1982) — жонка Р. Кобеца.

### *30. Віталю Філімонаву, Алене Кобец (с. 500)*

Друкуецца ўпершыню. Датаваны 4 чэрв. 1962 г. Захоўваецца ў сямейным архіве.

### *31. Соф'і Кобец (с. 500)*

Друкуецца ўпершыню. Датаваны 16 ліп. 1962 г. Захоўваецца ў сямейным архіве.

### *32. Соф'і Кобец, Алене Кобец, Яўгену Кобецу (с. 501)*

Друкуецца ўпершыню. Датаваны 15 сак. 1963 г. Захоўваецца ў сямейным архіве.

[1] *Скрыпка* Міхась (1907–1991) — беларускі пісьменнік-гумарыст.

### *33. Алене Кобец, Віталю Філімонаву (с. 502)*

Друкуецца ўпершыню. Датаваны 20 студз. 1966 г. Захоўваецца ў сямейным архіве.

Ліст адрасаваны у г. Афіны (Грэцыя), дзе з 1964 па 1966 г. Віталь Філімонаў знаходзіўся ў камандзіроўцы ад Аўтаэкспарта разам з сям'ёй — жонкай Аленай і сынам Дзімам.

[1] *Пальчэўскі* Алесь, *Агняцвет* Эдзі, *Лойка* Алег — беларускія пісьменнікі.

[2] *Вялюгін* Анатоль (1923–1994) — беларускі паэт. Працаваў рэдактарам часопіса «Полымя».

[3] *Чавускі* Міхась (1904–1984) — беларускі пісьменнік, дырэктар Бюро прапаганды мастацкай літаратуры СП БССР (1964–1970).

[4] *Прокша* Леанід (1912–1994) — беларускі пісьменнік.

[5] *Дубоўка* Уладзімір (1900–1976) — беларускі пісьменнік, паэт, прайшоў праз ГУЛАГ.

### *34. Ліст заслужанага дзеяча мастацтваў БССР, пісьменніка Рыгора Якаўлевіча Кобеца, зачытаны на пяцідзесяцігоддзі кінафільма «Шукальнікі шчасця» ў Мінску ў Рэспубліканскім Доме кіно, у 1986 годзе (с. 504)*

Друкуецца паводле літаратурнага штогодніка «Год за годом». М., 1988. Вып. 4. У тым жа нумары часопіса надрукаваны кінасцэнарый «Шукальнікі шчасця» (у скарачэнні).

Штогоднік выпускаўся на рускай, англійскай і французскай мовах па лепшых матэрыялах часопіса «Советиш Геймланд» («Советская Родина»).

[1] *Шушкевіч* Станіслаў Пятровіч (1908–1991) — беларускі пісьменнік, пісаў пераважна для дзяцей. Аўтар зборнікаў паэзіі, апавяданняў, казак. Прайшоў праз ГУЛАГ.

### *35. У сакратарыят Саюза кінематаграфістаў БССР (с. 507)*

Друкуецца ўпершыню. Датаваны 23 лют. 1987 г. Захоўваецца ў сямейным архіве.

# ДАДАТАК

## СУЧАСНІКІ ПРА РЫГОРА КОБЕЦА

### *Анатоль Вольны.*
### *Літаратурны сілуэт. Рыгор Кобец (с. 509)*

Упершыню — газ. ЛіМ, 30 чэрв. 1935 г.

Друкуецца паводле час. «Маладосць», 1999, № 7.

[1] *Вольны* Анатоль (1902–1937) — беларускі паэт, празаік, драматург, сцэнарыст. Сябра Р. Кобеца.

### *Пётр Шамшур. Грыша-качагар (с. 511)*

Упершыню — газ. ЛіМ, 23 ліп. 1968 г. пад назвай «Друг маладосці» (да 70-годдзя Р. Кобеца) у скарачэнні.

Друкуецца паводле час. «Маладосць», 1999, № 7.

Арыгінал захоўваецца ў БДАМЛіМ (фонд ЛіМа) з эпіграфам: «...Музыка пламенных лет и поныне живет еще в серцце твоем! А. Сурков».

[1] *Шамшур* Пётр — кінасцэнарыст, пісьменнік. Прайшоў праз ГУЛАГ.

[2] *Грыша-качагар* — П. Шамшур называў Р. Кобеца «першым качагарам беларускай савецкай кінематаграфіі».

[3] Р. Кобец прыехаў у Ленінград на ўмацаванне кінастудыі «Савецкая Беларусь» у 1931 г.

[4] Фільм «Шукальнікі шчасця» тройчы здымаўся з экрана ў сувязі з рэпрэсіямі Р. Кобеца, С. Міхоэлса, В. Зускіна.

### *Ілля Рэзнік. Гістарычная запіска (с. 514)*

Друкуецца паводле час. «Маладосць», 1999, № 7.

Успаміны пра тое, як у 1967 г. Р. Кобеца прымалі ў Саюз кінематаграфістаў на ІІ з’ездзе кіношнікаў. Аўтара сусветна вядомага фільма «Шукальнікі шчасця» (па якім кінасцэнарнаму майстэрству вучыліся студэнты ВГИКа), першага прафесійнага сцэнарыста рэспублікі, аднаго з заснавальнікаў беларускага кіно толькі праз шэсць год пасля рэабілітацыі прынялі ў Саюз кінематаграфістаў, і то дзякуючы Даніілу Храбравіцкаму (знакамітаму сцэнарысту і рэжысёру). Захаваўся пратакол з’езда ў архіве сектара кіно АН БССР.

Кінарэжысёр дакументальных фільмаў Юрый Цвяткоў (намеснік міністра культуры Беларусі) прыгадваў: «Пэўна, я адзіны, хто здымаў Рыгора Якаўлевіча пры жыцці. Гэта было ўжо ў апошнія гады, на жаль, гаворка ішла не пра Рыгора Кобеца, а пра беларускую драматургію, пра Вольнага, Цішку Гартнага, а сябе ён так і пакінуў у цені, амаль нічога пра сябе і не сказаў. На жаль, гэта адзіныя кінакадры, якія захаваліся на сённяшні дзень, акрамя яшчэ некалькіх тэлевізійных запісаў.

